№3 (88)
/травень-чэрвень/ 2017

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Віктар Ярац



...шукае
душа людская страчаны спакой...

# Зямныя эцюды

***З новай кнігі***

* * *

*Памяці Людмілы*

Па дарозе ў храм ішоў праз квецень вішань
вуліцаю ранішняй ускраіннай
на дзявяты дзень, навек паранены,
свечку запаліць перад вачмі Ўсявышняга.

Па дарозе ў храм ішоў праз яблынь квецень,
водар бэзу ля платоў, рабіны дух гаркавы,
адзіноту несучы, цяжэй якой на свеце
не знайсці, калі любоў не разбудзіць ні звонам, ні грамамі...

* * *

Збіты штормам з палубы карабля
плыву і плыву – і нідзе не знаходжу берага.

Дзе ён – пытаю і днём, і ўначы
і ў сонца, і ў зорнага неба.
Ніхто не дае адказу.
...Гэта я – без цябе,
пахаванай глыбока-глыбока
за гучнаю трасай між сосен Палесся...

* * *

Да смерці за два дні сказала ў сне маім:
– Я пайшла...
А потым азірнулася і моўчкі паглядзела
на сына горасна і на мяне – але без слёз...
...А гэтай ноччу летняю пад раніцу
праз дождж у сон прыйшла
і ў дзверы звоніць. Адчыніў – стаіць і сумкі
цяжкія ў руках трымае – з таго свету...

* * *

Ты адплыла – а воблакі плывуць
анёлаў споведдзю і старажытнай верай,
і сонца на лістоту і траву
гасцінцы сыпле не скупою жменяй.
Замоўкла ты – а ўдалеч цягнікі
нясуць сваё світальнае гуканне,
і позірк твой – не цёмныя вянкі –
маўчанне небам шле. Цяпер яно – вітанне...

* * *

Ранні чэрвеньскі гром прагрымеў за Дняпром –
і маленнем спыталі нябёсы
пра спакой баравы і з верандаю дом,
пра суніцы, што спеюць агнямі між сосен.
Разліваюць вышыні на дол неспакой,
наліваюцца водарным сокам суніцы.
Ці вясёла дажджам ля вакон за ракой
на світанні маліцца?

* * *

Гэтым елкам і соснам убор даспадобы
і зімою, і летам,
на зямлі, што вякамі ў спякоту
і пад градам – лядовым гарохам і бобам –
не была пустацветам.

Край, спавіты маланкамі, лёнам і жытам,
шле споведзь вышыням адкрыта
на досвітку росным.
А першымі ўсё-ткі з блакітам
вітаюцца мама і ластаўка,
і вяршынямі – елкі і сосны.

* * *

Шчаслівы хлопчык тым, што ёсць бабуля –
яна сагрэе ласкай-дабрынёй
і цёплай коўдраю зімовы сон атуліць,
і казкай, а не роспаччу нямой.
А хлопчык вырасце і будзе верыць людзям
у свеце, дзе ёсць жорсткасць і падман,
і сябра ёсць – маленькі белы пудзель, –
ён і не здрадзіць, і не зробіць ран.

* * *

Ці зразумець мне ў начах схаладнелых
смутак пялёсткаў ружовых і белых?
Ці адгукнецца хоць голькай язміну
ранак салодкі ў турботе пчалінай?
Вішняй на строме, грушынай-дзічкай
родная далеч сэрца пакліча
зноў дакрануцца да трэшчын эпохі,
болю Чарнобыля – новай Галгофы...

* * *

Колькі труб
грымотамі правер態ны
раніцай у небе не зняверaным
разам з ветрам,
Перуном хрышчоным,
над прасторам
свежым і зялёным,
над сівымі
грушамі і крушнямі,
і святымі
кручамі відушчымі,
над курганнем і арліным пер'ем –
у імя
радасці вербнай?

* * *

Пад дожджык смачна спалася малым,
калейдаскоп ім сніўся каляровы:
дзень, поўны спелых вішань і малін,
ручай за хатамі ў мурожным рове.
І ў свеце ўсё лагоднае яшчэ:
і вецер, што не засціць дымам вочы,
і шлях, што ростанню-гаркотай не пячэ,
вароны крык, што беды не прарочыць...

* * *

Дух зямлі, перагорнутай плугам пасля дажджу,
калі парам ралля славіць сонца й нябёсы,
а ты босы ступаеш па зрэзаных лемехам вострым
мокрых, мяккіх травінах –
наймацнейшы з усіх, –
ён ідзе за табой
праз вакзалы, агні гарадоў, праз сумёты
завірушных і дзён, і начэй, праз спякоту
і вяртае знямогламу сілы.

А ці свет падужэе натомлены?..

* * *

Ціхі-ціхі вецер на дасвецці
прывітаў жывых у родным свеце,
разбудзіў мурашнікі, шпакоўні,
з голубам прысеў на падваконні.
Хоча зноў ён сёння запытацца
пра каго пад голлямі акацый
тут, дзе сам пытаю раннім летам:
– За якім твой следу згубіўся светам?

* * *

Гараць лясы... І цягне даўкім дымам
у вёскі, гарады... І ноч, і дзень
атручаны. І дождж не ідзе...
Хмурын састаў – паражняком маўклівым.
Асушаны рачулкі...
Да вады
шукаюць шлях – яна ж была вякамі.
Сцяжыны – як скарэлыя бінты,
нібы браты, бягуць зайцы з ваўкамі...

* * *

Угрэты схіл гары дняпроўскай –
на ім ляжыць мой сябра-аднакласнік Міша.
Цурком сцякае з носа кроў –
на шыю, на кашулю.
Разгублены стаю. Не разумею:
чым тут дапамагчы?
...Жарчэй за сонца зноў і зноў пячэ
той дзень дакорам за дзіцячае бяссілле.
...Чырвоная кроў. Трава зялёная.

* * *

Гадаваныя бурамі сосны, як людзі,
навучыліся слухаць размовы глыбінь
і паданні нябёсаў, дзе гром гучна будзіць
на світанні яшчэ задрамалую сінь.

Тут, дзе раніў (так блізкі!) пякельны рэактар
слых галін маладых,
слых ствалоў векавых,
сосны ловяць і гукі рачных перакатаў,
і далёкія гукі прыбояў марскіх...

* * *

Калі пачынаецца восень – вада ці старэе рачная?
На соснах жылы жывіцы цвярдзеюць ноччу і днём.
Дзікаю качкаю зорка ў затоцы да золку нырае –
там рыба ў глыбінях сябруе з малюскавым глеістым дном.
Калі пачынаецца восень – жанчыны не горш, чым у маі,
умеюць дарыць сваю ласку, позіркі цёплых вачэй.
Вецер на кручы вячэрняй іскрысты агонь раздзімае.
Пасланні галін каляровых чытаюць рака і ручэй...

* * *

Чакае мама аўталаўку з хлебам.
Было раней: пякла сама яго
ў пасёлку, над якім вартуе неба
спакой сваіх анёлаў і багоў.
Стаіць ля хаты. Моўчкі выглядае:
калі ж той хлеб прыедзе гарадскі?
Пільнуе зверху хмарка маладая,
як рукі ціснуць на шурпаты кій...

* * *

Сняцца лодкі – яшчэ не жалезна-маторныя –
на рачной, без хімічнай атруты, вадзе.
І душою не чорныя, галасамі – мажорныя –
чайкі беляць крыламі разбуджаны дзень.

Вёслы дзеда, а вёслы драўляныя,
дасылаюць глыбіням пракаветным, сівым,
і калматы надрэчнага коміна дым,
і высокі аўтограф нябеснага лайнера...

* * *

На даўні боль кладзецца свежы боль –
зусім не так, як снег на снег кладзецца,
як цвет – на цвет, што сыпле сад на дол,
як ліст – на ліст, сарваны ветрам з веццця.

І ўжо адной шчымліваю струной
у сэрцы, у крыві гучаць бяссонна
той міг, што вырас гонкаю сасной,
і той, што парасткам прабіўся сёння.

* * *

Не толькі грошы прайгравалі ў карты,
любімых рысакоў і гончых псоў –
маёнткі страчвалі ў гульні азартна,
дзе і шасцёркі спрытна б'юць тузоў.
Не ведалі ні межаў, ні бар'ераў –
ішлі "ва-банк", паставіўшы на кон
пад позіркамі свечак ды ікон
само жыццё, дзе і любоў, і вера.

* * *

У рэчышчах, як чуйных капілярах
зямнога цела, плынь штогод мутней.
І не бруіцца рэчка, як раней,
куды плылі жыўцы.
Блукае ў хмарах
бяссонне чыстай кроплі, што з зямлёй
баіцца сустракацца.
І шукае
душа людская страчаны спакой
на берагах.
І як знайсці – не знае.

* * *

Чародка гусей, як нябесная лодка,
вяслуе на поўдзень над краем рачным,
дзе йдуць у глыбіні гусцёрка і плотка,
а ў зорныя высі расце непаспешлівы дым.
Рыбак у чаканні паклёўкі асенняй
закідвае донкі і ловіць прытым,
як позняю лодкай у небе вячэрнім
сплывае чародка над плёсам рачным...

* * *

...і зверабой, што зацвіце на кручы,
гняздо на грушы-дзічцы над ракой –
усё вятрам і выраям агучваць,
вяртаючы жаданняў цёплых рой.
Што ўзыдзе тут, праклюнецца,
праб'ецца –
адкажуць цвет шыпшыны,
веццях шум
і птушаняці голенькага сэрца –
яго ў траве падслухаць мурашу...



Віктар Казько



...схільны верыць і думаць, што нашым лёсам
заклапочаны нашы ж нябожчыкі,
продкі, дзяды і прадзеды...

# Нікуды

*Когда погребают эпоху,*
*Надгробный псалом не звучит,*
*Крапиве, чертополоху*
*Украсить ее предстоит...*

*А после она выплывает,*
*Как труп на весенней реке-*
*Но матери сын не узнает,*
*И внук отвернется в тоске...*

Ганна Ахматава, «В сороковом году»

## I.

Такім чынам, здзейснілася. Я еду. Амаль прыехаў. Я паляўнічы за часам і сваім жыццём. Толькі нешта не атрымліваецца з маім паляваннем. Ці то час надта ўжо спрытных, ці то жыццё маё няўдалае. А мо і зусім наадварот – час і маё ўласнае жыццё так спрытна палююць за мной, і я не паспяваю ачомацца ад іх парнага палявання.

Мне яшчэ самому трэба вызначыцца, хто я ў сваім жыцці і часе. Ці не звычайная мяшанка гэта з мінулага, сённяшняга, а мо і крыху будучага, з чаго ў чыстым зародку, як у яйку, і складаецца жыццё, асвячонае ці не асвячонае часам. І сучасны электронны і нямы аўтамабільны балван-навігатар ніяк не можа даставіць мяне да якога-небудзь берага. Няма ў мяне платы за перавоз нават у Аід – царства мёртвых: капеечкі ў роце.

І таму я безбілетнік у лодцы Харона, Заяц у часе і жыцці і адначасова ці не сам я, перавозчык-Харон, амаль штогод імкну сюды, шукаю пралом у часе. Пагоня, пагоня, пагоня. Насамрэч, зайцы, асабліва палескія, надта ж настырныя. А яшчэ, як мовяць, мовілі тыя ж палешукі: няма на свеце звера больш зацятага і смелага за таго ж зайца. Толькі вось слёзы ў яго вельмі блізка, і таму часцяком ён гіне ад разрыву сэрца.

І ў мяне цяпер сціскаецца і плача сэрца. Босым і амаль голым хадзіла, бегала і качалася яно ў збегу, змроку, сутаргах часоў і жыццяў па белых пясках майго пачатку. Па Азарыцка-Даманавіцкім гасцінцы. І я да пякельнага болю ўзіраюся ў свае сляды.

***

Даўным-даўно, калі свет яшчэ меўся быць. Быў. І быў ён цалютка цэлы. І белым-белы. І асветлена круглы, без вуглоў. Бо інакш мне б нязручна хадзіць па ім, бегаць і балюча падаць... Калі саб'ешся з нагі. Нехта паклапаціўся, прыстасаваў зямлю пад мае босыя ногі і нябесныя бегі і па восі той жа Зямлі дзеля яе кружэння, а заадно і для майго кружэння, няўцямнага гойсання.

Складаўся свет з бацькоўскай хаты ці зямлянкі. Сонца над іх стрэхамі – амаль спажыўнага жаўтка ўсярэдзіне і акаляючай яго чыстай, бескаляровай каламазі. І з нас. З дзяцей. Таму што яны ўпэўнены, нібыта свет сапраўды рушнікова, абрусна белы без васільковага лёну, калі ён адцвіце, прымарозіцца пры вадзе, абаб'ецца ці атрасецца на трапале. Вось таму свет і белы, як яйка, толькі што з-пад рабой курыцы. Хаця яйкі іншым разам бываюць і каляровымі. На Вялікдзень.

А калісь былі яшчэ і чорнымі. Але гэта з-пад чорнага пеўня. З іх нарадзіліся і павяліся цмокі. А чалавечае дзіця – з белага яйка. Таму і само белае і свіціцца бела. Хаця яно, яйка тое, пры зародку жыцця ў ім і крывава-чырвонага кшталту. І дзіця з'яўляецца апырснутае чырванню. Але ж сонца ўзыходзіць таксама крывава і пагрозліва. Ды потым дабрэе. Так і зародак чалавечы бярэ сваё. Толькі сляпыя чарвякі ў зямлі аднаго, рудога колеру, таму і круцяцца, калі іх выцягнуць на белы свет.

Такім чынам, народжаны сам з яйка белага, круглага, цёплага і цалюткага, я быў перакананы, што ўсё навакол мяне такое ж і адтуль. Так і я. Створаны светам дзеля працягу цяпла ў сусвеце. Не патрэсканы, не вышчарблены, як бабін гаршок, аплецены дротам. Таму і гучу ў гэтым свеце кожнай жылінкай, хаця і цененька, але чыста і роўненька. Да зліцця і еднасці маўлення, і голасу сусвету з яго праведным святлом і беллю. Гуду і звону чырвонымі вёснамі жалейкай, выробленай мной жа з тагасветна абуджанай цёкамі сокаў лазы. Такі мурзаты і смаркаты вясковы, адзначаны ластаўчыным рабацiннем – лысы, стрыжаны нагала – вясковы Лель. Які час – такія анёлы і Лелі.

На нішчымніцы ачышчаюцца і святлеюць толькі вочы ды менее скраз-

няку ў галаве. Якраз у такую пару і выспела ўва мне жаданне дарогі, сцежачкі, пуцявіны, як нешта адзіна маё, лёсавае, што я мог сабе дазволіць, мець, бачыць і думаць. Асабіста мая дарога, дзе мяне чакаюць, прылашчаць, дзе я некаму спатрэблюся. Дарога памерлых і жывых.

Сёння мне здаецца, хутчэй памерлых. Дарога, сцежка, сцяжынка, пракладзеная да мяне маці, ужо з нябыту, з таго свету нячутнасцю яе жалобы, жаданнем мне долі. Бо я тады надта ж назаляў, перашкаджаў яе спачыну на тым свеце, узгадваў у снах і наяве. Папракаў і папікаў, чаму яна забылася на мяне, кінула прыходзіць да мяне ўначы ў сненнях і ўдзень, калі я губляў сябе. Пнуўся ісці да яе на той свет. А яна не аказвала сябе, хавалася сярод безлічы туманавых зданяў памерлых.

Такім чынам, ужо пры мёртвай, але жывой ў маёй кволай памяці маці я зноў страціў яе. Стаў сіратой пры памерлай жывой маці, яе далёкіх вачах, што назаўсёды завіслі ў вачах маіх і на маіх плячах. Хаця быў пры мне бацька. Але, як кажуць, маці памерла – бацька аслеп.

Я не наракаю на яго. Такое ўжо жыццёвае наканаванне ў тых, хто не даеў першы кавалак хлеба і вымушана пачаў есці другі – пахаваў жонку, набыў новую сям’ю і новых дзяцей. Ці не сам напамінак, памяць мінулага шчасця і кахання, вымушаў яго засляпіцца. Сэрца яго засляпілася на былое і скамянела. А камень вачэй не мае. Ці мае? Мае, бо вымушаны слепнуць.

Я не наракаю і на белы свет. Ён не ўчарнеў мне і не меней вабіць і прыцягвае мяне. Я проста ўпершыню ўбачыў дарогу, спатыкнуўся вокам і сэрцам аб яе. Абудзіўся. Раней я не ведаў, што ў людзей ёсць дарогі і яны некуды іх вядуць. Адбылося гэта неспадзявана і нечакана, калі думка выводзіла мяне толькі за парог бабулінай хаты. А тут я выйшаў за вёску. Мінуў канцавую хату. Мінуў каля яе ўрослую ў зямлю вялізарную неразарваную ў свой час авіяцыйную бомбу, зашмальцаваную лейцамі: каля яе часцяком прыпыняліся падводы і за яе жалезнае нутро з толам і дынамітам, распырсканы кропкамі клюшневаты стабілізатар, папераджальна ўвінчаны ў свядомаць нябёс і вуліцы, навязвалі коней. Я пагладзіў, прылашчыў угрэтую на сонцы бомбу дзвюма рукамі. Паспрабаваў абняць. Але рук не хапіла.

І я з маёй вёскі Анісавічы пашкандыбаў на дарогу. На Даманавіцкі гасцінец. Перада мной ужо ў надвячорку распасціраліся ў зеляніне хвояў бясконцыя шэрагі крыжоў, могілкі і ростань трох шляхоў. Адзін – гэта мая вёска і вуліца, якую я пакінуў, другі – на недалёкія мне Даманавічы, тады – райцэнтр, і далей – направа, да так званага паселішча Камуна і Халоднікі пры чыгунцы. Налева – у невядомыя мне Казловічы і Азарыцкія лясы. Камуну і Халоднікі, сам не ведаю, адкуль і калі, я ўжо бачыў. Праўда, чыгуначныя Халоднікі аказаліся без вагонаў і паравоза, толькі бліскучыя рэйкі пад іх. Камуна была цікавей. Хаты там стаялі заможна, а каля іх платы і зялёныя агародчыкі. Багатыя, пэўна, жылі людзі, таму, па ўсім, з даўніны зваліся камунарамі. Але вабілі яны іншым – сажалкамі ў шэраг усцяж дарогі і ў іх карасікамі, якія, калі ўскаламуціць і ўзбаўтаць нагамі ваду, выходзілі з дна на паверхню. Хапалі ротам чыстае паветра, плямкалі губамі, і іх можна было лавіць рукамі.

Што было пад Казловічамі і ў саміх Казловічах, я не ведаў, і быў няздольны сабе ўявіць. Хаця з’явіўся на свет амаль з іх – Азарыцкага канцлагера, што месціўся амаль побач з імі. Але забіў на гэта сваю памяць. Пагаворвалі, што там знаходзілася нафта, працякала падземная

рака з нафты. Пра нафту, чорныя рэкі, я таксама нічога не ведаў, як і навакольныя анісавіцкія людзі. Але ж гаманілі паміж сабой на попрадках і сходках увечары, што ёсць такія рэкі і плыні з крыві чалавечай. Бо шмат людзей палегла там, у лагеры, сцякло кроўю, і яна часам гарэла. І хвалі яе дасягалі да Даманавіцка-Анісавіцкіх могілак. Выкрылі, дакапаліся да іх тут, калі ў вайну забілі аднаго камандзіра Чырвонай арміі. Чорная вадкасць праступіла з дна магілы. Так таго камандзіра і паклалі ў чорную тлустую юшку. І я шкадаваў яго. Неяк не па-людску гэта было. З аднаго боку, канечне, дольш захаваецца. А з другога, калі ўздумае закурыць – згарыць. Юшка тая чорная, палкая, гаручая. І гэта было мне непамысна. Шкада чалавека, хаця і нябожчыка.

Так стаяў і бедаваў я на ростанях, не прыкладаючы галавы, у які бок кінуцца. Сонца імкнула на захад. Клалася на зямлю перадвечаровая цішыня і свежасць. Я плюнуў на руку і ўдарыў па слюне пальцамі: у які бок паляцяць пырскі, туды і пайду. Пырскі паляцелі ўлева. І я быў рады, бо хацеў, каб яны паляцелі ўлева. Нечага мне было рабіць ні ў Даманавічах, ні ў Камуне, ні ў Халодніках. Даманавічы адна толькі назва райцэнтр. А на самой справе – разбураная да друзу ленінская школа, разбураная да таго ж цаглянага друзу сталінская школа, толькі сцены, і на адной з іх, устаялай і пабеленай, зрэдку паказвалі кіно “Індыйская грабніца” і нейкія іншыя нашы грабніцы, накшталт “Сталінградскай бітвы”.

З Камунай выбар быў больш супярэчлівы і цяжкі. За агародчыкамі там раслі яблыні, і каля плота можна было падняць падалкі. У Анісавічах, хаця і з яблычнай назвай, яблынь ніводнай і блізка не стаяла. Недзе толькі па-за гумном і пагонам – райкі. Але да замаразкаў тымі райскімі ябычкамі адно касіну выпраўляць.

А проста перада мной распрасціраліся ўкрыжаваныя могілкі. Мне туды не трэба было. Хаця яны мяне і спакушалі і нечым былі блізкія мне. Недзе на такіх жа могілках спачывалі мае маці з сястрой. Але я да жудасці, да мурашак па целе баяўся могілак. Тым больш такіх бясконцых і безлічы на іх нябожчыкаў, сярод якіх я мог і не пазнаць маці з сястрой. А яны, пэўна, не маглі абараніць мяне ад іх духу і дыху, якімі я мог і захлынуцца. А дух і дых, хаця і ў цішы драўляных крыжоў і маўклівых хвояў, быў нядобры. Могілкавы. Недзе пасярэдзіне могілак пад навіссю чорных хвой стаяла невялічкая хатка з адзіным, здаецца, акном. І тое акно ўвечары свіцілася. У ёй, на маю думку, збіраліся, паўстаўшы з магілаў, мерцвякі, чакалі мяне ці нейкага іншага неасцярожнага чалавека, бо ўжо нема вылі ў цемры на могілках ваўкі, што былі зусім не ваўкамі, а грэшнікамі, нябогамі.

Так вось само сабой склалася, што я скіраваў, рушыў на Казловічы. Дарога пацягнула мяне туды. Хаця мо там таксама быў не мёд. Але я мусіў падпарадкавацца ёй. Не было сілы супраціўляцца нечаканасці, невядомасці, што была стоена ў маёй амяртвелай памяці і ў старажытным Азарыцка-Даманавіцкім гасцінцы. А я заўсёды з усіх напрамкаў абіраў невядомасць, хаця іншым разам і пагрозліва смяротную. Толькі б як мага далей ад таго, што зведана, як абірае сваю сцежку ў небе птушка, тая ж ластаўка. Ніколі не паўтараецца ў небе, заўсёды ляціць інакш, па-новаму. І я прагнуў сваёй дарогі. Навіны і нязведанасці. А тое, што з іх можна і не вярнуцца, справа дзясятая: Бог надвое мяркуе.

Гасцінец з добра наезджанай грузавымі машынамі каляінай, сівым палесскім пpыскам прыспешваў, выцягваў мяне з сапраўднасці ні то ў

мінулае, ні то ў будучыню. Каляіна была глыбокая да чарнаты з-падыспаду. Але ў ёй хапала і белага пухмянага пяску, да костачак на нагах. А пасярэдзіне бегу машынных колаў – і пад калені мне, нягледзячы на тое, што выдавалася тупкай. Тупкасць была падманнай, падробнай, створанай роўняддзю пяску, прыгладжанага нібыта прэсам, заднімі мастамі і ступіцамі аўтамабільных колаў, на той час больш яшчэ франтавых палутарак.

Я купіўся на гэтую роўнядзь і ледзь выцягнуў ногі. Тое ж было і абапал дарогі. Адзінае, што ўсцешвала і прымірала мяне з самой дарогай – пясок, як авечая ці сабачая скура, угрэўся, і маім падрапаным і ў цыпках нагам у ім было ўтульна і сугрэўна, хаця і марудна ў хадзе. Толькі я быў упёрты і ўпарты. Настырны. Малы, а паляшук ужо. Няспынна і зацята імкнуў у нікуды. Кідаўся ў розныя бакі па дарозе, дзе, на маю думку, ямчэй было ступаць. Тупаў па каляіне, сыходзіў на ўдзірванелую збочыну, дзе на мураву прыпадала ўжо перадвечаровая свежасць і прахалода, а на дарозе гэтага яшчэ не адчувалася. Халадзіў ногі і зноўку збіваўся на шлях. Пылавы пясок воўнавым тумановым лямцам струменна сцякаў з маіх босых ног, клаўся, змешваўся з пяском сапраўдным, больш буйным, макавым, прасяным і зерневым. Яднаўся, братаўся з ім і ціхмяным куранячым гарлавым піскам, гулямі і сокатам спеўна сцякаў долу. То гуляў і сакатаў, пэўна, я сам, бязмежна задаволены тым, што здольны і на гук, што набыў сабе дарогу. Захацеў і пайшоў, бо здольны хадзіць, маю ногі. Малыя, тонкія, запалкі, а не ногі, але здатныя да хады. І старажытны шлях прызнае, таму і адгукваецца мне. Вядзе мяне і прадказвае сустрэчу з нязведаным. А гэта нязведанае, што кацяня ці птушаня за пазухай, як удаў труса, цягнула і заманьвала мяне ў сваю хіжую пашчу той жа нязведанасцю, бясконцасцю дарогі.

Неўпрыкмет з задуменнай і нехапатлівай хады я перайшоў на бег. Жыў, зразумела, толькі па сонцу. А сонца ўжо знізілася да лесу. Варта было спяшацца. Дарога да Казловіч, па сведчанні старых маіх вяскоўцаў, няблізкая, ці не дзесяць кіламетраў. Мой сонечны гадзіннік не стаяў на месцы, усё тахкаў і тахкаў. Хутчэй, чым я перабіраў нагамі. Каб хоць трошкі прыцішыць яго і прыпыніць стрэлкі, пачаў лічыць тэлефонныя слупы. Да ста на лік быў здатны. Адлічыў першую сотню. Пачаў другую. Збіўся недзе на палове яе. Пачаў новую. І зноў збіўся. А Казловіч наперадзе ўсё няма і няма. А тут яшчэ дрот, радыйны ці тэлефонны, на слупах назаляе, збівае з тропу, дзінькае навыперадкі са мной. Апярэджвае нават. І пясок відавочна пацяжэў маім нагам. Спрасаваны, паглынае мяне, як і безліч тых, што прайшлі раней і спрахлі, пераўтварыліся ў яго белую сыпкасць. І бясконцасць, бясконцасць, бясконцасць.

Насамрэч, не такая ўжо і вясёлая паляшуцкая дарога: неба, ельнік ды пясок. Толькі замест елак – хвоі, як прашчуры, дзеды-паляшукі: каржакаватыя, камлюкаватыя і змрочныя. Бурштын у бронзе. Змрочны, каравачны бурштын і дрогкая на ветры, расслоеная бронза. Абуранае адным і другім зялёнае гнуткае голле з учэпістымі шапатлівымі і колкімі іголкамі, што набрынялі пры завостраных вушках ужо змрокам і нябачнасцю. І той нябачны змрок спакваля апаноўваў і мяне. Поўз па загары плячэй між лапатак і ўбіраўся ў сярэдзіну, у грудзіну і там разрастаўся, пашыраўся начным пошумам і хваёвай знямеласцю. Яднаў маё цела з дрэвамі. Гэта быў сполах, страх, жуда. Я ўвачавідкі губляў сябе, пераўтвараўся ў дарожны пыл, белы пясок пад маімі нагамі.

Штосьці было не так, пайшло і сатварылася зусім не так. Не па

загаданым і нарачоным мне на той дзень. Нейкую няправільную абраў я дарогу. Мой цень ужо ў пяць-дзесяць разоў большы, даўжэйшы за мяне, і такі пляскаты, пляскаты. Калі так пойдзе далей, ён паглыне і мяне, сальецца і ўплішчыцца ў дарогу. Я застануся назаўсёды нябачным нікому самотным дарожным ценем на гэтым сівым пракаветным гасцінцы, пустым і безаблічным госцем. Упляжуся ў пясок, і добра, калі хто-небудзь адчуе мяне пад сваімі нагамі ці наступіць на мяне – такі ж, як сёння я, блазнаваты босы і амаль голы хлопчык. Абыякавы дзень і час лёгкім сухавейным ветрыкам садзьмуць мяне з гасціннага стала дарогі, што таксама забудзецца, сатлее і спрахне... Адзіны толькі крок незнаёмага праходжага, і я лягу зноў долу.

Абурэнне, роспач, жуда. Панаванне і смех Цмока, што выпнуўся з чорнага яйка яшчэ задоўга да мяне – пэўна, увабраўся ў гэты гасцінец, пясок, хвоі з іх іголкамі, нябачна, жоўта расцёкся ігліцай па ўсёй зямлі на маім шляху. Але я адразу не здаўся яму. Як заведзены, мінуў яшчэ сотню-другую гола заветраных тэлефонных ёлупняў. Па гудлівай павуціне дроту абвесціў прастору, неба і шлях і яшчэ невядома каго, прытоенага і далёкага, каму мо прызначалася гэтае павуціннае нябеснае дзінькание. Абвесціў усяму свету, што я ўсё ж ёсць, жывы, хаця ўжо і без ценю. Сонца схавалася ад мяне, прысела за лесам, як я ці нехта з маіх равеснікаў за хлявом, і толькі ліхаманкавыя яго апошнія прамяні чырвонымі стрэламі працінвалі шэрае неба, сачылі, цікавалі за мной у сваім узвышэнні, віселі і беглі па макаўках хвояў, патанаючы ў іх вечаровай неспатольнай прагнасці ды ненажэрнасці. І ад іх жа сквапнасці зняможана ці з'едзена, згрызена падалі долу і там каналі ў траве і пяску ўжо канчаткова, без следу і знаку, як і я сам на гэтым гасцінцы. Відавочнае сведчанне, што ў нашым дні на гэтым свеце няма нічога вечнага. Як кажуць, мінаецца ўсё, мінецца і святло.

Безвыходная і бязмежная бездапаможнасць абязножылі мяне, услупавалі. Мне самому пажадалася пераўтварыцца ў нябачнасць, схавацца ў пяску сярод дарогі, як хаваецца пад покрывам шэрані грыб ад надакучлівага нашага вока ў цёплай ігліцы пад хвояй. Я спыніўся пасярод гасцінца, толькі тварам павернуты ў напрамку майго руху наперад і нахілены туды ж, сашчэплены сухімі вачыма ў яго недасягальнасць, што магла быць ужо і не такой аддаленай. Прабач, толькі я хлеба і бульбы на яе яшчэ не даеў. Уга, каб мяне ўдосыць кармілі, каб жывот звінеў, як гэтыя сытыя драты, я тады б, я тады б... Ага, тады я, ага. Ага, ага, га, га.

Так натужна і ўспамагальна самому сабе пагакаўшы, як гакаюць нашы людзі, пластуючы, адольваючы і палавінячы сакерай і клінам камлёвы, жылавы цурбан, такім жа непадатным цурбаном урос у дарогу. І нечакана адчуў, што мёрзну. Ноч дыхала не толькі цемрай, але і холадам, як і пясок на гасцінцы. Холад выпаўзаў з яго, ледзянай змяццю ахопліваў ногі, расцякаўся па грудзіне і, нібыта гурбамі снегу, клаўся паміж востра выпнутых лапатак.

Да ўсяго раптоўна ўсчаўся вецер. Ні з чаго і ніадкуль. Завіхурыў пяском, і толькі каля маіх ног. Я хацеў пераступіць праз яго. Але вецер узмацнеў і ледзь не паваліў мяне. Узняты ім струмень пяску засыпаў вочы і здзіраў скуру. Мяне як ашпарыла. Я адчуў невыносны холад і імгненна зледзянеў. Ні рукой, ні нагой варухнуць. Маглі абламацца крохкія ледзяшы – пальцы і ногі. Я сам быў ледзяшом. Лёдам, з якога нават нічога не капала, усё вымерзла.

Але я прымусіў сябе ўсё ж сагнуцца і пры гэтым не зламацца. Таксама

праз сябе, не ашчажаючы пальцаў і рук, укапаўся ў пясок пасярод каляін, да пупа. Унізе ветру не было, адно толькі пясчаныя колкія пырскі. А сам вецер дзьмуў угары, як вадкава струменіў лейкай недатычна мяне. І я без перашкод на ўсе бакі гроб пясок, ладзячы сабе нешта накшталт седала, кубла, як гэта робіць курыца перад тым, як знесці яйка. Толькі бязгучна, без сокату і кудахтання. Голас, гукі прымерзлі ў сярэдзіне майго цела. Язык не боўтаўся, не варушыўся, ні кончыкам, ні пры нёбе. Нават вуснаў не аблізаць. І сліны не даваў. Камень, а не мой язык. А такі спрытны і гаваркі да гэтага.

Але спакваля, спачатку паверхнева, я адтайваў. Уграваў, як на чэрані бабулінай печы, ахаладалыя палойкі азадку, потым задубелыя, прамарожаныя да костак ногі і сярэдзінай колка жывеў. Блазнавата сеяў праз растапыраныя пальцы прыязны і пухкі пясок, нібыта сам сеяўся пылам і тлом, цёплым і жывародным. І на самой справе, здаецца, нанава нараджаўся, урастаў і прарастаў датычнымі, прыгаломшанымі ў пяску палойкамі да цвёрдай зямлі пры дне насыпной каляіны нагамі. І гэта было нова і прыемна. Пажадана працягваць бясконца.

Знявечаныя, збітыя і пакінутыя на лясных сцежках таксама ў сукравіцы пукатых пакутных каранёў дрэваў пазногці ног працюкваліся зноўку, капытова рагавелі, паранена заржавелыя пальцы скідвалі бядотную рудую кару і ўжо не смылелі, як раней ад халоднага, адчувальна зацягваліся пяшчотнай скуркай немаўляці, набракалі не туманова сляпой сукравіцай, а пагляднай воку жывіцай, жывой, абароненай скураю кроўю. Толькі чамусьці не зусім ярка-чырвонай, а бурштынава-рудзенькай, дрэвавай, загарэла-хваёвай. І хтосьці там, заглыблены ў зямлі, цяплом дыхаў мне ў ногі і казытаў пяты, ад чаго я міжволі пачынаў смяяцца, і мне смяяліся ў адказ.

Я ўжо разам з гэтым смехам гатовы быў застацца тут, у маім пясочным кубле назаўсёды. Толькі ўзбаяўся ўрасці і прарасці сярод белага дарожнага пяску дрэвам, той жа хвояй, бо здаўна адчуваў сябе дрэвам, мо трохі пяском і смехам рассыпанным па ім. Але тут я зразумеў – зломяць. Дрэва сярод машыннай дарогі зломяць і не сплюнуць. Спляжаць, пакладуць, як у магілу, уплішчаць і назаўжды супакояць.

А мне яшчэ да слёз хочацца прачынацца, падымацца і хадзіць па гэтым жа белым пяску. Не толькі ўдзень, а і ўначы. Падняць пад той жа хвойкай баравічка, пацалаваць яго ў рудую росную макаўку, на якую дыхаў у дождж заяц, чмыхнула парным сырадоем ласянё. Пашчабятаць пад страхой хаты і ў шэрані хлява, парушыць і разнесці тую шэрань чорным ценем ластаўкі. Параўці, памыкаць і паўздыхаць бакамі каровай ці цялём у тым жа хляве, скрозь шчыліны якога задуменна курыцца пыл і пацяруха пад сонечным праменнем. Падыхаць водарам недапітага мной малака. І не толькі так панаваць у дабрабыце, але і паваражаваць, пабіцца з ястрабкамі, што кублююцца на бабінай грушы і дзяўбуць маю лысую галаву, калі я наведваю іх і хачу паласавацца грушкамі ды паглядзець, як абрастаюць пер'ем птушаняты. І каб нехта на зямлі, у небе пачуў і ўбачыў гэта – ухваліў ці аблаяў.

Я выхапіўся з сатворанага мной жа пасярод сівога пяску седала. Праўда, пясок быў ужо не спрэс сівым, а выдаваў на даўні закарэлы попел, зляжалы, прыгнечаны цемрай, як восеньскім дажджом, цяжкі на погляд і недатычна брыдкі. Таму што ссеўся. Ліпкі пракаветным нябытам, якім можна і апаганіцца. Бо ад яго не адбіцца, прыставучы. І стрэсці цяжка, і насіць на

сабе, як старцу яго зрэбную торбу. Бо патыхае тым жа старцам, магілай. У ім няма памяці, састарэла, ссівела, выгарэла. Попел. Пераўтварае і цябе ў нішто, у попел, тло. Гняце долу, да зямлі, хаця і спрыяе ёй жывароднасцю.

Ноч, а была ўжо ноч, дыхала папярэджаннем, пагрозай і выпрабаваннем. Палягала вызначацца, куды ў ёй кінуцца, да якога берага грабсціся. Казловічы патаналі ў непрабіўнай цемры, пераможнай і паўсюднай цемры другой паловы саракавых гадоў. Заставалася толькі вяртацца. Але і там была цемра. Якую з іх абраць, якая з іх мая.

А я і на дых не трымаў вяртання. Натура. Як вядома, ракі назад не ходзяць. Паляшукі, падобна ім – таксама. Я ўжо хітнуўся тулавам наперад, заставалася толькі ўзняць нагу. Але я падняў вочы і ўбачыў непадалёку ад сябе постаць. На шэранна белым пяску помнікава стаяў чалавек. Ні гуку, ні руху, ні голасу. Угледзеўся ў прыгаломшаную цьмянасць і ў той цьмянасці спатыкнуўся ў скамянелую нерухомасць постаці жанчыны. Ні твару, ні руху.

Але нейкі рух прыкмячаўся па абодва бакі постаці, сярод дрэваў у лесе. Там бегалі, хаваліся, тухлі і кропкава запальваліся зноў агеньчыкі. Нібы нехта хадзіў пад хвоямі са свечкамі, ці ад хвояў паўсталі са свечкамі ў руках тыя, што некалі хадзілі тут. Толькі я адразу здагадаўся – не тыя тут агеньчыкі, не ад свечкі. Больш напружана зыркія і жаўтаватыя ад жару. Зусім не свечкі то былі, нават не светлякі і цвіркуны, а чатырохногія начныя каганцы. Яны ішлі за мной і па мяне.

Жанчына пасярод дарогі, здаецца, варухнулася і асвіцілася, месячна, больш толькі тварам. І я пазнаў яе. Адначасова краем вока адзначыў, што агеньчыкі абапал дарогі пачалі прыгасаць, знясілена станчацца, амаль да таньчыні іголкі, здольнай толькі пракалоць цемру, і хутка ўвабраліся ў тую ж цемру і зніклі зусім. А жанчына, месячна-асвятлёная, засталася на гасцінцы. Твар быў ценева схаваны, размыты.

Выразна я бачыў толькі яе вопратку. Рыжа падпалены, добра зношаны, зеленаваты вайсковы бушлат. Парыжэлыя, халявамі вышэй каленяў чобаты. І хустку, як посцілку, сатканую на кроснах, у буйныя белыя, рудыя і чорныя клеткі, з махрамі. Гэта было смяротнае, трунавое адзенне маёй маці, у якім яе і закапалі.

Чобаты перад самай вайной пашыў бацька. Іншага абутку ў яе ўжо не было, як угадвала, што заканчваюцца яе дарогі. Прапалены салдацкі бушлат пакінуў праходжы чырвонаармеец, што на ноч прыбіўся ў нашу хату. Хустку саткала бабуля з каляровых паравозных змазачных матулёў. У яе маці захутвала маю сястру, закідваючы клунак з ёй за плечы, калі мы пайшлі ад вайны ў курані, а потым і ў смяротныя бежанцы. Здымала – хуталася і накрывалася ёй сама.

Убачыўшы жанчыну ў знаёмай, звыклай майму воку вопратцы, я не адчуў ні жуды, ні сполаху і нават разгубленасці. Толькі бязмежны смутак, жалобу, цёплы прыліў крыві да скроняў. І радасць. Шчасце. Акрылена ўзняты імі, кінуўся насустрач маці. А ў тым, што гэта маці, я не сумняваўся. Памкнуў да яе, але яна адбеглася, хутчэй адплыла. А мяне як прыпнулі цялячым калком долу. І навокал каля мяне пасвятлела, нібыта пачало развідняць, днець. Толькі днець не наперадзе. Там, за постаццю маці, цемра заставалася хоць нажом рэж. Святло набягала адзаду. І было яно хаця і мглёвым, але абдымкава цёплым, нібы хтосьці дыхаў мне ў плечы. Вымушаў даверыцца яму, павярнуцца да яго тварам.

Я з усёй моцы намагаўся ступіць насустрач маці. І яна зрушылася з

месца, узняла каменна застылую галаву, ускінула руку і паківала пальцам. І я моўчкі падпарадкаваўся яе загаднаму пальцу. Малы, дурны і блазнаваты, варта было абазвацца хоць адзіным словам. Але іх на адталым ужо языку было столькі на тую гадзіну, што не месцілася ў роце, адняло мову. І ў маці, пэўна, адняло, заклала мову. Мы так і не абазваліся адно аднаму. Нема абышліся ківам. Яна мне – загаднага пальца, а я паслухмянасцю. Маці паківала нема і немасцю мо аберагла ад нечага, як прадбачыла наперадзе нешта небяспечнае. Выратавала ад нечага немасцю з таго свету. Блаславіла ці прыгаварыла. Нямая нямога.

Я моўчкі павярнуўся да цяпла, што дзьмула цяпер у твар, і святла, якое было ўжо амаль дзённым. Але не з усіх бакоў, а толькі на шырыню і прасцяг далані, як вузенькі і кароткі прамень кішэннага ліхтарыка, нямецкага, мадняцкага на тую пару Даймана. Пакінутая за мной цемра нібыта выплюнула, выпхнула мяне з непрагляднасці, і, як па вяроўчыні ці сонечным прамяні, я пацёгся за святлом і цяплом. Пацягнуўся хвосцікам, як за матчынай спадніцай у бежанстве. Толькі азірнуўся на постаць жанчыны, што заступіла мне дарогу. Але там ужо нікога не было.

Пуста. Пустым-пусценька, як і ў мяне на душы. Толькі наўздагон штуршок у плечы ды выспятак. Зусім, здаецца, не матчын, не жанчыны. Так біць, па ўсім, можа толькі лёс. Аж копчык заверашчаў, і сам я ўзляцеў, каб не ўпасці, борздзенька, борздзенька заперабіраў нагамі наперад, але атрымлівалася – назад.

Не, не адны ракі ходзяць назад. І паляшукі на такую хаду здатныя. Не хочуць, а мусяць. І я быў падпарадкаваны непазбежнаму, хаця і разумеў, што гэта няправільна, здзекліва з маёй натуры. Але такі ўжо мой лёс – хадзіць задам уперад па адной і надта вузенькай кладачцы, неведама кім пракладзенай мне. Жывымі, мёртвымі – пракаветнасцю. І сам я ўжо пракаветны, заўчасна састарэлы і зняможаны, нема дыбаючы ў цемры да могілак, міма якіх нядаўна прайшоў.

Ноч хутала і ўгравала мяне цемрай. А была ўжо ноч, глыбокая і глухая, без подыху ветру, без гуку, без груку нават майго сэрца. Могілкавая і пякельная ціша і цемра, калі я зноў прыбіўся да ростані трох дарог. Раздзерты і распластаваны, амаль голы, нібыта ўкрыжаваны, калі я на нейкі час прыпыніўся каля застыглай у начы авіяцыйнай бомбы – адзінай нямой сведкі маёй паразы і ганьбы. Лепей бы яна ў свой час выбухнула, змяла вёску і мяне. Я не зведаў бы сённяшніх роспачы і ўкрыжавання. І могілкі, сведкі маёй ганьбы, не пужалі б мяне зараз, як раней пры сонечным святле. Нябожчыкі ж мяне не бачылі, ім я быў таксама не відзён. Толькі зоркі з неба цікавалі за мной мёртвымі вачыма. Але я пазбягаў на іх глядзець. Саромеўся. Вёска ж як сплыла ў нябыт, тагасветна маўчала. А на могілках, у атачэнні паўсталых магілаў нябожчыкаў, спарахнелых і свежых крыжоў, маўклівых пры каранях і пошумных верхавінамі хвояў мелася нешта жывое, пеставаўся, пагульваў непрывязаны вецер. Ды ў глыбіні могілак, ці не пасярэдзіне іх, журботна і цьмяна самотна туліўся агеньчык газавай лямпы, свечкі, ці гэта гарэў нейкі грэшнік. У чарцей у пекле не хапіла дроў, але ён збег ад іх, каб астудзіцца ў начы на нашым свеце.

І яшчэ на магілах, пэўна, нема вылі ваўкі. Яны заўсёды вылі ўначы ў цемры на могілках. А мо таксама грэшнікі, якім прыпякала. Сярод лета вылі як у піліпаўку, мужчынскімі, жаночымі галасамі. Забіралі то высока, прасякаючы цемру, то стагналі парадзіхамі. Апускаліся да несуцешнасці,

енку немаўляці і сабачага скавытання. Слухаючы іх, і я хаўтурна заскавытаў, заенчыў, заплакаў слязьмі, нібыта на самой справе пабыў на крыжы ці пад крыжом, у магіле, і толькі-толькі выбавіўся на гэты свет, каб набрысці на гэтую авіяцыйную бомбу каля канцавой вясковай хаты. Паплакаць, павыць, паенчыць каля яе, тым суцешыцца і рушыць на ростань, на раздарожжа. І зноў у прызначаны і прыхаваны недзе наперадзе свой лёс, пракінуты дарогай. Пабрысці невядома куды пракаветным белым і сівым паляшуцкім Азарыцка-Даманавіцкім гасцінцам.

Як гэта ні дзіўна, на тую хвіліну я ўжо любіў яго. Палюбіў і зачараваўся ім да самага апошняга дзянёчку. Да непазбежанага. І з таго свету напагатоў буду зноўку хадзіць па ім, бо гасцінец, шлях, дарога, сцяжынка не што іншае, як вяроўка, якой мы прывязаныя да сваёй зямлі, прыпнутыя да неба, сонца і ў грэшны дзень, і ў святую ноч. Абратаныя, прыпнутыя, зацугляныя і залыганыя.

## II.

І вось я зноў на ростанях. На сваім пачатку. На пракаветным Азарыцка-Даманавіцкім гасцінцы. Роўна праз семдзесят гадоў. Па левай руцэ старажытнае яўрэйска-паляшуцкае мястэчка Азарычы, з якога, згодна падання, пачалося засваенне тутэйшага краю. Нейкага далёкага пейсатага Азара колісь азарыла атабарыцца там, як яго мо і родзіча, сына – у Даманавічах. Па мяркаванні пісьменніка і гісторыка Уладзіміра Лякіна, перасяленцаў з Кёльна, якія потым заснавалі і Калінкавічы. Ці, па мясцовым маўленні, раней Каленкавічы. У патаемнай і абярэжнай недасяжнасці сярод схоўных пяскоў і балот пачалі віць за рысай аседласці кубло, будавацца, ладзіць жытло. А неўзабаве і дамавіны.

Таму што гэта поруч, у еднасці і лучнасці. Азары-Даманы-азоранасць-хата-дамок-дамавіна. Усе мы на гэтай зямлі Азары і Даманы пры непазбежна наканаваных ці дараваных нам дамавінах, назаўжды на ўзгорках і пры хвойках. Яны, Азарычы, Даманавічы, справа і злева ад мяне, як дзве рукі, працягнутыя мне вечнасцю з нябёс. І сышоўшыя і пайшоўшыя туды ж два нашыя роды і народы, якіх хоць і развёў час, але не пасварыў. Паклаў, даў спачын у адной зямлі. На нашых і іх руках няма тут крыві.

Хаця зусім блізка ад мяне акуратна аблямцаваныя палескімі хвоямі могілкі – галава, бомба, як танклявая шыя, за ёй гарбаватыя гурмы хат – цела, тулава, ад яго ў два бакі крывулькі двух прасёлкаў – ногі. Куды яны скіраваны, я не ведаю. Але вось і атрымаўся чалавечак, малюнак, зроблены няўпэўненай дзіцячай рукой, мо і маёй.

Праменька перада мной крыжы, крыжы, бугорна выпнутыя з таго свету сляды-знакі, што нехта тут прайшоўся, засведчыўся ў гэтых белых пясках пад соснамі. Магілы і могілкі, наколькі хапае вока, гурмой ішлі шчытнымі шэрагамі. Здарожыліся і прылеглі пры гасцінцы пад крыжы на ростанях трох дарог. Разышліся па ўласных дамавінах і крыжамі і хвоямі прараслі сваім наступнікам.

Гэта аснова, падмурак ужо і мне. Шырокі, рэхава-разложны. Хаця могілкі здаюцца сёння не такімі вялікімі, як былі мне колісь. Што зробіш, і мой век ужо не малы. І сам свет мне паменеў. На маё цяпер успрыманне, могілкі за той час, што прабег па мне з маленства, мінуў з той жудаснай ночы, падабрэлі, ацішэлі, нібыта выбачаюцца за спалох і жуду, што насылалі

на мяне. З аднаго боку, пэўна, ачужэлі, праганялі мяне прэч ад сябе. А з другога, вечнасць таксама перапрашаецца, літасціва набліжаючы нас да сябе.

Выбачаецца адыходна і таму развітальна абдымкава, паглынальна кладзецца, як зерне на ўзараную зямлю, падае долу кожны колас пад сярпом часу, лушчыцца, веецца з коласа і мякіны зерне на таку пад цэпам, каб стаць спажыўным жывому. Як унук і сын дзеду і бацьку. Але не ўсё вечнае разумнае, а разумнае – вечнае, як нам мроіцца.

Маё вока шукае бомбу, што захрасла каля плота канцавой ці пачатковай хаты вёскі Анісавічы, савецкую, нямецкую – якая сёння, дый тады, розніца. Усё роўна ж не выбухнула, ашчадзіла ўдовіны хаты, маю бабулю і мяне. Я хачу бачыць сваю, некім адведзеную ад мяне, смерць. А яе нідзе не відно і не чутно. Жывыя, па ўсім, адужалі яе. Выкапалі нямецкую ці савецкую смерць-тагасветніцу, адвезлі ў поле ці ў лес і знішчылі – траянскага каня, падараванага ні то ворагам, ні то сябрам. А мо яна сама згінула, спрахла, правалілася скрозь зямлю, пайшла на той свет і там цяпер пагражае яму і нябожчыкам. Могілкі ж пад бокам. На месцы. Хаця не выключана, што яна проста выбралася з нашай зямлі і маім жа гасцінцам пайшла ў свет, у іншыя краіны і да іншых людзей, каб працягваць несатворанае тут – у Сірыі, Іраку, Лівіі. Пагібеллю і паміраннем у склянь напоўнены сёння ўвесь свет.

Смерць не прызнае і адмаўляе нацыянальную ідэю, бляшанку, да якой усё так пнуцца нацыянальнасці. Хаця і не сляпая, заслепліваецца, калі сутыкаецца са сваёй процілегласцю. Таму ёй вядома і літасць і бязлітасцівасць свету. А па-над намі шматлікія шэрагі нашых бесцялесных заступнікаў і ахоўнікаў. Пэўна ж тых, што здаўна спачываюць пад крыжамі на могілках. Таму я і выбраўся да іх у адведкі. Не было б іх, не было б і мяне. Смерць даўно гуляецца са мной у свае смяротныя гульні. Гуляліся мы з ёй і на гэтым Азарыцка-Даманавіцкім шляху.

Маёй бабулі, Усцім'і Говар, людзі пераказалі, што я паміраю непадалёку ад яе хаты ў Азарыцкім канцэнтрацыйным лагеры сярод тысяч зняможаных і знявечаных тыфозных пакутнікаў, жанчын, дзяцей, дзядоў. Немцы вырашылі прыкрыцца імі, як жывым шчытом – на свеце ні сёння, ні ўчора не было і няма нічога новага – ад наступу Чырвонай Арміі. Бабуля пабегла ў лагер за Казловічамі, пад Азарычамі. Мо менавіта таму мяне так цягнула ў ноч пад тыя Казловічы.

Знайшла мяне сярод жывых, хаця я ўжо быў амаль тагасветны. Не мог хадзіць. Яна вымушана была несці мяне з лагера на плячах. А было ёй тады ўжо амаль пад сённяшні мой век, калі не болей, таму што яна любіла гаварыць: "Я, унучак, старэй за Леніна, калі б быў ён сёння жывы". Пэўны час несла мяне па набітай дарозе, па гасцінцы. Прытамілася і вырашыла пайсці напрасткі, праз лес, хмызы і невядома кім і чаму ў такую пару свежаўзаранае поле.

І толькі ступіла яна на тое поле, як на другім яго канцы з'явіўся чалавек, сталага веку дзядок. У белых портках, пры сівой барадзе, крывeconватым кіёчку, на які абапіраўся, нешта цікуючы. Убачыў на полі бабулю са мной на гершках і як звар'яцеў. Дробненька заперабіраў на месцы нагамі. А потым пачаў бегаць, ды так порстка, што бабуля здзівілася: стары, стары, а скача, што сабака. І крычаў, уздымаючы ўгару галаву, і кіёк туды ж ускідваў, пагражаў ці то небу, ці то бабулі. Бегаў па краі поля, і кожны раз у розных напрамках і накірунках. Бабуля пазней казала, што гэта мо

і выратавала нас. Як падпарадкуючыся і адначасова ўхіляючысяківам яго кія, яна змяняла напрамак, баючыся выйсці з поля і сутыкнуцца з шалёным дзедам.

Але ж не атрымалася. Выйшла праменька на яго, ушчытную. Паставіла мяне нагамі ў разору. А дзед размахнуўся сваім крывым кійком і тройчы апераза ў яе па плячах:

– Старая варона, ты ж ішла па мінным полі! Табе нічога, ты ўжо адвекавала. А гэтаму хлопчыку яшчэ жыць ды жыць. І, пэўна, ён некаму трэба.

Так згуляў я на Азарыцка-Даманавіцкім гасцінцы свае гулі са смерцю. А ўпершыню вока на вока з ёй сустрэўся ўсё ж не тут, хаця і не так далёка адсюль. У саменькім сваім пачатку. Ці не ў раслінным, садавіна-гароднінным зародку і росквіце. І тая сустрэча, і першая гульня ўсе гады дратуе і зводзіць мяне амаль першародна. Таму што большага граху, правіны, як тыя, з цемры, з кволай яшчэ зародкавай свядомасці, няма і не мае быць на мне. Пэўна, толькі нашы грахі і віны не дазваляюць нам даўчасна праваліцца скрозь зямлю, утрымліваюць нас у жыцці і на свеце. Невыносна насіць іх на сабе, але і скінуць няма сілы. У такія ўжо адзенні апрануў нас наш лёс, і мы маўкліва пагадзіліся насіць іх да схону. На самой справе, усё сваё мы носім на сабе і пры сабе.

Вайна і смерць параднёна, шлюбава гулялі па зямлі і ганяліся за мной, маёй маці і сястрой, як сабака за катом, нішчылі, зводзілі ўсё навокал, як вясновае сонца апошні, ужо амярцвелы ўчарнелы снег і першую неабачна прарослую травінку. Бежанства, курані, а напярэдадні вызвалення ад акупацыі – увогуле паўсюдна. У хаце і па-за хатай, і ў белым свеце, як капеечкай у прысценак, якой так прагне і на якую так спадзяецца і малое дзіця, і жабрак. І толькі няспыннасць, бясконцыя пуцявіны, шляхі і дарогі, жывяць іх, нешта падманна абяцаюць наперадзе, вымушаючы імкнуць у прывідную мройнасць жыцця, якога ўжо няма.

Адно суцяшэнне – падаць і канаць на дарозе ўсё ж больш лёгка, здаўна звыкла ў гэтым куце. І маці з дзвюмя дзецьмі, мной, трох- ці чатырохгадовым, і двухгадовай сястрычкай кінулася ва ўцёкі, упрочкі ад роднай хаты. Надта ж моцна і няспынна бамбілі вузлавую станцыю Каленкавічы, пры якой мы жылі. Пайшлі да бацькавай вёскі, дзе, казалі, ціха, аніякай вайны, бо там толькі балота, лес і хмызы. Паверылі, пайшлі і трапілі з агню ды ў полымя. Вайна са смерцю дагналі нас. Набеглі следам за намі, як па нас. Вёска пераходзіла з рук у рукі шэсць разоў. Кляліся ў палескія балоты, у дрыгву сярод блытаных лясных сцежак і свае, і чужынцы. І білі па сваіх і чужынцах таксама свае і чужыя. Памыліліся нашы “кацюшы” і намалацілі столькі сваіх каля могілак ціхай і невялічкай вёсачкі Убалаць, што і нагі не ўбіць, жывому не ступіць, не прылегчы сярод мёртвых. Дадалі і былых нябожчыкаў з трунамі і без іх, вывергнутых з магіл. Могілкі былі вельмі старымі, і таму косткі, парэшткі іх, таксама, як вывараныя кіпнем і прыгнётам саржавелага пяску з дамесам гліны. Да ўсяго, яны ў ім угрэліся. А было марозна, і таму чарапы абсохлі і парна пасівелі. Толькі адны вачніцы заставаліся змрокава-непраглядными, пустымі і мёртвымі. Смерць з даўніны таго свету цікавала за жывымі.

А свежыя нябожчыкі ляжалі відушчымі, былі спрэс маладымі і ружовымі, ахрышчаныя парфумай трохгадовай сцюжы ліхалецця вайны і марозным свежаком тагачаснага надвор’я, што абсела іх імгненна абяскроўленыя

твары, помнікава скамяніўшы іх на чужых кладах, назаўжды прылашчыла, прымацавала да чужога долу крывавым лёдам з іх жа целаў.

“Высякаць, высякаць прыдзецца сакерамі”, – стагнала бабуля, спяшаючыся праз мёртвую гаць нябожчыкаў, не наважваючыся ступіць на іх і не бачачы іншых кладак у надыходзячым вечары. Мёртвыя заступалі дарогу. А ёй край неабходна было паспець таксама да смерці – на пахаванне ўнучкі і дачкі, што колькі ўжо дзён і начэй ляжалі, падобна гэтым жа, у пустой і прамарожанай хаце на Убалаці. І некаму было кінуць жменьку зямлі на іх труну. Гэта выпала на яе долю, маці і бабулі. Яна перажыла за вайну ўсіх сваіх дзяцей. Людзі перадалі: няма ўжо і апошняй дачкі. Яе зямная гаць вымашчана нябожчыкамі і з нябожчыкаў, ёй народжаных і чужых. Так яно, пэўна, і належыць быць. Але жудасна, калі гэтую гаць маці гацяць яе ж дзеці. А бабулі трываць гэта выпала да яе сто трынаццатага лета на гэтым белым свеце.

Мы з маці і сястрой у час бойкі дзвюх дзяржаў і ўсяго свету за згубленую сярод балот вёску Убалаць адседжваліся і хаваліся ў чужой хаце на ўскраіне сяла. Я чуў вайну па-за сцяной, але не зважаў на яе. Толькі краем вуха прыслухоўваўся да зябкага выцця снарадаў у паветры і чуў, як яны прыпадалі да зямлі, выбухова дратавалі і дзерлі яе. Хату скаланала скразнякамі, шыбы на вокнах пазвоньвалі ў пазах. З курыным сокатам пер’ем віхурыла, уздымалася і ляцела ў нябыт зямля. Спалохана завісала ціша. Зямля вярталася з выраю і з уздыхам і шолахам клалася ў створаную выбухамі яміну – магілу. Спраўджвалася: няхай усяму свету пухам будзе зямля.

Я быў нямы і няўважны да ўсяго пазасценнага. Не адчуваў за гэтым нічога ні страшнага, ні дзіўнага. Ваююць людзі – няхай сабе ваююць. Рвуцца і лётаюць у небе бомбы і снарады. Няхай сабе рвуцца і лётаюць. Птушкі таксама лётаюць. І камары, і мухі, і матылькі. Я быў тады падобны ім. Імгненне, аднадзёнка, неспазнаныя і неапазнаныя мной жа. Усё прынесенае звонку – вонкавае і пустое. У мяне ж свой клопат. Вайна мяне не тычыцца. Я, лічы, ад нараджэння жыву сярод яе і нічога інакшага не ведаю.

Адно надакучыла і абрыдзела – прымусова гуляць у хованкі, і хочацца больш сонца, таму што ў сховішчах цёмна і мерзнем, як цяпер. Змрочна, холадна і галодна. У хаце перад палацямі туліцца слабым спалоханым агеньчыкам камінак. Мяне грэе веданне, што ў ім пячэцца бульбіна, адзіная і невялічкая. Праз сліну я адчуваю яе пах, як зморшчана сцягваецца на ёй лупіна, таксама сцягваецца і скура ў мяне на жываце. Мы з сястрой сядзім на палацях пры камінку і не зводзім вачэй з кволага ў ім агеньчыку і таго, што ўглыбіне пад ім і попелам.

Але маці парушае нашы спадзеўкі, адсаджвае ад агню, падымае з палацяў і саджае на печ, на чэрань. Чэрань, як і хата, халодная. У печы даўно не палілі. Сястра сядзіць паслухмяна і ціха, пэўна, баіцца збіць назапашанае на палацях цяпло. Я ж пачынаю круціцца, поўзаць па печы, а неўзабаве ціха енчыць, скавытаць і скуголіць, што цуцык на холадзе. Але раблю гэта не ад холаду. У галаве ў мяне і перад вачыма бульбінка. Я бачу яе не слёзна, а сухімі вачыма, пранізліва і прагна. Мімаволі мой енк і скавытанне перарастаюць у цягучае і брыдкае выццё. Я слухаю сябе, не выпускаю з вачэй бульбінку, краем вока сачу за маці ў шэрані палацяў. На хвілінку суцішаюся, замаўкаю і пачынаю зноў ужо больш гучна і пакрыўджана. Выклікальна.

Нарэшце маці не вытрымлівае. Рашуча скідвае з сябе рыззё, у якое дагэтуль хуталася, дзяружкі, посцілкі, прапалены вайсковы бушлат і нібыта з нары ці берлагу выхопліваецца са свайго лежбішча на палацях, хапатліва кідаецца да печы. Першай амаль ласкава здымае і садзіць на палаці сястру, прыхінуўшы галавой да перадпечча, пабеленай адтуліны на цаглінку, пад нагу малым, каб ім больш лёгка залазіць на чэрань. Абяруч, амаль злосна хапае мяне і шпурляе на палаці непадалёку ад сястры. Я нікольку не крыўдую на маці. Рады, дамогся свайго. Уваччу ў мяне скача на вугалях мітуслівае і слабенькае, амаль патухлае полымя ў камінку. Маці ставіць нагу ў адтуліну на цагліну і рашуча ўзлазіць на печ, дзе толькі што мерзлі мы з сястрой.

Я рады, я шчаслівы, я выразна адчуваю ў роце, усім целе пах і смак, пэўна ж, ужо гатовай бульбінкі. Дыхаю ім, загадзя сычуся. На свеце няма нічога лепшага за спечаную ў прыску камінка бульбінку. Гэта і ёсць найвялікшае шчасце. І я ў прадчаканні поўнюся ім і губляю сябе, заходжуся ад пяшчоты сіненькага туманку, спавіты якім, лунаю. І ў тое, самае шчаслівае імгненне ў маім тады жыцці, адбываецца і самае жахлівае і непапраўнае.

Маці, нібы на крылах, злятае з печы і распасціраецца перад намі. Першая думка: во як, не дала і паспытаць бульбінкі. Але яна ўжо з міжвольна ўзніклымі ні з чаго і ніадкуль слязьмі і кроўю на твары. Слязьмі маімі, кроўю яе, маці, што льецца з яе шыі на абодвух нас, мяне і сястру, струменна ахоплівае і крывавіць нас. Спавівае нашыя целы, нібыта пупавінай, што ўжо назаўсёды парвалася. Смяротна.

Толькі адчування яе смерці няма. Яна не можа, не павінна памерці, пакуль мы жывыя, бо гэта ўвогуле немагчыма. Яна проста набыла крылы і прыляцела да нас з неба. Ды так ціхенька, што і паветра не варухнулася і я не здрыгануўся. Я ж не чуў падлётнага зуду ні кулі, ні снараду, ні бомбы. Ні іх сутыкнення, уварвання ў бярвенні хаты, за сценамі якой мы хаваемся. Не было праломнага стуку і груку. Цішыня, цішыня. На ўсё жыццё, здаецца, смяротна закладзены вушы. Толькі печ чамусьці разбурана і куча апаленых цаглін на падлозе. Але апаленых не выбухам снарада, што ўдарыў у прыпечны лушняк і ўляцеў асколкамі ў шыйку паміж печчу і сцяной. Патрапіў у шыю маці.

Нічога з гэтага я тады не чуў, не бачыў і не адчуваў. Хаця быў усё ж пры слыху, але глухі і нямы, пры вачах, але сляпы і невідушчы, пры розуме, але няўцямны, атрупянелы. Разуменне таго, што гэта была смерць не маці, а нашая з сястрой смерць, прыйшло значна пазней. Гэта ж мы павінны былі яе прыняць. Гэта ж мы сядзелі на печы. Маці заняла наша месца, у самую апошнюю сваю хвіліну заступіла дарогу нашай смерці. Уратавала нас, ахвяравала сваім жыццём. І я вінаваты ў яе смерці, таму што смяротна карцела з'есці печаную ў камінку бульбінку.

Яна мне папярок горла і сёння. Стала папярок ужо ў сталым узросце. І я ледзь не захлынуўся абуджанай памяццю. Маці адказала гэтай памяці тым, што знікла, прапала ў ёй аблíччам і тварам, перастала мне з'яўляцца ў снах, як гэта было раней. Здаўна вядома вясковае, што я з нейкай пары лічыў прыхамаццю і забабонам: нябожчыкі прысушваюць і прыбіраюць нас, калі мы бясконца і несуцешна бядуем і ўспамінаем пра іх. Прагнуць спачыну і спакою ад жывых. Патрывожаныя і абуджаныя зямным нашым сумам, смуткам і жалем, яны паўстаюць з таго свету, вяртаюцца, горнуцца да нас, часам і нядобра – прывідамі, зданямі, пярэваратнямі і ваўкалакамі.

Ці не таму маці ўратавала мяне зноў і з небыцця. І не толькі маці. Бабуля, немаўлём, анёлам спачылая сястрычка і яшчэ нехта з таго свету працягвалі клапаціцца і нябачна ахоўваць мяне. Таму што мае гулі са смерцю былі бясконцымі і незлічонымі тут, на радзіме, і на чужыне, незваротна пагібельнымі. Толькі ў самую апошнюю хвіліну, калі я ўжо канаў, ці быў на цененькім-цененькім валаску ад гэтага свету, мяне на тым жа валаску цягнулі, вярталі зноў у жыццё. Я ачомваўся, белы свет зноў засціў мне вочы, белае яго святло, а надаралася, і цемра падымалі мяне. І зноўку быў гатоў паўзці, брысці і бегчы па людскіх і звярыных сцежках. Родных і чужых, горных і таёжных шахтах, рэках, долу і небу, па шляхах, дарогах і гасцінцах свайго кручанага, верчанага лёсу.

Бралі сваё, перамагалі прага і жаданне быць. Быць усюды і заўсёды. І крышачку, крышачку, трошачкі за край наканаванага ўсюды і паўсюдна. Таго, што на святле і ў цемры, куды мне не дазволена, куды мяне не пускаюць. І таму гэта перасцярагальна невядомае і недасягальнае заўсёды мядовае. Жывы чалавек ва ўсім павінен ведаць меру і мяжу. Жывое – жывым, адмерлае – памерлым. Але гэта не пра мяне, як і не пра тых, хто па-сапраўднаму жывы. А я яшчэ жывы. Мне баляць мае нябожчыкі.

## III.

Я кінуў вокам перад сабой і за сябе. На мяне бяззрокава зявіла пашчу пустата. Нешта больш знакавае і больш страшнае за проста пустэчу. Не было не толькі бомбы, але і самой канцавой хаты. Спустошанае спёкай голае шэрае поле на месцы былога спраўнага селішча, як знарок выпнутае мне напаказ, і гуляшчы, нібыта з попелам, сухавейны, злёгку смерчавы ветрык на ім. Такі ж самы, якому даспадобы заляцанні з сыпкім белым пяском свежай магілы, калі душа пакідае нябожчыка і развітальна варушыць, нібы валасы яму, магільны жвір. І сапраўды тут і цяпер была магіла.

Магіла і могілкі не адной толькі канцавой хаты пры авіяцыйнай бомбе. Няўжо яна амаль праз тры чвэрці стагоддзя ўсё ж выбухнула і сатварыла тое, што не атрымалася з сорак першага па сорак пяты гады. Забойства, смерць і пахаванне вёсцы. Могілкі ёй пры ростанях трох дарог і пракаветнага гасцінца. Распяла і ўкрыжавала без крыжа і саматканага, як тут здаўна заведзена, вышытага ручніка на ім.

Палохалі, страшнымі былі не самі могілкі. А тое, што нябожчыкі пры іх заставаліся непахаваныя. Кінутыя-рынутыя пад сонцам, яго знішчальным вогненным абурэннем з лета да восені, ужо абгрызеныя ім касцякі і шкілеты некалі жывых істот – сялянскіх хат. Непрыбраныя нябожчыкі выстуджвалі цела і душу, як усякая нежыць.

Учарнела-маўклівыя, яны прылеглі абапал на ўсю даўжыню колісь, як мне здавалася, бясконцай вуліцы, сапраўды не такой ужо і маленькай вёскі з ласкавым яблычным імем Анісавічы, хаця за савецкім часам ні яблынь, ні яблык не было. Высяклі перад вайной, з-за падаткаў на іх. Сягала ў белыя пяскі, з якіх пачыналася і якімі заканчвалася. Уток, прыток і выток спрадвечнага пясочнага ды балотнага існавання паляшукоў з асвяжальнай, ці не Богам сатворанай пасярэдзіне зялёнай жыццятворнай крынічкай на радасць і працяг самога Бога, каб абмыць здарожаныя яго ногі, праясніць яго сонечнае нябеснае вока, у якім месціўся і я.

Нябожчыцы-хаты перагаворваліся між сабой. Памінальна і тужліва,

пазаземна ўжо гаманілі высалапленымі і выдзертымі языкамі дзвярэй, клямак, пераглядваліся, нешта змрочнае хаваючы ў сярэдзіне, у непрабіўным скляпенным змроку немасці, безмоўя асляплення, у чараповых праломах дахаў, з перацятым назаўжды дыханнем чорных комінаў з рудымі, крывавымі пераломамі чараповых цаглін.

І ў мяне перацяла дых. На якім я свеце? Ці неўпрыкмет усё ж дагнала мяне старая касарка, і я ў абдымку з ёй ужо не тут. Яна паказвае мне дарогу ў нябыт. А дарогі, як і колішняй вёскі, няма. Нябожчыкі ж не ходзяць, а калі ходзяць, то безвагава, як ходзіць вецер. Вуліца і вёска, памерлыя хаты схавалі ад мяне дарогу. Праўдзівей, яна ёсць, але непраходная, непраезджая машынна. А да таго, сумняваюся, што некалі хадзіў і бегаў тут, што я трапіў туды, дзе некалі было так бесклапотна сонечна. Мае ногі, пяты, падэшвы яшчэ не пазбавіліся цёплага дотыку, прысаку памяці пакінутай роднай маёй вёскі. Смыляць і да схону будуць смылець пяты, апаленыя летнім жарам роднага пяску.

Я загадваю сыну, ён вязе мяне, збочыць, павярнуць ад вуліцы туды, дзе, мне здаецца, ёсць нехта яшчэ жывы. Свіраны, адрыны, хлявы і яшчэ нейкія гаспадарчыя пры зніклым ужо калгасе пабудовы. Калі ўсё ж я пры памяці і на гэтым свеце, там павінен быць так званы пагон. Выган для жывёлы і вялізны пляц з намётамі і гурбамі жвіру, белага пяску пад нашы дзіцячыя гульні. Таму што дарослым там няма чаго рабіць. Там я ў свой час таксама гатовы быў стаць пяском і жвірам.

Разам з сябрамі разбіраў снарад, каб здабыць доўгі, як вялізныя локшыны, порах. Той порах, калі яго падпаліць і кінуць тарчма, адным канцом на падлогу, скача па хаце, танчыць чорным чортам. Снарад не паддаваўся, мы з усёй моцы білі па яго сподкавым нізе малаткамі, сякерамі і кавадлам. Так захапіліся, так спяшаліся на той свет, што не пачулі, як нас сцікаваў больш дарослы хлопец. Сцікаваў і так аперазаў даўжэзным бізуном са свінцовым завершам – спецыяльна для валоў, іх скуры. Ахапіў усіх нас, пяцярых ці шасцярых. Джыгнуў, што шэршань у лабаціну. Наша дзіцячая скура распаўзлася і лопнула ў каго дзе. У мяне дык там, дзе месціцца розум, і цяпер той розум абуджана стагнаў і пакрэктваў. І не толькі ад старога болю.

Не надта праезна было і за могілкамі вёскі каля маўкліва сцішаных калгасных пабудоў. Зблізу яны выглядалі таксама тагасветна, абражана помнікава эпосе, што ўжо чвэрць стагоддзя як сканала. Мы ледзь выдзерліся з яе ўчэпістых тленных абдымкаў былога калгаснага ладу. Каляіна, пакінутая калгаснымі трактарамі, і цяпер была на дзіва глыбокай і не тупкай. Мы зноў скіравалі да вёскі. Пад'ехалі, як пракраліся, збоку, з сярэдзіны яе, і працягвалі ехаць нібыта крадком.

Я не наважваўся, баяўся прыглядацца да разбураных хат, іх парэшткаў, касцякоў і шкілетаў. Памяць калола вочы. Механічна, адарвана ўспрымаў і душыў убачанае. Мае вочы заставаліся ў мінулым, у дзяцінстве. А сённяшняе было як насланнё, навалачны жудасны сон. У той жа час я яскрава адчуваў – не насланнё, не сон. Уяўна пазнаваў тое, чаго ўжо не было і не магло быць, што апраметна спрахла. Але спрахла не ўва мне. Працягвала быць. І я адгукаўся кожнаму пераадоленаму машынай метру дарогі. Хаця і сумняваўся, што на самой справе тут хадзіў, бегаў, смяяўся і плакаў.

Так вымарачна мы праехалі з краю ў край колішняй жывой вёскі.

Дасягнулі апошняй хаты. Я, здаецца, пазнаў яе. Па ўсім, гэта павінна быць хата, селішча маёй цёткі Хадосці, сястры бабулі. Адзінай хаты ў вёсцы, за плотам якой рос бэз. Вясной у яго квецені спявалі салаўі. Адспявалі. Такія-сякія кусцікі бэзу ацалелі. Але ж і ад іх патыхала нежыццю. Тонкія, ломкія нават на пагляд галінкі з карослівым і згорнута іржавым лістом, скрозь які прасвечвалі рэбры спарахнелай ужо хаты.

Выехалі за аселіцу. Уперліся ў пустку, у белыя развейныя пры ветры пяскі. Адзінае, што засталося нязменным у маёй памяці і на самой справе. За гэтымі пяскамі, я ведаў, павінна быць верасовая паляна, як дыван-самалёт, што ці не з неба прыляцеў. Сеў і высадзіў анісаўцаў, загадаў ім тут будавацца, пладзіцца, пасвіцца і жыць. Верасовую паляну выткалі на радасць анісавіцкай малечы чмялі. Надта ж калярова, як самі чмялі, аздобілі кветам і трошачкі сваім пазаземным сумам, што жыў і ў тутэйшых людзях пры дрыгве, балотах і лясах. Менавіта яны, чмялі, на маю думку, пазней ужо разам з пчоламі сатварылі слуцкія паясы.

За верасовай палянай рэдказубыя грабеньчатыя шаты хвояў, якімі праменна і пазалочана кожны дзень прычэсваецца, прыхарошваецца і апратваецца ад хмар неба, таму часцяком хвоі стаяць па пояс у кудлатых начосах туманоў. У тых туманах іншым разам нехта ходзіць ці бегае, дыхае, бо кудлы хістаюцца. Нехта, пэўна, выходзіць з прадоння вокан трох невялічкіх азярычын, акаймаваных з усіх бакоў белым пяском, але з тарфяным пры беразе дном. Хаця тарфянікаў паблізу іх і знаку няма. Я баюся гэтых азярцоў з зялёнымі на сваім пачатку капейкамі раскі, якія збіраюць у свае пазалочаныя і пасярэбраныя скарбонкі жоўтыя і белыя гарлачыкі. Яны як вейкі бездані, нядобрага вока вечнасці ў непрагляднай цьмянасці вады. Таму ў той вадзе нічога і не водзіцца. Ні ўюна, ні карасіка. Не ўюць кублаў качкі, бо ў іх і каля іх гала. І мы з хаўруснікамі пазбягаем лезці ў ваду. Хоць і любім яе, але сядзім на беразе і цікуем, што і хто можа вынырнуць з прадоння. Чые, каму і навошта гэтыя вочы. І кожны з нас быў не прэч зазірнуць у іх змрок, але нешта ўтрымлівала пры пяску, глыб і насупленасць вады пужала, не дазваляла нават наблізіцца.

За верасовай далінай, пяскамі, азерцамі і хвойнікам я бачыў іншае жыллё, далёкія і прыцягальныя чаротавыя стрэхі невядомых мне дамкоў. Думаў пра сябе: няўжо і за Анісавічамі жывуць людзі? – гэта пытанне вечнае ў кожнага з паляшукоў. Аднойчы давялося ўбачыць і пераканацца – жывуць. Высока ў неба цягнула дымам і праблісквала полымя. Там гарэла толькі гэтым ды страхой бачная здалёку мне хата. І мне тады і доўга яшчэ пазней карцела пайсці і паглядзець на пажарышча, як іншыя людзі ставяць удалечыні ад нашай вёскі хаты і жывуць, і гараць у іх. Няўжо зусім так, як і мы?

Яшчэ адно няспраўджанае ў дзяцінстве падарожжа і пякучая мара, як мала мне, дый усім нам тады было трэба. Не здзейснілася, не адбылося з-за маёй кемлівасці і разважлівасці: калі там і жывуць людзі, то гэта ўжо канец свету, а мне хацелася ў сярэдзіну, у працяг яго. Да ўсяго, мы з бабай паехалі ў хвойнік каля таго жытла па дровы. Пазычылі ярмо. Запрэглі нашую карміцельку-карову і паехалі. Што мы там насеклі і прывезлі, ужо не помню, а вось што карова выхварэла, гэта ў памяці. Тыдні з два ці тры давала малако з крывёю, і баба моўчкі плакала над даёнкай. Я надумаў, што за хвойнікам у чужым сяле хаваецца і жыве хвароба. Таму мне і забаронена туды, расці яшчэ трэба і мацнець. Вырас, узмацнеў, дажыўся.

І цяпер мяне як адвярнула ад верасовай паляны, чмялёў, азярын, выспаў,

белага пяску перад імі і нябачнай ужо за падрослым лесам вёскі. Мо і яе цяпер таксама няма? Няхай хоць нешта застаецца нязведаным, некранутым і непарушным. Мо хоць так ацалее, хаця б у памяці, зусім незалежнай ад мяне. Я ж сам не ведаю, што ў ёй хаваецца. Не дадзена мне і чалавеку ведаць. Але гэта не праяснёнае няведанне, тое, на чым трымаецца белы свет. Толькі яно і здольна прабіцца праз цемру і напластаванне стагодзяў і ў свой час азарыць чалавека і яго будучыню. Паўстаць Азарычамі і Даманавічамі.

Мы развярнуліся і па былым, што і быллём не парасло, моўчкі, па-паляшуцку, а мо і па-англійску, хто адкажа, на якой мове мы сёння гаворым, не развітваючыся, пакалясавалі назад. Толькі пры ўсім гэтым я ўсё ж не да канца быў упэўнены, што калясавалі мы па маім мінулым, па дарозе, па якой я так спрытна некалі бегаў, лётаў. І на выездзе з вёскі спытаў у нечакана і невядома адкуль узніклага чалавека:

– А ці не падкажаце вы, дзе гэта будуць Анісавічы?

– А тут і будуць. Вы ж толькі што пакінулі іх.

Чалавек быў як здань, падобны да выпетранага калгасным ладам колішняга тутэйшага трактарыста. Адным словам, тубылец, толькі не нашага ўжо часу і веку.

## IV.

І вось я зноў на тых самых ростанях. Наперадзе перада мной могілкі. Адзаду могілкі. Я закаркаваны імі з двух бакоў – з донца і з гарла. Азарыцка-Даманавіцкі гасцінец – крыж, на якім я распнуты сваёй аголенай памяццю. Маё горкае і салодкае мінулае. Яно таксама закаркавана, і не толькі ўва мне. Заасфальтавана і закавана і ўплішчана ў двухбаковую далеч хуткаснага і лёгкага гону сучасных аўтамабіляў. І нязменна ўсё тыя ж, зніклыя мне яшчэ ў дзяцінстве далягляды.

І на гэтым свеце я ўжо ўласнасць двух светаў, двух могілак. Не ведаю, да якога прыбіцца і выпрастацца, якому даверыцца. Хаця выбару няма. Выбіраюць яны, могілкі, у аблогу і пастку якіх я трапіў. Гавораць, нябожчыкі пазбаўленыя клопату пра сэнс і бяссэнсавасць жыцця. Не ўпэўнены, што гэта і напраўду так. Жыццё не заканчваецца дамавінай і сырой магілай. І смерць неўміручая. Апошнім часам пачалі шмат гаварыць, што наш сусвет, нашу планету Зямля ахоўваюць іншапланецяне, зялёныя чалавечкі, прыхадні далёкіх разумных светаў, што і стварылі некалі нас. Я ж веру, схільны верыць і думаць, што нашым лёсам, абераджэннем, заклапочаны нашы ж нябожчыкі, продкі, дзяды і прадзеды. Яны на тым свеце бядуюць, наглядаючы за намі, і спадзяюцца перадаць, удыхнуць нам сваю адляцелую ў далёкі касмічны вырай нятленную, вечную душу. Вось чаму мы час ад часу немаведама чаму і ад чаго ўзбуджаемся і ўтрапёна з сумам і жалем кідаемся ў нікуды. У дарогу, у прочкі, у пятлю, у пельку. Бяжым, уцякаем ад саміх сябе. Нас завуць, нас клічуць, не дазваляюць помнікава аслепнуць і скамянець у часе. Прымушаюць рухацца.

Упэўненасць у гэтым мне надае, не ведаю, ці мой жа розум, ці дурата, патаемнасць і запаветнасць, што вымушае мяне быць і заставацца, верыць і спадзявацца. Уначы, калі зводзіць бяссонніца, я прыдумваю сабе амаль неверагоднае жыццё і занятак. Так, амаль кожнаму вядома, у нашай зямлі з даўніны і па сёння ляжаць скарбы, у тым ліку і на могілках. Нашы дзяды

і прадзеды былі запаслівыя, недаядалі, недапівалі, тое-сёе адкладвалі на чорны дзень, дбалі пра будучыню сваіх нашчадкаў. Зямля, селішча і могілкі – іх адвечная скарбонка, дзе яны загаворвалі і закопвалі на зберажэнне вечнасці хто залатую царскую манетку, хто сярэбраны ці медны грошык, пярсцёнак, завушніцу, бранзалет, каштоўны каменьчык. Поўніцца зямля да пары да часу загаворанымі нашымі прашчурамі скарбамі.

Яны мелі на іх слова, мы ж на яго забыліся. Я думаў, наглядаючы, як мы бядуем, звярнуцца да іх, каб дапамаглі нам збыць нашае жабрацтва. Дапамаглі народу, краіне, у тым ліку і мне. Тагасветна мовілі запаветнае слова і адкрылі скарбы. І мы адразу забагацеем. Нябожчыкі толькі і здольныя ашчаслівіць нас, вярнуць нам заможнасць і даць долю.

Так я мроіў у бессані начэй. Але ўдзень, пры святле раздумваўся і цверазеў. Не, не варта рабіць гэтага. Не вартыя мы самі таго. Усё роўна пры сённяшнім ладзе, нашай аднадзённай вартасці ў адно імгненне ўсё збаёдаем. Прасерам, пусцім праз задні праход, бо сёння самі людзі заднепраходныя. Помніце знакаміты зварот на самым пачатку нашага суверэнітэту, незалежнасці аднаго з нашых кіраўнікоў: “Дайце мікрафон чалавеку ў заднім праходзе!” “Чалавек у заднім праходзе” – прарочыя словы – не азваўся, не загаварыў. Дый як ён, нябога, мог азвацца і загаварыць. І тагасветныя скарбы прашчураў не выціснуць з яго слова. І пойдуць яны за ім праз той жа задні праход.

Хаця старажытныя скарбы нашых нябожчыкаў муляюць нам вока. Нашы нябожчыкі з таго свету заклікаюць нас, просіць паратунку іх былая заможнасць. Просяць вызвалення скарбы нашых дзядоў і прадзедаў. Памерлыя звяртаюцца да жывых, да сваіх унукаў і праўнукаў. Таму што не толькі каўтун і балотную ліхаманку, лапці ды аборы, жабрацкую торбу праз плячо, неба, ельнік ды пясок пранеслі яны праз вякі і стагоддзі.

І я зразумеў – грэшна квапіцца на скарбы нябожчыкаў, якія сваім гарбом, крывёю і потам здабылі сабе і сваім нашчадкам краіну, хату, мову і годнасць. Няхай жа яны самі распараджаюцца на сваіх пагостах сваімі ж скарбамі. І пазасветна на нешта трэба жыць, мець і ў роце, і ў зубах нейкую капейчыну – наказ і запавет продкаў. Нам жа, мне нарачона шукаць і здабываць сваё тут, на зямлі і пры жыцці, а не рабаваць і абіраць памерлых. Не пабірацца і не бегаць па свеце з працягнутай рукой.

Да такіх высноваў я даспеў сваім кволым розумам, калі жыць мне стала зусім няўсцерп. Прыперла, як кажуць, што ні дыхнуць, ні кашлянуць, ні пернуць. На тую пару па вясковай завядзёнцы меўся быць у мяне коцік, якога не мог нават штодзень удосыць накарміць, і ён больш часу ўнурана бавіўся ў цёмным куце майго пакоя і моўчкі нешта даводзіў мне, змрочна лыпаючы зялёнымі свечачкамі вачэй, нібы галоднае немаўля, так што мне рабілася скрушна і непамысна. І я кожна раз, узгадваючы пра тых, каго мы прыручылі, пагаджаўся з яго нямым дакорам: “На самой справе, згодны: мы з табой адной крыві”. І дадаваў ад сябе: “І адной долі”.

Ці не аднадольнасць і паразуменне з галодным сумам коціка пасунулі мяне ў роспачнай бессані начэй да ўцёкаў з гэтага свету, сыходу ў пазаземнасць. Ці не коцік падказаў мне туды дарогу. Таму што, па ўсім, сам быў істотай пазаземнай, прышэльцам невядомых светаў, які прыбіўся да чалавека, а цяпер шкадаваў пра гэта. І я міжволі прагнуў у яго пакінуты свет. Хаця, пэўна, на ўсё сваё жыццё спазніўся ўжо туды ці не ад нараджэння. Дарога ў неба, у космас, на іншыя планеты была заказана мне. Яна была мне напрарочана ў

маленстве, калі быў нетутэйшы, лёгкі, цэльны і вольны. Здольны лятаць. Але цяпер мне абрэзалі крылы і пазбавілі чуць траву, зоркі і другога чалавека.

Час, вераломна, як сапрэлы і гнілы мартаўскі лёд, ціха трэснуў, абваліўся і паглынуў мяне, і не толькі мяне. Схаваў увесь *піпл* майго ўзросту. Схаваў і гноева выбляваў жоўцю. Пагардліва загадзіў намі ўсе тратуары, абочыны і сметнікі, базары і танныя лаўкі, дзе хоць нечым можна была халяўна пажывіцца, засляпіўшыся на сівыя валасы і былыя “особые заслуги”. Але ж, нягледзячы ні на што, нешта і засталося, з дзяцінства яшчэ – учэпістасць пустазелля, ад бацькоў – нешта рабіць і быць. Рухацца, ісці, брысці па прасёлках і гасцінцах, нават ведаючы, што яны ўжо нікуды не вядуць. Як гэта вымушала мяне перабіраць нагамі па пяску майго Аз-вазДам, Азарыцка-Даманавіцкага гасцінца, на які я немаўлём добраахвотна, следам за людзьмі, пайшоў у фашысцкі канцлагер. Але пра гэта трохі пазней.

А тады ў маіх няспаных начах мне заставалася адно: пабрацца, знітавацца з цемрай, паўзці ў ёй гадам, вужакай. Рушыць у вільгаць нор, углыб зямлі, калі няма паратунку тут, на паверхні. Няма чаго чакаць ні ад жывых, ні ад мёртвых, як і ад страчанага і растрыбушанага мінулага, пахавальнага будучага і тым больш людажэрнага сённяшняга.

Калі гэта не мая зямля, не мой час, калі яны так прагнуць пазбавіцца мяне, гнюсяць і палюць за мной, як коршак за куранём. Трэба не сядзець сіднем, там, дзе мяне, па ўсім,  выпадкова пасеялі, а шукаць свой свет, час і сваю зямлю, як да мяне гэта рабілі ўсякія Калумбы, Пржэвальскія і і нават мой зямляк Язэп Драздовіч, толькі, у адрозненне ад іх, адукаваны часам і падбухтораны сваім коцікам, я кінуўся ў пошукі, у сусвет. Там, дзе месціўся і жыў, спадзяючыся адкрыць тунелі і парталы – праходы ў іншы, паралельны нашаму свет. Дастацца ці не да самага ядра планеты. Дамагчыся там утоеных ад мяне – лёсу, долі і праўды.

Але, як гаворыцца, калі няма паратунку, долі на зямлі, няма праўды ў нагах, то няма яе і вышэй. У часы ліхалецця, разбэрсанасці і самадурства, адсутнасці ладу і гаспадара няма і пад зямлёй. Зразумела, адукаваныя, хаця і вытанчаныя апакаліптычнасцю спадзяванні на тое, што недзе гэта ўсё ж ёсць, павінна быць.

Вар’яцкія спадзяванні на тое, што недзе ён усё ж ёсць, павінен быць, калі ўжо не тут, то хаця б пад зямлёй у абліччы д’ябла ці Бога – захавальнікаў вечнасці, накшталт уральскай Гаспадыні Меднай гары са сказаў Бажова. Вось да іх я і звярнуся. Папрашу сабе, усім нам, у тым ліку і свайму коціку шчасця і долі. І сам не буду спаць у шапку. Знайду, разведаю, прыгледжу тое-сёе са скарбаў роднай зямлі. А ў тым, што ў нашай зямлі яны, схаваныя ад нашага вока, ёсць, я не сумняваўся. Маецца ўсё, каб нам, па Мікалаю Ляскову, забагацець адразу. І коцік быў маім павадыром у падземнае царства. Вёў, як калісь вялі сівых старцаў выпетраныя вясковыя хлопчыкі.

Толькі раней часу не думайце, што гэта было чыстай вады маё толькі вар’яцтва. Мяне ж з маленства вучылі бачыць святло ў канцы тунеля, накшталт вярблюда пнуцца пралезці ў вушка іголкі. І тады, і там – усё тады і там: наямося, нап’юся і спаць павалюся. Пад’еў і здароў, пад’еў і зароў. Да таго ж, дзённа падбівала на такія чаканкі-цацанкі ўсё, што адбывалася вакол мяне. Абяцанні здабыць нам долю за кошт вырошчвання цыбулі, зялёнага гарошку, морквы. Заліць Еўропу малаком сваёй вытворчасці. І нарэшце – забагацець ад экспарту айчынных зубачыстак.

Атамным святлом, найноўшай атамнай лямпачкай Ільіча асветлім усю

Еўропу, як толькі адновім наш уласны Чарнобыль. А там, глядзіш, і сваю атамную бомбачку займеем і маленечкі чамаданчык з маленечкай чырвонай кнопкай. І будзем пагражаць усім шведам – планету прымусім дрыжаць. І тады ўжо, бясспрэчна, адразу ж забагацеем.

Мяркуйце самі, ці быў я ў сваім начным трызненні сапраўдным вар'ятам. А калі быў, то толькі пасля некага, вар'ятам нумар два ў нашым айчынным доме, у якім, па сведчанні сучасных вучоных, і лекары вар'яты. Які час, які народ, такія ў яго і месіі.

Але са мной і за мной была ноч, цемра і іх прарочае натхненне, падказка і ўпэўненасць, што ўсё наша толькі там, не на паверхні зямлі, а пад зямлёй. З гэтым я і пачаў сваё падарожжа ў радовішчы, скляпенні вякоў, стагоддзяў і тысячагоддзяў, замураваных пакаленнямі продкаў, што былі, былі і прайшлі. І пайшлі. Але пакінулі і падкінулі мне і маёй памяці не зарастаючыя знакі, тычкі, зарубкі, на маю ўжо вечнасць.

Не адну зіму і вясну выпраўляўся ў падарожжа не толькі ўглыб сваёй зямлі, але і ў сусвет на іншыя планеты. На свае вочы пабачыў, што на Месяцы сапраўды ўдосталь для ўсёй Зямлі гелія – энерганосьбіта накшталт урана і радыя, толькі вадкага, і амаль халяўнага, таннага. Пасядзеў на вынасе самароднай залатой жылы на Марсе. Панаглядаў, як плююцца алмазамі Венера з Юпітэрам.

Толькі вось непярэліўкі, што я мог узяць і панесці з тых планет запазухай і ў кішэнях – не тое, што цэлай краіне, самому на табаку не хопіць. Хаця якраз на табаку і хапала б. Але, як гавораць, свінні не да парасят, калі яе смаляць.

І я ўжо канчаткова і рашуча павярнуў з тых планет на родную матухну-Зямлю. Па праточных атожылках, крыніцамі абвясціўшых сябе, схаваных пад зямлёй рэках, кропкавых свідравінах насельнікаў таго свету чарвякоў-выпаўзкаў, па струменных ліўневых продзеўбах дажджу, па гадавых норах углыбіўся да самага зямнога нутра і ядра. Асабліва паспрыялі мне ў пошуках шляхоў, падыходаў да схаваных у зямлі скарбаў, таго, што край патрэбна было сёння айчыне – золата, нафты і вугалю – нашыя клятыя балоты, багны і дрыгва. Я, нібыта на лодачцы, плыў па іх лабірынтах. Во гэта было дзіва, во гэта быў свет. Бясконцы, супакойваючы і гаючы. Я адпачываў у ім, як ненароджаны яшчэ, у водах лона маці пад калыханку вечнасці, што стварыла такі цуд, амаль роўны завязі чалавека. Адчуваў, што такая завязь творыцца там няспынна і цяпер. Пракаветныя тарфянікі самі сябе цешылі, лагодна ўсміхаліся, пяшчотна дыхалі насустрач мне пяшчотай і ласкай. Ласкай, лагодай і пяшчотай парадзіхі, што дарue свету жыццё. І яшчэ ў лабірынтах тарфянікаў, багны, дрыгвы нехта небачна жыў, смяяўся, спяваў, агукваў мяне, але не паказваўся.

А мне было не да яго. Я шукаў не жывое, а адмерлае. Тую ж нашу нафту, якая была, мелася яшчэ напрыканцы вайны, у якой, падобна егіпецкаму фараону, муміфіцыраваўся забіты немцамі і пахаваны на Азарыцка-Даманавіцкіх могілках чырвоны камандзір. Геолагі свету сёння толькі пацiскаюць плячыма, не ведаючы, што такое гэтая дзіўная нафта. Здаецца, нафтавая свідравіна спустошылася, нафты няма. Свідравіну закрываюць. Але яна нечакана ўзнікае зноў. Ці не такое адбылося і з нашым яе радовішчам. А я яшчэ ў маленстве чуў, што наша нафта злучана з яе румынскім пачаткам. І румыны апярэдзілі нас, высмакталі ўсё да кроплі. Я хацеў даведацца, так гэта ці не. І калі што, павярнуць да сваёй айчыны нафтавыя рэкі Каспія.

І золата, золата мне хацелася на спадачку паднесці радзіме. Яно ж было, было ў нас калісь. Немагчыма, каб творца абдзяліў нас на яго, даў нам зямлю пустую і бясплодную на тое ж золата і іншыя карысныя выкапні. Стварыў толькі балоты і раўніну – неба, ельнік ды пясок. На маю думку, мы мелі, мелі адразу пасля стварэння нашага свету, Зямлі процьму таго ж золата. Але нас абрабавалі, і не толькі на яго, шмат і шмат на якія скарбы.

У апошні час гавораць, што ўся наша зямля мела процьму золата. Але наляцелі злыдні, прыхадні з іншых планет і пачалі здабываць зямное золата. Таму што іх землям пагражала сонечная радыяцыя. Абараніцца ад яе і захавацца можна было толькі стварыўшы над іх планетай залаты купал. Вось яны і чэрпалі золата Зямлі. Пра гэта можна меркаваць і мяркуюць па Мексіцы, Лацінскай і Паўднёвай Амерыцы, індзейскіх плямёнах, што засялялі іх і мелі шмат золата. А золатаносных радовішчаў там сёння не знаходзяць. Вычэрпаліся ў непамысны нам яшчэ час. Вычэрпалі касмічныя прыхадні.

Ці не тое ж самае адбылося і з нашым золатам. Толькі нашмат і шмат раней, па-за памяццю тысячагоддзяў і людзей. Пакінулі толькі знак ад таго, што стварылі на Палессі глыбокія праломіны да самага ядра, нутра Зямлі, роўнядзь вады, балот і дрыгвы. Абрабавалі нас на сённяшні дзень нябесныя прыхадні. І каб толькі нябесныя і ў непамысным мінулым.

Трохі нашага золата ўсё ж захавалася ў Прыпяцкай упадзіне Палесся. На глыбіне двух кіламетраў. Не дасягнулі дна нашага багацця. Тэхнікі, спрыту і яшчэ нечага не хапіла, мо і рабсілы. Таму што той рабсілай, па ўсім, былі ж нашы далёкія продкі – адсюль і адсутнасць памяці пра гэта. І яшчэ, я ўпэўнены, касмічныя прышэльцы некім засялілі нашы лабірынты балот і багны. Добрым, нядобрым, спрыяльным ці не спрыяльным нам. Я адчуў гэта ў сваіх падарожжах у падземнае царства. Нехта нябачна цікаваў за мной. Толькі быў хаця і ўсёісным, ды бесцялесным, як мне здавалася. Наглядальнік іншых светаў за намі, а мой наш гаспадар.

Мо ён і парупіўся, выпхнуў мяне з падземнасці маіх вандровак, амаль тагасветных. Мне ўжо было да спадобы сыходзіць уначы ўглыб Зямлі. Я быў ужо не супраць застацца там назаўсёды. А што, цёпла, утульна, і мухі не кусаюць. І якую карысць я мог прынесці Радзіме і быў блізкі, каб прынесці. Толькі як тую кабылу, што цыган адвучаў есці, і яна ўжо зусім было адвыкла, але падохла, мне далі ад варот паварот: рана, рана табе яшчэ шукаць чалавека, гаспадара не толькі на гэтым, але і на тым свеце, пад зямлёй. Ён яшчэ не нарадзіўся, а мо, хто ведае, і не народзіцца. І ты не першы, і не апошні, хто гэтым займаецца. Алюшкі ў хлеў. Гэта быў загад і прысуд, падобна тагасветнікаў, міма магіл каторых я ўцякаў ад гэтага свету ў падземнасць.

Пазаземнасць і магілкавая ціша як нагаворвалі мне: “Не турбуйся, прыдзе час, і Зямля сама аддасць тое, што ў ёй схавана, аддасца чалавеку, а чалавек – Зямлі. А тое, што ў яе адабрана, узята сілай і гвалтам, не прыдасца чалавеку, адпомсціць за сябе. Як помсціць усяму чалавецтву сёння золата, нафта, уран, цэзій, плутоній – помсціць кожнай мірнай хаце разняволеным уціхаміраным атамам. Помсцяць нам і будуць помсціць і дзецям нашы асушаныя балоты і зведзеныя да белага пяску тарфянікі.

А яны, балоты, дрыгва, тарфянікі – тоеснасць трыадзінства: Творца, Сын і Святы дух нашага краю. Нашы пра-пра, захаваныя і ацалелыя ў

тысячагоддзях. З іх і ў іх дыханні, духу і душы сатвораны і мы. І калі мы маем розум, то гэта таксама іх і ад іх.

Балоты, дрыгва, тарфянікі – нашы са старажытнасці ахоўнікі і абярэгі. У іх душы нашых продкаў і нашы душы. Мінулае і будучыня. Жывыя істоты, кладачкі паміж светамі і сусветамі. Толькі мы іх занядбалі дзеля чаркі і скваркі ўчора, спляжылі, выправілі ў вырай, на Месяц, Марс і Венеру. Узялі на веру, што мы папраўдзе жабракі, старцы. Адзіна нашае – толькі каўтун, ліхаманка ды лапці. А яшчэ – памяркоўнасць. Але ж куды падзець знакі, што пасылае нам неба і наша зямля, як схаваць свае дзівосы, што яднаюць нас з адметнасцю і неапазнанасцю светам. Хаця б той жа Тураўскі каменны крыж, што расце ў цэнтры старажытнага нашага княства, Вілейскія камені-валуны з выявай сузор'я Плеяд, што знойдзены нядаўна. І нарэшце шматлікія нашы азёры, надзіва правільныя, яйкападобныя, ці толькі ледавіком створаныя? А сам колішні наш гарысты і каменны першабытны рай – Мазыр. Усё толькі колішняе, збытае, згубленае, а ўсё ж ацалелае, прывідна і зданева захаванае ў адвечнай нашай памяці, жывой памяці нашых нябожчыкаў-продкаў, з надзеяй, што гэта некалі ўсё ж будзе разгадана і запатрабавана.

І я з цягам часу пачаў разумець і адчуваць недзе зусім побач нябачнае існаванне ўсяго гэтага – жывое і дзейснае. Хаця гэта было нешта зусім інакшае ў нашым звыклым разуменні жывога і жыцця. Мяне амаль уяўна ахоплівала бачанне, разуменне нутранога духу і дыху зямлі. І гэта нейкім разам было падобна духу і дыху звычайнага вясковага хлява, сырадою, каровінай жуйкі, цялячых ці ягнячых ясляў, мурагу, салодкага сапення немаўляці – лагоды, надзеі і даравання. А іншым разам – непрыймальнасцю, абурэннем, папярэджаннем і забаронай невядома чаго.

І яшчэ, я адчуваў у сваіх падзямельных блуканнях пякельны сум. Пякельна халодны стоены смутак ні то мінулага, ні то будучыні. Але больш, здаецца, сённяшняга. Іншым разам і горача апякальны. Нешта надземнае, людскае, па ўсім, пранікла і ўглыб зямлі, і яна не ведала спакою і ў сваім укрыўным плодным лоне. Нястрыманыя жарсці гарачкава віравалі ў яе каменным сэрцы. Смеццевы паверхневы вецер дапяў і да яго, у некранутасць і спрадвечнасць. Ахопліваў і спальваў мяне тым жа самым, ад чаго я хацеў сысці. Слепа спапяляльны агонь і жар бушуючага полымя, якое часам дыхала згарэлым смуродам серы, і глыбіні матухны зямлі былі не адзіна толькі боскім. Часам засцілаў гаючым подыхам той жа першаснасці пачатку. Абуджанай вясновым ранкам на ўзыходзе сонца ціхамірнай вёскі, збітым за ноч прысакам вулічнай дрымоты, пахкай у некранутасці яшчэ паветра жывіцы маўклівых бёрнаў хат. Пчалой – боскім дзіцём – што рупліва ўжо атрасала ад зоркавай цемры і туману палётныя слюдзяныя крылы.

Усё там было, усякага жыта па лапаце, усе падставы адразу забагацець, жыць і ў вус не дзьмуць: ад кімберлітавых алмазаносных трубак да ўрану. Асабліва дзівіла і апраўдвала сябе мора Герадота – зусім не прыдумка старажытнага грэка Платона, ці як яго. Яно ўнікла пад зямлю, схаваўшыся за балотамі і тарфянікамі, расоламі, мінеральнымі водамі, падземнымі залатымі пляжамі амаль залатога зорнага пяску. Але з тых пяскоў мы займелі сабе толькі могілкі на адвечных у нас курганах і буграх. А расоламі, мінеральнымі водамі мыем на Палессі трактары. А яны ж, мінеральныя нашы воды, па сваіх вартасцях не саступаюць каўказкім. Так-сяк выкарыстоўваецца адзіны толькі радон на Гродзеншчыне, якім больш лякуюцца расейцы ды ўсякія немцы.

А мы ж пнемся забагацець рабаваннем не толькі памерлых, але і ацалелых яшчэ на гэтым свеце жабракоў, старцаў – абклаўшы іх падаткам на дармаедства. Старац, жабрак, голы голага гвалціць і блажыць: “Сарочку не парві”.

Згвалчаная, абрабаваная Зямля, захавальніца скарбаў і памяці, галосіць па самой сабе, шукае сябе сваё мінулае. Тое, што калісь было, і таго, хто тут быў. Месціўся годна, гаспадарча, дбайна і рупліва. Знойдзе. Бо інакш немагчыма, бяссэнсава. Хаця пачуцці, эмоцыі і жарсці зямныя дасягнулі ўжо і яе каменнага сэрца ды розуму.

Але ж вернецца, адновіцца зноў тое, што было. Усяму прыдасца колішняя моц і былы розум. А мне – зноўку набыць крылы і лятаць, тэлепартаваць, левітавацца, быць у паразуменні і згодзе з усім існым, а найперш з самім сабой.

Глыбіні Зямлі, падобна мне і ўсяму людскому, існаму разам са схаванымі ў ёй скарбамі, болькамі, пакутамі і жарсцямі, усё ж яшчэ непарыўна зніtаваны з намі, нішто чалавечае не чужое яму, і таксама ж схільны да дваістасці, а то і траістасці – шматаблічнасці. Здаецца, зусім нязлоснай шматаблічнасці, пакуль што нязлоснай і, здаецца, стваральнай. Пакуль яшчэ стваральнай.

Але нягледзячы на такую дваістасць, я ўжо не ўяўляў свайго існавання ў адасобленасці ад набытага і ўяўленага. Прагнуў сам пераўтварыцца ў гэта, скласці сябе з і без таго ўласцівых мне супярэчнасцяў. Яны былі надта ж зямныя, хаця і безаблічныя, бесцялесныя: ні ён, ні яна, хутчэй Яно, якім таксама быў і я. Дух і душы святых і грэшных, што адышлі ў нябыт з зямной Галгофы па сваёй ахвоце і прымусова, а часам і самагубна. Толькі даўно, вельмі даўно. Пародненыя духам у сваім падземным і нябесным выраі, яны набылі сілу і ўладу. І сёння менавіта яны кіруюць і валодаюць светам без пагрозы, страху і гвалту, пякельна сумуючы, але ж не без спадзявання, надзеі. Надзеі мо і на той мурашнік і мураша, што корпаецца на паверхні зямлі, у бары пад сівой і заўсёды зялёнай пракаветнай хвояй.

І ці не яны, тагасветнікі, і каменнае сэрца, глыбіні зямлі, загадалі, паклікалі мяне цяпер, сёння і ў гэтым месцы, прымусілі ачомацца, вярнуцца і супакоіцца. Няма чаго і на каго наракаць. Так, я сапраўды ехаў на могілкі, у праведкі родных мне магіл бабулі, маці, сястры і бацькі, і апошнім часам далучыўся да іх. Хаця яны і не вельмі жадалі яго прыняць. Яму не знайшлося каля першай жонкі і дачкі месца. Зрабілі сямейную магілу. Яго труну паклалі на труну жонкі і дачкі. Бабуля ж была пахавана на іншых могілках.

Я хацеў завярнуць да хаты, хаты матулі, каб прыхапіць там жменьку пяску. Абвясціць, што родны пясок іх котлішча помніць пра іх, перагукваецца з імі, згодны з імі пагаманіць і нешта паведаміць. І мне варта было перамовіцца з тым пяском. Пяском Азарыцка-Даманавіцкага гасцінца, з болем, слодычу не зніклых тут маіх слёз і майго смеху. З рэхам, што я некалі падкінуў сонцу і ў нябёсы. З белым сваім ценем на белых пясках свайго пачатку.

Выбіраліся з сынам у гэтую паездку даўно. Ці не з год. Ды ўсё не выпадала. То мяне нешта ўтрымлівала – пазбягаў, каб гэта супала з Радаўніцай, Дзядамі і Спасам, каб не патрапіць і не спавіцца з аднадзённым, амаль загаданым агульна-людскім сумам і тлумам.То ў сына не было часу вырвацца ў дарогу. Разам з жонкай яны пакінулі тлумны Мінск, пераехалі ў вёску, пачалі там будавацца. Толькі паставілі хату – нарадзілі дачку. Мне

заставалася адно чакаць. Я не нагадваў сыну пра дамоўленасць. Але ж, пэўна, у кожным з нас жыве не сціхаючы голас крыві, нікім не прапісаны доўг і абавязак перад тымі, хто прайшоў па гэтым свеце, па белым яго пяску і верасовых палянах разам з чмялямі папярод нас.

Недзе ўжо на зыходзе спякотнага лета і пачатку такой жа бязлітасна гарачай восені сын сказаў:

– Ну што, бацька, заўтра едзем да сваіх.

Адразу я і не ўцяміў, да якіх гэта сваіх мы заўтра паедзем. Але ён быў не гаваркі. І я зразумеў яго маўчанне. Нягледзячы на занятасць і зусім інакшы, чым мне, свет і час, ён насіў у сабе дарогу і нязбыўную памяць маіх, а цяпер і ягоных нябожчыкаў. Іх усё ж парастак. Паляшук, а паляшукі не толькі, як пра іх кажуць, памяркоўныя, але і цвёрдыя ў памяці і ў пазыках продкам.

Выехалі ў будні дзень, цёмначы. Восень. Сонца ходзіць карацей і ніжэй, ці не напрасткі да захаду. А нам, больш сыну, патрэбна было справіцца за адзін дзень. Работа, служба. Будні дзень быў неабходны яшчэ і таму, што неабходна было застаць на працы маю траюрадную сястру, каб правяла нас да магілкі бабулі.

Хаця нагода паездкі была сумнай, дарога суцяшала, гаіла і зацягвала боль, як гэта заўжды адбываецца, калі глядзіш на агонь, кладзеш вока і зліваешся ім з плынню вады. А яшчэ, калі зоймешся рабіць сам ці назіраеш за суладнай працай іншых. Я ж упадабаў дарогу, пэўна, яшчэ з таго, як стаў на ногі, наважыўся хадзіць. Хадзіць было хораша і падаць, куляцца хораша. І падымацца на паслухмяныя ногі прыемна да смеху, рогату і нават слёз. Упадабаў і ў горкі свой час, калі пайшоў у беспрытульніцтва, уталопіўся, абрынуўся вокам на сталёвыя рэйкі, што асляпляльна і бліскуча набягалі на мяне з-пад колаў таварнякоў. Даў зарок: больш за год на адным месцы не сядзець. Самае большае – паўгода – і ў дарогу. Але ж, заракалася свіння... Ёсць зарокі, а ёсць тая ж рабая свіння недзе ў быльніку ці крапіве, якая толькі і цікуе, чакае, каб усхапіцца і перабегчы нам пуцявіну.

Са світанкам, зменай колеру асфальту з вугальна-чорнага на агеньчата-сіні спакваля вярталася, ахутвала мяне і дзяцінства. Усё ж, колькі б мы ні жылі, кім бы ні сталі, мы былі і застаемся дзецьмі. Пякучая таямніца свету, якой мы апаленыя з маленства, як смаленую саву, прыцягвае куродым і дымавы пах коміна, такі ж куродым і пякельны холад сажы – не пазбыць і не адмыцца – вядзе нас і па свеце, які мы ўбачылі ці сніце чыстымі і светлымі вачыма дзяцінства. Мы заўжды там, як у першым каханні, ва ўбачанай і ўпершыню адкрытай намі таямніцы. Ёй мы прыгавораныя і прыпнутыя да сталасці, смерці і вечнасці. Гэта наша пракляцце і блаславўленне. Неўміручасць.

Зачараваны бясконцым падманам прасцягаў, я з прагнасцю распасціраўся і паглынаў яго. Дарога струнна настройвала мяне, як стары яўрэй скрыпку. Смыкі востраверхіх хвояў пагойдваліся ў небе, пакланяліся мне і асфальтавай напятасці шашы. Пракаветна нотнымі знакамі скасабочана і пакручаста мільгалі з даўніны тут прарослыя, знітаваныя з гэтым кутом, з зямлёй сялянскія хаты, вёскі, у самых назвах каторых ужо гучала музыка. Дзе-нідзе па абочынах паседжвалі і слухачы. Старыя задуменныя вароны, сівыя, па восені дасціпныя вожыкі, якім край нечага трэба было па другі бок шашы. А на прахалодны, потны ў начы асфальт выпаўзалі вужы, падскоквалі мажныя, нібыта цяжарныя ўжо будучай вясной жабы.

То была іх пара і іх год, што з пэўнымі перапынкамі даруецца ці насылаецца ім, здаецца, на працяг і памнажэнне, але часцей пагібельна. А тады якраз яшчэ набліжалася Узвіжанне. Гады павінны былі ісці ў зямлю. Але не ўсе. Зямля не прымала з іх пароды тых, каторыя былі грэшнымі. Нечым правініліся перад ёй і чалавекам. І яны заканчвалі свой век самагубствам на асфальце. Пад коламі машын абіралі сабе магілу, як і чалавек-самагубца, якога хаваюць не на могілках разам з людзьмі, а каля іх, пад плотам.

І ўсё ж, не зважаючы на гэтую сумнаватую спадарожную завядзёнку, світанак, а разам з ім і дзённае абуджэнне бралі сваё цягавітай няспыннасцю, асвечанай наканаванасцю світанку і святла. Хаця ў мяне на самым пачатку падарожжа ўзнікла адчуванне, што нешта пайшло, ідзе не так. Відавочных прычын, здаецца, не мелася. Але нешта ныла, смактала, вярэдзіла душу. Ці не так я ступіў, не ў пору азірнуўся і не ў той бок паглядзеў. А што, чаму і адкуль набягала на мяне, не мог зразумець. Я ж бясконца любіў гэтую дарогу. Я ж стаптаў яе пешшу і машынна. На пад'ездзе да Бабруйска і за ім наваколле дыхала маім родным Палессем. І я пачынаў дыхаць ім, паветрам і духам роднай хаты. Грыбным, ягадным і звярыным духам сваіх лясоў, сівымі туманамі галаў і хмызоў, папрокам і дакорам дрыгвы, багны і чыстай вады. Тым, дзе я незлічона канаў, адыходзіў і столькі ж вяртаўся.

Пачаў разумець, што дзень пайшоў не так, пэўна, недзе, ці не на сярэдзіне свайго шляху, калі Палессе ўжо неабвержна паўстала перада мной. Зноў жа на ростанях, на крузе, збегу шматлікіх напрамкаў дарог, Мазыр, Жлобін, Гомель, Бабруйск, з якіх я абраў і ступіў на сваю. А ўваччу засталося адбеглае – калючы дрот, што перакрыў, загарадзіў усе подступы да лесу, а папярэдне шыльды: “Платная дарога”. Неабходнасць агарожы, па ўсім, была вымушанай і неабходнай – лясныя пажары, каторы год стаяла спякота. Зямля, лясы пайшлі ў мінулую зіму сухімі. І цяпер смаліла так, што паветра нават дымілася.

Усё так, ды трохі не так. Як у нас гавораць, варта б іператакнуць. Напамінак надта ж нядобры і пякучы. Памяць паляшука яшчэ не збыла яго. Мы яшчэ і цяпер зонна задратаваныя набрыддзю чужынцаў і пошасцю сваіх.

Але ж, але ж, я хадзіў, праходзіў тут: у бары, гаі і дуброве – ні калючага дроту, ні памежна ўзаранай трактарамі нейтральнай паласы. Вольныя, і сам вольны. І падымаў вольнага грыба, таму і смылела. Абвесткі пра платную дарогу былі, толькі платы нідзе не бралі. І гэта замінала прыняць і змірыцца з імі. І было яшчэ нешта такое, што балюча калола вочы. Знешне, здаецца, няўлоўнае, а калі ўдумацца, прыглядзецца, то ці не самае страшнае з таго, што ёсць, можа быць на свеце.

Я не раз быў сведкам, як аддае душу сусвету, адыходзіць у небыццё, адлятае ў вечны вырай птушка, канае лясны звер і хатняя жывёла. Сцішана, задуменна, моўчкі. Ці не з тагасветным ужо пагадненнем і змовай са смерцю, годнасцю і вартасцю да непазбежнага. Разумна, а іншым разам і прасветлена, з незямной ужо свечачкай у вачах, агеньчыкам, апошнім выбухам і полымем сваёй існасці, непагаснай іскрынкі існавання на гэтым свеце.

Нешта падобнае адбывалася і з прыдарожнымі дрэвамі. Няўлоўна адыходнае ў тым, як дыхалі і раскашавалі зелянінай лісцвяныя, як колка, пругка мружылі вочы хвойнікі, стоячы абапал шашы, нібы адыходзячы ўжо. Амаль па Лермантаву – “прароцкі смертна”. Такая непахісная трываласць уласціва ўсяму існаму, усяму жывому толькі ў самую апошнюю хвіліну.

Пра што сведчылі адмерлыя ўжо каля іх, бачных і нябачных, каранёў жаўклявыя травы, сыходзячыя на труху і перхаць сівыя палескія ласіныя імхі, у якіх так любіць у добрую летнюю пару вытыркнуцца і росна баляваць малады рудагаловы і белашчокі баравік. Цяпер жа сівыя ўзлобкавыя імхі выкрылі белы палескі пясок, на якіх узраслі і спрахлі. І той пясок, пэўна, шчымліва шапацеў, адпяваючы не толькі грыбы, іх маці-грыбніцу, але і ўсё наваколле.

Адчуванне ці прадчуванне таго, што нешта ідзе, пайшло на самым пачатку дарогі не так, спраўджвалася. На дабро ці на зло, а празарлівасць, прадбачанне, якім валодалі нашы продкі, апошнім часам абуджаецца і ў нас. У іх і за імі, нашымі продкамі, была сіла, яны насілі яе ў сабе і валодалі зямлёй. Мы ж валодаем пустатой і маем немач. Лясное і вясковае наваколле, што мільгае перада мной, як выбляванае і адрачона сонечна зашэрхлае на вачах нябёс, сусвету, спустошанае, пэўна, не толькі спёкай.

Спустошаны і я. Пусты. Кішэнна, душэўна і на галаву пусты. І ў руках пуста. Ніхто не паклаў у мае далоні не тое што каменя, – жменьку пяску ад селішча маёй бабулі Усцім'і Говар, што мела веку на гэтай зямлі сто дванаццаць гадоў. А цяпер там, дзе яна векавала, пустое месца. Ад яе котлішча не засталося і знаку. І знаку няма ад хаты, дзе нарадзілася маці. А я імкнуў да іх святога месцейка, радаводнага кубельца, каб даланёй награбсці, загарнуць у насоўку і прывезці да іх магіл роднага ім пяску.

Некалькі гадоў таму я гэта ўжо рабіў. Бабуліна, матчына хата трымалася зямлі, бугра, на якім яна завісла пасярод вёскі. Цяпер жа не толькі хаты, але і ад бугра не было следу. Хто яго знёс, няўжо і ён, бугор, пайшоў у тартарары, праваліўся ў прорву, бездань, шукаць тых, хто па ім калісь хадзіў, пакуль не стаптаўся.

Развеяўся ветрам бугор, схаваўся ў апраметнай. Пустая, голая, пацягнутая шэранню выспа пасярэдзіне памерлай вёскі. І жменькі пяску не даравана мне набыць тут. Хаця насамрэч я забыўся ўражаны пусткай на месцы ў нейкім родзе і маёй хаты, падмурка мяне і майго сына, яго дзяцей – яе ўнукаў, праўнукаў і прапраўнукаў.

Усё, насамрэч, нядоўга музыка іграла, нядоўга фраер танцаваў. Вёска, драўляныя хаты, скрыпкі Страдзівары і Гварнеры спрахлі назаўжды. Панеслі на той свет, абарвалі мелодыю, згнілі ноты. Адляцела ў вырай музыка, схаваліся ў трунах музыкі. Могілкавая ціша і жалоба, тлен, прах. Адзіна з дакорам жураўліна вытыркнуты ў блакіт нябёс калодзежны смык над вачніцамі знямела пустых, высмяглых калодзежаў абарванай струной почапа пагойдваецца ў паветры. Круць-верць, верць-круць. І тут, і там вырай.

Ехаў, на першы погляд, здаецца, у саваё мінулае і адмерлае, на самой жа справе – жывое і будучае. Але гэтае жывое і будучае спакваля пераўтваралася ў насамрэч ужо мінулае і апраметна-мёртвае. Мне гэтае мінулае і мёртвае трэба было яшчэ знайсці, адкрыць. Яно таксама веялася, як пясок скрозь пальцы. Тагасветна пазбягала ўжо жывых, абцяжаранае сённяшняй і даўняй хлуснёй, крывадушшам. Здзекам і падманамі і над тым ужо светам. Нябожчыкаў бясконца варочалі ў трунах, ды так, што яны па сваёй жа ахвоце тройчы пераварочваліся пад крыжамі ў сваіх магілах. А гэта ж таксама людзі, хоць і тагасветныя, як здолелі, так і здабылі сабе вечны спачын. І найвялікшы грэх варочаць іх косці, гуляцца імі ў свае зямныя гульні, аплёўваць труны тых, хто на тым свеце, а гэта значыць,

і сябе. Таму яны і цураюцца жывых, больш, чым магілкава, хаваюцца ад нас, не падпускаюць да свайго тагасветнага існавання.

Я жывы і няўцешны сведка гэтаму. Так, схавалася і не дапусціла мяне да сябе, да сваёй незямной ужо хаты пад вячыстымі дубамі на бясконцых могілках у вёсцы Гарочычы мая бабуля Усцім'я, нягледзячы на тое, што я ішоў да яе са светлым намерам і кроўнай шчырасцю. Яна не пусціла, заступіла дарогу і мне, унуку, і яе праўнуку, калі я ў другі раз прыехаў каля двух гадоў таму да яе ў адведкі. Пайшоў моцны дождж. Усе магілы і дубы, якімі праараслі нябожчыкі, былі аднолькавымі, мокрымі, непадступнымі і пахмурнымі, як і крыжы. Мы блукалі і сноўдалі пад шапатлівае абурэнне дубовай лістоты сярод знявечаных часам, струхлелых і свежых драўляных крыжоў, саржавелых агароджаў і магіл без іх, часам ужо зраўняных з долам, гадзіны дзве. Бабуля мо злітавалася над праўнукам, паслала нам, пэўна, сваю таварку, таксама Усцім'ю, і ці не аднаго веку з ёй, калі верыць магільнай шыльдзе, падобную да яе бабулю аблічам на пажоўклай фотакартцы.

Я адчуваў, нават упэўнены быў, што гэта не яна, не мая Усцім'ечка. Але ж здаўся, прыпыніўся каля гэтай магілкі, паклаў кветкі, некалькі цукерак, яблыкі. Мы з сынам адкаркавалі пляшку, пад скібачку хлеба налілі і паставілі пад крыж кілішак гарэлкі. Гукнулі сваю бабулю, а чужую памянулі трохкратным паклонам, крыжом і чаркай. Свая, чужая, якая розніца, калі ў адной зямельцы з роднай і недзе цікуе за намі з-пад крыжа.

Сярод мокрых крыжоў мы з сынам пакляліся зноў вярнуцца сюды і знайсці ўжо менавіта яе вечнае прыстанішча. Цяпер пошукі пачалі з сельсавета, чым нямала збянтэжылі сельсавецкіх служачых. Яны зусім нядаўна правялі так званую інвентарызацыю могілак. Абышлі і аглядзелі ўсе маючыя там быць магілы. Пасмяротна перапісалі ўсіх спачылых у іх нябожчыкаў. Але з савецкіх яшчэ часоў я ўразумеў ці не ўсё пра наш руплівы і дбайны перапіс. Хаця ў дадзеным выпадку вялікі дзякуй сельсавету і за гэта – што здолелі, тое і зрабілі. Толькі нябожчыкаў на пераклічку не пазавеш, не дазавешся і імя іх на тым свеце не спытаеш.

У сельсавеце, я раней пра гэта дазнаўся, некалі рабіла там мая траюрадная сястра. Менавіта на яе, а не на сельсавет, я і спадзяваўся, едучы сюды. Сястра, Ганна Васілеўна Калуга, рабіла загадчыцай пошты ў вёсцы Зеляночычы. Магілкі сваёй пра-пра яна не ведала, так, прыблізна толькі. Справілася ў доўгажыхароў Гарочыч. Разам з Ганнай Васілеўнай мы і паехалі, як меркавалася, да магілы бабулі.

Толькі да чаго любіць паўтарацца наша гісторыя, наша жыццё і сам свет. Праўду кажуць – на свеце здаўна ўжо няма нічога новага. Як водзяць нас па адвечным жыццёвым коле нашы нябожчыкі, нават абылганыя і пад крыжом, на два метры, з цягам часу і значна глыбей, на гады і стагоддзі затоеныя ад нас. І адтуль, з глыбіняў вякоў, не выключана, пазаземна не толькі хаваюцца ад нас, але і ад нечага ахоўваюць.

Указаная нам Ганнай Васілеўнай магілка была таксама чужой. Ніцыя кусцікі акацыі на пясчаным узлобку. Знявечаная пры карані, да сукравіцы абадраная, маладая яшчэ ліпка каля скрываўленай і ржавай агарожы пад самым плотам. А ў маёй памяці першага наведвання бабулі адразу пасля пахавання – царскай раскошы дуб ля саменькага крыжа каля ўзгалоўя. Стары, ці не ў тры абдымкі старасвецкі дуб. І не на ўскраіне могілак, побач з плотам, а пасярэдзіне іх, сярод людзей, што спачывалі пад яго непахісным літасцівым ценем.

Не маёй бабулі была магілка. Але я прамаўчаў. І было мне зноў дзіва. Каля гэтай магілкі я адчуў, што губляю сябе, нібы растаю і знікаю ў дыханні памерлых. Падвойваюся і лунаю над вечным спакоем магіл. Іх спакой перадаўся мне і дыктаваў, што рабіць, як сябе паводзіць: моўчкі падпарадкавацца волі нябожчыкаў, іх прымусу і свайму настрою. І гэта было куды больш уладна нада мной, чым я сам разумеў. Уладна над душой, сэрцам, розумам. Думка не паспявала за тым, што я рабіў і як сябе паводзіў.

Першым памкненнем было павярнуцца і пайсці прэч. Але я яшчэ да гэтага ўведаў, што будзе ўсё зусім інакш, нібы пачуў голас і прароцтва мне бабулі яшчэ калісь, пры жыцці і цяпер, з таго ўжо свету: “На твар ты пусты, а целам спраўны. Толькі вельмі наскі, занадта рахманы. Хто цябе добрым словам ці падманам залыгае, той цябе і апратае”.

Усё гэта спраўдзілася, як спраўджвалася і цяпер, сярод магіл і нябожчыкаў. Мёртвыя апраталі мяне. І я спачатку няўцямна знешне, больш паводзінамі, бяздумна падпарадкаваўся ім, а потым і асэнсавана, свядома, паўтарыў усё тое, што прарабіў год ці два на гэтых могілках на магілцы чужой мне Усцім’і. Другі раз яна тагасветна згуляла са мной, са сваім праўнукам і прапраўнучкай. Каля чужой магілкі мы зрабілі ўсё, што трэба па хрысціянскім звычаі. Я набыў сябе. Пазбавіўся дваістасці, вярнуў і прыняў у сябе сваю душу, сэрца і галаву, паўтарыўшы пройдзенае ўжо некалькі гадоў таму.

Гэта было калі не ачмурэнне і вар’яцтва, то цалкам тое, што начыста адвяргаецца матэрыялістамі. Самая звычайная і непадробная містыка. Але ў той дзень яна, містыка, толькі-толькі пачыналася. Мне яшчэ было нарачона, як па Дантавым коле, пайсці па ёй і праз яе. Толькі павадыром і вядучым быў зусім не Вяргілій. Сам я, мой сын, мая кроў і памяць, і машына замежнага вырабу, хуткасная, паслухмяная і, здаецца, крыху разумная, з навігатарам, падпарадкаваная, хаця і педальна, волі чалавека. Гожая, лупатая, з вачыма, але сляпая, невідушчая, з сэрцам, але не чалавечым, з няўрымслівай гарачай кроўю, але сёння ўжо змярцвелай, з жыццяў некалі жывых нябожчыкаў, што па-за нашай памяццю спрахлі. Спрахлі, але былой памяці не пазбавіліся, пераўтварылі яе ў рух.

Калі цвяроза падысці, ідалішча паганскае, дахрыстова яшчэ. І мне ў яго гоне варта не раз жахнуцца, апякчыся, мо і сканаць неўпрыкмет, каб ачышчаным, хоць і данельга збянтэжаным, у роспачы і горычы, але прасветлена вярнуць сябе на гэты белы-белы свет, у свае белыя пяскі да змрочных хвояў і вячыстых дубоў пад спякотнае сонца над маёй сівай галавой і над маім знямоганым, адлятаючым у вырай Палессем.

Я, седзячы побач з сынам, як бы здаля цікую за ім. І на гэтым аддаленні ўсё болей раднюся з ім. Ён у мяне да пазногцяў гарадскі. Напачатку шляху абыякавы да спадарожнай нежыці, яна яму толькі пейзаж. Але ж неўзабаве прыкмячаю, як ён моўчкі пачынае сціскацца, меншаць. Нешта ўсё ж чапляе яго, хаця ён і не адгукваецца на мой голас, маю гаворку.

Невыказна слухае мяне, як толькі сапраўды адзін чалавек можа слухаць і чуць другога, падзяляючы з ім боль, не трацячы сябе на пуставатае галоснае спачуванне. Моцна трымаючыся стырна, прыглядаецца да наваколля, нібы імкнецца прыпасці да яго, усмактаць яго і мае словы. Назаўжды раздзяліць і запомніць пахавальны смутак вёсак, здзічэлых хат, адвечны спакой і тугу могілак, выспавую зменлівасць пяску, апакаліптычную агонію дрэваў. І

гэта надае сэнс нашаму містычнаму падарожжу амаль на той свет. Надае сэнс і жыццёвую неабходнасць беламу дню. І мне ў ім.

А дзівосы, містыка між тым працягваюцца. Ад могілак, на якіх спачыла бабуля, мы павінны былі кіравацца да могілак маці, сястры і бацькі. Дарогу я ведаў добра. Яна была прамой, без паваротаў і збочвання. Але ці то электронны дурань-навігатар схібіў, ці то на мяне найшоў морак, мы збочылі і павярнулі. Сёння я амаль упэўнены – на тое была воля, загад маёй нябожчыцы-бабулі, а мо й маці адчула набліжэнне да яе сына і ўнука, і ёй няўсцерп пажадалася яшчэ раз прайсціся па тых сцежках, шляхах і гасцінцы, па якіх яна хадзіла ў маленстве, да пазачаснай гібелі. Таго ж, пэўна, прагнула на тым свеце і бабуля, каб яшчэ раз паглядзець на пройдзенае, мілае і любае ёй і там, у магіле. Паглядзець, як стаіць яе хата, як ходзяць па яе сцежках сённяшнія людзі. Мы з сынам, унукам і прапраўнукам ходзім.

Гэта было зноў паўтарэнне, па загадзе ўжо нябожчыкаў: мы ехалі па праеханаму намі, і зусім нядаўна. Па той жа дарозе, шашы і прасёлках. Мільгалі тыя ж адрынутыя Богам, чалавекам і пагостамі хаты, апусцелыя вёскі, над якімі ні бусла, ні ластаўкі і нават камар не пазвоньваў, не прагнуў чалавечай крыві, бо яе тут і ў заводу не было. Жалоба і скруха сустракалі нас, жалоба і скруха праводзілі.

І мімаволі згадвалася, прасілася, нема галасіла: Каіны, Хамы і Юды, што ж вы ўтварылі з гэтым светам. Вы назаўжды застанецеся ў памяці пакаленняў, жывых і памерлых, толькі тым, што разбурылі, абяцаючы рай зямны.

З кожнага крыжа і з-пад крыжа, з кожнага вянка і кветкі жалобна, хлуслiва, Юдава ўскладзенай вамі на іх памін, на вас глядзяць, грэбліва сочаць за вамі вочы нябожчыкаў. Ніхто з іх нічога не забудзе, і ніколі ніводнага з вас не забудзе. Мёртвыя не ведаюць даравання. Яны не з тых, не з падкарытнікаў, палатнікаў, што засвоілі толькі адно: "адабрамс". І не з бязмоўна нямых, памяркоўных. Тут ляжаць вечнікі. Адзіна назаўжды праведныя і праўдзівыя ўжо. Наглядальнікі і захавальнікі свету, выкрывальнікі Каінаў, Юдаў і Хамаў, пярэваратняў. Тагасветныя сведкі таго, што вас не прыме і зямля, якую вы разам з чалавекам спаскудзілі, згадзілі, давялі да забыцця і беспамяцтва. Вынішчэння. Не прыме, як яна да сённяшняга дня не прымае Леніна.

Прасцяг і наваколле, усцяж уся дарога была адпявальна пахавальнай, могілкавай. І зямля пад агоніяй прадвосеньскіх ужо дрэваў зноў як выбляваная, у ванітах прыдольнага тлену і праху. Здалёку і зблізу аглушвала чутае зусім нядаўна з высокіх амвонаў ад нашага месіі: "Мы вернули вам грунтовые воды". А крыху раней: "Я дал вам дождь". Не было ні вод, ні дажджу. І намёка пра іх не было сярод пракаветных балот, дрыгвы і багны, як і саміх балот, дрыгвы і багны. Па ўсіх весях і долах адны толькі высмяглыя калодзежы з пакутніцай жабай ці векавым трытонам пры донным пяску. Пашчыравалі сейбіты і дойліды пагалоўнага ўсім нам шчасця. Ужо на нашай памяці: меліяратары і вынішчальнікі неперспектыўных вёсак, вялікія і велічныя будаўнікі аграгарадкоў. А крыху раней іх папярэднікі – калектывізатары, адраджэнцы прыгоннага права, бацькі сярэднявечнага рабаўладальніцтва, індустрыялізатары і жалезная кастрычніцкая кагорта, нашчадкі якой, птушаняты гнязда крамлёва, ужо ў нашы дні акубліліся ў Белавежскай пушчы. Незалежнасцю і дэмакратыяй

падраўнялі і выпрасталі пад магілы і жабрацтва ўсіх ацалелых. Узрослыя пад сярпом і молатам дарабілі тое, што іх дзеды не здолелі. І тымі ж, саржавелымі сярпамі і молатамі на таку пры горне і кувадле зжалі, выпалілі і закляпалі ўсё, што завецца разумным, добрым і вечным, што давала кроў вярхам і нізам – правінцыйную, мястэчкавую і сялянскую культуру, чаму і ўтварылася такая прорва паміж вярхамі і нізамі, народам і яго служкамі.

Сялянская культура, яе дух, апраменены мірным атамам Чарнобыля, памяркоўна знітаваўся, пяднаўся з могілкамі, магільным жвірам. Таму што ўжыве згубіў голас, мову і нацыянальнасць. Надышоў чарод і народу развітвацца з зямлёй, краінай [...].

І было нам зноў паўтарэнне. Ехалі мы ехалі, ды раптам згубілі дарогу, што ўвогуле немагчыма. Да магілы і могілак наша дарога заўжды ж прамая, на ёй не блудзяць, з яе ніколі не збіваюцца. І мы не заблудзілі, не збіліся. Былая дарога, з усіх краёў, з усіх чужых даляў і бакоў свету была пракладзена навігатарам маёй памяці. Памяць не схібіла, асцераглася граху. Засвоіла, усмактала з малаком маці: мёртвых людзей, а тым больш родных, не бывае. Ёсць толькі забытыя. А паваротная, палявая, і праз лес – прасёлковая дарога, натупаная мною і тымі, каго па ёй вазілі, раптоўна знікла, як памерлая памяць, якую нечакана нібы закалодзіла. Самі нябожчыкі, адвечныя аратыя і сейбіты, паўсталі з таго свету, засеялі яе травой небыцця. Травой нашых грахоў. Маімі тлом, тленам, прахам.

Паваротак на могілкі павінен быў знаходзіцца адразу за канцавой хатай калісь вялікага сяла Убалаць. За меліярацыйнай канавай. А тут ні канавы, ні хаты, толькі знакавы падмурак ад яе, ці не ледавіковы яшчэ камень, валун. Ні пешага, ні коннага следу. Трава, трава, што стэпава канала пад сонцам. Мы кінуліся ў адзін бок, у другі. Дарэмна. Дарогі да могілак не было. Схадзілася і плюнула на памяць жывых. Маю з сынам памяць, адводзячы нас ад тагасветнага жытла, ад нашага ж працягу.

Мы павярнулі да ўбогага прыстанішча жывых, сіроча раскіданых на прасцягу былой вёскі ацалелых хат. Я доўга мерыўся, у якую з іх зайсці, каб распытаць. Абраў найбольш устаялую, з аздобленымі разьбой аканіцамі і вокнамі, пафарбаваным плотам, хаця і змарнелым ужо, але кветнікам за ім, зухаватымі веснічкамі з самакованай языкатай клямкай і бетанаванай да самага парога сцяжынкай. Сарамліва наважыўся і зайшоў у двор.

Вось тады і пачалася тагасветная, амаль пякельная, апраметная містыка, што яшчэ і зараз калоціць мяне. З хаты на бразганне клямкі выйшла жанчына сталага веку, па-хатняму апранутая, у растаптаных гумавых бахілах, раскрыленай кваяцістай кофце, нехлямежнай спадніцы, сівавалоса раскудлачаная. Звычайная вясковая бабуля на самоце і ў адзіноце. Прасцецкая, але з залатым зубам, адзіным наперадзе ў роце. Мо ён, зуб, таму і захаваўся, што быў залаты.

Мяне скаланула. Нешта падобнае ці некага падобнага на гэтую жанчыну я ўжо бачыў. Гэта было ў чарнобыльскай зоне. Гэтаксама апранутая бабуля і такога ж прыблізна веку сярод апусцелай вёскі куродымна варыла на дварэ ў вялізным чорным казане варэнне з апраменненных яблык-паданіц. Варыла вядзьмарскі, як у апраметнай чорт варыць і смажыць грэшнікаў. Але гэтая была не з нячысцікаў – з мадоннаў чарнобыльскіх і паслячарнобыльскіх, няўчасна састарэлых. Гэткая атамная сучасная мадонна Ева.

Непадалёку ад той мадонны Евы знаходзіўся і Адам. З добра зношаным кійком, апірышчам і зброяй, стаяў пад крамянаплоднай яблыняй, пільнаваў

ад збродлівых гусей паласу паспелага ўжо жыта. Зусім біблейскае, пейзанскае палатно, няздольнае ўяўлення нават геніяльнага мастака. Дыхту не хопіць, жаху і жуды. А яны былі, жылі, рухаліся, дбалі і рупіліся.

Маю цяперашнюю залатазубую мадону Еву звалі Валяй. Валянцінай, як яна мовіла. Праз некалькі словаў, калі мы ўжо пазнаёміліся і трохі абнюхаліся, яна пляснула рукамі і кінулася мяне абдымаць:

– Віцечка, Віцечка! Я ж цябе семдзесят гадоў чакала! Віцечка ты мой! Семдзясят гадоў я цябе чакала...

Тое-сёе пра дзівосы з часам я ўжо ведаў, і веданне гэта заўсёды надта ж займала мяне. З аднаго боку наша вечная крыўда і папрок яму. Прыкрыццё, апраўданне ім: я не вінаваты, такі быў час, я ўсяго ж змушана падпальваў печы крэматорыяў, страляў, забіваў, ахоўваў. Не падгадаў чалавек своечасова нарадзіцца, таму і пражыў як гад падкалодны.

З другога нешта тут і невытлумачальнае, загадкавае. Так, час валодае чалавекам, стварае яго, непадуладны ні імгненню, ні вечнасці. Тасуе, што калоду карт, мінулае і будучыню, гуляе з самім сабой, эпохамі, вякамі, стагоддзямі, як ветраная бабуля з касой чалавекамі. У лётчыка, калі тая сенажатная бабуля ўжо занесла над ім касу, выскаліла зубы, і смерць здаецца непазбежнай, да яе нават не чатыры крокі, а імгненне. І гэтае імгненне раптоўна расцягваецца і доўжыцца – лётчыку даруецца жыццё. За імгненне ён паспявае зрабіць тое, на што трацяцца мінуты.

Знакаміты, маладзён яшчэ, Ван Рыплі прыкархнуў на хвілінку на бугры. А прахапіўся старым сівабародым дзедам. Хлопчык зайшоў у пячору. Яго ці не месяц безвынікова шукалі ратавальнікі, людзі з усёй акругі. А ён сам выйшаў з той пячоры, як сцвярджаў, літаральна праз гадзіну ці дзве. Прывідамі і зданямі баразнуе мора і акіян якое ўжо стагоддзе чайны кліпер «Лятучы галандзец», бегае па тунелях ці не першы ў свеце цягнік з векавымі ценямі ў вокнах колішніх пасажыраў.

Няўжо і я толькі такі ж цень з глыбіняў мінулага ўжо стагоддзя, калі мяне семдзесят гадоў нехта тут чакаў. Няўжо і я трапіў у пастку вар'яцтва гуллівага часу. Няўжо ён распачаў свае гулі і са мной, як да гэтага смерць. Ці не ў пары яны і іх балі ды гулі, і мяне ў лапці абулі. Якога я ўзросту, ці не тое шчанё, што так прагла печанай бульбіны ў смяротную для маці і сястры ноч. І зусім не маці тады загінула, а я.

Я крутнуўся і азірнуўся, аглядзеў сябе з усіх бакоў. Пачаў з ног. Не, здаецца, трывушча стаю на зямлі. І абуты не ў лапці, тыя, што зранку, туфлі на нагах. Зірнуў у неба. Хмарка, што завісла ў прагале блакіту над яблынькай, рэдзіць беллю, вісіць, дзе і вісела. І котка, як і раней, сядзіць на бетонным ганку, млява хітае ўкарочаным, абсечаным, каб пільнавалася хаты, хвастом, супакойвае. І ў Валянціны, як быў адзіны залаты зуб у роце, так жоўценька і залаціцца, вострым праменьчыкам працінае мне вочы, нібы каштуе і смакуе мяне.

Заставалася толькі ўшчыкнуць самога сябе. Я ж адчуваў яшчэ на пачатку дарогі, што дзень пайшоў на так. Але каб так не так, не хочаш, а мусіш ператакваць. Божухна, за што, чаму і адкуль гэта мне. Насланнё, морак, пракляцце. Прысуд, вырак за мае семдзесят з гакам грэшна пражытых гадоў. Дык даравана ж было смерцю сястры і маці. Памыліліся, адумаліся, наканавалі гэты пралом часу каля амаль памерлай ужо вёскі пад прыглядам чарнобыльскай мадонны, першароднай Евы. А хто я сам?

Апошнім часам, ужо зваротна павернутым, як ні дзіўна ў дзяцінства, у

маленства, мне чамусьці ўсё часцей, часцей прыгадваюцца старцы, што ішлі колісь па прасёлках з вёскі ў вёску. Сівыя дзяды, надаралася, і сляпыя, з павадырамі, малымі хлопчыкамі, якія вялі іх. Лапці, белыя палатняныя нагавіцы і кашулі. На тварах пакора, давер і лёсавыя пропісы іх дарог і жыцця. А праз плячо таксама белая палатняная торба з міласцінай, акрайцамі, скібкамі хлеба. На захадзе сонца торба звычайна была поўнай.

Вось і ўяўляў сябе торбай на плячах старцоў. І мая торба была напакаваная даранай мне на пражыццё міласцінай. А яшчэ, як заставаўся на самоце, праўдамі і няпраўдамі, падманам, калі замест куска хлеба атрымліваў камень, крыўдамі маімі і чужымі горкімі і салодкімі слязьмі. Такую старцову торбу мела, насіла ўсё мае пакаленне. А я пасёння нясу сваё жабрацтва ў сваёй жа зрэбнай торбе памяці. І пры гэтым, хаця і дакараю сябе, не наракаю ні на час, ні на сваю долю, таму што іншага не дадзена. Толькі ж надта ж горка, калі цябе носам ды ў тваё ж дзярмо. Калі ты, здаецца, і не жыў, а калі жыў, то як і ўсе – і грэшна, і праведна. А вось сам-насам сутыкнуўся са сваім лёсам і жахнуўся, таму што ніхто іншы, як я сам, не ўсведамляючы таго, – правал у часе, белая пляма і чорная дзірка, толькі невядома на чым і дзе. Такі наш зямны, зорны і касмічны шлях. І я ўсе свае семдзесят гадоў проста спаў. Праспаў сябе, а мяне, аказваецца, недзе чакалі.

– Семдзесят гадоў я цябе чакала, – паўтарыла Валянціна.

Пасля немага майго здзіўлення і аслупянення яна паведала, што менавіта ў яе хаце, хаце яе матулі, была забіта ў апошнюю ноч вайны ў гэтай вёсцы мая маці. Валянціна, мая равесніца, ці мо крыху старэй за мяне, запомніла тую ноч, нашую сям'ю і мяне. А я не помніў яе. Увогуле ў тую ноч не помніў людзей. Ці былі яны тады і ці быў я сам. Я не верыў самому сабе, што ў тую ноч ацалеў, выжыў. У роспачы пабег ад смерці маці з хаты. Бег па вайне, плакаў, праслізваўся на прадвясновай марцаўскай ужо наледзі. Падымаўся і зноў бег. І нарэшце ўразумеў, што па наледзі зручней не бегчы, а каціцца. І я пачаў катацца, спачатку безвыходна, прыгаворана, а потым і адрачона. Посвіст куль, выбухі снарадаў, зыркія сполахі полымя – вайна і смерць не тычыліся мяне, я зжыўся з імі. Я быў яе спараджэннем, якое ўсё ж марыла аб печанай бульбінцы.

А смерць у пакінутай мною хаце працягвала рупіцца. Сястрычка спаўзла з палацяў ад мёртвай маці. Як мне пазней пераказалі, у хату зазірнула жанчына, ці не родзічка Валянціны. Зазірнула і моўчкі выбегла прэч. На дзіцячы няўсцешны плач з начной цемры выхапіўся нямецкі салдат.

– Кіндэр, кіндэр! – закрычаў услед жанчыне, пэўна, загадваючы ёй вярнуцца і забраць дзіця.

Тая махнула рукой, не спынілася. Тады немец ускінуў вінтоўку і стрэліў ёй у спіну. Сястрычка зайшлася ад холаду і плачу пад печчу. І слёзы замерзлі на яе твары. Апошняе мне расказаў ужо бацька, якому далі ў партызанскім атрадзе дванаццаць гадзін на пахаванне жонкі і дачкі. Так іх, замарожаных і скурчаных, і паклалі ў магілу. А я згубіўся недзе ў Азарыцкім канцлагеры. Пайшоў туды сам, за людзьмі, якіх гналі прымусова.

У маёй памяці нічога з гэтага няма, яе нібы жывасілам вырвалі з маёй галавы. І ці маці з сястрой загінулі тады. Ці не сам я памёр у тую ноч. І мой цень з таго правальнага часу блукае па свеце. Цені маці, сястры і мяне зліліся, пяядналіся і непрыкаянна пайшлі па зямлі і сышлі ў нікуды. І свет апусцеў, як і мая памяць, сканаў.

Паміж быццём і небыццём – толькі імгненне, як, дарэчы, ці не ўсім іншым, з чаго мы складзены. Ці можна ўгадаць, чыё гэта імгненне ў нас пад каменнай абыякавасцю крыжа. Тры здані, тры зямныя прывіды пайшлі ў вечны вырай. А час застаўся нязменным, бо зніклі тыя, каму ён павінен быў працягвацца, доўжыцца ці скарачацца.

Хаця тут нешта ўсё ж блытана ці не тагасветна, як і з маёй памяццю, што невядома адкуль і ад каго. Па ўсім, не толькі пра мяне, таму што я, здаецца, чужы ёй – смерці невядомай мне жанчыны, якая пацягнула за сабой і смерць маёй сястры. Жанчыны, пэўна ж, родзічкі гэтай вясковай, жывой залатазубай Валянціны.

Адзіночны стрэл уначы міласэрнага нямецкага салдата, падобна, не толькі ў маці Валянціны, але і ў яе малую тады дачку, у яе лёс і век, што семдзесят гадоў зводзіў і дратаваў сталую ўжо жанчыну. Я ж з'явіўся перад ёй як вызваленне і дараванне за пралітую кроў чужога дзіцяці, яе слязінку, прымерзлую да шчок пад печчу, і кроў маці, якую пакаралі за гэтую слязінку.

Вось так крывава ўсё сышлося праз семдзесят гадоў. З-за маёй бульбінкі, якую я нават і не паспытаў. Сышліся, збіліся ў адно кроў, сляза. І час. Колішняе, сённяшняе і будучыня. Я быў бяспамятны на гэты збег часу, паяднаны і спынены на мне тады. Беспамяцтва перажыць проста. А як справіцца з памяццю, з якой не змірыцца ні душы, ні розуму, ні сэрцу, якую не заняволіць, ні запрыгоніць ні ў турме, ні ў вар'яцкім доме, не закратаваць, не схаваць і не адбіцца. Чаму Валянціна і мовіла мне: «Віця, Віцечка, я ж цябе семдзесят гадоў чакала».

Але я быў бяссільны на тую хвіліну, дый і пазней у мяне не было ні волі, ні права на адпушчэнне і памілаванне. Таму што сам, хоць мо і нявінны, але бясконца вінаваты. Лёс не ведае зваротнасці. А выбачэнне, дараванне і асуджэнне – гэта не зямное, не падуладнае нават і часу. Гэта ўжо наш зямны пазасветны крыж, на якім усе мы распнутыя да схону Божага свету: не судзіце, ды не судзімы будзеце.

Я быў спустошаны збегам часу. Хаця цяпер мая сямідзесяцігадовая пустата спакваля пачала набрыняць мо і часам, праўда, невядома якім. Але закаркаванае, каменна-ацвярдзелае бяспамяцтва зноў прагнула былой звыклай і ўтульнай пустаты. Я, падобна тром малпам, жадаў нічога не чуць, не бачыць і не гаварыць. На шчасце, мне ў падтрымку з'явіўся Евін Адам, якога звалі Фёдарам. І быў ён як падняты і высушаны вавёркай на сучку дрэва грыбок-баравік, варты на спажыву той жа вавёрцы. Рабіў пры калгасе трактарыстам, колісь рабіў, пакуль аказаўся непатрэбным тут трактар.

Трактар, Фёдар і Валянціна – прозвішчы, твар і аблічча і ўвасабленне Палесся сямідзесяці апошніх гадоў, двух вякоў, дваццатага і дваццаць першага стагоддзя, адной вайны і бясконцых войнаў іх грамадзянскага змагання з усім светам за існаванне. Каб на сыходзе жыцця вось так грэбліва, амаль жоўцева выплюнуць, як выбляваць разам з іх Убалаццю – амаль памерлай, але яшчэ непахаванай вёскі, балотамі, гацямі, якіх, як гавораць на Палессі, ужо і сарочка цураецца дакаснуцца.

Я падпісаў ім сваю апошнюю кнігу «Час збіраць косці». Ева з Адамам правялі нас за ваколіцу і паказалі дарогу да касцей. Дарогу да згубленых намі могілак.

І вось мы з сынам у атачэнні драўляных, крывых і спарахнелых крыжоў, а больш – шыкоўных, каменных, мармуравых помнікаў, каля родных нам могілак, каля магілкі таксама пад каменным помнікам ва ўзгалоўі. У свой час бабуля, калі ўбачыла гэты помнік, пастаўлены мной адразу пасля вяртання з чужыны, з Сібіры, у Беларусь, загаласіла:

– А навошта ж ты, унука мой, сваёй маці, маёй доньцы, ды такі камень на грудзі!..

Падобна, сённяшні чалавек цяперашні свет такім пытаннем не абцяжарвае сябе. Доўгі час мой сціплы каменны помнік быў адзіным на мясцовых лясных могілках. Цяпер жа іх процьма.

Камянеюць крыжы, камянеюць могілкі, камянеюць, пэўна, і нябожчыкі. І жывыя камянеюць. Як за каменнай сцяной шыкоўных, мармуровых і гранітных помнікаў крыжова хаваюцца, выгараджваюцца ад сваёй жа невылечна хворай на сумленне і свядомасць памяці, знасіўшы сваю і нябожчыкаў вечнасць.

Лепшае і безумоўнае сведчанне гэтаму старажытнае імя вёскі Убалаць – ніякага знаку ад былых балот. Яшчэ на памяці майго бацькі, у яго маленстве, тут уначы, сярод багны, дрыгвы вадзіўся і роў балотны бугай, ці не наш паляшуцкі родзіч, нашчадак, а мо й прашчур лахнескага страшыдла і цуды-юды, тутэйшы, тубыльскі Цмок, наскі напаўбык, напаўчалавек (нешта ж надта тутэйшае, вяскова-калгаснае, прабачце, бачыцца і чуецца мне ў гэтым) Мінатаўр. Бо нашы балоты, багны, дрыгвы вельмі ж прыдатныя для іх існавання, як адмыслова некім створаныя. Ці не сусветны гэта лабірынт, пра які сёння паўсюдна столькі гаворкі. Партал, дарога ў замагільны свет і космас. Планетарная антэнна і прыёмнік сувязі з сусветам. Не толькі пітная бочка Еўропы, як некалі разам з балотамі звалася Палессе, а штосьці значна і значна большае. Па-першае, – вада носьбіт жаночага пачатку, сімвал ачышчэння і адраджэння. Па-другое, тады ці не адно гэта з чысцілішчаў чалавецтва, колькасць якіх на Зямлі набліжаецца да тузіна – па колькасці апосталаў.

Усе яны, чысцілішчы, у Амерыках, Мексіках, на поўначы Расіі на слыху. А пра наша нідзе ні гуку, ні груку – анігагусенькі нічога. Як у нас нічога няма, няма і нас. І менавіта ў гэтым наша сусветная адметнасць: «Свая своих не познаша». «Уничиженне паче гордости». Так мы па сваёй ахвоце памяркоўна самазнішчаемся ў свеце, сусвеце і сваёй роднай хаце. Так мы па-жывому рвем повязь з нашымі продкамі, космасам, будучым – з нашымі нашчадкамі, спадкаемцамі-дзецьмі.

Так мы вынішчылі, падсеклі і выветрылі з сябе беларускасць, пазбавіліся і духу нашай зямлі. Дык ці варта тады гаварыць пра неспазнанае, што адсохла, сканала і спрахла. Пра нашы тарфянікі, што пайшлі на Месяц, пра нафту, якая была, была ды некуды знікла, пра балоты і лясы, што дашчэнту высмяглі. Пра таго ж пракаветнага нашага пакутніка, балотнага бугая.

На свеце няма нічога выпадковага. І кропля дажджу не пральецца ў ім проста так, і расінка не ўпадзе з пустога і на пустое, і слязінку з нічога не выплача дзіцячае вока. Дзеля ж нечага і, пэўна, велічнага, але так і неспазнанага намі былі створаны і нашы балоты, багна і тарфянікі. Дзеля ж нечага і падаваў голас, напінаўся і дзёр горла з прадоння нашых водаў і вякоў балотны паляшуцкі бугай.

Ён мо і роў таму, што прадбачыў свой і наш лёс, як прадбачаць яго сёння нашы ростані, гасцінцы, клады, вёскі, вясковыя хаты і іх гаспадары,

тагасветныя і яшчэ крыху жывыя. Папярэджваў ужо сам тагасветны, роў так, што шыбы ў вокнах уначы дрыжэлі. А я яго голасу ўжо не чуў. Замоўк, знямеў, страціў голас і язык, мо прадчуваючы наша светлае, заможнае і сувярэнна-дэмакратычнае сёння, у якім ці не ўсе немыя зараз апынуліся. У якім цывілізавана, машынна, электронна, атамна закаркаваны і я.

А я так прагнуў, калі падрасту і асмялею, сустрэцца з тым паляшуцкім цудам-юдам, нашым Цмокам, зазірнуць яму ў вочы, спытаць ці не сустракаўся ён на тым свеце з маёй маці і сястрой. А калі сустракаўся, звесці з імі і мяне. А гэтае пудзіла балотнае падманула мяне. Само сышло невядома куды, не дачакаўшыся нашай сустрэчы, адцуралася мяне ідалішча пракаветнасці, як шмат і шмат іншых, што блаславілялі нашых прадзедаў, дзедаў, бацькоў.

І што гаварыць пра ідалаў і ідалішчаў, калі нас цураюцца, сыходзяць невядома куды нашыя нябожчыкі, а мы самі манкуртава муціруем. Муціруем да нябыту і ў нябыт. Муціруем сумленнем, вартасцю, годнасцю. Крыжова камянеем на могілках, мармурам і гранітам адкупляемся ад пракаветнай сваёй памяці, сваіх продкаў, захінаючыся, спісваючы ўсё на эпоху, век і час. А час нязменны памяці і сумленню, вартасці і годнасці. І гэта мы круцімся, рухаемся і ходзім па ім. А ён застаецца заўсёды адным і тым жа і адразу ў трох вымярэннях: мінулым, сённяшнім і будучыні, у кожным з якіх ужо абылганы чалавекам. Але надыдзе дзень, калі ўсе гэтыя вымярэнні сыдуцца, як ужо сёння мне на могілках каля родных магілак.

Я ехаў, здаецца, у адмерлае і мінулае, да свайго пачатку, Азарыцка-Даманавіцкага гасцінца і родных магіл. А прыехаў у ажыўлена яўленае будучае. І нічога не папішаш.

Вось такі мой **Аз**арыцка-**Дам**анавіцкі гасцінец: **Аз** ваз**Дам** мне і нашым дзецям. Усім і ўсяму.

*26.11.2016*



Валярына Кустава



...вершы
пішуць нагамі...

# Сны яе сняць абдымкі яго

* * *

А жыццё мінае тоненька,
хоць ты панам, хоць падпаскам.
Не аспрэчыш, маё сонейка.
Ці аспрэчвай – калі ласка.
А жыццё мінае лёгенька:
на канцы здаецца – дзе было?
Спадаром ты альбо лёкаем...
Крок наперад – цемра ці святло.

*2016*

* * *

...Яна вецер упляла ў валасы,
хмараю захінулася.
Дымком ад яго цыгаркі
зацягнулася.

Душна Менску.
Няма месца,
дзе спыніцца хочацца.
Прахалодней толькі ўночы
навальніц клякочыца.

Спёка, як рака,
горадам цячэ,
усё шырэй, яшчэ.
Яму сарака
ўсё пакуль няма.
На скронях – зіма.
Лета – з-за плячэй.

*2016*

* * *

...Без вуснаў, без рук, без плячэй...
Кавярня. Вочы-стол-вочы.
Горада душныя ночы.
Восень – а ўсё не лягчэй.
Збегчы б да рэк і лугоў,
над якімі ўзышла Мілавіца,
дзе злуецца ўслых навальніца,
дождж малы скача без нагавіцаў
між малінаў, садоў ды стагоў.
Дзе трава ў ваду з берагоў,
урастае зялёнымі пасмамі,
дзе дрыготкімі роснымі ласкамі
сны яе сняць абдымкі яго.

*Верасень, 2016*

* * *

Ён мысліць песнямі Марэка Дыяка.
Ты сніш карцінамі
Поля Сіньяка.
Яе сукенка,
як бурлеск,
пераліваецца п’яна
бурбалкаю шампана
й знікае
з келіху ўспамінаў,
дзе ён чакае,
калі яна зноў пакахае.

Яна ж, спадарыня трапяткая,
апавядае
казку няправільна –
так, што можна паверыць у яе да слёз.
А ўсё яго жыццё – першая, другая,
трэцяя...
Застаецца толькі пашкадаваць
перад ужываннем.
Застаецца пашкадаваць...
Ад’ёз.

Нічога не знішчаючы,
не даваць яму нічога.
Што адбудзецца – яна кажа –
так таму і быць.
Рай для таго –
хто ўмее кахаць доўгатэрмінова.
Яму ж нават сняданак на канапе
поруч з ёю
не меншы за многа.
Не давайце ёй такога.
Не давайце яму яе.

Як мастак Сіньяк,
вымалёўвае к.р.о.п.к.а.м.і
прыгожы жывапісны фінал
яна,
здымае кружэлку,
якая іх кружыць,
і разбівае –
нібыта няўзнак.

*2016*

* * *

Як шчанюк,
лёс пільнуе кожны рух,
кожны жэст,
што між імі здараецца.
Ды ніяк Ён не Вы-
праўляецца –
не сыходзіць з Яе жыцця.

Раман, як салодкая вата:
з’ядаеш адразу дарэшты,
пасля на ваду месяц брэшаш.
Любоў, як ускосны падатак,

па вызначаных датах –
такую нават
са зніжкамі duty-free
не варта перавозіць
праз мяжу
ўнутры.

*2016*

* * *

Ён,
вялікі мужчына,
як кацяня,
сядзеў на падлозе,
спакваля
яго валасы
гладзіла
я.

*2016*

* * *

Вершы
пішуць нагамі...
на шляху,
якім ёсць Паэзія.

*2012*

* * *

Цыкадамі
ўвушшу закладае,
што здаецца:
цішыня – гаваркая.

Хударлявыя кацяняты
стракатыя
пацягваюцца ў паўвуліцы,
скачуць,
закінуўшы ўгору сто дупак,
як на свята,
пакуль
клубок сонца
не перакуліцца
з імі
па
вадаспадзе
прыступак.

Дзеці
багламасамі ды гармонікамі
у пераходах
Старога Гораду
не па-дзіцячы міноpаць,
сумнымі тонікамі
адорваюць
мінакоў,
ушчэнт зморaных.

Горад,
гарачынёю прыснулы,
свежыць ветрам эгейскім
свае калоны.
Незацугляныя матаролеры
спяць ля храма Венеры,
морацца марожаніцы –
пры храме Апалона.

*Жнівень 2013, Родас, Грэцыя*

* * *

Ад Варшавы да Ўроцлава
цягніком “Інтэрсіці”:
– Przepraszam.
– Entschuldigen.
– Sorry.
– І вы выбачайце...
– Простите...

Першыя ластаўкі восені –
анкетныя птушкі.
Працягнеш руку – і вось яны,
тухлікі папялушкі.

У мініЕўропы, бы ў маркеты,
штопаўгода па закупы.
Без цэтліка, якой маркі ты,
пад сэрцам Еўропы скуты?..

*2009. Варшава-Уроцлаў, цягнік*

* * *

Ты вышэй ад мяне – і ўжо гэта твой плюс.
Да таго ж – ты харызматычны і беларус.
Колькі таго жыцця – столькі нас.
Колькі таго кахання – дай мне пас!

Вось дапішу гэты верш,
даспяваю песню –
і пайду прызнаюся ў каханні.
І няхай буду першай.
І няхай не адразу мой голас пазнаеш.

Ты – у Празе,
а твой голас гучыць у вушах
і твой твар прад вачыма.
І ў такім разе
ёсць шанец,
што ты –
мая душа,
магчыма.

*2009, Менск*



Уладзіслаў Ахроменка



...ад Чужыны мы адгароджаныя Перыметрам: мудрагелістай сістэмай высачэзных вышак з кулямётамі...

# Выкрадальнік гукаў

*Урывак з рамана*

## Пралог

І стварыў Усявышні зямлю, і насяліў яе рознымі расамі, народамі і плямёнамі. І падзяліў яе межамі, і накрыў яе нябёсамі, і на знак сваёй міласці рассыпаў па нябёсах зоры.

І даў людзям слых, каб яны чулі музыку зораў, і ўклаў у іх сумленне, каб яны не саромеліся назваць тую зямлю і тыя зоры сваёй Радзімай.

Але адно хабёльскае племя павыкідала сумленне са сваіх душаў, наплявала на зоры ў нябёсах і нагадзіла на зямлю пад нагамі.

І зразумеў Усявышні, што зямля і нябёсы дзікунам непатрэбныя, бо Ягоныя словы ім нячутныя, а музыка зораў – і пагатоў. І выправіў Ён на зямлю свайго анёла, каб той улагодзіў хаблоў. Але хаблы злавілі анёла, абшчыпалі яго на пёркі, а анёлаву тушку засмажылі проста на вогнішчы.

І ўзлаваўся Усявышні, і сказаў дзікунам: "Як хочаце быць скотамі, то заставайцеся імі. Але зямля вашая адцяпер выклятая. І будзеце вы тамака нараджацца па-скоцку, жыць па-скоцку і паміраць па-скоцку. Пладзіцеся і памнажайцеся, грашыце і канайце, але не турбуйце мяне больш сваімі малітвамі".

І жылі так дзікуны сотні гадоў – у гноі, у крыві і ў грахах. І напладзілася-намножылася іх багата, што пяску марскога. І паставілі яны пасярод сваіх земляў залачонага ідала, і сталі яму пакланяцца. І зрабіліся дзікуны пыхлівымі і дзёрзкімі, і вырашылі захапіць яны не толькі ўсе існыя землі, але й зорныя нябёсы.

І дараваў тады Усявышні дзікунам усе іх ранейшыя правіны, і патаемна выправіў да іх свайго пасланца, каб той навярнуў неразумных да дабра і прыгажосці.

І абвесціў Усявышні хаблам: "Гэта ваш апошні шанец далучыцца да роду чалавечага. Але як вы ўжо і гэты шанец адрынеце – то я вам ужо дам прас...ацца!.."

## Частка першая. Чароўная флейта

### *1. Акустык. Быццё*

У вокны маёй кватэры бессаромна вытарэшчваецца Маці-Радзіма.

Яе прыўкрасны твар антычнай багіні замкнёны і нежывы. Вусны сціскаюцца шчыльна, бы цагліны ў сцяне. Невідушчыя зрэнкі падобныя да фаянсавых сподкаў. Гэтыя зрэнкі пільнуюць мяне ўдзень і ўначы, і позірк пустых вачэй працінае нават праз сцены.

...Задушлівае жнівеньскае чарноцце на злому да золку. Блакітныя сполахі бязладна крэсляць квадрат неба ў вакне. Спелая поўня дрыжыць на завадскім коміне, бы залаты жук на іголцы натураліста.

У вільготнай цясніне Плошчы, на каменных плоскасцях, выпаленых пранізлівымі пражэктарамі, соваюцца попельныя цені хімераў. Але мне не трэба разглядаць цемрадзь у бінокль, каб дазнацца, што адбываецца далёка ўнізе. Варта адно ўслухацца.

Рытмічны грукат сякераў, сакавітае чвяканне цвікоў, гудкія вібрацыі напятых тросаў... То пад пастаментам цыклапічнай статуі Маці-Радзімы збіваюць сталы для пачастункаў і ладзяць эшафот для злачынцаў.

Увечары на Плошчы, згодна з нашай народнай традыцыяй, мае адбыцца Дзень Радасці: народная пагулянка, раздача падарункаў і публічная страта.

* * *

Завіце мяне Акустык.

Вядома, у мяне ёсць імя і прозвішча, але я імі амаль не карыстаюся. Імёны не выяўляюць чалавечую сутнасць, і таму ад іх варта адмовіцца.

Клініка ментальных разладаў, дзе я ляжаў яшчэ ў дзяцінстве, вызнала мяне пажыццёвым інвалідам, але сацыяльна бяспечным, без рэгулярнага змяшчэння на стацыянар. Невялічкай дапамогі, прызначанай мне Маці-Радзімай, зрэшты, з лішкам стае на кнігі, хлеб і партвейн. А большага мне і не трэба.

У мяне няма сяброў, а крэўныя і сваякі, добрапрыстойныя і законапаслухмяныя грамадзяне даўно перасталі мне тэлефанаваць. Суседзі баяцца

заходзіць са мною ў ліфт. Маладыя маці затуляюць ад мяне малых дзетак. Нават начныя дэманы ў марынэрках са штучнае скуры і кастэтамі ў адвіслых кішэнях – і тыя шугаюцца ад мяне, бы ад пошасці. Бо, ва ўяўленні ўсіх гэтых людзей, я знаюся з нячысцікам. Людзям уласціва страшыцца толькі тых, каго яны ніколі не бачылі жыўцом. Менавіта таму яны больш за ўсё і баяцца Бога і Д'ябла, з якімі знаёмыя адно па карцінках.

Мне, зрэшты, глыбока пляваць і на тое, што пра мяне тут гавораць, і на пачуцці, якія я выклікаю. Мяне сапраўды зжырае прыўкрасны і вусцішны нячысцік – я чую нячутнае іншым. Няўцямныя вібрацыі, сцішаныя шоргаты і прыдушаныя шэпты здольныя расказаць мне куды больш, чым іншаму – найяскравейшая карцінка.

Кожная матэрыя неўпрыкмет убірае ў сябе навакольныя гукі, якія пасяляюцца ў ёй назаўжды, бы жыццятворныя бактэрыі ў галоўцы сыра. Асфальт, дрэвы, банкноты, базары, дзіцячыя арэлі, гандлёвыя цэнтры, турэмныя муры і нават чалавечыя целы штосекунды азываюцца ледзь чутнымі гудзеннямі. Варта прыкласці да паверхні трысняговую флейту, якая заўсёды пры мне, і яна імгненна ўсмокча гукавую гісторыю рэчы.

Я ненавіджу раніцу, упарадкаванасць, спорт, здаровы сэнс, субардынацыю і сытую логіку жыцця. Не маю акаўнтаў у сацыяльных сетках, не гляджу тэлевізар і амаль не выходжу з дому па-светламу.

Дзень – самы недарэчны час для крадзяжу гукаў. Тупыя тупаты натоўпу, пагрозлівае гырчэнне рухавікоў, бязладныя блямканне мабільнікаў і мярзотныя рыпенні дротаў спаборнічаюць між сабой у іерархіі, бы альфа-самцы перад самкамі напярэдадні злучкі. У дзённым горадзе немагчыма пачуць, як з крыльцаў мятліка абсыпаецца пылок ці як у келіху грае маладое віно.

Паляваць на гукі можна адно ўначы. Стомленыя за дзень вібрацыі распаўзаюцца па далёкіх кутах, пазяхаюць і сцішваюцца да самага ранку. Над каменнай храбцінай ускраін сарамліва праяўляецца цытрынавы месяц. Пругкі ветрык бавіцца фіранкамі ў адкрытых вокнах. Я бадзяюся лабірынтамі нашага раёна, рыхтык беспрытульны кот, і з асалодаю ўслухоўваюся ў піканні, шапаценні, стогны і мармытанні, што няўцямна варушацца за сценамі.

Начныя гукі любяць маскавацца. Тое, што падаецца рыпеннем ложка пад каханкамі, насамрэч можа быць перадсмяротным енкам самотнай старэчы. Павароты ключоў у замках падазрона нагадваюць ляскат пісталетных затвораў. А душы памерлых, якія іншым разам прылятаюць у адведкі да крэўных, пырхаюць па начных кватэрах з такім жа шоргатам, з якім мёртвая ружа асыпае долу пялёсткі.

Мая флейта – неверагоднае сховішча цурчэнняў каналізацый, п'яных тлумаў ускраін, глянцавых шоргатаў Праспекта і варварскіх гімнаў Плошчы. Я ведаю, як гучыць пялюшка немаўля, узаранае поле і могілкавы крыж. Я беспамылкова магу сказаць, колькі людзей сабралася ў кіназале, у якой кішэні і ў каго шамацяць грошы і які яблык на дрэве точыць чарвяк.

Зранку, калі шчыльныя аблокі тлуму зноў ахутваюць горад, я зачыняюся ў кватэры на ўсе замкі, зашморгваю фіранкі, прыкладаю флейту да вуха і дбайна праслухоўваю накрадзенае ўначы. Злоўленыя гукі яшчэ не ўцямілі, што апынуліся ў палоне; яны куёўдзяцца, скандаляць і хаатычна ірвуцца вонкі. Але ж неўзабаве ўлагоджваюцца і расказваюць мне гісторыі сваіх гаспадароў.

Непадалёк ад майго дома ўзвышаецца змрочны панэльны пяціпавярховік – каралеўства выкручаных лямпаў, шчарбатых прыступак і бранІраваных уваходных дзвярэй. У чатырнаццатай кватэры жыве немаладая дзябёлая цётка. У яе агромістая квадратная дупа, зацягнутая ў леапардавыя ласіны, юрлівыя пунсовыя вусны і выпаленая пергідролем фрызура. Штучная бландзінка адгукаецца на мянушку Мэрылін Манро. Яна выкладае ў тутэйшым універсітэце этыку і эстэтыку, але мае запаветную мару – стаць зоркай эратычных ток-шоў. Мэрылін Манро падзяляе камунальную прастору з муміфікаваным дзядулем-ветэранам на імя Гербарый, які перасоўваецца па кватэры ў інвалідным вазку. Мая флейта трымае ў памяці гудкія касцяныя ўдары: то Мэрылін Манро лупцуе Гербарыя па лобе вялізным фалаімітатарам.

За панэльнай стадолай зіхаціць шкляны куб кавярні. Тамтэйшая кухня – цёплы свет густой сытнай пары, бліскучых рондаляў і ружовых ільсняных шчок. Кухаронкам там працуе Антрэкот – нязграбны глістападобны пацанчык у заплюханым памыямі фартуху. Толькі мы з флейтай ведаем, што ён таемна сачыняе пранікнёныя вершы, якія чытае падвешаным на гачаках свіным тушам.

Каля Цэнтральнага рынка, акурат насупраць пафаснай царквы, ад рана да вечара стаіць стары чорны кадылак. Ездзіць на ім Абрэк – самавіты валасаты мужчына са зламанымі вушамі і бялявай фрызурай. Год таму Абрэк прыехаў аднекуль з поўдня, згаліў бараду, пафарбаваўся ў бландзіна, купіў сабе пашпарт з аграрным прозвішчам тутэйшага механізатара і зарганізаваў прыватны бізнэс. Калі назваць Абрэку пароль, ён шляхотна запросіць у лімузін, запрапануе гарбату, каву, каньяк ці касяк. Пасля чаго разгарне нататнік, дробна ўсыпаны імёнамі, і дабразычліва вышчэрыцца – а хто, маўляў, паважаны, табе жыць замінае? Мне вядомыя і таксы, і нават тое, што насупраць большасці імёнаў стаіць слова “ужэ”.

У затанаваным да чарноцця шкле кадылака скрыўлена адбіваюцца залачоныя цыбуліны. Праз сухое шамаценне німбаў, трэскат свечак і плёханне ялею іншым разам можна пачуць малітвы, праклёны і енкі гараджанаў. Яны просяць у Бога пакарання начальнікаў, лайкаў у фейсбуках і датэрміновага пагашэння банкаўскіх крэдытаў.

Блізка Плошчы, у цені цыклапічнай Радзімы, узвышаецца дзесяціпавярховы Куб – геаметрычна правільная спаруда, аблададаваная чорным светанепранікальным шклом, з густым гаем загадкавых антэн і верталётнай пляцоўкай на даху. Ані ўвечары, ані ўначы, ані ўранні ніводны агенчык не сведчыць пра прысутнасць там нейкіх людзей. Я не ведаю, што адбываецца ўсярэдзіне Куба: шкляное пакрыццё спрэс непранікальнае не толькі для святла, але і для гукаў. Вядома толькі, што там жыве найвышэйшае начальства, якому падпарадкоўваюцца ўсе панэльныя стадолы нашага горада, усе рынкі, цэрквы, вязніцы, могілкі, універсітэты, гандлёвыя цэнтры, дзіцячыя арэлі, а таксама кухары, ветэраны, бандыты, святыя і выкладчыцы этыкі і эстэтыкі. Сам жа Куб не падпарадкоўваецца нікому – акрамя, вядома ж, нашай агульнай Маці-Радзімы.

На даляглядзе блішчаць шклопакеты загарадных палацаў, мігцяць агенчыкі далёкіх мікрараёнаў, і шэрая зубчатка лесу ўгрызаецца ў шэрыя нябёсы. За лесам пачынаецца чужынская тэрыторыя, непадкантрольная Радзіме. Ад Чужыны мы адгароджаныя Перыметрам: мудрагелістай сістэмай высачэзных вышак з кулямётамі, шырачэзных копанак з

марозаўстойлівымі кракадзіламі і заблытаных лабірынтаў калючых дротаў. Менавіта з-за тых дротаў наша краіна і называецца Задротыяй, а ўсе мы, адпаведна, задротамі.

Мала хто з нас бываў за Перыметрам, але тыя, хто трапляюць туды, ніколі ўжо не вяртаюцца. Імаверна, уцекачы па хуткім часе паміраюць там з тугі па Радзіме, бо ў Чужыне няма ані сваіх Мэрылін Манро з Антрэкотамі, ані сваіх шкляных кавярняў і пафасных золатацыбульных цэркваў.

Не кажучы ўжо пра чорны Куб, Дні Радасці і гіганцкую статую.

* * *

Прачынаюся ад ледзь улоўнай басавітай вібрацыі, вельмі падобнай да гуду мухі ў закрытым рондалі. Спіну муляе скамечаная парасціна, па столі споўдаюцца дрыготкія цені, на скронь жорстка ціснe трыснёг з круглымі дзірачкамі. Не заўважыў, як заснуў у сваім бетонным пакоі-рондалі дзесьці апоўдні, праслухоўваючы накрадзенае за ноч...

За наглуха зашморгнутымі парцьерамі млява пульсуе вечаровы мікрараён: шчыльны камяк гламура, мацюкоў і кіслотнага рэпчыка. Са спрэсаванага тлуму пругкім пінг-понгам вышпокваюць гукі розных колераў, танальнасцяў і калібраў: іржавы віскат пружыны ў пад’ездзе, нервовае цоканне абцасаў, густыя клаксоны аўтамабіляў... Гэта задроты паціху выцягваюцца з кватэр і шыбуюць на Плошчу; да публічнай страты засталося крыху больш за гадзіну.

Накідаю чорную брызентавую марынэрку з глыбокім капюшонам і ўмомант раблюся падобным ці то на дэмана з тэлесерыялаў, ці то на гарадскога блазна. Трысняговую флейту засоўваю ва ўнутраную кішэню, дульцам уніз, каб у выпадку чаго зручней было дацягнуцца. Праводжу далонню па калючай шчацэ. Не, такім дзікабразам ісці на Дзень Радасці нельга. Сёння – ці не самы галоўны дзень майго жыцця, і мне не трэба прыцягваць нічыю ўвагу.

Я не магу глядзецца на сябе ў люстэрка падчас галення. З-за таго боку шкла на мяне зыркае змрочны мізантроп з запалымі шчокамі і празрыстымі вачыма ў пунсовых ад бяссоння пражылках. Не, гэта дакладна не я – чуллівы соракагадовы рамантык, які здольны заплакаць ад празрыстых сакавіцкіх капяжоў і які разумее мову жывёлаў і птушак.

Але я ні на кога не наракаю і ні на што не спадзяюся. Так будзе і заўтра, і праз год, і праз дзесяць. Па цёмнаму я буду сапраўдным Акустыкам: па-маньяцку паляваць на гукі, па гнюснай завядзёнцы летуценніка паглядаць на цацачны Месяц і ўпотай марыць перасяліцца на яго адваротны бок. А ўдзень пераўтваруся ў бяскрыўднага млявага задрота: буду пластацца містычнай гароднінай на канапе, з чароўнай флейтай пад вухам, шкадаваць пра дарэмна пражытае жыццё і свята верыць, што канец свету блізкі і што нічога ўжо не змяніць.

У такія моманты шляхотны нячысцік, які надарыў мяне цьмяным талентам чуць нячутнае і разумець патаемнае, падступна шапоча: “Дарагі братка Акустык, ты што – хочаш да самога скону пражыць гарызантальнай раслінай – стандартнай і прадказальнай, як усе?..”

“Дарагі братка д’ябал, – маркотна кажу я яму. – Нестардартныя і непрадказальныя ці ляжаць у вар’ятнях, ці сядзяць у турмах за канібалізм і дзяржаўную здраду, ці даўно ўжо сканалі ў Чужыне...”

“Ты надораны надзвычайным дарам, але нашто ён табе?!.. – ласкава пярэчыць нячысцік. – Сёння ты дбайна складаеш эстэцкую калекцыю шоргатаў, блямканняў, траскатанняў і выбухаў, а заўтра знянацку правалішся ў адкрыты каналізацыйны люк. Ці будзеш расчаўлены джыпам з кампаніяй мудакоў усярэдзіне. Ці проста згнieш жыўцом на сваёй канапе. Праз тры дні твой труп закапаюць на могілках, якія праз пяцьдзясят гадоў спляжаць бульдозерамі, каб збудаваць там прыгожы бетонны мікраранён з гандлёва-забаўляльным цэнтрам усярэдзіне. Чароўную флейту пасля тваёй смерці выкінуць на памыйку, на месцы каторай неўзабаве...”

“Ды йдзі ты ў с...аку, дарагі братка д’ябал, – нервова перабіваю я, бо ведаю, што суразмоўца мае рацыю. – I без цябе мотарашна...”

“Ат, я ж ведаю, чаго ты наспраўдзе хочашь!.. – блазнавата лыбіцца нячысцік, – ты хочаш спяваць песні кахання, вандраваць казачнай брыганцінай па цёплых морах, поўных рыб і русалак, хочаш лётаць у аблоках, шалець без дайпрычыны і катацца па зямлі нажэртым валяр’янкі катом! Калі не тут – то хаця бы на адваротным баку Месяца... Скажы мне шчыра: ты баішся змяніць уласнае жыццё з-за святой і жахлівай цёткі? Але ж ты нават не ведаеш, як яна насамрэч гучыць!..”

Сапраўды – я ніколі не быў на Днях Радасці, хаця і жыву непадалёк ад Плошчы. Хіба што чытаў пра публічныя страты на Плошчы ў Сеціве і ў газетах. Ніколі не падыходзіў да цыклапічнай статуі, не бачыў яе зблізу і, натуральна, не прыкладаў да яе трысняговую флейту.

Справа не толькі ў заскарузлым родавым калецтве. Маці-Радзіма – маё апошняе сакральнае апірышча. Калі яе ў мяне адабраць, то навокал застанецца адно невыносны тлум, пазбаўлены ўсялякага сэнсу, гармоніі і прыгажосці. I я баюся расчароўвацца ў святыні – жудаснай маёй суцяшальніцы, бязлітаснай ратавальніцы і лютым астатнім прытулку. Тыя, хто нарадзіліся за Перыметрам, напэўна мяне не зразумеюць.

Але ж я наважыўся: сёння я, нарэшце, дазнаюся, як мая Радзіма гучыць, з чаго яна злепленая і што ў яе ўсярэдзіне.

## *2. Інфант. Мы з братам*

Калі мне споўнілася чатырнаццаць, тата падарыў мне сапраўдную шыбеніцу і сказаў, каб я каго-небудзь пакараў.

Мой тата – найгалоўны кат у нашай Задротыі. Ён у нас увогуле найгалоўны, але ж не надта любіць, калі пра гэта гавораць уголас. Сваю першую ахвяру баця задушыў ажно ў дванаццаць гадоў. А ўжо потым, на шляху да пасады Вярхоўнага Ката, ён перавешаў, перастраляў, патапіў, абезгаловіў, чвартаваў, спаліў жыўцом і распусціў у кіслаце ўсіх сваіх канкурэнтаў.

Татка кажа, што прафесія ката – найлепшая ў свеце, бо робіць людзей шчаслівымі. Не тых, вядома, людзей, якіх забіваюць, а тых, якія ходзяць на публічныя страты. Гвалт, кажа баця – наймацнейшы ў свеце наркотык, бо прымушае забывацца на ўсе жыццёвыя негаразды і дзякаваць лёсу, што ў пятлі цяпер курчышся не ты, а твой сваяк, сябра ці хоць бы сусед. Менавіта таму ўсе публічныя страты і называюцца ў нас Днямі Радасці. А яшчэ тата кажа, што гвалт павінен быць бессістэмным і бессэнсоўным. Што гэта азначае, я ўцяміць пакуль не магу, але ж тата мой ніколі не памыляецца. Інакш бы ён не стаў самым галоўным у нашай Задротыі.

Падараваная шыбеніца патыхала хваёвым пілаваннем, свежым лакам і новым, дарослым жыццём. Дужыя слупы, эстэтная капронавая вяровачка з неўжыванай авальнай пятлёю... Толькі вось вешаць мне пакуль нікога не хацелася. Я на ўсяляк выпадак абарваў вяроўку, а сам падарунак разабраў і засунуў куды далей.

Акрамя таты і шыбеніцы, у мяне ёсць яшчэ залатое яечка Фабержэ – ладнае такое яечка, расфарбаванае прыўкраснымі адзінарогамі, казачнымі пеўнямі і нябеснымі свяцiламі. Зверху яго аздабляе круглы гадзіннічак: класічны белы цыферблат з лацінскімі лічбамі і выразныя графітныя стрэлачкі, прытым секундная стрэлка прыемна так тохкае: цік-так, цік-так... Айцец Лампадзій, міністр асветы і містыкі нашай Задротыі, румяны барадач з атлетычнымі плячыма, прывёз мне тое яечка аднекуль з Чужыны. Лампадзій сказаў, што гэта сакральнае сховішча, дзе выспявае нашае сумленне, і загадаў штовечар грэць падарунак пад настольнай лямпай: тады, маўляў, здарыцца цуд. Ніякае сумленне адтуль яшчэ не вылупілася. Хіба што залатое яечка ад штучных цяпла і святла пабольшыла да памераў стравусінага, і спыняцца на гэтым, відаць, не збіраецца.

Увогуле, на тым дні народзінаў мне сказалі шмат добрых словаў і зрабілі багата падарункаў. Доктар Альцгеймер, міністр унутраных распраў, спрэзентаваў мне падзорную трубу на трынозе, падобную да элегантнага катаўнічага рыштунку. Розныя іншыя міністры – пакункі з цацкамі, ласункамі, айфонамі і моднымі трантамі. Зводны хор лёкаеў пад кіраўніцтвам обер-камергера Меркурыя Віктаравіча ўзнёсла праспяваў “Оду да радасці” Бетховена. Я ўважліва разглядаў падарункі, прыкідаючы, што з імі рабіць, а словы, адрасаваныя мне, амаль не слухаў.

Словы ўвогуле не маюць ніякага сэнсу. Асабліва – у вуснах усіх гэтых ілжывых у...банаў з прышчавымі лысінамі, падначаленых майго баці. Усе іх словы – механічны набор гукаў пра Маці-Радзіму, а таксама пра гонар, мараль і сумленне.

Сэнс маюць адно ўчынкі. Адзіны чалавек з майго асяроддзя, здольны на ўчынак – мой брат Шозахер. Яму ўжо васямнаццаць, у яго валасатыя ногі і амаль сфармаваны барытон. Гэтым барытонам ён і ацэньвае самых кантужаных задротаў кароткім, бы стрэл, пытаннем, з-за чаго і атрымаў такую мянушку.

Тыдзень таму Шозахер змайстрачыў вялізныя крылы, падобныя да птушыных, і па альпінісцкім рыштунку ўскараскаўся па Маці-Радзіме на самую яе галаву... Але ж зляцець не паспеў, бо па-над статуяй адразу з’явіўся верталёт Міністэрства ўнутраных распраў. З борта на трасах спусціліся спецназаўцы, брата далікатна скруцілі, паднялі разам з самаробнымі крыламі ў верталёт і даставілі ў Куб.

Баця не біў Шозахера, не роў на яго, не тупаў нагамі і нават не грузіў беспантовымі лекцыямі пра патрыятызм. Ён моўчкі і пранізліва глядзеў майму брату проста ў вочы.

Мала хто можа вытрымаць позірк татавых вачэй – пранізліва-блакітных, круглых і страшных, нібы падсветленых з сярэдзіны мярцвяным арктычным ззяннем. Мяне, напрыклад, ужо праз колькі секундаў пачынаюць калаціць дрыжыкі. Пад кашуляй матэрыялізуецца пяшчотная грудзіна, а пад ёй – хрыбціна, рэбры і ўсе вантробы, бы на рэнтгенаўскім здымку. І я гатовы прызнацца яму ва ўсіх касяках – нават у тых, якія не рабіў. Інакш мозг проста выбухне і халодным кісялём пацячэ праз вушы.

Але мой брат вытрымаў.

– Сынок, – ясным і пранікнёным голасам прамовіў тата. – Сынок... Скажы мне сумленна – ну нашто ты гэта зрабіў?..

– Я думаў, наша Радзіма – для людзей. А як так – то чаму я не магу скокнуць з гэтага ідала?

– Не Радзіма для людзей, а людзі для Радзімы, – хіжа, нібы напярэдадні страты, прымружыўся бацька. – А ты хацеў паставіць сабе вышэй за самае святое, што ў нас ёсць. Сынок, ты ніколі не думаў, чаму ў самым цэнтры нашага краю стаіць гэты велічны і прыўкрасны манумент, які ты называеш ідалам? Чаму менавіта ён, а не гіпермаркет, не элітны шматпавярховік і не шматузроўневы паркінг? Не ведаеш? То слухай. Без манумента Маці-Радзімы і зямля наша не зямля, і Радзіма наша не Радзіма, а проста кавалак тэрыторыі. А нашым задротам, акрамя ежы, сэксу, алкаголю, шопінгу, лайкаў у фейсбуках і публічных стратаў на Плошчы, патрэбнае яшчэ і пачуццё ўласнай годнасці. Немагчыма ганарыцца кавалкам тэрыторыі, агароджанай калючым дротам...

Размова адбывалася надвячоркам, у працоўным татавым кабінеце. Глыбокая цішына камянела ва ўсім агромістым Кубе. Бэзавыя прывіды закатаваных хаваліся па кутах. Цень настольнай лямпы брылём накрывала палову бацькавага твара – непраніцальнага і прывабна-жорсткага, бы ў мармуровых статуй рымскіх военачальнікаў з падручніка па гісторыі.

– Статуя Маці-Радзімы – гэта слёзы, жарсць і любоў нашых задротаў, – татаў голас выстукваў словы, бы ўдары крэсіва па камяню. – Гэта тое, на каго яны моляцца, што шануюць і чаго баяцца – не галавою, а спінным мозгам, пячонкамі, селязёнкамі і каленнымі чашачкамі. Тое, што сняць па начах... Пакуль яны сняць гэты велічны манумент – ад іх можна патрабаваць якога заўгодна трывання і пасылаць на штурмы якіх заўгодна сценаў. Яны не будуць сумнявацца...

– Хіба можна любіць гіганцкі кавалак залачонага бетону? – шморгнуў носам Шозахер.

– Задроты самі абіраюць, каго любіць, – жорстка абсёк тата. – І наша святая справа – бараніць гэты выбар.

...Тады бацька сказаў, што з брата, які ва ўсіх сэнсах паставіў сябе вышэй за Радзіму, атрымаецца ці вялікі кат, ці вялікі бунтар. Пяцьдзясят на пяцьдзясят, гэта ўжо як шалі хіснуцца. Але тата, маўляў, рызыкаваць не хоча, і таму пазбаўляе старэйшага сына права спадчыны на пасаду Вярхоўнага Ката, і пераемнікам прызначае мяне. Пры ўмове, што я ў свае чатырнаццаць нарэшце каго-небудзь страчу – а то нашто мне падараваная тая прыгожая шыбеніца з неўжыванай капронавай пятлёю?

А ўжо што рабіць са Шозахерам, ён падумае і абвесціць потым.

Так я і стаў Інфантам...

Увечары, адразу пасля тае размовы, мы з братам сядзелі на даху ўрадавага Куба, цягнулі півас і смакталі адну цыгарэту на дваіх. Вядома ж, я пачуваўся перад Шозахерам вінаватым, хаця нічога кепскага яму не зрабіў, бо не прасіў тату прызначыць мяне пераемнікам. Але ж брат відавочна не крыўдаваў. Ён аблізваў засмяглыя вусны, моўчкі жаваў цыгарэтны фільтр і ўглядаўся ў пахмурны далягляд.

– Мне херова жыць у гэтай краіне, – нарэшце прамовіў брат і драматычна закашляўся. – Тут можна быць ці ахвярай, ці катам.

– Але ж тутэйшым катам падабаецца быць катамі, а ахвярам – ахвярамі, – млява запярэчыў я.

– Таму я і змайстрачыў крылы.

– І дзе б ты прызямліўся?

– На якой-небудзь планеце. Ці нават на зорцы, калі там не надта горача....

– А што б там зрабіў?

– Згасіў бы тую зорку адразу. Пасля чаго абсталяваў бы яе пад сваё задавальненне і зажыў бы там каралём.

Шозахер дасмактаў цыгарэту, раскрэсліў недапалкам прыцемкі і з нянавісцю паказаў гіганцкаму залачонаму манументу “фак”.

– Ты, бро, яшчэ малы і дурны, і таму не разумееш, што Радзіма – гэта не статуя, а ўсяго толькі тэрыторыя, дзе табе камфортна, – патлумачыў ён паблажліва. – А статую можна паставіць дзе захочаш, і назваць яе як заўгодна. Мне тут пагана, бро, вельмі пагана. Тупыя размовы пра сумленне і любоў да Радзімы, панурыя задроты, якія ад рана да рана дрочаць на тую бетонную бабу. У пераносным, вядома ж, сэнсе...

– Але ж з цягам часу ты мог стаць Вярхоўным Катам і паспрабаваць іх неяк змяніць, – нагадаў я няўпэўнена.

– Нашых задротаў не зменяць нават «дывановыя» бамбардзіроўкі. Спадзяюся, рана ці позна ўсе яны перадохнуць ад цырозу і выраджэння. Зрэшты, інфант цяпер ты, вось і паспрабуй іх перавыхаваць, калі зоймеш бацькаву пасаду. А я адсюль усё адно ўцяку – хоць у Чужыну, хоць на якую зорку. Вось пабачыш.

Цёплы жнівеньскі вечар спакваля набрыняў паўпразрыстаю цемрай. Фіялетавы камуфляж неба праколвалі дрыготкія сузор’і і адзіночкі. Велічная статуя Радзімы-Маці нерухомела на тле нябёсаў. Брат моўчкі глядзеў паверх яе галавы, і ў яго вачах сарамліва адбіваліся зоры.

Я хацеў быў нагадаць Шозахеру пра непралазныя джунглі калючых дратоў на Перыметры, пра згаладалых babaкракадзілаў у шырачэзных копанках, пра агентаў доктара Альцгеймера, гэтых усюдыісных і бязлітасных людзей у слізкіх скураных плашчах, але палічыў за лепшае прамаўчаць. Калі мой брат сапраўды вырашыў уцячы – то, напэўна, усё ўжо пралічыў.

Кацярына Сянкевіч



...Божа, калі ласка,
дадай мяне ў сябры...

# Віноўніца

* * *

шукаю адказу
што такое маё цела
ці яно выключна для мяне
ці яго часткі не з'яўляюцца несвядомымі
што да свайго прызначэння
нявыкарыстанымі
не разбуджанымі
святлом

* * *

давай пажэнімся
праз тыдзень канец свету
а два дні потым
кроў месяца

* * *

Я пішу табе так, як адчуваю
электроннай энергіяй экалагічна чыстай
Я дасылаю тонкасць крамянёвымі дарожкамі
што праводзяць словы думак

калі я размаўляю
цела прыліпае да зместу
яно блакуе пераход
паміж тым і гэтым светам

грахоўнае цела адказнае за цялесныя словы
толькі іх адчувальнасцю і тваім прабачэннем
яны дасягаюць *зцелапаўстання*
і ўдухаўлення

* * *

я дарыла табе
спрэй для ачышчэння
кахання
цяпер для мяне ты
ў самой сярэдзіне
чысціні

* * *

Я прымушана знайсці крыніцу шчасця
пазачасавую ўрадлівую маці-зямлю,
што нараджае эндарфіны па патрабаванні
ў самых здаровых прадуктах,
кандэнсуючы жыццё і будучы момант
да кансістэнцыі таблетак.
Але заканчваюцца ўжо яны.
Таблеткі гэта традыцыйны паганскі звычай.
Іх адсутнасць дапамагае мне заўважыць маю
схільнасць.
Як словы, дасыланыя лічбава.
Калі канчаюцца яны,
бывае воблачна або град і тарнада час ад часу.
Божа, калі ласка,
дадай мяне ў сябры.

* * *

засыхаю так,
што сама прашу
вады

каханне гэта кожны дзень
паліваць кветку
не абяцанне

## ВІНОЎНІЦА

скажы як прабачыць табе
апамятацца
знайсці працу
я проста дзіця
што енчыць пра каханне

ты мне моцна патрэбны
а я не ўмею нават
набраць на клавіятуры твой нумар –
пакута так моцна марозіць пальцы

я разумею што кажаш
затое не разумею як дараваць
усе ночы рыданняў

я ж такім чынам
стала б адзінай
віноўніцай

* * *

мы пераплеценыя рамантычнай ніткай
не заўсёды бачнай
нашы сябры ўпэўнены, што я губляю пачуцці
верачы, што не згубіла цябе
і я вар’яцею думаючы
што яны маюць рацыю
а карункі ружаў сплеценыя з нашых уздыхаў
счапляюць нас унутры
як рак жаданняў
пакаянне злодзея

ты абакраў мяне
а я толькі што памыла замест цябе талеркі
ты ўзяў мой фотаапарат і ноўтбук
я не ведаю ці ты зараз праглядаеш мае здымкі

ці ты прадаў усё на рынку
зарадную прыладу ты не скраў

я малілася ўсю ноч перад  крадзяжом
раніцай я фарбавала валасы ў баклажанавы
хной

я зняла медалік, каб не запэцкаць яго фарбай
ты абакраў мяне тады
калі я пайшла на працу
мой стакгольмскі сіндром недастаткова моцны
каб не ісці ў паліцыю
лепш каб яны судзілі цябе
чым пакаральная рука Бога

* * *

баюся кахаць
гэта звычайна сканчаецца пакутай
баюся шпулькі фартуны з верацяном смерці
я не ўмею гаварыць з табой, калі ты маўчыш
выходзіць з мяне глухі гук

ты казаў, што не хочаш пакрыўдзіць мяне
але ты пакрыўдзіў і крыўдзіш
маўчаннем

Маўчанне не залатое.
Маўчанне гэта гной.



Леанід Левановіч



...жыві,

як душа жадае...

# Міленіум

***Урывак з рамана***

*О Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны квет,*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*

**Уладзімір Дубоўка**

...Мусіць, было яшчэ рана, праз тоўстыя шторы цадзілася скупое святло. І раптам гучна заліўся звонам тэлефон – у цішы званок падаўся асабліва рэзкім і трывожным. Ева апярэдзіла Пятра, зняла слухаўку. Апарат стаяў у вітальні, праз адчынеыя дзверы спальні Пятро чуў размову.

– Не, мы дома. Усё ў парадку. А што здарылася? Калі? Учора ўвечары? Які жах! Бедныя людзі. Моладзь... Канечне, прыйшлі на свята. А тут... За што якое? У мірны час гэткія ахвяры...

Пятро падхапіўся з ложка, адчуў, як трывожна сціснулася сэрца. Услед за Евай ён зайшоў на кухню, уключыў

радыё, там гучала сцішаная сумная музыка. А ў вакно білі светлыя сонечныя промні – разгараўся апошні маёвы дзень. Апошні дзень каляндарнай вясны.

– Што здарылася? – Пятро пільна зірнуў на Еву. Твар яе быў вельмі журботны, непрычасаныя валасы тапырыліся ва ўсе бакі.

– Якая бяда! Патэлефанавала сяброўка Святлана, ты ж ведаеш яе. Разам мы працавалі. Яе муж – урач. Увечары выклікалі ў бальніцу. На Нямізе, ну, каля Палаца спорту, было ўчора свята піўное. Прывезлі дзясяткі параненых, мёртвых. Затапталі ў падземным пераходзе. Натоўп ратаваўся ад дажджу. А ў суседа жонка з лецішча не вярнулася. Ён рамантаваў машыну. Жонка паехала ў Зялёнае на электрычцы, паліць гуркі, памідоры. Увечары абяцала вярнуцца – ёй рана на працу, – і няма. Чалавек усю ноч ездзіў па бальніцах і не знайшоў.

Пятро набраў нумар кватэры Сахутаў. Слухаўку зняла Ада, голас у яе быў спакойны, трохі хрыплаваты спрасонку. Значыць, у іх усё добра.

– Мы збіраемся на працу. У дзяцей усё добра. Андрэй прымае душ. А вось і ён сам.

Размова была кароткая.

– Разумееш, не магу ўявіць, каб, ратуючыся ад летняга дажджу, таптаць людзей. Маладзенькіх студэнтак. Школьніц... Азвярэлі людзі.

***

Пятро паехаў трамваем, каб на плошчы Якуба Коласа сесці на метро і даехаць да Нямігі. У вагоне метро, на станцыі людзі былі сумнатварыя, знаёмыя сцішана перамаўляліся – так гавораць у хаце нябожчыка.

У падземным пераходзе станцыі метро “Няміга” было змрочна, ад шэрых бетонных сцен дыхала холадам, і, мусіць, таму, што Пятро ведаў аб трагедыі, якая тут адбылася, яму здавалася – на сценах застыў здушаны крык ахвяраў п’янага натоўпу. Прыкмет асаблівых ужо не было: усё прыбралі, вымылі, выдраілі. Памянялася і паветра, адно сцены засталіся нямымі сведкамі трагедыі. Каля выхаду з метро стаяў высокі сутулаваты сівы мужчына з сумным, маркотным тварам. Нечым ён падаўся знаёмым, але дзе яго бачыў, адкуль ведае, Пятро ўзгадаць не змог. Мужчына час ад часу падымаў галаву і пазіраў на шкляныя дзверы – чакаў: вось яны адчыняцца і выйдзе... Каго чакаў? Жонку, дачку, сына...

Пятро пакіраваў да выхаду з боку Палаца спорту, менавіта адтуль імчаў нецвярозы натоўп. На самай ніжняй прыступцы ён убачыў цёмныя сляды крыві. Вышэй на прыступках на падасланай газеце сядзеў русявы хлопец, ён бязгучна плакаў, ашчаперыўшы галаву, і ківаўся з боку ў бок. Каго ён страціў? Мо каханую, з якой быў разам, са смехам навыперадкі імчалі ў падземны пераход, яна пакаўзнулася і ён не змог утрымаць яе, натоўп, нібы лавіна, панёс яго далей.

Каля сцяны насупраць стаялі дзве дзяўчынкі і ціха плакалі. Пятро павольна, неяк па-старэчы, падняўся наверх – тут ярка свяціла сонца. І раптам ён узгадаў, хто гэты сумнатвары сівы, чалавек – кінааператар з тэлестудыі, з якім некалі здымалі перадачу на Палессі, здаецца, пра Івана Мележа, потым на Прыпяці была юшка. Пасля чаркі Пятро спытаўся ў яго: “Як вы адчуваеце, здымкі атрымаліся? Будзе што манціраваць?” – “Вскрытие покажет”, – весела адказаў кіношнік. “Вскрытие” – гэта значыць, праяўка плёнкі.

Пятро зірнуў на гадзіннік – было без дзесяці дзевяць, трэба спяшацца

на працу, але ногі самі павярнулі назад. Ён спрабаваў успомніць, як звалі гэтага аператара, а мо гэта зусім іншы чалавек. У пераходзе паболела людзей з журботнымі тварамі, заплаканых. Пятро ціха наблізіўся да сівагаловага чалавека, ветліва спытаўся:

– Прабачце, вы не працавалі на тэлестудыі?

– Працаваў. А вы, здаецца, Махавікоў?

– Так, гэта я. Яшчэ раз прабачце. Чакаеце каго?

– О, мілы чалавеча! Чакаю, ды не ведаю, ці дачакаюся. Унучка, Аленка, студэнтка, вяселле намячалася. І хлопец людскі, – чалавек дастаў хусцінку, выцер чырвоныя вочы. – Пайшла з сяброўкай на гэтае свята. Хлопец ейны – вадзіцель тралейбуса, быў на працы. Яны дамовіліся тут сустрэцца а палове на дзясятую, патанцаваць, выпіць піўка. Разам ехаць дамоў... І вось яе няма. Сяброўка вярнулася. Яе адціснулі да сцяны. Таму яна не ўпала... Мой сын, ну, бацька Аленкі, з нявесткай паехалі па бальніцах. Можа, яшчэ жывая? Такое дзіцятка, разумніца, прыгажуня...

– Ну, мацуйцеся. Дай Божа, каб яна знайшлася.

Пятро пацiснуў руку чалавеку і заспяшаўся на працу. Па абедзе ён зноў прыйшоў на станцыю “Няміга”. Ужо было вядома, што загінула 53 чалавекі, дзясяткі параненых у розных бальніцах горада. 31 мая і 1 чэрвеня аб’яўлены днямі жалобы.

Цяпер у падземным пераходзе было людна. На прыступках паўз сцены ляжалі кветкі, гарэлі свечкі – журботныя агеньчыкі, сімвал чалавечага гора. На сцяне бялеліся сіратлівыя аркушы паперы, на іх былі прозвішчы. Людзі прасілі прабачэння, што не змаглі падтрымаць, памагчы, падаць руку ў цяжкі, скрутны час. Адзін надпіс на Сцяне Плачу – так назваў Пятро халодную мармуровую сцяну – моцна ўразіў: “Мілая, дарагая, даруй, што мяне не было побач. Божа, чаму ты забіраеш да сябе лепшых? Каго мне цяпер вінаваціць? Як несправядліва! Замест вяселля – ціхія могілкі...”

Няўжо гэта пра ўнучку кінааператара, падумаў Пятро. Гэта напісаў ейны сябар, кіроўца тралейбуса, гэта крык ягонай душы. Пятро ішоў на працу па шырокім тратуары праспекта Машэрава. Учора па гэтых каменных плітах каціўся натоўп разгарачаных півам, а мо і мацнейшым пітвом, двухногіх істот. І гэтая лавіна рынулася ў падземны пераход станцыі “Няміга”, нагамі па жывых целах... Пятру падалоя, што ён чуе крыкі і стогны бязвінных ахвяраў.

Высокае сонца бязлітасна пякло ў галаву, кепку ён зняў у пераходзе, калі чытаў надпісы на сцяне, і нёс у руках, забыўся надзець. Насупраць кнігарні “Светач”, якая месцілася на першым паверсе Дома кнігі, Пятро звярнуў налева ў падземны пераход, тут былі зроблены парэнчы і на сярэдзіне лесвічнага пралёта, і па баках, паўз сцены. Чаму ж на Нямізе не было такіх парэнчаў? Можа, і ахвяраў не было б? А то ўтварыўся эфект жахлівага даміно: падаюць пярэднія, на іх заднія, а на тых яшчэ і яшчэ.

Ён падымаўся ўверх, калі ўбачыў барадатага аператара, які стракатаў камерай, здымаючы людскі натоўп. Увечары Пятро з Евай глядзеў навіны і раптам убачыў сябе: буйным планам твар і вельмі сумныя вочы. Аператар ухапіў той момант, калі Пятро зірнуў на яго. Але ў гэтым паглядзе не было позы, усмешкі, бачыўся сапраўдны боль і горыч страты.

– Мусіць, твой знаёмец? Ну, гэты, што здымаў, – пацікавілася Ева. – Гэткі буйны план...

– Ды не, здаецца, незнаёмы. Проста прафесіянал. Убачыў сумны твар... Зрэшты, усе былі сумныя. Дужа блізка ад месца трагедыі.

У вітальні азваўся тэлефон, Пятро зняў слухаўку:

– Бачыў цябе на экране. Вельмі маркотны твар. Можа, што здарылася з тваімі? – пачуўся голас Андрэя Сахуты. – Мо ўранні не ведаў...

– Ды не. Дзякуй Богу, з маімі ўсё нармальна. Шкада людзей. Маладых, прыгожых. На самым узлёце жыцця ні за што ні пра што пайсці ў магілу.

– Так, маеш рацыю. Проста не хапае слоў, каб выказаць абурэнне. Напішы артыкул. Табе трэба выказацца. Паказаць гэтае азвярэнне. На касцях продкаў наладзілі піўное шоў. Ды на Сёмуху. Вялікае рэлігійнае свята. Вось Неба і адпомсціла... Што чуваць на працы? Кідаць не збіраешся?

– Пакуль што буду працаваць. Да Новага года кантракт. А там – Бог бацька. А ты калі ў вёску? Заўтра? Ну, тады пазней пабачымся. Жонцы прывітанне.

Назаўтра Пятро накупляў газет, каб параўнаць, як яны асвятляюць жахлівую трагедыю. Журналісты пісалі па-рознаму, некаторыя цытавалі вядомыя радкі з летапісу пра бітву на Нямізе. Паведамлялі газеты, што мэр Мінска Ярмошын падаў у адстаўку. Сумленны чалавек. Канечне, больш вінаваты начальнік міліцыі, бо ягоныя падначаленыя не змаглі стрымаць натоўп, яшчэ болей вінаватыя арганізатары піўнога шоў. Але ж і яны нікому ў рот піва не лілі, навальніцу з градам не заказвалі. Жахлівы, трагічны збег абставін. Поўня. Сатанінскі, злы дзень. Дождж, град, асляпляльная маланка, страшэнны ляскат перуна.

У тую вясну Пятро даволі рэдка адкрываў свой дзённік – тоўсты нататнік у цёмнай вокладцы, – было шмат клопатаў у выдавецтве, на лецішчы, таму часу бракавала, дый імпэт ужо быў не той, што ні кажы, размяняў сёмы дзясятак. Але сёння карцела зрабіць запіс. Душа была перапоўненая думкамі, назіраннямі, словы прасіліся на паперу. Дастаў з шуфляды нататнік, які выдаў беларускі банк, але ніводнага беларускага слова ў ім не было. Усё па-руску і па-ангельску. З прыкрасцю падумалася: вось табе і суверэнная дзяржава. Можна ж было напісаць – ДЗЁННІК. А словы ДАТА і DATE на кожнай старонцы былі на месцы, яны раднілі нашу мову з іншаземнымі, асабліва заходнімі. Падарыў нататнік удзячны аўтар. Але Пятро адразу яго не ўпадабаў і рэдка даставаў з шуфляды. Ранейшыя занатоўкі чытаць не хацелася.

Працоўны дзень канчаўся. Дырэктар выдавецтва па абедзе паехаў у Дом літаратара. Сакратарка адпрасілася дамоў. Маўчаў і тэлефон. Пятро зірнуў за вакно на праспект Машэрава – адсюль быў добра відзён мост над вуліцай Няміга, там, злева ад яго – падземны пераход...

*1 чэрвеня 1999. Аўторак.* Першы дзень лета. Перадапошняе лета тысячагоддзя. Усё вакол красуе, буяе. А ў Беларусі другі дзень жалобы. Што ж у нас адбылося?

Першага красавіка – як знарок, у дзень гумару, віцэ-прэзідэнт фірмы “Клас-Клуб Джас Крафт” даслаў у Мінскі гарвыканкам заяву з просьбай дазволіць 30 мая 1999 года з 12 да 23 гадзін на адкрытай пляцоўцы каля Палаца спорту правядзенне масавага свята. Дазвол быў атрыманы. 26 мая начальнік гарадскога ўпраўлення ўнутраных спраў наклаў рэзалюцыю: для падтрымання парадку задзейнічаць 195 міліцыянераў і ваеннаслужачых унутраных войскаў.

Апоўдні свята пачалося. Магутна грымела музыка – са скуры вылузваўся

гурт “Манга-манга”, ракою лілося халяўнае піва. Піўзавод “Аліварыя” выдзеліў 7 кегаў піва для бясплатнай дэгустацыі. Дзень быў сонечны, гарачы. Моладзь, як вясновыя ручайкі падчас паводкі, з усяго горада кіравалася да Палаца спорту. Хлопцы жлукцілі піва, стараліся не адстаць ад іх і дзяўчаты.

Гучала музыка, у паветры лунаў водар імпартовых цыгарэтаў. Моладзь таўклася на вялізнай пляцоўцы, нібы камарэча цёплым адвячоркам. Ніхто з іх не думаў, што амаль на гэтым месцы ў 1067 годзе адбылася жорсткая бітва. Князь Ізяслаў Яраслававіч з братамі Святаславам і Усеваладам захапілі Менск. Усіх яго жыхароў выразалі – помста Полацкаму князю Усяславу за набегі на Пскоў і Ноўгарад. Пра тую бітву невядомы летапісец напісаў: “На Немиге снопы стелют из голов, молотят цепами булатными, на току жизнь кладут – Немиги кровавые берега не добрым посевом засеяны”.

Каля дзвюх з паловай тысяч маладых людзей сабралася на гэтае свята. Адны, якія нацешыліся, нагуляліся, сыходзілі, прыбывалі іншыя. У адкрытых павільёнах ішоў бойкі гандаль харчаваннем, садавінай, тут жа за столікамі народ наталяў смагу. Далей дыміліся мангалы, ад іх патыхала водарам падсмажанага мяса і цыбулі. Грымела, заклікала музыка: пі, гуляй, радуйся жыццю. Ты – малады, здаровы, можаш нацешыцца, “оторваться от и до”. І моладзь старалася. З усіх бакоў чуўся гучны, залівісты смех. Паўсюль гарачыя абдымкі і вабныя пагляды. Радасць жыцця, радасць сілы і маладосці, азарт нястрымнай весялосці яднаў вялізнае людское зборышча.

Напрыканцы дня на захадзе зацямнелася невялікая хмара. Яна памалу расла, налівалася густа-чорнаю сінечаю, успаўзала на неба над высозным Домам кнігі. А 8.15 вечара пачаўся дождж, ён увачавідкі мацнеў. Музыка не сціхала, разгарачаная моладзь па-ранейшаму таўклася ў скоках. Тым часам дождж перайшоў у град. А 8.30 асляпляльна бліснула маланка, аглушальна ляснуў пярун. Музыка сціхла, усе кінуліся ратавацца ў бліжэйшыя сховішчы. Агромністы натоўп рынуўся ў падземны пераход станцыі метро “Няміга”.

Гэта было жудаснае відовішча. Натоўп імчаў навыперадкі. Самыя дужыя абганялі слабейшых. Хлопцы ў імпартовых красоўках і джынсах пераганялі дзяўчат на абцасіках, даганялі тых, хто кінуўся ратавацца раней. Тысячаногі натоўп. Ім кіравала адно жаданне, адно пачуццё – схавацца ад дажджу і навальніцы, не змокнуць да ніткі. Гэтае пачуццё страху з’яднала сотні людзей у адну пачвару, у адну наэлектрызаваную масу. Незнаёмыя, яны беглі побач, высокія і ніжэйшыя, старэйшыя і маладзейшыя беглі, быццам у нейкім жахлівым спаборніцтве – хто будзе першым.

Гісторыя чалавецтва ведае прыклады, калі натоўп людзей, з’яднаных адной агульнай ідэяй, тварыў цуды гераізму. Гэта ўзяцце Бастыліі ў Францыі, гэта штурм Зімняга палаца ў Петраградзе. Гэта штыкавыя атакі ў Вялікую Айчынную... Але гісторыя ведае натоўпы, якія рабавалі панскія маёнткі, нішчылі бібліятэкі, палілі кнігі.

Агромністы натоўп набліжаўся да падземнага перахода станцыі метро “Няміга”. Першымі ўпалі і пакаціліся ўніз дзяўчаткі на абцасіках, на іх падалі іншыя, якія чапляліся за твары, галовы, ногі ляжачых. Тры міліцыянеры, узяўшыся за рукі, спрабавалі спыніць натоўп, але сілы былі няроўныя. Трох міліцыянераў натоўп панёс уніз, кінуў сабе пад ногі. Немы крык, стогн, плач запоўнілі падземны пераход, у якім у адно імгненне зрабілася душна, горача, запахла смярдзючым адрыгнутым півам, запахла мачою і крывёй. Гэтае вар’яцтва працягвалася пяць-сем хвілінаў. Гара трупаў услала гранітныя прыступкі.

Дождж раптоўна сціх, як і пачаўся, аддалілася грукатанне грому. І тады з усёй жахлівай выразнасцю пачуліся здушаныя крыкі параненых, хрыпенне канаючых. Некаторыя выпаўзалі. У мокрым адзенні, без абутку, з перакошанымі ад страху тварамі.

У цішыні пачуліся трывожныя сірэны першых брыгад хуткай дапамогі.

Па вуліцы Максіма Багдановіча ў Зялёны Луг каціў тралейбус сорак шостага маршруту. Кіроўца, малады русявы хлопец, узрадаваўся, калі дождж перастаў лупцаваць у лабавое шкло, выключыў дворнікі, падруліў да прыпынку Няміга. Народу было поўна. Людзі, найбольш маладыя, дружна ціснуліся ва ўсе дзверы. Было без чвэрці дзевяць. Ён зразумеў, што на спатканне спозніцца, але нічога: Аленка будзе танчыць і дачакаецца яго.

Насустрач з уключанымі мігалкамі і сірэнамі імчалі тры машыны хуткай дапамогі і ўсе паказвалі правы паварот на праспект Машэрава. У хлопца ёкнула сэрца: можа, бойка па п’яні ўсчалася? Нешта там здарылася, бо не могуць тры машыны хуткай дапамогі імчаць без дайпрычыны. Аб’явіў у мікрафон: “Асцярожна! Дзверы зачыняюцца”. Але зачыніць дзверы было няпроста, бо на прыступках віселі людзі. “Аслабаніце, калі ласка, дзверы. Я не магу так ехаць”. Нарэшце ўсе ўплішчыліся, дзверы зачыніліся. Тралейбус пакіраваў па сваім маршруце.

Студэнтку Аленку і ейную сяброўку Светку натоўп нёс, як вясновая вада нясе трэскі. Яны трымаліся за рукі. Светка бегла бліжэй да краю, Аленка амаль у цэнтры. Светка ўжо задыхалася, цягнула сяброўку да сябе, каб вылузнуцца з імклівага натоўпу, але ззаду напіралі высокія, здаравенныя хлопцы, Аленка не ўтрымала, адпусціла Светчыну далонь. Пачаліся прыступкі лесвіцы – натоўп лавінай пакаціўся ўніз. Светку адштурхнулі дужыя хлопцы да сцяны, ззаду напіралі, яна пасунулася наперад. Ззаду і збоку пачуліся адчайныя крыкі, плач. Яна зразумела, што здарылася бяда. Лавіна несла яе далей, але ўжо не так імкліва, дажджу і граду тут не было. Вось і ўваход на станцыю, Светка азірнулася – Аленкі нідзе не было. У кішэні вятроўкі знайшоўся жэтон. Перад турнікетам, ля кабіны кантралёра стаялі два міліцыянеры. Мабыць, схаваліся ад дажджу. Светка прапусціла два цягнікі: чакала Аленку, але сяброўка не паявілася. Дзяўчына ўрэшце ўціснулася ў вагон.

Гадзіны праз дзве над шэрымі дамамі на беразе Свіслачы выкацілася вялізная мутна-барвовая поўня. У падземным пераходзе станцыі метро “Няміга” ўжо стаяла жудасная цішыня. Тэрмінова выкліканыя прыбіральшчыцы паскідвалі ў кучы абутак, адламаныя абцасы, вымылі швабрамі гранітныя прыступкі. У пераходзе трагедыя скончылася. Трагедыя ўладарыла ў бальніцах, кватэрах, службовых кабінетах. Усю ноч званілі тэлефоны, раўлі маторы машын. Вялікі мегаполіс, нібы патрывожаны мурашнік, не мог супакоіцца да самай раніцы.

Адно Свіслач ціха, спакойна несла сваю бруднаватую ваду ў далёкі спрадвечны акіян.

А пад Зямлёю, закаваная ў трубу, ціхутка, сарамліва струменіла яшчэ болей брудную плынь некалі паўнаводная і магутная Няміга.

У нядзелю 30 мая 1999 года па ўсіх календарах быў пазначаны сатанінскі, злы дзень. У рэках і азёрах Беларусі патанула 17 (сямнаццаць!) чалавек.

Крыважэрнае, бязлітаснае XX стагоддзе не стамлялася збіраць сваю жахлівую даніну.

* * *

На дварэ ўладарыў чэрвень. Лета набліжалася да сваёй макаўкі, з высокага, чыстага неба горача ўсміхалася сонца. Дні стаялі ветраныя, таму асабліва спёкі не адчувалася. Вецер прачынаўся звычайна апоўдні. Так было і на гэты раз.

– Эх, ёлкі-маталкі! Як жа нам пчол падглядзець. Хвакцічаскі, не любяць яны ветранае надвор’е. А справа няпростая. Трэба зняць магазін-надстаўку. Перабраць усе гнездавыя рамкі. Зрэзаць матачнікі. Пакінем адзін, самы большы. З яго выйдзе моцная маладая матка.

Уладзімір Бравусаў гаварыў гучна, каб чула Марына, якая на кухні збірала на стол.

– Дык, можа, заўтра падглядзім. Чаго ты спяшаешся? Хай працуюць. Навошта іх турбаваць?

– Трэба спяшацца. Можа вылецець рой-другак. Першы быў чатыры дні таму, – Бравусаў начапіў на чырванаваты нос старэнькія акуляры, разгарнуў тоўсты сіні сшытак – у ім ён запісваў усё пра пчол, пра надвор’е, калі села на яйкі квактуха, калі вадзілі да быка карову.

– Самае цяжкае – зняць магазін. У ім ужо і мядок ёсць, і пчол шмат. Тут я, хвакцічаскі, адзін не спраўлюся.

У голасе мужа, лепшага ўчастковага інспектара ва ўсім раёне, Марына ўлавіла сумныя ноткі. Мінулаю вясною ён перахварэў на запаленне лёгкіх, доўга не мог акрыяць, яшчэ і цяпер часцяком кашляў. Кожны тыдзень палілі лазню, са смакам парыліся бярозавым венікам. Марына доўга не вытрымлівала гарачы дух, сядзела ў прымыльніку – баялася пакінуць мужа аднаго. Паспрыялі вяртанню да жыцця і пчалярскія клопаты, і настойка першаку на праполісе – штораніцы нашча Бравусаў выпіваў дзве сталовыя лыжкі. Ён часам жартаваў: “Скараціў, хвакцічаскі, дозу да мінімума. Некалі была норма – дзве паўлітэркі, а зараз дзве сталовыя лыжкі. Мусіць, хвонды мае канчаюцца. А пажыць яшчэ хочацца. Ета ж колькі мне гадоў, Марынка? Нешта я не магу ўспомніць...”

– Валодзечка, саўсім табе нямнога. Летась жа быў юбілей – семдзесят пяць. Ты ж казаў: што да сотні далёка, што ў французаў старасць пачынаецца пасля дзевяноста гадоў.

– Французы самагонкі не п’юць, а віно. І працуюць меней за нас. У іх адпачынак – сорак дзён з гакам. Дзесьці чытаў, што ў Парыжы пасля паўдня ажно да трох гадзін ніхто нікому не тэлефануе. Усе адпачываюць. Умеюць людзі жыць.

Апошнім часам Марына з трывогаю прыкмячала, што муж забывае, які сёння дзень, якая дата, па некалькі разоў на дні перапытвае ў яе. Яна цярпліва адказвала, бо неяк упікнула: “Няўжо ты забыўся? Ты ж нядаўна пытаўся”. Дык ён узбурыўся, зазлаваў: “Каб я, хвакцічаскі, усё помніў, дык бы не пытаўся. Ты сама забылася, што я меў франтавыя раненні, і кантузію моцную перанёс. Ета рэха вайны адгукаецца. А служба ўчастковым. Думаеш, лёгкая?” Зразумела Марына, што ўсё гэта праўда, і болей ніколі яго не дакарала.

Завёў пчол Бравусаў гадоў пяць таму: Пётр Еўдакімавіч Мамута, былы дырэктар школы і адзіны ягоны сябар у радыяцыйных Хатынічах, прынёс неяк пад вечар круглую райніцу з роем пчол. Вуляёк Уладзімір Усцінавіч падрыхтаваў даўно, і не адзін, а два – толькі давай крылатых працаўніц. Рой пасадзілі, добра замачылі гэтую справу.

– Рой пяршак. Матка плодная. Праз пару дзён пачне чарыць. Але ўсё роўна маладых пчол доўга чакаць. Дваццаць адзін дзень трэба, каб нарадзілася новая пчолка. Заўтра буду перабіраць гняздо, дастану рамку пячатнай чарвы. Падставім рою, дык праз пяць-сем дзён будуць маладыя пчолкі. К канцу сезона будзе ў вас свой мядок.

Мамута слова стрымаў. Прынёс рамку ў фанерным куфэрачку, бо чарва баіцца холаду. Прыйшоў ён з Юзяй, рамку падставілі, добра пасядзелі за сталом. Госць цалюткі вечар апавядаў пра жыццё пчол, пра таямніцы раення, пра мёдадайныя расліны, на якія багатыя прыбясэдскі поплаў, лес і поле. Бравусаў слухаў, разявіўшы рот. Марыну здзівіла, што часта ўстаўляла свае тры грошы і Юзя, што і яна ўжо шмат ведае і ўмее абыходзіцца з пчоламі.

– Канечне, ета дужа старажытны, але далікатны... і я вам скажу, нават небяспечны занятак, – распавядаў Мамута. – Пэўна ж, пчолы вас кусалі. Калі не апухалі моцна, то ўсё будзе добра. Каб алергіі не было. Не ўсе людзі могуць пераносіць пчаліны яд. Ды што чалавек! Калі каня пекануць два дзесяткі пчол, ён можа і капыты адкінуць. Мяне, як дастаем мядок, бывае, штук дзесятак пацалуюць. Правераныя лекі – сто грамаў гарэлкі ды лыжка мёду... Узятак у нас багаты. Да канца сезона будзе ў вас свой мядок. А здаравейшага прадукта, смачнейшага лякарства, чым мёд, прырода не прыдумала. А яшчэ, Усцінавіч, як зробіш настойку на пылку, які збіраюць пчолкі, дык жонка будзе вельмі задаволеная, – спяваў гімн пчалярству Пётр Еўдакімавіч.

– От прынёс бы гатовага зелля. А то пакуль Усцінавіч навучыцца збіраць пылок, ды зробіць настойку, пройдзе шамт часу. А жыццё кароткае... – і яшчэ нешта шапярнула Юзя сяброўцы, і абедзве заўсміхаліся.

З таго часу Бравусава нібы падмянілі. Як выблісне сонца, так ён каля вулея. На два цурбаны паклаў кароткую дошку – вось табе лавачка, сядзі, любуйся, як шчыруе новая сям'я. А пчолы шчыравалі ад усходу і да заходу сонца. Ён ужо навучыўся прыкмячаць, якая пчолка нясе ў кошычках пылок, якога ён колеру, у якой нектар, або вада. Бравусаў здзівіўся, што пчолы багата бяруць вады з паілкі, вычытаў, гэта – добрая прыкмета. Сям'я мае багата расплоду, яго трэба карміць і паіць.

Перад абедам Бравусаў любіў кульнуць кілішак самагонкі, але сёння ўстрымаўся: а раптам вылеціць рой – пчолы не любяць паху гарэлкі, лепей іх не дражніць. Ён са смакам пасёрбаў халадніку, што ні кажы, у гарачыню – найлепшы наедак ладная міса шчаўя са смятанай і вараным яйкам, а жаўток вясковай курыцы аранжавы, нібы маленькі апельсін. А калі есці шчаўе з падсмажанай на сале бульбай – шкрылямі, як казалі ў Хатынічах, – дык страва будзе і смачнай, і сытнай. Еў нетаропка, бо і зубы, як у старога каня, знасіліся. З'еўшы палову місы, падняўся з-за стала.

– Зірну, што робіцца на пчальніку. А то рой сядзе высока, дык і не згледзім. А ён, хвакцічаскі, доўга чакаць не будзе. Сып тады солі на хвост.

– З'еў бы ўсё. Бульба адубее. Не ўцячэ рой маментам.

Але дбайны пчаляр кульнуўся за парог. Марына ўжо ведала, як надыходзіць чэрвень месяц, гаспадар у сярэдзіне дня нават паўгадзіны не пасядзіць у хаце. На пчальніку ўжо шэсць сем'яў. Летась забяспечылі мёдам усю радню, і сабе засталося літраў дзесяць. Усю зіму елі, колькі хацелі.

Праз пару хвілін гаспадар вярнуўся, зноў узяўся за лыжку.

– На Шыпцы, хвакцічаскі, усё спакойна, – усміхнуўся ў сівыя вусы.

Рой вылецеў а трэцяй гадзіне – пчолы чакалі, пакуль супакоіцца,

пацішэе вецер. Двор напоўніўся пчаліным звонам, нібы цёмнае воблака, кружыліся пчолы, выбіраючы месца для таго, каб прывіцца. Бравусаў надзеў пчалярскую сетку-маску, распаліў курэль, тым часам рой пачаў садзіцца на старую яблыню-антонаўку, даволі высока і на тоўсты сук, бо вецер узмацніўся зноў.

“От, шылахвостка матка. Еткае войска вялізнае сабрала. І так высока селі. Я не хлапчук, каб па дрэвах лазіць. Буду трэсці рагацінай, – разважаў Бравусаў. Але раптам цёмная груша роя пачала менець, нібы раставаць. Пчолы са звонам сыпанулі назад у вулей. – Дзіва, дый годзе. Значыць, матка не вылецела. Або згубілася. Але добра, што вярнуліся”, – ціха парадаваўся Бравусаў.

Падглядаць сям’ю не стаў, бо вецер не супакоіўся, дый пчол дужа багата ў вулеі. Адклаў падгляд назаўтра. Але і на другі дзень было ветрана. Рой вылецеў зноў і зноў вярнуўся. Бравусаў з Марынаю дзіву даваліся, тэлефанавалі Мамуту. І той сказаў, што вінаваты моцны вецер. На трэці дзень надвор’е выдалася ціхае. Рой вылецеў зноў і прышчапіўся на штыкетніку. Галоўная маса асела на верхняй лаце. Занялі пчолы і шэсць штыкецін амаль да ніжняй латы. Бравусаў пыхкаў куралём і вачам не верыў. Паклікаў Марыну, дзівіліся ўдваіх.

– Вось што мы зробім. Прынясі дзяружку. Пасцелем знізу, каб пчолы не падалі ў траву. А я вазьму скрынку з рамкамі сушы, – Бравусаў радаваўся, што рой сеў як ніколі нізка, абабраць яго будзе зусім лёгка.

Скрыначку-райніцу ён зрабіў з фанеры сам. У ёй умяшчаліся чатыры рамкі. Ах, як яна тут прыдалася! Паставіў на посцілку, прыхінуў бокам да штыкецін, абкурыў рой дымком, каб адчулі пчолы, што гаспадар на месцы, нікуды ім ляцець не трэба. Потым лыжкаю зграбаў пчол з латы і сыпаў у райніцу, а са штыкецін яны сыходзілі самі.

– Во, свет настаў, – разважаў задаволены Бравусаў. – Пчолы разумеюць чалавечы голас. Я ж сказаў: селі высока, хвакцічаскі, не палезу здымаць. Буду рагацінай трэсці. Вось і селі нізка, пашкадавалі гаспадара, каб не лазіў па дрэвах. Эх, Марынка, спрыяе нам Божанька. Шкада, позна заняліся пчалярствам.

– А можа, таму яны так зрабілі, што двойчы вылятаді і вецер не даваў сабрацца. Дык сянні хоць і няма ветру, селі нізка, бо настроіліся на еткі варыянт. Праўду ты кажаш: разумныя істоты пчолы,– з радасцю сказала Марына.

Праз паўгадзіны ўсе пчолы былі ў райніцы. Бравусаў аднёс іх у склеп, каб у прахалодзе супакоіліся. Праз гадзіну зайшоў паслухаць – пчолы сядзелі ціха-ціха. Значыць, матка ёсць. Усё добра. Будзе новая сямейка.

Сонца ўжо хілілася да купчастай ігрушы-дзічкі, што высілася за адрынай, калі Бравусаў зноў распаліў курэль, паклікаў Марыну, разам яны пакіравалі на пчальнік, да вулея, з якога вылецеў рой. Гаспадар даў дымку ў лётку. Пчолы зашумелі, затым зняў вечка – Марына падтрымала, разумела, яно цяжкое, а пчаляр ужо не маладзён. Цяпер трэ было зняць магазін-надстаўку, а ў ім і пчолы, і мёд. Каранік меў шаснаццаць вялікіх гнездавых рамак. У надстаўцы на адну рамачку меней. Бравусаў з цяжкасцю выдраў вузкую рэечку між рамак і ўзрадаваўся – соты былі поўныя мёду і ўжо запячатаныя бялюткім воскам.

– Ну, дык, хвакцічаскі, ёсць мядок. Паглядзім, колькі ў іх расплоду. Рой выйшаў вялізны.

Надстаўку пчолы моцна прыклеілі прапалісам, адарваць яе не ўдавалася, тады Бравусаў вынуў крайнія рамачкі, пчалярскаю стамескаю падчапіў корпус магазіна, выдраў яго з вулея і паставіў на плоскую страху суседняга доміка. Марына хуценька захінула ільняным ручніком палову гнездавых рамак, наверх з якіх падымаліся сярдзітыя пчолы.

Цяпер была самая адказная праца: падняць кожную рамку з пчоламі, агледзець з абодвух бакоў, выламаць матачнікі. На ўсялякі выпадак пакінуць адзін, раптам матка, што ў райніцы, атрымае траўму, ці пчолы захочуць памяняць яе. Усе рамкі былі моцна прыклееныя прапалісам, адарваць іх патрэбна сіла і спрыт. На крайніх рамках матачнікі бываюць рэдка, звычайна пчолы адцягваюць іх бліжэй да цэнтра гнязда, дзе цяплей.

– Вось матачнік! Злева, у ніжнім кутку, – Марына крылом змяла пчол з сотаў. – Вялікі. Як мой мізінец.

– Гэты пакідаем. Дзе ён у нас? Прыкмецім. На трэцяй рамцы. Пайшлі далей.

Бравусаў спрытна аддзіраў стамескаю прыклееныя рамкі, падымаў угору, выламваў матачнікі, клаў іх у падрыхтаваную місу, Марына захінала яе чыстай анучкаю, бо з некаторых тут жа нараджаліся маткі, спрытныя, зграбныя, з доўгімі брушкамі. Матка не можа ўджаліць чалавека, яна выкарыстоўвае сваю зброю толькі ў паядынку з суперніцай і гатова да бою адразу пасля нараджэння. Выжываюць мацнейшыя – спрадвечны, жорсткі і мудры закон прыроды тут знаходзіць яскравае пацвярджэнне.

Зрэзалі больш як пятнаццаць матачнікаў – прырода любіць поўную гарантыю, заместа аднаго-двух пчолы будуюць у моцнай сям'і да двух дзесяткаў матачнікаў. Маладой матцы ў шлюбным палёце патрэбны пяцьсем кавалераў, а сям'я гадуе іх дзве-тры сотні. Зноў жа дзеля канкурэнцыі: каб у палёце даганялі, абдымалі нявесту, аддавалі ёй сваю гарачую сілу і моц толькі здаровыя самцы. Слабакам на гэтым свяце жыцця рабіць няма чаго. Вось таму і не выраджаецца прырода. Праўда, трутні, якім удалося абняць у палёце маладую матку, плацяць за любоў жыццём. У вулей яны не вяртаюцца: навошта іх карміць, калі яны ўжо сваю ролю, наканаваную ім ад нараджэння, выканалі? Плодная маладая матка зможа адкласці за два-тры гады жыцця некалькі сот тысяч яечак, з якіх народзяцца новыя пчолы, яна праз год можа вылецець з роем і стварыць новую вялікую сям'ю.

У Бравусава разбалелася спіна, пакуль нарэшце ён усталяваў магазін у вулей, каб сям'я, хоць і аслабленая, працавала далей. О, як памыляецца той, хто думае, што пчалярства – лёгкі і прыемны занятак! Так, прыемных, цікавых момантаў хапае. Марына вельмі ўпадабала перасяленне роя ў новы домік. Якая гэта радасць назіраць, як па белым абрусе нястрымным трапяткой плынню – дзе шырэй, дзе вузей,– ідуць у вулей маладыя, светлакрылыя пчолкі. Ідуць хуценька, з ціхім звонам, як паважліва, з гонарам крочыць красуня – маладая Матка. Гэта крочыць сама яе Вялікасць Прырода. Калі Матка зайшла ў лётку, пчаляр можа смела ісці піць чай, мае права кульнуць заслужаны кілішак за здароўе новай сям'і: не празяваў, зняў рой, не згубілася Матка. Значыць, будзе мядок – найлепшы дарунак прыроды.

Сонца абнізілася да зубчастай сцяны лесу – самы час пасяліць рой у новы домік. Але на гэты раз Марына не зведала насалоды: засцілаць абрус ёй не давялося. Стомлены Бравусаў абкурыў пчол на рамках, потым перанёс іх у новы домік, дзе ўжо стаялі дзве рамкі вашчыны, на краі –

мядовая рамка, астатніх пчол з райніцы высыпаў на дно вулея паміж гняздом і застаўною дошкаю.

Цямнелася, калі гаспадары ўвайшлі ў хату. Бравусаву не хацелася ні піць, ні есці, адно было жаданне – легчы і заснуць. Балелі ногі ў каленях, спіна разламывалася, шумела ў галаве – мусіць, падняўся ціск.

– Як чуешся, Валодзечка? – Марына прыхінулася да яго.– Як прыемна пахнеш дымам!

– Як партызан у лесе, – Бравусаў адчуў, як пацяплела на душы, здаецца, і стома адпусціла. – Чуюся, хвакцічаскі, нармалёва. Хачу чарку і ў люлю з каханай жанчынай. Будзем жыць і займацца любоўю насуперак Чарнобылю.

– Будзем адпачываць. Мы так стаміліся, – пазяхнула Марына.

– Адпачываць будзем на тым свеце. Хвакцічаскі, чарку там ніхто не налье, – рагатнуў павесялелы Бравусаў. – Жанчына заўсёды можа, ды не заўсёды хоча. А мужчына заўсягды хоча, але, хвакцічаскі, не заўсёды можа.

Вячэралі з добрым настроем, выпілі самагонкі за новую, сёмую, пчаліную сямейку. Потым Бравусаў папрасіў Марыну, каб нацёрла яму гарэлкай спіну, потым яму захацелася пацалавацца, далей-болей – і дайшло да любові. Калі стомлены, шчаслівы муж заснуў, Марына ціха ляжала побач і ў душы яшчэ раз падзякавала Богу за тое, што на згоне жыцця не абмінула яе жаноцкае шчасце.

Над сцішанай, адселенай вёскай Хатынічы, дзе засталося з дзясятак упартых тубыльцаў, праклюнуўся жаўтлявы сярпок маладзіка, высыпалі яркія мігатлівыя зоркі, бо месячык свяціў слаба. Блішчастым ручніком апаясаў нябесны купал Млечны Шлях, ці як гавораць нашы суседзі ўкраінцы – Чумацкі Шлях.

Планета Зямля імчала ў касмічнай прасторы насустрач новаму дню.

А ў караніку раявая пчаліная Матка аглядала сваё новае жытло, світа карміла яе, гладзіла крылцы. Праз некалькі дзён яна пачне адкладваць яечкі, да канца лета ў доміку можа быць моцная сямейка пчол.

* * *

Вясковы побыт адметны сваёй спрадвечнаю хадою, звыклым рытмам, асабліва – калі маеш гаспадарку. Падняўся ўранні – трэба ўсіх накарміць, напаіць. А калі чалавек мае карову, гадуе парсючка, а то і двух, дзесятак курэй, пару дзясяткаў трусянят – тупаніны на цэлы дзень. Затое чалавек мае сваё малако, смачнае сала і дыетычнае мяса, яйкі з аранжавым жаўтком, дыхае свежым паветрам, бачыць сонца і неба, вочы ягоныя не ўпіраюцца ў шэрыя бетонныя сцены, ён не днюе і не начуе ў каменнай клетцы – гарадской кватэры.

Пра гэта думаў Андрэй Сахута, седзячы на асінавым чурбане каля варот адрыны. Раніца была ветраная, золкая, сыпаў дробны, зусім не летні дождж, а па абедзе распагодзілася, кудлатыя попельна-шэрыя хмары распаўзліся, выбліснула гарачае ліпеньскае сонца. Яно добра прыпякала, Андрэй яшчэ вышэй адгарнуў кароткія калашыны шортаў, бо апошнім часам пачалі балець ногі, асабліва правае калена. Дапамог пазбавіцца немачы лопух, увечары клаў на калена шырокі зялёны ліст, абвязваў нагу ваўняным шалікам і ўранні адчуваў сябе лепш, але хай дапаможа і сонца.

Як добра сядзець вось так і нікуды не спяшацца! А колькі дзён ён праседзеў на розных нарадах, сходах! Калі сядзеў у зале, ды не трэба было

выступаць, то пачуваўся вальней, і з суседам ці суседкай льга было перакінуцца словам, а то і падрамаць трохі. А як у высокім прэзідыуме, ды ў першым радзе, з усіх бакоў навідавоку, тут ужо не да раскаванасці – слухай, матай на вус, занатоўвай, бо ў канцы нарады трэба падсумаваць вынікі, зрабіць пэўныя акцэнты. Колькі ён рабіў гэтых акцэнтаў! І яму здавалася, што ён, галоўны партыйны ідэолаг вобласці, робіць важную, патрэбную справу, бо не можа дзяржава існаваць без ідэалогіі, яна, партыйная ідэалогія, цэментуе грамадства, асвятляе шлях наперад, раскрывае жыццёвыя далягляды. Папраўдзе, не ўсе нарады былі пустыя і непатрэбныя, шмат прымалася разумных рашэнняў, шмат рабілася добрага. Людзі вучыліся, спявалі песні, гадавалі дзяцей, будавалі дамы, нават цэлыя гарады. А што збудавалі новыя дэмакраты? Катэджы для прыхвацізатараў.

Але ёсць і другая праўда. Вось ужо восем гадоў няма райкамаў, абкамаў, а жыццё не спынілася, у крамах ёсць усё, што трэба і без ранейшых чэргаў. Не ўсё ідзе ладам, наступаем на тыя самыя граблі, і новыя ідэолагі шмат чаго робяць дзеля формы, дзеля папяровай справаздачы, дзеля славутай «галачкі», а жыццё ідзе наперад. Людзі сеюць і ўбіраюць, пякуць хлеб і дояць кароў, выпускаюць трактары і машыны. І пенсію ён штомесяц атрымлівае, хай сабе нядужа вялікую. Дык жа час які! Кажуць жа людзі: не дай Божа жыць у часы вялікай перабудовы. Змены фармацый... Мусіць, камунізм насамрэч – гэта прыгожы міф, які забраў мільёны жыццяў.

У куратніку закудахтала курыца – абвясціла, што знесла яйка, тут жа адгукнуўся певень, паімчаў туды, каб адтаптаць чубатку. Узгадаў з усмешкаю словы Ады: «Як певень ведае, калі якую таптаць?» – «Якая ля яго круціцца, тую і топча», – адказваў Андрэй. «Ды не. Некаторыя вунь уцякаюць, а ён даганяе. Мусіць, пеўнік вядзе ўлік». – «Ты хочаш сказаць, што ў кожнай курыцы свой рахунак?» – пасміхаўся Андрэй.

Увагу Андрэя прыцягнуў верабейка. Ён скакаў па двары, ухапіў у дзюбку саломіну, даўгаватую, кінуў, паскакаў далей, падняў сухую травінку, з ёй узляцеў, шуснуў пад шыфер ля вугла хаты. Андрэй ведаў, што там жыве вераб'іная сямейка, сёлета ўжо вывеліся птушаняты, гэта, мусіць, малады будуе сабе гняздо. Ці не ён учора займаўся любоўю? А было так.

Андрэй корпаўся ў гаражы – мяняў свечкі. Раптам пачуў гучны цвіркат вераб'ёў, але не такі трывожны, як тады, ранняй вясною. Тады яны аж захліпаліся, гэтак цвіркалі пад вакном. Андрэй зірнуў і аслупянеў: на сонцы грэлася гадзюка, выцягнулася на ўвесь паўмятровы рост. Сёмае лета ён з Адай жыве тут, у выхадныя прыязджаюць дзеці, унукі, ніхто ніколі не бачыў ні вужа, ні гадзюкі, адно яшчаркі жылі ў сліўняку. А тут гэткае страхатлівае стварэнне. Пакуль ухапіў ладны дубец, гадзюка паспела ўцячы. Зрэшты, хай жыве, разважыў ён, у прыродзе ўсё павінна быць..

Дык чаго ж цяпер расшумеліся вераб'і? Іх было двое: яна сядзела на слупку плота, а ён на жэрдцы. Ён ускочыў на вераб'іху, трапятаў крылцамі, яна свае растапырыла, каб яму было зручней. Слупок быў зрэзаны наўскасяк, вераб'іха сядзела няроўна, і нічога ў закаханай пары не атрымалася. Верабейка саскочыў зноў на жэрдку, гучна цвіркаў, але ўжо з ноткамі злосці, раздражнення. Тады яна села на верхні зрэз, галоўка апынулася ніжэй. Ён узляцеў. Абое радасна цвіркалі, на гэты раз усё ў іх атрымалася. Ёсць любоў! Значыць, будуць птушаняты ў гняздзе.

Ёлкі-маталкі, дажыў да пенсіі, а першы раз убачыў, як вераб'і любяцца, падумаў Сахута, нядаўна вычытаў, што вераб'і жывуць парамі, жонак

і мужоў не мяняюць... Мо ў дзяцінстве бачыў і вераб'інае каханне, ды забыўся. А вось, як шчыглы кармілі птушанят, а ён, Андрэйка, пасвіў бычка ля калгаснага гумна, гэта ён помніць выразна, нібы тое было ўчора.

Цікава, а як займаліся любоўю нашы далёкія продкі, калі не было матрацаў на спружынах, мяккіх канапаў, шырозных ложкаў? Мусіць, па вераб'інаму. Чамусьці прыгадалася, як Пятро Махавікоў дзяліўся з ім чытацкім уражаннем ад амерыканца Уолта Уітмена – той апісвае любоўны танец арлоў: магутны клубок у паветры, колькі ў тым палёце спрадвечнай жарсці!

Да Уітмена Андрэй так і не дабраўся, хоць і чытаў апошнім часам шмат, асабліва зімою. Пра танец арлоў не прачытаў, затое ў кітайца Цюй Цю-Бо, а гэта іхні пралетарскі пісьменнік, як Максім Горкі для расіян, уразіла такая сцэна: спыталі ва ўсходняга мудраца, дзе ён знаходзіць радасць у жыцці? І той адказаў: у мудрасці Карана, на спіне каня і на грудзях у жанчыны. Разбіраецца мудрэц! Усё ў дзясятку. А неяк у тэлепраграме пра жывёл Андрэй убачыў, як займаюцца любоўю ільвы. Аказваецца, львіца становіцца наўколенцы, каб льву не трэ было высока ўзбірацца, іхні полавы акт вельмі кароткі, меней за адну хвіліну, мабыць, таму, што яны цяжкія, доўга яна вытрымаць не можа гэткага магутнага партнёра. Затое паўтараецца любоў дзясяткі разоў, каб паявілася патомства.

Сахуту раптам прыгадалася, як вясною 1961 года ён прыехаў упаўнаважаным на сяўбу ў Хатынічы. Каля крамы сустрэўся з мужчынамі, якіх весяліў дзед Гылігор. "Раней жанчыны не насілі рытузаў ды панталонаў. Усё было прасцей. Загаліў андарак, перагнуў цераз мяжу, а што зрабіў – не скажу, – ухмыляўся стары, паказваючы бяззубы рот.– А яшчэ мой дзед падвучаў мяне. Я тады толькі ажаніўся. У нас, кажыць, доўга дзяцей не было. Бацян усё міма пралятаў. Добры чалавек параіў: падкладзі жонцы пад ср...ку шапку-вушанку. Паспрабавалі. І пасыпаліся дзеці адно за адным. Так што, Мацвеевіч, матай на вус".

Мужчыны пасміхаліся, пазіраючы на Андрэя. Усміхаўся і дырэктар школы Пётр Еўдакімавіч Мамута, які вучыў Андрэя з першага па чацвёрты клас. Звычайна ён быў сур'ёзны, а тут заманулася і яму выдаць жарт.

Цяпер яго здзівіла, як помніцца яму тая далёкая вясна. І ўсё, што тады адбывалася: і палёт Гагарына ў Космас, і яго, Андрэева, камандзіроўка ў родныя мясціны на пасяўную, і сустрэча са старшынёю калгаса Макарам Казакевічам, і ноч у роднай хаце. Тады ён сказаў бацькам, што збіраецца жаніцца і неўзабаве прывязе на агледзіны нявесту. І вось ужо няма бацькоў, даўно, яшчэ да Чарнобыля, пайшоў з жыцця мудры жартаўнік дзед Гылігор, памерлі іншыя землякі, асабліва мужчыны, якіх радыяцыя і гарэлка выкасілі ў вёсках падчыстую.

Усё праходзіць на гэтым свеце, падумалася Сахуту, вечная толькі любоў: прадаўжаюцца роды і віды ўсяго жывога – ад пчалы, мурашкі – да ільва, слана і насарога. Ну й, вядома ж, чалавека – белай, жоўтай і цёмнай расы.

І галоўнае ў чалавечым жыцці – Каханне. Яго здзівілі радкі Пушкіна ў паэме "Бахчисарайский фонтан" пра зямныя радасці, што яны вышэй за ўсё на свеце – нават за паломніцтва ў Меку ці геройскую смерць. Кніжку чытаў унук, прывёз яе ў вёску. Андрэй узяўся гартаць, зачытаўся і не мог адарвацца. Яму захацелася знайсці тыя радкі, выпісаць у нататнік. Цікава, ці зразумеў іх унук? Мусіць, яго яны так не ўразілі, малы яшчэ.

Вядома, ёсць шчасце, насалода і ў любімай працы. Гэта я адчуў, калі

працаваў ляснічым, а да гэтага столькі гадоў займаўся балбатнёй. Зрэшты, балбатня добра карміла партыйнага ідэолага: меў персанальную “Волгу”, шыкоўны кабінет, сакратарку ў прыёмнай... Мне трэ было займацца філасофіяй, і не марксісцка-ленінскай, а класічнай. Але ж у СССР іншай філасофіі, акрамя марксізму, не было, злавіў сябе на думцы Сахута. Успомніліся гарэзлівыя радкі знаёмага паэта, калі Андрэй яшчэ быў камсамольскім дзеячам:

Я нічога не баюся –
Я з Фурцавай ажанюся.
Буду шчупаць сіські я
Самыя марксісцкія!

Колішняя ткачыха Кацярына Фурцава была грозным міністрам культуры, вядома ж, кіравала культурай з пазіцый марксізму, таму і сіскі мела “марксісцкія”. Бог мой, як даўно тое было! Тады здавалася, што так будзе заўсёды. Саюз рэспублік свабодных насамрэч непарушны, і стаіць ён на маналітным падмурку марксізму-ленінізму. Чаму ўсё рухнула? Гэтае балючае пытанне, як іржавы цвік, вярэдзіла душу Сахуты.

Зрэшты, мы ж будуем капіталізм, так што Маркса мы яшчэ ўзгадаем не раз. Хто мог падумаць, што апантаныя будаўнікі камунізму зробяць поўны паварот кругом, і кінуцца, як у вір галавой, у рынкавы капіталізм. Дзівосы на белым свеце! І паварот гэты рабіўся пад шырмай перабудовы. І даволі паступова, спачатку высунулі тэзіс пра застойныя гады, бо калі рэзка павярнуць магутны савецкі карабель, адбудзецца геапалітычная катастрофа. Акіян выйдзе з берагоў, затопіць усё навокал. Як усё было прадумана! А мы, партыйныя ідэолагі, спалі ў шапку. Займаліся базарнай балбатнёй, гаварылі пра канвергенцыю, што капіталізм стаў дабрэйшым, што паявіўся шведскі сацыялізм. Так, капіталізм мусіў стаць больш гуманным, жыццё прымусіла яго зрабіцца такім. Партыйны ідэолаг залічваў гэтыя перамены ў свеце на карысць Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Сахутавы думкі перапыніла Ада – паклікала абедаць.

За сталом ён моўчкі сёрбаў прасяны малочны суп, які любіла варыць Ада, бо гатаваць яго вельмі проста і лёгка, і хутка. Ён моўчкі еў і цішком пазіраў на жонку. Як змянілася яна за апошнія гады! Вядома ж, пастарэла – шосты дзясятак дажывае, тры гады працавала пасля пенсіі. Болей не далі, пачаліся скарачэнні, маладым кадрам не было куды дзецца. Прыгадалася, якой была тады, у 1961 годзе: тоўстая светла-русая, залацістая каса, светла-карыя, зеленаватыя, нібы ягады агрэсту, вочы, ружовыя вабныя вусны. Выплыў з памяці той далёкі вечар: глядзелі па тэлевізары, як Масква сустракае Гагарына, Андрэй упершыню застаўся начаваць на кватэры Ады. І ў іх усё тады адбылося. Палёт у космас супаў з палётам на зямлі ў сусвет любові.

Цяпер побач з ім сядзела паўнаватая сівая жанчына з кароткімі валасамі, прыпухлыя вочы з лапкамі зморшчынак вакол іх, з двайным падбароддзем. Сахута даўно прыкмеціў: нішто не выдае гэтак узрост жанчыны, як шыя і падбароддзе. Можна падфарбавацца, падвесці вочы, наклеіць вейкі, а шыю не схаваеш. Хіба нацягнуць нейкі гольфік, што і робяць многія жанчыны. Ён чытаў пра пластычныя аперацыі эстрадных дзіў, розныя падцяжкі, каб любой цаною выглядаць маладой. Ну, для сцэны, можа, гэта і трэба, разважаў партыйны ідэолаг, які ў свой час курыраваў Оперны тэатр, Саюз мастакоў і

Саюз пісьменнікаў. Да яго думкі прыслухоўваліся. А цяпер нават жонка не заўсёды з ім згаджаецца. І ён мусіць прызнаваць, што яна больш практычная ў гаспадарчых справах. Апошнім часам яны жывуць даволі дружна, Андрэю нават не верылася, што сем гадоў таму яны былі на мяжы разводу.

Можа, і добра, што не кінуў сям'ю. І ён ужо не маладзён, лысы, сівыя вусы, хоць ты гуталінаю іх фарбуй, праўда, бровы яшчэ чорныя, і сілёнка яшчэ ёсць, і косіць, і дровы сячэ, і ў грыбы як пойдзе, дык вёрст семвосем выхадзіць.

Знайшоў па абедзе радкі Пушкіна, выпісаў у нататнік:

Но тот блаженней, о Зарема,
Кто мир и негу возлюбя,
Как розу, в тишине гарема
Лелеет, милая, тебя...

Прачытаў жонцы, дадаў, што прапрадзед Пушкіна, афрыканец Ганібал, меў гарэм, а ў ім трыццаць жонак.

– Не дзіва, што Пушкін быў заўзятым бабнікам, – хмыкнула Ада. – Што ты будзеш рабіць? Я пайду ў грады. Пустазелле буяе.

– Трохі пачытаю. А тады буду дровы сячы... А наконт Пушкіна... Ён быў геніяльным паэтам, Любіў жыццё, прыгожых жанчын. Гэта яго натхняла. Гэтулькі зрабіў за кароткае жыццё.

Ада моўчкі крутнулася за парог. Андрэй прылёг з кніжкай на канапе, але чытаць не хацелася... Адклаў кніжку ўбок, разгарнуў нататнік, зноў перачытаў Пушкіна. На папярэдняй старонцы кінулася ў вочы кароткае выказванне Леанарда да Вінчы: “Настаўніцай сабе ўзяў прыроду, настаўніцу настаўнікаў усіх”. Як здорава сказана! Коратка і вузлавата. Трэба пераказаць яго сябру Пятру, той штодня вядзе дзённік. А што, можа і цікава. Год сёлета незвычайны. А напісанае застаецца... Успомнілася Паліна. Як яна там? Можа, яшчэ працуе? Яны аднагодкі з Адай, але выглядае Паліна маладзей. А мо за гэтыя два гады, як не бачыліся, і яна здала? Я ж мог быць зараз там, разам з ёй. Збіралі б ягады ў прыбяседскім лесе, ездзілі ў грыбы ў чыстую зону, пад Бялынкавічы, чыталі вершы... А як Ада змагалася за сям'ю! Колькі разоў прыязджала ў Лабанаўку, хадзіла да Паліны дамоў, на працу ў школу, гатовая была павыдзіраць суперніцы кучары і вочы. Але не яна перамагла. Не дапусцілі да разводу дзеці, унукі, дый сама Паліна. Яна сказала цвёрда: “Мне з табой добра, мой любы. Я б хацела быць з табой. Але не хачу будаваць сваё шчасце на чужым горы. Амаль год мы пражылі разам. І гэтага мне хопіць да канца дзён...”

Увайшла жонка.

– Не магу знайсці пальчаткі. Ты не бачыў іх?

– Паглядзі пад паветкай. Былі там.

– Нешта ты сумны? Баліць што, ці кепска спаў? – пільна зірнула на яго Ада.

О, каб яна ведала пра што ён думае! Шчасце чалавека, што ягоныя думкі, успаміны ніхто не адбярэ. Гэта – залаты запас душы, запас духоўнай трываласці і моцы.

– Ды не, спаў нармалёва. А вось шыя чамусьці, як драўляная. Відаць, ціск падняўся.

– Давай памераем.

– Не працуе апарат. Батарэйка села. Трэба пашукаць новую. Я вось

думаю, што з куранятамі рабіць? Квактуха ўжо іх не водзіць. Дзяўбе, адганяе ад сябе. Быццам кажа: ідзіце на свой хлеб. Учора каля пеўня круцілася і той яе адтаптаў.

– Значыць, пачне яйкі несці. Трэба малых прывучаць да куратніка. Яны падраслі. Твой Рудзік бегае хутчэй за ўсіх. У будане іх пакідаць нельга. Раніцай выскачаць на двор, а каршун тут як тут.

– От, сёння ўвечары, як малыя збяруцца ў будане, паспрабуем іх перасяліць у куратнік. Вопыт маем. Гэтак мы рабілі пазалетась, калі былі кураняты, – спакойна адказаў Андрэй, хоць у думках ён быў далёка.

Яго раптам так пацягнула на радзіму, так закарцела пабачыцца з Палінай, здаецца, паляцеў бы на крылах, але не, лепей сесці на машыну і паехаць.

Здараюцца ў жыцці дзіўныя супадзенні, ці то праявы тэлепатыі, ці то ўмешваецца нейкая звышсіла. Былы ваяўнічы атэіст Андрэй Сахута ўсё мацней верыў у гэта. Ягоную веру ў вышэйшы розум падмацаваў наступны дзень, а дакладней вечар. Яны з Адай прыехалі ў горад. І тут заліўся звонам тэлефон. Андрэй зняў слухаўку і з радасцю пачуў голас Анатоля Раковіча, земляка, старшыні Лабанаўскага райвыканкама. Той запрашаў прыехаць, бо ў яго неўзабаве пяцёрачны юбілей – пяцьдзесят пяць гадоў.

Раковіч перадаваў прывітанне Адзе, запрашаў і яе. А таксама прасіў Сахуту прывезці Пятра Махавікова, з якім ён перагаварыў ужо і той даў згоду. А яшчэ прасіў у Магілёве ўзяць "на борт" Міколу Шандабылу.

Ада толькі памылася, у халаціку стаяла перад люстэркам, расчэсвала мокрыя валасы. Яна шырэй адчыніла дзверы ваннага пакоя, усё пачула і ўсё зразумела, хоць Андрэй і пераказаў ёй потым размову. Ён стараўся прыхаваць сваю радасць, бо ўнутры ўсё спявала.

– І калі ты думаеш ехаць?

– Дні праз два. Заўтра з'езджу ў аўтасервіс. Падрамантую машыну. Дарога далёкая.

– Добра. Заўтра будзем вырашаць. Купіць жа нешта трэба. Залазь у ванну. Змыеш вясковы бруд, – жонка крутнулася на кухню.

Плёхаючыся ў ваннай, Андрэй успомніў родную Бесядзь, знаёмых і блізкіх людзей. Перад вачыма паўстаў вясёлы, жартаўлівы Дзмітрый Акуліч, які зараз з ягонай, Андрэевай падачы, сядзіць у крэсле дырэктара лясгаса, ён і справу ведае, і "антабку" можа кульнуць не адну, і песню беларускую зацягнуць. Прыгадалася і яго вясёлая загадка: што і калі бывае смачным? Трохі памаўчаўшы, Акуліч сам і адгадваў: "Рыба смачная з вады, мяса – з нажа, хлеб – з печы, а жанчына – з лазні". Слухачы звычайна рагаталі, у душы кожны згаджаўся, што так яно і ёсць.

* * *

Год з трыма дзявяткамі – 1999 спяшаўся перадаць эстафету году з трыма нулямі – 2000. А яшчэ болей спяшаліся людзі. Самыя нецярплівыя палічылі двухтысячны пачаткам новага тысячагоддзя, з'явіліся публікацыі, рэкламы, якія заклікалі абнаўляць гардэроб, выкідаць старую мэблю і, вядома ж, купляць новую, бо на парозе Міленіум, новае тысячагоддзе. Давялося навукоўцам тлумачыць: год 2000 завяршае другое тысячагоддзе, а новае распачне – 2001.

Пятро Махавікоў зрэдчас рабіў занатоўкі ў свой нататнік, але былі яны кароткія, бо часу бракавала, аўтары ішлі касяком – усе стараліся

завяршыць свае планы, каб не цягнуць старыя задумы ў новае тысячагоддзе. Актыўны аўтар прафесар-аграрнік падарыў яму прыгожы самавіты нататнік-штодзённік у сіняй вокладцы, аркушы паперы ў лінейку – усё чын-чынам. Толькі пішы. Не лянуйся!

Неяк Пятро дастаў яго з шуфляды, пагартаў, і раптам узнікла думка: а што калі насамрэч зрабіць нататнік штодзённікам і занатоўваць кожны дзень гэтага ўнікальнага года! Гэта ж можа быць цікава! І нярварта кожнаму дню прысвячаць поўную старонку, усё будзе залежаць ад падзей, ад настрою, колькасці вольнага часу.

А вольнага часу павінна быць болей – з першага студзеня 2000 года галоўны рэдактар Пятро Махавікоў выходзіць на пенсію. Як не адгаворваў сябра-начальнік Уладзімір Клімчук папрацаваць яшчэ год-два, Пятро настояў на сваім – паўтара года пасля 60 адрабіў – хопіць, вочы стаміліся, дый целу надакучыла сядзець за рэдактарскім сталом па восем-дзевяць гадзін. Метал і той стамляецца, а чалавек – тым больш.

Новы год прыйшоў своечасова, праўда, Пятру падалося, што з'явіўся Дзед Мароз на парозе зарана – шкада было развітвацца са сваім кабінетам, з рабочым сталом, за якім амаль дзевяць гадоў чытаў рукапісы. Якое ўсё тут звыклае: і крэсла, і тэлефонны апарат, і перакідны каляндар з кароткімі занатоўкамі. Усё памятае цеплыню яго ных рук, ягонага цела, бо нават халодныя сцены, пэўна, маюць памяць.

О, вялікая сіла чалавечай звычкі! Сіла невынішчальнай здольнасці чалавека абжываць, саграваць любы кут, дзе даводзіцца жыць і працаваць.

Пятро стрымаў слова і штодня рабіў запісы. Непрыкметна прамільгнулі чатыры тыдні новага 2000 года. Адсвяткавалі Каляды, а тут выскачыў, як Піліп з канапель, стары Новы год. І ўсё трэба адзначаць, святкаваць, піць шампанскае, дый гарэліцу – таксама.

Па даўняй звычцы ён прачнуўся рана. І першая была думка – увечары прыедзе Ева, трэба нешта згатаваць.Чыгунок пярловай кашы з мясам згатаваў учора ў грубцы. Сёння трэба зварыць бульбы.

Перагарнуў лісток календара – 28 студзеня 2000 года, пятніца. Міжволі падумалася: канец працоўнага тыдня, наперадзе два выхадныя. Упікнуў сябе: цяпер усе мае дні могуць быць падобнымі на выхадныя. Можа, дарэмна не застаўся яшчэ на год? Не думаў, што так будзе сумаваць па выдавецтву, што будуць сніцца планёркі. Як хутка мільгалі дні! А тут, у вёсцы, час нібы спыніўся. Даўжэзныя цёмныя вечары, у якія чытаў, глядзеў тэлевізар, сядзеў каля грубачкі, пазіраў на жывы трапяткі агонь. Гэта заўсёды радавала. Штодня запісваў у свой нататнік,

Ні разу не перачытваў, не ведае, што атрымалася. А сёмай гадзіне ўключыў настольную лямпу, разгарнуў самавіты сіні нататнік, пачаў разбіраць сваю пісаніну.

*1 студзеня 2000 года.* Субота. Вось і надышоў год Белага Дракона. Пачнецца ён фармальна 5 лютага. А народ ужо сустрэў яго. Нябесная канцылярыя паспрыяла: лёгкі марозік – 3-5 градусаў, рэдкія сняжынкі-зорачкі, зіхатлівыя, іскрыстыя. Музыка. Вясёлыя людзі з шампанскім, ёлкі, гірлянды – усё вакол свяцілася і ззяла. Сустрэча 2000 года запомніцца ўсім мінчукам.

У нас было весела. Прыйшлі Андрэй Сахута з Евай, новыя знаёмыя Лілія і Яўген Сідарэвічы. Нашы дзеці, Сахутавы сабраліся ў Сідарэвічаў, у іх дачка і сын такога ж узросту. Так што, у дзяцей было сваё свята.

Сустракалі мы Новы год да паловы трэцяй. Трохі глядзелі тэлевізар, а болей гаварылі, расказвалі анекдоты. Нарагаталіся! Дай Божа, каб увесь год быў гэтакі вясёлы.

А на свеце – навіна. Нечакана, неспадзявана, датэрмінова пайшоў у адстаўку Барыс Ельцын. Перадаў уладу прэм'еру Пуціну. Цяпер я зразумеў, што гэта рыхтавалася даўно, таму так хутка рос Уладзімір Пуцін. Ельцын параіў расіянам галасаваць за яго на прэзідэнцкіх выбарах, якія прызначаны на 27 сакавіка. Расіяне – народ даверлівы, падумаюць, што з Пуціным “всё пойдёт путём”. Пажывем-пабачым. А Лукашэнка застаўся з носам і са сваімі амбіцыямі: у Крамлі яму не быць. А гэтак рваўся. І шмат хто хацеў яго там бачыць...

*2 студзеня. Нядзеля.* Другі дзень навагодняй казкі. Невялікі марозік, падаюць бухматыя сняжынкі. Лес, прыцярушаны снегам, ціхі, маўклівы, на яловых галінах тоўстыя снегавыя падушкі. Неабсыпанае хараство зімовага лесу! Зрэдку патукае дзяцел, пачуюцца аддаленыя стрэлы – паляўнічыя не спяць у шапку.

Пішу ў вёсцы, прыехаў аўтобусам. Ева не адпускала, дый самому не хацелася ехаць. Але заўтра аўтобус будзе толькі вечарам. Прыедзь у 20.30 у ледзяную хату – яе і да рання не сагрэеш. А так пліту ўжо выпаліў. Заварыў гарбату на зёлках. У грубцы гудзе агонь, аблетавыя бярозавыя дровы, сухія, як порах, гараць весела, патрэскваючы. На заканчэнне падкіну паленцаў пяць асінавых – асінавыя дровы добра выпальваюць сажу, чысцяць комін.

Позні ўжо вечар, хачу спаць, ажно вочы зліпаюцца, але мусіў другі раз падпаліць у пліце – яна хутка нагрэлася, затое хутка і астыла.

Сусед Станіслаў Аляксандравіч запрасіў на пачостку. “Што вы будзеце сядзець у халоднай хаце? Пакуль яна нагрэецца, дык паседзімо ў нас. Дзеці пакацілі ў горад. Пагледзіцё, якая ў нас ёлачка. Пайшлі”. – “Дык у грубцы ж паліцца, не магу кінуць”. Сусед шырокай чырвонай даланёю з тоўстымі пальцамі адгарнуў рукаво параднай кухвайкі, зірнуў на гадзіннік: “Праз гадзіну выпаліцца. Вось к пяці і прыходзьце. І Зіна запрашае. Толькі з сабой нічога не бярыце. У нас усё ёсць. І свежыну пад Новы год зрабілі”. У голасе суседа пачуўся непрыхаваны гонар добрага гаспадара, у якога ўсё маецца: і чарка, і скварка.

Узяў пляшку мінскай гарэлкі, каляндар “Родны край”, які меркаваў падарыць ім заўтра, і пайшоў.

Стол ламаўся ад закусі: і квашаніна-халадзец, і кілбасы пальцам пханыя, і пячонка, і смажаная свежына, усялякія вінегрэты, салаты, капуста, грыбы. Тут было куды болей за 12 страў! І выпіў добра, а закусіў яшчэ лепей. Гэткай смашняціны не еў даўно. Вось такі атрымаўся Новы год, не абы-які – дэнамінаваны. Пачуў ад Станіслава гэтую жартоўную назву. А ён ад зяця-фінансіста: дэнамінаваны, таму што з 1 студзеня ў беларускага зайца адкінулі тры нулі. Цяпер усе будзем тысячнікамі, а не мільянерамі.

*3 студзеня. Панядзелак.* Як добра выспаўся! А мінулай восенню мяне так мучыла бяссонне! Першая думка ўранні: як добра, што нікуды не трэба спяшацца, не трэба ехаць у выдавецтва, чытаць чужыя рукапісы, нешта абяцаць настырным аўтарам. Жыві, як душа жадае.

Хата сагрэлася. Суседка Зіна параіла: набраць гарачай вады ў пластыкавыя бутэлькі. Дзве пад пахі, трэцюю – пад ногі, пяткі грэць. Ой, як гэта здорава! Цяплынь, цішыня, адзінота.

Але адзінота была нядоўгая: толькі паспеў памыцца, узяўся гатаваць

чай, прыходзіць сусед Станіслаў: “Захаравіч, пайшлі на пахмелле. Усё ўжо на стале. Збірайцеся хутка, а то бульба астыне”. Давялося ісці. Міжволі ўзгадаўся Экзюперы: ёсць адзіная раскоша – раскоша чалавечых стасункаў. Еў і піў мала. Сказаў, што трэба схадзіць у Бярозкі да новых знаёмых па малако. – “Ну, дык пасля чаркі весялей будзеце ісці. Налівай, Стась! – вяла рэй у застоллі Зіна.– Я ў Бярозкі ў школу хадзіла. Уся наша дзятва туды тэпала ў пачатковыя класы. А снегу тады было па пояс. І маразы лютыя. Не тое, што сёлета. Вунь сёння, – яна зірнула за вакно на градуснік: – Плюс адзін. Вось табе і студзень”.

Ішоў па вузкай дарожцы праз лес. Снег быў мяккі, белы і чысты. І вакол ніводнага чалавечага следу. Адны заечыя ды лісіныя. Касыя пакідалі востранькія слядкі: пярэднія вузейшыя, заднія шырэйшыя, а лісы – роўныя ланцужкі круглых слядоў.

Пра новых знаёмых, Сідарэвічаў, запішу іншым разам.

Беларускае тэлебачанне распачынае відэакурс англійскай і нямецкай моваў. Буду вучыць, час ёсць і стымул – таксама. Ірынка абяцае даслаць запрашэнне на паездку ў Штаты. Як ляціць час! Здаецца, зусім нядаўна яны паехалі, я адвозіў іх у аэрапорт, а ўжо прамільгнулі два гады. Зяць Віталь няблага зарабляе – што ні кажы, кандыдат навук, праграміст экстра-класа. Ірынка не мае права працаваць, бо ў яе гасцявая віза, дый мову слаба ведае. Хітрыя амерыканы – так без літары “ц” называюць іх выхадцы з СССР, – скупляюць мазгі з усяго свету. Англійскую буду вучыць, а наконт паездкі – жыццё пакажа. Навукоўцы даказваюць, што чалавек выкарыстоўвае свой мозг усяго на дзесяць адсоткаў, астатнія клеткі дрэмлюць, чакаюць, пакуль гаспадар іх пабудзіць, дасць ім працу, так што англійская мова, падарожжа, новыя ўражанні – толькі на карысць.

*4 студзеня. Аўторак.* Пачуў новае вызначэнне сёлетняга года – блатны. Шмат нулёў на нумары машыны бывае або ў высокага начальніка, або ў блатняка, які мае сувязі ў ДАІ. І сказала пра гэта суседка баба Люся, пенсіянерка, пчалярка. А ёй сказаў сын Анатоль, які працуе ў Мінску на будоўлі, стары халасцяк.

Баба Люся ў маладосці, мусіць, была вельмі прыгожая, зеленаватыя вочы, пад цёмнымі дугамі броваў, шыракаваты твар, а вусны і зараз сексуальныя, нібы прыпухлыя. Кажуць, мужык вельмі рэўнаваў, па п’яні біў, ганяў, уцякала да суседзяў. Расказала яна, што пад Новы год прыехаў з Мінску сын суседкі, бабы Каці, і забраў яе, старую котку і малое кацянятка выкінулі. Кошку яна падкармлівае, а малое не даецца.

Узяў хлеба і каўбасы, паклікаў, кацянятка спусцілася з-пад страхі, пачало прагна есці. Я падышоў бліжэй, яно зноў пад страху. Але неўзабаве спусцілася – голад не цётка. Я стаяў, а яно ела. Пагладзіць не далося. Хацеў узяць да сябе, уцякло.

Студзень сёлета лагодны, сёння – плюс два, а жыццё рынкавае суровае. Перадалі па радыё, што падаражэла паліва: 92-е каштуе 280 тысяч рублёў за літр, месяц таму запраўляўся. Каштавала 148 тысяч. Абалдзець! Амаль у два разы вырас кошт. Пры Саветах паліва каштавала 40 капеек. Звычайна я меў у запасе чырвонец. Аддаў у касу – заліў 25 літраў і паехаў. Зараз надта не наездзішся, туды і назад з’ездзіць у Мінск трэба 10-12 літраў. Вось яна, грымаса рынкавага капіталізму. Хто мог падумаць, што будаўнікі камунізму пачнуць будаваць капіталізм! Насамрэч, сцяжыны Боскія неспазнаныя.

*5 студзеня, серада.* І сёння плюс два.

Каб не кінуў службу, сядзеў бы сёння на планёрцы. Мог бы і пахваліцца – напрыканцы года выйшла некалькі цікавых кніг. Аўтараў іх прыахвоціў да выдавецтва я. Заместа падзякі ці прэміі я апынуўся ў вёсцы, на ўзбочыне жыцця. Але ж я сам папрасіўся ў адстаўку, так што няма на каго крыўдаваць, жыві ды радуйся цішынёй і адзінотай, адпачывай, рыхтуйся да вясны, як рыхтуюцца пчолы, зберагаюць сілы, дрэмлюць, саграваюцца ў клубе і мараць пра сонца і цяпло. Дарэчы, неяк трэба іх паслухаць. Ачысціць лёткі ад падмору, каб лепшая была вентыляцыя.

Збіраўся запісаць пра новых знаёмых. Гісторыя такая. Неяк Ева збірала грыбы і пазнаёмілася ў лесе з жанчынай з суседняй вёскі Бярозкі. Аказалася, што яны маюць кватэру ў Мінску, у Зялёным Лузе, недалёка ад нас. Ліля працавала ў нейкім навуковым інстытуце ад Масквы. Пасля 91 года ён лопнуў і нespрацаваная, здаровая кабета – дарэчы, нарадзілася ў 43-м у партызанскім атрадзе на Палессі, – апынулася без работы. Яны купілі ў вёцы хату, потым казу, потым карову, завялі свінства. Ліля сама водзіць машыну. Пачалі гаспадарыць. Яўген, муж, працуе ў Акадэміі навук у інстытуце парашковай металургіі. Родам ён таксама з вёскі, з Берасцейшчыны. Пазнаёміліся мы сем’ямі, пасябравалі. Ліля і Яўген разам вучыліся ў Політхнічным інстытуце, маюць двое дзяцей.

Цікавы факт: неяк я сказаў пра Андрэя Сахуту, дык Ліля аж падскочыла: “Пачакайце, ён жа быў першым сакратаром райкама. Я хадзіла да яго на прыём. Дапамог нам пазбавіцца ад п’янтоса дырэктара фабрыкі”. Ліля там была старшынёй прафкама. Дык вось, на Новы год мы і сабраліся ў нас. Было што ўзгадаць. На днях пайду па малако ў Бярозкі, будзе здаровая праходка па лесе.

Нарэшце кацянятка дазволіла сябе ўзяць. Схаваў пад крысо ватоўкі, прынёс дамоў, наліў у чаропку малака. Як яно прагна ела! Наелася. Старанна сябе вылізала. Чысцюля! Поўсць прыгладзілася, вочы пазіраюць лагодна. Ускочыла на мой ложак і заснула. Паслаў ёй тоўстую фланэлевую анучу каля грубкі – буду прывучаць, каб ляжала тут. А ці будзе яно прасіцца на двор? Пачынаюцца клопаты. Жывая душа патрабуе ўвагі – калі прыручыў, дык трэба даглядаць. А як яе назваць? Мо хай будзе Дуся? У пятніцу прыедзе Ева – будзем думаць.

*6 студзеня. Чацвер.* Вось і Калядны вечар, ды не абы-які – 2000-ы. Юбілейныя Каляды на парозе.

Дзень быў ціхі, цёплы. Усяго адзін градус марозу. Ну й Калядачкі, бліны-ладачкі! Сірочая зіма сёлета. Для ўсяго жывога, асабліва лясной жыўнасці – вельмі добра, сытна, цёпла.

Паслухаў пчол, пакуль што ўсе жывыя, ціхутка, роўна шумяць, чакаюць вясны. Хоць бы ўсе дачакаліся. Цяпер я вольны, буду пашыраць пчальнік. Сёлета ўпершыню вуллі стаяць на волі, раней даводзілася ўносіць у імшанік, а гэта справа нялёгкая, клопатная – прасіў суседзяў, каб дапамаглі. Вопыт ужо нейкі маю, справу гэтую люблю. Лепшага занятку, чым пчалярскі, мабыць, няма на свеце. Так любіць гаварыць мой настаўнік і цёзка Пятро Еўдакімавіч Мамута.

Даўно не сустракаў Каляды сам-насам, у вясковай хаце, у маленькай вёсачцы, атуленай лесам з усіх бакоў. Мог быць у гасцях – сусед Станіслаў запрашаў, але я ўжо ў іх гасцяваў, а назаўтра пахмяляўся. “Прыходзьце вы да мяне. Куццю я згатаваў. Знойдзецца нешта і да куцці”. – “Дзякуй. Да нас прыйдуць кум і кума з Залесся”.

Карацей, застаўся адзін. Пярловую кашу згатаваў у грубцы, дзве курыныя лыткі далі навар. Заправіў квашанай капусты цыбуляй і алеем, салёных грыбкоў. Зварыў буракоў, парэзаў іх лустамі, запаліў свечку. Выпіў келіх тапалёўкі, затым – ядлаўцоўкі і замацаваў ці зафіксаваў добры калядны настрой келіхам зуброўкі. У роце незвычайны букет пахаў. І сказаў сам сабе: “У мяне ёсць усё, што трэба. А чаго няма, дык тое мне і не трэба”. Ды я ж не адзін! Са мною Дуся. Нават на калені ўскочыла, калі сядзеў ля грубкі. І гэтак мурлыкала, гэтак церлася аб штаны, тыцкалася халоднай вільготнай пыскай у далоні – гэта, каб яе гладзіў. Пястуха!

Ёсць вялікая мудрасць у рэлігійных святах. Вось Піліпаўскі пост – самы цёмны час года, дні кароткія, няма работы, руху мала, то і есці трэба меней, ачысціць арганізм ад шлакаў. А як сонца павярнула на вясну, дзень пачаў расці, то і Хрыстос нарадзіўся, і Каляды дарэчы. І столькі прыдумана ўсялякіх жартаў, песень!

Прыгадалася недарэчная гісторыя на тэлебачанні, як за Каляды ледзь не атрымаў вымову. Ездзіў тады ў Брэст – прымаў перадачу абласной студыі. У іх быў кароткі сюжэт аб святкаванні Калядаў на Палессі. Мне ён спадабаўся, хоць нейкая жывінка: праграма прысвячалася чарговаму партыйнаму з’езду і нагадвала даволі сухую справаздачу. Перадача прайшла, на студыйнай лятучцы яе пахвалілі – і тут званок з ЦК КПБ: што вы прапагандуеце рэлігійныя абрады?! Безабразіе! Намеснік старшыні Дзяржтэлерадыё запатрабаваў дакладную. Я нешта накрэмзаў, але калега Валодзя Клімчук – потым ён быў маім шэфам у выдавецтве,– параіў не спяшацца яе аддаваць, напісанае застаецца. Старшыня камітэта не спужаўся, супакоіўся і намеснік. Я дні тры насіў дакладную ў папцы і нікому яе не аддаў.

Дзівосы: цяпер Каляды – свята, чырвоны дзень у календары, а тады – гэта быў 1981 год, маглі зняць з работы, аб’явіць вымову. Парадоксы нашага часу.

Усё, хопіць псаваць паперу. Гляджу тэлевізар з добрым настроем.

*7 студзеня. Пятніца.* Як хочацца пакалядаваць з Евай! Можа, сёння яна прыедзе. Надвор’е шэпча: пабудзь, каханая, са мной. І сёння дзень лагодны – адзін градус марозу!

Уранні пачуў радыёперадачу “Невычэрпная скарбніца мовы”. Дыктарка прыемным голасам, з добрым вымаўленнем прачытала апісанне зімовага лесу. Хораша! Калі аўтар пачуў, дык парадаваўся. А нехта ж і яшчэ паслухаў. Зерне падае не на камень. Мова наша прыгожая, па мілагучнасці на другім месцы пасля італьянскай. Высока ставіў яе Адам Міцкевіч за перашародную чысціню. На жаль, у горадзе яе пачуеш рэдка, хіба што аб’явы ў трамваі ды ў падзямеллі – у метро. Кепска, што і ў вёсцы беларускае слова гучыць усё радзей.

Пра гэта думаў учора, калі ўвечары глядзеў калядное набажэнства. Прыгожа, урачыста, самавіта, але ўсё па-руску. Праўда, нейкі святар каментаваў асобныя моманты на добрай беларускай мове. Недзе чытаў, што зроблены пераклад Святога пісання на нашу мову – працавала аўтарытэтная камісія, дык чаму яго не выкарстаць? Каб царква загаварыла на мове народа, які яе корміць і поіць, была б іншая справа. І па радыё ў нядзелю каб поп і ксёндз гаварылі на мове тытульнай нацыі, а то з праваслаўнага храма перадача на расійскай мове, а з касцёла па-беларуску.

Эх, каб паблізу быў касцёл, пайшоў бы памаліцца.

Пасля васьмі вечара пайду з ліхтарыкам на гравійку. Мо прыедзе мая Снягурка.

*8 студзеня. Субота.* Ах, як хораша спіцца доўгай каляднай ноччу ў цёплай вясковай хаце! Асабліва, калі ў вокны глядзяцца заснежаныя высозныя хвоі. Я быў у ролі сэксуальнага Дзеда Мароза, а Ева, адпаведна, выконвала ролю гламурнай Снягуркі.

Люблю, калі жанчына трымае слова: паабяцала – і прыехала. Адышліся мы ад аўтобуса, са смакам пацалаваліся. Ева ўдыхнула на поўныя грудзі: “Якое паветра! Бальзам!”

Праз чвэрць гадзіны мы былі дома. У грубцы ўжо ляжалі дровы, смалячок для распалу. Чыркнуў я запалку – і на сухіх паленцах заскакалі языкі полымя. Ева так і прыліпла да грубачкі – не магла наглядзецца на жывы агонь.

Мы добра павячэралі, сёе-тое згатаваў я, бліны прывезла Ева.

– Бліны смачныя, але не зробленыя, – прамовіў я.

– Лічы, што гэта аванс, – гарэзліва бліснулі вочы маёй Снягуркі.

“История дальше уже не для книг, я скромный и я бастую...” – пісаў некалі таварыш Маякоўскі. Я шмат яго чытаў, калі вучыўся на лётчыка. Божухна, як даўно тое было! Беларускіх кніг у Кіравааградскай вайсковай вучэльні быць не магло. Сярод курсантаў беларускія хлопцы меліся, такія ж манкурты, як і я. А ўкраінскія парубкі сябравалі між сабой. Спявалі свае песні, і гэта не толькі таму, што вуылішча знаходзілася на тэрыторыі Украіны. Украінец, ён і ў Амерыцы ці Аўстраліі, ці на Сахаліне,– украінец. Вось чаго няма ў нас. Шматвяковая паланізацыя, а потым русіфікацыя пазбавілі нас гістарычнай памяці.

Між іншым, зусім не думаў пра гэта пісаць, калі разгарнуў штодзённік. У галаве была думка: маладому дзеду з маладою бабай маладое ў галаве. А тут раптам пацягнула ў юначае неба...

На гэтым усё. Дзень кароткі, як заечы хвосцік. Ідзем у лес на шпацыр.

Пасля вячэры Ева скамячыла тугі камяк паперы, перавязала даўжэзнай ніткай, пачала гуляць з Дусяй. Што яны выраблялі! І я падумаў: як добра, што ўзяў кацяня. Добра, што пайшоў у адстаўку. У галаве пасвятлела, спіцца лепей, вочы перасталі балець. Будзем жыць, будзем сеяць, беларусы!

*9 студзеня. Калядная нядзелька.* Ранішнюю зарадку рабілі ўдваіх. Правільней, гэта быў эратычны масаж. Калі б мы цэлы тыдзень у горадзе былі разам, то гэтая ”зарадка” сёння не адбылася б. З каханымі зрэдку трэба разлучацца, каб вятрыска расстання мацней распальваў агонь кахання. Атрымалася нешта падобнае на афарызм.

Пішу ўвечары. Дзень прамільгнуў неўзаметку. А 16-й упхнуў Еву ў перапоўнены аўтобус. На шчасце, малады хлапец уступіў ёй месца. Дзякуй яму! А мы ўсё бурчым, што сучасная моладзь кепская. Яна – розная. Мусіць, так было заўсёды.

Ева зноў усчала размову пра Амерыку. Днямі тэлефанавала Ірынка: калі мы думаем ехаць? Яна прышле запрашэнне. Агітуе дзён на 30-40, меней няма сэнсу плаціць за візу, дарагія білеты на самалёт. У Евы кантракт канчаецца праз год. Чарговы адпачынак хоча правесці летам у вёсцы. Дый дваіх – мужа і жонку –могуць не выпусціць: амерыканы баяцца, што сям’я застанецца ў Штатах. Я магу паехаць у другой палове кастрычніка: спарадкуем ураджай, пчол падкармлю, уцяплю на зіму, і калі дадуць візу, магу ехаць. Пажывем-пабачым.

Надзвычай лагодныя сёлета Каляды – сёння плюс два. У горадзе, мусіць, хлюпата, кісляціна, а ў нас снег трохі асеў, але нікуды не ўцякае. Чакае марозу. І ён будзе, зіма толькі пачалася.

*10 студзеня. Панядзелак.* А сёння яшчэ цяплей – плюс тры. На двары паблісківаюць лужынкі. Не люблю макрэчу. Зрэшты, ніякіх паходаў сёння не плану, а прынесці вады і дроў – для маладога дзеда не “прамблема”, як гаворыць Анатоль, сусед-бабыль. Давядзецца яго прасіць, каб назіраў за хатаю, бо ў чацвер ці ў пятніцу паеду ў горад. Трэба пенсію атрымаць. Кепска, што мой дзень 14-га, а 15-га – апошні тэрмін аплаты за кватэру, іншыя камунальныя плацяжы. На пошце – чарга, нос не ўткнуць.

Не можам жыць, каб не стварыць чаргу. Пенсію можна атрымліваць пазней, ажно да 26-га, дык і перанясіце тэрмін аплаты да 20, а яшчэ лепей – 25-га. І не будзе чэргаў. Мо дадумаюцца?

Крытычны ў мяне настрой. Падліла масла ў агонь перадача па радыё. Карэспандэнт з Брэста гутарыў з мясцовым студэнтам, які ведае ангельскую, нямецкую, французскую, польскую, сербскую мовы. А беларускай не валодае, бо гаварыў па-руску. Які цынізм! Польскую, сербскую ведае, а беларускую – не. І гэта ў Брэсце! Сорам! Можа, калі б наш заходні горад меў сваю гістарычную назву – Бярэсце, то і студэнт-паліглот гаварыў бы па-беларуску.

Часам думаш: Беларусь пацярпела ў Вялікую Айчынную болей за ўсіх на свеце. Загінуў амаль кожны трэці ейны жыхар – гэта па-першае, а па-другое, тэрыторыю страціла, абскублі, як ліпку. Беласток Сталін аддаў Польшчы, каб улагодзіць палякаў, Вільню, гістарычную і культурную сталіцу нашу, аддаў літоўцам. Адрэзаў чырвоным алоўкам, як па сэрцы лінію правёў. У Вільні жылі беларусы і габрэі, трохі палякаў, яшчэ меней – літоўцаў. І на табе! Менавіта ў Вільню ездзіў Коласаўскі дзядзька Антось купляць зямельку, а не ў Мінск. І Францыск Скарына друкаваў свае кнігі ў Вільні, і “Наша Ніва” там выходзіла. Ніхто гэтага не ўлічыў. І той жа хвалёны сябра беларусаў Панамарэнка не заікнуўся нават. А такія рэчы ва ўсім свеце робяць праз рэферэндум. Самадурства чыстай вады.

Некалі адзін доктар навук прыносіў мне ў выдавецтва кнігу Яўхіма Карскага “Беларусы”. У ёй маецца карта-атлас, здаецца, 18 стагоддзя – мяжа рассялення беларусаў. Дык гэтая мяжа праходзіла далёка за Смаленскам, Бранскам, Трубчэўскам на ўсходзе, і вядома ж, за Беластокам і Вільняй. Яўхім Карскі – глыбока дасведчаны вучоны. Прызнаны ў свеце аўтарытэт. Сталін і ягоныя хаўруснікі з гэтым не палічыліся. Тое, што яны вырабілі, мусіць, ужо назад не вернеш. Праўда, Зянон Пазняк адважыўся гаварыць пра гэта, думаю, што несвоечасова, не хапіла яму беларускай памяркоўнасці, дужа радыкальна ён пачаў...

Усё, закругляюся. Галава разбалелася, шыя налілася цяжарам, як свінцом, давядзецца піць таблеткі. А мо за вячэраю пад капусту з цыбулькай і салам кульнуць чарачку за нашы карані!

*11 студзеня. Аўторак.* І сёння плюс тры. Калі ж нябесная канцылярыя ўспомніць, што на дварэ Каляды? Ну й Калядачкі, бліны-ладачкі... І як гэта мне паехаць да жонкі на бліны? Хачу пабыць у горадзе дні тры-чатыры. Праўда, вяртанне будзе ў халодную хату. Але абяцаў Еве, што стары Новы год сустрэнем разам. Слова трэба стрымаць, дый харчовыя запасы канчаюцца. Учора выпаліў грубку, паставіў туды чыгунок фасолі ў стручках, усю ноч яна тушылася. Акрамя солі і вады нічога болей не трэба.

Упарылася фасоля, бярэш струк і як губным гармонікам праводзіш каля рота – і фасоля ў сваім саку, нібы адмысловы суп. Ласунак дзяцінства, толькі варылі яшчэ зеленаватыя струкі, яны лягчэй разварваліся. Ото была смаката!

Вясною выручала шчаўе і пучча – тоўстыя, сакаўныя сцябліны шчавука, затым пер'е цыбулі ды струкі-лапаткі гароху. Потым пражмо, затым гуркі, маладая бульба і нарэшце параныя струкі фасолі! Так і выжывала вясковая дзятва на бясхлеб'і.

Схадзіў у Бярозкі па малако. Абуць давялося гумовікі, затое смела шлэпаў па раскіслым снезе. Ды яго ўжо мала. Бруснічнік зялёны, як вясною. Во, моцная раслінка! Трэба збіраць на зёлкі. Ліля ўсё пыталася, як там Андрэй Мацвеевіч? Такое ўражанне, што закахалася суседка ў Сахуту. Мо закахалася тады, амаль 20 гадоў таму, як хадзіла да яго на прыём у райкам. Сказаў, што паеду ў горад. “Перадавайце прывітанне яму і жонцы. А па вясне запрашайце да нас. Яны ж былі ў вашай вёсцы?” – “Так, летась былі”. – “Ну, а сёлета да нас”. Паабяцаў, што так і будзе”.

*12. Серада.* На двары студзень. А сённяшні дзень нагадвае вясновы, сакавіцкі. Зноў плюс тры. Калі зіма спахопіцца, што яе час мінае?

Здзівіла Дуся. Пабудзіла пад раніцу. Уключаю святло – сядзіць на ходніку, а перад ёй ляжыць малая мышка. Злавіла і хоча паказаць гаспадару: маўляў, глядзі, ты не дарэмна мяне корміш. Ну, хто гэткую малечу навучыў? Значыць, у генах закладзена: лавіць мышэй – гэта зразумела, есці ж трэба, а вось будзіць гаспадара – нешта новае. Увогуле, Дуся ўжо не прападзе, калі паеду ў горад, пад страху пакладу ёй хлеба, каўбасы – тры дні пражыве.

Сумна без газет, навыпісваў нямала, але на гарадскі адрас. Затое слухаю радыё, асабліва “забугорныя галасы”. “Нямецкая хваля” перадае, што ў Чачні загінула каля тысячы расійскіх салдат. Рэйцінг Пуціна можа пакаціцца ўніз. Вайна ў Чачні – гэта спланаваная правакацыя, каб выклікаць нянавісць да Расіі, каб Саюз ужо ніколі не адрадзіўся. А настальгія па ім у людзей майго пакалення і старэйшых жыве і сёння.

Увогуле, драматычных, крывавых падзей багата на свеце. Для Года Савы па календары друідаў – зашмат, бо сава – птушка мудрая. Чаму ж яе мудрасці покуль не відно?

*13 студзеня.* Багатая куцця. Зыркім, сонечным днём ішоў па гравійцы на аўтобус. На ранішні аўтубус уставаць не захацелася. Вырашыў прайсці пехатою, не галасаваў і машынам, некалькі абагналі мяне. Пратэпаў восем кіламетраў. Выдатная праходка!

Стары Новы год сустракалі сваёй сям'ёй. Мае рацыю гумарыст Задорнаў: ніхто ў свеце не можа зразумець, што такое стары Новы год! А для ўсходніх славян яшчэ адна добрая нагода выпіць ды закусіць.

Ева была рада, што я прыехаў, і Косця шчыра віншаваў са святам. Я спытаўся ў яго, што чуваць наконт працы? Ён адразу спахмурнеў, мармытнуў, што шукае, абяцаюць прыняць на пачатку лютага. Ева зірнула з дакорам, маўляў, хлопец і так перажывае. Мяне здзіўляе: усюды патрэбны будаўнікі, а ён, малады здаровы мужык, скончыў інстытут, начамі сядзіць за кампутарнымі гульнямі. Малы быў гэткі цікаўны, добра вучыўся, праўда, у інстытут давялося ўпхнуць. Вучыўся так сабе, а працаваць зусім не хоча. Да Ірынкі я быў больш патрабавальным, чым да яго, каб не падумала Ева: не тваё дзіця, то і не шкада. І вось вынік.

Патэлефанавала Ірынка. Якая цяпер сувязь! Дзе тая Амерыка? Сем тысяч вёрст, а чуваць, нібы з суседняга пакоя. Працуе нелегальна, вучыць музыцы суседскіх дзетак-беларусаў. Учора цэлы вечар даглядала трох дзетак, пакуль бацькі ездзілі ў госці, добра зарабіла.

*14 студзеня. Пятніца.* Вось і атрымаў першую пенсію. Выстаяў на пошце чаргу. Нарэшце падаў бледнатварай дзяўчыне ў акулярах пашпарт і пенсійнае пасведчанне, назваў свой раён і належную дату. Дзяўчына ўзяла тоўстую папку, доўга шукала маё прозвішча, падсунула мне гросбух, каб я распісаўся і паставіў дату. Зірнуў на суму: 16750 "зайцоў". Многа гэта ці мала? Каўбаса каштуе 2500-3000 руб.кг., цыбуля – 190-200 руб., цяляціна – 1500-3500руб. Значыць, за пенсію магу купіць 5 кг. добрай цяляціны.

Стаж працоўны 42 гады, каэфіцыент – 3,20, бо зарабляў няблага. У Андрэя Сахуты – 3,15, у Ады-фінансісткі 2,57. У мяне самы высокі. Вось такія нашы пенсіі. І ўсё ж купіў шампанскага, рознай смашняціны, каб замачыць першую палучку, а заўтра, у суботу, дзённым аўтобусам паехаць у вёску. Ева прапанавала гэтую "замочку" перанесці на суботу, запрасіць Сахутаў. Адмаўляцца не выпадала.

*15 студзеня. Субота.* Абмылі маладога пенсіянера. Андрэй ужо амаль год вольны казак. Прыйшоў ён адзін, без жонкі. Ён асабліва мяне суцяшаў, рсхвальваў пенсіянерскую вольніцу:

– Я зараз адчуваю сябе лепш, чым пяць гадоў таму. Першыя месяцы сніўся мой кабінет...

– Ці кабінет, ці сакратарка? – падсміхнула Ева.

– І тое, і другое. Снілася, што трэба выступаць на калегіі, а матэрыялы не гатовы. Выклікае міністр... Прачнешся і радуешся, што нікуды ісці не трэба. Можаш планаваць свой дзень, як захочаш. Раю пашыраць пчальнік. Заказваю два трохлітровікі мёду. І без зніжак. На зіму карміць пчол трэба, а цукар дарагі, і пчалярскае начынне... Я неяк быў у пчалярскай краме. Даведнік набыў. Можа, рой пасадзіш калі мне.

Я паабяцаў. А чаму і не? Лесаводы любяць прыроду, сярод іх шмат пчаляроў. Гаварылі пра ўсё спакойна, лагодна, як і надвор'е на вуліцы.

Косця пажадаў, каб я дажыў да падвышанай пенсіі, як мінімум, а павышаюць пенсію пасля 80 гадоў. Дай Божа дажыць!

Ева была рада, што паслухаўся яе, не ўцёк у вёску. І ноч прайшла, як у маладажонаў.

*16 студзеня. Нядзеля.* Здзівіў кіроўцу аўтобуса: папрасіў спыніцца на горцы між лесу. "А куды вы тут? Патрэбу справіць?" – "Не, я ўжо прыехаў. У мяне свая сцежка". Падзякаваў яму і збег з адхону жвіроўкі. Удыхнуў чыстага марозлівага паветра – і аж у галаве адразу пасвятлела. Азірнуўся: казка вакол – дрэвы ў шэрані стаяць. І такая ўсеабдымная цішыня і чысціня! Любата! Ішоў і радаваўся. Адсюль трохі далей, чым ад указальніка, так бы мовіць, ад законнага прыпынку.

Сустрэла Дуся, і ўжо гэтак жаласліва мяўкала, дакарала: пакінуў малую, галодную на трое сутак. Даў добры кус крывянкі. О, як яна ела!

У хаце халадрыга. Вада на кухні замерзла, а ноччу ж было ўсяго 8-9 градусаў марозу. Добра, што ў хату прынёс дроў перад ад'ездам. Падпаліў у пліце, потым у грубцы. І тут уваходзіць Стась, запрашае да іх, пакуль хата будзе грэцца.

– На Каляды госця не выпускаюць з хаты без пачосткі, – стаўлю на стол пляшку гарэлкі, знайшлася і закусь.

Сусед надта не адмаўляўся. Адчыніў я дзверцы грубкі, у якой весела гудзеў агонь, паветра награвалася ўвачавідкі. Праўда, сядзелі мы за сталом у куртках. Але чарка добра грэла знутры. Сядзелі. Гаманілі, пляшка пусцела, у хаце і на душы цяплела.

Раптам у дзверы пастукалі. “Заходзьце, калі ласка!” На парозе суседава жонка Зіна. “Я думаю, што з чалавекам зрабілася? Пайшоў – і няма”. Запрасіў і яе да стала. Кульнула кілішак, апусціла на шыю цёплую хусту.

– Дык ужо і пацяплела ў хаце.

– Надыхалі, – задаволена зарагатаў расчырванелы Стась.

– Захаравіч, пайшлі да нас. Усё на стале, – пачала ўгаворваць суседка. Падтрымаў жонку і Стась, ён зірнуў у грубку, дзе дагаралі бярозавыя паленцы, і быццам вынес прысуд:

– Праз паўгадзіны юшку можна зачыняць. А зараз можна звузіць. Будзе цяплей. Вось праз паўгадзіны і прыходзьце.

*17 студзеня.* Для працоўнага люду сёння – тыдня першая мяжа. А я накалядаваўся ў суседзяў. Нездарма кажуць: свой за гарой, а сусед у вакне. І гэта праўда. Хата нагрэлася, спаў, як пшаніцу прадаўшы. З уласнага досведу ведаю: моцна спіцца пасля добрай чаркі і актыўнага сэксу. Толькі дзе для гэтага знайсці здароўя?

Пад раніцу памацнеў вецер, усчалася завіруха. Няўжо нарэшце пачнецца сапраўдная, а не сірочая зіма? Як хораша ляжаць пад цёплай коўдрай у вясковай хаце і слухаць, як скуголіць за вокнамі вецер. А далей сцяною стаіць заснежаны лес.

Ніколі ў жыцці гэтак не святкаваў Каляды. Распіўся на сабачую пугу. Трэба завязваць чаркаванне. Добра, што святы канчаюцца, заўтра – трэцяя куцця, вадзяная. І пачнецца цвярозае жыццё.

Напісаў гэтыя радкі і падумаў: небяспечная справа – весці дзённік. Калі не быць шчырым, то навошта пісаць? А калі пісаць пра ўсё, дык жонка ці яшчэ хто пачытае і скажа: “Во, чым займаўся дзед Пятро на фазэндзе!” Можа, кінуць? Але ж надта цікавы час – 2000 год. Гэта ж толькі праз тысячу гадоў зноў будзе Міленіум.

Усё, канчаю. Трэба выпаліць у пліце, згатаваць гарбату на зёлках, прыгарнуць у хаце. Суседзі папярэдзілі, што гэтымі днямі бацюшка Нікадзім асвячае пабудовы. Трэба, каб на куце вісеў які-небудзь абразок. Іконка ёсць – некалі Ева павесіла. Плацяць яму па-рознаму: хто дзвесце, хто трыста рублёў, а хто і пяцьсот.

Сёння ў маёй хаце Бог жыве, хоць ягоны служка і не прыехаў свянціць. Ад грубкі ідзе гэтакі прыемны цёплы дух. На кухні лунае водар мялісы, чабору і рамонак. А на стале духмяны мядок – свой, самы лепшы на свеце.

*18 студзеня. Аўторак.* Зыркім, сонечным днём выйшаў на гравійку-жвіроўку. Праскочыў “жыгулёнак”, узняў снежны пыл, дыхнуў смуродам. І раптам на дарогу выйшаў лось, вялізны, рагаты. Пастаяў, паглядзеў на мяне – нас аддзяляла нейкая сотня метраў. Няўжо гэта той рагач, якога бачыў улетку? Тады ён быў з ласіхаю і ласяняткам. Згледзеўшы мяне – я вяртаўся з грыбоў, лось грозна трасянуў галавою, пачаў капытом рыць мох. Я схаваўся за дрэва. Чаму ж ён адзін? Мо паляўнічыя застрэлілі ласіху і дзіця? Ведама, браканьераў хапае. А мо ён шукае сабе новую сяброўку, маладзейшую? Мо зараз думае: ці не затаптаць гэтага чалавека без стрэльбы? Ягоны кій – слабая абарона. Нарэшце лось перайшоў дарогу і павалюхаўся ў гушчар. Вось такая сустрэча.

Па тэлебачанні гляджу толькі навіны ды ўрокі ангельскай. А вось радыё слухаю – старэнькі “Океан” працуе з раніцы да вечара, выключаю, калі сыходжу з хаты. Можна паліць у пліце, гатаваць сняданак, мыць посуд і слухаць радыё. Ніколі не ем перад тэлевізарам, а вось сняданак ці абед пад радыё – звычайная справа. Сёння ўразіла “Балада пра маці” Васіля Макарэвіча. Некалі Валодзя Клімчук знаёміў нас у Доме літаратара, здаецца, мы і па кілішку тады кульнулі.

Слухаючы паэму, падумалася: бяда, гора ўзрушваюць творчага чалавека, мабыць, мацней, чымся іншых. Гэтыя перажыванні прымусілі паэта пісаць. І атрымалася моцная рэч. Узгадаў сваіх– маці, бацьку. Даўно ўжо іх няма. Што зробіш? І я не маладзён, пенсіянер ужо.

Некалі Валодзя Клімчук яшчэ на тэлебачанні дакараў мяне, што нічога не пішу. Я адказваў: паслухаўся Льва Талстога, які сцвярджаў: калі можаш не пісаць, не пішы. А цяпер вось заманулася псаваць паперу.

Яшчэ пра літаратуру. Учора перадавалі раздзел з новай аповесці Івана Навуменкі “Помні Сталінград”. Шкрабанулі такія фразы: дробныя служачыя, бліскуча гуляў у валейбол. Можа, я не разбіраюся ў прыгожым пісьменстве, але, здаецца, гэта не па-беларуску, хоць усё нібыта і правільна. А сёння пачуў па радыё новае слова: журналістка сказала ў рэпартажы – кожнадзённа, замест – штодзённа. У маіх родных Хатынічах казалі: кожан Божы дзень.

Так, лёгка некага крытыкаваць, а сам пішаш абы-што. Дык я ж для сябе гэта раблю. Проста год незвычайны – блатны, дэнамінаваны – 2000!

*19 студзеня.* Вадохрышча. Трэцяя куцця. На дварэ снег, завіруха. На тэрмометры – мінус восем. Здаровае надвор’е для ўсяго жывога, для чалавека – таксама. Сёння народ стаіць у храмах, каб асвянціць ваду. І я набраў са сваёй студні два трохлітровікі – пагляджу, як яна будзе стаяць. Бог Зюзя асвянціў маю студню без чаргі. А вада стаіць доўга, таму што сярэдзіна зімы. Калядныя маразы, – праўда, сёлета яны былі слабыя,– знішчаюць усе шкодныя мікробы і бактэрыі. Хітрыя царкоўнікі бяруць прыроду на ўзбраенне. А бацюшка да нас пакуль не прыязджаў.

Схадзіў у лес. Там казачная прыгажосць, хараство і чысціня. Можна маліцца кожнаму высознаму заснежанаму дрэву. Прырода, лес – вось мой храм, дзе ачышчаюся душою, куды нельга ўваходзіць з бруднымі нагамі.

Дзень прайшоў, не бачыў ніводнага чалавека. Сяджу каля грубачкі, пазіраю на жывы, трапяткі агонь. Навукоўцы кажуць: жывы агонь ачышчае біяполе. Мабыць, гэта праўда. Таму гэтак цягне чалавека да вогнішча, да каміна, да грубкі. А мо гэта – кліч продкаў? Агонь ратаваў іх, грэў, карміў, бо электрычнай ці газавай пліты, мікрахвалёўкі ў іх не было. Колькі чалавек усяго прыдумаў, вынайшаў дзеля камфорту, дзеля зручнасці, утульнасці, а сам не стаў лепшым, шчаслівейшым. Самагубцаў цяпер болей, чым раней. Чаму?

*20 студзеня. Чацвер.* Зімовая казка працягваецца. Сёння сем градусаў марозу. Ужо адчуваецца, што дзень падрос, мусіць, на гадзіну, сонца ходзіць вышэй, у зацішку нават прыгравае.

Даўно нічога не пісаў пра палітыку. А падзей мноства! У Маскве парламенцкі крызіс. Уладзімір Пуцін падтрымаў вылучэнне камуніста Селязнёва на пасаду спікера. Хітры ход! Хоча прылашчыць думу, мець падтрымку камуністычнага электарата на прэзідэнцкіх выбарах, і ў той жа час скампраментаваць камуністаў сувяззю з уладай, якая вядзе ў

капіталістычны рай. Сямён Шарэцкі, былы наш спікер, а цяпер апальны дзяяч, жыве ў Вільнюсе, заявіў: "Селязнёў – рафінаваны камуніст, гатовы бацьку роднага прадаць". Насамрэч – палітыка брудная справа.

Сямёна Шарэцкага ведаю даўно. Пасля XIX партканферэнцыі, а ён быў дэлегатам, шэф даручыў мне запрасіць яго ў выдавецтва. У маладыя гады Шарэцкі быў старшынёй калгаса, потым пайшоў у навуку, абараніў кандыдацкую, уладкаваўся выкладчыкам партыйнай школы. Пачаў пісаць артыкулы пра інтэграцыю ў вёсцы, што калгасы трэба аб'ядноўваць у буйныя гаспадаркі, бо толькі яны маюць перспектыву. Вырашыў даказаць практычна. Улады дазволілі яму аб'яднаць пяць калгасаў у адзін. Угаварыў навукоўцаў паехаць туды з Мінска, адкрыў школу мастацтва, мастакі, тэатралы ехалі ў вёску. Я быў з нейкай экскурсіяй, многае мне спадабалася.

Потым Шарэцкі абараніў доктарскую. Яго заўважылі, абралі дэпутатам, а потым і старшынёй парламента. Ён і многія дэпутаты задумалі наладзіць імпічмент прэзідэнту, але прайгралі. І Сямён Георгіевіч мусіў уцякаць у Літву, дзе і жыве на правах палітэмігранта.

Вось і палітычны струмень уварваўся ў мае нататкі. Вядома, я змушаны пісаць коратка. Калі буду размазваць, то нават тоўстага сшытка не хопіць.

*21 студзеня. Пятніца.* Каляды скончыліся, а зімовая казка доўжыцца. Сёння восем градусаў марозік. Цішыня, чысціня. Добра аднаму, але сам сябе не абдымеш, чакаю жоначку. Яна прыедзе заўтра дзённым аўтобусам.

Нарэшце прыехаў бацюшка. Рослы, даволі малады, з кароткай цёмнай бародкай, у даўжэзнай чорнай расе. Прыехаў на сваім "жыгулёнку". Увайшоў у хату, агледзеўся, убачыў на куце абразок, перахрысціўся. Памахаў кадзілам, пачаў малітву хуценькім рэчытатывам. Я ведаў, што ў яго вялікая сям'я: чацвёра дзяцей. Ён спытаўся, з кім я зімую, а я пацікавіўся, адкуль ён родам. "Я костромской, а матушка смоленская". Я дастаў чатырыста рублёў, поп спрытна растапырыў жоўты пласцікавы пакет, у якім ужо было некалькі дробных купюр. "Спасі вас Бог" – мармытнуў на равітанне боскі служка і выкуліўся за парог.

Неўзабаве прыехала аўтакрама. Там вяскоўцы дружна абмяркоўвалі візіт бацюшкі. Сусед Яўген апавядаў: "Я хадзіў у Залессе. Вяртаюся, а насустрач бацюшка. Я кажу, што чакаў яго, трыста рублёў падрыхтаваў. А ён і кажа: "Раз падрыхтаваў, дык давай". Я аддаў яму грошы, ён перахрысціў мяне: "Ідзі з Богам"! Сеў і паехаў, а хату так і не асвянціў". Баба Люся сказала, што пасля адпявання памерлых бацюшка куляе тры чаркі, сам за руль не садзіцца, яго прывозяць і адвозяць, і плацяць вялікія грошы.

*22 студзеня. Субота.* Учора наш прэзідэнт выступаў у Магілёве, даваў разнос мясцовай вертыкалі. Губернатару: "Ставлю тебе единицу". Хіба ж ён школьнік-першакласнік? Хіба ж падначаленыя будуць яго паважаць? Дарэчы, яго нядаўна прызначылі. Значыць, як гаварыў таварыш Ленін, падбор і расстаноўка кадраў кульгаюць. Між іншым, з дня смерці Ільіча ўчора былі 76-я ўгодкі. Як шчыры партыец, маю што сказаць пра ленінізм і камунізм. Але гэта вельмі агромністая і балючая тэма. Дарэчы, прэзідэнт выказаў добрае пажаданне: не бойтесь брать на работу умных людей. Слушна, тым болей, што разумных людзей у нас хапае.

А дзень сёння цудоўны. Можа, самы прыгожы за ўсю зіму. Зыркае сонца, асляпляльна чысты снег, на дрэвах, асабліва на маладых хвойках, бялюткія гурбы снегу, быццам падушкі. Неабсыпаная краса зімы. Здаецца, нешта падобнае ў маіх нататках было раней. Іншых слоў няма калі шукаць.

Дадамо пра пяшчотна-блакітнае неба, пра марозлівы норд-ост: сёння мінус 12. Дыхаецца лёгка, цела наліваецца бадзёрасцю. Хочацца жыць і працаваць, і любіць – таксама!

Іду сустракаць жонку.

*23 студзеня. Нядзелька.* Так люблю нашы назвы месяцаў, што не лянуюся іх паўтараць – кожан Божы дзень. А тым больш – у нядзельку.

Яшчэ адзін казачны дзень. Яшчэ адна казачная ноч. Ева кажа, што гэтакі студзень, як сёлета, падарунак людзям ад нябеснай канцылярыі, а канкрэтна –аднаму маладому пенсіянеру.

Хадзілі па лясных сцежках, снег яшчэ не глыбокі, ісці лёгка. Абое пашкадавалі, што не падрыхтавалі лыжы. Мае тут, а чаравікі, мусіць, у горадзе.

Ева прывезла газеты. Начытаўся! Свет бурліць, нібы вада ў катле. Пра многія падзеі чуў па радыё, пра некаторыя пісаў. А тут пра адну жыццёвую публікацыю, далёкую ад палітыкі: як харчаванне ўплывае на характар. Амерыканскія вучоныя апыталі 1010 дарослых людзей і ўстанавілі: тыя, хто любяць яйкі ўсмятку – кампанейскія, шчаслівейшыя, людзі, якія любяць вараныя яйкі – неарганізаваныя, маюць болей шанцаў на развод. Аматары яечні цалкоў (*глазуньи*) валодаюць большым сэксуальным патэнцыялам, гэта прадстаўнікі сярэдняга класа, тыя, хто любяць амлет – дысцыплінаваныя, але часта бяздзетныя. Пра аматараў сырых яек – ні слова. А я люблю выпіць чарку і закусіць сырым яйкам ад сваіх чубатак.

Хачу спаць. Адбой!

*24 студзеня. Панядзелак.* Колькі людзей хочуць, плануюць пачаць з панядзелка новае жыццё! Я хачу, каб пачаў жыць па-новаму наш Косця. Ева сказала, што ёсць зачэпка ў прыватнай будаўнічай фірме, у якой працуе ягоны аднакурснік. Нібыта з 1 лютага Косця пачне працаваць. Годзе маладому мужыку ляжаць на канапе і чытаць усё падрад, а ноччу гуляць у капмпутарныя войны. Заўсёды памятаю, што не я ягоны бацька, але ж я гадаваў яго, вучыў, упхнулі з Евай у інстытут. Мусіць, будаўнічы факультэт не яго прызванне, ён гуманітарый, можа, быў бы добрым выкладчыкам літаратуры. Ева настойвала на будаўнічым факультэце – там працуе яе знаёмая, прафесар, яна памагла паступіць. Скончыў, а працаваць не хоча. Каб якая дзяўчына яго акруціла ды прымусіла зарабляць на жыццё. Малыя дзеткі – малыя бедкі. Ісціна!

Радыё паведаміла, што ў студзені памерла нашмат болей людзей, чым звычайна. Маўляў, многім хацелася дажыць да 2000 года. Дажылі – і капцы. Пайшлі ў лепшы свет. Між іншым, і я часцяком думаў: трэба дажыць да мяжы тысячагоддзяў, а цяпер стаўлю сабе задачу – да 2017 года, каб пераканацца, як чалавецтва ацэніць Кастрычніцкую рэвалюцыю. Хай сабе я не быў партыйным функцыянерам, як сябра Сахута, але ж 30 гадоў быў камуністам. Узгадаўся анекдот: загадаў Брэжнеў ажывіць Леніна, прывезлі жывога правадыра ў Крэмль. Уранні заходзіць у яго кабінет Леанід Ільіч і бачыць запіску ад Леніна: “Уехал в Женеву. Надо начинать всё сначала”.

А можа, так і здарыцца: нацешымся будаўніцтвам рынкавага капіталізму, а потым возьмемся за будоўлю мадэрнізаванага, як у кітайцаў, камунізму? Чаго не бывае на свеце!

*25 студзеня. Аўторак.* Маразюган мацнее, сёння – 13-15 градусаў. Хто ці што не дае мне спаць? Прачнуўся а трэцяй, лёг каля 11. Спаў усяго чатыры гадзіны, болей не заснуў. Чытаў А. Зіноўева “Зияющие высоты”.

Некалі гаварыў пра гэтую кнігу Андрэй, ды не было калі да яе дабрацца. Аўтар піша пра жыхароў горада Ібанска. Іхняга кіраўніка, вельмі падобнага на Мікіту Хрушчова. Увогуле Зіноўеў – глыбокі філосаф, таленавіты пісьменнік, паэт-гумарыст. Кніга – бліскучая сатыра на савецкае жыццё. «Зияющие высоты», «Архипелаг ГУЛАГ» Салжаніцына, іншыя яго творы ідэалагічна раззброілі СССР, падарвалі веру савецкіх людзей у камуністычныя ідэалы. І што самае дзіўнае: абодва аўтары цяпер льюць слёзы: Зіноўеў плача па сацыялізму, крычыць, што сацыялізм не вычарпаў свой рэсурс, кляйміць перабудову, а Салжаніцын плача па вялікай Расіі. Так, мае рацыю Леў Талстой: человек текуч – мяняецца, як і ўсё на свеце.

Зірнуў на каляндар і спахапіўся: сёння Тацянін дзень, а я ніводную Тацяну не павіншаваў. Дый як я мог гэта зрабіць? Калі нават тэлефона не маю, пошта далёка. Стаміўся ад адзіноты, таму і не спіцца. А да выхадных далёка.

*26 студзеня. Серада.* Мароз не здаецца – ноччу мінус 19, удзень абяцаюць сіноптыкі каля дзесяці градусаў.

Затое якая прыгажосць на двары! Чысты, бялюткі снег, бадзёрае, марозлівае паветра – удыхнеш, аж ноздры зліпаюцца. Адно кеспка – сам сябе не абдымеш. А па радыё сказалі: каб выжыць у наш пераломны час трэба абдымацца чатыры разы ўдзень, а каб жыць напоўніцу –восем разоў! А каго тут абдымаць! Нават ваўчыцы ў лесе няма. Хіба казулю прыручыць?

Пайду заўтра па малако ў Бярозкі, сустрэнуся са спадарыняй Ліляй, народжанай у суровым партызанскім лесе, якая ніякіх сантыментаў не дапускае і блізка, але пагаварыць пра жыццё любіць, бо і ёй самотна. Прачытаю Васіля Фёдарава:

Стареньким железом крыша крыта,
И под ней, увенченной трубой,
Хорошо на время быть забытым
Верными друзьями и тобой.

Так, «на время», можа, і добра, а лепей, каб не надоўга. Радкі гэтыя лепш пачытаць Еве.

*27 студзеня. Чацвер.* Дзівосы ў прыродзе – гэтак рэзка зламаўся мароз. І вуглы хаты не трашчалі, сёння –мінус два. І рэзкі паўднёвы вецер, які прынёс такую перамену надвор'я.

Схадзіў па малако ў Бярозкі. У лесе было хораша ісці, а перад вёскай вятрыска рэзаў у твар. Каля вёскі могілкі. На даўніх каменных плітах надпісы скрозь па-польску, потым– на расейскай. А дзе ж на роднай мове? Во, чаму беларусы не гавораць на сваёй мове: касцёл і царква адвучылі! І адвучваюць зараз. Праўда, касцёл павярнуўся да Беларушчыны, а папы ніяк. І не толькі таму, што многіх прыслалі з Расіі, як айца Нікадзіма з матушкай, хапае сваіх дамарослых манкуртаў у папоўскіх расах.

У Бярозках мяне чакала не толькі гаспадыня, а і гаспадар. Пачаставалі кавай з вяршкамі – дарэчы, было вельмі смачна. Трохі пагаварылі пра жыццё-быццё.

– Ну што, марозік зламаўся. Пайду гной выкідаць ад каровы, – падняўся з-за стала гаспадар.

– Пачынай. Я памагу. А заўтра на матаблоку развязем па гароду,– заклапочана прамовіла Ліля.

Я шчыра падзякаваў за каву, заплаціў за малако, узяў свой трохлітровік і крутнуўся за парог.

*28 студзеня. Пятніца.* А сёння яшчэ цяплей – плюс адзін.

Учора паглядзеў фільм пра Леніна. Уразіла ягонае каханне да Інэсы Арманд. Было ў яе два мужы, ад першага мела чацвёра дзяцей, адно ад другога. А потым палкае каханне да Ільіча. Крупская з ёй сябравала. Во, разумніца! Эдуард Лімонаў называе Леніна выдатным менэджарам рэвалюцыі. Што значыць рынкавы капіталізм – менэджар! Ён стварыў партыю, умела скарыстаў сітуацыю, падрыхтаваў каманду. Усё правільна.

Трагічны лёс дзяцей самарскага двараніна Ільі Ульянава. Старэйшага сына павесілі, Ленін аддаў жыццё рэвалюцыі, малодшую дачку Вольгу, таленавітую, разумную, нідзе не прымалі на працу, яна не змагла жыць з «воўчым білетам» і памерла. Калі б не павесілі старэйшага брата, Валодзя Ульянаў, пэўна, не стаў бы Леніным, менэджарам рэвалюцыі. Адно зло пацягнула за сабою другое. У выніку – мільёны ахвяраў, мора крыві чалавечай. А можа б, не Ульянаў, дык Пляханаў, Джугашвілі-Сталін, Бухарын, Каменеў, Кіраў ці нехта яшчэ стаў бы менэджарам рэвалюцыі. Калі скулка наспела, дык яна павінна прарваць. Нарыў лопнуў. Але ж усё магло быць па-іншаму, цывілізавана, як прапаноўваў Пляханаў. Гісторыя Расійскай імперыі зрабіла круты зігзаг, а праз семдзесят чатыры гады – новы круты паварот: назад у мінулае, ці назад у будучыню?

Вось і мяне занесла. Але як бы ні «заносіла», сваё слова трымаю, ужо блізка месяц 2000 года вяду ўпарта свае запісы. Сёння перачытаю і буду вырашаць: псаваць паперу далей ці на гэтым скончыць?

Заўтра еду ў горад.

*29 студзеня. Субота.* Лагодны, мяккі дзень – плюс два. У горадзе адліга, а ў вёсцы снег як ляжаў, так і будзе ляжаць.

Перачытаў учора свой «метэадзённік». Здаецца, цікава. Шмат што забылася б, калі б не занатаваў. Нездарма старажытныя лаціняне казалі: напісанае застаецца. Буду пісаць далей. Ева падтрымлівае. Чым бы дзіця не цешылася...

Хадзілі з Евай па магазінах. Усё ёсць, аж вочы разбягаюцца: купляй, набывай і ніякай табе чаргі, але... дзе ўзяць «купіла»? Няма ў людзей грошай. Некалі камуністы баяліся павысіць цэны, таму і ў краме была нястача, як пісаў калісьці наш славуты байкар Кандрат Крапіва.

Патэлефанаваў Сахуту – заўтра ўранні пойдзем у лазню з басейнам. І папарымся, і паплаваем, і пра жыццё-быццё пагамонім. Здзічэў я ў вёсцы. Удыхнуў паветра цывілізацыі, хай сабе і смуродлівае. Дарэчы, машын у горадзе паменела – народ эканоміць, паліва кусаецца, дый субота сянні, няма куды спяшацца.

*30 студзеня. Нядзелька.* Які гэта цуд – лазня! Ды яшчэ з басейнам! Добра, што прывёз у горад пару венікаў, калі ездзіў на машыне. Андрэй прынёс свой – у яго чыста бярозавы, а ў мяне – камбінаваны: дубовыя і бярозавыя галінкі, а ўсярэдзіне – тры галінкі палыну. Букет! А водар незвычайны! Усцешыла, што і называецца “Лазня” на роднай мове, праўда, мяккага знаку не стае. Людзей было поўна: мы дамовіліся на палову дзевятай, адчыняецца лазня а восьмай. У чарзе не стаялі, тазікі і шафы знайшліся.

А якія цікавыя размовы ў лазні! Тут усе роўныя, у большасці – знаёмцы, свае суполкі. Адзін мужык з кароткай сівой бародкай, акурат прафесар, кажа сябру, мажному здараўяку: “Ну-ка, урэж мне з усёй пралетарскай нянавісцю.” – “Ды што ты, Пятровіч? Я цябе лагодна апрацую. Нянавісці ў мяне няма”, – і давай хвастаць па спіне сябрука.

Або заходзіць невысокі каржакаваты мужычок у будзёнаўцы з вялікай чырвонай зоркай.

– Ну што, браткі, паддаць? – Толькі ж паддавалі. – Дык жа духу няма ні халеры. –А ты падыміся на верхнюю паліцу. – Ну, хай троху кіне. 127 грамаў з паловай, –пачуліся галасы. Атрымаўшы дабро, будзёнавец узяў даўжэзны коўш, расчыніў дзверцы – я ўбачыў малінава-чырвоныя камяні, – засіліў гарачай вады і чабурэхнуў у печку. Адтуль выбухнула гарачая пругкая хваля.

– Што ж ты робіш, разбойнік! – з усіх бакоў пачуліся галасы.

З верхняй паліцы народ сыпануў уніз.

– Я сваю кандыдатуру здымаю...

Таўсматы мужык з піўным чэравам згроб посцілку, на якой сядзеў у чаканні партнёра з венікам, і шуснуў уніз. Мы з Андрэем угнулі галовы, але, як “цвёрдыя іскраўцы”, вытрымалі. А будзёнавец ускараскаўся на верхнюю полку і пачаў хвастаць сябе па плячах, па спіне, прыгаворваючы: “Ах, як добра! Во, гэта дух! Хопіць на двух...”

Пасля парыльні нырнеш у басейн. Асалода!

Ёсць тут і бар, уваход з тарцовай сцяны лазні. Вядома ж, маецца і гарэлка, і каньяк, і розныя віны. Мы на радасцях асушылі па два кухлі піва, хораша пагаманілі. Вырашылі праз два тыдні сустрэцца яшчэ. Лазня – гэты чысцілішча для душы і цела.

*31 студзеня. Панядзелак.* Зноў бярэцца марозік. Сёння мінус тры, назаўтра “Тэлебарометр”, дарэчы, цікавая беларускамоўная перадача, абяцае мінус дзесяць-дванаццаць. Паеду сёння ў вёску, на жаль, вячэрнім аўтобусам – іншага няма. Прыйду ў ледзяную хату а палове дзевятай, гадзіны чатыры буду грэць сваё жытло. Потым абкладуся пласцікавымі бутэлькамі з гарачай вадой і буду спаць, як суслік, без выпіўкі і сэксу. Я, здаецца, пісаў, што вычытаў пра актыўны сэкс у аднаго аўтара. Раней бы такое не надрукавалі, а зараз можна: галоўліта няма. Я цалкам згодны з аўтарам, яшчэ б дадаў: хораша спіцца пасля лазні. У мяне ўчора была і лазня, і піва, увечары з Евай выпілі віна, і былі моцныя абдымкі і моцны сон. Каб не сядзеў у вёсцы тыдзень, такога б не было. Вітаю я кароткія расстанні і моцныя абдымкі пры спатканні. Нават на вершы пацягнула.

Прыемная навіна: Косця пайшоў сёння афармляцца на працу. А заўтра на будоўлю – з першага лютага пачне новае жыццё. Ева аж свеціцца ад радасці. Кажа, што нейкая дзяўчына часцяком тэлефануе яму. Хадзіў у кіно, на каток. Можа, зацугляе хлопца.

Вось і прамільгнуў першы месяц унікальнага года – двойка з трыма нулямі. Можа, і добра, што сёе-тое запісваю. Наперад, уюнаша!..

Мікіта Найдзёнаў



...кахаць –

гэта дзеяслоў...

# Культ акалічнасці

* * *

З табой бы ў Рым ляцець,
у Лондан і Мадрыд.
А гадаваць дзяцей
ці афармляць крэдыт...

З табой пра сучбелліт,
пра Клімта і Лежэ.
А весці нейкі быт,
а планаваць бюджэт...

Не ведаеш, чаму?
Паэт – ні даць ні ўзяць.
Ну што з цябе за муж,
які ты будзеш зяць?

Даўно прайшлі часы
мільённых тыражоў.
Хай грошы не касіць,
тут не прасіць бы ўжо.

За зборнік свой аўто
не возьмеш нам чаму?
Не футра – паліто
як справіць на зіму?

Жыві музеем муз
і ззяй, як здольны ззяць.
Але ж які ты муж?
Які ты будзеш зяць?

* * *

Гэтак балела злева.
Думаў, ад настальгіі.
Выклікаў хуткую, усё ж небяспечна.
Кажуць, міжрэбравая неўралгія.
З сэрцам нармальна.
Я ж бессардэчны.

### *ГАГЕН*

Быць Гагенам – афігенна:
хочаш – кінуў жонку з дзецьмі,
знік сабе на выспах дзесьці.
Скажуць: гены. Скажаш: геній.

Мог жа быць звычайным Полем,
мець прыстойную кар’еру.
Хай бы не вышэй ад столі,
дык і не на дне кар’ера.

Можа ён крыху паехаў,
як паехаў на Таіці?
Адгукнуўся дзікім рэхам.
Ён паехаў. Вы – стаіце.

Скажуць, даўн, трэснуў шыфер,
з’ехаў з Францыі і з глузду.
Пазначайце шрыфтам тлустым:
**ён быў першы даўншыфтар**.

## *КУЛЬТ АКАЛІЧНАСЦІ*

Ты не ведаеш, чым усё скончыцца можа,
дзе, як і калі.
І ад гэтай бездапаможнасці
акалічнасці
набіраюць памеры культу,
прымаюць нехеровыя такія маштабы!
Скуль ты
ўзяў, што ты валадар пярсцёнкаў, ці ўладар мух хаця б?
Уладальнік дэпрэсіі – хутчэй за ўсё,
канапных спраў дзеяч – безумоўна.
Але ж тое-сёе
ты ўжо змог.
Напрыклад,
здолеў уцяміць, што жыццё закароткае,
каб думаць, што думаюць пра цябе іншыя.
Зразумеў, што часам добра, калі ты паголены,
а часам, калі з бародкай.
А яшчэ,
што не ты, а цябе
вершы пішуць.

## *РЫБЫ*

Прызн*а*ю тваю незалежнасць,
сваю нежалезнасць
і тое, што мне
цяпер больш не належаць
твае вершаванні,
хай перажывалі,
цяпер перацерлі ўсё,
перажавалі.

Прызн*а*ю памылкі,
няхай са спазненнем,
з трызненнем.
Прызнанне схаваю,
каб жыць кожны дзень ім,
глядзець вінавата
і finitавата,
каб стала нарэшце ўсё
ванітавата.

Ізноў пракручу,
завярчуся вавёркай.
І горка – у горле,
і сумам агорне.

Хацелі,
ды толькі ж не выйшлі сухімі.
Напэўна,
патрэбны былі тыя хібы
каб зараз глядзець і маўчаць
нібы
рыбы.

## *РЫЖЫ ВЕРШ*

*Жывеш, жывеш і – хоба – рыжы верш.*

З таго часу, як ты сышла,
я ператрахаў цэлы парламент.
З таго часу, як ты сышла,
не было ні дня, каб я не пачытаў, што там у цябе адбылося.
Хутка два гады
твайго шчаслівага сямейнага жыцця
і тры, як ты сказала мне "давай да світання".
Але час ад часу
мы выпадкова бачымся на рыжых, як ты, імпрэзах.
І калі я праводжу цябе,
то настойваю, каб ты зашпілілася,
хоць так тваё паліто напраўду выглядае горш.
Яшчэ радзей – але такое таксама здараецца –
ты прыходзіш на мае канцэрты.
Аднойчы нават – на мой спектакль.

*Ты падарыла мне кветку ці можа капусту, а потым забыла.*

І пакуль гледачы пад уражаннем шукалі аўтара,
мы з табой цалаваліся за сцэнай.
Упершыню з таго часу, як ты сышла.

Я пытаюся, калі ты збіраешся разводзіцца.
І выбіваю глебу з-пад ног.
Ты не чакаеш такіх пытанняў.
Бо там стабільна, цёпла і сыта.
Бо там кватэра ў Зялёным лузе, машына і мамазэбэст.
Ах так, у вас жа яшчэ сабака. Таму развод немагчымы.
Але ты кажаш: кахаю. А вочы кажуць нешта такое,
што табе проста бракуе перцу,
і ты прыходзіш па яго да мяне, свайго былога.
Ты кажаш: кахаю. І застаешся па-ранейшаму са сваім мужам.
Я кажу: кахаю. І сыходжу ад сваёй дзяўчыны.
Кахаць – гэта дзеяслоў.

### *ЗАЙЗДРАСЦЬ*

Мне таксама баліць.
Мне таксама бамбіць,
ці, папросту сказаць, нервуе.
Я зайздрошчу часцей,
чым зайздросцяць усе,
але гэта мяне й матывуе.

Вочы сцеле азарт,
каб і сам напісаў
клёвы верш, альбо песню хітовую.
Для мяне як клішэ:
ты вышэй – я вышэй.
Зайздрасць – вось, што мяне падштурхоўвае.

### *НОЧ ПАЭЗІІ*

Мы знаёмыя толькі вечар, а я ўжо ведаю твой пін-код,
колькі каштуе твой мані- і педыкюр,
прызнаюся ў сімпатыі, а яшчэ ў тым, што шукаў нагод
пазнаёміцца
можа год,
ну ладна, загнуў крыху.

Я пытаю адразу, ці ёсць у цябе хто,
і станоўчым адказам не здзіўлены ніколькі.
Не, я не Дон Кіхот /donkey hot/ і гэта не тонкі ход,
проста думаю, як не займець сінякоў.

Але – не.

Справа толькі ў табе і ўва мне.
Ты такая высокая і смяешся з маіх жартаў.
І я дзіўлюся, чаму цябе не сустрэў раней,
таму і цалую – так упарта – ледзь не са старту.

### *УЦЁКІ*

Чарговы раз, калі мы зноў выпадкова сустрэліся,
ёй трэба было спяшацца да мужа. Я вырашыў не
ўваходзіць у яе становішча (колькі ж можна),
а правесці яе да законнага абранніка.
На праспекце яна запанікавала, бо хазбэнд мог нас
пабачыць разам. Яна сказала, што будзе бегчы. Я сказаў:
“Бяжы”. І яна пабегла. Ад мяне.

Ляцела па праспекце
і ўся знутры дрыжэла,
што позняе паветра
раптоўна парыжэла.

Нібы гуляла ў салкі,
і вось чарга на ўцёкі:
у сонечнае “заўтра”
ад страчанага “сёння”.

Я разумею, што гэта чысты Раждзественскі, але нічога не магу з сабой зрабіць. Гісторыя адзін у адзін. Што яна там сабе думала, я магу толькі здагадвацца.

Спяшалася ўнікуды,
зноў ад сябе, вядома,
зарыфмаваць пакуты
і выкласці рандомна.

Як ад мянтоў злачынцы,
ад кантралёраў зайцы,
бягуць, каб не спыніцца.
Але ж ніхто не гнаўся.

* * *

Вострая, бы лязо, –
можна парэзацца.
Я забываў сто разоў
і выдумляў назоў
для гэтай гарэзы.

Вогненная, бы жар, –
горача браць рукамі.
З гор бачыў, як дрыжаў,
калі праводзіў да Каменкі.

Першая, нібы раней
і не было нікога.
Проста знайшла мяне
ці я знайшоў і знямеў,
забыўшы рэжым інкогніта.

Стромна, што скажа, калі
яе папрашу застацца.
Трэба нейк перакуліць
і перакурыць сітуацыю.



Анатоль Бутэвіч



...і вяскоўцы бываюць добрымі і спагадлівымі.

Хоць, праўда, не ўсе...

# “Не трэба мне бераг турэцкі...”, або Хутар не вёска, а журавы не салаўі

***Рэфлексія хутарской настальгіі***

Стаяла сярэдзіна восені. Цёплай і надзіва вабнай. Такой ласкавай асенняй пары Янак не помніць даўно. Таму і на дачы сваёй паспеў усё парабіць і ўпарадкаваць, а цяпер толькі забаўляўся, як казала ягоная Янка, купаўся ў прыродзе і непаўторна прыемным наваколлі. Бойкі на язык, Янак не бліскаў на яе вачыма і не браў да вушэй жончыны словы. Проста працягваў свае “дзіўна назіральныя справы – бібікі біць” – так падначвала Янка, калі ёй патрабавалася падмога, а Янак не стамляўся лашчыць вочы ў далёка-глыбокім блакіце.

На неба ён мог пазіраць гадзінамі, ніколі не стамляўся і не расчароўваўся. Для яго нябесная вышыня ніколі не была аднолькавай, а там больш нецікавай. Неба заўсёды заварожвала сваімі незвычайнымі здольнасцямі архітэк-

тара і будаўніка ў адной асобе. Такіх дзівосных і сапраўды незямных канструкцый, каб і хацеў, не прыдумае ніводзін, хай сабе самы найлепшы зямны дойлід. Нават Янак, былы галоўны архітэктар раённага цэнтра, вочы якога бачылі не адну сотню розных праектаў, які лічыў сябе не апошнім чалавекам у будаўніча-стваральнай справе, не мог прывыкнуць да нястомна творчай нябеснай дзейнасці. Праўду кажучы, ён дагэтуль не верыць, што нябесныя палацы і рэзідэнцыі ствараюцца самі па сабе, без папярэдняй творчай задумы, без чужога разумнага ўмяшання.

Гэтае Янакава захапленне выявілася яшчэ ў далёкім ужо дзяцінстве. Калі пасвіў кароў на хутары, любіў класціся на мурожную траўку, падкладваў рукі пад галаву і да мурашак у вачах узіраўся ў неба. І такія пачуцці апаноўвалі яго тады, адносілі так далёка (а мо высока?) ад зямных клопатаў, што ажно не хацелася нічога рабіць. Не, гэта не зусім праўда, бо калі б нехта паклікаў яго наведаць тыя нябесныя гарады-паселішчы, Янак кінуў бы ўсё зямное і хоць на крыллях, хоць на веніку паляцеў бы хай сабе на сёмае, хай на дзясятае ці якое там яшчэ неба. У мроях то ён бываў там даволі часта. Але вось каб рэальна, каб папраўдзе, то не выпадала ні разочку.

Ягонае захапленне было бязмежным. Нават тады, калі каровы, пазбаўленыя пастуховай апекі, дачасна кіравалі па ўтравелай палявой дарозе на свае надворкі, хлопец не апускаўся з нябеснай вышыні на зямлю.

Вось і цяпер было акурат тое самае. Янак так захапіўся нябеснай будоўляй-перабудовай, што нічога іншага не бачыў, нічога не адчуваў, акрамя аднаму яму чутнай нябеснай мелодыі.

Ды нечакана нешта трывожлівае варухнулася ў ягонай душы, штосьці нязвыклае для вуха змусіла наструніць слых. У лагодную нябесную музыку дысанансам уварвалася нейкая тужлівая нотка. Янак не адразу сцяміў, што гэта курлыканне жураўоў. Даволі вялікім клінам яны ляцелі ў свой далёка-далёкі вырай. Ды, відаць, дарога гэтая была не надта вабнай, бо такой тугой і болем гучала іхняя развітальная песня, што, здавалася, здрыгануліся тыя нябесныя пабудовы, якія толькі што вабілі Янкаў зрок. У мужчыны неспадзеўкі нагарнулася на вока трывожліва трапяткая плёнка-намітка, засвярбелі вейкі і нешта калючае варухнулася ў грудзях. Каб не нечаканае і самахоць набеглае кашлянне, то мо гэты балючы камяк у горле наогул перахапіў бы дыханне. Янак кашлянуў, гарляк здрыгануўся, камяк праскочыў некуды ўнутр, дыхаць стала лягчэй.

“Жураўы-жураўлікі, жураўачкі – вы мае дарагія, як жа я вам спачуваю, – хацелася вымавіць Янку, але птушкі ўсё адно не пачуюць, а тут блізка была ягоная Янка, якую ён не хацеў турбаваць сваімі надта эмацыйнымі перажываннямі. І таму толькі ў думках пажадаў: – Добрай дарожанькі вам, родныя, – і дадаў, уздыхнуўшы: – І хуткага вяртання дадому”.

Праводзіў позіркам жураўоў, і набегла на памяць колішняе, даўняе.

Тады Янак жыў на адным з нясвіжскіх хутароў. Быў зусім малы. Нават у школу яшчэ не хадзіў. Ды некаторыя літары ўжо ведаў, але асабліва любіў “крывыя”, як казаў ягоны бацька, малюнкі ў часопісе “Вожык”. І ўсё ж найбольш падабаліся яму вершы. Праўда, ён тады не разумеў, што гэта такое. Але, слухаючы дэтэктарны прыёмнік у дзеда Косціка, не мог адарваць вуха, калі там гучалі такія шчырыя, такія блізкія і амаль што Янакавы словы – пра марозны звонкі вечар, пра санкі на снежным

прасторы, пра дрыготкія ад марозу зоркі на небе і нават пра іхнія белыя ад квецені вішні. Што гэта былі менавіта вершы, ён не ведаў, як не маглі патлумачыць і ягоныя бацькі, для якіх куды больш зразумелымі былі клопаты хлебасееў, чым высокія паэтычныя матэрыі. Душой яны адчувалі, а вось каб давесці гэта да сыночка, не хапала слоў.

Той дзедаў прыёмнік наогул быў для Янака дзівосным адкрыццём далёкага ад хутара свету і самым першым настаўнікам. Чаго толькі не пачуў ён з чорных слухавак.

І вось аднойчы...

Бываюць жа нечаканыя супадзенні. Янак зразумеў гэта нашмат пазней, паверыў у прадвызначэнне і не раз праверыў на ўласным вопыце. У ягоным жыцці даволі часта здаралася так, што нешта перадуманае, прымроенае рабілася праўдай, збывалася. Акрамя хіба што падарожжа на сёмае неба. А таму, што мусіла неўзабаве стацца, папярэднічала нечаканая і напачатку не зусім зразумелая падзея: ці то нечая показка, ці то нешта пачутае па радыё альбо ад людзей, ці то нейкае іншае прадказальнае сведчанне.

Так было і тым разам.

Па хутары пачалі гуляць пострахі, што неўзабаве ўсіх ягоных жыхароў будуць перасяляць у вёскі. Не пытаючыся іхняй згоды, але дзеля іхняга ж дабра. Хопіць быць здзічэлымі хутаранамі, пара жыць у калектыве. Пра гэта на адной з ранішніх нарадаў на калгасным двары прагаварыўся брыгадзір. Гэта быў удар абухом па галаве. Ведама што, для таго і б'юць, каб балела. Але пакуль не было афіцыйнага загаду, хутаране верылі і не верылі пачутаму. Хоць ужо не аднойчы пераконваліся, што нават адно слова з вуснаў любога начальніка неўзабаве рабілася явай. Таму не раз і не два перагаворвалі брыгадзіравы словы, перабіралі іх па костачках-літарах, абмацвалі з усіх бакоў: дзесяць разоў адмерай, перш чым адзін раз адрэжаш. І не выключалі, што такое можа сапраўды стацца. Бо вунь у суседніх раёнах былой іхняй Заходняй Беларусі на самой справе пачалося ссяленне хутароў. Праўда, не асабліва ахвочыя да такога казалі, што там адбывалася ўсё выключна добраахвотна, без прымусу. Калі не захочаш, то й не паедзеш у вёску. Ды разумелі сяляне: там добра, дзе нас няма, а кожны начальнік сваё слова хваліць. Навучаныя, а мо лепш сказаць правучаныя жыццём, нядаўнія гаспадары ўласнай зямлі, а цяперашнія беззямельныя навабранцы-калгаснікі, на сваім гарбе спазналі і той прымусовы абавязак, і зверху спушчаную добраахвотнасць. Вядома, што кожнаму свая бяда баліць, ды бяда ж і яднае, гуртуе.

Янакавы бацькі непакоіліся асабліва: кожнаму свая болька ў галаве. Хоць і ніколі не жылі як у Бога за пазухай, не былі багатырамі, ды не мелі абсалютна ніякага жадання бурыць свае няхай сабе не вельмі шыкоўныя пабудовы, агораныя зусім нядаўна ўласнымі высілкамі, і перціся невядома куды. Ад дабра дабра не шукаюць.

Калі гэту трывожлівую гаворку ўлавіла Янакава вуха, ён спалохаўся мо яшчэ больш за бацькоў. Бо невядома, што такое гэтае перасяленне, куды адбудуцца пярэбары, што і як там будзе. А яму ж на будучы год у школу ісці. Ды і прывык Янак да хутарской вольніцы. Прызвычаіўся так, што іншага і ўявіць сабе не мог. І не хацеў. Таму ўнутры ў хлапца нечакана пасяліўся такі страх, мацнела такая трывожліва-трапяткая напружанасць, што часам ажно есці не хацелася. Першы раз на маміна запытанне, што з ім, прамовіў, што нічога. Але на яе пільны недаверлівы позірк адказаў:

– Не паеду я ў тую вёску.

І каб апярэдзіць далейшыя маміны допыты, патлумачыў:

– Я не люблю вёску. Цесна там. І сонца мала.

Якое пытанне, такое і адпавяданне.

Маці і сама не рвалася туды, але такая сынава рашучасць насцярожыла яе. І каб заспакоіць сына, параіла схадзіць да дзеда Косціка. Паўбуханкі хлеба аднясе, якую пазычала, а заадно весялей будзе там. Дзед умеў іграць на гармоніку, ды і дзедава "радзіво" расказвала шмат цікавага.

Янак пайшоў. Дзеда ў хаце не было – касіў траву для каровы на блізкім поплаве. А баба Воля, каб заняць унука, параіла паслухаць радыё, мо казку якую пачуе.

Янак уключыў прыёмнік. Звыкла круціў туды-сюды чорнае колца, пакуль у навушніках не загучала нейкая мелодыя. Янак мо і прапусціў бы яе, але ж вельмі чуллівай падалася яна, яе трывожлівыя словы моцна зачапілі нейкую нябачную душэўную струну. І Янак пачаў слухаць.

Летят перелетные птицы
В осенней дали голубой,
Летят они в жаркие страны,
А я остаюся с тобой.

Як толькі прагучала "а я остаюся с тобой", Янак да болю ў вушах напружыў слых – каб не прапусціць ніводнага гэткага жаласлівага ў вуснах нябачнага спевака слова. Здавалася, той стараецца спецыяльна для Янака, спявае толькі яму, бо зразумеў ягоныя пачуцці, намагаецца падтрымаць іх.

А я остаюся с тобою,
Родная навеки страна;

Голас гучаў пераканаўча, выклікаючы ў Янака шчымлівае суперажыванне. Ён ажно мыляў губамі, паўтараючы за спеваком ягоныя пранікілівыя словы:

Не нужен мне берег турецкий,
И Африка мне не нужна.

Словы гэтыя так даткнуліся да патрывожанага магчымым пераездам Янкавага сэрца, што ўнутры нешта пахаладзела. Запяршыла ў горле, нахапіўся кашаль.

Дык гэта ж песня пра іх! Пра іхняе ссяленне з хутара. Пра ягоныя, Янакавы, пачуцці. І як гэта той нябачны спявак ведае пра іхнюю бяду? Як здолеў адчуць яе? А мо ён і сам хутаранін? Мо і яму загадалі перасяляцца, а ён не хоча? Бо вунь, бачыш, што спявае: "Не нужен мне берег турецкий, и Африка мне не нужна". Янак то й не ведаў, калі казаць папраўдзе, што такое тая Афрыка, і дзе той турэцкі бераг. Але песня была яму такая блізкая, такая балюча кранальная, такая свойская, што ён ажно рот разявіў, каб не прапусціць ніводнага слоўка:

Немало я стран перевидел,
Шагая с винтовкой в руке,
Но не было большей печали,
Чем жить от тебя вдалеке.

Бачыш, спявак пабываў ужо ўдалечыні ад свайго дома. Але быў там

з вінтоўкай у руках. Значыць, на вайне быў. А гэта зусім іншая справа. Мусовая. Не з уласнага жадання пашыкаваць дзесьці ўдалечыні ад роднага парога сыходзіў з дому. Клікаў абавязак бараніць сваю хату, сваю зямлю, сваю краіну. Як зусім нядаўна рабілі гэта Янакавы суседзі-хутаране.

Чым больш услухоўваўся Янак у словы песні, у яе мелодыю, тым больш мацнела ў яго нежаданне з'язджаць з хутара. Свайго хутара. Дзе і цяплей, і весялей, і самае мо галоўнае – так прасторна, так вольна, так сонечна, як не будзе нідзе. Ні-дзе! А ён жа і лясок свой пасадзіў. Каля плота, які іхні агарод аберагае. Панапрыносіў вясной і восенню з недалёкага Школьнага лесу бярозак, асінку, колькі хвоек. Пару елачак пасадзіў. І што дзіўна нават самому – усё прыжылося, пачало расці. А цяпер што – пакінуць усё гэта чорту лысаму? Як кажа мама: кінуць-рынуць і лецьма ляцець у белы свет як у капейку?

А спявак усё паддае эмоцый. Ужо і сэрца Янакава пачало стукаць мацней, гучней, хоць ён ніколі не адчуваў яго і нават не ведаў, дзе яно знаходзіцца.

Летят перелетные птицы
Ушедшее лето искать,
Летят они в жаркие страны,
А я не хочу улетать,
А я остаюся с тобою,
Родная моя сторона;

На гэтых словах сэрца Янкава ажно зайшлося: гэта ж трэба так пранікліва, так праўдзіва, так балюча.

Не нужно мне солнце чужое,
Чужая земля не нужна.

"Не. Я так-сама не хачу ні-ку-ды ляцець, – ледзь не паўтарае Янак. – І я застаю-ю-юся з табою".

Ён ажно крактаць пачаў, як дарослыя падчас цяжкай працы. А тады нечакана адчуў, што гэтыя словы нейкімі нябачнымі малаточкамі моцна стукаюцца ў скроні, чаго раней ніколі не было.

"Не, непатрэбна мне чужое сонца. Мне і свайго хапае. І зямлі хапае. Не трэба мне чужой. Не хачу ні ляцець адсюль, ні з'язджаць".

Спявак закончыў, а Янак усё ніяк не мог астыць ад ягоных эмоцый. Так зачапіла, што хоць ты плач. Ён то мо і заплакаў бы, каб палягчэла – не раз рабіў так, калі было ад нечага асабліва горка і крыўдна. Дапамагала. Але ж побач была баба Воля. Не выпадае перад ёю слёзы ліць, смяяцца будзе.

А чужая зямля, чужая вёска яму і праўда непатрэбныя. Цвёрда вырашыў: ён застанецца тут, на сваім, на іхнім хутары. Хай бацькі, калі хочуць, едуць, а ён не паедзе. Схаваецца і не паедзе.

Гаспадаром слова аказаўся дашкольнік Янак.

Неўзабаве нясмелыя людскія гаворкі пра ссяленне сталіся праўдай. Разбурылі хату Янакавых бацькоў, раскаталі па бярвенцу. Што паламалася, а што пагрузілі на падводы і ў вёску павезлі. Там пачалі новае жытло ладзіць. Вясной тое адбылося. А да восені ўжо стаяў новы зруб з моцнага, яшчэ старога бярвення і свежа-жоўтых сасновых уставак.

Калі бацькі абвясцілі пра рэальны і канчатковы пераезд, Янак і праўда схаваўся. Не, не ў сваім недарослым лясочку, што каля агароднага плота, які ўжо валяўся паламанымі лёсткамі. У самым сапраўдным лесе, што

Школьным называецца. Некалі яны разам са старэйшымі хлопцамі, якія ўжо ў школу хадзілі, змайстравалі там шалаш-будан. У хованкі гулялі. У вайну. Добра было адстрэльвацца шышкамі ад надакучлівага "немца-захопніка", які так намагаўся прабрацца ў будан. Асабліва яловыя шышкі былі ў патрэбе. Калі смальнеш катораму нападоўцу па ілбе, у таго ажно іскры з вачэй пасыплюцца. Ды хваёвыя шышкі былі зручнейшыя – набярэш у жменю некалькі і шпурляеш разам, хоць адна ды пападзе. Мо таму ніхто дабрахоць не хацеў станавіцца немцам. Але ж гульня патрабавала.

Бацька, калі заўважыў сынаву адсутнасць, адразу зразумеў, дзе ён хаваецца. Бо не раз казаў Янак, што не паедзе ў вёску, на хутары застанецца. Хай сабе і адзін. Бацькавай здагадцы і жураўлі паспрыялі. Калі ішоў у лес да будана, над ім у небе не надта высока жураўліны клін паплыў. У вырай выпраўляліся птушкі. У восеньскай цішыні іхні развітальны крык гучаў сапраўдным плачам. Янкаў бацька падняў вочы ўгару, цяжка ўздыхнуў і пакіраваў да шалаша. Янак жа не вытрымаў. Як толькі дайшоў да вушэй жураўліны плач, уся напруга і перажыванні апошніх дзён паліліся горкімі слязьмі. Не саромеўся нават бацькі, рыдаў-галасіў да знямогі. Бацька пачаў супакойваць сына, казаць нешта суцешнае, ласкавае. Ды ў Янка ад гэтага ненатуральнага спалучэння бацькавай лагоды і жураўлінай трывогі ледзь не істэрыка пачалася. Хлапечы плач перайшоў у горкае рыданне. Ікаць пачаў.

– Не паеду я ў вёску. Ка-заў не паеду, зна-а-ачыць не па-еду, – заікаўся Янак. – Едзьце адны-ы-ы. Не хачу я чужое зямлі-і-і, – як дарослы, паўтараў сын словы пачутай у дзедавым прыёмніку песні, якая цвіком засела ў галаве. – Бо і сонца чужое там. Усё там чужое. Тут нашае! Тут маё! Чуеш, нават жураўлі плачуць па сваім. Па нашым. А я хіба горшы-ы за іх? Не пае-е-еду!

– Добра, сынок, добра, – суцяшаў бацька. – Не паедзеш. Пайшлі дадому, мая ты любачка.

Ледзь угаварыў бацька сына. Сам амаль што не плакаў. Падняў Янка на рукі, прытуліў да грудзей, нешта ласкавае шэпча ў вуха. Пакуль данёс да падводы, сын заснуў, супакоіўся, толькі часам нервова ўздрыгвалі рукі на бацькавай шыі. Каб не будзіць і не трывожыць, бацька ціха папрасіў суседа Віцю, які дапамагаў ладзіць пярэбары, узяць лейцы і пакіраваць канём. Сам жа акуратна сеў на падасланае сена, ямчэй прытуліў сына, і падводы з апошнім хатнім скарбам крануліся.

Але на гэтым не скончыліся Янакавы прыгоды. Ён ніяк не мог прывыкнуць да вёскі. Яму і праўда было тут цесна. Нервавала людская мітуслівасць, мільгаценне перад вачыма. Не было таго прастору і супакаення, як на хутары. І нават калі Янак пайшоў у школу, пачаў знаходзіць хоць нейкае паразуменне з вясковымі хлопцамі, настальгія, праўда, тады ён гэтага слова яшчэ не ведаў, напоўніцу даймала яго. Проста яму хацелася на сваё котлішча. Яму было там так цёпла, нібыта ў выраі. І ён сагітаваў вясковых хлопцаў – аднагодкаў і старэйшых за сябе – хадзіць у хутарскі шалаш-будан, што ў Школьным лесе. Спачатку ў вольныя ад школы дні хадзіў туды адзін, любіў ціхенька пасядзець пад празрыстымі бярозкамі, назіраў за наваколлем, слухаў ціхую песню лясную. Пасля разам з хлопцамі гулялі там у вайну, шышкамі адбівалі напады "немцаў".

А потым адзін асабліва шустры сямікласнік зрабіў нечаканую прапанову:

– Што нам гэты шалаш. Давайце зямлянку выкапаем. Сапраўдную. Партызанскую.

Ідэя захапіла хлопцаў. Доўга думалі, як больш скрытна і хутка зрабіць гэта. Дадумаліся. Знайшлі недзе ў вёсцы дзве рыдлёўкі, занеслі іх у будан. А калі надаралася вольная часінка, беглі туды гуртам і пачыналі працаваць. Адны капалі зямлянку, іншыя адносілі і рассыпалі пад кустамі зямлю, каб не выдавала іхняга сховішча.

Паступова выкапалі даволі глыбокую яму. А як накрыць яе, каб сталася сапраўднай зямлянкай і каб не відаць? Дапамаглі старэйшыя хлопцы. Назбіралі ў лесе паваленых дрэўцаў, сукоў, крыж-накрыж паклалі іх над ямай. Зверху накрылі яловымі лапамі. А на іх насыпалі зямлі, нарвалі і пасадзілі травы, ягадніку. Нават дзёрану недзе адарвалі і паклалі зверху – каб не вельмі заўважна. Дзірку-ўваход, пакуль не прыдумалі нічога іншага, прыкрывалі лапнікам. Зямлянка атрымалася што трэба. Толькі вось лаз пакуль быў ніякі. Здымалі лапнік і скакалі ўніз. Туды то яшчэ паўбяды. А вось як выбрацца, была цэлая праблема.

Башкавітыя хлопцы знайшлі выйсце. Надыбалі ў лесе сухую яліну. Абламалі яе галіны, пакінуўшы каля ствала толькі стырчакі. Апусцілі ў дзірку-ўваход. Атрымалася лесвіца, хоць і слабая, праўда, але ўсё ж-такі...

Часта ладзілі каля зямлянкі розныя забавы. Часам хаваліся ў ёй ад нечаканага дажджу.

І вось аднойчы Янак ледзь не загінуў у той самімі зладжанай зямлянцы. Бальшуны-весялуны жывым хацелі закапаць яго. Жартам, вядома. А выйшла, што на самай справе.

Летнім нядзельным днём вялікім гуртам прыйшлі да зямлянкі хлопцы. Гулялі ў вайну, палілі вогнішча, пяклі ў ім бульбу – неабабраную, з прыгаркай, як сапраўдныя партызаны. Нечакана лінуў дождж. Схаваліся хто ў будане, а хто ў зямлянцы. Янак таксама скокнуў у зямлянку. Многія спяшаліся апусціцца ў яе, таму на лесвіцы пааблoмвалі шмат галін-прыступак. Калі дождж перастаў, пачалі вылазіць. Старэйшыя то хутка зрабілі гэта, а вось меншым і шанцавала менш. Прыступак было мала, глiністая зямля, што накрывала зямлянку зверху, размокла, стала слізкай. Хлопцы караскаліся ўверх, але адзін за адным падалі ўніз. Неўзабаве ў зямлянцы засталіся толькі Янак і ягоны сябар Андрэй.

– Ага, вы не хочаце вылазіць, то як сабе хочаце, – пачулі яны насмешліва-пагардлівы голас самага забіякаватага вясковага падшпарка Франуся. – То й сядзіце там, партызаны.

І хлопцы пачалі завальваць выйсце яловымі лапамі. Спачатку Янак з Андрэем прымалі гэта за жарт.

– Ага, давайце, давайце, – казаў Янак і паспрабаваў нават заспяваць тую пачутую ў дзеда песню: – Бо я застаюся з табою, радная навекі страна...

Той далёкі ад іх верх са смехам адказаў:

– Ну і заставайся на здароўе. А мо і навекі. Пайшлі, хлопцы.

Гэтае “пайшлі” напалохала вязняў зямлянкі.

– Што вы робіце, немчура? Не закопвайце нас. Партызаны адпомсцяць.

Жартам крычалі. Але хутка жартаваць перахацелася. Тыя, што наверсе, на адыход закідалі дзірку мокрай зямлёй-граззю.

Янак з Андрэем спачатку крычалі, пасля прасілі дапамагчы. Адказам было поўнае маўчанне. Перапалохаліся не на жарт. Пачалі недаламанай лесвіцай тыркаць у лапнік, што закрываў выйсце. Але дарэмна. На галаву сыпаліся іголкі, хлёпала зверху гразь.

– Эй, немчура, не трэба мне бераг турэцкі, – гукнуў Янак словы дзедавай песні, як называў ён яе.

– А Афрыка вам патрэбная? – пачулася насмешлівае пытанне знадворку.

Не зразумеўшы жарту, Андрэй спешна прамовіў:

– Не-не, непатрэбная. Сабе забярыце...

– А нас выпусціце, – працягнуў Янак.

Хутка абодва хлопцы, закапаныя ў зямлянцы, былі мокрыя, як цуцыкі. І ад страху цяклі струменьчыкі поту па спіне, і ад дажджавой вады вымаклі, што цадзілася з гразі. Яны былі ў адчаі. Нават дыхаць стала цяжэй, не хапала паветра. Пачалі плакаць, адзін аднаго супакойваючы:

– Не плач, слязамі бядзе не паможаш. Трэба нешта прыдумаць, – казаў Андрэй. – Партызаны ж таксама ў пераплёты траплялі. Давай думаць.

– Хіба што птушак пералётных паклікаць. Жураvoў, – меркаваў Янак. – Каб падказалі бацькам, дзе нас шукаць.

– А мо папрасіць, каб забралі з сабою, – праз слёзы прапанаваў Андрэй.

– Ну, раз смяешся, то будзем жыць, – падтрымаў сябрукоў настрой Янак, хоць самога страх апаноўваў усё больш.

Нічога талковага прыдумаць хлопцы не маглі. Чым бы ўсё гэта закончылася, ніхто з іх і паняцця не меў. Мо страцілі б прытомнасць у гэтай прамоклай зямлянцы без паветра. І тады...

Аднак жа не пераводзяцца на свеце добрыя людзі. Знайшоўся такі чалавек і ў іхняй кампаніі. Петрыкаў Славік, бацька якога падчас вайны быў у партызанах. Вярнуўся Славік да зямлянкі, гукнуў:

– Вы тут, хлопцы? Жывыя?

Тыя закрычалі адразу, як толькі пачулі нечыя крокі:

– Не немцы ж вы, дастаньце нас. Выпусціце.

Славік з усёй сілы сцягваў з выхаду пацяжэлыя ад гразі лапы ельніку. Сам вымазаўся як чорт. Але калі выцягнуў наверх Янака з Андрэем, тыя былі яшчэ большымі чарцянятамі. Твары і вопратка вымазаныя, мокрыя. І дзе тут разбярэшся – ад вады, ці ад слёз цяклі па шчоках брудныя рагі.

Пра тое, што адбывалася ў хатах недарэчлівых партызан пасля іхняга вяртання, то й казаць не хочацца.

Але больш у тую зямлянку ніхто не хадзіў. Абсыпалася яна, завалілі яе лапнікам і рэшткамі дрэў. На тым партызаншчына для хлопцаў скончылася. А Янак зразумеў, што і вяскоўцы бываюць добрымі і спагадлівымі. Хоць, праўда, не ўсе. А што, хіба паўсюль жывуць адны дабрадзеі?

Жураўліны клін даўно схаваўся ў трошкі захмараным небе, аціхла над дачным надзелам жалобная песня-развітанне, а Янак усё плаваў і плаваў думкамі-ўспамінамі па сваім далёкім хутарскім дзяцінстве. І толькі калі ягоная Янка ўжо даволі гучным голасам, бо дагэтуль ён на яе не рэагаваў, паклікала дапамагчы, Янак нібыта прачнуўся, міжволі ўздыхнуў, зірнуў на апусцелае ад жураvoў і дзівосных пабудоў неба і пайшоў на жончын голас, мармычучы сабе пад нос: “Не нужен мне берег турецкий, и Африка мне не нужна...”

Крысціна Бандурына



...калі забіваеш,
не становішся богам...

# Запаветы

*I.*

Чужыя вершы б'юць пад дых,
вырываюць з-пад ног
маё ўстойлівае неба.
Я – сухое зламанае голле,
і не будзе ў мяне
іншага бога
акрамя памяці
пра тваю ўсмешку,
пра тое,
што за шэсць дзён
стварающца цуды гісторыі,
маёй гісторыі,
нерасказанай,
незакончанай,
пра цябе і мяне.

І не будзе іншага бога
акрамя твайго імя,
ад якога
на сёмы дзень
зямля сыходзіць з-пад ног
і я губляю неба
ад сваіх дэжавю.

У мяне не будзе
іншага бога
акрамя памяці

пра цябе.

***II.***

"У мяне не будзе іншага бога" –
сапраўдны постмадэрнісцкі тэкст
са спасылкаю на цябе
у якасці асноўнай крыніцы.

Крывавы падбой літар
пакідае сляды
на маёй непачатай вясне,
неадкаркаванай,
як маё цела.
Як усе мае "НЕ".

Я даўлюся вобразамі,
запіхваю іх сабе ў памяць,
у ненажэрную прорву душы,
пакуль мяне душыць
жалезны дрот вакол шыі.

Не вяжы на сябе пятлю –
доўгі тоўсты ланцуг,
упрыгожаны шыпамі
вострымі канцамі да скуры.

Не стварай сабе куміраў.
Сярод мільёнаў
сонечных дыскаў
ніводны не будзе лепшым.

А калі раптам
хтосьці заслоніць сабою астатніх,
памятай пра ланцуг
і пра крохкасць свайго жыцця,

якое ўкладаеш
у кіпцюры жалезнага дроту.

У рукі тых,
каму пакланяюцца
сляпыя.

### *III.*

Сляпыя прыносяць вочы
ў ахвяру сваім
ілюзорным бажкам.
Спрабуюць кантраляваць жаданне
бачыць, дакранацца, распранаць.
Спускацца вачыма ўздоўж шыі,
выводзіць позіркам руны на целе.

А я спрабую не глядзець.
Мне хочацца слухаць і чуць
кожны гук, кожнае адценне
твайго імя.
Калі жорсткасць некранутай скуры
змяняецца лайт-версіяй
яе грубасці,
пераходзіць
у мяккасць бархату голасу
і заканчваецца пяшчотай
дотыкаў шоўку,
ледзь заўважным яго прыдыханнем.

Хочацца ў абсалютнай цемры
з ідэальным зрокам
рухацца навобмацак,
на шолах тваіх флюідаў,
адчуваць каля самага вуха
лёгкі флёр гукаў –
да болю знаёмае слова –
тваё імя,
калі яно зрываецца з вуснаў.

Яго трэба хаваць ад іншых,
як тое, што хочацца зберагчы
ад частага карыстання.
Ад страты каштоўнасці.

Яно ніколі не пра сэкс,
а таму лепш мне яго маўчаць
у публічнай прасторы,
дзе сэксуальнасць –
гэта новы Ісус.

***IV.***

маё сэрца ўмее лічыць да пяці
а кожны шосты ўдар
прапускае
замірае
быццам гаворыць
спыніся
і паглядзі на сябе
на свае сухастоіны рыфмаў
на рэзістэнтныя бездарожжы думак
на збег каардынат і абставін
спыніся
пяць удараў прайшло
як адзін бясконцы доўгі дзень
і настала чарга шостага
настала чарга
хаосу
анархіі
і свабоды
пакуль хтосьці стварае сабе куміраў
вырывае са стогнамі вочы
і прамаўляе тваё імя
я патанаю ў спакоі
без пульсу
і мару аб падарожжы
у краіну Свабоднага Кахання
пяць удараў
пяць бізуноў
і асалода болю на шосты

маё сэрца ўмее лічыць
маё сэрца
л*і*чыць

***V.***

Бездапаможнай
я прыйшла ў гэты свет
незапланавай
нечаканай
штучна створанай
і разбаўленай фарбамі.
Я была бездапаможнай
і маё сэрца
ўмела лічыць
толькі да пяці.

*раз*
*два*
*тры*
*чатыры*
*пяць*

Доўгая чорная стужка
на кардыяграме.

Не, мяне не забілі
хоць я была нечаканай.
А ці жадалі?

Мама сама была лялькай
а бацька да канца жыцця
не мог нагуляцца ў вайну.

Адразу ж
па прыходзе ў гэты свет
мне сказалі
вось маці твая
і вось бацька твой.
Шануй іх
бо яны
далі табе жыццё.

Мілая мая мама
мне ніколі
не хопіць сіл
сказаць табе ў вочы
што я люблю цябе
бо ты
нарадзіла мяне
слабой і хісткай
з чарвяком у сэрцы.
І таму я кажу гэта тут.

Штучна створаная
я знайшла гармонію адразу.
І тое што вучылася любіць
ужо ўмела ненавідзець.
Я шукала чорнае і белае
абодва полюсы магніту
дзве аднолькава чужыя мне
каардынаты зямнога шару
і знаходзіла толькі шэрасць.

*раз*
*два*
*тры*
*чатыры*
*пяць*

Мне заўсёды траплялiся
бракаваныя фарбы
i знайсцi нешта чыстае
было немагчыма.
Я прыдумала свае
дзе мацi была белай
i яе лёгка было любiць
а бацька чорным
яго любiць не атрымалася.
I пакуль я не вырасла
мой свет
трымаўся на гэтай палярнасцi.

Але знайшлiся iншыя
не шэрыя
хто любiў мяне
i каго лёгка было
любiць у адказ.
Не
зусiм нялёгка.
Але лягчэй.
Так мой свет набыў фарбы.

*раз*
*два*
*тры*
*чатыры*
*пяць*

Так я стала жаданай.
Мне далi жыццё
тыя хто мог любiць
хто мог любiць мяне
нечаканай
штучна створанай
i разбаўленай фарбамi.

Разам з iмi
з любоўю iншых
прыйшло ўсведамленне
неабходнасцi

маёй прысутнасці
ў свеце чужых полюсаў.

Я люблю цябе, мама.

***VI.***

Выключная пяшчота,
безабароннасць страху
і роспач самоты –
усё, што я магу супрацьставіць
жорсткасці гэтага свету,
істэрыі яго крывадушнасці,
калі дзве тысячы год
(плюс-мінус адно стагоддзе)
на кожным кроку
крычаць:
“Не забівай” –
і забіваюць,
забіваюць,
забіваюць,
б’юць і катуюць,
страляюць у патыліцу,
нараджаюць і кідаюць,
кахаюць і здраджваюць,
сыходзяць,
а ты застаешся
са сваімі пяшчотай і болем
тут ці ў іншай прасторы
і не ведаеш, як дыхаць.
Праз раз.

*раз*
*два*
*тры*

Паспрабуй яшчэ.

*раз*
*два*
*тры*

На чатыры і пяць
сіл ужо не хапае.

Каб стаць бацькамі,
мала нарадзіць.
І калі забіваеш,
не становішся богам.

Выбіраеш
жорсткасць і крывадушнасць,
пад падэшвамі якіх
памірае пяшчота,
як першыя вясновыя жукі,
што асмельваюцца
радавацца сонцу
на чэрствым
бясснежным асфальце.

Пад брыдкімі падэшвамі свету
разам са мной
памірае прыгажосць.

І калі спрабуеш
знайсці словы,
каб сказаць,
што ваш гуманізм
не працуе,
не знаходзіш.
Бо ён не працаваў
ад пачатку –
калі раскрыжавалі аднаго
дзеля заспакаення сумлення
ненажэрных многіх.

***VII.***

калі нават дождж
заўсёды падае
толькі ўніз
калі стрэлкі гадзінніка
не сыходзяць
з зададзенага кола
калі ў мяне ёсць
толькі я
і інакш быць не можа
я павінна была б
выдумаць новыя законы
адмяніць гравітацыю
напісаць ПДР
для святла і гуку
аднавіць канстытуцыю
ў межах 1 г. да н.э.
і ўсё дзеля таго
каб было правільным
глядзець
і бачыць

толькі цябе
разумець немагчымае
трываць нежаданае
дзеля таго
каб жадаць
твайго існавання
нават калі б цябе не было
я павінна была б
цябе выдумаць
дзеля таго
каб стрэлкі гадзінніка
майго сусвету
рухаліся ў правільным кірунку
і адлічвалі
свае дзве тысячы гадоў
любові

***VIII.***

Кава скрадае цяпло маіх рук.
Бог – гэта астранаўт.
Снегападзенне –
самы цяжкі мой грэх.
Спакушэнне адчайнасцю
халоднага цела.

Мяне з’ядае
маўчанне тваіх павек.
Сёння я яшчэ ёсць,
а заўтра...
Заўтра прыходзіць зіма,
стомленая і раз’юшаная,
і зноў забірае
такое патрэбнае мне цяпло,
не даючы наўзамен
ніводнай каардынаты
твайго існавання.
Ні нумару тралейбуса,
ні назвы ночы,
у якую ты
магла б мне прысніцца.

І калі яна сыходзіць,
я застаюся чакаць.
Так і жыву – чаканнем,
якім
ніяк не магу сагрэцца.

Па радыё кажуць,
што мора ў лёгкіх
хутка мяне затопіць.
Бачыш, яно таксама скрадае
тое, што яму не належыць.
Як чужыя мне
іншыя
так прагнуць мецъ
ладны кавалак мяне
кожны адрэзак часу,
калі ім захочацца.

І толькі ты
не патрабуеш нічога.
Хаця гэта было б
адзіным злачынствам,
у якім я хацела б быць
добраахвотнай ахвярай.
Але...

Але гэта не пра цябе.
І таму адзінае,
што я магу сказаць, –
не крадзь.

Не крадзь мяне
ніколі.

***IX.***

Усё, што я ўмею, –
гэта расказваць гісторыі.
Свет для мяне
так і дзеліцца:
на тых, хто ўмее
расказваць гісторыі,
хто ўмее іх слухаць,
і тых, хто на ўсім гэтым
паразітуе.
Хто складаў казкі
маленькім дзеткам
у нямых мурах
канцлагераў
і хто дагэтуль піша іх
на слізкіх паперках
у карных органах.
Хто дзеліцца сваім болем
і для каго боль –

гэта “чарнуха”, якой
“і без таго хапае”.
Хто адстойвае сябе
і хто дагаджае іншым.
Хто падбірае словы
і хто не саромеецца сродкаў.
Хто ратуе сябе
і хто памятае пра астатніх...

Я толькі і ўмею,
што расказваць гісторыі.
І мне важна
расказаць сваю
правільна.

***X.***

І маёй Песні Песняў
калі-небудзь настане канец.
Замкнуцца ўнутры
ўсе чатыры бакі сусвету.

Аднойчы ў снежні,
пад самы фінал
зорны пыл жоўтых начэй
паляціць на зямлю,
каб выкласці на асфальце
і выпадковых ваўняных пальчатках
тваё імя
і растаяць.

Знікне ўсё:
кванты святла,
літары на паперы,
усе мае
“Не забі”, “Не скрадзь”, “Не падмані”.

Аднойчы жыццё завершыцца.
І таму ўдвая важней
вучыцца любіць.
Не здраджваць.
Не зайздросціць чужому.
Заставацца сабой.
І... Верыць.

Я веру:
калі мяне не стане,
мой шэры прах

зорнай зімовай ноччу
раскажа свету маю гісторыю
пра разбаўленую фарбамі
маленькую дзяўчынку,
якая вучылася любіць
і вельмі хацела
быць камусьці патрэбнай;
пра яе нешчаслівых бацькоў;
пра блізкіх сяброў і тых,
хто так і не стаў імі;
пра безліч людзей вакол
і пра аднаго чалавека,
якога гэтая дзяўчынка
знайшла б у натоўпе
на слых
з заплюшчанымі вачыма.

Гэта будзе
самая шчырая гісторыя,
якую толькі
даводзілася бачыць
самотным сняжынкам,
што нараджаюцца
дзеля аднаго імгнення.

Імгненне, якое
некалі
стане вечнасцю...

*раз*
*два*
*тры*
*чатыры*
*пяць*

І гэта пройдзе.

Вера Лойка



...смерць

хабару не бярэ...

# Дом для шчасця

***Апавяданне***

*Асцерагайцеся збудавання паветраных замкаў,*
*бо хоць гэтыя пабудовы ўзводзяцца лягчэй*
*за ўсе іншыя, разбурыць іх найцяжэй.*

**Ота фон Бісмарк**

Не трэба было ім звязвацца з гэтай будоўляй. Але ж... Такі шанец выпадае можа раз у жыцці і то не кожнаму. Як тут адмовішся. Каб чалавек узяў ды адмовіўся ад свайго шчасця, ведаючы, наколькі яно блізкае і магчымае? Вось Пятро і не адмовіўся. Цешчы замест кватэры, на якую сям'я стаяла гадоў дваццаць, прапанавалі ўчастак для будоўлі. Проста ў межах горада, аўтобусы з цэнтра ходзяць. Ну, цешчы куды ўжо будавацца? Старэйшая дачка Галя са сваім Толікам нават думаць пра гэта не сталі – у іх грошай не вадзілася, ды і ленаваліся яны нешта ў жыцці мяняць. Цешчын сын Віцька якраз тады выпіваць пачаў. З ім усё ясна. Так што не прыйшлося спрачацца, каб ад-

ваяваць сабе той участак. Бо Пятро з Любай як пачулі пра яго, ужо ні пра што іншае і думаць не маглі. Ці не ўпершыню ў сумесным жыцці такое здарылася – думалі пра адно, думалі адно і думалі аднолькава.

Жыць ім было дзе, ды і няцесна. Трохпакаёўка хоць і на першым паверсе, але ж пакоі не прахадныя, калідор вялікі, дзве лоджыі – і ўсё гэта на траіх. Дык то кватэра, за сцяной суседзі, зверху суседзі; каб агурок-памідор пасадзіць-сабраць, трэба яшчэ гадзіну да лецішча дабірацца. Дый то – пасадзіць то пасадзіш, а вось хто збярэ, бывае і не ўведаеш. З працы прыйдзеш – што рабіць: перад тэлевізарам сядзець, піва піць, адносіны высвятляць?.. І яны ўжо як наяве бачылі свой садок, у якім абавязкова будзе найсмачнейшая ў свеце груша – слуцкая бэра. Бо яблыкі ўсе маюць, а ў добрага гаспадара павінна быць менавіта бэра. Любе сніўся кветнік – карысці з яго вядома ніякай, але ж – прыгажосць! Ну і вядома лазня. Без лазні нельга.

Узяліся-ухапіліся яны за той участак і рукамі і нагамі. Дзе будуць грошы браць, надта і не думалі. Нешта было, трохі ў крэдыт возьмуць, а калі ўжо сцены з’явяцца і можна будзе жыць у новым доме, то каб дабудаваць ды давесці да ладу – кватэру прададуць! Што з той кватэры, калі ён ужо перад вачыма стаіць – дом! З высокім зашклёным ганкам, з мансардай, з балконам... Вось яно, шчасце!

Шчасце мусіла матэрыялізавацца на ўскрайку былой вёскі, што цяпер ужо была гарадскім мікрараёнам. Акурат на іх участку тая вёска некалі заканчвалася, і жыхары, нядоўга думаючы, а дакладней зусім ні пра што не думаючы, выкідвалі тут смецце. Афіцыйна ў вёсцы сметнікаў ніколі не было, але ж усё, што не магло згарэць у печы, трэба было некуды збываць. Ну і збывалі – адразу за плотам крайняй хаты, каб далёка не хадзіць. І нікому па тым галава не балела. Цяпер гэта быў іх галаўны боль – выкалупаць з зямлі, сабраць і некуды ізноў жа падзець кавалкі бітага шкла, дзіравыя каструлі, бітыя гаршкі для вазонаў, іржавыя цвікі, паламаныя дзіцячыя цацкі... Чаго там толькі не было! І пакуль не ачысціш тэрыторыю, будоўлю не пачнеш. А як яе ачысціш, калі ўначы смецця яшчэ дадавалася, бо нехта па старой памяці выкульваў яго цэлымі вёдрамі. Іншым разам рукі апускаліся, здавалася, ніколі яны будавацца не пачнуць, так і будуць да канца сваіх дзён збіраць і вывозіць чужое смецце.

Прыйшлося пачынаць з агароджы. За чужы плот смецце ўжо не выкінуць, ды можна і падсцерагчы, балазе першы будынак на ўчастку з’явіўся хутка – прыбіральня. А як без яе? Рабочым, што будуць працаваць, трэба забяспечыць асноўную бытавую выгоду. Карацей, участак неяк ачысцілі, хоць і недасканала. І праз гады, корпаючыся ў градах, Люба парэзала руку бітым шклом. А тады іх “Фольксваген” ператварыўся ў смеццявоз. Позна вечарам, амаль што ноччу, пад’язджалі да гарадскіх дваровых сметнікаў – кожны раз да іншага – ды выкульвалі з багажніка цэлыя мяхі.

Кажуць, вочы баяцца, а рукі робяць. Вось гэтак усё і ішло. Для нечага людзей наймалі, нешта самі рабілі – адпачынкаў у іх ужо не было. Люба то яшчэ некалькі разоў ездзіла з малым да цёткі ў Прыбалтыку. Ды які там адпачынак – на цётчыных градах гарбела. Праўда, старая перад ад’ездам ёй за гэта падкідвала грошай – купі, маўляў, сабе што-небудзь, нешта ты за строямі сваімі ўжо не сочыш, як раней. Якія строі – усё ішло на дом.

А як прыйшлося класці сцены з бярвення, трэба было іх імшыць. І мох, аказваецца, не абы-які патрэбен – адмысловы, не ў кожным балоце

надзярэш. Нехта падказаў, дзе знайсці такую імшарыну. Паехалі. Кіламетраў за сорак ад горада. Як збочылі з шашы, ехалі лесам, дарога вузенькая, але роўная і раптам, вось яно – балота. На ўскрайку вялізная елка, пад ёй тоўсты пласт сухога шылля, нібыта знарок зграбаў хто. Побач з той елкай машыну паставілі, пайшлі па мох. А як ты за ім палезеш, калі не ведаеш, што перад табой – цвёрдая зямля, ці прорва? А ну як вухнеш – і з галавой? Тым больш, што ўсё мохам замаскавана. Яны, праўда, пра тое яшчэ ў горадзе падумалі, узялі скрутак вяроўкі, каб прывязаць да пояса таму, хто па мох палезе. А каму лезці?

– Люба, ты мяне, калі што, не выцягнеш, пэўна... Можа, яно і абыйдзецца. Няма цяпер такой багны, як раней. А калі што, то я цябе выцягну, у мяне сілы хопіць.

Пятро гэтыя словы таксама яшчэ ў горадзе абдумаў, але сказаў толькі тут, на ўскрайку балота. Што ён, дурны, на бабу спадзявацца? Любе нічога не заставалася, як пагадзіцца. Яна і напраўду не ведала, ці выцягне мужа, калі што. Не надта ён худзенькі. І палезла па мох, вяроўчынай вакол пояса абвязаўшыся. Насамрэч, нічога страшнага не здарылася. Нікуды яна не праваліліся, хутчэй за ўсё і правальвацца не было куды – не такое й жахлівае тое балота было. Яна нічога і не баялася – вяроўка вакол пояса неяк адразу супакоіла і адагнала трывожныя думкі. А вось калі вылезла з кустоўя з поўным мехам, убачыла такое...

На тоўстым дыване сухой іглiцы пад вялізнай елкай ляжаў Пятро. Ён соладка хроп, выводзячы носам складаныя рулады. Побач з ім вольна ляжаў канец вяроўкі. Значыць, калі б там аказалася якая прорва і Люба шуснула ў яе... Далей страшна было і думаць.

– Пятро, – закрычала яна, – ты што робіш?!

Той спалохана падхапіўся, вырачыў на яе вочы, доўга не мог зразумець, у чым справа і чаго крычыць жонка, а калі ўбачыў, што нічога з ёй страшнага не адбылося, коратка мацюкнуўся.

– Чаго равеш, як рэзаная?

Ён так і не зразумеў яе крыўды. Дурная баба, раве, а чаго раўсці? Ну магло нешта здарыцца, але ж абышлося.

Гэта ён так думаў, што абышлося. А яна ў тую ж ноч упершыню сасніла прорву. Паміж кустоўя і асакі ляжаў такі кругленькі, акуратненькі лапік чыстага моху. І яна, Люба, цягнецца за ім, але нават ухапіцца не паспявае, як мох разбягаецца ўбакі і на паверхню выступае чорная густая твань. І той маленькі лапік робіцца ўсё шырэйшым, а стаіць яна на тым яго краі, што далей ад берага, Пятро ж застаўся, дзе і быў – пад елкай, і прорва паміж імі ўжо непераадольная. Няма Любе паратунку. Гэты сон паўтараўся шматкроць і ніводнага разу нічым не скончыўся. Яна не трапляла ў багну, але і не выбіралася з яе, проста прачыналася.

Будоўля тым часам ішла далей. Не так хутка, як хацелася б. Ужо дом абклалі цэглай, зашклілі вокны, пабудавалі лазню, пасадзілі сад. На ўчастку з'явіліся гарод і кветнік. Памерла маці, сын скончыў школу, пайшоў працаваць на завод, паступіў у інстытут, на завочнае. Сама Люба выйшла на пенсію. Завод выплаціў ёй даволі прыстойную суму, на якую яны купілі кухонны гарнітур. Прыйшлося хуценька пакласці плітку, паклеіць шпалеры і заслаць падлогу лінолеумам. Плітачнік прапанаваў ім выразаць у кухоннай сцяне з боку калідора круглую адтуліну, накшталт

ілюмінатара. Цяпер так модна, сказаў, арыгінальна. Чаму б і не выразаць. Ім спадабалася. І падумаць не маглі, што Алег, сын, так усходзіцца з-за гэтай няшчаснай дзіркі.

– Што гэта за ачко вы тут зрабілі? Нагі маёй больш не будзе ў вашым калгасным доме. Ды і жыць я тут не збіраюся.

Сказаў і зрабіў. Больш яны сына на ўчастку не бачылі. У яго сваіх маладых спраў хапала – футбол, канцэрты, сесіі. Вядома, крыху крыўдна, для яго будуюцца, для каго ж яшчэ? Ён у іх адзін. Спрабавалі пагаманіць пра гэта, сын агрызаўся:

– Самі будуеце, самі жывіце. Я наогул у Мінск з'язджаю.

І з'ехаў, знайшоў працу ў нейкай фірме. Хацеў зняць кватэру, але гэта аказалася не па кішэні, абыйшоўся пакойчыкам. Пятро з Любай не надта маркоціліся, сын усё-роўна з суботы на нядзелю прыязджаў дадому, балазе і Мінск той пад бокам і матчыных катлет пэўна не хапала. Вось толькі яны кожны выходны праводзілі на доме і Алега амаль што не бачылі. Люба ўладкавалася на працу, заробак быў не меншы, чым да пенсіі, Пятру ж да заслужанага адпачынку заставаўся яшчэ год. Шчыра кажучы, яны абое ўжо стаміліся ад гэтай бясконцай будоўлі, якой не было ні канца, ні краю. Ніводзін пакой не быў атынкаваны, другі паверх існаваў толькі ў думках, нават падымаліся туды па звычайных драбінах. Ад цямна да цямна кожную суботу і нядзелю яны працавалі на сваім доме, але не маглі нават прыкладна ўявіць, калі змогуць там жыць. Гэтае "цудоўнае далёка" не спяшалася набліжацца. Ну ды той бяды, усяму свой час. Вунь на бэры ўжо грушы выспяваюць, а ці даўно пра іх толькі марылі. Яны яшчэ будуць сядзець у альтанцы каля лазні, піць гарбату (а мо і па кроплі сабе дазволяць) і перад вачыма будзе рассцілацца кветнік да самых веснічак. Вось гэта і будзе шчасце.

Ёй зноў прысніўся сон. Нешта ў ім было не так, як раней. Той жа мох, тая ж багна, тая ж адчайная немагчымасць выбрацца на бераг... А дзе ж Пятро? Яго не было ні пад елкай, ні каля машыны. Ды і машыны не было. Адна Люба ў балоце. І па-ранейшаму ніякага паратунку. Калі ёй чарговы раз сніўся гэты сон, Люба чакала нейкай бяды. Але нічога такога асаблівага не здаралася. Ну бывала, што з мужам пасварыцца, ці сын выведзе з сябе – гэта яны, маладыя, умеюць. Але ж такія непрыемнасці хутка забываліся.

Раніцай, калі похапкам збіраліся на працу, прапанавала:

– Можа, сёння ты за мной заедзеш пад вечар, хачу кветкі паліць, даўно дажджу не было.

– Не, не магу сёння, медкамісію трэба прайсці, няма ўжо куды адкладваць, могуць да працы не дапусціць. Ды і бензін паліць... Знайшла патрэбу...

На тым і разыйшліся.

Увечары яна ўсё роўна паехала на дом, аўтобусам, бо кветак было шкада. Спяшалася, паліла збольшага, каб не надта забавіцца і не слухаць мужавага бурчання, характар у таго з гадамі мяняўся не ў лепшы бок. Вярнулася дадому не запозна і вельмі здзівілася нязвыклай цішыні ў кватэры. Маўчаў нават тэлевізар.

– Пятро, ты дома? – гукнула яна з калідора.

Але муж не адгукнуўся. "Спіць, напэўна. Няма сёння футбола па тэлевізару", – падумала Люба, скідаючы з ног чаравікі. Пятровы ключы

ляжалі на тумбачцы, значыць, нікуды пайсці ён не мог. Люба памыла рукі і пайшла на кухню. Вось тут яна ўжо здзівілася. Кухонны стол быў такім жа чыстым, якім застаўся раніцай, калі яна адыходзіла на працу. Звычайна Пятро, прыходзячы дадому, добра такі перакусваў тым, што знаходзіў у халадзільніку, бо вячэралі значна пазней. На стале ў такім выпадку заставаўся брудны посуд і рэшткі ежы. Значыць, муж не еў. Што магло здарыцца? Люба нерашуча пастаяла каля дзвярэй у спальню. За імі было ціха. Але ж Пятро не спіць галодным, гэта яна добра ведала. Значыць, не спіць. І яна адчыніла дзверы.

Яшчэ не паспела сцямнець і Люба ўбачыла мужа, які ляжаў на неразабраным ложку, нават не пераапрануўшыся ў хатняе адзенне. Прыгледзеўшыся, яна заўважыла, што вочы ў таго адкрытыя і паклікала:

– Пятро, чуеш, ты ж не спіш?..

Адказу не было ніякага, але ж і вочы ён не заплюшчыў, таму яна паклікала ўжо галасней:

– Ды што ў рэшце рэшт гэта значыць, ты можаш мне растлумачыць?

Пасля ўжо яна ўсвядоміць, што адказаў ён зусім ціха, а ў той момант падалося, што разарвалася бомба:

– Рак у мяне знайшлі...

І з гэтага моманту ўсё памянялася, так што калі выпадаў іншым разам час адноснага супакою і адпачынку, яна дзівілася – ці яны гэта – Пятро і Люба, ці іхняе гэта жыццё, ці проста нейкі жахлівы сон, які павінен жа некалі скончыцца. Вось зараз яна прачнецца і будзе ўсё па-ранейшаму – будоўля, гарод, кветкі, сад. “Усё будзе добра,” – як заклінанне паўтарала Люба і ўслых, і ў думках, але ў той жа час яна ведала, што па-ранейшаму ўжо ніколі не будзе і добра не будзе таксама. І Пятро гэта ведаў.

Нельга сказаць, што яны здаліся, ці апусцілі рукі. Не, яны скарысталі ўсе магчымыя і немагчымыя спосабы, хоць урачы сказалі адразу – позна. У аперацыі ім адмовілі, але калі вельмі захочаш, ад людзей можна дабіцца ўсяго. Не за так, зразумела. Зрабілі аперацыю, потым была хімія, абпрамяньванне, тыбецкія травы, знахаркі як блізкія, так і далёкія... Вынік быў, калі гэта можна назваць вынікам. Пятро пражыў яшчэ амаль два гады. Пасля яна не раз задавалася пытаннем – што яны падоўжылі: жыццё, надзею, ці пакуты, адчай? Можа, трэба было проста змірыцца са сваім выракам і пражыць гэты час нічога не прадпрымаючы ў тым сваім недабудаваным, але ж ужо крыху годным для жыцця доме – колькі Бог адпусціць.

На дом яны працягвалі ездзіць у часы, калі стан Пятра быў крыху лепшым. Ён нічога там не рабіў, ляжаў у цяньку каля лазні пад вінаграднымі шатамі, а на Любе быў гарод – куды ад яго дзенешся. Бывала, Пятро садзіўся ў машыну і ехаў на дом адзін і што ён там рабіў – невядома. Яна вельмі баялася гэтых паездак, бо мужу магло стаць дрэнна ў час руху і пацярпелі б, не дай Бог, староннія людзі. Спрабавала з ім гаварыць пра тое, але калі кожны дзень як мантру паўтараеш “усё будзе добра”, як тут скажаш “ты можаш памерці за рулём”?

Алег па-ранейшаму будоўлю ігнараваў, дома бываў усё радзей, яго прыгнятала атмасфера іх кватэры, бо ў ёй усё было падпарадкавана патрэбам цяжка хворага чалавека. Сын збіраўся жыць у Мінску і пра будоўлю нават не згадваў.

– Вы сваё жыццё на гэты дом паклалі, а цяпер хочаце, каб і я... Ды не

буду я ніколі паліць у лазні, капаць гарод, класці плітку ды абшалёўваць сцены вагонкай.

Былі думкі прадаць дом і грошы патраціць на лячэнне за мяжой, але цэны на нерухомасць на той час былі невялікія, тым больш іх гарадок не сталіца, ды і хто дасць добрую цану за будынак, які яшчэ трэба да ладу даводзіць. Хаця, каб мець грошы ды наняць людзей, усё можна было зрабіць даволі хутка. Але людзі з такімі сродкамі жылі недзе далёка і, ясная справа, жытло ўжо мелі, куды лепшае.

Неўзабаве абое зразумелі, што справы дрэнь. Яны столькі год чакалі, як пабудуюць свой дом і тады зажывуць у ім па-сапраўднаму, з задавальненнем і са смакам. Для сябе. Але дом так і стаіць няскончаны, а жыццю, як ні круці, канец. Люба то яшчэ, Бог дасць, пажыве, але ці да будоўлі ёй будзе? Палохала Пятра думка, што Люба можа пасля яго знайсці якога спраўнага мужыка, выйсці замуж, дабудаваць з ім дом і здзейсніць усёткі іх запаветную мару. А ён ужо будзе ні пры чым. Не, хай ужо лепш прадаюць.

Апошні раз Пятро быў на доме за год да смерці. Прыехаў брат з жонкай у адведкі, вось і паехалі, як кажуць, “на шашлыкі”. Паказаў ён брату сваю майстэрню ў падвале з велізарным наборам усякіх інструментаў, лазню, грушы, вішні, слівы – якіх толькі дрэваў не насадзілі, і ўрадзілі яны ў той год.

– Я ў жыцці ўсё, што трэба, зрабіў. Сына выгадаваў, дом пабудаваў, а дрэваў вунь колькі пасадзіў. То напэўна і паміраць ужо не страшна, – як селі за стол, вырвалася ў Пятра запаветнае, думанае-перадуманае. Госці падтрымалі, але неяк вяла. Можа, іначай думаюць пра гэты самы сэнс жыцця, але не будзеш жа спрачацца з цяжка хворым. Пэўна, мяркуюць іначай, бо не заўважыў Пятро ані ў брата, ані ў яго жонкі ніякай зайздрасці да яго дома, хоць жывуць у сталічнай хрушчоўцы.

– Анічога я такога не зрабіў, – з горыччу сказаў Пятро, калі госці паехалі і яны засталіся з Любай удваіх. – Сына-то выгадаваў, але ж яму не патрэбен ні мой дом, ні мае дрэвы. То навошта ўсё гэта?

Болей ён на дом не ездзіў. Ды і сіл ужо не ставала. Хвароба імкліва брала сваё, не дапамагалі аніякія сродкі. Люба сыходзіла раніцай на працу і радавалася, што ў яе ёсць куды ўцячы ад болю і адчаю, які запоўніў усю кватэру, здавалася, нават паветра з яе выціснуў. Але неўзабаве настаў такі час, што Пятро ўжо не мог сябе абслугоўваць. Тады Люба знайшла сядзелку. Жанчына з суседняга дома якраз страціла працу і хоць да медыцыны ніякага дачынення не мела, але шмат гадоў даглядала хворую маці. Так удала ўсё выйшла. Вось толькі Пятро быў незадаволены. Напэўна, ён жаліўся сваёй сястры, бо тая патэлефанавала Любе і прамым тэкстам сказала, што даглядаць паміраючага павінна жонка, тым больш што яна ўжо дасягнула пенсійнага ўзросту. Гэта яна наконт таго, каб працу кінуць. Разумныя ўсе парады даваць. Пятро ўсё-адно памрэ, а ёй пасля яго неяк жыць трэба і сыну дапамагаць, і з домам яшчэ разбірацца... А лякарства дарагое, садавіну свежую хвораму на якія шышы купляць? Вунь як ён вінаград любіць... Алег у Мінску кватэру наймае і ледзь не ўвесь заробак за яе аддае, хто яму напакуе сумкі з прадуктамі, калі Люба не будзе працаваць?

Звяртацца па дапамогу да сталічнага брата не выпадала. Гісторыя гэта старая. Яшчэ да таго, як распачалі будоўлю, то неяк часцей ездзілі ў вёску да свякрухі. Далекавата, але машыну мелі, то чаму б і не з’ездзіць, тым

больш калі вёска ў лесе, грыбы-ягады. У брата ж машыны не было, але ў вёску хацелася таксама. Вось ён і прасіў Пятра, каб заязджаў і за ім – усё роўна ж ехаць паўз Мінск. Пятро раз заехаў, а потым загадаў выязджаць на кальцавую і чакаць яго там, каб па Мінску не кружляць. Аднойчы ж не ў гуморы быўшы запытаўся: “А чаму я павінен вас вазіць?” Брат пакрыўдзіўся і больш у машыну не прасіўся. Але калі Алег паступіў на завочнае і стаў ездзіць на сесіі, ім прыйшлося пакруціцца. Не павярнуўся язык прасіць брата, каб узяў пляменніка на кватэру, пакуль здасць тыя экзамены. Так і катаўся хлопец на электрычцы, або начаваў у якіх сяброў.

Яшчэ пабойвалася Люба, каб радня пасля смерці Пятра не вырашыла, што хаваць яго трэба ў роднай вёсцы. Гэта колькі ж трэба грошай, каб нябожчыка туды завезці, зрабіць там жалобны стол... А потым яшчэ і помнік паставіць і даглядаць магілу. Кожны раз думай, як дабрацца... Тут жа ўсё пад рукой. У самога пытацца пра пахаванне яна не рашалася, а ён маўчаў.

Пятро таксама пра гэта думаў, але не ўслых. Не мог ён аб’явіць, дзе хоча ляжаць пасля смерці. Насамрэч – нідзе, ён хоча жыць, а не ляжаць на могілках. Ну, а калі гэта немагчыма. Хай самі вырашаюць. Пасля... Вясковыя могілкі ў яго ўспамінах былі прытулкам бесклапотнага дзяцінства. Акурат пасярод іх рос стары дуб, стогадовы, а то і старэйшы – хто яго ведае, пашпарта ў дуба не было. Цяпер у таўсценным камялі ўтварылася дупло, бо дуб добра-такі струхлеў, а ў тыя часы дрэва было моцным і здавалася – так будзе заўсёды. Праўда ніхто пра гэта не задумваўся, само сабой разумелася. Амаль так яны, дзеці, верылі ва ўласную бессмяротнасць і гульні на могілках не здаваліся ім ніякім блюзнерствам. Нават пазней, калі зажылі крыху заможней і яго аднагодкі сталі разбівацца на матацыклах, набыць якія для васемнаццаці-дзевятнаццацігадовых хлопцаў лічылася ў вёсцы ледзь не галоўным бацькоўскім абавязкам; і калі вёска стала масава співацца і тыя аднагодкі, што шчасліва ўнікнулі смерці ў мотааварыях і дажылі да трыццаці з плюсам, паміралі пад плотам ці ад белай гарачкі ўскоквалі ў пятлю – нават тады здавалася, што ўсё гэта можа адбывацца з некім іншым, але не з ім. Ён жа не ганяў на матацыкле, піў у меру, ён нават не курыў ніколі і павінен быў жыць доўга. За што яму гэтая хвароба? Адна думка засталася ў затуманенай болем свядомасці – за што? І не было на яе адказу.

Удзень яшчэ туды-сюды, нечым можна было адцягнуць увагу. Цяжка было ноччу. Заснуць не ўдавалася, хіба што пад раніцу. Думкі не давалі спакою, самыя змрочныя – а адкуль жа светлым узяцца? Выдаваліся ночы, калі недзе паблізу амаль не змаўкаючы, брахаў сабака. Адкуль ён тут узяўся – у новым мікрараёне, дзе няма ніякіх прыватных сядзібаў? Ці то бадзяжны, ці то вартаўнік якога дзіцячага садка трымае чатырохлапага памочніка. Пятру ж гэты брэх нагадваў родную вёску, у якой ён жыў да сямнаццаці гадоў і бяссоннем у тым узросце вядома не пакутаваў. Тады трэба было толькі да падушкі дабрацца, як зморваў сон. Галава была чыстая, бесклапотная, а цела стомленае – хлапечыя гульні ды гаспадарчыя абавязкі, якія хочаш-не-хочаш, а мусіш выконваць – хіба можа быць лепшае снатворнае.

А сабакі ў вёсцы брахалі ўсю ноч. Можа, звера якога чулі, можа на хатніх кошак. Толькі чорны калматы Жук, што жыў на падворку той Мані, плот якой межаваў з агароджай вясковых могілак, не брахаў. А калі ўжо брахаў, то іншыя сабакі маўчалі. Не браў тады сон ні старых, ні маладых, хіба

што дзеці несвядомыя, ды апойкі апошнія не зважалі. Таму што здаралася гэта ў ноч пасля таго, як на могілках хавалі каго-небудзь з вяскоўцаў. Усе ведалі загадзя – калі ў вёсцы адбылася чыясьці смерць, пасля доўгага дня, напоўненага слязьмі і галашэннем, незразумелым спевам прывезенага з мястэчка бацюшкі, няскладнымі прамовамі, стукам малатка па плешках цвікоў, шоргатам пяску пад рыдлёўкамі далакопаў, пасля хаўтураў, калі ўсе разыдуцца па хатах, уходзяцца па гаспадарцы ды палягуць спаць – і некаторыя нават паспеюць заснуць – недзе апоўначы ў Маніным двары падасць голас Жук. Спачатку ціха і без імпэту, з перапынкамі, пасля ўсё мацней і мацней, заходзячыся і падвываючы амаль па-ваўчынаму, ён будзе трымаць у напружанні ледзь не ўсю вёску, прынамсі яе бліжэйшую да могілак частку. І не будзе ў тую ноч нікому спакою – і стары і малы, кожны ў меру свайго разумення, будуць намагацца разгадаць таямніцу жыцця і смерці, пра якую нешта ведае звычайны калматы вясковы сабака. Марныя то былі намаганні, але кожны ў свой час ушчыльную наблізіўся або наблізіцца да гэтай таямніцы. Вось і яго час надыйшоў. Ясная справа, ён, як і ўсе людзі, заўсёды ведаў, што некалі памрэ. Аніяк ты гэтага не пазбегнеш – такая ўжо ўмова ставіцца пры нараджэнні. Але чаму так раптам? Дом яшчэ недабудаваны, сын нежанаты, унукаў не прычакаў, нават на пенсіі адпачыць не давялося... у тым самым садочку... пад той бэрай...

– Напэўна, мары ніколі не збываюцца, – сказаў ён аднойчы Любе.

Жонка не пагадзілася:

– Ну, не скажы, вунь суседзі ўжо засяліся і тыя, што справа, і праз дарогу... Гэта нам не пашанцавала.

– А ты ведаеш, пра што яны мараць? – слаба ўсміхнуўся Пятро.

Ён сам ніколі не марыў пра немагчымае. Нават у дзяцінстве, калі гэта яшчэ нармальна – колькі вясковых сяброў хацелі стаць то лётчыкамі, то касманаўтамі, то геолагамі... Яму ж была абыякавая гэтая рамантыка, ведаў – выпускніка вясковай школы чакае ПТВ, у лепшым выпадку – тэхнікум. Галоўнае – вырвацца з калгаса, з вёскі, з’ехаць хоць у які-небудзь горад, дзе не трэба будзе капаць бульбу, вывозіць гной, гадаваць свіней, пасвіць кароў, дзе ягоная жонка не будзе ўставаць а пятай гадзіне на ранішнюю дойку, а дзеці не будуць дабірацца ў школу за сем кіламетраў, дзе не трэба будзе штодзень паліць у печы, а мыцца ў ночвах, сагрэўшы чыгун вады. Нічога асаблівага. І ўсё ж атрымалася. Вось тады ён страціў пільнасць, захацеў гэты дом. Можа, трэба было з самага пачатку марыць стаць касманаўтам?

У рэшце рэшт ён зразумеў, што жыццё – гэта пагоня за нечым нязбыўным, немагчымым. І так ва ўсіх людзей, без выключэння. Нават калі табе здаецца, што чужы лёс надта ўдалы, што там няма чаго жадаць і аб чым марыць, пэўна, сам той чалавек добра ведае за чым ён ганіцца ўсё жыццё і чаго атрымаць не можа. Або ўведае гэта ў той самы час, калі вось як у Пятра, падступіць апошняе, што кожны павінен здзейсніць у сваім жыцці. А кожны павінен – памерці. І няма ніякіх варыянтаў. Не схітруеш, не падманеш, не ўцячэш, не схаваешся, знаёмствамі не скарыстаешся і не адкупішся. Смерць хабару не бярэ. Усё, што раней час ад часу дапамагала, аказалася непатрэбным і бяссільным і гэты апошні свой учынак трэба здзейсніць сумленна. Аднаму.

Так і сталася. Адышоў ён ціха, уначы, чым усцешыў Любу, бо тая вырашыла, што Пятро памёр у сне, а значыць, хоць у апошнія хвіліны

не пакутаваў. Насамрэч ён не спаў у гэтую апошнюю ноч, але адчуваў сябе надзіва добра. Адпусціла, як гэта звычайна бывае напрыканцы. Нават мільганула надзея, што можа ўсё-ткі здарыцца нейкі цуд і ён пойдзе на папраўку і ўсё яшчэ будзе... З гэтай надзеяй і адышоў.

На хаўтурах радня абмяркоўвала, што цяпер удава будзе рабіць з домам. Усе сышліся на думцы, што трэба прадаваць яго ў тым выглядзе, які ёсць, бо не хопіць у яе ані сіл, ані сродкаў на будоўлю.

– Без мужчыны не справіцца, – напаўголаса паўтаралі на розных канцах жалобнага стала.

Люба з сынам прыкінулі, колькі возьмуць за дом і ці хопіць тых грошай, каб купіць якую кватэру ў Мінску. Выйшла, што не хопіць. Хіба на пакой з агульнай кухняй. Аднак жа гэтага мала, нават аднапакаёўкі мала. Жаніцца Алег пакуль не збіраўся, але ж тое трэба было мець на ўвазе. Гэтак раздумаўшыся, мала-памалу, узяліся яны за працяг будоўлі. Ну, год, ну, два, ну хай сабе тры... ён папрацуе на гэтым доме і калі ўжо можна будзе ўзяць за яго добрыя грошы – прадасць і купіць нарэшце ў сталіцы прыстойную кватэру. Тады і зажыве!

А Люба... Што Люба? Дзеля сына яна згодная на ўсё. У саміх не атрымалася – няхай хоць ён будзе шчаслівы. Толькі перастала б ёй сніцца тая праклятая прорва.

Марына Яромка



...паралельнае існаванне і супрацьстаянне горада і вёскі сталі ў пэўным сэнсе беларускай нацыянальнай адзнакай...

# “Слухайце час!”

## *Традыцыя Максіма Багдановіча ў творчасці Міхася Стральцова*

***Як забяспечыць будучыню нацыянальнай літаратуры? Знайсці пэўны баланс паміж тым, што патрэбна выказаць у канкрэтны момант, і тым, чаго вымагае ад творцы неабходнасць развіваць само мастацтва, – гэта значыць захаваць цікавасць да літаратуры і адначасова зрабіць яе адпаведнай сусветнаму ўзроўню. “Служыць вечнасці і абсалюту можна толькі праз служэнне свайму часу”, – пісаў Міхась Стральцоў з нагоды творчасці Максіма Багдановіча. Мастацкая перапрацоўка характэрных для часу асаблівасцяў фіксуе ўнікальнае бачанне рэчаіснасці. Абраныя аўтарам сродкі для перадачы думак і эмоцый, адпаведная расстаноўка акцэнтаў характарызуюць яго творчую задуму. Менавіта яна выяўляе тое, што можа аб’ядноўваць нават вельмі розных пісьменнікаў, – разуменне будучыні літаратуры.***

Пра суаднесенасць М. Стральцова з традыцыяй М. Багдановіча, пра іх мастацкую блізкасць кажуць многія даследчыкі. Калі звярнуцца да паэтычных тэкстаў М. Стральцова, то можна сустрэць паралелі з творамі М. Багдановіча: гэта могуць быць цытаты, вобразы, стылістыка. У той жа час М. Стральцоў –

прызнаны майстар прозы, таму, трэба думаць, найпаўней рэалізаваў сваю творчую задуму менавіта ў ёй. Для выяўлення, абгрунтавання сувязі паміж творчасцю М. Багдановіча і М. Стральцова на ўзроўні мастацкай канцэпцыі неабходна разабрацца, у чым бачыў шлях да развіцця беларускай літаратуры М. Багдановіч і як гэтую задуму ўспрыняў і рэалізаваў М. Стральцоў.

У літаратуры нашаніўскага перыяду ўмоўна можна вылучыць два кірункі разумення мастацтва: “прагматычны”, скіраваны на дасягненне пэўнай, найчасцей грамадскай, мэты, і “эстэтычны”, кірунак “чыстай красы”, дзе мастацтва разумеецца як самамэта, дзе ў цэнтры стаіць асоба і свет успрымаецца праз яе пачуцці. Прадстаўнікамі другога кірунку былі, да прыкладу, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля, якія праз навізну “чыстага мастацтва” для беларускай літаратуры сутыкаліся з непаразуменнем, што тлумачылася адсутнасцю адукаванай чытацкай аўдыторыі, здольнай разумець мастацтва як самакаштоўную з’яву. М. Багдановіч, на працягу доўгага часу адарваны ад літаратурнага працэсу, усё ж значна паўплываў на развіццё літаратуры, самастойна вызначыўшы кірунак яе развіцця.

Адной з галоўных задач М. Багдановіча было стварэнне нацыянальнага стылю як спосаб прынесці нешта самабытнае, беларускае ў сусветную літаратуру. Гэтую стратэгію М. Багдановіч сфармуляваў у артыкуле “Забыты шлях” (1915): “Беларускіх вершаў яшчэ не было, але яны павінны быць і будуць! Як кожны народ мае сваю нацыянальную душу, так ён мае і свой асаблівы склад (стыль) творчасці, найбольш прыдатны да гэтай душы”. Аднак развіць да належнага ўзроўню ўласнае мастацтва немагчыма, не выкарыстоўваючы досвед і здабыткі іншых літаратур: “Намагаючыся зрабіць нашу паэзію не толькі мовай, але і духам, і складам твораў шчыра беларускай, мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала светавая (найчасцей еўрапейская) паэзія”. Было б нелагічным адмовіцца ад набыткаў шматлікіх пісьменнікаў і траціць сілы і час на адкрыццё ўжо вядомага і распрацаванага. Таму М. Багдановіч, які добра ведаў сусветную літаратуру і меў грунтоўную тэарэтычную падрыхтоўку, пачаў рухацца менавіта ў гэтым кірунку.

Нацыянальны стыль у М. Багдановіча – гэта спроба спалучыць форму, запазычаную ў замежнай літаратуры, з нацыянальным па сутнасці зместам.

Ужыванне класічных формаў (санет, рандо, трыялет, рандэль, актава, александрыйскі верш, пентаметры, тэрцыны), імкненне ахапіць як мага больш жанраў, эксперыменты з рытмікай, увядзенне верлібра – усё гэта накіравана на развіццё літаратуры як мастацтва, каб “прышчапіць да беларускай пісьменнасці здабыткі чужаземнага паэтычнага труда, памагчы атрымаць ёй больш еўрапейскі выгляд”.

Дзякуючы шматпланавасці Багдановічавай працы, у паэзіі за даволі кароткі час з’яўляюцца формы і жанры, якія еўрапейская літаратура выпрацоўвала стагоддзямі, таму беларускія вершы ўяўляюць сабой “«кароткі паўтарыцельны курс» еўрапейскіх пісьменніцкіх напрамкаў апошняга веку”. Распрацоўка формаў, характэрных для іншых літаратур, дазваляе разлічваць на ўвагу да ўласных прапаноў, якія абавязкова з’явяцца ў працэсе развіцця літаратуры. Выкарыстанне сусветных набыткаў дае літаратуры перспектыву вырасці да ўзроўню, калі адкрытыя яе аўтарамі формы будуць выклікаць цікавасць у свеце і стануць агульнамастацкім дасягненнем. Паскоранае развіццё на гэтым этапе само па сабе можна вызначыць як адметнасць беларускай літаратуры, бо суіснаванне і паралельная распрацоўка розных жанраў прыводзяць да іх сінтэзу ў межах творчасці аднаго аўтара ці нават у паасобных творах.

Акрамя формы, М. Багдановіч бярэ з сусветнай літаратуры вобразы: міфалагічныя істоты, пісьменнікі, дзеячы культуры розных часоў, якія зрабілі ўплыў на станаўленне мастацтва (вершы “Звярнуў калісь Пегас на вулкі...”, “Калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя...”, “Бледны, хілы, усё ж люблю я...”, “Успамін”, “У старым садзе”, “Прыйдзецца, бачу, пазайздрыць бяздольнаму Марку...”, “Купідон”). Паэт пашырае ўспрыманне сваіх твораў праз выкарыстанне ў якасці эпіграфаў радкоў замежных аўтараў (Дантэ, А. Фета, А. Пушкіна, П. Верлена, В. Гюго, Г. Гейнэ, В. Брусава, Н. Буало і інш.). Такімі вобразамі, спасылкамі на творы М. Багдановіч

аддае належнае сусветнаму мастацтву і прызнае яго ўздзеянне на беларускую літаратуру, адначасова ставячы яе на адзін узровень з іншымі.

Выкарыстанне цвёрдых формаў патрабуе дасканалай працы над словам. М. Багдановіч класічнымі формамі правярае мову на “гнуткасць”, даказвае яе прыдатнасць для высокага пісьменства, разам з гэтым удасканальваючы мову, знаходзячы новыя формы: “Фактам з’яўлення іх [даўнейшых формаў верша] я хацеў давесці здатнасць нашай мовы да самых строгіх вымог вяршоўнай формы, бо я іх здавальняў нават у драбніцах, іншы раз вельмі цяжкіх” (з ліста ў рэдакцыю “Маладой Беларусі”). Паэт працуе над мовай, сам пастаянна вучыцца, таму ўвага да слова і яго месца, гучання – адзін са складнікаў багдановічаўскага стылю.

Аднак разам з выкарыстаннем досведу іншых літаратур неабходна даваць развіццё і нацыянальным тэмам, ствараць нацыянальную прастору. Іначай з беларускага ў творах застанецца толькі мова, і яны будуць выглядаць як пераклады, страцяць адметнасць, уласцівую творам пэўнай нацыянальнай літаратуры. А менавіта развіццё беларускай літаратуры па прыкладзе іншых было задачай М. Багдановіча. Развіццё з перспектывай увахаджання ў сусветны кантэкст з уласным вопытам, якім можна ўзбагаціць усеагульныя літаратурныя набыткі.

М. Багдановіч у многіх вершах узгадвае дзеячаў нацыянальнай беларускай культуры (Ф. Скарыну, С. Палуяна, К. Каганца, А. Луцкевіча, В. Ластоўскага і інш.), а таксама лакалізуе творы, называючы канкрэтныя назвы паселішчаў (“Летапісец”, “Кніга”, “Слуцкія ткачыхі”, “Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць”, “У Вільні”), што ўжо само па сабе дазваляе атаясаміць гэтыя творы з Беларуссю.

Адметнасцю беларусаў заўсёды з’яўлялася суіснаванне розных уяўленняў пра свет, абумоўленае рэлігійнай сітуацыяй. Спалучэнне паганскіх і хрысціянскіх ідэалаў, вобразаў стварыла шматузроўневасць культуры, у якой побач з хрысціянствам існуе вельмі багаты свет духаў, бажкоў. Гэтая язычніцкая спадчына зусім не засталася ў мінулым, а дагэтуль моцна ўплывае на светаўспрыманне беларуса. М. Багдановіч не можа не адзначыць гэтай духоўнай асаблівасці народа, бо павер’і, традыцыйныя абрады займаюць адно з найважнейшых месцаў у жыцці сялянін а пачатку мінулага стагоддзя. Лесуны, вадзянікі паўстаюць у М. Багдановіча арганічнай часткай прыроды, але пры гэтым пазбаўленай усведамлення сваёй значнасці для некага. Прыроду паэт паказвае магутнай, незалежнай сілай, што таксама адпавядае ўяўленню тагачаснага чалавека (“Вадзянік”, “Над возерам”, “Змяіны цар”, “Бура”, “Лясун”, “Хрэсьбіны лесуна”).

Але ўсё ж з часам адбываецца паступовае вызваленне ад боязі прыроды. М. Багдановіч вылучае чалавека з прыроды на падставе яго свядомасці, здольнасці асэнсаваць сваё становішча (вершы “Ціха па мяккай траве...”, “Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог...”, “Добрай ночы, зара-заранiца!”). Усё, што было ідалам, ранейшы самастойны свет цяпер успрымаецца як твор фантазіі, спараджэнне ўласнага ўяўлення. Паэт фіксуе пераход беларусаў ад сляпой веры да ўсвядомленай павагі да сіл прыроды. Тое ж адбываецца са стаўленнем да мастацтва: ад знешняй скіраванасці, мэта якой задобрыць, выклікаць дапамогу, чалавек пераходзіць да разумення мастацтва як самакаштоўнай з’явы, якая найперш патрэбна чалавечай душы і ў цэнтры якой стаіць менавіта асоба.

Матэрыялам для мастацкага твора выступае найперш жыццё, а чалавека нельга адарваць ад асяроддзя, таму важнай часткай нацыянальнага ў творах М. Багдановіча выступае прастора. Беларусы – вясковая нацыя, і абмінуць тэму вёскі для чалавека, які ў той час хацеў ствараць нацыянальнае мастацтва, было немагчыма. Нягледзячы на гарадское паходжанне, М. Багдановіч ведаў жыццё вяскоўцаў даволі добра, а таксама быў зацікаўлены ў іх духоўнай культуры. Знешняя прастора ствараецца праз апісанні, вобразы, найбольш характэрныя для беларускай вёскі, побыту і маўлення сялян (*жыта, ляды, світка, рунь* і г.д.). Але ўсё ж такі гарадское паходжанне ўплывае на бачанне паэтам вёскі, бо ў яго творах амаль адсутнічае вобраз селяніна, які б даваў поўнае ўражанне пра

тагачаснага беларуса. Вобраз вясковага жыцця фарміруецца згодна з уяўленнем паэта, а не праз рэальныя назіранні.

Мадонны М. Багдановіча – адзін з найбольш яркіх прыкладаў ператварэння характэрнага для еўрапейскай культуры вобраза ў нацыянальную адметнасць. Вобраз жанчыны-маці эпохі Адраджэння знаходзіць увасабленне ў вясковай дзяўчынцы:

А можа, не краса была ў дзяўчынцы той, –
Дзяўчынцы ўпэцканай і хілай, і худой, –
А штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі (*з верша "У вёсцы"*).

Такі вобраз не зніжае, а ўзвышае ўяўленне пра "мадонну", бо Боскі пачатак М. Багдановіч знаходзіць у самых звычайных праявах жыцця, ствараючы "беларускую мадонну".

Унутраны свет, культура болей за ўсё цікавяць М. Багдановіча ў народным жыцці. Бачанне і ўспрыняцце людзьмі мастацтва ён спрабуе перадаць сродкамі літаратуры, каб узвесці сфарміраваныя стагоддзямі ўяўленні да ўзроўню нацыянальнага светапогляду: "Бо, баронячы наш народ, мы павінны бараніць і нашу культуру, і што б там ні было, а гмах яе, калісьці распачаты, павінен быць збудаваны да канца" (з артыкула "Забыты шлях"). Каб літаратура была папулярнай, яна мусіць быць зразумелай даволі шырокай аўдыторыі. У сітуацыі, калі найбольш распаўсюджана песня, лагічным выглядае зыходзіць менавіта з гэтага жанру. М. Багдановіч стылізуе свае тэксты пад народныя песні, падбіраючы рытм, ужываючы характэрныя для народнай творчасці рысы – паўторы, імёны ў розных формах, выклічнікі (вершы "Максім і Магдалена", "Лявоніха", "Скірпуся").

Стылізацыя – толькі першы этап працы па стварэнні нацыянальнага стылю, бо тэматыкі песень недастаткова, каб адпавядаць не менш важнай задачы – развіццю літаратуры як асобнага віду мастацтва: "Яшчэ адно: круг сюжэтаў песні нешырокі, ён хутка будзе пройдзен увесь да канца, і тады пачнуцца прыкрыя паўтарэнні старога, ужо сказанага, пісьменніку будуць звязаны скрыдлы, паэзія ўпрэцца чалом у сцену" (з артыкула "Забыты шлях"). Стылізаваныя такім чынам вершы – своеасаблівая сувязь паміж фальклорнымі творамі і літаратурай, сфера дзеяння якой не абмежавана структурай грамадства. Гэта спроба вывесці народную творчасць з вузкага кола, даць ёй аўдыторыю ў розных слаях насельніцтва, папулярызаваць нацыянальную культуру і тым самым засцерагчыся ад яе страты.

Каб называцца нацыянальнай, літаратура павінна выяўляць светапогляд нацыі, уяўленні народа пра каштоўнасці, крыніцы прыгажосці, адлюстроўваць і надаваць форму адносінам да праяў жыцця. Усё гэта фарміруецца на працягу доўгага часу, назапашваецца і шліфуецца стагоддзямі. Увага да гэтых набыткаў, імкненне зрабіць іх асновай літаратуры характэрныя для М. Багдановіча, які сінтэзаваў "замежнае" з уласным, даючы развіццё і народнай думцы, і літаратуры ў кантэксце сусветнага мастацтва.

Багдановічаўская ідэя стварэння нацыянальнага стылю, зразуметая як стратэгія развіцця і асноўная задача літаратуры, уяўляецца важным этапам ва ўваходжанні літаратуры ў сусветны кантэкст. Гэта неабходная ўмова замацавання нацыянальнай літаратуры ў шэрагу іншых як раўнапраўнай часткі агульначалавечых культурных набыткаў.

Распрацаваўшы стратэгію развіцця літаратуры, вызначыўшы мастацтва як самакаштоўную з'яву, М. Багдановіч стаў пачынальнікам літаратурнай традыцыі. Стварэнне нацыянальнага стылю было адной з найважнейшых задач сяброў літаратурнага аб'яднання "Узвышша", прадстаўнікі якога вынаходзілі новыя жанры творчасці (напрыклад, паэма-камбайн У. Дубоўкі), шукалі хараство ў кожнай праяве жыцця (У. Жылка). Максім Танк развіваў верлібр, уласцівы многім літаратурам, працягваючы працу М. Багдановіча ў кірунку ўвядзення ў беларускую літаратуру маларaспрацаваных формаў і развіцця іх на ўласным матэрыяле.

Эсэ “Загадка Багдановіча” (1967-1968), у якім М. Стральцоў аналізуе ўмовы жыцця і творчасці паэта, дае нагоду гаварыць пра зацікаўленасць пісьменніка асобай М. Багдановіча. Прычым важнымі для яго з’яўляюцца не толькі творы як вынік працы, але і ўнутраны склад творцы, якім абумоўлена тое цэнтральнае месца, якое заняў Максім Багдановіч у беларускай літаратуры: “Літаратура для яго [Багдановіча] значыла надта многа, прынамсі, дастаткова для таго, каб бачыць яе карысць, яе грамадскую функцыю перш за ўсё ў яе мастацкім самавызначэнні, у самавызначэнні яе як адметнага, найвышэйшага роду чалавечай дзейнасці” (з эсэ “Загадка Багдановіча”). Такая пазіцыя, якая дазваляе развіваць літаратуру найперш як мастацтва, была блізкая і самому М. Стральцову. Добра ведаючы творчасць М. Багдановіча і ўсведамляючы яго ўплыў на станаўленне беларускай літаратуры, пісьменнік ідзе па тым самым шляху спалучэння агульнамастацкага з уласнабеларускім.

У XX стагоддзі ў сусветнай літаратуры адбываецца паварот да псіхалогіі, аналізу механізмаў пачуццяў, імкнення растлумачыць паводзіны чалавека, зыходзячы з эмацыянальных працэсаў. Важным пытаннем становіцца тое, як чалавек думае, што ўяўляе сабой разумовы працэс, як функцыянуюць эмоцыі і як яны ўплываюць на знешні стан чалавека і яго ўчынкі. Гэта выявілася, да прыкладу, у развіцці лірычнай прозы ці такога прыёму, як плынь свядомасці, для якога характэрна засяроджанасць на духоўным жыцці чалавека, павышаная ўвага да суб’ектыўных перажыванняў герояў, што адлюстравалася ў парушэнні традыцыйнай апавядальнай структуры, змяшчэнні часавых планаў, незвычайных фармальных эксперыментах.

Гэтыя тэндэнцыі ў беларускай літаратуры другой паловы XX стагоддзя найяскравей праявіліся ў творчасці Міхася Стральцова, проза якога вельмі адрозніваецца ад твораў яго сучаснікаў. На фоне традыцыйнай, сюжэтнай пабудовы тэкстаў апавяданні М. Стральцова вылучаюцца парушэннем структуры, адсутнасцю лагічных знешніх сувязяў у межах аднаго твора. Больш увагі пісьменнік надае ўнутранай працы героя, прасочвае ход яго думкі і развіццё пачуцця, нічога не прапускаючы, адзначаючы кожную думку ці эмоцыю, бо свядомасць уяўляецца непарыўнай плынню, дзе адно вынікае з другога і завяршэнне адной думкі выступае пачаткам для наступнай.

Распрацоўка якасна новага кірунку дазваляе казаць пра развіццё М. Стральцовым беларускай прозы ў еўрапейскім літаратурным кантэксце. Ён адыходзіць ад сюжэтнай прозы ў час, калі яна пішацца многімі, калі назіраецца тэндэнцыя ствараць вялікія раманныя цыклы (трылогіі, пенталогіі). У той жа час малая проза дазваляе лаканічна акрэсліць тыя ж тэмы, надаўшы больш увагі псіхалагічнаму боку праблемы. Пішучы такую прозу, М. Стральцоў узбагачае беларускую літаратуру творамі новага кірунку, бярэ “замежную” форму і спалучае яе з уласнабеларускім зместам. Развіццё літаратуры на сваім матэрыяле з выкарыстаннем здабыткаў іншых літаратур дазваляе казаць пра імкненне вывесці беларускую літаратуру на ўзровень еўрапейскіх, пры гэтым зрабіўшы яе адметнай, стварыўшы нацыянальны стыль творчасці.

У творах плыні свядомасці ствараецца прастора, характэрная для пэўнага народа, тэкст асацыюецца з краінай дзякуючы паказу найбольш характэрных рыс грамадскага жыцця. Час вызначаецца найчасцей праз адносіны герояў да падзей, пэўныя каментарыі, разважанні, выкліканыя ў герояў гэтымі падзеямі. Такі погляд на свет суб’ектывізуе стаўленне да яго і прывязвае гэта меркаванне да асобнай нацыі, бо пазіцыя народа абумоўлена яго гістарычнай роляй і вопытам яго прадстаўнікоў. Гэта можна ўбачыць у творах плыні свядомасці замежных аўтараў, напрыклад, у рамане “Місіс Дэлаўэй” (1925) В. Вулф, рамане “Шум і шаленства” (1929) У. Фолкнера, аповесці “Падзенне” (1956) А. Камю. Выказванне агульнага праз асабістае дае магчымасць звязаць асобу і цэлую нацыю на псіхалагічным узроўні.

Нацыянальную прастору М. Стральцоў стварае, беручы беларускія горад і вёску ў сучасным для яго выглядзе. Вёска – гэта захавальнік беларускай культуры,

месца, дзе на працягу ўсёй гісторыі ствараліся і падтрымліваліся традыцыі. Таму менавіта вёска дае найбольш поўнае ўяўленне пра культуру нацыі, пра яе грамадскі стан і асаблівасці светапогляду. Горад прыйшоў пазней, але адыграў важную ролю ў развіцці беларускай нацыі. Паралельнае існаванне і супрацьстаянне горада і вёскі сталі ў пэўным сэнсе беларускай нацыянальнай адзнакай.

Знешні выгляд вёскі М. Стральцоў апісвае вельмі падрабязна, дэталёва, з выкарыстаннем спецыфічнай лексікі, характэрнай для побыту вяскоўцаў: "І тады ён убачыў сцены, якія адразу пазнаў: прапахлыя павуціннем, негабляваныя сцены, і тапчан у куце, закіданы старой вопраткай, і старыя начоўкі на ім, і лаву ля дзвярэй, і вёдры на ёй, і на падлозе кашы з бульбай, і чыгуны, і цэбар з мешанкай, і вузкае, на адно бервяно прарэзанае акенца ў сцяне, і нейкі слоік на ім, і шклянку з гусіным тлушчам на ім (ён гэта ведаў), і адно замурзанае (ці не поклад?) курынае яйка..." (з апавядання "Смаленне вепрука"). Дэталізацыя нават у дробязях дазваляе стварыць жывы малюнак, даць уражанне ўласнага знаходжання ў апісанай прасторы.

Характэрнай рысай беларускага грамадства сярэдзіны мінулага стагоддзя стала ўзнікненне двухмоўнай прасторы, калі гараджане карысталіся адаптаваным варыянтам рускай мовы, а вяскоўцы захоўвалі беларушчыну. Але ў такой сітуацыі вельмі складана дакладна размежаваць месцы і сферы ўжывання дзвюх моў, таму адбываецца іх змяшэнне, якое прыводзіць да іх суіснавання і адначасова пэўнай дыферэнцыяцыі грамадства ў залежнасці ад мовы, якой чалавек карыстаецца. Руская мова дазваляе вылучыць тагачасную гарадскую моладзь: "...нейкія жаўтароцікі ў ненатуральна белых кашулях, расшпіленых на верхні гузік, у адпрасаваных вузкіх чорных штанах, загарэлыя, з акуратна падстрыжанымі, такімі самаўпэўненымі патыліцамі.

– Слушай, Люсь! Обеспечь, чтобы маман не поднимала шухер. У меня пластиночки – первый номер... Ну да – законно. Гуд бай! Лёньке трубку не давать? Бусделано!.. Салют! Когда я смогу принести свои бренные останки?" (з апавядання "Свет Іванавіч, былы донжуан").

Моўная інтэрферэнцыя ўласціва чалавеку, які пераехаў з вёскі, але ўнутрана з ёй не развітаўся, – дзядзьку Ігнату з апавядання "Сена на асфальце": "У першых радках свайго пісьма саабшчаю вам, што мы жывыя і здаровыя, чаго і вам жадаем. Пісьмо ваша палучылі, за што дзякуй, а таксама, што не забываецеся на нас і завяце ў вёску, каб прыехалі ў гэтае лета". Мова выступае яшчэ адной нагодай для падзелу грамадства знешне і для ўзнікнення дадатковай нявырашанасці ў свядомасці асобнага чалавека.

Для плыні свядомасці як прыёму характэрна ўвага найперш да ўнутраных перажыванняў герояў, асаблівасцяў псіхалагічнага стану, выкліканых агульнай для нацыі праблемай. Характэрна імкненне зразумець, як гэтыя агульныя пытанні трансфармуюцца ў свядомасці асобнага чалавека, як накладаюцца на яго асабістыя перажыванні і які ўплыў аказваюць на эмацыянальны стан героя.

Заняпад беларускай вёскі ў сярэдзіне XX стагоддзя выявіўся не толькі ў знешніх працэсах, ён справакаваў з'яўленне вялікай унутранай праблемы, нявырашанасці, бо выхаванне, дзяцінства, звязанае з вёскай, мусіла замясціцца гарадской культурай, да чаго многія былі проста не падрыхтаваны. Пакаленне, узрошчанае вясковым асяродкам з яго традыцыйнай мараллю, апынулася вырваным са звыклага ладу жыцця і сутыкнулася з неабходнасцю выбару паміж горадам і вёскай. У апавяданні "Сена на асфальце" Віктар выказвае такую думку: "Мне хацелася, даўно хацелася прымірыць горад і вёску ў сваёй душы, і гэта была мая самая патаемная і самая душэўная думка". Але прымірэнне ўяўляецца немагчымым ад няздольнасці чалавека аб'яднаць занадта розныя рэчы. Выбар найперш адбываецца на ўзроўні свядомасці, бо патрабуе кардынальнай змены ў жыцці, адмаўлення ад ранейшага. Адарвацца ад мінулага неабходна хаця б таму, што трэба з'ехаць з дому, стварыўшы адлегласць паміж сабой і роднымі, што ўжо незвычайна для вясковай маралі.

М. Стральцоў, які належаў акурат да пакалення “сена на асфальце”, добра адчуў на сабе складанасць такога выбару. Яго героі пастаянна пакутуюць ад нявырашанасці, задаюць сабе пытанні наконт правільнасці ці памылковасці ўласнага жыцця, бо разумеюць, што выбар “горад ці вёска” шмат у чым прадвызначыў іх лёс. Але калі з матэрыяльнай сферай можна звыкнуцца, то на духоўным узроўні сумненні такога кшталту з часам не толькі не знікаюць, але абвастраюцца, бо чалавек усё больш і больш аддаляецца ад кропкі выбару і мае ўсё болей нагод для пераацэнкі свайго жыцця. Героі Стральцова часам робяць неабходны выбар з наступнай заканамернасцю. Калі ён адбываецца на карысць горада, то дае толькі часовую адтэрміноўку душэўным пакутам, але не дае паўнавартаснай палёгкі, бо з’яўляецца рашэннем толькі прыватнага выпадку ў нейкі асобны момант. Душэўныя пакуты чалавека, вымушанага жыць у горадзе, не жадаючы гэтага, не даюць унутранага спакою і спараджаюць пастаянную незадаволенасць і самаабвінавачванне: “Дурны ты, дурны, чаго ты са свайго гнязда сарваўся, чаго пайшоў у белы свет як у капейку!” (з апавядання “Сена на асфальце”). Калі ж герой выбірае вёску, то набывае сапраўдную гармонію, прыводзіць свае думкі да ладу і дзівіцца з сябе ранейшага. “«Трэба абавязкова з’ездзіць у вёску, да маці, – адзначыў сабе Лагацкі. – Гэта ж столькі часу не наведваўся туды». І яму стала прыемна, што ён падумаў гэтак, і непрымушанае, лагоднае прыйшло тады адчуванне: «Я спакойны – гэта добра. Але спакойны не так, як яшчэ нядаўна, калі прачнуўся». Як бы ў нейкую новую і вялікую дарогу збіраўся ён цяпер, і ад таго, што яна наперадзе, было прыемна” (з апавядання “Блакітны вецер”).

Такой эмацыянальнай рэакцыяй на выбар аўтар сцвярджае псіхалагічную непадрыхтаванасць вясковых беларусаў да цалкам гарадскога жыцця, бо “роднае карэнне” выяўляецца значна мацнейшым за пэўную логіку, жаданні, якія вядуць у горад. М. Стральцоў дае назву гэтаму пакаленню, стварыўшы вобраз “сена на асфальце”. Праблема выбару хаваецца недзе на падсвядомым узроўні: “А можа, праўда дзядзькі Ігната, і чалавеку па-сапраўднаму трэба што-небудзь адно: горад ці вёска, месяц над хатай ці электрычны ліхтар?” (з апавядання “Сена на асфальце”). Аўтар паказвае патаемную складанасць гэтага знешне простага працэсу перасялення і тым самым наводзіць на думку, што працэс гэты можа зацягнуцца і пазбавіцца ад такога кшталту “двудушнасці” беларусы змогуць, калі зменіцца, можа, не адно пакаленне.

М. Стральцоў малюе наглядны псіхалагічны партрэт свайго пакалення, для якога засяроджанасць, спрэчка з сабой сталі нагодай для пэўнай адасобленасці сярод людзей, калі неабходна вырашыць спачатку ўнутраную праблему, а толькі потым змяняць сваё жыццё знешне. Складанасць маральнага выбару паказана ў апавяданні “Блакітны вецер”, галоўны герой якога – Лагацкі – думае: “Я не пайшоў таму, што проста баюся людзей, баюся, каб яны не ўбачылі, што ў мяне згубілася нешта і што ўсё мне нецікава”. Маладосць, маленства выклікаюць шэраг асацыяцый і ў спалучэнні са знешнімі зменамі ў жыцці складаюць адну з галоўных унутраных праблем, спараджаючы жаданне вярнуцца не толькі ў прасторы, але і ў часе. Дзяцінства, юнацкасць звязваюцца з натуральнымі пачуццямі, якіх цяпер герою не стае: “Ён [Лагацкі] ведаў: сапраўднае дзіва было ці простае, як гэта дзіцячая горка, ці наіўнае, як выцвілы паркаль. І сапраўды вецер быў блакітны, як у сне. У ім было ўсё: трывожная смуга далягляда і незабыўнае святло маленства; дажджы густыя, як вецер, і пах суніц; шчымлівая радасць у сэрцы і непрыкрытае, вясёлае здзіўленне перад светам. Якраз усё тое, чаго не хапала цяпер Лагацкаму” (з апавядання “Блакітны вецер”).

Агульны для ўсіх людзей унутраны крызіс, які ўзнікае ў пэўным узросце, у беларусаў абвастраўся яшчэ і сацыяльна-палітычным становішчам. Глыток свабоды ў часы “адлігі” і хуткае ператварэнне жыцця ў “застой” найбольш паўплывалі на моладзь. Немагчымасць рэалізавацца ў грамадстве стварыла ўмовы для страты веры ў свае здольнасці і для сумненняў у неабходнасці ўласных дзеянняў. Малады

чалавек, які не ведае, чым хоча займацца ў сваім жыцці, разважаючы над уласнымі пачуццямі, робіць выснову: “Ёсць такое паняцце – пераломны ўзрост. Мне здаецца, ён зацягнуўся ў нас” (з апавядання “Свет Іванавіч, былы донжуан”). Чалавек быў зламаны на розных узроўнях і для вырашэння сваіх псіхалагічных праблем мусіў шукаць новы ідэал, які б дазволіў рухацца далей: “Мне трэба зноў паверыць у ідэалізм. Не ў той, ранейшы, а можа, у другі нейкі, які не замінаў бы жыццю і жыццё якому не замінала б таксама” (з апавядання “Свет Іванавіч, былы донжуан”).

Важнае месца ў творах плыні свядомасці ў еўрапейскай літаратуры займае пераасэнсаванне мінулага, зварот да падзей свайго жыцця з мэтай вызначыць іх уплыў на далейшы лёс. Адным з самых галоўных пачуццяў выступае каханне, што займае думкі чалавека ў любым становішчы. Паказальна і тое, якія героі пачынаюць разбірацца ў сваіх пачуццях да іншага. Найчасцей гэта людзі, што знаходзяцца пад уплывам характэрных для нацыі працэсаў, якія дазваляюць выявіць, як функцыянуе вечнае пачуццё ў кантэксце часу, як яно трансфармуецца пад уздзеяннем знешняга свету і як свет змяняе ўспрыманне кахання і стаўленне да яго. Ацэнка становішча найвышэйшых, неаспрэчных каштоўнасцяў у пэўным грамадстве – гэта спроба паглядзець на свой час з пазіцыі вечнасці, скласці меркаванне пра сучасную мараль адносна непарушных ідэалаў.

Змены ў грамадскім жыцці не могуць не адбівацца на ўяўленнях чалавека пра духоўныя каштоўнасці. Каханне выклікае цікавасць яшчэ таму, што бачанне яго сур’ёзна змяняецца ад ідэальнага і ўзвышанага пачуцця да арганічнай часткі жыцця, якая падпарадкоўваецца тым жа законам, што і развіццё грамадства ў іншых сферах. Як і ў еўрапейскіх літаратурах, у прозе М. Стральцова можна назіраць трансфармацыю пачуцця кахання ў сучасным аўтару асяродку: “...прынцыпова не хацеў мець сваёй дзяўчыны, якую на вуліцы трэба было браць пад руку, знаёміць са сваімі сябрамі, сустракацца ледзь не штодзень, якой трэба было купляць марожанае і кветкі і абавязкова праводзіць дамоў, каб адстаяць з ёй свае паўгадзіны ў пад’ездзе. Я не хацеў тады, каб хто-небудзь меў на мяне правы. Мне трэба было, каб я мог прыйсці да яе, калі захачу, і каб яна не брала з мяне слова, што я абавязкова прыйду да яе яшчэ і заўтра” (з апавядання “Свет Іванавіч, былы донжуан”). Сама наяўнасць пачуццяў, на якіх сканцэнтравана найбольш увагі, а таксама паказ іх у развіцці, замест прадугледжанай вызначанасці і нязменнасці, – доказ неадпаведнасці твораў М. Стральцова метаду сацрэалізму. З іншага боку, цікавасць да ўнутранага свету і ўплыву на яго знешніх фактараў, асаблівасцяў часу дазваляе казаць пра блізкасць прозы М. Стральцова да еўрапейскай літаратурнай традыцыі.

Для еўрапейскай літаратуры другой паловы XX стагоддзя характэрна фармальнае наватарства, парушэнне традыцыйнай структуры тэкстаў дзеля патрэбнай аўтару расстаноўкі акцэнтаў. Проза плыні свядомасці з’яўляецца пошукам формы для найбольш натуральнага паказу ўнутранай працы праз стварэнне новай сістэмы для хаатычных пачуццяў і думак.

М. Стральцоў, ствараючы нетрадыцыйную для тагачаснай літаратуры прозу, эксперыментаваў і з формай. Апавяданне “Сена на асфальце”, якое складаецца з лістоў, асобных размоў, разважанняў, – прыклад твора, адзінства якога дасягаецца не сюжэтнымі сувязямі, а суб’ектыўным поглядам героя, які акурат і выконвае функцыю аб’яднання не звязаных паміж сабой эпізодаў.

Аднак найбольш паказальным тэкстам у плане фармальнага пошуку з’яўляецца апавяданне “Смаленне вепрука”. Апавяданне пра апавяданне, эпітафія апавяданню, як вызначыў жанр гэтага твора сам М. Стральцоў, пабудавана на асацыяцыях, выкліканых сугучнымі адчуваннямі ў абсалютна розных сітуацыях: “Мне даўно хацелася напісаць адно апавяданне і назваць яго так: «Смаленне вепрука»”. Адметнасць формы заключаецца ў наяўнасці асобы аўтара-апавядальніка, якая, знаходзячыся па-за прасторай тэксту, расказвае пра твор як пра нешта нязздзейсненае, бо ён знаходзіцца толькі ва ўяўленні творцы. Пераходы паміж эпізодамі апавядання праз заўвагі аўтара наконт падтэксту вымушаюць чытача акрэсліць для

сябе эмацыянальную прастору, каб надалей, накладаючы адно ўражанне на другое, зразумець, адчуць тое, што хацеў сказаць аўтар. Менавіта прысутнасць аўтара, асацыятыўнасць, шматузроўневасць у пабудове тэксту прыцягваюць увагу да яго зместу, бо патрабуюць глыбокага ўспрымання, перажывання твора, правакуюць не проста сузіраць, але саўдзельнічаць у стварэнні апавядання. Эксперыменты з формай як творчасць у працэсе творчасці ўводзяць прозу М. Стральцова ў еўрапейскі літаратурны кантэкст і дазваляюць казаць пра набыццё беларускай прозай тэндэнцый развіцця, характэрных для іншых літаратур.

Асацыятыўныя сувязі паміж сітуацыямі, падзеямі, адчуваннямі дапамагаюць перадаць складанасць і ўзаемазвязанасць псіхалагічных праблем. Ствараючы знешнюю прастору, М. Стральцоў акцэнтуе ўвагу на яе пачуццёвым успрыманні: "...і павінна была чуцца вёска: пах падмерзлых трэсак на дрывотні, тарахценне трактарка ля фермы, і на шумавым фоне гэтым – гулкім ёкатам галасы людзей, спалоханы гэгат гусака на тарфянішчы, настылы звон калодзежнага вядра і нечакана – пругкі выпад ветру наўскасы, а над усім, а ва ўсім павінна была быць каменная, зацятая маўклівасць зямлі, травы і схаладнелага, шурпата-шызага неба" (з апавядання "Смаленне вепрука"). Пачуццёвая абвостранасць, канцэнтрацыя эмоцый і вобразаў дазваляюць у невялікіх эпізодах акрэсліць вельмі важныя ўнутраныя праблемы, сфарміраваць агульны матыў, які прасочваецца ва ўсім творы. Ад аўтара не патрабуецца доўгага і падрабязнага аповеду, бо лаканічна перадаць працэс псіхалагічнага фарміравання героя, расставіць акцэнты ў яго стаўленні да свету дастаткова, каб даць неабходнае ўяўленне пра яго асобу. Сканцэнтраванасць на ўнутраных працэсах дае магчымасць глыбей, дакладней зразумець душэўны стан чалавека, пры гэтым у пэўнай ступені нівелююючы знешнія падзеі. Аўтар апелюе менавіта да суладных пачуццяў, што дазваляе ўсталяваць эмацыйную сувязь з чытачом, ліквідуючы ўплыў знешніх фактараў. Пошук блізкіх, падобных пачуццяў у абсалютна розных людзей аб'ядноўвае на пазаматэрыяльным узроўні, бо вызначальным застаецца толькі псіхалагічны стан. Праз найбольш блізкія да свядомасці беларуса вобразы М. Стральцоў выходзіць на ўзровень успрымання свету, агульны і зразумелы не толькі для людзей, але і для любой жывой істоты. Асэнсаванне працэсаў, якія нельга растлумачыць логікай, знаходзіцца пад непасрэдным уплывам псіхалагічнай прасторы, будучы ўнікальным для кожнага чалавека і кожнай нацыі. У апавяданні "Смаленне вепрука" М. Стральцоў перадае светаадчуванне беларуса, акрэсліваючы асаблівасці яго адносін да рэчаіснасці, вызначаючы ў пачуццёвай плыні кропкі, якія могуць стаць своеасаблівым эмацыйным апірышчам на фоне непадуладных працэсаў жыцця.

Эмоцыі можна адчуць праз мастацтва толькі ў тым выпадку, калі яны выказаны шчыра, бо на пачуццёвым узроўні падробка адчуваецца вельмі выразна. Менавіта таму пісьменнік, які ставіць задачу разабрацца ў псіхалагічным стане чалавека, выявіць асаблівасці мыслення, мусіць мець уласны вопыт знаходжання ў такой сітуацыі. Увага да ўласцівай нацыі ўнутранай праблемы вымагае ад аўтара прыналежнасці да гэтага народа, што тлумачыцца акурат патрэбай уласнага досведу для дакладнай перадачы пачуццяў. Прыдумаць, зразумець эмоцыі немагчыма, іх можна толькі адчуць. Атрымліваецца, што любы твор, дзе больш увагі надаецца псіхалогіі, патрабуе ад аўтара пэўнай "нацыянальнасці", ён не можа быць атаясамлены з нейкім іншым народам дзякуючы натуральнай перадачы эмоцый. М. Стральцоў выбраў форму, якая ўжо сама па сабе дазваляе "несці нешта сваё ў сусветную літаратуру", бо не дае магчымасці адарвацца ад нацыянальнага кантэксту, таму што здольнасць да шчырай, жывой перадачы перажыванняў абумоўлівае якасць самога твора. З'яўляючыся і часткай пакалення, "апаленага" вайной, і "сенам на асфальце", ён выявіў, замацаваў псіхалагічныя асаблівасці нацыянальнага характару з чыста чалавечай пазіцыі. Нацыянальная прастора, характэрныя рысы светаўспрымання, культуры беларусаў у спалучэнні з прыёмамі плыні свядомасці, лірычнай прозы дазваляюць стварыць напраўду беларускі твор у еўрапейскім кантэксце.

Культура, і літаратура ў тым ліку, – важная прыкмета самастойнасці нацыі. Таму стварэнне “беларускага складу” творчасці – гэта своеасаблівы шлях да дасягнення незалежнасці на духоўным узроўні, не падуладным палітычным, сацыяльным, дэмаграфічным працэсам. Магчыма, таму М. Багдановіч на фоне разбурэнняў падчас вайны, зніжэння ўвагі да духоўнай сферы жыцця наогул і абраў сродкам захавання нацыянальнай свядомасці менавіта культуру. Ён глядзеў далей, чым на некалькі гадоў наперад, назапашваючы для нацыі найперш духоўныя каштоўнасці, якімі можна скарыстацца ў любой гістарычнай сітуацыі. Мабыць, з той жа прычыны М. Стральцоў у сітуацыі паступовага знікнення носьбітаў нацыянальнай культуры – вяскоўцаў – звяртаецца да іх псіхалогіі ў пошуку больш трывалых сувязяў з “родным карэннем”. Метад сацыялістычнага рэалізму выключаў магчымасць распрацоўкі нацыянальных тэм, бо касмапалітызм быў адной з характэрных рыс і літаратуры, і грамадства наогул. Проза М. Стральцова абсалютна не адпавядае гэтаму метаду, яго прынцыпам, моцна вылучаючыся сваім непадабенствам да іншых твораў тагачаснай літаратуры.

У той жа час і М. Багдановіч, і М. Стральцоў разумелі патрэбу развіваць літаратуру як асобны від мастацтва. Пры ўсім сваім грамадскім прызначэнні літаратура застаецца мастацтвам, патрэбным не столькі для прамога данясення думкі, колькі для асэнсавання праблемы з вышыні чалавечай свядомасці. Імкненне вывесці літаратуру ў еўрапейскі кантэкст – жаданне дасягнуць незалежнасці як сярод іншых народаў, так і ўнутры краіны, бо прызнанае за мяжой набывае аўтарытэт і ў самой дзяржаве.

Эксперыменты з формай, адпаведная стылістыка ў розных тэкстах у залежнасці ад іх настрою, тэматыкі дазваляюць казаць пра развіццё мовы як сродку мастацтва. Акрамя ўласна ўдасканальвання мовы, адбываецца праверка яе на “гнуткасць”, прыдатнасць для твораў высокага мастацтва. Менавіта праз пошукі найбольш трапных слоў, пастаянную працу над стылем беларуская мова даказала сваю здольнасць натуральна, па-жывому перадаваць эмоцыі, прыносіць чыста эстэтычнае задавальненне.

За распрацоўкай новых формаў, узвышэннем мастацтва, замест зніжэння дзеля большай зразумеласці, бачыцца жаданне зблізіцца з чытачом крыху іншым шляхам: не спрашчэннем сваёй творчасці, якое непазбежна прыводзіць да марнавання таленту, а пастаянным стварэннем высокага пісьменства, якое мае сваёй задачай справакаваць чытача ўзняцца да ўзроўню аўтара, сфарміраваць уласны густ. Такое ўзаемадзеянне творцы з чытачом – спосаб паказаць на шлях духоўнага развіцця, даць альтэрнатыву, якая прывядзе да больш поўнага разумення, асэнсавання гэтага свету.

У розны час, у розных сітуацыях М. Багдановіч і М. Стральцоў працуюць дзеля адной мэты: стварыць такую літаратуру, якую немагчыма кінуць, згубіць у любых абставінах. Прычым напраўду беларускія творы нясуць у сабе патрэбнае для многіх і розных прадстаўнікоў нацыі, чым у пэўнай ступені аб’ядноўваюць, кансалідуюць яе. Стварэнне духоўнай, эмацыянальнай сувязі дазваляе захаваць цікавасць да мастацтва наогул і выклікаць жаданне ісці далей па шляху развіцця літаратуры ў кірунку спалучэння агульначалавечых і нацыянальных каштоўнасцяў. За ўздымам нацыянальнай культуры на ўзровень свайго часу шляхам стварэння арыгінальнага беларускага стылю бачыцца імкненне пакінуць эстэтычную спадчыну, якая вызначыць духоўную незалежнасць, адметнасць нацыі і гарантуе ёй роўнае існаванне ў сусветнай супольнасці.



Валадзімір Сасюра



...Як песню, якую душою пяюць,
Як неба, што зззяе зарою,
Ўсім сэрцам любіце Ўкраіну сваю –
І вечныя будзем мы з ёю!...

# “Любіце Ўкраіну”

## Патрыёт Украіны. Сябар Беларусі

*Штрыхі да партрэта Валадзіміра Сасюры*

***Валадзімір Сасюра (1898–1965) быў шчырым сябрам Беларусі, называў яе сінявокай сястрой Украіны. З вялікай сімпатыяй пісаў пра нашых творцаў, Максіма Багдановіча параўноўваў з Міхаілам Лермантавым. Часта наведваў нашу краіну, з многімі сябраваў, таму не выпадкова называў У. Дубоўку сябрам, А. Александровіча – братам. Балела яго чалавечнае сэрца па М. Чароту, Ц. Гартнаму, А. Дудару, па ўсіх ахвярах 30-х гадоў.***

*Прадмова і пераклад з украінскай Васіля ЖУКОВІЧА.*

Першы штрых да партрэта Валадзіміра Сасюры – ён па сваім нацыянальным паходжанні не ўкраінец: па бацьку – француз, пра што, дарэчы сведчыць прозвішча, якое ўяўляе сабой украінізаваны варыянт французскага дэ Сасюр; маці ж яго была мадзьярка. Калі я прачытаў пра гэта, дужа здзівіўся з такога феномена. Але ніколькі не дзіўлюся, што ўкраінская дзейсная духоўнасць выхавала ў яго асобе знанага нацыянальнага паэта і патрыёта Украіны.

Штрых другі: падчас грамадзянскай вайны В. Сасюра служыў дабраахвотнікам украінскага войска на чале з Пятлюрам, больш за тое – быў нават у асабістай ахове Пятлюры (у адным з вершаў паэт узгадвае: "...груші в Петлюри я рвав у саду"). Трэці штрых: ён паспяхова пераажыў крывавага дыктатара, які так метадычна патрабаваў вышукваць і караць "ворагаў народа", яшчэ й быў узнагароджаны яго ж прэміяй у 1948 годзе за зборнік "Каб сады шумелі" (1947). Тады раптам пільны таталітарны рэжым "апамятаўся" і пачаў бэсціць свайго лаўрэата за верш "Любіце Ўкраіну", створаны яшчэ ў 1944-м годзе і змешчаны якраз у тым прэміраваным і таму, здавалася б, недатыкальным зборніку. У звязку з вершам "Любіце Ўкраіну" фігуравала так званая "справа Сасюры". Цікава, як у 1952-м годзе Васіль Грышко каментаваў у далёкім замежжы тыя падзеі: "...украінскі патрыятызм, нават абмежаваны толькі звычайнаю любоўю да Украіны, стаў для бальшавікоў небяспечны. Пачаўся спешны адыход назад, на старыя і сталыя пазіцыі безагляднага знішчэння ўсяго ўкраінскага. І тут прыйшла чарговая і, можа, ужо апошняя бальшавіцкая "аперацыя" сэрца Сасюры"... А верш, які трапіў у апалу, як кажуць, бяскрыўдны, такі светлы і аптымістычны, у ім нават матыў дружбы народаў прысутнічае, ды не ў той, не ў традыцыйнай па тым часе паслядоўнасці выказана інтэрнацыянальнае і нацыянальнае пачуццё:

Юначе! Хай буде для неї твій сміх,
і сльози, і все до загину...
Не можна любити народів других,
коли ти не любиш Вкраїну!..

А зараз – чацвёрты штрых да партрэта ўкраінскага патрыёта: у ягоным уступе да паэмы "Мазепа" (1928) ёсць такія бязлітасныя радкі, звернутыя да той жа святыні, да роднай краіны:

У голові твоїй – макуха!
Хіба ж ти можеш жить сама,
Російсько-польска потаскуха,
Малоросійская тюрма!

Даўшы такога перцу, аўтар, пранікнёны лірык, тут жа схамянаецца: "Ах, я люблю тебе, Вкраїно, і сам не знаю, що кажу!" І ў рэшце рэшт сын, які не раз ішоў за Маці на смерць, прызнаецца: "Лиш одного я хочу, мамо, щоб ти щасливою була..." Цудоўна! Але трапіў бы гэты цуд ва ўмовах пільнага ідэалагічнага нагляду і кантролю ў "лапы" сталінскіх даносчыкаў – бяды не адвёў бы ніхто. Спагадлівы лёс В. Сасюры даў яму дажыць да хрушчоўскай "адлігі" і атрымаць у 1963-м годзе Дзяржаўную прэмію УССР імя Т.Р. Шаўчэнкі за кнігі паэзіі "Ластаўкі на сонцы" і "Шчасце сям'і працоўнай". Пяты – апошні – штрых да неардынарнага партрэта: В. Сасюра быў камуністам з 1920 года. Ён з'яўляўся аўтарам кніжак: "Чырвоная зіма" (1922) – пра гераіку кастрычніцкіх падзей і грамадзянскай вайны; "Днепральстан" (1930), "Новыя вершы" (1937), "Жураўлі прыляцелі" (1939) – пра будаўніцтва сацыялізму ва Украіне. Былі ў яго і кнігі пра подзвігі на Вялікай Айчыннай вайне, і пра мірную працу. Была і паэма "ГПУ", былі вобразы накшталт "Цвіте Червона Україна", публіцыстычная тарабаршчына: "Безсмертна воля ВКП", траплялiся рыфмы "Ілліч – клич" і г.д. "Прыстасаванец! Двурушнік!" – можа падумаць хтосьці. Ах, гэты паспешлівы суд!.. У хрэстаматыі ўкраінскай літаратуры і літаратурнай крытыкі XX стагоддзя "Украінскае слова" (1994) можна прачытаць пра двaістасць В. Сасюры, выкліканую цяжкім унутраным канфліктам, – гаворка ідзе пра барацьбу ў асобе паэта дзвюх сілаў – свядомасці і пачуцця, розуму і сэрца; пра тую нялёгкую барацьбу не маўчыць і сам паэт:

Рвали душу мою
два Володьки в бою... –
рвали душу мою
к о м у н а р
і
н а ц і о н а л і с т...

Сучаснаму чытычу не так цікава ведаць, калі і хто ў гэтай неардынарнай асобе перамагаў – сардэчны ўкраінец з глыбокім нацыянальным пачуццём ці камуніст. Важна іншае – тое, што ў яго душы праз усё наноснае прабівалася крынічная паэзія. Запавет "Любіце Украіну" лёгка пераносіцца і на нашую рэчаіснасць. Дзякуй, сын Украіны, што выклікаеш блізкае пачуццё: любіце Беларусь!

**Васіль ЖУКОВІЧ**

## Валадзімір САСЮРА

### *УСТУП ДА ПАЭМЫ "МАЗЕПА"*

Наўкола радасці так мала!
Які, у чорта, спраў прастор,
Калі мы крылы паламалі
У лёце прывідным да зор!

І гневу, і пакутаў мора
Я вылью з сэрца ў час журбы,
Калі ідуць лакеі ўгору
Й маўчаць рабы!

У пустаслоўі патакаеш.
Хто ўчынкам ходу не даваў?!
Ты ж галаву разбі аб камень,
Мая Украіна, удава!

У шматгадовай крутаверці
Ты не здзівіла плодам свет.
Не ўмела жыць, дык хоць памерці
Сумей як след.

Хадою гнеўнаю блукаю
Чужынцам па радзіме я,
Пажарам вочы залівае
Мне ўсё трагедыя твая.

Нямой, адуранай, забітай,
Няўжо не ўстаць табе ад ран?
Маскве і Рэчы Паспалітай
Цябе шпурнуў калісь Багдан.

Пасля хацеў табе Мазэпа
Ад сэрца шчырага дабра–

Яму ж ты здрадзіла і стэпам
Пайшла ў рабыні да Пятра.

Хіба ж не жах? – уласнай зброі
У смутныя не маеш дні.
Так у цябе: два-тры героі,
А рэшта – ёлупні ўсё, пні;
А рэшта – безгалоўе здольных
Блакітам багну уявіць.
О, каб я мог, о, каб я здолеў
Цябе, Ўкраіна, ажывіць!

Твае шляхі – адчай і камень.
Прыўкрасная, ды, як на грэх,
Зямлю ты плодзіш байструкамі –
Камусь для гною і на смех.

У галаве тваёй – макуха!
Хіба ж ты можаш жыць сама,
Расійска-польская ты шлюха,
Маларасійская турма!

З табой, шалёная, загіну,
Вядзі ж на страшную мяжу.
Ах, я люблю цябе, Ўкраіна,
І сам не знаю, што кажу!

Я сын твой, што цяжкой дарогай
На бой і смерць ішоў не раз,
Той, хто пакінуў неба й Бога,
Абы прыйшоў твой зорны час.

Ішоў крывавымі жытамі
І зноў пайду, дзе гул, імгла.
Што зычыць сын адзінай маме?
Каб толькі шчаснаю была!

*1928*

## *ЛЮБІЦЕ ЎКРАІНУ*

Любіце Ўкраіну, як сонца святло,
Як вецер, і травы, і воды...
Любіце у шчасці ўсім злыдням назло,
Любіце ў часіну нягоды.

Любіце Ўкраіну наяве і ў сне,
Вішнёвую нашу краіну,

У вечнай і новай красе, у вясне,
У мове яе салаўінай.

Між братніх народаў, бы ў садзе жывым,
Яна – у вяках з добрым імем.
Любіце Ўкраіну ўсім сэрцам сваім
І справамі ўсімі сваімі.

Адзіная ў свеце яна нам адна
Ў салодкіх прасторавых чарах...
У зорках яна ды і ў вербах яна,
У сэрца кажнюткім удары,

У кветцы, у пташцы, ў электраагнях,
У песні крылатай, у думе,
Ў дзіцячай усмешцы, дзявочых вачах,
Ў штандара узрушаным шуме.

Як дзень, як святая світання пара,
Яна і ў палях, і ў дубровах,
У клічы гудкоў, і у хвалях Дняпра,
І ў воблаках тых пурпуровых,

І ў громе гармат, што развеялі ў прах
Прыблуд у зялёных мундзірах,
Ў штыхах, што прабілі у цемры нам шлях
Да вёснаў і светлых, і шчырых.

Юнача! Твой смех для яе хай звініць,
Ты й слёз не хавай ад краіны...
Не можаш народы планеты любіць,
Не любіш калі Украіны!

Дзяўчына! З ёй мару табе калыхаць,
Любі яе кожнай хвілінай.
Каханы цябе не захоча кахаць,
Не любіш калі Украіны.

Як песню, якую душою пяюць,
Як неба, што ззяе зарою,
Ўсім сэрцам любіце Ўкраіну сваю –
І вечныя будзем мы з ёю!

*1944*

## *МАРЫЯ*

Над местам прагнаў вецер хмары сівыя,
Прахожыя крочаць няспынным прыбоем,

І я паміж імі. Я поўны табою,
Гараць ліхтары, бы шапочуць: “Марыя!..”

Салодкая ў сэрцы маім эйфарыя,
Бы самы чароўны я сон пражываю
І сокалам быццам бы ў неба ўзлятаю,
Дзе зоркі далёкія ззяюць: “Марыя!..”

У мроях высокіх знаходжу дары я,
І спеў нарастае ў душы штохвіліны...
Вясновай чаромхі шапочуць галіны
Сцвярджальна нябёсна-зямное: “Марыя!..”

Дзесь мора шуміць, грэбні хваляў жывыя.
Там даль не такая, як тут, ва Ўкраіне.
Стаяць кіпарысы пад небам пад сінім,
І хвалі пад імі шапочуць: “Марыя!..”

Прыспешваю крокі насустрач зары я,
Вясною кахання майго паланёны,
І вусны шапочуць прасветла-натхнёна
Імя для мяне найсвятое: “Марыя!..”

*1933*

* * *

Памножыць бы любоў усіх людзей,
Была якая, ёсць, якая будзе,–
То будзе ноч. Мая ж любоў – як дзень,
Чуцця такога не спазналі людзі.

Сабраць бы зоркі ўсе, – падумаў я,–
І сонцы, што ва ўсім сусвеце ходзяць, –
Гарэцьме яскравей любоў мая
За сонцы ўсе, на тысячы стагоддзяў.

Сарваць бы кветкі ўсе з усіх планет,
Што недзе ёсць ажно за Шляхам Млечным,
А пахнуць будзе ўсё ж за іх мацней
Мая любоў, жывая ў часе вечным.

Калі б сабраць красунь з вякоў усіх,
Тых, што красою ззяюць незямною,
Цябе не прамяняў бы я на іх,
Ніхто не быў бы з іх апеты мною.

Ў адзін пагляд зліліся б вочы іх,
Няхай бы ў сэрца позірк той струменіў –

Зачараваць не змог бы ні на міг,
Ён воч тваіх ніколі не заменіць.

З якіх зляцела зорак ты сюды,
Вясновая, прасветлая, святая!
Свяці ж ты мне, каханая, заўжды,
Адзіная мне зорка залатая!

*1931*

* * *

Марыя, ў даль памкну яшчэ я
У песні, поўнай шчасця, мрой...
Хай галава мая сівее,
Ды ў сэрцы малады настрой.

Я у зямлі пазычу сілы –
І зноў да сонца, зноў увысь!..
Душа не выраклася крылаў,
Блакітна-белых, як калісь.

Надзеяў, песняў так багата, –
Спявай, душа, на ўсе лады,
Жыві свабодна і крылата!
Я – малады, я – малады!

*1962*

## ТЫ

Скрозь туман у агнёў поўным свеце,
Скрозь зімовай пары каламуць
Ты ідзеш, і здаецца: на снезе
За табою пралескі цвітуць.
Для мяне ты – як вечнае свята,
Ты – крыніца пачуццяў святых.
Пра цябе склаў я песняў багата,
Ды найгожая песня – ёсць ты.

*1939*

## ЛІСТ

Пра што Вам напісаць? Пра дальні шум акацый,
Пялёсткаў белізну, развеяных кругом?
Пра светлы смутак мой, пра сны, якія сняцца,
Што восень за вакном?!

Што адцвіло юнацтва й Вас няма са мною,
Што не вярнуўся я пад веццяшум туды,
Дзе за мастом жыве пасёлак за ракою,
Дзе дыхаюць цяплом забытыя гады?

І што ўспамінаў цвет завеяла снягамі
Суровая рука халоднае зімы,
Што сцежак тых няма, дзе мы хадзілі з Вамі,
Й каліны над стаўком, што так любілі мы!

Між зоркамі плыве лік даўняе любові,
На ім гарыць сляза ў святле маладзіка,
І сумна я гляджу на лад радкоў нервовых,
Што вывела калісь каханая рука...

*1940*

* * *

Любоў мая, пяшчотны цвеце,
Дзень цудадзейна-ясны мой,
З табою ззяе ўсё на свеце,
А без цябе спавіта цьмой.

Цябе так горача люблю я!
Шукаў цябе паміж людзьмі.
Мяне і музыка хвалюе,
Што толькі разам чулі мы,

Калі спаткаліся шчасліва
І пакахаліся калі;
Мне й водар кветак асаблівы
Той, што з табою мы пілі.

Былое ўсё яскрава гэтак
Успыхне – і засведчыць верш...
Ці не таму, што для мяне ты
У кветцы й музыцы жывеш?

*1947*

### ЦІ ВІНЕН Я?

Мой добры лёс, ці ў тым я вінен,
Што назаўжды ў душы маёй
Вачэй адбіўся колер сіні
І колер пасмы залатой?

Пра тое, як мой свет яснее,
Спяваю я табе адной.
Ці вінен, што ў душы квітнеюць
Твая хада і голас твой?

Што сінню й золатам так ззяе
Ўся песня шчырая мая,
Што я люблю цябе, кахаю,
Ці вінен я, ці вінен я?

*1940*

## ТРАЎ СІНЕЧА

Траў сінеча. Даль кармінна.
Рэчка ў тумане...
Мроіцца адна карціна
Мімаволі мне.

Там мой дом, і там шыпшына,
Што калісьці рваў,
Каравокая дзяўчына,
Што любіў – не ўзяў.

Там над гаем, там над краем,
Удалечыні
Гаманлівых птушак зграі
І зарніц агні.

Там за гаем, за ракою
Сіняе вакно.
Я дзяўчыну пад вярбою
Цалаваў даўно.

Я вачэй не бачу карых –
Сінія са мной.
Плачуць струны на гітары
Позняю парой.

Сніцца мне вярба й шыпшына,
Даль у шуме траў,
Каравокая дзяўчына,
Што любіў – не ўзяў.

*1938*

## ЧАКАННЕ

Ціха наўкола – ні руху,
Птушак не чутна ў гаі.

Падаюць цёпла і глуха
Яблыкі ў садзе маім.

Неба ў журбе жураўлінай.
Кветкі паніклі й кусты.
Тонкі твой стан – у каліны,
Светлае неба – як ты.

Хмарак гурма кучаравых
Ціха, як сон растае.
Ззяюць пад месяцам травы,
Ў вербачкі – косы твае.

Крокі твае рад бы слухаць,
Выйду насустрач ім...
Падаюць цёпла і глуха
Яблыкі ў садзе маім.

*1938*

* * *

Сонечны дзень ясны. Хлопчыкі ў пяску,
З імі забаўляецца дзеўчынка ў вянку.
Дзеўчынка ў вяночку, голас, як званочак,
Светлы і вясёлы, мілы галасочак.
Я праходжу міма, я гляджу на іх –
Будучае клічу ў думках я сваіх:

“Будучае, будзь ім коласам густым,
Яблыкам крамяным, пахка-наліўным,
Песняю вясёлай ім усім ты будзь,
Як з работы з поля юныя ідуць,
Небам будзь бясхмарным, кветкамі ў гаю,
Што душу хвалююць змоладу маю,
Водарам, калёрам, музыкаю будзь
І твайго паэта ў песні не забудзь”.

*1931*

* * *

І ты прыйшла. Чакаў цябе так доўга.
Маю любоў, як зорачку, бярог,
Хоць на душы была, як ноч, трывога,
І на гадзіннік глянуць я не мог.

Мінала ноч, вакно ўжо засінела.
Не мог я ўзняць паніклага чала.

Ў маёй душы кіпела і грымела:
Я так чакаў, а ты ўсё не ішла!

І дзень прыйшоў. Жыцця шумела мора.
Хацеў зацяцца я, табе назло,
Было на вуснах многа слоў дакору!..
А ты прыйшла – і сэрца расцвіло.

І ўжо сышла маёй душы трывога.
Са мною ты. Чаго жадаць яшчэ?
О, водар пацалунка маладога
І цішыня задумлівых вачэй!

*1938*

* * *

Пах канваліяў зноўку ў гаі;
Квет пяшчотны, як ветрык у полі...
Гэты водар, салодкі да болю,
Бы з юначых тых вёснаў маіх...
Пах канваліяў зноўку ў гаі.

Шчасце, споўніся ў час гэты весні! –
Долю я малітоўна прашу
І на срэбра званочкаў гляджу,
Салаўя заварожаны песняй.
Шчасце, споўніся ў час гэты весні!

Поўна сонца ў зялёных гаях,
А і ў сэрцы маім сонца поўна,

Ўсё трымціць сэрца ў золаце промняў...
Пасівелы з гадамі ў баях,
Кветам шчасця любуюся я.

*1959*

* * *

Так роспачна чайка ў прасторы
Крыляе. Што трызніцца ёй?
Падобна, шукае над морам
Прапаўшае шчасце сваё.

Вясёлае сонейка ззяе,
Хмурынкі нідзе не відаць.

А чайка над морам рыдае
Ды хвалі шумяць і шумяць.

Нябёсы, празрыстыя досыць,
Зары расхінаюць кумач...
І вецер да сэрца даносіць
Душы адзінокае плач.

*1963*

* * *

Жыццё, пра шчасце сэрцу моў ты –
З палёгкай хлыне спеў душы!
Снег шмат засыпаў лісцяў жоўтых,
Ды ён любоў не патушыў.

Няхай не будзе ў словах мукі,
Я зноўку, любая, з табой.
Так пасля доўгае разлукі
Дужэе і расце любоў.

Яна крылатая такая
У ясным і святым агні,
Няйнакш, дагнаць, вярнуць жадае
Ў самоце страчаныя дні.

Твае цалую вусны й рукі,
Зарой свяці мне, палымней!

Ты пасля дзён цяжкой разлукі
Яшчэ дарожчай стала мне.

*1963*

* * *

Не давалі заснуць салаўі, пах вясны,
І згадаў я мінулае ночы
Час, калі ззялі юныя вочы
І на скронях не меў сівізны.

Як ні б’юся адважна, ды ясна:
Час мяне пераможа ў баі...
О, каб мог я вярнуць радасць вёснаў
Непаўторных юначых маіх!

Сын прачнуўся. Гучаць яго крокі.
І так лёгка я, лёгка ўздыхнуў.
Добры дзень, юны свет каравокі,
Што цябе ў родным сыне вярнуў!

*1947*

* * *

Хай мінаюць дні твае і ночы,
Восені кілімы выткаў ліст, –
Вянуць вочы сінія не хочуць,
Сінія-сінюткі, як калісь.

Песнямі вачам тваім малюся,
Промнем сам сабе здаюся я,
Ў неба іх я позіркам імкнуся –
Наглядзецца не магу ніяк.

Застаешся ўсё такой прыўкраснай,
Як у той данецкай даўніне.
Твае вочы ззяюць непагасна
Сонцамі сінючымі ўва мне.

*1961*

* * *

Зорнай хусткай залатою
Расцвітае сінізна.
Колькі зорак нада мною,
Паміж зорак – ты адна.

Ў закаханым сэрцы – мара,
Сну не ведае вясна.
На зямліцы кветак мора,
Паміж кветак – ты адна.

Цішыня... І поўня свеціць.
Мроіць вішням давідна...
Шмат адзіных ёсць на свеце,
Між адзіных – ты адна!

* * *

Як радасна імчацца на кані!
Вясновы вецер горнецца да твару.

Наўкола стэп, падобны вольнай мары,
І ветракі ў сівой далечыні...
Як радасна імчацца на кані!

Эх, колькі шчасця ў веку маладым!
...З вандроўкі стэпам ты ідзеш дадому,
А з-за гары завода родны дым
Уверх імкне, і ты забыў на стому.
Эх, колькі шчасця ў веку маладым!

Асенні золкі вецер б’е па твары,
І сад ужо не чуе салаўя, –
Ды песня ў мяне ёсць, яшчэ ёсць мара,
І з імі старасці не буду ведаць я.



Рышард Капусцінскі



...чым прыгажэйшы твор,
тым большае праяўленне ў ім Бога...

# Кіргіз злазіць з каня

## Запрашэнне ў Грузію

### 1.

Падарожжа я пачынаў з Грузіі, і гэта было памылкай. Грузія павінна быць заканчэннем, а не пачаткам.

Тут усё стварае ўражанне, што ты прычаліў да прыстані, дабраўся да прытулку. Усё: клімат, краявіды і звычаі пераконваюць, каб ты прысеў у цень, каўтнуў віна, аддыхаўся і падумаў – добра тут.

Прыгожая краіна, Грузія.

Адусюль відаць горы. Паднябесны Каўказ, зялёныя хрыбты Сураму. Сонца падае на заснежаныя каўказскія вяршыні, адлюстроўваецца і асвятляе Грузію. Таму сонечныя промні, афарбаваныя колерам снегу, тут не залатыя, а срэбныя, як аздабленне старой іконы.

Грузія маленькая краіна, больш чым у чатыры разы меншая за Польшчу. Але менавіта гэтае параўнанне там ніколі не прыходзіць да галавы. Успрыманне не спалучаецца з

*Пераклад з польскай Яўгена САЛЕЙЧУКА.*

фактамі, бо паўсюднасць гор мяняе законы оптыкі. Грузія здаецца вялізнай, бязмежнай як акіян. Горы множаць краявіды. На дадзенай прасторы раўніна прапануе нам толькі адзін пейзаж. На той самай прасторы горы пакажуць дзясяткі, а нават сотні краявідаў. Дастаткова праехаць кіламетр далей, дастаткова мінуць нейкі схіл, узняцца на скалу або спусціцца ў даліну. Карціна будзе разрастацца, павялічвацца, пераходзіць межы, набіраць новыя памеры. Урэшце, знаходзячыся амаль у адным месцы, мы пачынаем адчуваць, што рухаемся ў бясконцасці. Я не здолеў прайсці Грузію, не змог адшукаць з яе выхад. Праз некалькі дзён я падзяляў лёс грузінаў, перакананы як і яны, што аднаго жыцця замала, каб абысці ўсю іхнюю рэспубліку.

Горы таксама фармуюць характар грузіна. Грузін сцеражэ таямніцы гор і верыць, што іх трэба разумець. Ён ведае, што нарадзіўся як іх вартаўнік і апякун, і з гэтага пераканання ён чэрпае вельмі глыбокае задавальненне. Таму ў грузіне няма нічога ад грамадзяніна свету. Ён ездзіць за мяжу без энтузіязму і неахвотна селіцца ў іншых краінах.

Грузінаў можна сустрэць толькі ў самой Грузіі.

Іх патрыятызм, гэта патрыятызм зямлі, той даліны ці таго ўзгорка, дзе чалавек нарадзіўся і дзе – як загадвае звычай – павінен памерці. Грузіны ніколі не былі качэўнікамі, што ў гэтай частцы планеты, стаптанай няспынна вандруючымі народамі, рэдкая з’ява. Яны вялі аселае жыццё, замкнёныя ў сваіх мікрасветах, часта не большых за адну даліну. Мяжа той даліны – заўсёды гарыстая – даўней магла быць для грузіна месцам, дзе заканчваецца зямля. У кожным такім засценку людзі размаўлялі на ўласным дыялекце, мелі свае звычаі, свой грамадскі парадак. Цяжкая для перасоўвання прастора штурхала іх да партыкулярызму. Свет заканчваўся там, дзе можна было даехаць на кані. Па гэтай прычыне грузіны ў мінулым або адбіваліся ад чарговага захопніка, або праводзілі бясконцыя войны паміж сабой. Княства нападала на княства, засценак на засценак, даліна на даліну. Перыяды поўнага адзінства, хоць і вельмі добрыя, ніколі не былі працяглымі.

Сёння ўсё гэта ў мінулым. Грузін – грамадзянін Грузіі, частка гэтай зямлі. Пры кожнай нагодзе, нават у самых сямейных і прыватных сітуацыях, ён п’е тост “за нашу цудоўную Грузію”. У барах таксама ўзнімаюць такі тост. У нас падобную дэманстрацыю палічылі б занадта патэтычнай. А тут гэта натуральны, звыклы рытуал.

## 2.

Грузія равесніца Грэцыі і старэйшая сястра Рыма. Яна старая, як Біблія. Песні, якія тут спяваюць, маюць узрост Акропаля, можа нават узрост Вавілона. У 1924 годзе ў Тбілісі прыехаў Ясенін. “Я ішоў з Ясеніным па вуліцы, – кажа Георгі Леанідзэ, – на вуліцы стаяў сляпы бандурыст і спяваў грузінскую песню:

Што з таго, што я асмугла,
– мяне сонца апаліла!
Я падобная да іншых,
Бог стварыў мяне як іншых.

– Што ён спявае? – спытаў Ясенін.

– Біблію, – адказаў я.
– Як гэта? – здзівіўся Ясенін.
– Ён спявае Песню Песняў. Не памятаеш?

“Чорная я, прыгажуня сабою, нібы намёты Кідара... Не зважайце на смугласць маю, гэта сонца мяне апаліла”. Стары спявае гэта як новую песню, ён не ведае, што гэтай песні дзве тысячы гадоў.

Гісторыя тут прысутная заўжды, яна элемент краявіду, соль грузінскай глебы. Мова Грузіі адна з самых старажытных моў свету, а грузінскаму алфавіту ўжо шаснаццаць стагоддзяў. Мінулае тут усюды пакінула свой след.

“У нас заўсёдныя праблемы з археолагамі, – сказала мне віцэ-прэм’ер Грузіі, Вікторыя Шырадзэ. – Як толькі мы захочам недзе пачаць будоўлю, яны адразу пратэстуюць – тут нельга, тут помнікі”.

Аўтамабілі сёння ездзяць па дарогах, якія ведалі старажытныя людзі, а на поўдні п’юць ваду з крыніц, пракапаных тры тысячы гадоў таму. Антычнасць і сучаснасць часта спалучаюцца даволі смела. У Сухумі Гурам павёў мяне на смажаную рыбу ў рэстаран “Дыяскурыя”. Прыгожае месца. Рэстаран пабудаваны на затопленых у Чорным моры скалах. А скалы, на якіх ён стаіць, гэта руіны грэцкай калоніі – Дыяскурыі, што была тут дваццаць пяць стагоддзяў таму. Седзячы за столікам, можна аглядаць горад на марскім дне, які цяпер ператварыўся ў нейкі велічэзны акварыум, па вуліцах каторага цягнуцца чародкі тоўстых і лянівых рыб.

У часы Дыяскурыі Грузія была падзеленая на дзве антычныя дзяржавы: Калхіду і Іберыю, якія гандлявалі з Грэцыяй, пра што піша Герадот. Потым авалодаць Грузіяй спрабавалі рымляне, якіх распірала ідэя экспансіі. Крыху пазней, у 337 годзе, Грузія прымае хрысціянства – на шэсць стагоддзяў раней за Польшчу. Ужо ў той час за ўплыў у Грузіі змагаюцца Візантыя і Персія Сасанідаў. У VII стагоддзі Грузію займаюць арабы. Але Грузія не прыняла іслам. Грузінскія князі паступова выціснулі арабаў, і ў IX стагоддзі пачаўся працэс аб’яднання краіны. Грузію аб’яднаў у 1001 годзе імператар імператараў – Давід III. Пачынаецца найлепшы перыяд у гісторыі Грузіі, пікам якога з’яўляецца XII стагоддзе. У Грузіі ў той час пануе імператрыца Тамара, якую мастакі-панегірысты прадстаўляюць уладнай і надзвычай прыгожай жанчынай. Культ Тамары ў Грузіі жывы да сённяшняга дня, і Гогі, паказваючы мне штучнае возера пад Тбілісі, каментуе: “Імператрыца Тамара марыла пра гэтае возера”. Хаця, зразумела, ніхто не ведае, пра што сапраўды марыла Тамара. У XII стагоддзі Грузія вялікая, яна сягае ад мора да мора (г.зн. ад Чорнага мора да Каспійскага) і перажывае свой рэнесанс на два стагоддзі раней за Італію і на тры стагоддзі раней за рэшту Еўропы. Залатыя часы заканчваюцца ў XIII стагоддзі пасля наезду манголаў, якія ператвараюць Грузію ў попел і могілкі. “Чалавечых чарапоў было што камянёў” – запісаў грузінскі манах, нейкім цудам ацалелы з той разні.

Па вялікім рахунку Грузія ўжо ніколі так і не ўзнялася да былой славы. Потым Грузію захапіў Іран, потым Турцыя, ізноў Іран і г.д. Але перш за ўсё Грузія раздрабнілася, разляцелася на феадальныя ўдзелы і княствы, якія праводзілі паміж сабой бясконцую колькасць зацятых і братазабойчых войнаў. Адукаваныя валадары спрабавалі яднаць Грузію, але іх высілкі нішчыліся шматлікімі грузінскімі Таргавіцамі.

Апошні з грузінскіх валадароў, Георг XII, вёў палітыку, падобную да палітыкі апошняга караля Рэчы Паспалітай – Станіслава Аўгуста, якому,

зрэшты, быў сучаснікам. Георг, бездапаможны і пакінуты магнатамі, няздольны нічога выправіць ці пабудаваць, далучыў Грузію да Расеі ў 1801 годзе. З гэтай нагоды цар Аляксандр I, той самы, які называў сябе пазней каралём Польшчы, выдаў спецыяльны маніфест.

Гісторыя Грузіі мае шмат падобнага з гісторыяй Польшчы.

У Тбілісі варта паглядзець музей. Ён знаходзіцца ў былой сядзібе духоўнай семінарыі, дзе некалі вучыўся Сталін. Пра гэта гаворыць каменная дошка перад уваходам. Будынак цёмны, але прасторны і знаходзіцца ў цэнтры горада, на ўскрайку старога квартала. У залах было, уласна кажучы, пуста. Мяне вадзіла студэнтка, Таміла Тэўдарадзэ, дзяўчына вытанчанай, прыцягальнай прыгажосці.

Старое мастацтва Грузіі сваёй раскошай і дасканаласцю прывяло ў поўнае ачмурэнне такога прасцячка, як я. Асабліва – фантастычныя абразы! Яны значна старэйшыя за расейскія іконы. Найлепшыя грузінскія абразы ўзніклі задоўга да Рублёва. На думку Тамілы іх арыгінальнасць у тым, што гэта абразы металапластычныя – намаляваны толькі твар. Найлепшы іх перыяд – VIII-XIII стагоддзі. Твары святых, цёмныя, але прамяністыя ў святле, нібыта застылі ў вельмі багатых залатых аправах, усыпаных дарагімі камянямі. Ёсць абразы, якія адкрываюцца так, як адкрываецца алтар Віта Ствоша. Памеры іх вялікія, амаль манументальныя. Тут ёсць абраз, які майстры рабілі некалькі пакаленняў, тры стагоддзі. Ёсць тут маленькі крыжык, самы каштоўны экспанат музея, адзінае, што засталося з рэчаў царыцы Тамары.

Потым ідуць фрэскі з грузінскіх цэркваў. Такі цуд – і так мала пра яго вядома. Уласна кажучы, нічога. На жаль, найлепшыя фрэскі былі знішчаныя. Яны пакрывалі ўнутраныя сцены найбольшай царквы Грузіі – Свэці Тсхавэлі, якая была збудавана ў 1010 годзе ў былой сталіцы Грузіі, у Мцхэце, каля Тбілісі. Тыя фрэскі былі такім жа шэдэўрам сярэднявечча, як вітражы Шартрскага сабора. Яны былі зафарбаваныя па загадзе царскага губернатара, які хацеў, каб царкву пабялілі, “як у нас бабы беляць печы”. Ніякія намаганні рэстаўратараў не могуць вярнуць свету гэтыя фрэскі. Іх бляск згас назаўжды.

Свэці Тсхавэлі – найлепш захаваны ў Еўропе помнік архітэктуры XI стагоддзя. Царква выглядае так, быццам ёй не больш за сто гадоў, хоць яе не рэстаўравалі. Будаваў яе грузінскі архітэктар, Арсукідзэ, якому потым імператар загадаў адсячы рукі, каб ён не паставіў больш нічога падобнага. Некалькі разоў гэтую царкву спрабаваў падарваць Тамерлан, але мур ані здрыгануўся. Святыня дзейнічае дагэтуль, і галава грузінскай Царквы Каталікос Усёй Грузіі Яфрэм II адпраўляе тут набажэнствы.

Яшчэ я ўбачыў, але ўжо толькі на здымках, Вардзія. Гэта адзін з тых загадкавых цудаў, якія сучасны чалавек не можа сабе растлумачыць. Вардзія – гэта грузінскі горад XII стагоддзя, цалкам высечаны ў скале. Горад размешчаны не на пляскатай паверхні, а вертыкальна, нібыта на паверхах. Важна зразумець, што гаворка тут не пра нейкія пячоры ці расколіны, а пра цэлы горад, з планіроўкай, з вуліцамі, з арыгінальнай архітэктурай, толькі ўсё гэта выразана ў скале, заглыбленае ў вялізную гару. Але як, якім інструментам? Выразаць такі горад, мабыць, цяжэй, чым пабудаваць егіпецкую піраміду. Затое некалі Вардзія служыў практычным патрэбам. Сёння, таксама як і піраміды, ён мёртвы. Засталася сцяна скалы, што ўяўляе сабою панурую, сюррэалістычную кампазіцыю.

Пры канцы Таміла правяла мяне ў залу Ніко Пірасманішвілі, каб я ўбачыў карціны, якія ў хуткім часе павінны былі ехаць на выставу ў Парыж. Таміла сцвярджае, што Парыж цяпер захапляецца Ніко Пірасманішвілі. Ніко памёр у 1916 годзе. Гэта быў грузінскі Нікіфар, ці Мытнік Русо.

Вялікі наіўны.

Ніко жыў у Нахалаўцы — тбіліскім квартале люмпенаў і беднаты. Ён ніколі нічога не меў. Пэндзлі рабіў сам. У карцінах Ніко дамінуе чарната — заўсёды было найбольш чарнаты, бо фарбы яму давалі трунары. Ён збіраў старыя бляшаныя шыльды, каб было на чым маляваць. Таму праз фон яго карцінаў прабіваюцца не вельмі добра замаляваныя надпісы, які небудзь «Магаз», альбо «Табак». Рэклама ў золаце і чырвані, а на ёй чорна-белы малюнак Ніко. Грузінскі прымітыў накладзены на расейскі купецкі сэцэсіён. Ніко маляваў у тавернах, у задусе нахалаўскіх піўнушак. Часам разявакі ставілі яму віно. Можа, ён быў хворым на сухоты? Можа, эпілептык? Пра яго мала вядома. Шмат рэчаў Ніко загінула, ацалела частка. Галоўная тэма яго карцінаў — гэта вячэры.

Ніко маляваў вячэры як Веранэзэ.

Толькі вячэры Ніко – грузінскія і свецкія. На фоне краявіду Грузіі – шчодры стол, за тым сталом грузіны п’юць і ядуць. Стол на першым плане. Стол – гэта самае важнае. Ніко захапляе кулінарыя. Што будзе паесці, чым чалавек напхаецца. Ніко ўсё гэта намалюе. Ніко пакажа, што хацеў бы з’есці, і чаго не будзе есці ні сёння, ні, можа, ніколі. Сталы заваленыя ежай. Смажаныя бараны. Тлустыя парсючкі. Віны чырвоныя і цяжкія, як цялячая кроў. Сакавітыя кавуны. Духмяныя гранаты. У гэтым маляванні ёсць нейкі мазахізм, нейкае ўбіванне нажа ва ўласнае чэрава, хоць мастацтва Ніко яснае, нават забаўнае.

Грузія Ніко сытая, адкормленая і ўвесь час банкетуе. Край сплывае малаком. З неба сыпецца манна. Усе дні сытыя. Такая Грузія снілася Нахалаўцы начамі.

Ніко маляваў сны Нахалаўкі.

Мастацтва не прынесла яму шчасця. У яго была дзяўчына на імя Маргарыта. Невядома, што гэта была за дзяўчына. Ніко кахаў яе і напісаў яе партрэт. Твар Маргарыты выяўлены ў манеры вялікіх наіўных, у якіх усё завялікае і не ў норме. Вялікія вусны. Вырачаныя вочы, велізарныя вушы. Гэты партрэт Ніко аддаў Маргарыце. Абураная дзяўчына раскрычалася. Яна пакінула яго, раз’юшаная, у нянавісці. Ягоны талент асудзіў яго на самоту.

З таго часу ён жыў у адзіноце.

Збіраў заржавелыя шыльды, трунары давалі яму фарбы. Увесь час ён маляваў тыя застоллі на фоне горнага пейзажу. Часам разявакі ставілі яму віно. Яму было 54 гады, калі ён памёр, у Тбілісі, у нейкай хаце, невядома ад чаго, у голадзе, а можа, звар’яцеўшы.

**3.**

У Тбілісі мне падабаецца дзве вуліцы: Накашыдзэ – вуліца сонца, і Чахрухадзэ – вуліца ценю. Яны звілістыя, пакатыя і ідуць у розныя бакі: Накашыдзэ кіруецца на поўдзень, а Чахрухадзэ – на поўнач.

Абедзве вуліцы выструганыя з дрэва.

Яны быццам з ясляў.

Абедзве вузкія, цесна забудаваныя, са сціплым метражом. Домікі на

гэтых вуліцах такога колеру, як футаралы старых скрыпак ці скрыні даўніх гадзіннікаў. Гэта мініяцюрныя будынкі з дуба, клёна, а часам з елкі. Тынку мала, а цэглы яшчэ менш. Затое ёсць трохі старанна абчасанага каменя. Даўнія майстры стварылі шэдэўр гэтых дзвюх вуліц з каменя і дрэва. Там можна хадзіць бясконца. Архітэктурнае хараство гэтага закутка зацягвае цалкам. Столькі тут прыбудоваў, ганкаў, хітрамудра скампанаваных аркадаў, сходаў складзеных у рызыкоўныя і мудрагелістыя камбінацыі, розных верандаў, сеняў, стрэшак! На выгляд – поўны хаос, нясцерпная адсутнасць дысцыпліны. У сапраўднасці гэтай барокава размножанай сістэмай канструкцый кіруе рашучая логіка. Толькі на кожнай вуліцы яна свая. На Накашыдзэ, вуліцы сонца, стрэшкі і веранды скампанаваныя так, каб давалі цень. На Чахрухадзэ, вуліцы ценю, ганкі і тэрасы збудаваныя так, каб на іх было сонца. Кожны дом хапае тое, чаго яму не стае. Думкаю былых архітэктараў кіравала пагоня за сонцам ці за ценем. Справа была ў кампрамісе, у раўнавазе, у прыхільным для жыхароў светлаценю.

Увесь Тбілісі ёсць горадам светлаценю.

Горадам пастэльных настрояў.

Накашыдзэ – вуліца мастакоў, якім трэба святло, а Чахрухадзэ – вуліца шаўцоў, якія патрабуюць цень. На ходніках Накашыдзэ ў шэраг стаяць мальберты, а на ходніках Чахрухадзэ – шавецкія столікі. Накашыдзэ пахне шкіпінарам, а Чахрухадзэ – упрэлай скурай. Калі я хачу ўбачыць, як сонца ападае кроплямі ў цяжкую завісь на палотнах мастакоў, я блукаю па вуліцы Накашыдзэ, але калі ў мяне пячэ мазоль, я кульгаю да вуліцы Чахрухадзэ, каб сукаваты Вахтанг размяў мне левы чаравік.

Вось такую карысць я атрымліваю ад гэтых вуліц. Яны знаходзяцца побач з плошчай Леніна, у раёне, які не ведаю як называецца. А можа наогул ніяк не называецца. У любым выпадку адтуль ужо блізка да Саід-Абаду, вымерлага кварталу былых купцоў і былых рамеснікаў. Ён такі ж прыгожы, як і мой Квартал Дзвюх Вуліц, толькі размешчаны больш драматычна – над стромым, вертыкальна спадаючым скальным берагам. Гэта бераг ракі Куры, на якой стаіць Тбілісі. З Саід-абада бачна частка горада. Насупраць узвышаецца гара Мтаборы – месца гарачых крыніц. Бо Тбілісі, хоць і сталіца, адначасова з'яўляецца Цехацінкам і Кудовай – курортам. Вулкі Мтаборы вядуць да старых, гарачых лазняў, у якіх можна выкупацца і прыняць ачышчальны масаж. Унізе пачынаецца стары горад, сэцэсійны, мяшчанскі, ужо векавы. Шмат зеляніны. Шэрыя дахі, а яшчэ вышэй – вежы грузінскіх цэркваў, стыль якіх бліжэй, можа, да ранне-раманскай фармацыі.

Тбілісі стары, але сапраўднай даўніны захавалася няшмат. Горад існуе 1500 гадоў, аднак за гэты час ён сорак разоў дашчэнту разбураўся арабамі, туркамі і персамі. Таму Тбілісі, які мы бачым, за выключэннем некалькіх помнікаў, сама больш сягае ў пачатак XIX стагоддзя. У 1803 годзе ў горадзе пражывала 15 тысяч чалавек. Сёння ў Тбілісі налічваецца больш за 800 тысяч жыхароў. Абедзве сусветныя вайны абмінулі горад. У часе апошняй вайны на Тбілісі ўпала тры бомбы. Ніводзін дом не пацярпеў.

Сто гадоў таму сэцэсію ў архітэктуру сюды прынеслі расейцы, французы і немцы. Тбілісі быў адным з найбуйнейшых гандлёвых цэнтраў Еўропы і называўся Тыфліс. Таксама гэта быў важны асяродак культуры. На пачатку нашага стагоддзя найвялікшы апетыт на Грузію мелі немцы, а потым англічане. Берлін і Лондан вялі канкурэнцыю за гэтую краіну, фінансуючы грузінскія контррэвалюцыйныя партыі.

Грузія была адзінай краінай у свеце, дзе ўладу здабылі меншавікі. Калі ў Расеі перамагла кастрычніцкая рэвалюцыя, у Грузіі ўзнік меншавіцкі ўрад Ноя Жарданіі, які абвясціў стварэнне Дэмакратычнай Рэспублікі Грузія як незалежнай дзяржавы. Гэты ўрад пратрымаўся чатыры гады, а ў студзені 1921 года быў нават прызнаны Лігай Нацый. У 1920 годзе сюды прыязджаў Кауцкі, каб даваць Жарданіі свае парады. У Тбілісі стаялі англійскія войскі, і Ной Жарданія атрымаў ад англічан шмат грошай. Праз Жарданію ішла ўся брытанская дапамога Дзянікіну. У арміі Дзянікіна змагаліся грузінскія дваране.

Пра Жарданію гавораць, што ён быў здольным палітыкам. Ленін назваў Жарданію “спрытным дыпламатам”. Жыццё яму ўратавалі французы. У сакавіку 1921 года, калі ў Грузіі ўсталявалася савецкая ўлада, Жарданія ўцёк на французскім караблі ў Марсэль і пасля вайны памёр у Парыжы. Арміяй, якая скінула ўладу Жарданіі, кіраваў паляк – Канстанцін Левандоўскі.

Увечары на Тбілісі добра глядзець з гары Мтатсмінда. На гэтую гару, прыгожа парослую лесам, можна заехаць канатнай дарогай проста з самога цэнтра. Гэта як з Маршалкоўскай можна было б заехаць проста на Губалоўку. Эфект не з гэтага свету. Унізе відаць раку агнёў, якая цячэ ў глыбокай цясніне – гэта Тбілісі. Хвалі гэтай ракі зіхцяць, мігцяць як вада возера пры месячным святле. Горад ляжыць у вузкай даліне, закрытай з поўначы і поўдня паясамі зялёных гор. Гэтая даліна апісвае дугі і паўколы, таму Тбілісі таксама апісвае дугі і паўколы. Ён віецца паміж гарамі, беручы свой пачатак у нябачным месцы, і знікаючы недзе ў аддаленых расколінах скал, ледзь бачных на даляглядзе. І так Тбілісі цягнецца з усходу на захад трыццаць кіламетраў.

Калі некаму закарціць, то ён можа правесці на Мтатсміндзе, у казачным, як сады Семіраміды парку, усю ноч. Горы на золку ўжо асветленыя сонцам, а горад яшчэ адпачывае ў змроку. Потым струмені святла спадаюць на вуліцу і таварыш дыктар на радыё пачынае ранішнюю гімнастыку.

**4.**

Вахтанг Інашвілі паказаў мне месца сваёй працы: вялікая зала пад столь запоўненая бочкамі. Бочкі ляжаць на стойках, вялізныя, цяжкія, заспакоеныя.

У бочках даспявае каньяк.

Тбіліская фабрыка штогод выпускае дзевяць мільёнаў бутэлек каньяку. Першую партыю каньяку прадпрыемства дало ў 1954 годзе, здабыўшы з таго часу на розных міжнародных конкурсах дваццаць дзевяць залатых і срэбных медалёў. Тыя медалі прызначае сусветнае журы, якое збіраецца некалькі разоў на год, каштуе каньякі і адзначае найлепшыя.

Не кожны ведае, як узнікае каньяк. Каб зрабіць каньяк, неабходна ажно чатыры рэчы: вінаград, сонца, дубовая драўніна, час. Апроч таго, як і ў кожным мастацтве, трэба мець густ. Астатняе выглядае наступным чынам.

Восенню, пасля збору вінаграду, выпрабляецца вінаградны спірт. Той спірт уліваецца ў бочкі. Бочкі павінны быць дубовыя. Увесь сакрэт каньяку схаваны ў слаях дубовай драўніны. Дуб расце і назапашвае ў сабе сонца. Сонца асядае ў слаях дубовай драўніны, як бурштын асядае на дне мора. Гэта доўгі працэс, які цягнецца дзясяткі гадоў. З маладога дубочка не

было б добрага каньяку. Дуб расце, яго ствол пачынае рабіцца срэбным. Дуб набрыньвае, яго драўніна набірае моцы, колеру і паху. Не кожны дуб дасць добры каньяк. Найлепшы каньяк даюць адзінокія дубы, якія раслі ў зацішным месцы на сухім грунце. Такія дубы сагрэтыя сонцам. У такім дубе столькі сонца, колькі мёду ў сотах. Падмоклая глеба кіслая, і тады дуб мае ў сабе зашмат горычы. У каньяку гэта адразу адчуваецца. Дуб, які ў маладосці быў паранены асколкам, таксама не дасць добрага каньяку. У параненым ствале сокі ходзяць дрэнна і драўніна ўжо не мае таго смаку.

Потым бондары робяць бочкі. Такі бондар таксама павінен ведаць, што ён робіць. Калі ён дрэнна нарэжа драўніну, дуб не дасць водару. Аддасць колер, а водару не выпрацуе. Дуб – гэта лянівае дрэва, а з каньяком дуб павінен працаваць. Бондар павінен быць адчувальным, як скрыпічны майстра. Добрая бочка можа вытрымаць сто гадоў. А ёсць бочкі, якім дзвесце гадоў і больш. Не кожная бочка ўдаецца. Ёсць бочкі без смаку, а іншыя зноў і зноў даюць каньяк нібы золата. Ужо праз некалькі гадоў становіцца вядома, якія бочкі якія.

У бочкі ўліваецца вінаградны спірт. Пяцьсот, тысяча літраў, па рознаму. Бочку кладуць на стойку і так яе пакідаюць. Больш нічога не трэба рабіць, трэба чакаць. На ўсё прыйдзе час. Той спірт цяпер уваходзіць у дубовае дрэва, і тады дрэва аддае ўсё, што мае. Аддае сонца, аддае водар, аддае колер. Дрэва выціскае з сябе сокі, працуе.

Таму яму патрэбны спакой.

Неабходны скразняк, бо дрэва дыхае. Дрэва любіць, каб было суха. Вільгаць сапсуе колер, зробіць яго цяжкім, без святла. Віно любіць вільгаць, а каньяк гэтага не церпіць. Каньяк больш капрызны. Першы каньяк атрымліваецца праз тры гады. Тры гады, тры зорачкі. Зоркавыя каньякі – самыя маладыя, нізкага гатунку. Найлепшыя фірмовыя каньякі – без зорак. Гэта каньякі, якія выспявалі дзесяць, дваццаць, да ста гадоў. Але насамрэч век каньяку яшчэ даўжэйшы. Трэба дадаць узрост дуба, з якога была бочка. Цяпер працуюць на дубах, якія ўзышлі ў часы Французскай Рэвалюцыі.

Малады каньяк ці стары, пазнаецца па смаку. Малады каньяк востры, хуткі, быццам імпульсіўны. Смак будзе даўкі, шурпаты. Стары ж уваходзіць лагодна, мягка. І толькі потым пачынае разыходзіцца. У старым каньяку шмат цяпла, шмат сонца. Ён пойдзе да галавы спакойна, не спяшаючыся.

А сваё і так зробіць.

### 5.

Той, хто трапляе ў Грузію, павінен аддаваць даніну мясцовым звычаям. Таго, хто трапіць сюды, пазнаёмяць з рытуалам застолляў, якія для грузіна ёсць смакам жыцця. Грузін банкетуе з любой нагоды. Яго цяга да застолляў – гэта не вынік гультайства ці бесклапотнасці. Я мала бачыў такіх працавітых народаў, як яны. Мала сялян так дбаюць пра свае палі, пра кожны куст вінаграду. Але грузін, які будуе фабрыкі, вучыцца ў політэхнічным і кіруе рэактыўным самалётам, адначасова застаўся спадчыннікам сваёй традыцыі. Ён захоўвае пашану да свайго мінулага, да продкаў, да светлых старонак учарашняга дня.

Грузін любіць, каб яго працоўны і турботны дзень завяршаўся прыем-

ным акцэнтам. Каб нейкі ўрачысты момант надаў гэтаму дню каштоўнасць перажывання і ўмацаваў яго ў памяці. Аніводзін дзень не паўторыцца двойчы, і таму кожны дзень трэба ўшаноўваць паасобку, як свята, як падзею. І грузін аддае гэтаму абраду ўсяго сябе. Ачышчаецца, знаходзіць сваю паўнату.

Застолле не мае нічога супольнага з абжорствам, п’янствам, гулянкай. На яе не прыходзяць для таго, каб мець перапынак у сваёй біяграфіі, каб нажлукціцца. Грузін пагарджае п’янствам, ён не любіць піцця на кольkасць. Стол з’яўляецца толькі падставай, смачнай і запітай віном, але ўсяго толькі падставай.

Нагодай, каб ушанаваць жыццё.

За тым, што адбываецца за сталом, грузін сочыць з увагай. Для яго гэта важная справа. Ён тут прысутны думкамі, ён удзельнічае. Кожны, хто сядзіць за сталом, мае сваю ролю, разам з іншымі з’яўляецца жрацом цырымоніі. Тую ролю трэба выконваць як найлепш, бо кожны правал кампраметуе. “Усходнія хрысціяне, – піша Стыў Рансіман, – большую ўвагу надавалі праўдзіваму культу, чым праўдзівай веры. Яны былі горача прывязаныя да сваёй літургіі...” Пэўныя элементы таго светапогляду захаваліся ў Грузіі. Але захаваліся не адносна веры, да якой грузіны заўсёды ставіліся без фанатызму, а ў звычаях, у кульце бытавой сферы.

Амаль адразу пасля таго, як я прызямліўся ў Тбілісі, мяне завялі за стол і навучылі, як сябе паводзіць за ім. Бо грузіны ведаюць, што культура стала, абрад стала, у Еўропе закінутыя і забытыя, што бяседа была пазбаўлена свайго зместу, а тост скарочаны да аднаскладовых слоў (чок!) або да графаманіі (налівай, бо не ядуць!). Для грузіна гэтыя звычаі вельмі вульгарныя.

Стол – гэта агмень сяброўства. Чалавек можа існаваць толькі сярод сяброў. Самае вялікае пакаранне для грузіна – асудзіць яго на самотнасць. Адрэзаны ад іншых, ён адчувае сябе ў небяспецы, губляе глебу пад нагамі. І толькі ў коле сяброў ён ізноў робіцца сабой. Ізноў становіцца элементам аднаго цэлага, галінкай, што адрастае ад ствала. Сяброўства з’яўляецца ўмоваю жыцця і таму яго трэба ўмацоўваць. Сяброўства ўмацоўваецца ўчынкам. Стол з’яўляецца нагодай для праявы сяброўства.

Так гэта разумеюць.

За сталом можна размаўляць, але захоўваючы правілы абраду. Правілы не дапускаюць ніякага хаосу, ніякага мітынгавання, ніякага: “панове, дайце мне нарэшце нешта сказаць, халера”. Заглоба не вытрымаў бы ў Грузіі і аднаго дня. Гаварыць можна, калі табе дадуць слова. Але і тады гэтае маўленне спецыфічнае: маўленне ў форме тоста.

Што такое грузінскі тост?

Гэта свайго роду размова, этыкет і адначасова форма хвалебнай імправізацыі. Кожны, хто сядзіць за сталом, атрымае слова і прагна ім скарыстаецца, каб прамовіць тост. Спачатку пойдуць абавязковыя тосты: за Грузію, за продкаў, за сям’ю, за кіруючую партыю, за Шата Руставелі, за Раніцу Нашай Радзімы. А потым будзе серыя ўзаемных тостаў – адзін уздымае тост за другога. Тост прамаўляецца некалькі хвілін, можна гаварыць паўгадзіны. За сталом запаноўвае цішыня. Усе слухаюць з вялікай увагай. Калі тост прамоўцу ідзе добра, усе з прызнаннем ківаюць галовамі, калі ж ён пачынае муціць, даносіцца незадаволенае бурчанне. Тост, гэта важнае экспазэ, якое потым будуць доўга абмяркоўваць, разбіраць, паўтараць. Існуюць тосты,

якія ўвайшлі ў гісторыю як нейкія эпасы ці хронікі. Ёсць майстры тостаў, якіх спецыяльна запрашаюць, бо яны прыгожа імправізуюць.

Тост павінен быць паэтычным, бо да жыцця трэба дадаваць прыгажосці. Добра сказаць пра блакіт неба, пра духмянасць руж, пра срэбныя воды струменя. Добра параўнаць веліч чалавека з веліччу гары Казбек, а яго волю і настойлівасць з піхтай, якая ўчапілася карэннем у скальныя расколіны. Добра выказаць надзею, што заўтра будзе сонечным і што план перавыканаюць.

Аднак самае важнае, каб тост быў сцвярджальны, максімальна пазітыўны. У гэтым утрымліваецца ўвесь сэнс звычаю. Той, хто атрымлівае слова, прамаўляе тост у гонар некага з прысутных. Неістотна, хто той ушанаваны, якая ў яго прафесія, якія ў яго таленты. Дастаткова, што ён сядзіць за сталом, гэта значыць, што быў дапушчаны, а калі так, значыць ён цудоўны, ён вялікі, павінен быць вялікім! І вось, маючы сваім суседам па сталу ціхага паштара з Зугдзідзі, раптам мы даведваемся з тоста, што гэта незвычайны чалавек, тытан працы, добры анёл які разносіць па дамах радасць, душа мястэчка, незаменны і найлепшы сябра, аўтар нейкай ідэі, якая змяніла воблік пошты ўсяго свету, узорны галава сям'і, любімы дзецьмі тата і г.д., і г.д.

Так прамаўляюцца тосты, настрой робіцца цудоўным, бо кожнаму добра, кожнага пагладзілі па галаве. Адзін аднаму можа глядзець у вочы. Адзін аднаго можа мець за брата. Але тая хвальба толькі для неспрактыкаванага вуха гучыць аднолькава высока і пахвальна. Абазнаныя ведаюць, што ўсё не так. У гэтых пахвалах існуе градацыя, сотні нюансаў, тысячы адценняў. Адных вельмі хваляць, але іншых яшчэ больш! Нехта атрымае звычайныя лёстачкі, а хтось іншы цудоўную ліслівасць! І час таксама мае значэнне. Пра аднаго будуць казаць пяць хвілін, а іншаму дадуць дзесяць. Дадуць цэлых пятнаццаць!

У такой атмасферы само спажыванне ежы і пітва апускаецца да другараднай ролі, адсоўваецца ўбок. Тост выцясняе ўсё гэта. Тост усё паглынае. Бяседнікі занятыя тостам, сэнсам яго фармулёвак, тэмпературай прамаўляемых слоў. У гэтых варунках тост, хоць і заўсёды хвалебны, аднак дыферэнцыраваны, мае градацыю, становіцца формай публічнай думкі, выказваннем поглядаў атачэння, свайго роду прыватным Гэлапам. Двухсэнсавым тостам можна пакпіць з кагосьці, занадта прахалодны тост успрымаецца як крытыка. У гэтым абрадзе тостаў выяўляецца культура Грузіі. Грузін не будзе біцца, скандаліць і сварыцца. Калі ён хоча сказаць, што думае пра цябе, ён скажа тост. Тост заўсёды прыязны. Толькі што або лепшы, або горшы. І гэтага павінна хапіць.

Тосты – гэта мужчынская справа, стол не для жанчын. У Грузіі існуе культ жанчын, але ён выказваецца іншым спосабам, не бяседай. У часы братазабойчых войнаў тут існаваў прыгожы звычай – калі на поле бітвы выходзіла жанчына, грузіны спынялі бітву.

## Ванік, або другая Арменія

### 1.

На Арменію ў мяне пяць дзён, бо гэта маленькая рэспубліка. Я ўбачу Ерэван, убачу возера Севан. Можа, яшчэ нейкую фабрыку ці нейкі помнік. Цяпер аказваецца, што гэта амаль нічога.

Ад самага пачатку Ванік Сантрыян адкрывае мне шырокую Арменію як далягляд цэлага свету. Ён пытае, ці ведаю я, хто спявае ў оперы Ковэнт Гардэн? Не, не ведаю ніводнага прозвішча. А ў Ковэнт Гардэн спявае армянка Арда Мардыкян, вялікая салістка. Ці люблю я славутага песняра Францыі? Ён узяў прозвішча Азнавур, а сапраўднае – Азнавуран. Армянін. Возьмем Ўільяма Сараяна. Стоўп амерыканскай літаратуры. Ізноў армянін. Перанясемся ў глыбіню Візантыйскай гісторыі. Найвялікшыя імператары – армяне. Кожны ведае, што капіталізм нарадзіўся ў банках Фларэнцыі. Адкуль узяліся тыя банкі? З армянскай галавы. Назавіце, калі ласка, прозвішча найвялікшага мастака-марыніста. Я назаву Айвазоўскі, а трэба назваць Айвазян, бо ён быў армянін. А польская сярэдневечная дыпламатыя? Вельмі шмат армян. Бітва пад Грунвальдам: два армянскія палкі, калі не цэлая харугва. Але вернемся да сучаснасці. Напрыклад, сучасная авіяцыя, мігі, канструктар: Мікаян. Слава сусветнай астраноміі: прафесар Амбарцумян, жыве ў Ерэване. Арам Хачатуран ці Луіс Пасабілян. Дадамо плеяду паэтаў, сярод якіх найвялікшым быў Эгішэ Чарэнц, пералічым армянскую матэматычную школу, якая не мае сабе роўных па-за польскай. У іншых галінах: Арно Бабаджанян і Энрыка Мацяс, зорка Еўропы. Уласна кажучы, калі з'явіцца якая-небудзь велічыня, трэба прагледзець генеалагічнае дрэва. Можна знайсці армянскую галіну.

Вось першая розніца: грузін закрываецца ў межах Грузіі, армянін ахоплівае думкаю ўвесь свет. "Калі таварыш будзе ў Парыжы, – кажа мне афіцыянт рэстарана "Арменія" ў Ерэване, – раю зазірнуць да майго брата на нейкай там ру. Восьмы квартал. Ён трымае кавяраньку". "А пры нагодзе, – просіць гадзіншчык з вуліцы Леніна, – перадай прывітанне майму брату ў Бейруце. Гатэль "Метраполь", бульвар Эль-Хамід". Парыж, Бэйрут, дзядзька ў Афінах. І на гэтым свет не заканчваецца. У Сан-Францыска ёсць вельмі ўплывовая армянская калонія. Армянскія помнікі ў Венецыі з'яўляюцца перлінамі гэтага горада. Першая армянская газета выходзіла ў Мадрасе, Індыя. Патрыярх армянскай царквы Паўднёвай Амерыкі (з сядзібай у Рыа-дэ-Жанейра) наведаў нядаўна з патрыяршым візітам армянскую царкву ў Егіпце, Эфіопіі і Судане (з сядзібай у Каіры).

У Ерэване свет для мяне раптам скурчыўся, зменшыўся, я адчуў сябе як у вялікім аэрапорце Арлі, дзе на працягу гадзіны дыктарка пералічвае ўсе найважнейшыя гарады нашай планеты. Гэтыя армяне, падумаў я, яны ўсе знаёмыя паміж сабой. Яны ўсе парахаваліся. Ведаюць, хто ў Лондане. Хто ў Мадрыдзе. Што ёсць армяне ў Канадзе. Ёсць нават кітайскія армяне. Выраз са старой "Геаграфіі" Гунтэнберга ("рэкі Арменіі бягуць ва ўсіх кірунках") можна перанесці на гісторыю армян.

На свеце ёсць каля пяці мільёнаў армян. З іх у савецкай Арменіі жыве трыццаць пяць працэнтаў. Мільён армян жыве ў Грузіі і Азербайджане. Паўмільёна ў Злучаных Штатах і ў Сірыі. Наступныя паўмільёна ў Францыі, Турцыі і Іране. Шмат армян жыве ва Уругваі і на Філіпінах. Але па вялікім рахунку, можна сказаць, што армяне жывуць у кожным горадзе, пазначаным на школьным глобусе.

Паўсюль ёсць іх прыгожыя, сумныя могілкі. Іх, з натхненнем упрыгожаныя разьбою, базілікі. Іх экзатычна закратаваныя крамы.

**2.**

Добры армянін можа жыць у Каракасе, у Амстэрдаме, але раз у жыцці ён прыедзе ў Ерэван.

Прыедзе, паглядзіць.

Тысячы армян штогод наведваюць Арменію. Пасля вайны з усяго свету іх перасялілася сюды сто тысяч. У Ерэване можна пачуць розныя мовы. Я гаварыў тут па-ангельску, па-расейску і па-французску, а калі б умеў, мог бы гаварыць па-арабску і па-італьянску. Кавярні заўсёды поўныя, рух на вуліцах пануе да поўначы. Удзень горача, але ўвечары халадней, вечары цудоўныя. Ерэван можа падабацца. Вуліцы, дамы, уся сталіца Арменіі ў ружовым колеры. Ружовы горад! Па гэтай прычыне, на сонцы, Ерэван свеціцца, палае нібы вогнішча, а ў пахмурны дзень ён робіцца цяжкім, брунатным, быццам намаляваны вохрай. Надвор'е змяняе яго цалкам.

Ерэван пабудаваны з каменя, які называецца туф. Гэта закамянелы попел вулканаў, цвёрды, порысты матэрыял, які нагадвае ўжываную ў нас пемзу. У Арменіі невычэрпныя паклады туфу. Цэлыя горы. З гэтых гор тут будуюць гарады. Туф разразаюць на скрылі, блокі, цэглу, з туфу можна зрабіць дахоўку, з яго можна выразаць калону, бо гэты камень падатлівы, піла бярэ яго мякка, як дрэва. Сцяна з туфу лепшая, чым з цэглы.

Такая сцяна добра дыхае.

Туф можа быць шэры, блакітны, карычневы, нават зялёны. З туфу можна складаць мазаіку ці рабіць рознакаляровыя дамы. Для будавання Ерэвана выбралі ружовы туф, які надаў колер усяму гораду.

Фармальна Ерэван налічвае 2750 гадоў, насамрэч гэта малады, свежы горад. З мінулага амаль нічога не захавалася. Толькі нядаўна адкапалі фрагмент старажытнага Ерэвана, закансерванага ў пясчаным пагорку. Але паміж тым VIII стагоддзем да нашай эры і нашым XX стагоддзем зусім нічога няма. Той прагал, тая татальная пустата – гэта сведкі знішчэнняў, які спасцігалі горад. За сваю гісторыю ён знішчаўся незлічоную колькасць разоў. Яго мінулае – гэта трагічны пералік пажараў, вынішчэнняў, эпідэмій і голаду. У сярэднявеччы ў Ерэвана былі таксама і перыяды раскошы, але сведчанні пра гэта захаваліся ў хроніках, а не ў архітэктуры. Таму ў сталіцы Арменіі няма той пацiны, якой пакрыты Тбілісі. Ён хутчэй пахне вапнай і цэментам, гэта горад, які ўвесь час будуецца. Ён новы, як Варшава.

У 1920 годзе, калі ў Арменіі перамагла рэвалюцыя, Ерэван быў маленькім, брудным мястэчкам, і ў ім пражывала менш за 30 тысяч жыхароў. Адзінай сталічнай цікавосткай быў конны трамвай, які курсаваў па цэнтральнай вуліцы Астаф'ева. Туды і назад. Сёння Ерэван налічвае 700 тысяч жыхароў, што складае 30 адсоткаў насельніцтва ўсёй рэспублікі. Калі прыняць гэтыя прапорцыі, у Варшаве павінна было б жыць дзесяць мільёнаў чалавек. Гэта дае разуменне пра месца, якое Ерэван займае ў жыцці Арменіі. Наступны па велічыні горад рэспублікі (Ленінакан) у пяць разоў меншы за сталіцу.

Ерэван разам з Ленінградам і Новасібірскам з'яўляецца цэнтрам найбольш сучаснай прамысловасці ў Савецкім Саюзе. Тут вырабляюць матэматычныя машыны, складаную электроніку, абсталяванне для аўтаматычнага кіравання. Тут цэнтр савецкай кібернетыкі. Ва ўсіх гэтых галінах армяне знаходзяцца ў авангардзе ў цэлым свеце, што адпавядае іх нацыянальнай традыцыі, бо яны заўсёды мелі талент да лічбаў, правілаў і рахункаў. У Арменіі (прапарцыйна) самы высокі ў свеце адсотак людзей з політэхнічнай адукацыяй.

**3.**

Ванік водзіць мяне па розных завулках, бо я прашу яго менавіта пра гэта: каб мы сышлі з пратаптанай дарогі. Так мы трапляем на падворак Бэніка Петрусяна. Гэты падворак, закрыты з чатырох бакоў мурамі камяніцаў, – сталае месца выставаў Бэнікавых працаў. Бэніку 28 гадоў, ён скончыў акадэмію ў Ерэване, ён скульптар. Маленькі, нясмелы, жыве ў сваёй цеснай майстэрні, дзверы якой выходзяць якраз на гэты падворак-выставу. У той майстэрні вісяць цудоўныя армянскія каменныя крыжы, так званыя хачкары, якія раней армяне выразалі на скалах. Гэтыя хачкары сустракаюцца па ўсёй Арменіі, бо яны былі сімвалам армянскага існавання або межавым знакам, а часам таксама дарожным указальнікам. Старыя хачкары можна адшукацьу самых недасягальных мясцінах, дзе-небудзь на вяршынях стромых скалаў, і цяпер ужо немагчыма дапяць, якім чынам разьбяры хачкараў, часцей за ўсё манахі, маглі ўскараскацца туды.

Бэнік частаваў нас вінoм. Мы сядзелі на палку, сярод камянёў, якія ён апрацоўвае ўжо некалькі гадоў. Ён уключыў нам магнітафон, каб мы маглі паслухаць патаракі. Патарак – гэта род старых армянскіх псальмаў, кранальных, прыгожых. У Бэніка былі новыя, французскія запісы гэтых патаракаў, якія выконваў армянскі хор у Парыжы. Сапраўдныя патаракі можна таксама пачуць і ў Арменіі, калі паехаць пад Ерэван у Эчміядзін – гэта Ватыкан Армянскай Царквы.

Бэнік высякае з каменю, а таксама займаецца чаканкай – барэльефам на метале. У яго выдатны талент. Тэма яго скульптураў і чаканкі ўвесь час круціцца вакол тэмы кахання, дакладней – мілосных абдымкаў. Але ў гэтых жэстах мала радасці: так абдымаюцца двое, якія праз момант павінны назаўсёды развітацца. Адзін з цыклаў Бэніка – развітанне Адама з Евай.

Яго скульптуры рэдка трапляюць на выставы. Часцей за ўсё яны стаяць, вось так, як цяпер, на падворку пад дрэвамі, ці прыстаўленыя да сценаў, ці проста пакладзеныя на ходнік. Бэнік разьбярыць для жыхароў гэтых чатырох камяніцаў, што атачаюць яго падворак. Разьбярыць для дворніка і для паштара. Для смеццяроў, якія прыязджаюць прыбіраць смецце. Для дзяцей, якія дзеля забавы або ў спадзяванні дастаць цукерку мыюць гэтыя скульптуры. Для інкасатара з электрастанцыі. А таксама для міліцыянта, калі той зазірне сюды з нейкай патрэбай.

У тым самым квартале, дзе жыве Бэнік, сваю майстэрню мае Амаяк Бдэян. Бдэян робіць вялізныя амфары, вазы і цэбры, якія ён выстаўляе ў скверах Ерэвана. Гэта манументальная кераміка, яна ідэальная менавіта для экспазіцыі на гарадскіх пляцах, на газонах шырокіх ерэванскіх алеяў. Бдэян любіць ясныя, спакойныя колеры, але фактура яго пластычных формаў – шурпатая, масіўная. Верхавіны гэтых камякаватых пукатасцяў Бдэян пакрывае лёгкай, прамяністай эмаллю, так што тыя вазы і цэбры блішчаць ужо здалёк. Амфары Бдэяна можна сустрэць у шмат якіх месцах горада. Менавіта Бдэян, прафесар Інстытута Мастацтваў Арменіі, пачаў рух, які павінен зрабіць з Ерэвана не толькі архітэктурны твор, але таксама і твор мастацкі. Гарадскія ўлады цалкам падтрымліваюць гэтыя амбіцыі. Бдэян зрабіў інтэр’ер Драматычнага Тэатра ў Ерэване – адно з самых цікавых дасягненняў сучаснага мастацтва ў галіне інтэр’еру. Інтэр’ер кавярні “Аракс”, а таксама знакаміты інтэр’ер рэстарана “Арарат” – гэта яго праца. “Арарат” знаходзіцца ў сутарэннях і з’яўляецца прыкладам су-

часнасці, зробленай з густам і стрыманасцю. Такіх месцаў у Ерэване ўжо шмат. Сталіца Арменіі месцамі становіцца музеем сучаснага мастацтва.

Калі мы прыйшлі да Бдэяна, ліў моцны дождж, у яго майстэрню, размешчаную ніжэй за ўзровень вуліцы, прасочвалася вада. Бдэян, як антычны ганчар, ляпіў з гліны зграбны збан. Ён паказаў нам здымкі сваіх выставаў – з Канады, Швейцарыі, Італіі, Сірыі. Яму 42 гады, ён мажны мужчына, маўклівы, запрацаваны. На жаль, самыя цікавыя працы Бдэяна можна ўбачыць толькі ў Ерэване. Бо найперш Бдэян стварае горад.

Яшчэ мы былі ў маладога кампазітара – Эміна Арыстакесяна. Ванік узяў мяне туды, каб я пачуў спевы вялікага Камітаса. Камітас для армян, як Шапэн для палякаў: іх музычны геній. Яго звалі Сагамон Сагаманян, але ён прыняў манаскае імя Камітас, і так яго тут называюць. Ён нарадзіўся ў 1869 годзе ў Турцыі. Там тады жыла большая частка армян, паводле розных крыніц – два ці тры мільёны. Ён навучаўся кампазіцыі ў Берліне. Усё сваё жыццё аддаў армянскай музыцы. Вандраваў па вёсках, збіраючы песні. Стварыў дзясяткі, іншыя кажуць, што сотні армянскіх хораў. Ён быў вандроўным гусанам, імправізаваў эпасы, спяваў. Склаў сотні цудоўных, вялікіх твораў, вядомых усім філармоніям свету. Напісаў імшу, якую і дагэтуль спяваюць у армянскіх цэрквах.

У 1915 годзе ў Турцыі пачалася разня армян. Да часоў Гітлера гэта была найбольшая разня ў гісторыі свету, у ёй загінула паўтара мільёны армян. Турэцкія жаўнеры ўсцягнулі Камітаса на скалу, з якой хацелі яго скінуць. У апошні момант яго ўратавала дачка стамбульскага султана, яго вучаніца. Але ён ужо бачыў бездань, і гэта прывяло яго да вар'яцтва.

Яму было тады 45 гадоў. Нехта завёз яго ў Парыж. Ён не ведаў, што знаходзіцца ў Парыжы. Жыў яшчэ дваццаць гадоў. Не вымавіў ані слова. Дваццаць гадоў ва ўстанове для разумова хворых. Мала хадзіў, маўчаў, але глядзеў. Можна меркаваць, што ён бачыў тых, хто яго наведваў, гавораць, што ўглядаўся ў твары.

На пытанні не адказваў.

Спрабавалі рознае. Пасадзілі яго за арган, Ён устаў і адышоў. Ставілі кружэлкі. Стваралася ўражанне, што не чуе. Нехта паклаў яму на калені народны інструмент, тар. Асцярожна адклаў яго ў бок. Ніхто не ведае дакладна, ці быў ён хворы. Чаму тады выбраў маўчанне?

Можа, гэта была яго воля.

Ён не загінуў, але ўжо і не жыў.

Існаваў-не-існаваў у гэтым падвешаным стане паміж жыццём і смерцю ў чыстцы звар'яцелых. Тыя, хто яго наведваў, кажуць, што ён выглядаў усё больш стомленым. Згорбіўся, схуднеў, счарнеў. Часам перабіраў пальцамі па стале, у цішыні, бо ад стала не было водгуку. Быў спакойны, заўсёды сур'ёзны.

Ён памёр у 1935 годзе і такім чынам толькі праз дваццаць гадоў упаў у бездань, ад якой яго некалі ўратавала дачка стамбульскага султана, яго вучаніца.

**4.**

У Матэнадаране я аглядаю старыя кнігі армян. Яны для мяне недасягальныя двойчы: ляжаць у вітрынах за шклом, і я не магу іх чытаць. Пытаю Ваніка, ці ён разумее іх. І так, і не, бо можа чытаць літары, але

сэнсу не ўлоўлівае. Алфавіт той самы ўжо пятнаццаць стагоддзяў, у той час як мова змянілася. Армянін уваходзіць у Матэнадаран, як мусульманін у Мекку. Гэта канец яго пілігрымкі, ён усхваляваны, узрушаны. У гісторыі армян кніга была іх нацыянальнай рэліквіяй. Таварыш гід (якая ж прыгожая!) гаворыць сцішаным голасам, што многія з тых манускрыптаў, якія мы бачым, уратаваныя цаной чалавечага жыцця. Тут ёсць старонкі, заплямленыя крывёю. Ёсць кнігі, якія гадамі хавалі ў зямлі, у расколінах скалаў. Армяне закопвалі іх, як разбітыя арміі закопваюць свае сцягі. Адшукалі іх без цяжкасцяў: звесткі пра месца іх захоўвання перадаваліся з пакалення ў пакаленне.

Народ, у якога няма дзяржавы, шукае выратавання ў сімвалах. Абарона сімвала для яго гэтаксама важная, як абарона межаў. Культ сімвала робіцца формай культу бацькаўшчыны. З'яўляецца актам патрыятызму. Не тое каб армяне ніколі не мелі дзяржавы. Мелі, але яна была знішчана яшчэ ў старажытнасці. Потым адрадзілася ў IX стагоддзі і праз сто шэсцьдзясят гадоў загінула (у сваім тагачасным выглядзе) ужо назаўжды. Справа не толькі ў дзяржаве. Прынамсі, на працягу дзвюх тысяч гадоў армянам пагражала татальнае знішчэнне. Яно пагражала ім яшчэ ў нашым стагоддзі, яшчэ да 1920 года.

Гісторыя армян вымяраецца тысячамі гадоў. Мы знаходзімся ў той частцы свету, якую звыкла называць калыскай чалавецтва. Мы рухаемся сярод найстарэйшых слядоў існавання чалавека. У даліне Раздана, каля Ерэвана, адкапалі каменныя прылады, якім каля паўмільёна гадоў. Першая згадка пра Арменію мае чатыры тысячы гадоў. Але ўжо тады, як паведамляе каменны надпіс, на тэрыторыі Арменіі было "60 імперый" і "сотні гарадоў". Арменія – аднагодак найстарэйшых цывілізацый свету. Вавілон і Асірыя – яе суседзі. Біблейскія рэкі Тыгр і Эўфрат бяруць пачатак у яе межах.

Армяне вымяраюць час іначай, чым мы. Першы свой падзел яны перажылі 2500 гадоў таму. Іх Адраджэнне прыпадае на IV стагоддзе нашай эры. Хрысціянства яны прынялі на сем стагоддзяў раней за нас. На дзесяць стагоддзяў раней чым мы, пачалі пісаць на ўласнай мове. Але Арменія падзяляла тыповую для той часткі свету трагедыю старажытнага Егіпта, шумераў і Візантыі – адсутнасць гістарычнай непарыўнасці, гэтае раптоўнае з'яўленне пустых раздзелаў у падручніку гісторыі ўласнай дзяржавы.

Незвычайны ўзлёт, а потым прыгнятальнае падзенне.

Народы, якія жывуць у гэтай калысцы чалавецтва, стварыўшы вялікія, манументальныя цывілізацыі, нібыта вычарпаныя надчалавечымі высілкамі, а можа, проста прыгнечаныя веліччу створанай работы і ўжо нездольныя развіваць яе далей, паступова аддавалі лідарства маладзейшым народам, якіх перапаўняла энергія і прага жыцця. На сцэну выйдзе Еўропа, а потым – Амерыка.

Крыніцай усіх няшчасцяў Арменіі было яе фатальнае геапалітычнае становішча. Трэба паглядзець на мапу, але паглядзець не ад нас, з цэнтра Еўропы, але цалкам з іншага месца, з поўдня Азіі, так, як глядзелі на Арменію тыя, хто вырашаў яе лёс. З гістарычнага гледзішча Арменія займала тэрыторыю Армянскага ўзвышша, трохі меншую за плошчу Польшчы (каля 300 тыс. км²). Гэта пераважна гарыстая краіна, сярэдняя вышыня якой ненамнога меншая за вяршыню Гевант – 1700 м. У некаторыя перыяды (а былі гэта стагоддзі) Арменія сягала далей, была дзяржавай трох мораў: Міжземнага, Чорнага і Каспійскага. Але давайце застанемся ў межах уз-

вышша. Да гэтага абшару звернутая гістарычная памяць армяніна. Пасля XI стагоддзя армяне ўжо ніколі не здолелі адбудаваць Арменію ў гэтых межах. Савецкая Арменія займае ледзь 1/10 тэрыторыі той старажытнай, нагорнай Арменіі. Рэшта знаходзіцца ў Іране, і найперш – у Турцыі.

Мапа, калі глядзець на яе з поўдня Азіі, тлумачыць трагедыю армян. Лёс не мог размясціць іх бацькаўшчыну ў месцы больш нешчаслівым. На поўдні ўзвышша яна мяжуе з дзвюма найбольш магутнымі дзяржавамі мінулай эпохі – Іранам і Турцыяй. Дадамо Арабскі Халіфат. І нават Візантыю. Чатыры палітычныя калосы, амбітныя, шалёна экспансіўныя, фанатычныя, пражэрлівыя. І што ж бачыць, гледзячы на мапу, кожны з гаспадароў гэтых чатырох магутных дзяржаў? Бачыць, што калі ён зойме Арменію, то яго імперыя на поўначы закрыецца ідэальнай натуральнай мяжой. Бо на поўначы Армянскае ўзвышша цудоўна абароненае, яго сцерагуць два моры (Чорнае і Каспійскае) а таксама гіганцкая загарода Каўказа. А поўнач нясе пагрозу для Ірана і Турцыі, для арабаў і Візантыі. Бо з поўначы тады пагражала неўтаймаванае мангольскае шаленства.

Таму Арменія зганяе сон з павекаў усім пашам і імператарам. Кожны з іх хацеў, каб менавіта яго дзяржава мела добра закругленую мяжу. Каб у яго, як у караля Піліпа, таксама не заходзіла сонца. Каб гэты рубеж не распаўзаўся па раўнінах, але мог бы абаперціся аб вялікую гару, аб марскі бераг. Вынікам гэтых амбіцыяў зрабіліся сталыя напады на Арменію, увесь час яе нехта заваёўвае і знішчае, увесь час руйнуе.

Гэта што тычыцца палітыкі. А ёсць і яшчэ рэлігійныя справы. У 301 годзе, у часы панавання армянскага імператара Тырыдата III Аршакуні, Арменія прымае хрысціянства. Яна першая краіна ў свеце, дзе хрысціянства атрымлівае ранг дзяржаўнай рэлігіі. Канфлікт вісіць у паветры: суседні Іран вызнае варожы хрысціянству зараастрызм, а з захаду ў хуткім часе насунецца іслам, варожы і адным, і другім. Пачынаецца эпоха ваяўнічага фанатызму, рэлігійнай разні, сектанцтва, схізмы, сярэднявечнага вар'яцтва. І Арменія ўваходзіць у гэтую эпоху.

У армян ёсць свая Царква, якая называецца Святой Апостальскай Армянскай Царквой. У шматвяковых спрэчках паміж Ватыканам і Візантыяй яна займала сярэднюю пазіцыю, бліжэйшую, аднак, да Ватыкана. Таму яна, хоць і належала да групы Цэркваў грэцкага абраду, у Канстанцінопалі была залічана да адлучанай, нават да ерэтычнай. "Іх абрад – апавядае Рансіман – у многіх дэталях адыходзіў ад грэцкага. Яны ахвотна прыносілі ў крывавыя ахвяры звяроў, вялікі пост пачыналі ад Сямідзясятніцы, пасціліся па суботах і, перадусім, у Эўхарыстыі яны ўжывалі прэсны хлеб". З-за таго хлеба, на якім яны ерэтычна настойвалі, іх пагардліва называлі прaснікамі.

Узначальвае Армянскую царкву Каталікос, які мае сталую рэзідэнцыю ў Эчміядзіне каля Ерэвана. Сярод Каталікосаў было некалькі выбітных паэтаў, філосафаў, музыкаў і граматыстаў. Калі армянскай дзяржавы не існавала – што ў феадальныя і навейшыя часы было амаль пастаянна, менавіта Каталікосы рэпрэзентавалі армян на міжнароднай арэне. Такім чынам, яны выконвалі функцыі неафіцыйнай галавы няіснай дзяржавы. Чэрпалі адтуль дадатковы прэстыж. Таксама і цяпер, у савецкай Арменіі, асоба Каталікоса вельмі шануецца. Гэта традыцыя. Сёння гэта адна з самых багатых цэркваў у сацыялістычным лагеры, бо скарбонка Эчміядзіну папаўняецца армянамі з усяго свету. А кладуць шчодра і ў валюце.

Цяперашні тытул Каталікоса гучыць так:
*Найвышэйшы Патрыярх Вазген I,*
*Сто трыццаты Каталікос Усіх армян*
*Святога Эчміядзіну.*

Год 396 для армян гістарычны. Адзін манах, якога звалі Мэсроп Маштоц стварае армянскі алфавіт. Жыццё Маштоца носіць адбітак ананімнага кляштарнага існавання. Ён увесь схаваны ў сваёй працы. Армяне заўсёды гавораць пра яго: "геніяльны Маштоц". За алфавіт Царква абвясціла Маштоца святым, што ў тым выпадку можна трактаваць як штосьці кшталту Дзяржаўнай Узнагароды. Уражвае, што выдумка малавядомага ў той час манаха магла быць так адразу і паўсюль прынятая. Аднак жа гэта факт! Ужо ў той час сярод армян мусіла існаваць моцная неабходнасць ідэнтыфікацыі і адасаблення. Яны былі самотнай хрысціянскай выспай у моры чужой, азіяцкай стыхіі. Горы не здолелі іх ўратаваць: прыкладна ў перыяд аб'яўлення алфавіту Маштоца Арменія страчвае незалежнасць.

З таго часу чужыя арміі – персідскія, мангольскія, арабскія, турэцкія – будуць праносіцца па той краіне, як ліхія вятры. Праклён зачэпіцца за гэтую зямлю. Што было пабудавана, будзе разбурана. Рэкі будуць сплываць крывёю. Хронікі поўныя сумных карцінаў. "Засохлі армянскія ружы і фіялкі, – упадае ў роспач сярэднявечны армянскі гісторык Леа, – Арменія стала бацькаўшчынай болю. Армянін выгнаннік або туляецца на чужыне, або блукае, згаладалы, па засланай трупамі роднай зямлі".

Параможаная на ратным полі, Арменія шукае ратунку ў скрыпторыі. Гэта адступленне, але ў гэтым адступленні ёсць годнасць і воля да існавання. Што такое скрыпторый? Гэта можа быць келля, часам памяшканне ў мазанцы, нават пячора ў скале. У такім скрыпторыі ёсць пюпітр, а за пюпітрам стаіць перапісчык і піша. Армянскай свядомасці заўсёды спадарожнічала адчуванне вынішчэння. І звязаная з гэтым фанатычная патрэба ратунку. Патрэба ратавання свайго свету. Калі нельга ўратаваць яго мячом, хай захаваецца памяць пра яго. Карабель патоне, дык няхай застанецца дзённік капітана.

Так паўстае гэтая ўнікальная ў сусветнай культуры з'ява: армянская кніга. Маючы свой алфавіт, армяне адразу ж узяліся пісаць кнігі. Сам Маштоц дае прыклад. Алфавіт толькі прыняты, а мы ўжо бачым яго за перакладам Бібліі. Яму спадарожнічае другая па велічыні зорка армянскай культуры – Каталікос Саак Партэф і цэлая пляяда завербаваных у дыяцэзіях перакладчыкаў. Маштоц запачаткоўвае вялікі рух сярэднявечных перапісчыкаў, які разгорнецца сярод армян да невядомых больш нідзе памераў.

Ужо ў VI стагоддзі на армянскую мову пераклалі ўсяго Арыстоцеля. Да X стагоддзя пераклалі большасць грэцкіх і рымскіх філосафаў, сотні твораў антычнай літаратуры. Армяне маюць адкрыты, успрымальны да ўсяго розум. Перакладалі ўсё, што было пад рукой. Гэтым яны нагадваюць мне японцаў, якія перакладаюць без разбору ўсё, што трапіць. Шмат твораў старажытнай літаратуры былі ўратаваныя для сусветнай культуры толькі дзякуючы таму, што захаваліся ў армянскіх перакладах. Перапісчыкі кідаліся на кожную навіну і адразу клалі яе на пюпітр. Калі арабы заваявалі Арменію, пераклалі ўсіх арабаў. Калі на Арменію зрабілі набег персы, пераклалі персаў! Канфліктавалі з Візантыяй, але як толькі нешта з'яўлялася там на рынку, таксама бралі і перакладалі.

Пачынаюць узнікаць цэлыя бібліятэкі. Гэта павінны былі быць вялізныя зборы: у 1170 годзе сельджукі знішчаюць у Суніку бібліятэку, якая мела дзесяць тысяч тамоў, усё армянскія манускрыпты. Дагэтуль захавалася дваццаць пяць тысячаў армянскіх манускрыптаў. З іх больш за дзесяць тысяч знаходзяцца ў Ерэване, у Матэнадаране. Калі нехта захацеў бы ўбачыць астатнія, ён мусіў бы здзейсніць падарожжа вакол свету. Найвялікшыя зборы – гэта Бібліятэка Святога Якуба ў Ерусаліме, Бібліятэка Святога Лазара ў Венецыі і Бібліятэка Кангрэгацыі Мэкітаран у Вене. Цудоўныя зборы маюць Парыж і Лос-Анджэлес. Польшча таксама некалі мела багаты збор у Львове, дзе, зрэшты, была вялікая армянская друкарня.

Спачатку пісалі на скурах, потым ужо на паперы. Зрабілі такую кнігу, якая важыць трыццаць два кілаграмы. На яе пайшло 700 цялятаў. Але ёсць і дробязь, кніжачкі малыя, як хрушч. Хто ўмеў чытаць і пісаць, перапісваў, але былі і прафесійныя перапісчыкі, усё жыццё якіх прайшло за пюпітрам. Аванэс Манкашарэнц у XV стагоддзі перапісаў 132 кнігі. “Цягам 72 гадоў, – запісвае яго вучань, Захарый, – зімой і летам, удзень і ўночы, Аванэс перапісваў кнігі. Калі дажыў да сталага веку, зрок яго згас, і рука трэслася, і пісанне прыносіла яму вялікую пакуту. І спачыў ён у Госпадзе, маючы 86 гадоў, а цяпер я, Захарый, вучань Аванэса, дапісваю яго незакончаны манускрыпт”. Гэта былі волаты мурашынае працы, пакутнікі свае жарсці. Іншы перапісчык апісвае, як, галадаючы, ён купляў за апошнія грошы лучыну, каб асвятляць перапісваныя старонкі. Многія з тых кніг з’яўляюцца шэдэўрамі паліграфічнага мастацтва. Залатыя арміі армянскіх літарак паўзуць праз сотні старонак. Перапісчыкі адначасова былі выдатнымі мастакамі. У армянскай кнізе мастацтва мініяцюры дасягае сусветнай вышыні. Асабліва імёны двух мініяцюрыстаў – Тароса Расліна і Саркіса Піцака – ззяюць несмяротным бляскам. Мініяцюры, якімі Раслін аздабляў манускрыпты ў XIII стагоддзі, захавалі ўсю насычанасць фарбаў і дагэтуль зіхацяць на старонках кніг Матэнадарану.

Лёсы тых кніг – гэта гісторыя армян. Армяне, якіх праследавалі і вынішчалі, рэагавалі на сваю сітуацыю дваяка: частка ішла ў горы, хавалася ў пячорах, а частка эміґравала ў свет, на ўсе кантыненты. І адны і другія бралі з сабой армянскія кнігі. Паколькі бадзягі пакідалі Арменію пешкі, некаторыя рукапісы, занадта цяжкія, дзялілі напалову. Тыя палавінкі часта вандравалі ў розныя канцы зямнога шара.

Кнігі перахоўваюць армянскія камуны, якія паўстаюць амаль па ўсім свеце. Камуны імкнуцца будаваць друкарні, дзе магла б з’явіцца кніга, напісаная армянскім алфавітам. Першая такая друкарня ўзнікае ў Венецыі ў 1512 годзе. Потым яны пачынаюць хутка распаўсюджвацца. Рым – 1584, Львоў – 1616, Амстэрдам – 1660, Парыж – 1663, Лондан – 1736. На чужыне армяне займаюцца ліхвярствам і гандлем. Яны належаць да самых заможных асяродкаў. Але заўсёды частку сваёй маёмасці аддаюць на падтрыманне нацыянальнай культуры, якая ў іх у першую чаргу з’яўляецца культурай кнігі.

**5.**

Мы едзем да таварыша Сяргея Агламазяна, на возера Севан. Гэта не проста, бо ў нас праблемы з аўтамабілем, прасцей кажучы – аўтамабіля няма. Нарэшце знаходзіцца ўсюдыходны легкавік “газік”, але ён ледзь жывы, ушчэнт разбіты. А нам трэба ехаць у горы завоблачнай вышыні. Шафёр

кажа, што далёка не заедзем. Я пытаю яго, ці ёсць тармазы. Тармазы ёсць. “Ну, – кажу, – тады паехалі”. Калі станеш у гарах, гэта не самае вялікае няшчасце. Больш важна не з’ехаць у бездань. У апекуны мне далі хлопца, які прадставіўся фотарэпарцёрам. Але ён не фатаграфуе.

Адразу ж за Ерэванам дарога ўзнімаецца ў высокія горы. Гэта даецца ёй нялёгка. Горы не толькі вялікія, але, што яшчэ горш, яны маюць крохкую, выветраную паверхню. Месцамі гэта гіганцкія крушні скальнага друзу, абломкаў лавы, каменю. Тут усюды поўна каменю. Камень пакрывае апрацоўваемыя палі. Пазбавіцца яго немагчыма: ён частка глебы. Для жыхара раўніны тутэйшыя палі маюць дзівосныя формы – то эліпс, то кола, то зноў цягнецца вузка і звіліста, нібы рэчышча. Бо тут, на гэтых узвышшах, форма і памер поля сфарміраваныя трактарам. Трактар благі альпініст і на круты схіл не заедзе. Трактар шукае раўнін, якіх тут няма. У сувязі з гэтым ён задавольваецца малым – знойдзе сабе якую-небудзь лагчынку ці праслізне паміж двума адхонамі. Поле будзе круглае, або выцягнутае, як кішка. Можна было б апрацоўваць больш зямлі, але няма машын, якія ўзняліся б на строму. Такіх машын яшчэ ніхто ў свеце не прыдумаў.

Мы высока ў гарах. Арменія, гэта горы і горы. Наша Бляхаўка, самая высокая польская вёска, знаходзіцца на вышыні 1000 метраў. Дык вось, у Арменіі 1000 метраў лічыцца нізінай. Дзевяноста адсоткаў тэрыторыі рэспублікі ляжыць вышэй за 1000 метраў. Вышэй за тысячу метраў жыве больш за палову жыхароў Арменіі. А тут ёсць вёскі, размешчаныя на вышыні 2400 метраў. Гэта амаль як нашыя Рысы!

На кожным пад’ёме “газік” душыцца, яго калоціць, але ён едзе. Кожныя некалькі кіламетраў рознае надвор’е. То сонца, а праз момант дождж. Тут зацішна, а далей дзьме віхура. Трапляем у туман, а потым паветра ачышчаецца, святлее. Надвор’е капрызнае, зменлівае, невядома якое. Тэрыторыя, не большая за павет дзеліцца на дваццаць чатыры мікракліматы.

Гэтая разнароднасць ашаламляе.

Карусель мікракліматаў, супраціўленне кручаў і недахоп вады не даюць разгарнуцца тут земляробству. Дзве трэці апрацоўваемых земляў складаюцца з палеткаў, меншых за адзін гектар, цераспалосіца большая, чым у Польшчы, хоць уся Арменія калгасная. Калгас на вялікіх і плоскіх раўнінах мае свой відавочны сэнс. Замест мануфактур дробнай гаспадаркі паўстае сучасны сельскагаспадарчы камбінат. Вялікая апрацоўваемая плошча палягчае механізацыі, спрыяе павышэнню прадукцыйнасці. Але што рабіць, калі клімат і рэльеф як у Арменіі?

Дарога звітая ў шматлікія серпанціны. Адлегласць тут вымяраецца двума велічынямі. Напрасткі з месца да месца можа быць сто кіламетраў, а калі ехаць дарогай, будзе трыста, ці нават больш. Едзеш, едзеш, едзеш, а гэта ўсё тая самая гара.

Возера Севан асветленае сонцам – цуд свету, я ўпершыню ўбачыў яго ў дождж і ў тумане. У невялікім рэстаране мы з’елі порцыю варанай фарэлі. Мяса гэтай рыбы ружовае і смачнае. Месца, у якім мы затрымаліся, гэта мястэчка Севан, прамысловы цэнтр, які будуецца хуткімі тэмпамі. Адтуль берагам возера мы паехалі да Вардэніку, дзе нас чакаў таварыш Агламазян, зрэшты таксама з міскай фарэлі, над якой уздымалася пара. Таварыш Агламазян – дырэктар будоўлі канала Арпа-Севан. Гэта славутая будоўля. Пра канал шмат гавораць, канал чакае ўся Арменія. Мы ў Азіі, а праблемай Азіі з’яўляецца вада. Галоўны і практычна адзіны зборнік вады

ў Арменіі – гэта возера Севан. Севан адно з самых вялікіх высакагорных азёр свету, ляжыць на вышыні каля 2000 метраў і мае паверхню ў чатырнаццаць разоў большую, чым у нашага возера Снярдвы – 1416 км². У Севан упадае сто рэк і ручаёў, але выцякае толькі адна рака – Раздан. Севан моцна выпарваецца. Больш за дзевяноста адсоткаў вады, якую штогод атрымлівае возера, выпарваецца. Каб абмежаваць тое выпарванне, вырашылі паменшыць паверхню возера. Ваду выпускаюць рэчышчам Раздана. На Раздане паставілі шэсць электрастанцый. Водамі Раздана арашаюць палі. Паверхня Севана пачала хутка змяншацца. Нешта тут дрэнна падлічылі, возеру пагражала высыханне.

А без Севана Арменія жыць не можа.

Узнікла праблема, адкуль узяць ваду для Севана. І такое выйсце знайшлі. За сорак восем кіламетраў ад усходняга берага возера цячэ рака Арпа. Воды той Арпы вырашылі скіраваць у Севан. Арпу ад Севана аддзяляе ланцуг гор Вардэніс, вышынёй 3400 метраў. Дык цяпер пад гэтымі гарамі капаюць тунэль. Даўжыня тунэля сорак восем кіламетраў (альпійскі тунэль мае дваццаць два кіламетры). Гіганцкая інвестыцыя! Праз тунэль пацячэ падземная рака, армянскі Стыкс. Возера будзе ўратавана і Арменія мецьме ваду.

Агламазян, плячысты, загарэлы мужчына, вязе нас да таго месца, дзе пачынаецца тунэль. Па дарозе распавядае, што яны працуюць у тры змены, без святаў, бо падціскаюць тэрміны. Пакуль што працуе паўтары тысячы работнікаў, але потым іх будзе больш. Тут не кожны работнік прыдасца – адну шахту капаюць на вышыні 2700 метраў. Там вечная зіма, кажа ён, снег і лёд. У каго слабое сэрца, той мусіць сысці. Навокал бязлюдныя землі. Рабочыя жывуць у пасёлках, якія самі ж пабудавалі.

Ідзе дождж, холадна, мы коўзаемся па гліне. Машыны, мёртвыя, іржавеючыя, закапаныя ў тую гліну па самыя восі. У канторцы аднавокі ўкраінец выпісвае пуцёўкі шаферам. Маўклівыя, зарослыя, яны стаяць пад сцяной, узіраючыся ў вакно. “На, – кажа аднавокі, – бяры”. Па чарзе, па адным яны выходзяць у дождж.

Малыя ваганеткі вязуць нас у глыб тунэля. Па яго сценах ліецца вада, пырскае пад коламі. Так мы едзем тры кіламетры. Наперадзе гук машын, аглушальны шум,ляскат камбайнаў, бурыльных малаткоў, бумераў. Людзі пазаліваныя вадой, па калена ў гразі. На сценах іх вялізныя цені. Ці хачу я, гарланіць Агламазян, ці хачу я пагаварыць? Я коўзаюся, ён коўзаецца, мы размахваем рукамі, я скідваю каску фотарэпарцёру, каска тоне. Дзіўны той фотарэпарцёр. Здымкаў не робіць, увесь час маўчыць. Агламазян цягне да мяне нейкага гарняка. “Скажы, як ты жывеш?” – раве да таго. Гарняк пачынае крычаць, але я нічога не чую, бух-бах, абрынулася нейкая скала. На нас лінула вада, я пачаў захлынацца. Агламазян трасе мяне, мы пачалі слізгаць, ўратаваў нас гарняк. “Кажы!” – крычыць Агламазян. У гэтай оргіі шуму лопаюцца барабанныя перапонкі. Я бачу спацелы, сімпатычны твар гарняка, вусны, якія нешта гавораць, і амаль ужо пачынаю ўлоўліваць, але тут мы павінны адскочыць, бо на нас ляціць ваганетка, яна імчыць, удараецца аб сценку і застывае, як страла ў тарчы. Секунда нібыта цішыні і нарэшце лаўлю, лаўлю крык гарняка, ведаю, разумею, чую, што ён гаворыць, чую, што Ў ЯГО ЎЖО ЁСЦЬ ТЭЛЕВІЗАР. Агламазян задаволены, бачу, што задаволены. “Хопіць?” – пытае ён у мяне, махаю галавой, што хопіць, абдымаю гарняка, абдымаемся ўсе трое.

Цяпер можна вяртацца.

Едзем той самай дарогай, па беразе Севана, а потым збочваем на захад, у напрамку сталіцы. Чым бліжэй да Ерэвана, тым больш вёсак. Заўважны вялікі прагрэс апошніх гадоў. Багата новых, мураваных дамоў. Шмат дамкоў будуецца. Паўсюль разбураюць старыя мазанкі. Жанчыны з вёдрамі вады. Дзеці сур'ёзныя, назіраюць за машынай. Група мужчын перад вясковай карчмой.

Ужо вечар. Мы стомленыя. Па дарозе атрымалі крыху эмоцый: міліцыянт гоніцца на матацыкле за грузавіком, які імчыць – па гэтых серпанцінах смерці! – без ніякога святла. З'язджаем уніз. Пад намі блішчыць электрычнае возера.

Гэта Ерэван.

## Краіна на мяжы – Азербайджан

### 1.

На Бульвары Нафтавікоў Гульнара Гусейнава лечыць людзей водарам кветак. У каго склероз, той нюхае лаўровае лісце. У каго падвышаны ціск – герань. Пры астме лепш за ўсё размарын. Людзі прыходзяць да Гульнары з карткамі ад прафесара Гасанава. На картцы прафесар прыпісвае назву кветкі, а таксама час удыхання. Нюхаюць седзячы, часцей на працягу дзесяці хвілінаў. Гульнара сочыць, каб кожны ўдыхаў тое, што трэба, каб, скажам, які-небудзь склеротык не ўзяўся нюхаць размарын. Кветкі стаяць радамі ў шкляным доміку, які называецца кабінетам фітатэрапіі і нагадвае цяпліцу. Гульнара кажа мне, каб я сеў і таксама што-небудзь панюхаў. Ці чую пах? Не чую нічога. У тым і справа, бо кветка не пахне сама па сабе. Трэба паварушыць сцябло, тады кветка адчувае, што нехта ёй зацікавіўся. І пачынае высяваць свой пах. Кветкі не пахнуць для сябе, заўсёды для некага. На кожнае варушэнне кветка пачне рэагаваць пахам – яна наіўная і легкадумная, кожнаму хоча спадабацца. "Таварышы, варушыце кветкамі!" – нагадвае Гульнара дзядкам і бабулям, што сядзяць у кабінеце, і яны пачынаюць трэсці галінкамі, нібыта абтрасаючы з іх мурашак.

Я пытаюся ў Гульнары, студэнткі-медыка, ці верыць яна, што кветка можа вылечыць чалавека. Вылечыць не псіхічна, бо такая магчымасць даказаная, але вылечыць фізічна, напрыклад, надаць эластычнасць клетцы, у якой адклаліся солі. Гульнара ўсміхаецца. Кажа толькі, што да яе прыязджаюць лячыцца людзі з усяго свету. Падкрэслівае: нават з Амерыкі. Метад прафесара Гасанава (гэта менавіта лячэнне пахам кветак) стаў ужо вядомым.

Думаю, што Гульнару, падобна як і мяне, у гэтай методыцы зачароўвае яго эстэтычны бок, а таксама яе ціхамірнасць і спакойная мудрасць. Бо што рабіць прафесару са старым, які носіць сем крыжыкаў і забывае сваю дату нараджэння? Натуральна, прафесар мог бы пасадзіць яго ў затлумленую шпітальную палату, у смурод хлараформу і ёду. Але навошта? Ці не прыгажэйшы скон, які пахне кветкамі, чым скон, які аддае хлараформам? Такім чынам, калі да прафесара прыходзіць нехта, каму трэба зазіраць у пашпарт, каб паведаміць дату свайго нараджэння, і наракае, што яму нешта засмечвае галаву, прафесар слухае яго ўважліва, а потым піша яму на картцы: "Рп.: Лаўровае лісце. Дзесяць хвілінаў у дзень. На працягу трох тыдняў". І глядзіце, кажа Гульнара, да прафесара валяць натоўпы. Прыёму чакаюць месяцамі.

Мы з Гульнарай сядзім на Бульвары Нафтавікоў, на беразе мора. З гэтага месца Баку лагодна ўздымаецца каменнымі тэрасамі. Горад размешчаны ў затоцы, мае форму амфітэатра і, дзякуючы гэтаму, бачны цалкам. Гульнара пытаецца, ці падабаецца мне Баку. Адказваю, што так, вельмі. Усе стылі тут праходзяць поплеч у вялікім паказе архітэктурных мод і эпох. Чаго тут толькі няма! І псеўдаготыка, і псеўдабарока, і постмаўрытанскі стыль, і школа Карбюзье, і канструктывізм дваццатых гадоў, і помнікі патэтычнага перыяду, і прыгожыя сучасныя канструкцыі. Гэта ўнікальная экспазіцыя. Бо ўсё на месцы, пастаўлена побач, як у вітрыне лонданскай фірмы Містэра Кокса “Купля-Продаж Нерухомасці”, якая можа прапанаваць кожнаму менавіта тое, што ён хоча. І ўся гэтая выстава не робіць непрыемнага ўражання, як і ў Дэсе не рэжа вока кітайскі чайнік побач з шабляй студзеньскага паўстанца.

Зрэшты, ёсць некалькі Баку.

Самы стары Баку – найменшы. Ён не проста маленькі, але так цесна забудаваны, такі сціснуты, такі загрувашчаны, што калі я ўваходжу туды, міжволі раблю глыбокі ўдых, каб праверыць, ці будзе чым дыхаць. Калі стаць тут пасярэдзіне вуліцы і раскінуць рукі, то адной рукой можна палашчыць дзіця, якое спіць у калысцы ў памяшканні злева, а другой рукой пачаставацца грушай, што ляжыць на стале ў памяшканні насупраць. Ходзяць тут цугам, бо як ідуць парай, то ўжо ствараецца таўкатня. У дадатак той бакінскі стары горад не мае ніякага плану, а можа, і мае, але такі сюррэалістычны, што нармальная галава яго не зразумее. Ніколі невядома, як адтуль выйсці. Я быў тут з Валерам, які нарадзіўся і вырас у Баку, мы спрабавалі розныя варыянты, і так, і гэтак, і нічога ў нас не атрымлівалася. Мы былі ўжо на мяжы знясілення, калі нас выратавалі дзеці.

Нейкі Цімур і яго каманда.

Гэтая частка Баку называецца Ічэры-Шэгэр, што азначае Унутраны Горад. Шмат легендаў ахутвае гэты раён, і шмат дваровых баладаў апявае яго. Для жыхароў вялікага Баку Ічэры-Шэгэр быў месцам наскрозь экзатычным, дзе людзі гаварылі на іншай мове і жылі нібы пад агульным дахам, без таямніцаў. Сёння Ічэры-Шэгэр паступова разбураюць, тут будзе новы раён.

Вакол Унутранага Горада раскінуўся ўласна Баку, вялікі і трохі снабісцкі. Бо вялікі Баку – горад збудаваны на замову, для прыватнікаў, для нуварышаў, для каралёў бакінскае нафты. Баку заўсёды рабіў кар’еру на нафце. Ужо ў X стагоддзі арабскія аўтары ўзгадваюць Баку менавіта як месца, адкуль прывозяць нафту. Пра гэта расказваюць дзівосы. “Аджаіб ад-Дунія”, персідскі трактат XIII стагоддзя, гаворыць, што ўсю ноч Баку палае як агонь. На зямлю ставяць кацёл і гатуюць у ім ваду”. Пра гэта таксама піша ў 1666 годзе турэцкі падарожнік Эўлія Чэлебі: “У Баку ёсць розныя бясплодныя мясціны. Калі чалавек або конь паставіць там нагу і трохі пастаіць, яго нага пачне гарэць. У тых мясцінах праваднікі караванаў разграбаюць зямлю, ставяць у яе кацялкі, і страва тут жа гатуецца. Найдзіўнейшая мудрасць Бога!”

Караваны развозілі бакінскую нафту па ўсёй Азіі. Марка Пола піша, што яна была найперш вельмі каштоўнымі лекамі ад скурных хваробаў вярблюдаў. Такім чынам, транспарт сярэднявечнай Азіі ў нейкім сэнсе залежаў ад бакінскай нафты. З прычыны гарачай зямлі Баку таксама быў Меккай індыйскіх паклоннікаў агню, якія збіраліся тут, каб грэцца

паблізу сваіх палымяных багоў. Захавалася іх святыня, Атэшга, з чатырма патухлымі комінамі.

Сто гадоў таму ў Баку была ўзведзеная першая свідравальная вежа. Пачынаецца галавакружная кар'ера горада. Прыехаў сюды адзін паляк, – апавядаюць мне, – чалавек элегантны, з фантазіяй. Наняў брычку і загадаў вазіць яго. У пэўны момант зняў цыліндр і кінуў на зямлю. Паказаў здзіўленаму рамізніку месца, дзе ўпаў цыліндр. Тут будзем свідраваць, сказаў. Пазней ён стаў багатым чалавекам. Бакінскую нафту эксплуатуе больш за дзвесце замежных фірмаў. "У 1873 годзе, – піша Гарві О'Конар, – у Баку адбылося першае самавывяржэнне нафты. У наступным дзесяцігоддзі Баку вырас да ўзроўню найбагацейшага горада ў свеце, а армянскія і татарскія нафтавыя мільянеры пачалі спаборнічаць з тэхаскімі. Гэты горад стаў найвялікшым у свеце цэнтрам па перапрацоўцы нафты. Расея заняла пазіцыі буйнога экспарцёра нафты, на некалькі гадоў адсунуўшы ў цень Злучаныя Штаты. Браты Нобелі, якія зусім выпадкова апынуліся ў Баку ў 1875 годзе, праз год пабудавалі тут свой першы перагонны завод, а ў 1878 годзе стварылі кампанію "Nobel Brothers Naphtha Company", якая ў 1883 годзе кантралявала ўжо 51 адсотак вытворчасці нафты. Яны пабудавалі першы трубаправод у нафтавым раёне ў ваколіцах Баку, выпісалі свідравальшчыкаў з Пенсільваніі і прымянілі дасягненні навукі для арганізацыі гэтай прамысловасці, якая развівалася хаатычна. На працягу некалькіх гадоў браты Нобелі займелі флот вялікіх марскіх паравых танкераў і меншых рачных танкераў для перавозкі нафты па Волзе. Гэта адбывалася ў той час, калі з Амерыкі нафту ўсё яшчэ перавозілі ў бочках і бляшанках. Нобелі былі выключэннем з правіла, якое гаварыла, што калі нехта хоць год пажыў сярод нафтавых магнатаў у Баку, ужо не можа зноў стаць цывілізаваным чалавекам. "Чорны Горад" Баку зрабіўся адным з самых агідных, самых бойкіх і найбольш неспакойных закуткоў свету. Татары, армяне, персы і габрэі разам з расейцамі ўтваралі этнічную мазаіку, якая час ад часу выбухала гвалтоўнымі расправамі. Шмат нафтаносных раёнаў цар падараваў прыдворным фаварытам. Расквітнела спекуляцыя, багацце расло з дня на дзень. Свет дагэтуль ніколі не бачыў чагосьці падобнага, нават у заходняй Пенсільваніі. З тае прычыны, што не было спосабу суняць нафту, якая біла струменямі, свідравіны атачалі грэблямі, ствараючы азёры. Аднак часта цэлыя рэкі нафты цяклі са свідравін проста ў мора".

Да Нобеляў далучаюцца Ротшыльды:

"У 1885 годзе чыгуначныя прадпрымальнікі (якія пабудавалі чыгунку на Каўказе, што дазволіла транспартаваць бакінскую нафту праз Чорнае мора ў Еўропу) атрымалі ад барона Альфонса Ротшыльда з Парыжа пазыку з умовай, што Ротшыльдам дастанецца ўся экспартная нацэнка Расеі. У хуткім часе Ротшыльды ўжо сур'ёзна ўдзельнічалі ў здабычы і перапрацоўцы бакінскай нафты, але яны не здолелі перахапіць уласнасць братоў Нобеляў. Парыжскі банкавы дом заняў другое месца ў нафтавай прамысловасці Баку, а Нобелі ўтрымалі сваю першую пазіцыю: яны здабывалі больш нафты, чым амерыканская кампанія "Standart Oil Co.", і амаль што былі роўныя з фірмай Ракфелераў, калі гаварыць пра перапрацоўку і збыт".

У 1900 годзе Баку дае больш за палову (52 адсоткі) с у с в е т н а й прадукцыі нафты.

Усё сведчыць пра тое, што Баку ў той час быў жахлівым горадам. "Так павінна выглядаць пекла" – напісаў пра Баку Горкі. "Я не хацеў бы

тут жыць нават і за мільён рублёў!" – усклікаў Чэхаў. У гэтым страшна гарачым горадзе ваду развозяць у бочках, або купляюць у гандляроў, якія носяць яе ў скураных мяшках. Усяго толькі некалькі вуліц маюць каналізацыю. Праз цэнтр горада праходзяць караваны вярблюдаў, падганяемыя свістком цягнікоў, бо цэнтральныя вуліцы праразае чыгунка. Над горадам узнімаецца вечны грыб сажы і дыму. Віхор гоніць аблокі пылу, бо няма ходнікаў, няма дрэваў, а ў Баку на працягу дзевяці месяцаў у годзе дзьме моцны вецер. Горад атачаюць кварталы роспачных трушчобаў. Працоўны дзень цягнецца ад цямна да ночы, а фірмы бяруць на працу хлопцаў з васьмі гадоў. Грамады тых хлопцаў, цэлыя дзіцячыя крыжовыя паходы, вандруюць праз пустыні Азіі, з Ірана, Турцыі, Арменіі, Дагестана, вандруюць да Баку, да пана Нобеля. Потым за гэтыя грошы пан Нобель заснуе сусветную прэмію.

Аднак побач з гэтымі трушчобамі раслі і кварталы мяшчанскага дабрабыту, багатыя камяніцы, гмахі і палацы, пабудаваныя ў розных псеўдастылях або ў сэцэсійнай манеры. Тут кожны хацеў мець дом больш багаты за дом свайго суседа, больш эксклюзіўны і больш стыльны. Гэтым парадам домаўласнікаў можна з захапленнем любавацца і сёння. Але цяпер Баку – горад зелені, светлых вуліц і бульвараў, зрэшты, гэта толькі яшчэ больш выпукліла былыя ўласнасці Нобеляў, Ротшыльдаў і Тагіевых. Паважны, а менавіта пампезны характар старога горада робіць сталіцу Азербайджана не падобнай ні да Тбілісі, ні да Ерэвана, ні да ніводнага горада ў гэтай частцы свету наогул. У азіяцкім кантэксце Баку з'яўляецца экзатычным менавіта з-за сваёй мяшчанскай еўрапейскасці. Найперш Баку кантрастуе з самім Азербайджанам. Азербайджан быў мусульманскі, напалову качэўніцкі, персідскі, ці турэцкі, і раптам у такім краявідзе кавалак нейкага Чыкага ці Гамбурга!

Баку – прамысловая база Азербайджана, тыпова каланіяльны анклаў, як Катанга ў Конга, як нафтавы басейн у Кувейце. Па-за межамі горада пачынаецца патрыярхальны свет, спрадвеку нерухомы, пусты, недасягальны. Пасля рэвалюцыі шмат было зроблена, каб нівеліраваць тую дыспрапорцыю, той бяздонны кантраст. Узніклі новыя гарады, новыя прамысловыя цэнтры. Але Баку застаецца калосам Азербайджана. Горад дае больш за 80 адсоткаў прамысловай прадукцыі ўсёй рэспублікі. У ім жыве 28 адсоткаў усяго насельніцтва Азербайджана і больш за палову гарадскога насельніцтва краіны. На гэты момант колькасць насельніцтва ў Баку як у Варшаве – каля 1,2 мільёны, але жыхароў у Азербайджане ў сем разоў менш, чым у Польшчы. І Баку працягвае разбудоўвацца. Узнікаюць новыя, вялікія раёны, вясковае насельніцтва сцякаецца да сталіцы.

У Баку я хадзіў у расейскі тэатр на спектакль азербайджанскага драматурга Ільяса Эфендзіева – "Ты заўжды са мной". Работніца вытворчага прадпрыемства закахалася ў свайго дырэктара. Дзяўчына маладая, экзальтаваная, дэкламуе вершы. Дырэктар перажывае драму, бо ён нашмат старэйшы, уласна кажучы стары, мае дарослага сына, здаецца, інжынера. Дырэктар прапануе дзяўчыне пайсці за яго сына, але яна не хоча, хоча за дырэктара. Іх дыялог увесь час круціцца вакол пытання перажыткаў. Дзяўчына закідвае яму, што ён мае перажыткі, бо звяртае ўвагу на ўзрост, дырэктар бароніцца, нервуецца, паліць папяросу за папяросай. У другім акце з'яўляецца злы дух – каляжанка дзяўчыны, стыляга і касмапалітка. Каляжанка (зрэшты, клёвая дзявуля!) носіць эластычныя нагавіцы, танцуе твіст і падбухторвае дзяўчыну хадзіць у кавярню. Дзяўчына слухае гэта

з абурэннем, урэшце разрывае знаёмства. Працягвае чакаць дырэктара. У трэцім акце адбываецца развязка. Дырэктар вырашае з'ехаць, атрымлівае новае прадпрыемства. Аднак спачатку ён выклікае да сябе працоўны актыў і просіць, каб сабраныя далі дзяўчыне складанае заданне, якое дапаможа ёй на ўсё забыцца.

Пасля тэатра калега з Баку запрасіў мяне ў рэстаран. Рэстаран стаіць на беразе мора, а паколькі ў яго няма сценаў і дзьме вецер, ствараецца ўражанне, быццам гэта на борце карабля ў час шторму. Калі мы прыйшлі, было ўсё запоўнена, але людзі тут гасцінныя, і калі калега сказаў, што ён з палякам, адразу знайшлося месца. Побач з намі сядзеў нейкі азербайджанец, ужо нападпітку.

– А ты адкуль? – спытаў ён у мяне.

– Я з Польшчы – сказаў я.

– З Польшчы – паўтарыў ён, пахітаў галавой і змоўк.

– А ты? – звярнуўся праз момант да калегі.

– Я з Баку, – сказаў калега, – я бакінец.

На гэта азербайджанец сказаў нешта па-азербайджанску.

– Я не ведаю азербайджанскую мову, – сказаў калега, які быў расейцам.

Азербайджанец ізноў змоўк, спрабаваў трапіць відэльцам у памідор, маўчаў.

– Бакінец, – азваўся ён нарэшце, – які ты бакінец.

Устаў і паплыў паміж столікамі.

Позна вяртаюся ў гатэль. Шматлюдны натоўп запаўняе бульвары. У ціхі вечар тут можна сустрэць палову Баку. Цёпла, і таму людзі лёгка апранутыя, яны гуляюць, ядуць марозіва. Па адзін бок бульвара ўзносіцца сцяна агню – гэта Баку. А па другі бок мора, цёмнае, але цяпер, апоўначы – спакойнае. Яшчэ ходзяць тралейбусы. Афіцыянты зачыняюць апошнія чайныя.

## 2.

У чацвер я павінен быў сустрэцца з сакратаром ЦК Шыхалі Курбанавым, як у сераду днём мяне сустракае Валера і кажа, што Курбанаў раптоўна памёр. Валера ўсхваляваны той смерцю, якая, як ён кажа, уразіла ўсіх. На раніцу Курбанаў прызначыў у сябе нараду, але паколькі ноччу ў яго разбалеўся зуб, па дарозе зайшоў да дантыста. Дантыст зрабіў яму ўкол стрэптаміцыну. Праз некалькі секунд Курбанаў памёр. Яму быў сорак адзін год і ён быў здольным камедыёграфам. Таксама ён быў дацэнтам філасофіі. Аказваецца, што большая частка членаў кіраўніцтва мае тут навуковыя тытулы. Прэзідэнт Азербайджана, Мамед Іскандэраў – дацэнт геалогіі. Першы сакратар ЦК Вэлі Ахундаў – дацэнт медыцыны. Прэм'ер, Энвер Аліханаў – дацэнт геалогіі. Віцэ-прэм'ер, Аскер Аруджэў – дацэнт аграрных навук. Віцэ-прэм'ер, Таіра Таірава – доктар. Віцэ-прэм'ер Сулейман Вэзіраў – доктар. Віцэ-прэм'ер, Рза Садыхаў – доктар. Сакратар ЦК, Шыхалі Курбанаў быў дацэнтам філасофіі, драматургам і паэтам. Сакратар ЦК Алі Аміраў – доктар і пісьменнік. Сакратар ЦК, Гамбар Кязімаў – доктар.

Справа не ў тым, што ўсе яны працуюць у навуцы. Справа ў атмасферы. Ва ўсеагульным тут імкненні да навукі і ва ўсеагульным кульце вучонага. У Баку, Ерэване, Ташкенце ў мяне было некалькі выпадкаў, калі я сядаў

у таксі, а таксіст адкладваў нейкі падручнік вышэйшай матэматыкі ці механікі шпеневых прыладаў, бо ўдзень ён сядзіць за стырном, а ўвечары вучыцца. Таксіст з політэхнічнага інстытута! Але гэта факт. Хто можа, вучыцца. І вядома, вучацца ўсе. Таму людзі, якія атрымалі вышэйшую адукацыю, сустракаюцца тут ужо на ніжэйшых арганізацыйных узроўнях. На чыгуначнай станцыі ў Мары, якая меншая за станцыю ў Плонску, ёсць свой штатны лекар. Я быў на маленькім аэрадроме ў Тагтагуле, дзе на дзень прылятае адзін двухматорны "Іл", дзе нават няма ўзлётнай паласы. Там таксама ёсць штатны вакзальны лекар.

Кожны стараецца атрымаць навуковы тытул, бо тытул тут мае вагу. Вучоны тут, гэта адмысловае становішча. І не толькі ў навучальнай установе, але і ў грамадстве, у дзяржаве. Навуковец добра жыве, вельмі добра зарабляе і ездзіць на "Волзе". Калі навуковец стане ў чаргу і яго пазнаюць, адразу нехта скажа: "Таварышы, прапусціце Івана Пятровіча". А несвядомым патлумачыць: "Гэта вучоны". І ўсе, з павагай, саступяць. Чую, як шафёр гаворыць шафёру: "Ты што, думаеш я буду цябе слухаць? Ты што, вучоны?"

Вучоных слухаюць, саступаюць ім месца.

У гэтых адносінах да вучоных ёсць нешта магічнае. Вераць, што вучоны ўсё можа. Справы пачынаюць ісці лепш, калі атрымаюць ухвалу вучоных. Вучоныя часта доўга медытуюць, разважаюць. Тады чакаюць, справа завісае. Калі нараджаецца нейкае гаспадарчае рашэнне, і ёсць спрэчныя меркаванні, тады робіцца кампрамісная прапанова: "Ведаеце, аддамо гэта для вырашэння вучоным". Я пытаю ў сакратара раёна Арменіі: "А як будзе з той вашай дарогай?" "Не ведаю, – кажа ён, – чакаем, што скажуць вучоныя".

Я пайшоў паглядзець на пахаванне Курбанава, пахаванне чалавека, з каторым збіраўся размаўляць, а не буду. Тут ёсць звычай вазіць труну на адкрытым грузавіку. На платформе, вакол труны, на кукішках сядзяць родныя. На шафёрскай кабіне ўсталёўваюць вялікі партрэт памерлага – павялічаную фатаграфію, але бачыў таксама і карціну. Часам партрэт не ставяць, толькі хто-небудзь на грузавіку трымае яго і паказвае тым, хто ідзе па вуліцы, ці вызірае з вокнаў. Знаёмыя і блізкія чапляюць сабе здымак памерлага на грудзі і так носяць яго. Паколькі Курбанаў быў дзеячам высокага ўзроўню, палова Баку хадзіла з яго здымкам на борце пінжака.

Пахаванне было прыгожым.

Адкрытую труну неслі маракі Каспійскага Флота. Перад імі неслі вялізныя вянкі з руж. За трунай ішла сям'я памерлага, увесь склад ЦК і ўрад. А потым мноства людзей, хіба некалькі тысяч. Яго пахавалі ў Алеі Заслужаных, а на другі дзень мясцовая прэса прысвяціла пахаванню цэлыя калонкі.

**3.**

"Прашу прабачэння, але я буду гаварыць трохі па-нацыяналістычнаму", – вельмі забаўная гэтая задзірлівая азербайджанка, якая ведае, што нацыяналізм – гэта забаронены плод, але ўсё ж не можа ўтрымацца ад спакусы. Мы стаім над рэльефнай мапай Сярэдняй Азіі, і азербайджанка хоча мне паказаць, якім вялікім быў Азербайджан (менавіта гэта яна лічыць тым трохі-нацыяналізмам). Гавару ёй, што яе імкненне паказаць мне Вялікае Учора, з'яўляецца на сённяшні дзень паўсюдным. Куды б ты

ні паехаў, у кожнай краіне людзі будуць ганарыцца тым, як далёка некалі даходзілі іх продкі. Гэтае ўсведамленне, відаць, патрэбна людзям, можа, нават патрэбнае ўсё больш. Я кажу ёй, што тут, мабыць, працуе нейкае правіла кампенсацыі. Даўней у свеце было свабодна, і калі нейкі народ раптам адчуваў неабходнасць пашырыцца, дык у тым пашырэнні мог зайсці даволі далёка. Возьмем значнае пашырэнне рымлянаў. Паглядзім, як надзвычайна пашырыліся манголы і як – туркі. Ці можна не здзіўляцца таму, як пашырылася Гішпанія? Нават Венецыя, сама невялікая, а якія поспехі мела ў пашырэнні.

Сёння пашырацца цяжка і рызыкоўна, як правіла, гэта заканчваецца звужэннем, і таму народы павінны кампенсаваць інстынкт шырыні пачуццём глыбіні, гэта значыць заглыбляцца ў гісторыю, каб давесці сваю сілу і значнасць. Гэта сітуацыя, у якой апынуліся ўсе малыя народы, якім дарагі мір. На шчасце, калі паглядзець на гісторыю чалавецтва, выявіцца, што ў кожнага народа ў тую ці іншую эпоху быў свой перыяд павелічэння тэрыторыі і пашырэння межаў, прынамсі, хоць адна патрыятычная разрадка, што дазваляе сёння захоўваць пэўную – што праўда, адносную – псіхічную раўнавагу чалавецтва. Бо пачуццё глыбіні дазваляе народам захоўваць годнасць, не ўключаючы інстынкт шырыні.

Я нават не ведаю, як зваць тую азербайджанку. Імёны дзяўчатаў тут заўсёды маюць свой сэнс, бацькі надаюць значэнне выбару імені. Гульнара значыць“кветка”, Наргіз – гэта “нарцыс”, Бахар – “вясна”, Айдын – “ясная”. Імя Сэвіль атрымлівае дзяўчына, якую нехта любіць. Пасля рэвалюцыі, кажа мне Валеры, дзяўчаткам пачалі даваць імёны, што ўслаўлялі сучасныя рэчы, якія даходзілі да вёскі. Так ёсць дзяўчаты з імёнамі Трактар, Ліманад, Шафёр. Нейкі бацька, напэўна разлічваючы на палёгкі ў падатках, даў дачцэ імя Финотдел, што скарочана ад назвы фінансавай установы (*Финансовый Отдел*).

Дык вось, з гэтай безыменнай для мяне азербайджанкай я стаю над мапай Азіі і гляджу, які вялікі быў Азербайджан: ён распасціраўся ад Каўказу да Тэгерана і ад Каспійскага мора да Турцыі. Савецкі Азербайджан – гэта толькі малая частка таго Азербайджана. Рэшта знаходзіцца ў Іране. Там жа пражывае і большая частка азербайджанцаў (каля чатырох мільёнаў), а ў Савецкім Саюзе іх каля трох з паловай мільёнаў.

У мінулым Азербайджан меў значэнне хутчэй геаграфічнае і культурнае, чым юрыдычна-дзяржаўнае. Насамрэч цэнтралізаванай дзяржавы Азербайджан ніколі не было, і гэтым яго гісторыя адрозніваецца ад гісторыі Грузіі і Арменіі. Адрозніваецца яшчэ і ў іншых аспектах. Грузія і Арменія праз Чорнае мора і Анатолію падтрымлівалі кантакты са старажытнай Еўропай, а потым з Візантыяй. Адтуль яны прынялі хрысціянства, якое на іх тэрыторыі супрацьстаяла экспансіі ісламу. Уплыў Еўропы на Азербайджан ужо слабы, больш за тое – другасны. Паміж Еўропай і Азербайджанам узнімаецца загарода Каўказа і Армянскага ўзвышша, на ўсходзе ж Азербайджан пераходзіць у нізіну, там ён лёгкадаступны, адкрыты.

Азербайджан – гэта подступы Цэнтральнай Азіі.

Пануючай рэлігіяй тут напачатку быў зораастрызм, а потым іслам. Але калі я чытаю “Нарысы па гісторыі і філасофіі Азербайджана” Васьмі Аўтараў, мяне здзіўляе, колькі ерэтыкоў, адшчапенцаў, бязбожнікаў, сектантаў, іншаверцаў, містыкаў, пустэльнікаў і адступнікаў знаходзіла сабе тут сховішча і амбон. Бо тут ёсць матазіліты, батыніты, ізмаіліты,

маздакі, маніхейцы, а таксама манафізіты, шанавальнікі агню, бэкташы, нугдавіды, таксама суфіты, хураміты, чыстыя браты, апроч таго хуруфіты, якіх называюць містыкамі лічбы, сэрбэдары, кадырыты і суніты. Адносна цэнтральных асяродкаў Усходу гэтая тэрыторыя павінна была разглядацца як глыбокая правінцыя, месца прытулку і перачытвання, хоць не заўсёды гэта было праўдай: у 1417 годзе тут жыўцом здзіраюць скуру з філосафа-ерэтыка Імадэдзіна Насімі, а за некалькі гадоў да гэтага ад рук мусульманскай інквізіцыі гіне правадыр хуруфітаў Шыхабедзін Фазлулах Наімі Тэбрызі Азтэрабадзі аль-Хуруфі.

Вучні гэтага пакутніка, хуруфіты – містыкі лічбы, кабалісты і варажбіты – верылі, што стварэнне свету зводзіцца да лічбаў 28 і 32. З дапамогай гэтых лічбаў можна растлумачыць таямніцу кожнай рэчы. У іх разуменні, Бог выказваўся праз прыгажосць. Чым прыгажэйшы твор, тым большае праяўленне ў ім Бога. Гэта было іх крытэрам ацэнкі з’яваў.

Бога шукалі ў чалавечым твары. Прыкладам, мусульмане бачылі Бога ў тварах прыгожых жанчын.

Сусветную славу меў паэт Азербайджана, які жыў у XII стагоддзі, Нізамі Гянджаві. Як і Кант, Нізамі ніколі не пакідаў свайго роднага горада. Гэта быў горад Гянджа, сучасны Кіравабад. Гегель казаў пра паэзію Нізамі, што яна “мяккая і салодкая”. “Начамі, – піша Нізамі, – я здабываю зіхоткія перлы вершаў, спальваючы свой мозг у сотні агнёў”. Мудрая яго заўвага, што “прастора слова павінна быць вялізнаю”. Нізамі быў эпікам і філосафам, займаўся логікай, граматыкай і нават касмагоніяй.

Прыгнятаны з аднаго боку Турцыяй, з другога – Іранам, Азербайджан не мог здабыць аўтаномію. Што праўда, тут існавала шмат княстваў, але ў іх было лакальнае значэнне. Шмат стагоддзяў Азербайджан быў правінцыяй Ірану. У 1502-1736 гадах Іранам кіруе дынастыя Сафавідаў, якая мае менавіта азербайджанскае паходжанне. За гэтай дынастыяй Іран перажывае часы росквіту. Азербайджанская мова, аднак, належыць не да іранскіх моваў, а да цюркскіх. Не ўсе ведаюць, што цюркская група самая шматлікая моўная група ў Савецкім Саюзе. Узбекі, татары, казахі, азербайджанцы, чувашы, туркмены, башкіры, кіргізы, якуты, далгане, каракалпакі, кумыкі, гагаузы, тувінцы, уйгуры, карачаеўцы, хакасы, чулымы, алтайцы, балкарцы, нагайцы, туркі, шорцы, караімы, крымскія габрэі і тафалы гавораць на мовах цюркскай групы. Узбек з татарынам, кіргіз з башкірам і г.д. могуць размаўляць кожны на сваёй мове і добра разумець адзін аднаго.

## 4.

Вечарам Нік-Нік загадвае мне лезці высока на вежу. З вежы я ўбачу як свецяцца Нафтавыя Камяні, а Нік-Нік сказаў, што я не магу паехаць, пакуль гэтага не пабачу. Вежа стаіць на моры, мора чорнае, хоць і называецца Каспійскім, а я ўзбіраюся да неба па сходах, якія трашчаць, бо яны з дошак, уся вежа збітая з дошак і высокая – да зорак, вецер гойдае яе, як бадыллё, але яна стаіць, гнецца, ды не ламаецца; я ўзбіраюся па той вежы да неба, якое тут цёмнае, чорнае, як мора, мы ўваходзім у дзёгаць, я ўжо не хачу глядзець, ужо хацеў бы спыніцца, але чую, што Нік-Нік ідзе далей, я, такім чынам, таксама – у змрок, у прорву, у адхлань. Усё робіцца нерэальным, бо ўжо нічога не бачна, дакладней, я бачу толькі кавалак дошкі, негабляванай, калматай, кавалак дрэва, уторкнуты ў неба,

у цалкам выпадковым месцы, які вытыркаецца ў цемры, непраўдападобны, абстрактны. “Нік-Нік!” – крычу я.

Бо, разумееце, я застаўся сам-насам з той дошкай, у нейкай дзіўнай сітуацыі, ужо бадай што бязважкі, падвешаны ў няпэўным месцы, бо за той дошкай быў змрок, аніякага арыенціру, каб вызначыць свае каардынаты, аніводнага шанцу прайсці пару крокаў, закурыць, спакойна падумаць, што рабіць далей. Перш за ўсё я не ведаў, што зрабіць з дошкай, і так тырчаў у цемры, дурны і недарэчны, пакуль не пачуў голас Нік-Ніка, недзе пада мной, у ніжэйшых сферах галактыкі. “Бачыш?” – выдыхнуў Нік-Нік, якога я даўно згубіў з вачэй. Толькі цяпер я паглядзеў уніз, зрэшты, з пачуццём вялікага страху, бо я баюся вышыні.

Я ўбачыў горад.

Няма нічога дзіўнага ў тым, каб убачыць горад, нават вясковыя людзі сёння ведаюць, як выглядае горад, але я ўбачыў горад сярод адкрытага мора, сярод мора ўсхваляванага, бурнага, вялізнага, ад таго горада да найбліжэйшага берага было сто кіламетраў.

Я убачыў агні горада, яго вуліцы, якія знікалі на даляглядзе, рух у цэнтры. Было відаць, як людзі выходзілі з кінатэатра, я сам быў тут напярэдадні на польскім фільме “Бумеранг”, у цэнтры мігцелі неоны, ездзілі аўтобусы, ярка свяцілася кавярня, свяціліся вітрыны крамаў і вокны дамоў. У порце стаяў нейкі танкер, бо тут ёсць порт, нават два порты, а таксама аэрапорт. Вельмі далёка былі бачныя нафтавыя вышкі, якія гудзелі нібы вулей, так, што амаль нічога не было чуваць; на тых вышках працавала начная змена. Гэты горад насамрэч ніколі не спіць, нават раніцай.

Унізе, пад горадам, перакочвалася мора.

Мора хвалямі б’е ў шэрагі сталёвых паляў, на якіх стаіць горад, уліваецца ў лабірынты металічных канструкцыяў, якія трымаюць па-над вадой вуліцы, плошчы і дамы. Але горад стаіць нерухома, апіраючыся на магутныя слупы, якія моцна асаджаныя ў марскім дне. Не, нават не так: гэта горад пабудаваны на вяршынях гор, толькі горы тыя ляжаць пад вадой.

Ланцуг падводных гор злучае ўсходні і заходні берагі Каспійскага мора. Яны цягнуцца ад Баку да Краснаводска ў Туркменіі. У гэтых гарах, па ўсёй іх даўжыні, знаходзяцца багатыя радовішчы нафты і газу. Калі мора спакойнае, месцамі можна ўбачыць вяршыні падводнага ланцуга. З расколінаў, з-пад скалаў, тут і там выцякае нафта. Таму гэтыя скалы названыя Нафтавымі Камянямі, і ад гэтага далі назву горада, пабудаванаму пасярод мора.

У Азербайджане нафтавыя палі на сушы паступова змяншаюцца і здабыча нафты ўсё больш перасоўваецца ў мора. Першым, хто прыдумаў у Баку здабываць нафту з марскога дна, быў польскі інжынер Павел Патоцкі. Сорак пяць гадоў таму Патоцкі пачаў кіраваць стварэннем нафтавай свідравіны ў моры. На той час ён быў ужо сляпым, не бачыў таго, што будуюць, але верыў, што знойдзе нафту. У яго было шмат праціўнікаў, але яму верыў Кіраў. Кіраў не дазваляў, каб яго чапалі. Свідравіна Патоцкага дала першую нафту з марскога дна. Непадалёку ад таго месца Патоцкі быў пахаваны. Яго дачка была спявачкай у аперэце і да сённяшняга дня жыве ў Баку.

Нафтавая магутнасць паступова згасае.

Паўстагоддзя таму Баку займае першае месца ў свеце па здабычы нафты. Яшчэ ў гады другой сусветнай вайны Баку з’яўляецца галоўным дастаўнікам нафты для Савецкага Саюза. Але ў пяцідзясятых гадах Са-

вецкі Саюз перажывае нафтавую рэвалюцыю, былі адкрытыя гіганцкія радовішчы ў Татарыі, Башкірыі, у Сібіры. Баку дае толькі восем адсоткаў ад агульнай здабычы нафты ў СССР, 1/3 ад гэтага аб'ёму дастаўляюць Нафтавыя Камяні.

Перш чым Нік-Нік загнаў мяне на вышку, ён распавёў мне, як будавалі Нафтавыя Камяні. Гэта суворая і гераічная эпапея.

На гэтым моры большасць дзён у годзе шалеюць штормы. Небяспека каспійскіх бур легендарная. Віхура згінае людзям галовы, хвалі засланяюць свет. Марак можа схавацца ў каюце, карабель – у порце. А тут, у самым цэнтры цыклону людзі будуюць горад. Ні кают, ні порта. У іх нормы, тэрміны, яны не могуць чакаць.

Усё адбываецца пасярод мора.

Гэта не шукальнікі прыгодаў. Гэта сухапутныя пацукі, манцёры, электрыкі, сталяры. Яны будуюць горад. Год 1949. Забіваюць стальныя слупы, пракладваюць першы кіламетр вуліцы. Ставяць першыя сцены. Навальніца валіць сцяну, хваля змывае муляраў з рыштаванняў. “Ну, і як, марскія ваўкі?” – смяецца потым начальнік. “Вазьмі, працягні дрот ад слупа да слупа, калі шторм, – кажа электрык, – вазьмі, працягні”. Махае рукой, бо ведае, што не працягне. Горш за ўсё тым, хто на вышках, расказвае нехта, бо калі яму трэба ўдыхнуць, ён мусіць павярнуцца плячыма да ветру, інакш вецер яго задушыць.

Урэшце ставяць сцяну, працягваюць дрот. Тыя, што на вышках, вучацца дыхаць у віхуры. Запальваюцца першыя агні. Цяпер ужо можна галіцца, бо ёсць цёплая вада. На караблі прывезлі зямлю, можна нешта пасадзіць. Прыязджаюць з прэсы, распытваюць, як гэта было. Адзін, дык нават з Масквы прыехаў. Мабыць нешта тут адбылося, што аж з Масквы. Але як пра гэта расказваць? Абваліла сцяну, хваля змыла муляраў. “Ну, і як? – смяяўся потым начальнік. – Вы пытаеце, і гэта ўсё? Ну то вазьміце і працягніце дрот”. Што яшчэ было? Нічога не было. Не было, а цяпер ёсць.

Ёсць горад.

*(Працяг будзе).*



Эмануіл Іофе



…беларуская нацыя апіраецца на крэпкіх фундаментах дзяржаўнасьці, на шырокіх дэмакратычных асновах…

# Мітрафан Доўнар-Запольскі і Беларусь

***Да 150-годдзя з дня нараджэння навукоўцы***

Імя Мітрафана Доўнар-Запольскага залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю, навуку і культуру трох славянскіх народаў – беларускага, украінскага і рускага. Акрамя таго, яго навуковая спадчына – істотны ўклад у даследаванне гісторыі Літвы і Польшчы.

Беларускі даследчык Г.В. Кісялёў называе Мітрафана Віктаравіча гісторыкам, этнографам, фалькларыстам і літаратуразнаўцам. На думку А. Ліса, ён быў беларускім гісторыкам, эканамістам, этнографам, адным з заснавальнікаў нацыянальнай гістарыяграфіі. А.Г. Гануш і П.С. Кручок лічаць М.В. Доўнар-Запольскага таленавітым навукоўцам, грамадскім, дзяржаўным і палітычным дзеячам, арганізатарам навукі і адукацыі, асветнікам і педагогам.

Нельга не згадзіцца з думкай вядомага беларускага этнолага, фалькларыста і гісторыка Арсеня Ліса: "Працы М.В. Доўнар-Запольскага па гісторыі, этналогіі, эканоміцы сёння, на ростані



*Мітрафан*
*ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ*

дзвюх эпох, у час адбудовы беларускай дзяржаўнасці, уладкавання грамадска-палітычнага жыцця рэспублікі на дэмакратычных прынцыпах набываюць відавочную актуальнасць. Сёння, можа, больш чым калі патрэбны нашаму грамадству пранікнёны, заклапочаны, кампетэнтны погляд навукоўцы на мінулае, на сам беларускі этнас і яго жыццёвыя інтарэсы, заўсёды неабыякавыя імянітаму гісторыку, бароненыя ім з высокіх маральных пазіцый, з годнасцю грамадзяніна".

"Малая радзіма" славутага навукоўцы – горад Рэчыца Мазырскага павета Мінскай губерні. Менавіта тут 14 чэрвеня 1867 года ў сям'і калежскага сакратара, сталаначальніка Рэчыцкай уезднай паліцэйскай управы Віктара Мартынавіча і Аляксандры Станіславаўны (у дзявоцтве Ліндахер) пачаўся яго жыццёвы шлях. Доўнар-Запольскія адлічвалі свой радавод з XVI стагоддзя і былі разгалінаваны на шэсць родаў, кожны з якіх карыстаўся адзіным гербам "Побаг". Але да XIX стагоддзя яны страцілі статус сярэдняй шляхты разам з усімі землямі і ўладаннямі.

Акрамя Мітрафана былі старэйшыя сёстры Соф'я і Марыя, старэйшы брат Пятро, а таксама малодшая сястра Серафіма.

Спачатку Мітрафан вучыўся ў народным вучылішчы ў Баранавічах, дзе жыла са сваім мужам яго сястра Соф'я, а потым у балгарскім горадзе Плоўдзіве, куды ў 1879 годзе пераехала ўся сям'я. Хутка бацька, забраўшы с сабой Мітрафана, вярнуўся ў 1880 годзе ў Мазыр, дзе працаваў пісарам у міравога суддзі. А Мітрафан вучыўся ў Мінскай гімназіі, а затым перавёўся ў мазырскую 6-класную прагімназію, але ў 1885 годзе стаў навучэнцам прэстыжнай Першай кіеўскай класічнай мужчынскай гімназіі.

У 1883 годзе 16-гадовы гімназіст Мітрафан Доўнар-Запольскі пасылае ў газету «Заря» сваю першую нататку «Из Мозыря», а ў 1884-1885 гадах «Еженедельное обозрение» друкуе ўжо 7 яго нататак: «Из Мозыря». «Книги для народа», «О первом поколении», «С берегов Припяти» і інш. Дзве з іх падпісаны «М.Д.», адна – псеўданімам «Провинциал». Гэта была ўжо сур'ёзная заяўка на глыбокае даследаванне гісторыі сваёй "малой радзімы" – Мазыршчыны як складовай часткі родных беларускіх зямель.

У 1887 годзе ў артыкуле «От Киева до Рогачёва», апублікаваным у газеце «Минский листок», Мітрафан ад імя беларускага селяніна патрабаваў друкаваць літаратуру на беларускай мове. У артыкулах пад агульнай назвай «Белорусское прошлое» Доўнар-Запольскі імкнуўся даказаць, што беларусы маюць уласную багатую гісторыю і культуру, а таксама адрозніваюцца ад суседніх народаў спецыфічнымі этнічнымі асаблівасцямі, у першую чаргу мовай. Гэтыя ідэі гімназіста кардынальным чынам адрозніваліся ад панавалага ў 1880-х гадах пункту гледжання навуковых аўтарытэтаў, што беларусы – гэта адгаліnаванне рускага народа, якія нейкі час знаходзіліся пад польскім уплывам і былі "сапсаваныя" паланізацыяй. Высновы ж, якія зрабіў беларускі юнак Мітрафан Доўнар-Запольскі, на самой справе мелі сапраўднае рэвалюцыйнае гучанне: «Народ, лишённый политической жизни, подавленный внутренним гнётом, иногда на целые столетия сходящий с политической арены, как бы замирающий – такой народ, если он не потерял своего родного языка, этнографических особенностей и пр. – снова выдвигается на арену если не политической, то, по крайней мере, умственной и социальной жизни» («Минский листок», 1888, № 87).

У якасці галоўнай задачы ўсіх прыхільнікаў беларускага адраджэння ён паставіў

задачу пашырэння ведаў пра мінулае і сучаснасць Беларусі. У сваіх артыкулах Мітрафан Віктаравіч заклікаў стварыць на Беларусі навуковае таварыства, адкрыць універсітэт, шырока вывучаць культуру і побыт беларускага народа. Як чалавек справы ён неадкладна ўзяўся за ажыццяўленне свайго плана. Доўнар Запольскі вырашыў пачаць з арганізацыі спецыяльнага выдання, прысвечанага Беларусі, якая афіцыйна ўваходзіла тады ў "Паўночна-Заходні край". Так з'явіўся "Календарь Северо-Западного края", які выходзіў у 1889 і 1890 гадах пад рэдакцыяй М. Доўнар-Запольскага і пры актыўным удзеле У. Завітневіча і М. Шахава.

У 1889 годзе 22-гадовы юнак Мітрафан Доўнар-Запольскі, ужо добра вядомы як таленавіты краязнаўца, здаў экстэрнам экзамены за курс гімназіі і паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта, які скончыў у 1894 годзе.

Вялікую ролю ў вызначэнні далейшага лёсу М. Доўнар-Запольскага адыграў украінскі гісторык, археолаг і этнограф Уладзімір Баніфатавіч Антановіч, які спачатку працаваў прафесарам, а з 1880-га года –дэканам гісторыка-філалагічнага факультэта Кіеўскага ўніверсітэта.

У 1899-1901 гадах М. Доўнар-Запольскі пачынае выкладчыцкую дзейнасць у Маскоўскім універсітэце ў якасці прыват-дацэнта кафедры рускай гісторыі, якой кіраваў В. Ключэўскі.

Восенню 1901 года адбылася абарона магістарскай дысертацыі Мітрафана Віктаравіча на тэму "Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах» у Кіеўскім універсітэце. Пасля гэтай абароны згодна загаду міністра асветы М. Доўнара-Запольскага зноў накіроўваюць у Кіеўскі ўніверсітэт. Прэзентуючы яго вучонай грамадскасці, дэкан гісторыка-філалагічнага факультэта Ц. Фларэнскі адзначыў: "У цэлым шэрагу навуковых прац па архіўнай справе, а таксама і па этнаграфіі роднага яму беларускага краю, спадар Доўнар-Запольскі набыў сабе ганаровую вучоную вядомасць".

У 1902 годзе 35-гадовы навукоўца становіцца ардынарным прафесарам Кіеўскага ўніверсітэта, а ў 1905 годзе М. Доўнар-Запольскі абараняе доктарскую дысертацыю «Очерки по истории западнорусского крестьянства в XVI веке», якая непасрэдна была звязана з гісторыяй Беларусі, і становіцца доктарам гісторыі, а не доктарам гістарычных навук, як адзначаюць некаторыя даследчыкі. Дысертацыя выходзіць асобным выданнем. Пасля рэцэнзіі прафесара М.К. Любаўскага, у якой даецца высокая ацэнка дысертацыі, М.В. Доўнар-Запольскаму прысуджаецца прэмія імя П.М. Бацюшкава, які таксама ўнёс пэўны ўклад у даследаванне гісторыі Беларусі.

Пасля свайго настаўніка У. Антановіча М. Доўнар-Запольскі ўзначаліў кафедру рускай гісторыі. Менавіта ў той час утварылася яго навуковая школа вучоных-гісторыкаў, у якую ўвайшлі В. Базілевіч, А. Аглоблін, А. Гневушаў, Ф. Кліменка, В. Раманоўскі, П. Смірноў, М. Яніцкі, Я. Сташэўскі, Н. Палонская-Васіленка.

У 1906 годзе Мітрафан Віктаравіч заснаваў у Кіеве Вышэйшыя камерцыйныя курсы, якія вельмі хутка былі пераўтвораны ў Камерцыйны інстытут (пасля 1917 года – Інстытут народнай гаспадаркі). У 1912 годзе гэтай ВНУ быў нададзены статус дзяржаўнай. У маі 1917 года Доўнар-Запольскі падаў у адстаўку з пасады дырэктара інстытута.

Пасля кароткага знаходжання ў Новачаркаску, дзе навуковец жыў у сваёй сястры, у пачатку 1918 года ён перабраўся ў Кіеў і ўключыўся ў работу Беларускага вайсковага камітэта (БВК) на тэрыторыі Украіны.

Пасля таго, як М.В. Доўнар-Запольскі даведаўся аб абвяшчэнні 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), 6 красавіка 1918 года ў першым нумары газеты "Беларускае слова" (выдавалася ў Кіеве) быў надрукаваны яго артыкул "Жребий брошен" (праз некаторы час ён быў перадрукаваны на беларускай мове ў Мінску ў газеце "Вольная Беларусь", 1918, № 13). Звяртаючыся да беларусаў Украіны, Беларусі, Расіі і другіх краін, Мітрафан Віктаравіч заклікаў іх: «И мы

все, Белорусы, должны помнить, что теперь положение нашей Родины налагает на нас тяжёлую и ответственную обязанность. Мы должны все сплотиться, мы должны напрячь свои силы физические и культурные для того, чтобы оправдать наше право на самостоятельное существование и отстоять независимость нашей Родины. К дружной работе, браты!»

У красавіку 1918 года Доўнар-Запольскі ўвайшоў у склад створанай БНР камісіі, якой было даручана падрыхтоўчая праца па адкрыццю ўніверсітэта на Беларусі. У склад камісіі таксама ўваходзілі народны камісар асветы ва ўрадзе БНР А. Смоліч, прафесар Я. Карскі, прафесар М. Масуоніс і іншыя. 8 чэрвеня 1918 года быў абраны прэзідыум гэтай камісіі. Старшынёй прэзідыума стаў Мітрафан Віктаравіч. Свае погляды па гэтым пытанні ён выказаў у артыкуле «Да паноў Рады Беларускае Рэчы Паспалітай. У справе адчынення універсітэтаў» (“Вольная Беларусь”, 1918, № 29).

Аўтарытэт вядомага прафесара і яго арганізацыйныя здольнасці садзейнічалі таму, што ўжо ў канцы ліпеня 1918 года 36 прафесараў – выкладчыкаў Варшаўскага, Дзерпцкага, Кіеўскага, Маскоўскага і Петраградскага ўніверсітэтаў далі згоду працаваць у Беларускім універсітэце. Ураду БНР удалося атрымаць дазвол ад германскіх акупацыйных улад на іх пераезд у Мінск. Пачаліся пошукі памяшканняў для будучай вышэйшай навучальнай установы.

У красавіку 1918 года Мітрафану Віктаравічу было прапанавана ўзначаліць беларускую Гандлёвую палату на Украіне, галоўнай задачай якой была арганізацыя закупак збожжа і іншых харчовых прадуктаў для Беларусі. На яе ўскладаліся і функцыі дыпламатычнага прадстаўніцтва БНР. Хутка было заключана некалькі пагадненняў з міністэрствам гандлю і прамысловасці Украіны аб пастаўцы на Беларусь цукру і збожжа ў абмен на тавары лясной прамысловасці. Частку тавараў Гандлёвая палата паставіла і неафіцыйна, пры дапамозе падпольных бальшавіцкіх арганізацый, якія знаходзіліся ў Кіеве. Дзейнасць М.В. Доўнар-Запольскага на гэтай пасадзе знайшла адлюстраванне ў артыкуле «Гандлёвы абмен з Украінай» (“Вольная Беларусь”, 1918. № 24).

Так здарылася, што Мітрафан Віктаравіч неўзабаве апынуўся ў самай гушчы палітычнай барацьбы за міжнароднае прызнанне БНР, асабліва з боку суседніх дзяржаў. Пасля няўдачных перамоў з урадамі Савецкай Расіі і кайзераўскай Германіі погляды шэрагу дзеячоў з кіраўніцтва БНР скіраваліся да дзяржаў Антанты. У пачатку 1919 года ў Парыжы адкрылася мірная канферэнцыя, якая павінна была вырашыць пытанні аб пасляваенным дзяржаўным будаўніцтве ў Еўропе. Спецыяльна для гэтай канферэнцыі М. Доўнар-Запольскі напісаў у канцы 1918 года брашуру «Асновы дзяржаўнасці Беларусі». У 1919 годзе яна была выдадзена на беларускай, англійскай, французскай, нямецкай, рускай і польскай мовах. Міністэрства замежных спраў БНР разаслала яе ўрадам еўрапейскіх краін з галоўнай мэтай – звярнуць увагу сусветнага супольніцтва на беларускае пытанне і паказаць гістарычныя карані дзяржаўнай самастойнасці Беларусі, спадзеючыся, што яны прызнаюць незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Мала каму вядома, што дадзеная брашура Мітрафана Віктаравіча на доўгія гады была забаронена ў БССР і Савецкім Саюзе і зноў убачыла свет на Беларусі толькі ў 1990-м годзе.

Што датычыцца стварэння БДУ, то ён быў адкрыты толькі 30 кастрычніка 1921 года ўжо без удзелу М.В. Доўнар-Запольскага.

У 1920-1922 гадах Доўнар-Запольскі жыў у Харкаве, дзе выкладаў у Інстытуце народнай гаспадаркі і ўніверсітэце. Адначасова ён быў кансультантам Наркамата знешняга гандлю Украінскай ССР.

З лютага 1922 года Мітрафан Віктаравіч працаваў прафесарам кафедры Гісторыі гаспадаркі Азербайджанскага ўніверсітэта, а потым першым прарэктарам гэтай ВНУ. Акрамя гэтага, ён з’яўляўся прафесарам Бакінскага політэхнічнага інстытута,

начальнікам Упраўлення і прамысловасці і гандлю Наркамата прамысловасці і гандлю АзССР, быў арганізатарам і дырэктарам сельскагаспадарчага і гандлёва-прамысловага музеяў.

З жніўня 1925 года да 1 верасня 1926 года М. Доўнар-Запольскі быў прафесарам кафедры Гісторыі Беларусі педагагічнага факультэта і прафесарам кафедры Народнай гаспадаркі Расіі факультэта права і гаспадаркі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, правадзейным членам Інстытута беларускай культуры, старшынёй яго Гісторыка-археалагічнай і Археаграфічнай камісій, чальцом Эканамічнай секцыі Дзяржплана БССР.

Большасць даследчыкаў сцвярджае, што Мітрафана Віктаравіча на працу прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта запрасіў яго вучань – рэктар БДУ У.І. Пічэта. Кіраўнік таварыства гісторыкаў-марксістаў БССР В.А. Сярбента ў прамове на красавіцкім пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б (1931 г.) адзначаў, што запрашэнне на працу ў Беларусь Доўнар-Запольскаму паслаў тагачасны наркам асветы БССР А.В. Баліцкі, і менавіта наркам абяцаў вучонаму хутка выдаць яго працу “Гісторыя Беларусі” у Белдзяржвыдавецтве, падначаленым наркамату асветы. Той жа Сярбента ў рэцэнзіі, напісанай на гэтую кнігу ў канцы студзеня – пачатку лютага 1926 года, сцвярджае, што абяцанне выдаць “Гісторыю Беларусі” было галоўнай прычынай перезду М.В. Доўнар-Запольскага з Баку ў Мінск. Сродкі на пераезд і перавоз яго бібліятэкі вылучыў па распараджэнні СНК БССР ад 25 ліпеня 1925 года Дзяржплан рэспублікі (прапанову ўнёс старшыня Дзяржплана БССР С.Б. Карп), а тэлеграму аб выездзе ў Мінск Доўнар-Запольскі паслаў у наркамасветы на імя С.М. Некрашэвіча.

Праца М.В. Доўнар-Запольскага “Гісторыя Беларусі” была перададзена на заключэнне палітычнаму рэдактару выдавецтва В.А. Сярбенту. У сувязі з гэтым беларускі гісторык Р. Платонаў адзначае: «В.А. Сярбента, як ніхто іншы, падыходзіў для выканання функцый палітычнага рэдагавання і кантролю, бо адначасова працаваў наместнікам загадчыка аддзела друку ЦК Кампартыі Беларусі, дзе курыраваў выдавецкія справы. Акрамя таго, ён быў найбольш актыўны ў падрыхтоўцы як рэцэнзій, так і ў напісанні заключэнняў, у фармуляванні завостраных класава-палітычных ацэнак. Сумяшчэнне В.А. Сярбентам высокай афіцыйнай пасады з абавязкамі палітычнага рэдактара Белдзяржвыдавецтва адыгрывала вялікія магчымасці для праяўлення сябе як найбольш прынцыповага і вытрыманага партыйца. Таму яго заключэнне на “Гісторыю Беларусі” М.В. Доўнар-Запольскага набывала асаблівую вагу і непазбежна стала прадметам абмеркавання на самым высокім партыйным узроўні».

Абмеркаванне на закрытым пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б адбылося 28 студзеня 1926 года. Дакладваў В.А. Сярбента. Галоўным у дакладзе была выснова, якая затым атрымала разгорнутае абгрунтаванне ў рэцэнзіі, напісанай ім 6 лютага 1926 года: «Прадстаўленая да друку праца праф. Доўнар-Запольскага з’яўляецца больш ці менш паслядоўна аформленым і абгрунтаваным эканамічным фактарам пункта гледжання нацыянал-дэмакратызму, памылковым асвятленнем гістарычных фактаў і свайго роду здзекам над практычным правядзеннем дыктатуры пралетарыяту і савецкай уладай».

Таму, паводле заключэння дакладчыка і рэцэнзента, «нельга даць магчымасць беларускаму нацыянал-дэмакратызму атрымаць ідэалагічнае афармленне. Кнігу нельга дазволіць да друку» (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НА РБ) Ф.60. Воп.3.Спр.126.Л.586,596).

Бюро ЦК Кампартыі Беларусі прыняло па кнізе Доўнар-Запольскага “Гісторыя Беларусі” наступную пастанову: «Признать, что книгу Довнор-Запольского издавать нельзя, как выражающую позицию белорусского национального демократизма и в корне искажающую историю Белоруссии.

2. Рукопись взять в собственность Белгиза, юридически оформив, передать на хранение в бюро секретариата. Тов. Кавцевичу поручить принять у тов. Сярбента рукопись для использования в порядке секретного материала в установленном порядке; размножив, разослать членам и кандидатам бюро, председателю ЦКК.

3. Считать необходимым подвергнуть широкой критике книгу Довнор-Запольского в целях развёртывания идеологической борьбы против национального демократизма.

Поручить тов. Сярбента внести предложения по этому вопросу на следующее заседание бюро 4 февраля (НА РБ. Ф.4. Воп.3. спр.10. Л.46)».

Менавіта з 4 лютага да 1 ліпеня 1926 года пытанне аб рукапісе кнігі Доўнар-Запольскага стала прадметам штомесячных абмеркаванняў. Акрамя гэтага, 4 лютага ў выкананне даручэння, дадзенага Сярбенту, прымаецца другое рашэнне:

«Слушали: о комиссии вокруг “теории” Довнор-Запольского.

Постановили: 1. Поручить т. Сербента написать в газеты серии статей в течение двух месяцев для систематического опровержения белорусского национал-демократизма по книге Довнор-Запольского.

2. В течение ближайших 2-х месяцев обязать тт. Червякова (старшыню ЦВК БССР), Адамовича (загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б А.Ф. Адамовіча), Чарота (рэдактара газеты “Савецкая Беларусь”), Гессена (загадчыка АПА ЦК КП(б)Б) и Оршанского (рэдактара яўрэйскай газеты “Кастрычнік”) поместить в газеты статьи на тему по личному выбору из книги Довнор-Запольского, согласовав с тов. Сярбента, для опровержения» (НА РБ. Ф.4.Воп.3. Спр.10.Л.60).

Асобным пунктам у дакладзе камісіі ЦК Кампартыі Беларусі па інтэлігенцыі 4 лютага 1926 года камуністычнай фракцыі Наркамасветы даручалася “зняць Доўнар-Запольскага з працы ў БДУ, узгадніўшы парадак правядзення звальнення з агітацыйна-прапагандысцкім аддзелам ЦК”. Пастанова была паслана ва ўсе акружкомы КП(б)Б.

У пачатку сакавіка 1926 года на пасяджэнні сакратарыята ЦК КП(б)Б загадчык АПА і член бюро ЦК С.М. Гесен зрабіў паведамленне аб Доўнар-Запольскім У ім адзначалася:

«1. Признать диспут по книге Довнор-Запольского нецелесообразным.

2. Организовать в ближайшее время отъезд Довнор-Запольского из пределов БССР, не прибегая к административным мерам.

3. Поручить тов.Карпу (старшыні Дзяржплана БССР) провести соответствующий разговор с Довнор-Запольским.

4. В дополнение к прежним решениям бюро ЦК обязать тов. Сярбента организовать издание статей в печати по книге Довнор-Запольского”(НА РБ. Ф.4. Воп.3. Спр.10.Л.120)

У сувязі з адмовай намесніка старшыні СНК БССР і старшыні Дзяржплана БССР С.Б. Карпа паведаміць Доўнар-Запольскаму аб яго ад’ездзе з БССР, 11 сакавіка 1926 года бюро ЦК КП(б)Б вымушана было адмяніць прынятае раней рашэнне і “перакласці” правядзенне размовы з Доўнар-Запольскім на наркама асветы БССР А.В. Баліцкага.

2 красавіка 1926 года на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б паведамленні “Аб прафесары Доўнар-Запольскім” зрабіў наркам асветы БССР А.В. Баліцкі. Пасля гэтага было прынята наступнае рашэнне:

«1. Признать, что профессор Довнор-Запольский должен выехать за пределы БССР не позже 1-го июня 1926 г.

2. Библиотеку Довнор-Запольского поручить тов. Балицкому закупить в советском порядке» (НА РБ.Ф.4. Воп.3. Спр.17.Л.2.)

На працягу мая 1926 года старшыня Дзяржплана БССР С.Б.Карп і, магчыма,

кіраўніцтва БДУ і Інбелкульта зрабілі новую спробу перагледзець рашэнні бюро ЦК КП(б)б. Больш настойлівы быў С.Б. Карп, які 9 чэрвеня 1926 года накіраваў на імя другога сакратара ЦК Кампартыі Беларусі М.М. Галадзеда наступную запіску: «Прошу вторично обсудить вопрос об использовании проф. Довнор-Запольского. Прошу пригласить меня на заседание бюро ЦК при обсуждении этого вопроса.

С ком. приветом Карп»

11 чэрвеня 1926 года гэтае пытанне было пастаўлена ў парадак дня закрытага пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б у фармулёўцы "Прапанова тав. Карпа аб пераглядзе рашэнняў бюро ЦК аб Доўнар-Запольскім". Прапанова С.Б. Карпа была адхілена.

Абставіны для М.В. Доўнар-Запольскага склаліся так, што ў верасні 1926 года ён вымушаны быў падаць заяву аб звальненні з БДУ, прапрацаваўшы ў ім няпоўны навучальны год. У пачатку верасня 1926 года Мітрафан Віктаравіч ад'ехаў у Маскву, пакінуўшы ў дар Інбелкульту большую частку сваёй вялікай бібліятэкі, якую збіраў усё жыццё, – 11 тысяч тамоў.

Хоць шэраг даследчыкаў пры аналізе яго навуковай спадчыны акцэнтуюць увагу на Доўнар-Запольскім як на беларускім навукоўцы-этнографе, неабходна падкрэсліць, што ў першую чаргу ён быў гісторыкам.

Асноўнымі крыніцамі для Доўнар-Запольскага пры даследаванні сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі былі "Літоўская Метрыка", "Кніга данін Вялікага князя Казіміра", "Пісцовая кніга Пінскага староства". "Акты Літоўска-Рускай дзяржавы", "Акты Віленскай-Архіўнай Камісіі", "Археаграфічны зборнік дакументаў", "Беларускі архіў старажытных грамат", "Дакументы Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі" і іншыя.

Акрамя масавых крыніц, якія выкарыстоўвалі яго папярэднікі і сучаснікі Ф. Леантовіч, М. Уладзімірскі-Буданаў, У. Антановіч, М. Любаўскі, Мітрафан Віктаравіч імкнуўся знаходзіць гістарычныя крыніцы, невядомыя іншым, – хоць і невялікія, але, як кажуць, "індывідуальныя", напрыклад, "Рэвізію пушч і пераходаў звярыных".

У даследаванні "Белорусское прошлое"(1888) 21-гадовы М.В. Доўнар-Запольскі ўпершыню стварыў асноўнае ядро канцэпцыі гістарычнага развіцця беларускага народа, паставіў праблему неабходнасці нацыянальнага адраджэння Беларусі. У кароткім гісторыка-этнаграфічным нарысе "Древняя Белоруссия" (IX-XII стст.) і некалькіх артыкулах пад агульнай назвай "Белорусское прошлое" ён даказваў, што беларусы маюць уласную багатую гісторыю і культуру, а таксама адрозніваюцца ад суседніх народаў спецыфічнымі этнічнымі асаблівасцямі.

Беларускі гісторык А. Смалянчук адзначае: «Увагу даследчыкаў прыцягнуў "Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до начала XII столетия", які ў 1891 г. выйшаў асобным выданнем. (За гэтую працу малады гісторык атрымаў залаты медаль. – *Э.І.*). Аляксандр Ельскі змясціў у польскай газеце "Край" вельмі станоўчы водгук. Ён падкрэсліў грунтоўнасць працы, заснаванай на крыніцах, і характэрную для маладога даследчыка "аб'ектыўнасць". Рэцэнзент, у прыватнасці, звярнуў увагу на станоўчую ацэнку сувязяў Тураўскай зямлі з Польшчай у XI ст. і аўтарскую характарыстыку ролі Літвы як фактара, які аб'яднаў крывіцка-дрыгавіцкую славяншчыну і ўзамен за атрыманую ад яе культуру даў "жыццяздольнасць маладога духу". Сярод недакладнасцей А. Ельскі адзначыў занадта вольнае абыходжанне аўтара з тэрмінам "Русь". Рэцэнзент заўважыў, што гэты тэрмін нельга ўжываць датычна славянаў, і падкрэсліў не этнічны, а "дзяржаўна-палітычны" сэнс тэрміну. Тым не менш А. Ельскі вітаў працу і выказваў спадзяванне, што малады гісторык зойме прыкметнае месца ў гістарычнай навуцы, тым больш, што пачатак ягонай кар'еры выглядае вельмі сур'ёзна».

З другой паловы 1890-х гадоў у навуковай спадчыне Доўнар-Запольскага

пераважае гістарычная тэматыка (“Звесткі пра полаўцаў”, “Да гісторыі Люблінскай уніі”, “Берасцейскае староства” і інш.). У гэты час канчаткова вызначаецца галоўны напрамак навуковых даследаванняў вучонага – сацыяльна-эканамічная гісторыя.

Пераважная большасць навуковых прац М.В. Доўнар-Запольскага прысвечана сацыяльна-эканамічнаму развіццю Вялікага Княства Літоўскага ў XV-XVIII стагоддзях, а таксама сацыяльна-эканамічнаму развіццю беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі ў канцы XVIII – першай палове XIX стагоддзя. Прадметам разгляду ў яго навуковай спадчыне сталі сялянская грамада, характарыстыка феадалаў і феадальнай гаспадаркі, катэгорыі і становішча сялянства, сацыяльна-эканамічная структура Вялікага Княства Літоўскага, стан рамяства і гандлю ў гарадах Беларусі, аграрная рэформа 1557 года.

У адрозненне ад Ф. Леантовіча, У. Антановіча, М. Уладзімірскага-Буданава і іншых гісторыкаў – сваіх папярэднікаў, М. Доўнар-Запольскі першым паставіў у цэнтр вывучэння гісторыі Вялікага Княства Літоўскага даследаванне сацыяльна-эканамічнай гісторыі дзяржавы.

М.В. Доўнар-Запольскага можна назваць гісторыкам нацыянальных меншасцей, якія насялялі Беларусь. У прыватнасці, у яго працах з рознай ступенню паўнаты знайшлі адлюстраванне многія пытанні гісторыі беларускіх яўрэяў. У такіх даследаваннях як «Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах», «Статистическик очерки Северо-Западного края», «История Белоруссии», «Народное хозяйство Белоруссии. 1861-1914 гг.», «СССР по районам. Западный район» і іншых закрануты пытанні з’яўлення яўрэяў на беларускай зямлі, іх прававога і сацыяльна-эканамічнага становішча, аналізуюцца асноўныя заняткі, яўрэйскае самакіраванне, дадзена статыстыка яўрэйскага насельніцтва ў Беларусі другой паловы XIX – першай чвэрці XX стагоддзя, паказаны ўдзел яўрэяў у рэвалюцыйным і рабочым руху Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX стагоддзяў.

У адрозненне ад многіх расійскіх і савецкіх гісторыкаў, М.В. Доўнар-Запольскі спрабаваў даць аб’ектыўную ацэнку дзейнасці Бунда, у тым ліку ў супастаўленні яго з беларускім нацыянальным рухам.

Нягледзячы на тое, што з дня смерці вучонага прайшло 83 гады, а пасля яго першага спецыяльнага даследавання аб беларускіх яўрэях мінула ўжо больш за 110 год, але і сёння большасць прац Мітрафана Віктаравіча па гісторыі беларускіх яўрэяў не страцілі сваёй актуальнасці і навуковай каштоўнасці. Яго ацэнкі ў цэлым застаюцца слушнымі. Такім чынам, працы М.В. Доўнар-Запольскага ўносяць істотны ўклад у вывучэнне гісторыі яўрэяў Беларусі XIV-XVI і XIX-XX стагоддзях.

У сваіх працах па этнаграфіі М. Доўнар-Запольскі апісвае сямейны побыт, вясельныя звычаі і абрады беларусаў (“Беларускае вяселле і вясельныя песні” (1888), “Звычаёвае сямейнае права сялян Мінскай губерні (1897), “Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках”(1893), “Матывы вясельных песень пінчукоў” (1893), “Рытуальнае значэнне каравайнага абраду ў беларусаў” (1900) і інш.). Самыя важныя працы аб побыце і культуры Беларусі сабраны ў зборніку “Исследования и статьи” (т. 1, Киев, 1909). Мітрафан Віктаравіч высока цаніў творчасць Я. Купалы, В. Дуніна-Марцінкевіча, І. Неслухоўскага, навуковую дзейнасць А. Пыпіна, Я. Карскага і іншых дзеячаў беларускай культуры.

Вельмі шкада, што значная частка сабраных вучоным фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў да сённяшняга дня не апублікавана.

У архіве Геаграфічнага таварыства Расійскай Федэрацыі (г. Санкт-Пецярбург) зберагаюцца зборнік беларускіх казак (82), запісаных М.В. Доўнар-Запольскім і яго карэспандэнтам П.П. Дземідовічам, матэрыялы пра вераванні беларусаў з уступным артыкулам “Нататкі па беларускай этнаграфіі”.

На думку А. Ліса, вывучэнне М.В. Доўнар-Запольскім традыцыйнай духоўнай

культуры беларусаў, якое храналагіна папярэднічала станаўленню яго як гісторыка, дало вучонаму магчымасць рэальна пазнаць свой народ, яго духоўнае аблічча. У цэлым жа ўласныя этналагічныя штудыі адвяргалі значную ролю ў станаўленні Доўнар-Запольскага як менавіта беларускага вучонага, паспрыялі развіццю ў ім унутранай патрэбы заступіцца за свой этнас, дзейсна памагаючы яму ўстаць да годнага нацыянальнага жыцця, якое можа забяспечыць суверэнітэт і дэмакратычны лад.

У даследаваннях вучонага можна знайсці цікавыя думкі аб эканамічных праблемах на беларускіх землях, аб эканамічным развіцці Беларусі са старажытнасці па першую трэць XX стагоддзя. Сярод іх сацыяльна-эканамічная структура Вялікага Княства Літоўскага, стан рамяства і гандлю ў гарадах Беларусі, праблема развіцця рынкавых адносін, гэтак званага эканамічнага заняпаду беларускіх гарадоў.

Нельга не згадзіцца з думкай беларускіх даследчыкаў А. Ануша і П. Кручка, што важнымі напрамкамі навуковай дзейнасці М.В. Доўнар-Запольскага былі археаграфія і крыніцазнаўства. Яны лічаць, што пачатак гэтай працы прыпадае на 1896-ты год, калі яго камандзіравалі ў Маскоўскі архіў Міністэрства юстыцыі для напісання магістэрскай дысертацыі. Працуючы ў архіве, будучы вучоны падрыхтаваў да публікацыі шэраг дакументаў са збору Літоўскай Метрыкі, якія ўвайшлі ў склад апублікаваных ім зборнікаў.

На пачатку XX стагоддзя ў сваіх буйных працах “Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах”(1901) і “Очерки по организации западнорусского крестьянства”(1905) вучоны на велізарным архіўным матэрыяле разглядаў праблемы фарміравання беларуска-літоўскай дзяржаўнасці. Доўнар-Запольскі лічыў, што ў палітычных адносінах старажытнабеларускія княствы не выпрацавалі аднолькавых дзяржаўных форм. Ён адзначаў: “Найбольш слабым палітычным развіццём вызначаецца Турава-Пінскае княства... Найбольшае развіццё атрымала полацкая зямля, дзяржаўны лад якой з’яўляецца таксама развітым, як і дзяржаўны лад вялікага Ноўгарада”. Вучоны прыходзіць да высновы, што наогул Полацк дасягнуў высокай ступені народакіравання і дэмакратычнага ўладкавання. Улада князя, адзначаў ён, мела невялікае значэнне. Ён быў галоўным ваеначальнікам і суддзёй.

У той жа час Мітрафан Віктаравіч не пазбегнуў пэўнай ідэалізацыі палітычнага развіцця беларускіх зямель у X-XIII стагоддзях. Ён пісаў: “У адносінах класавых падзелаў старажытны перыяд Беларусі ўяўляе сабой простую схему. Гэты перыяд не выпрацаваў саслоўнага падзелу. Таму пануе ідэя роўнасці ўсіх грамадзян. Але гэтая роўнасць мела толькі палітычнае значэнне. Баяры і дружыннікі не карысталіся якімі-небудзь прывілеямі...”

Значнае месца ў даследаваннях Доўнар-Запольскага займае характарыстыка палітычнай сістэмы Вялікага Княства Літоўскага. Прычым ён акцэнтаваў увагу на незалежнасць і суверэнітэт беларускіх зямель. Вучоны надаваў вялікае значэнне параўнанню палітычных сістэм Літоўска-Рускай дзяржавы (так у сваіх першых работах ён называў Вялікае Княства Літоўскае. – *Э.І.*) Ён адзначаў, што менавіта ўстаўныя граматы замацоўвалі палітычны, сацыяльны і прававы парадак, выпрацаваны ў гэтых землях на працягу папярэдніх стагоддзяў.

На думку Доўнар-Запольскага, змест акту аб польска-літоўскай уніі 1569 года быў у тым, што абедзве дзяржавы злучаліся на вечныя часы ў такім значэнні, каб мець супольны парламент (сейм), якому належыць права выдаваць законы і выбіраць супольнага гаспадара – караля і вялікага князя. Вучоны робіць заключэнне, што пастановы ўстаўных грамат сведчаць аб высокім развіцці старажытнарускага земства.

Доўнар-Запольскі лічыў, што фарміраванне федэратыўнага ладу Вялікага Княства Літоўскага абумоўлена вялікім значэннем у яго жыцці “прынцыпу даўніны, захавання традыцый дзяржаўнага жыцця старажытнай Русі”. Гэта ўплывала на

ўсе адносіны і эканамічную палітыку дзяржавы. Мітрафан Віктаравіч вылучае чатыры фактары, якія садзейнічалі зменам у дзяржаўным ладзе Вялікага Княства Літоўскага: па-першае, заўсёдная небяспека і неабходнасць абароны дзяржавы; па-другое, федэратыўны характар ВКЛ; па-трэцяе, развіццё вышэйшага саслоўя ў Вялікім княстве Літоўскім; па-чацвёртае, абмежаванне вярхоўнай улады ў ВКЛ.

На думку вучонага, канстытуцыя 1492 года з'яўляецца першай агульнадзяржаўнай хартыяй вольнасцей. Шляхецкаму класу ўсёй дзяржавы яна давала такія правы і прывілеі, якія рабілі для яго непатрэбнымі мясцовыя канстытуцыйныя акты.

Мітрафан Віктаравіч прыйшоў да высновы, што "панаваўшы ў Літоўска-Беларускім гаспадарстве дзяржаўны лад – гэта лад рэспубліканскі з выбарным дажывотна прэзідэнтам. Каторы называўся вялікім князем".

Ён падкрэсліваў, што ў канцы XVIII стагоддзя Беларусь аказалася далучанай да Расійскай імперыі, страціўшы свае суверэнныя правы – правы незалежнай дзяржавы.

Свае адносіны да абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі вучоны выказаў у публікацыі "Жребий брошен!" (надрукаванай у працы А. Цвікевіча "Кароткі нарыс пра ўзнікненне Беларускай Народнай Рэспублікі, 1918) і навукова-публіцыстычным нарысе "Асновы дзяржаўнасці Беларусі" (Гродна, 1919). На падставе аналізу гістарычных, эканамічных і этнаграфічных фактараў Доўнар-Запольскі абгрунтаваў права беларускага народа на суверэннасць, на неабходнасць стварэння сваёй асобнай, самастойнай і незалежнай дзяржавы. Гэтая праца – першая спроба навуковага абгрунтавання гістарычнай заканамернасці дзяржаўнага самавызначэння беларускага народа.

У нарысе "Асновы дзяржаўнасці Беларусі" ёсць такія радкі: «Беларуская нацыя апіраецца на крэпкіх фундаментах дзяржаўнасьці, на шырокіх дэмакратычны асновах і мае трывалыя асобеннасьці адметнай гістарычнай культуры. Гэтыя асобеннасьці чырвонай ніткай праходзяць цераз усю мінуўшчыну беларусаў і цераз іх сучасны быт...»

Ён лічыў, што фактычна з 18 па 25 лютага 1918 года Сакратарыят БНР быў адзінай уладай на Беларусі.

Апошні перыяд свайго жыцця (1926-1934) Мітрафан Віктаравіч жыў у Маскве, дзе выкладаў курс гісторыі гандлю ў Інстытуце народнай гаспадаркі імя Г.В. Пляханава, курс эканамічнай геаграфіі ў Сельскагаспадарчай акадэміі імя К.А. Ціміразева, з'яўляўся навуковым супрацоўнікам Расійскай акадэміі грамадскіх навук, працаваў у Маскоўскім губплане, навукова-даследчым інстытуце пушніна-футравай гаспадаркі Народнага камісарыята знешняга гандлю.

Вясной 1929 года, калі адзначалася 45-годдзе навуковай дзейнасці М.В. Доўнар-Запольскага, група вядомых маскоўскіх вучоных паставіла перад прэзідыумам АН СССР пытанне аб уключэнні яго, "імя якога як гісторыка гаспадаркі добра вядома ў СССР, і за мяжой", у склад Акадэміі навук СССР. Іх падтрымала група гісторыкаў Ленінграда.

У матэрыялах аб Мітрафане Віктаравічы, дасланых у Беларускую Акадэмію навук у сувязі з вылучэннем яго ў склад саюзнай Акадэміі, была дадзена высокая ацэнка яго навуковай дзейнасці. Аднак ні гэтыя матэрыялы, ні пералічэнне навуковых заслуг вучонага, у тым ліку і ў даследаванні гісторыі Беларусі і яе народнай гаспадаркі, ні спасылкі на яго талент як арганізатара навукі, ні згадка пра загінулых у барацьбе за Савецкую ўладу сыноў якога-небудзь уздзеяння на кіраўнікоў БССР не аказалі. 14 чэрвеня 1929 года на пасяджэнні бюро ЦК Кампартыі Беларусі па інфармацыі У.М. Ігнатоўскага аб вылучэнні М.В. Доўнар-Запольскага была прынята адназначная пастанова: «Паведаміць ЦК УсеКП(б) аб тым, што ЦК КП(б)Б катэгарычна супраць кандыдатуры Доўнар-Запольскага акадэмікам у Акадэмію навук СССР».

Апафеозам жа разгрому творчасці вучонага стаў 1934 год, калі палітычныя абвінавачванні былі перакладзены на ўсю навуковую школу М.В. Доўнар-Запольскага.

Ёй былі прыпісаны адначасова ўкраінска-беларускі нацыяналізм і “расійскае вялікадзяржаўніцтва” і нацыянал-фашызм. У разгар новай кампаніі крытыкі 30 верасня 1934 года Мітрафан Доўнар-Запольскі памёр ад сардэчнага прыступу. Цела яго крэміравана. Прах захаваны ў калумбарыі Данскіх могілак у Маскве.

Беларусы захоўваюць удзячную памяць пра М.В. Доўнар-Запольскага. Важнай падзеяй у культурным і грамадскім жыцці горада Рэчыцы і ўсёй рэспублікі стала адкрыццё 2 ліпеня 1997 года помніка знакамітаму рэчычаніну (аўтары – заслужаны дзеяч культуры Беларусі Э. Агуновіч і скульптар В. Янушкевіч). З 1997 года ў Рэчыцы раз на два гады ладзяцца Доўнараўскія чытанні.

Да сённяшняга часу не страціла сваёй каштоўнасці шматпакутная праца М.В. Доўнара-Запольскага “Гісторыя Беларусі”, якая была напісана ў пачатку 1920-х гадоў, але пабачыла свет толькі ў 1994 годзе на беларускай мове і ў 2003 годзе на рускай. На жаль, пры жыцці аўтара кніга не была надрукаваная.

Нягледзячы на тое, што навуковая спадчына М.В. Доўнар-Запольскага, якая налічвае больш за 200 навуковых прац па сацыяльна-эканамічнай і палітычнай гісторыі (паліталогіі), этнаграфіі, фалькларыстыцы, эканоміцы, археаграфіі, гістарыяграфіі, крыніцазнаўстве, адукацыі, археаграфіі, архіўнай справе, літаратуразнаўстве, краязнаўстве, этналінгвістыцы Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы і Літвы, праблемах беларускай дзяржаўнасці, міжканфесійных адносінах недаацэньвалася і доўгі час напалову замоўчвалася, а яе высновы і палажэнні скажаліся, гэтыя працы зрабілі значны ўплыў на развіццё навукова-даследчай дзейнасці ў гэтых накірунках. Яны будзілі і будзяць думку, садзейнічалі і садзейнічаюць стварэнню вялікай манаграфічнай літаратуры. Многія з пытанняў, пастаўленых у працах Мітрафана Віктаравіча і не вырашаных ім, паспяхова вырашаюцца сучаснымі беларускімі навукоўцамі.

Вадзім Корань



...О, я многа
хацеў вам сказаць...

# Паэзія жыцця і проза смерці

***Да 80-годдзя з дня нараджэння Міколы Купрэева***

*Купрэеў даслаў у канверце разам з лістом тры восеньскія лісточкі з Белавежскае пушчы для дачкі... На такое здольны, бадай, яшчэ Толя Сыс. Хоць, па першым уражанні, якраз ад іх такога і прадбачыць немагчыма.*

Леанід Галубовіч (*"Зацемкі з левай кішэні"*)

Гісторыя літаратуры складаецца не толькі з твораў, паэтычных, празаічных, драматургічных, але і з асабістых лёсаў паэтаў, празаікаў, драматургаў. І кожны з іх мае свой шлях, у кожнага свае радасці і пакуты, свае ўзлёты і падзенні, свае анёлы і дэманы. Яны пішуць як Бог на душу пакладзе. Бывае, слязьмі, бывае, крывёю... Пазней гэтыя творы становяцца хрэстаматыйнымі, узорнымі і надзвычай прыцягальнымі.

Мікола Купрэеў – адна з самых загадкавых і незвычайных постацяў у беларускай літаратуры. Яго жыццё стала міфам, а творчасць складана акрэсліць пэўнымі межамі. Адзін з вузкага шэрага "выклятых" паэтаў свету, ён быў з тых творцаў, якія не


*Мікола КУПРЭЕЎ. Канец 1990-х*

мелі патрэбы ў прызнанні, вялікіх грашах і кулуарных знаёмствах. Ён быў сам па сабе, дакладней, сам-насам з сабою. У свой час Кузьма Чорны напісаў: "Чалавек – гэта цэлы свет". М. Купрэеў быў (і ёсць у сваёй творчасці) цэлым самадастатковым светам, у якім адначасова суіснавалі, не замінаючы адно аднаму, і паэзія з прозаю, і туга з радасцю. Верагодна, не надта таго жадаючы, ён уплываў на іншых людзей, пакідаючы ў іх душах заўважны след. Бо чым яшчэ можна патлумачыць колькасць прыязных успамінаў, артыкулаў, прысвечаных яго творчасці, а таксама ахвяраваных яму вершаў?

Пісаць пра творчасць М. Купрэева складана, магчыма, праз яе шчырасць і спавядальнасць. Каб па-сапраўднаму адчуць пісьменніка, зразумець яго, трэба заглыбіцца не толькі ў яго творы, але і ў жыццё, якое ў М. Купрэева было надзвычай цяжкім і пакутным. А гэта не кожнаму пад сілу, бо даводзіцца суперажываць аўтару, разам з ім праходзіць праз духоўныя пакуты і пошукі, несправядлівасць і крывадушнасць, нават судзіць яго, каб знайсці адказы на пастаўленыя пытанні. Таму фраза І. Запрудскага з яго глыбокага артыкула, прысвечанага прозе М. Купрэева: "Толькі здагадваюся, чаму мне так цяжка пішацца пра купрэеўскую прозу, як крыху раней надзвычай пакутліва і доўга нараджаўся артыкул пра паэзію Міхася Стральцова" [4, с. 64], падаецца справядлівай, бо і М. Купрэеў, і М. Стральцоў[1] – творцы неардынарныя, таленавітыя, шчырыя ў творчасці і ў жыцці і даволі складаныя для даследавання і аналізу.

Нарадзіўся Мікола Сымонавіч Купрэеў 25 мая 1937 года ў вёсцы Ямнае Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і настаўніка. Калі пачалася вайна, яму было ўсяго чатыры гады. У ваенны час маленькі Міколка перажыў трагедыю: на вачах хлопчыка забілі маму – самага дарагога чалавека. Гэтая рана засталася ў сэрцы паэта на ўсё жыццё. Не раз ён развярэджваў яе, вяртаўся да яе ў сваёй творчасці. Так, у аўтабіяграфічнай аповесці "Дзіцячыя гульні пасля вайны" ён мужна апісвае той боль падчас пахавання маці. "Пасля таго, як магілу маці пачалі засыпаць зямлёй, хлапчук, аглушаны нечаканым горам, бяжыць ад яе прэч. Урэшце ён, знясілены, апускаецца на зямлю. Аўтар выдатна перадае складаны душэўны стан, у якім знаходзіцца герой – неўразуменне, знясіленасць, паўзабыццё і разам з тым абвостранасць успрымання навакольнага свету, які прадстае ў сваёй адвечнай непарушнасці" [3, с. 101]. Нельга без слёз і шкадавання чытаць і радкі з

[1] М. Стральцоў высока цаніў талент М. Купрэева. Паводле ўспамінаў Л. Дранько-Майсюка: "У пэўным сэнсе постаць Купрэева міфічная. Ён ёсць і яго нібыта няма. Ён з ліку тых рэдкіх творцаў, якія прыходзяць да чытача спачатку напамінам пра сябе, а пасля ўжо сваёй творчасцю. Памятаю, аднойчы Міхась Стральцоў сказаў: "Цікава, а дзе цяпер Купрэеў?" "Хто гэта?" – спытаўся я і пачуў адказ: "Паэт..." (Дранько-Майсюк, Л. Вершаў дастаткова.../ Л. Дранько-Майсюк // Крыніца. – 1994. – №11. – С. 45.). І, нібыта ведаючы пра тую размову, М. Купрэеў у вершы, ахвяраваным якраз М. Стральцову, "адказваў":

...Босы бяжыць ён па водах вясновых,
па траве маладой – малады і новы.
Шукаюць яго ўжо, звіняць тэлефоны:
Знік такі-та з такой установы.
А ён сам з'явіўся, здаровы, вясёлы –
галава ў верасах, ногі ў зёлах... [10, с. 240].

сачынення галоўнага героя аповесці Толі Кухарава (Колі Купрэева?). Напісаныя простымі сказамі і, здаецца, скупа і безэмацыйна, яны паказваюць трагедыю не толькі аўтара, але і многіх іншых дзяцей вайны, якім давялося перажыць падобнае:

*"...тата быў партызанскім сувязным. Сказаў немцам пра гэта стараста. Стараста быў нашым суседам. Калі немцы сталі страляць па тату, мама пабегла за ім і крычала, звала тату. Фашысты выстралілі ў яе і паранілі ў нагу. Мама ўпала. Да яе падбеглі паліцэйскія, укінулі ў балотную яму і засыпалі зямлёй.*

*Фашысты дазволілі дзеду ноччу адкапаць маму. Яе прывезлі на калёсах на дзедаў двор, памылі і днём пахавалі на кладаўі..."* [8, с. 25].

Родныя спрабавалі не нагадваць малому пра тыя жахлівыя падзеі, стараліся, каб той забыўся на іх: *"Яшчэ да верасня дзед навучыў мяне па старым, даваенным беларускім буквары чытаць і пісаць. Я бачыў у буквары слова "мама", але дзед мне гэтага слова не паказваў і не вучыў мяне на ім"* [8, с. 41]. Але тыя жахлівыя ўспаміны назаўсёды засталіся з ім. Не толькі ў сваёй аўтабіяграфічнай прозе, але і ў вершах вяртаўся М. Купрэеў да той балючай страты, пражываў яе кожны раз па-новаму, але, відаць, так і не здолеў перажыць:

Прынёс рэдактару вершы.
Кажа:
– Не тое, брат, нешта не тое.
Надта многа тугі...
Ну, а што я зраблю,
калі назаўсёды страціў самае найсвятое,
паўсвета прайшоў,
а нідзе не пачуў:
– Сынок дарагі...
Што я зраблю,
калі ліст ад сястры б'е па сэрцу трывожна:
"Дзесяць гадоў, як дома не быў...
Прыедзь, Колечка... Так жа няможна...
Дзед перад смерцю ўсё Бога прасіў,
каб быў ты жывы й здаровы..."
А што я зраблю,
калі там будзе цяжка вельмі:
там маці калісьці ішла над Дняпром...
Дзе стаялі сляды яе – вырас ельнік...
Ходзіць мама ў зямлі сырой.
Ходзіць мама, шукае выйсця,
рукамі-ценямі дакранаецца столі зямной...
Што я зраблю,
калі там мне цяжка вельмі?
І ўсё-ткі паеду,
пайду,
паплыву туды,
адшукаю балюча-гаючы ельнік,
паблукаю там, дзе дагэтуль цвітуць
маіх родных сляды [6, 230–231].

Але час ішоў, раны загойваліся, наколькі гэта магчыма. Скончыўшы ў 1957 г. Івацэвіцкую сярэднюю школу, М. Купрэеў вучыўся на настаўніка беларускай і рускай мовы і літаратуры ў Брэсцкім педагагічным інстытуце, а пасля працаваў у школах на Ганцавіччыне, Івацэвіччыне, Ляхавіччыне. Пра той час паэт згадваў з гонарам: "У шасцідзясятыя гады я працаваў завучам Чудзінскай сярэдняй школы Ганцавіцкага раёна, на маляўнічым беразе былой ракі Лані. Я ўжо лічыўся маладым паэтам, друкаваўся ў "Маладосці" і мясцовых газетах. Мае вучні ведалі пра гэта. Адзін з іх – Алесь Каско – усур'ёз заняўся паэзіяй і з цягам часу стаў вядомым паэтам, выдаў некалькі зборнікаў..." [8, с. 7]. З такім жа гонарам і цеплынёй ён

згадвае пра Міколу Антаноўскага і Анатоля Шушко, якіх вучыў у вёсцы Сташаны Пінскага раёна. Сапраўды, ёсць чым ганарыцца, калі сваім прыкладам дапамог выхаванцам знайсці свой шлях у творчасці. Дарэчы, і самому Купрэеву пашчасціла з настаўнікам. Ён з цеплынёю згадваў свайго школьнага выкладчыка рускай літаратуры Якава Дзмітрыевіча Янчанку, які станоўча паўплываў на будучага паэта, ды, зрэшты, не толькі на яго, але і на многіх сваіх вучняў. Яшчэ ў школе М. Купрэеў пачаў пісаць вершы і прозу: вершы – па-беларуску, а прозу – па-расійску. Пазней ён казаў, што яму “сорамна перад самім сабой за сваю прозу не на роднай мове” [8, с. 9].

Першая кніга вершаў М. Купрэева, якая мела назву “Непазбежнасць” [7], пабачыла свет у 1967 годзе. Ц. Чарнякевіч, аналізуючы творчасць М. Купрэева-шасцідзясятніка, адзначаў: “Калі казаць пра паэтыку беларускіх шасцідзясятнікаў, то паняцце дысметрычнага вершу трэба згадваць абавязкова, бо менавіта яны зрабілі шмат для таго, каб гэты “памер” у нашым пісьменстве ўсталяваўся. Мікола Купрэеў, нягледзячы на сваю выключную маргінальнасць, быў адным з самых актыўных прапагандыстаў: яго зборнік “Непазбежнасць” (адрэдагаваны яшчэ адным “дысметрычнікам” Анатолем Вярцінскім) можа быць названы ўзорным у гэтым плане” [14, с. 4].

Многія даследчыкі заўважалі, што купрэеўская “Непазбежнасць” была наватарскай, а некаторыя, гледзячы ўжо праз дзесяцігоддзі, якія прайшлі з выхаду кнігі, – што ён “у пэўным сэнсе апярэдзіў свой час” (А. Сідарэвіч).

У 1995 годзе пабачыла свет другая кніга паэзіі М. Купрэева “Правінцыйныя фантазіі” [9]. Яна намінавалася на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі за 1996 г., але з розных абставінаў была ўганаравана толькі Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова. Л. Галубовіч адзначаў: “Добра ведаючы Міколу, памятаю, што ён абсалютна спакойна і нават іранічна ўспрыняў гэты чарговы ў ягоным жыцці і малазначны для яго паэтычнай біяграфіі “пралёт” [1, с. 228]. Але ёсць на гэты конт і іншыя меркаванні. Так, А. Каско ўспамінаў: “Часта зброя самааховы хібіла, калі крыўда апякала да самага дна і яе немагчыма было схаваць або парываць. “Шкада, што дзяржаўную прэмію амаль “выпісалі”, ды не далі, я хоць грабеньчык купіў бы”, – з натужнай усмешкай прамовіў [Мікола Купрэеў] і правёў далоняю па рэштках валасоў. Перажываў, гэта было відавочна” [5, с. 3]. Але ж як было на самай справе, наўрад ці хто дакладна ведае...

Такім чынам, паміж першай і другой кнігамі вершаў прайшло амаль тры дзесяцігоддзі. 28 гадоў маўчання! Праўда, варта адзначыць, што зрэдку ў перыядычных выданнях публікаваліся вершы паэта і, як адзначыў Л. Галубовіч, “вялікую частку свайго творчага плёну Мікола Сымонавіч расцерушыў па раённых газетах беларуска-ўкраінскага Палесся. Шмат гэтых тэкстаў у тым “балоце” і канулі, нават сам аўтар пры жыцці не парупіўся сабраць іх ці хоць бы пакінуць чарнавікі ды рукапісы тых “*чарнільных* вершаў”, што нярэдка пісаліся адразу ж у нумар, у адзін прысест, пад надзорам знаёмага галоўнага рэдактара, які тут жа выдаткоўваў авансам тры рублі ганарару з уласнай кішэні[1]” [1, с. 227]. Але гэта былі ўсё ж выпадкі нячастыя. Для “вялікай” літаратуры паэт змоўк на вельмі працяглы час... А. Сідарэвіч адной з прычын такога знікнення лічыць “аглабельную крытыку” яго першай кнігі.

Калі разумець не хочаце
свежасць, зялёную цішыню –

---

[1] У 2011–2012 гг. “Дзеяслоў” публікаваў “пазакніжныя” творы М. Купрэева. Для № 51 Ц. Чарнякевічам былі адшуканыя, сабраныя і падрыхтаваныя да друку вершы, якія ў розны час з’яўляліся на старонках перыядычных выданняў, а ў №58 апублікаванае апавяданне “Пахла ракою” – адзін з першых празаічных твораў М. Купрэева на беларускай мове.

не чапайце мой лес.
Калі разумець не хочаце,
як ранне сіняе б'е ў акно –
не чапайце мой бэз... [7, с. 21].

Сам М. Купрэеў у лісце да Л. Галубовіча тлумачыў сваё знікненне так: "З 1967-га па 1986-ты год (пасля зборніка "Непазбежнасць") знік – не з паэзіі, не са старонак газет і часопісаў – з самога сябе. Знік у нетрах Палесся... І толькі калі зразумеў, што знікаць ужо няма куды, што ўсеногі і даведкі пра сябе згублены і само Палессе згублена ўшчэнт, і калі пачуў, адчуў, што недзе там, наверсе, нешта цікавае і чалавечае вяртаецца на гэтую гаротную зямлю – і я стаў вяртацца. Але ўсюды і да ўсяго вярнуцца ўжо, на вялікі жаль, немагчыма..." [2, с. 49].

Для М. Купрэева творчасць была натуральным жыццём. Ён, відаць, таму і не рупіўся пра захаванне чарнавікоў для нашчадкаў, што вершы ў яго былі дзеля Паэзіі, дзеля ўласнай унутранай запатрабаванасці, а не для публікацыі або траплянне ў архівы якога-небудзь літаратурнага музея. Для яго верш жыў тады, калі пісаўся – цяпер і тут: "Паэт не думае, для каго ён піша. Проста вылівае сваю душу на паперу, а потым, збоку, глядзіць са здзіўленнем на гэтую душу" [8, с. 13], а на сакраментальнае і ўсюдыіснае пытанне "А каму ўвогуле патрэбна гэтая вашая паэзія?" М. Купрэеў адказваў проста:

Паэзія.
Ці патрэбна яна людзям? –
У сябе і ў другіх мы пытаемся.
Праз тысячагоддзі крочыць Гамер к людзям,
а мы ўсё чамусьці пытаемся [10, с. 266].

М. Купрэеў не вучыў нікога як пісаць і што пісаць, упэўнены, што кожны мае свой, ні да кога не падобны, уласны голас. Таму сапраўды істотнымі, асабліва для маладых паэтаў, з'яўляюцца яго словы пра адметнасць у паэзіі: "Перад тым, як пачаць верш на чыстым аркушы паперы, трэба паглядзець на сябе ў люстэрка – каб яшчэ раз пераканацца, што ты з твару не падобны ні да кога ў свеце. Потым трэба ўспомніць, што і думаеш ты так, як ніхто ў свеце. І бачыш ты вунь тую травінку, той каменьчык за акном не так, як бачыць іх найбліжэйшы табе па духу і па крыві чалавек. Дык чаму ж твой верш павінен быць падобны на верш Багдановіча ці Жычкі, Пушкіна ці Бадака" [8, с. 12].

М. Купрэеў – паэт ва ўсіх сэнсах АСОБны. Ён яскрава вылучаецца сваім светаўспрыманнем, светаасэнсаваннем, простай і адначасова глыбіннай філасофіяй:

Вецер шпурнуў праз акно
хвалю асенняга лісця...
А я ж і не ведаў,
што лісце асенняе ёсць...
І хто тут гаспадар, а хто госць?..
Што ж мне рабіць з табой, восень?
Што ж мне рабіць з табой, вецер?
Няўжо было шчасце – засталося вецце?
...У шыбы, у сцены б'ецца
голае вецце [10, с. 269].

Проза М. Купрэева, як і яго паэзія, таксама сталася адметнай з'явай у беларускай літаратуры. У сярэдзіне 1990-х гадоў папулярны ў той час элітарны часопіс "Крыніца" апублікаваў шэраг яго аповесцяў: у 1995 – "Дзіцячыя гульні пасля вайны", у 1996 – "Імгненне светлае", у 1997 – "На вуліцы Карла Маркса з Паэтам". Аднак сапраўднай падзеяй у культурным жыцці краіны стаў выхад у 2007 г. яго пасмяротнай кнігі прозы "Палеская элегія" [8], якая ўключае ў сябе

пяць аповесцяў, якія "нягледзячы на розны матэрыял, што лёг у іх аснову, і розныя спосабы сюжэтна-кампазіцыйнай арганізацыі гэтага матэрыялу аб'яднаны адзінствам аўтарскага асабовага ўспрымання, прасякнуты элегічным настроем вяртання ў мінулае" [3, с. 99].

Аповесці М. Купрэева маюць выразны аўтабіяграфічны характар. Але акрамя ўспамінаў пра мінулае аўтар мімаходзь уздымаў пытанні, на якія шчыра адказаць вельмі непрыемна і балюча. Ён не акцэнтуе на іх увагу, яны – проста маленькі штрых у канве апавядання. Аднак гэтага дастаткова, каб не толькі задумацца над імі, але і паспрабаваць разабрацца, чаму так адбылося. У гэтым плане вельмі паказальная гісторыя Вольгі Іванаўны з аповесці "Дзіцячыя гульні пасля вайны", якая пры немцах працавала настаўніцай у школе. Яе мужа "пагналі ў Сібір" (той пасля прыходу немцаў стаў паліцэйскім), але ёй самой пасля вайны дазволілі працягваць вучыць дзяцей, бо не ставала настаўнікаў. На адным з урокаў, рыхтуючы дзяцей да напісання сачынення, яна "інструктавала" іх наступным чынам:

*"– Напішыце пра тое, што самі зведалі, што перажылі або пачулі ад бацькоў ці ў вёсцы. Пішыце коратка і ясна. У канцы напішыце, што свабоду нашай беларускай зямлі прынёс вялікі рускі народ. І ў самым, самым канцы напішыце, што жывём мы пад сонцам Сталіна.*

*(...) І вось тады падняўся з-за сваёй парты Кудака – самы здаровы, самы старэйшы ў класе перарастак, яму сямнаццаць гадоў, з цяжкімі кулакамі, сядзеў па два гады ў класе, вучыўся ў Вольгі Іванаўны яшчэ пры немцах, – падняўся і, спатыкаючыся на словах, басам сказаў:*

*– Вольга... Іва...наўна... тэ самэ... вітэ...тады... тэ самэ...казалі... жывэмо... пад сонцам тэ самэ... Гітлера.*

*Кудака шмыгнуў носам і сеў за парту. Вольга Іванаўна маўчала"* [8, с. 23].

І хоць сам М. Купрэеў казаў, што "настаўнікам маім Янка Купала не стаў"[1] [8, с. 6], аднак усё ж звяртаецца да праблемы, якую беларускі пясняр паставіў у сваёй п'есе "Тутэйшыя" яшчэ ў 1922 г. – як жыць беларусу ва ўмовах неспрыяльных гістарычных абставінаў? Адным з герояў п'есы Купалы з'яўляецца Мікіта Зносак, які стараецца прыстасавацца да палітычных зменаў, што адбываліся ў Беларусі ў паслярэвалюцыйны час. Пры камуністах ён – Нікіцій Знасілаў, пры палякаў – Нікіціуш Знасілоўскі, але Купала паказвае яго са смехам і жалем, звяртаючы ўвагу на тое, што на кожнага Мікіту Зносака знойдуцца і Янка Здольнік, і Аленка, і Ганулля, і Лявон Гарошка.

М. Купрэеў працягвае і пэўным чынам развівае думку Купалы, падчас вайны бачыўшы на свае вочы становішча беларускага народа паміж молатам і кавадлам. І тут мы назіраем ужо не купалаўскую саркастычную ўсмешку, а сапраўдную трагедыю. Трагедыю не толькі настаўніцы, якую звольнілі са школы і якая праз колькі гадоў адпомсціла Кудаку – пасадзіла яго ў турму. Гэта трагедыя звычайнага беларуса, які ў гады вайны, жывучы на акупаванай тэрыторыі, працаваў на акупантаў, каб хоць неяк выжыць у той страшны час. Колькі іх было? Пытанне складанае, ды і аўтар не акцэнтуе на ім увагу і не дае на яго адказу. Яшчэ ў пачатку XX ст. І. Абдзіраловіч, разважаючы пра асаблівасці гістарычнага развіцця беларусаў, выказаў думку пра непрыхільнасць тых ні да Усходу, ні да Захаду. М. Купрэеў падкрэслівае, што беларус зусім не гаспадар на сваёй зямлі,

---

[1] Але ў сваёй творчасці паэт да Купалы ўсё ж вяртаўся. Так, купалаўскае "А хто там ідзе, а хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?.." у М. Купрэева ператварылася ў самотна-сумнае:

*А хто там*
*па мосце шырокаму*
*з немай ідзе журбой? –*
*Беларусь мая ціхімі крокамі...* [10, с. 248].

а вымушаны дзейнічаць па сітуацыі, выбіраць бок, любы, акрамя свайго ўласнага, а потым чакаць літасці пераможцы.

Аповесці М. Купрэева не пазбаўлены і гумару. Нельга не ўсміхнуцца, чытаючы, як маленькі герой твора разам з дзедам піша ліст да сваякоў у Вікоўку: *"Здрастуйця дзед баба цёця Маня цёця Вера цёця Зіна! Мы жывы і здаровы чаго і вам жалаем. Усё ў нас ё. Карова пагуляла. Авечкі тожа ё. Пішыце як вы жывеце. Ждом атвета як салавей лета"* [8, с. 41]. Аднак адрас дзед напісаў па-расійску, "*а то, унучак, па-беларуску пісьмо можа не зайсці*" [8, с. 41].

Тэма роднай, матчынай мовы хвалявала М. Купрэева. Ён казаў, што "ўсё пачынаецца з роднага слова, схаванага глыбока ўнутры, удыхнутага ў цябе, а потым лёгка выдыхнутага разам з родным паветрам (...) І таму, калі я, вучань семігодкі, напісаў там (у вёсцы Пескі Бярозаўскага раёна) свой першы, па-дзіцячы наіўны, верш пра Першамай, – напісаны ён быў па-беларуску" [8, с. 8]. Мова – гэта скарб народа, яго сіла, моц, яго памяць... М. Купрэеў, павандраваўшы па Палессі і чуўшы з вуснаў вяскоўцаў беларускую мову, "чысцюткую, не засмечаную ні з захаду, ні з усходу" [8, с. 9], выдатна гэта ведаў. Таму сумна і балюча чытаць (а аўтару, відаць, і пісаць) у "Дзіцячых гульнях пасля вайны" разважанні Лушчыка пра родную мову: "*Але той [Лушчык] яшчэ гаварыў і гаварыў – што вось зноў усё падаражэла, што "ўсё это ярунда – беларуская мова*".

*– А-а, мне ўсё раўно, какая мова, хоць японская, ліж бы калбаса была дзяшовая... Я надоўга задумаўся пра сваё*" [8, с. 110].

Сапраўды, ёсць пра што падумаць...

Пра жыццё і творчасць М. Купрэева ў свой час пісалі Л. Галубовіч, А. Каско, В. Сахарчук, В. Гардзей, М. Папека, В. Аксак, Ц. Чарнякевіч, Я. Гарадніцкі, І. Запрудскі і інш. Часопіс "Крыніца" прысвяціў М. Купрэеву рубрыку "Ты". У ёй акрамя вершаў і інтэрв'ю паэта змяшчаліся цікавыя матэрыялы, якія датычыліся яго жыцця і творчасці [11]. Надзвычай змястоўнымі з'яўляюцца ўспаміны пра паэта яго родных, сяброў – жонкі Т. Гаўрыс, сястры В. Басалай, аднакурсніцы па навучанні ў Брэсцкім педагагічным інстытуце Я. Бычковай (Асецкай)[1], М. Папекі[2] і інш. Вельмі важна бачыць у творцы звычайнага чалавека, які не толькі ствараў, але і жыў звычайным чалавечым жыццём з яго нягодамі, сумам, стратамі, шкадаваннямі, радасцю і пераменлівым шчасцем. Сам М. Купрэеў не быў абыякавы да памяці сваіх калег-літаратараў. Дастаткова прыгадаць яго эсэ "У хаце паэта", прысвечанае яшчэ аднаму "правінцыйнаму" паэту-гаротніку В. Гадульку, якое было змешчана ў пасмяротнай гадулькавай кнізе вершаў "Голас" (2004). У ім па-купрэеўску шчыра апісана першая (і ці не апошняя) сустрэча двух паэтаў у час гарбачоўскай перабудовы...

У 2008 г., праз чатыры гады пасля смерці паэта, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" была падрыхтавана кніга выбраных вершаў пяці паэтаў, лёсы якіх вылучаюцца сваёй трагічнасцю: А. Сыса, В. Стрыжака, І. Рубіна, В. Гадулькі і М. Купрэева. І хай сабе ў вершаванай нізцы М. Купрэева ёсць пэўныя хібы (няма мяжы дасканаласці), але яе выхад вельмі важны: дзве кнігі вершаў паэта даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, а яго творы вартыя таго, каб іх чыталі і перачытвалі. Увогуле ж, было б выдатна, каб з'явіўся Збор твораў М. Купрэева, які б уключаў у сябе вершы, апублікаваныя як у зборніках, так і ў перыядычных выданнях, аповесці таленавітага творцы і яго эпісталярную спадчыну, што захавалася ў архівах пісьменнікаў, з якімі ён ліставаўся. Гэта, вядома, праца цяжкая, складаная, але цешу сябе надзеяй, што хаця б тэарэтычная магчымасць падрыхтоўкі і выдання такога купрэеўскага Збору ўсё ж ёсць.

---

[1] Успаміны Т. Гаўрыс, В. Басалай, Я. Бычковай (Асецкай) гл.: "Дзеяслоў", №58.
[2] Успаміны М. Папекі гл.: часопіс "Калосьсе" №1(10), 2006.

А. Сыс, яшчэ адзін выдатны беларускі паэт з драматычным лёсам, творы якога змешчаны ў вышэйзгаданым калектыўным зборніку, не толькі выкарыстаў у другой частцы свайго знакамітага паэтычнага твора “Сэрца” радок з верша М. Купрэева “Журавы не пралятаюць міма”, але і ахвяраваў яму наступныя радкі, якія, на вялікі жаль, у той зборнік не трапілі:

Хрысціянскае сэрца Беларусі баліць
за лядачае сэрца нябогі Міколы.
Ён мой госць нечаканы.
Здарожыўся, спіць,
як дзіця дарагое,
як месячык кволы.
Я яму прачытаў,
быццам казку, свой верш,
нат Купала яго уважаў
самым лепшым.
Ох, Мікола, Мікола...
А калі ты памрэш,
хто ж мяне па начох
прысынаць будзе вершам? [13, с. 331].

Рытарычнае пытанне, якое не патрабуе адказу... Сам Сыс адляцеў у паэтычны вырай на наступны пасля Купрэева год, перажыўшы свайго старэйшага сябра трохі больш, чым на сем месяцаў. Такое яно, жыццё... Але ж якой любоўю прасякнуты гэтыя радкі...

Апошнія гады свайго жыцця Мікола Купрэеў пражыў у Пружанах. Хварэў, лячыўся, дакладней, падлечваўся. Маючы праблемы з нагамі, ён ужо не мог вандраваць, як калісьці, па сваім улюбёным Палессі:

Глядзіце, глядзіце! Паўзе ад дарогі
праўдашукальнік, паэт бязногі... [10, с. 251]

скрушліва пісаў ён. Купрэева не стала 19 верасня 2004 года. Людзей на пахаванні было вельмі мала...

Яшчэ ў 1967 годзе, калі яму было ўсяго (ці ўжо?) 30 гадоў, у кнізе вершаў “Непазбежнасць” быў надрукаваны верш пад назвай “Замест лекцыі пра жыццё”:

Паліла сонца – дажджу хацелася,
дажджы наваліліся – сонца хацелася,
быў хлапчуком – пасталець хацелася,
выйшаў за трыццаць – юнацтва схацелася.
Стаў паміраць – жыць захацелася
ў сонцы,
у ліўнях,
у юнацтве,
у сталасці
і – таму што жыў, жыў на зямлі! –
плакаў перад сконам ад гора і радасці [7, с. 13].

І як тут не згадаць ліст Міколы Папекі да Леаніда Галубовіча: “*...твой апошні ліст да непрытомнага Купрэева яму чытала медсястра, ён узрадаваўся твайму прозвішчу, і на шчацэ з’явілася сляза...*” [12, с. 87].

А на помніку, які быў усталяваны на месцы пахавання паэта, выбіты словы: “О, я многа хацеў вам сказаць...”

Л і т а р а т у р а:

1. Галубовіч, Л. “Мяне – яшчэ нямала” / Л. Галубовіч // Дзеяслоў – 2011. – №2 (51). – С. 227–228.

2. Галубовіч, Л. Правінцыйная гісторыя, напісаная ў сааўтарстве з героем / Л. Галубовіч // Крыніца. – 1994. – №11. – С. 48–51.

3. Гараднiцкi, Я.А. Сiстэма наратыўных прыёмаў у прозе Мiколы Купрэева / Я.А. Гараднiцкi // Весцi Нацыянальнай акадэмii навук Беларусi. – 2013. – № 3. – С. 99–103.

4. Запрудскi, І.М. Мысляр-натурфiлолаг: нататкі аб прозе Міколы Купрэева / І.М. Запрудскi // Маладосць. – 2012. – № 12. – С. 63–68.

5. Каско, А. Жураўлі журлівыя мае: да 75-годдзя Міколы Купрэева / А. Каско // Літаратурная Беларусь. – 2012. – №5 (69). – С. 3.

6. Купрэеў, М. Жыць на высокай струне. Вершы / М. Купрэеў // Дзеяслоў – 2011. – №2 (51). – С. 228–235.

7. Купрэеў, М. Непазбежнасць : паэзія / М. Купрэеў. – Мінск: Беларусь, 1967. – 87 с.

8. Купрэеў, М. Палеская элегія : аповесці / М. Купрэеў; [укладальнік, прадмова: Л. М. Галубовіч]. – Мiнск : Литература и Искусство, 2007. – 311 с. – (Лімаўскі фальварак).

9. Купрэеў, М. Правінцыйныя фантазіі : Вершы, паэма. / М. Купрэеў. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1995. – 94 с.

10. Купрэеў, М. Сны ля дарог // Незабыўныя галасы. Я хацеў вам сказаць...: вершы і паэмы / [укладанне В. Шніпа]. – Мінск : Мастацкая літаратура, 2008. – 301 с.

11. Мікола Купрэеў / Алесь Каско [і інш.] // Крыніца. – 1994. – №11. – С. 29–52.

12. Папека, М. Ліст да Леаніда Галубовіча / М. Папека // Калосьсе – 2006. – №1 (10). – С. 86–87.

13. Сыс, А. Лён: выбраныя творы / А. Сыс. – Мінск: Кнігазбор, 2006. – 436 с.

14. Чарнякевіч, Ц. Хацеў нам сказаць (Мікола Купрэеў-шасцідзесятнік) / Ц. Чарнякевіч // Літаратурная Беларусь. – 2012. – №5 (69). – С. 4.

Лія Салавей



...ну навошта беларускаму селяніну
два тузіны гальштукаў
ды яшчэ і колькі "мушак"...

# Гавэнды майго краю

Успаміны мае, успаміны...

Але ці мае яны? Відаць, толькі ў нейкай ступені. Бо сама я мала што бачыла, больш чула аповеды дарослых, часам не саміх удзельнікаў, а пераказы тых, хто чуў ці бачыў. Навошта я спрабую злавіць і бліжэй разгледзець тое, што ў маёй памяці гадамі ляжыць дзесьці некранутае, незварухнутае, нячутае, нібы неіснуючае? Мусіць, для таго, каб самой зразумець, як так сталася, што людзі, рэчы, лад жыцця, увесь свет, які ў дзяцінстве здаваўся мне такім стабільным, нязменным, густа населеным, разнастайным і ў той жа час адзіным – адзіная мова, адзіныя звычаі, вопратка, па-рознаму, але адзіна і зразумела зробленыя пабудовы, апрацаваныя нівы, агароды, падобна пасаджаныя кветкі, хоць і ў розных спалучэннях, – увесь гэты свет на маім жыцці знік, а што не магло знікнуць, напрыклад, зямля, змянілася так, што і пазнаць нельга, больш за тое, і агледзець нельга, бо ўжо зараслі дарогі і сцежкі, разбурыліся масткі, сенажаці сталі непраходнымі зараснікамі; балота, вільготнае, атуленае летнімі вечарамі сівым, як воўк, густым туманом, зрабілася (людзі зрабілі) сухім лугам з беднай расліннасцю – усё перайначылася.

Сумным напамінкам пра зніклы свет служыць сям-там яблыня ў квецені, што выглядае-высоўвае вяршыню з густых зараснікаў лазы. Кароткі час чалавека на зямлі, хутка прамільгне жыццё, а змены вакол яго адбываюцца яшчэ хутчэй. Яшчэ стаіць на мураваным склепе шэрая, нібы ссівелая, а некалі фарсістая хата пад старым-старым клёнам, у лепшай палавіне якой размяшчалася некалі (адразу пасля вайны) аднакамплектная школка, вучні яе пастарэлі, а большасць адышла ў вечнасць. Магутна разрослся вяз, пад якім некалі была лавачка, і гаспадары ў нядзелю ці ў свята збіраліся абмеркаваць сякія-такія навіны, там жа былі сабраны мужчыны ў канцы чэрвеня ці пачатку ліпеня 1941 года, да іх звяртаўся капелан нямецкай вайсковай часткі, што спынілася тут на кароткі адпачынак, прамаўляў па-польску, бо тут польскую мову разумелі, тлумачыў, што Гітлер за дысцыпліну і парадак, але ж ведама – маса маладых хлопцаў, дык калі дзе нашкодзяць, каб прабачалі. Праўда, у тыя дні вялікай шкоды тыя спартовыя хлопцы, акуратна паголеныя і модна пастрыжаныя, не рабілі: ну, бегалі ў адных плаўках і шлёпанцах, а больш пажылыя хадзілі па хатах, паўтараючы вывучанае з польска-нямецкага размоўніка: *Matka, jajko, masło, mleko, Speck*. Не дужа, відаць, раскормліваў фюрар сваіх арлоў – усё па скупой норме. Пагублялі, пэўна, свае костачкі на палях баёў тыя спартовыя хлопцы, а вяз яшчэ расце і расце. Аднойчы, ужо даволі вялікая, я спыталася ў мамы, што гэта за дрэва? – “Ільма”, – адказала мама. Дзіўнае слова, адкуль мама яго ведае, задумалася я. Але ўсё слушна – вяз адносіцца да сямейства ільмавых. Гэты вяз пасадзіў каля вуліцы гаспадар той сялібы тады, калі мяне не было яшчэ і ў праекце. Цяпер ён такі ж самотны і стары, як і я. Вельмі люблю старыя дрэвы, шкада, што яны нічога не могуць сказаць. Сказаць могуць людзі, але ці знойдуць яны слухача? Нездарма народная прымаўка падагульняе: “Ёсць што сказаць, ды няма каму слухаць”.

Я зграшыла б, калі б сцвярджала, што мае нататкі нікому не будуць цікавымі. Яны з цікавасцю, нават прагнай, будуць гартацца маёй стрыечнай сястрой Кацяй, што выскачыла калісьці замуж за ўкраінскага гарнага хлопца і жыве цяпер у Днепрапятроўску (стоп!, за час, калі пісаліся мае нататкі – зімой 2016 г., шмат што змянілася – Днепрапятроўск стаў Дніпром), на Украіне, і ўсе драбніцы нашага беларускага жыцця ёй такія мілыя, цікавыя і дарагія. Што ж, буду пісаць для Каці Яланскай, яна мяне зразумее. Пачнем з сярэдзіны, з бацькоў, можа, дойдзем і да дзядоў. Вясковыя людзі, якіх я памятаю, якіх бачыла ў дзяцінстве, былі, зразумела, больш складанымі і цікавымі, чым яны паўстаюць у маіх успамінах пра іх. Іх ужо няма на зямлі, пасля іх засталіся гавэнды.

А гавэнда, што гэта за штука? Гэта – вуснае апавяданне, жанр вуснай народнай славеснасці, інакш, гутарка, часам – плётка. Гавэнды, беручы агулам, гэта і сюжэтныя апавяданні, і ўспаміны, і навіны, і тэарэтычныя разважанні, маралізатарскія прыпавесці, і жартоўныя выказванні, – усё, што людзі пры зручным выпадку апавядаюць адзін аднаму, нязмушана гавэндзяць. У літаратуры гэты жанр замацаваны творчасцю Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча), які на аснове народных гавэндаў стварыў вершаваныя творы: “Гавэнда пра бусла”, “Паштар”, у падзагалоўку – Вясковая гавэнда, “Далакоп”. Гавэнда, “Лялька”. Дзяцінная гавэнда, “Гетман польны”. Ветэранская гавэнда, “Біяграфія пачцівага чалавека”. Свой першы зборнік “Гавэнды і лірычныя вершы” (1853) ён папярэдзіў “Прысвячэннем вясковых гавэндаў літвінам” (г.зн. беларусам, сваім землякам). Вацлаў Кубацкі ва ўступным артыкуле да збору твораў Ул. Сыракомлі “Гавэнда пра Сыракомлю” піша: “Можна сказаць, што яго «гавэнда» рэалізуе вядомае правіла рамантызму – змешваць у дробных паэтычных формах розныя жанры і стылі”. Сам Сыракомля падкрэслівае народнасць і самога жанру, і тэрміна гавэнда.

Przy tych gawędach bogowie stoją
Na pilnej straży,
Nie umrze dziadek aż przeszłość swoją
Wnukom wygwarzy.

Праўду гавэндаў пільна вартуюць
Багі старыя,
Іх на скананні ўнукам раскажуць
Дзяды сівыя.

(Прыблізна так трэба разумець гэтыя радкі. – *Л.С.*)

Пра пашыранасць тэрміна гавэнда ў народзе сведчыць такі факт. Максім Танк у сваім дзённіку (Лісткі календара, 1970) 20.02.1938 г. запісвае пра свайго дзядулю: "А расказчык з яго адменны. І самае цікавае, што калі я потым пробаваў запісваць яго "*гавэнды*" (вылучана мною – *Л.С.*), яны ў мяне атрымліваюцца нейкімі расцягнутымі". Вельмі слушная заўвага, перавод вуснай гавэнды на паперу пазбаўляе яе дынамічнасці, колераў, жывой шурпатасці, праскокаў у аповедзе, абцяжарвае тлумачэннямі і інш. Але іншага спосабу няма, каб захаваць якія рэшткі бязмежнай беларускай народнай апавядальнасці.

Пра тое, што гавэнда на нашай тэрыторыі не новае слова, сведчыць факт яго прысутнасці ў антрапаніміі, прозвішчах людзей. Так, Максім Танк у сваім дзённіку "Лісткі календара" занатоўвае: "Заехаў каня напаіць андрэйкаўскі ляснік Бойка. Я з ім пазнаёміўся, яшчэ калі высякалі Барсукі і ён служыў у крывіцкага ляснога купца Гавэнды".

У іншых беларускіх пісьменнікаў, хоць і нячаста, усё ж трапляецца тэрмін "гавэнда" (на Мядзельшыне яна вымаўлялася на g – gawenda). Так, у паэме Базыля Раскапэнды-Бабіцкага (Ніла Гілевіча) "Гэй, наперад, гэй, назад!" гаворыцца:

Ёсць прадаўні жанр – "гавэнда",
Вось яго і выбраў я.

Тут паэт па сваёй волі выбраў жанр гавэнды. Ну, а мне маё крамзоленне інакш і нельга назваць – гавэнды і ёсць гавэнды.

## Амерыка майго таты

У Амерыку (паўднёвую, Аргенціну) тата трапіў не з цікаўнасці ці турысцкай непаседлівасці, а па неабходнасці: трэба было зарабіць крыху грошай, каб купіць кавалак зямлі, абжыцца на ім, ажаніцца ды жыць-пажываць з працы земляроба, як адвеку жылі нашыя продкі. Справа ў тым, што ў татавых бацькоў – Марты (Мартуські) і Піліпа Скуркаў зямлі было няшмат, можа якая трацiна валокі, да таго ж зямля баравая, пясочак, неўрадлівая, а дзяцей аж пяцёра – тры хлапцы і дзве дзяўчынкі. Дзяўчат можна не прымаць у разлік – вырастуць, пойдуць замуж, а хлопцаў як прыдзе час дзяліць, то надзяляць і няма чым. Ра̀дзіліся-ра̀дзіліся (у нас не казалі "раіліся") і прыйшлі да згоды, што старэйшы сын будзе гаспадарыць на бацькаўшчыне, сярэдняму (гэта майму тату) дапамогуць набыць колькі зямлі, каб гаспадарыў асобна, а малодшага навучаць рамяству, заробіць сабе на жыццё. Дзядуля Піліп быў вельмі дужы, не ведаў меры сваёй сілы, таму быў неабачлівы, неасцярожны. Аднойчы спатрэбілася яму зняць вялізную калоду з воза, крычалаасцерагала яго бабуля, каб не рабіў гэтага без дапамогі, не паслухаў, як вынік – надарваўся і памёр зусім малады. Бабуля Мартуська была вельмі добрая, разумная жанчына, сыны яе слухалі і паважалі, нават мая мама, яе нявестка не раз казала, што ніколі ў жыцці не сустракала такой мудрай і добрай жанчыны. Таму ўсё ў іх ішло ладам, хоць, зразумела, ранняя смерць дзядулі моцна ўскладніла жыццё сям'і,

бо хлопцы былі яшчэ падлеткамі. Нарэшце старэйшы сын Гарасім вырас, ажаніўся, тата выправіўся за мора на заробкі, малодшы сабе бясклапотна падрастаў.

У Заходняй Беларусі ў складзе даваеннай Польшчы людзей даймала беспрацоўе, беззямелле, марылі пра перадзел панскіх абшараў ці хоць бы пра адкрыццё працоўных месцаў на новых фабрыках і заводах, а нічога гэтага не было. Многія маладыя людзі пад уздзеяннем савецкай прапаганды ішлі нелегальна, як тады казалі, “у Расею” – з надзеяй уладкавацца на фабрыках ці заводах, а траплялі ў траншэі Курапатаў. Разумныя людзі папярэджвалі, што не так там соладка, як пяюць па радыё, але нявопытная моладзь ішла на сваю пагібель, бо людзі вераць таму, чаму хочуць верыць. Нашы не верылі пустым абяцанкам і намагліся адправіць тату на Захад, дзе праца аплочвалася рэальна. Праўда, дарога каштавала дорага, дзе ўзялі грошы, я дакладна не ведаю. Думаю, што дапамог багаты і разумны дзядзька, бабулін брат, яго сыны яшчэ да рэвалюцыі дзесьці вучыліся, адзін працаваў настаўнікам, – больш не было каму. Дзядзька Мікалай Гунька жыў у вёсцы Скарады, яго так і называлі – Скарадскі дзядзька.

Тата быў не вельмі цікавым апавядальнікам: пабыўшы 5 гадоў у Амерыцы (Аргенціна), праехаўшы праз усю Еўропу, ён не меў надта цікавых аповедаў; з таго, што ён узгадваў, вынікала, што людзі ўсюды аднолькавыя, толькі мова і звычаі іх розныя, ды й то не асабліва, ніякіх такіх дзівосаў на свеце няма. Ну, ехалі цягніком праз Германію, уразіў велічны Берлін, дзе на пэўны час спыняліся, хваліў Бельгію, дзе лясы чысцюткія, як сады; Парыж не спадабаўся – стары нейкі, запушчаны, адтуль ехалі аж у Трыест, дзе селі на карабель, які і павёз аж у нейкі афрыканскі порт, дзе запраўляліся вадой перад тым, як рушыць праз Атлантычны акіян у тую далёкую Амерыку. У Трыесце насела шмат хлапцоў з Югаславіі. Тата вылежваўся на палубе на дыванку, што выткала яго сястра Натталька і дала яму ў дарогу. Падыходзілі тыя югаславы, разглядалі, хвалілі ўзор, пыталіся – адкуль? А дазнаўшыся, што беларус з Польшчы, прапанавалі дружбу, сяброўства; калі не мае дзяцюк землякоў, то прыхінуць у сваю кампанію, што на чужыне спатрэбіцца. Але землякі ў таты былі, яшчэ чатыры хлопцы з Мядзельшчыны пры ад’ездзе дамовіліся трымацца разам, не запівацца і не загульвацца, не лайдачыцца, а па заканчэнні кантракта вярнуцца дадому. Тату заставалася толькі падзякаваць тым славянам за іх прыхільнасць. Мядзельскія хлапцы датрымалі слова, усе пяць вярнуліся з адносна спакойнай Аргенціны на радзіму незадоўга да пачатку Другой сусветнай вайны (на сваё гора), але хто ж тое ведаў?

Працавалі нашы дзецюкі на будаўніцтве чыгункі за Буэнас-Айрэсам (горад Сан-Расарыё). Іх начальнік, французскі інжынер, неяк вылучыў тату, можа, за рахманасць і сумленныя сінія вочы, намовіў яго сабе ў памагатыя – развозіць распараджэнні, адвозіць у галоўную кантору справаздачы, прывозіць адтуль заробак рабочым, ды ці мала якіх патрэб узнікае на вялікай будоўлі? Мабільных тэлефонаў тады ж не было, калі што патрэбна – садзіцеся ўдвух на дрызіну ды імчыце па ўжо пракладзеных рэйках куды трэба. Інжынер жыў у асобным дамку з жонкай і дзвюма малымі дачушкамі, працы яму хапала, рабочы дзень не абмяжоўваўся службовымі гадзінамі. Намовіў ён тату, каб перайшоў з барака, дзе жылі рабочыя-будаўнікі, у яго дом, бо меўся вольны пакойчык з мінімальным наборам мэблі – стол, крэслы, раскладны ложак – кіраўніку важна было мець пад рукамі пасыльнага; да таго ж, калі ён са сваёй сужонкай ішоў у нядзелю ў госці да сяброў-землякоў, служанка баялася застацца адна з дзецьмі дома. Гэты ж інжынер сказаў тату купіць рэвальвер, навучыцца страляць і пускаць яго ў работу пры любой спробе незнаёмых затрымаць яго, асабліва калі той вёз рабочым заробак – час не быў і там бяспечны.

Так тата, сялянскі хлопец з вёскі Баравая Слабада (Новікі) былога Пастаўскага павета Віленскага ваяводства (цяпер Мядзельскі раён Мінскай вобласці) пасяліўся ў свайго начальніка, французскага інжынера, размаўлялі па-гішпанску, тата неяк хутка засвоіў збольшага неабходны мінімум і жыў, па яго словах, бясклапотна ўсе

тыя амерыканскія пяць гадоў. Дачушкі інжынера Жаклін і Удэт прывыклі да яго; на развітанне, калі беларусы сабраліся дадому, надавалі яму фатаграфій, якія доўгі час служылі для нас дакументамі далёкага нязнанага свету. Інжынер, а гэта слова вымаўлялася заўсёды паважліва, як бы з вялікай літары, раіў тату пачакаць, не ехаць у Еўропу, у якой ён прадбачыў вайну, альбо паехаць толькі ў адпачынак на 6 месяцаў з захаваннем ранейшага рабочага месца. Спрабавалі нават ажаніць тату з добрай гішпаначкай, што працавала тут служанкай. Але тату так хацелася дадому, да сваіх родных, блізкіх, а зямля наша і парадкі, што панавалі на ёй, здалёк выглядалі больш прывабнымі, чым былі ў рэчаіснаці.

Няшмат цікавага апавядаў тата з свайго побыту ў чужой краіне: хіба што, як адна беларуска, што была прыехаўшы з мужам у Аргенціну, нарадзіла здаровенькае дзіцянё, толькі чорненькае, як галавешачку. Тлумачылася гэта вельмі традыцыйна па-беларуску: будучы на першых тыднях цяжарнасці яна ўпершыню нечакана ўбачыла мурына, дужа злякнулася, ведама ж, гэткае дзіва, вось і нарадзілася чорненькае дзіцятка. Слухачы шчыра давалі веры такому тлумачэнню, дадаючы ўласныя прыклады, хай сабе не такія радыкальныя, але зноў жа пераканальныя, бо датычыліся знаёмых, ці хоць бы бачаных на ўласныя вочы людзей. Так, на цяжарную суседку ў свірне саскочыла з паліцы мыш, спалохала жанчыну, і яна нарадзіла дачушку, у якой на левай руцэ была радзімая плямка, якраз як мышка, прытым пакрытая кароткай поўсцю. Гэтая народная прыкмета адносіцца да засцярог цяжарнай – нельга глядзець на пажар, на нябожчыка, на нейкія дзівы, каб не адбілася тое на дзіцяці.

Дзіўным здавалася мне, што ў горадзе Сан-Расарыа, што каля Буэнас-Айрэса, у рэстаран не пускалі нават з грашыма, калі наведвальнік не так быў апрануты, мусіў быць пад гальштукам у чыстым касцюме – гэта першае; па-другое, малады дзяцюк ці кампанія не маглі зайсці ў рэстаран, калі ў кожнага не было да пàры сіньярыны, а дзяўчат там відавочна не хапала, бо ў эміграцыю падаваліся найперш хлопцы. Разумныя, бачыце, былі рэстаратары, пазбягаючы боек і скандалаў у сваіх установах.

Яшчэ дзіўнейшым здаваўся мне татаў аповед, што жонкі амерыканскіх фермераў не працуюць на полі. А што ж яны робяць? Парадкі дома наводзяць, гатуюць ежу, даглядаюць дзяцей і сябе, ходзяць у краму па прадукты, чакаюць мужыкоў з працы, ды ці мала якіх заняткаў каля дому. А хто ж жыта жне? Там і не жыта, а пшаніца, кукуруза, вінаграднікі і іншыя культурныя расліны. Як саспее збожжа, гаспадар выклікае камбайн, той скосіць-змалоціць, гаспадар бальшыню адразу прадасць, з грашыма жонка ходзіць у краму, купляе, што патрэбна ў гаспадарцы. Здавалася, што тыя жонкі амерыканскіх фермераў – гэта нейкія пані, калі параўнаць іх з нашымі кабетамі, што сярпом усё поле абажнуць, лён апрацуюць, спрадуць, палатна і розных іншых тканін наткуць, вопраткі нашыюць, стравы нагатуюць, сям'ю накормяць. А яшчэ ж агароды, каровы, свінні, куры, гусі, і ўсіх накармі, усіх дагледзь. А амерыканскія сялянкі і свіней не кормяць – гэта работа гаспадара. Засыпае ім той здробленую кукурузу – еж ад пуза, забяспечвае ўдосталь вадой – расціце, таўсцейце на здароўе. А як надыдзе час тых свіней калоць, дык выклікае мяснікоў, тыя купляюць іх жывой вагой, за атрыманыя грошы гаспадыня выкупляе потым у краме розныя мясныя далікатэсы. Вельмі ўсё гэта здавалася дзіўным.

У таты ад прыроды былі трохі рэдкія зубы. Там яму амерыканскі стаматолаг на вузкія зубы надзеў каронкі не шкадуючы золата, так што яны не праеліся да старых гадоў. Так што, бывала, сядзіць тата ў зашмальцаванай калгаснай ватоўцы, у выцвілай кепцы, а ўсё роўна выглядае нетутэйшым, "амерыканцам" – у яго поўны рот золата.

З Амерыкі тата прывёз ёмісты куфэрак (цяпер ён захоўваецца ў мяне) і пакоўную валізку з вопраткай і дробнымі рэчамі, здавалася, на ўсе выпадкі жыцця. А якія ж гэта былі якасныя рэчы, натуральныя тканіны, воўна, шоўк, бавоўна – такіх рэчаў я потым амаль і не бачыла. Толькі большасць іх у тым гаротным жыцці, якім жыло беларускае сялянства, былі як бы і непатрэбнымі, яны маглі выкарыстоўвацца

толькі ў выключных выпадках: на вялікае свята, на фэст ці нешта падобнае. Ну навошта, скажам, беларускаму селяніну два тузіны гальштукаў ды яшчэ і колькі “мушак” (тое, што па-расейску “бабочка”), досыць аднаго; навошта дарагі фетравы капялюш, рацінавае паліто, піжамы з натуральнага “шашкучага”, як казала мама, шоўку? Каб людзі зайздросцілі і немаведама што думалі? Бастонавы касцюм і дарагі капялюш зрабілі тату адзін раз благую службу: калі ён з сваёй нявестай наведаў сваткаўскага папа Сурвілу, каб дамовіцца пра вянчанне і загадзя аплаціць вянец, то быў шакаваны цаной, якую назваў святы айцец (цана за вянчанне была вядомая, многія ж жаніліся і плацілі). На пытанне: “Бацюшка, чаму так дорага?” – той адказаў: “У тебя шляпа дороже моей, вот почему”. З таго часу тата вельмі крытычна ставіўся да царкоўнікаў, па сутнасці, ён быў няверуючым чалавекам і свае погляды не хаваў, кажучы: “Як не грашыў, дык няма чаго і каяцца ды яшчэ плаціць папу. А то во Міхал, стаіць у царкве перад укрыжаваннем з апушчанай намасленай галоўкай, стаіць людзям напаказ, а вечарком ідзе снапы красці на чужую ніву”. За тыя пяць аргенцінскіх гадоў тата адвык ад сібернай сялянскай работы, а сяго-таго яшчэ не навучыўся. Ну, хоць бы касіць. Трэба шмат умення, каб касу накляпаць, потым навастрыць, і сам працэс скошвання травы патрабуе пэўнага навыку, адчування. Спачатку пакідаў татуля грывы паміж пакосамі, а мама саромелася, што так нячыста скошана. Прайшлі гады, тата стаў такім умелым касцом, навучыўся пры рабоце траціць мінімум энергіі, нават у старасці мог спаборнічаць у касьбе з маладымі дужымі работнікамі.

Усё жыццё тата не любіў халоднай пары года, хваліў жыццё ў цёплых краінах, а ў нас цяжкая зімовая вопратка, дровы, цёплае жыллё – усё неабходна для выжывання, усё здабудзь працай. І зямля такая цяжкая для апрацоўкі, і не гарантуе, што праца апляціцца. Ды ўсё ж свая зямля чамусьці наймілейшая, каб толькі самі мы на ёй гаспадарылі.

## Новая зямля

Мой тата Скурка Мацей, сын Марты і Піліпа, як слушна пісалі палякі ў пасведчанні асобы (*dowód osobisty*), ставячы на першае месца маці, а потым бацьку, вярнуўся з Амерыкі ў пачатку 30-х гадоў. Гэта так добра стасуецца з сённяшняй сямейнай звычаёвасцю ды і з традыцыйным беларускім ладам (“Хата трыма вугламі трымаецца на жанчыне і толькі адным – на мужыку” або “Памёр бацька – пры маці дзеці напалову сіроты, памерла маці – пры бацьку дзеці сіроты круглыя”. З прымаўкамі не паспрачаешся). Тату ўжо было пад трыццаць гадоў, сталы дзяцюк, то ў хуткім часе ажаніўся з маёй мамай, і яны сталі жыць разам з бабуляй Мартуськай і старэйшым, таксама жанатым братам. Хоць цесна было ў хаце, але жылі ў згодзе, мірна. Бабуля Мартуська далікатна кіравала сямейкай, яе вельмі паважалі. Але вярнуўся з тэрміновай службы ў войску малодшы татаў брат, вулей перапоўніўся, трэба было як найхутчэй, згодна з сямейным планам, адсяляць маладажонаў, шукаць ім уласны прытулак. Трэба было купіць кавалак зямлі, дастаковы для бязбеднага існавання. Але ж зямлю збываюць нячаста, гэта заўсёды выпадак, людзі трымаюцца за яе да апошняй мажлівасці, расстаюцца з плачам, цяжка і прадаваць ды нялёгка і купляць, гледзячы, як ранейшыя гаспадары галосяць. У сумленных людзей застаецца як бы адчуванне віны, хоць віны тут няма ніякай. Рынак.

Маім бацькам пашанцавала. Яны купілі сабе зямлю з будынкам не ў гаспадара, а ад банка. Банк даваў гаспадару Аляксандру Маханьку пазыкі пад заклад яго маёмасці нерухомай, а запазычаны вяртаць пазыку і не думаў, добра пагуляў, папіў дарагіх трункаў, спадзяваўся, што польская акупацыя хутка скончыцца, банк лопне і нічога вяртаць не спатрэбіцца. На жаль, крыху пралічыўся, усяго гадкоў на дзесяць. Банк праз суд забраў яго нерухомасць і прадаваў ужо ад сябе, усё паводле закона:

пазыку сабе вярнуў, а што з грошай засталося паўзверх той сумы – аддаў няўдаламу гаспадару, таму яшчэ доўга можна было выпіваць. І ён не гараваў: зладаваў на дзве фурманкі свой рухомы скарб і падаўся ў парабкі да знаёмага пана. Пан даваў яму хату на пражыванне, дазваляў трымаць карову, каня з павозкай, гадаваць свіней, курэй, даваў участак пад агарод. Толькі ты ўжо не гаспадар, трэба рабіць тое, што скажуць, не па сваёй волі. Мусіць, няблага жылося гэтаму чалавеку ў пана, ды вось жа лёс! Як прыйшлі першыя Саветы, дык выслалі гэтую сям'ю разам з панам у Сібір, нібы за тое, што чалавек абараняў свайго працадаўцу перад нялюдскімі ўладамі, заступаўся за яго. Такога павароту ў жыцці і ў сне не маглі сасніць, хоць да гэтых падзей заставалася якіх дзесяць гадоў. А пакуль што маладыя Надзея і Мацей адны, без падтрымкі вопытных старэйшых пачалі гаспадарыць на новым месцы, на новай, такой нязвычнай зямлі. Мама Надзея Чарняўская паходзіла з вёскі Шкленнікова, тата Мацей Скурка (афіцыйна Скурко) – з Баравой Слабады (Новікі). Гэтыя вёскі знаходзяцца ў лясной старане Мядзельшчыны, там кругом бары, зямля пясчаная, лёгкая, каб атрымаць добры ўраджай патрэбна шмат угнаення, надта эфектыўна памагаюць сідэраты. А ў Навасёлках, куды бацькі перехалі, зямля глiністая, камяністая, цяжкая для апрацоўкі, але ўрадлівая. Тут крутыя ўзгоркі мяжуюць з глыбокімі латокамі (міні-азёркамі), зарослымі часта балотнай травой, напаўзацягнутыя торфам. Ды і сама вёска Навасёлкі размясцілася ўздоўж дарогі, што ішла з захаду на ўсход, па адгалінаванні Свянцянскай грады. З поўначы за вёскай цягнецца доўгая паласа моху з журавінамі, п'яніцамі, брусніцамі, вужамі і гадзюкамі. З поўдня даволі стромымі схіламі спускаецца ў доўгі луг зарослае торфам даўняе-прадаўняе рэчышча. Пры канцы вёскі крыху ўзвышаецца Ягнешына гара, з якой у пагодныя дні можна палюбавацца і полем, і далейшым балотам, і забалотнымі вёскамі.

Здаецца ж, недалёка ад родных мясцін, але маладыя пасяленцы з цяжкасцю прывыкаюць да тутэйшых краявідаў, новых людзей, крыху інакшай гаворкі, значна меншай адкрытасці, шчырасці тубыльцаў. Знайшліся і такія людзі, што настойліва ішлі ў пазыкі да "багатых чужынцаў", нават не думаючы аддаваць пазычанае. Але знайшліся і сумленныя, прызваітыя людзі, на шчасце, якраз сярод блізкіх суседзяў, то гэта паскорыла адаптацыю. Жанчыны спачувалі маме, часта пры сустрэчах задавалі пытанне: "Ці прывыкла?" Аднойчы да мамы ў хату прыйшла маленькая, худзенькая суседская дзяўчынка Барбарка. Яна ўселася каля стала, мама дала ёй салодкую ігрушу, тая ціхенька сабе моўчкі есць, паглядваючы сінімі вочкамі з-пад тоненькіх белых валосікаў, ды раптам птушыным галаском: "Ціпівікла?!" Мама спачатку разгубілася, але хутка здагадалася, што гэта азначае, ды й кажа: "Прывыкаю, Барбарка, прывыкаю".

Мама прыкладала нямала намаганняў, каб адаптавацца ў гэтым новым асяроддзі, дзе большасць людзей звязаны роднасцю, сваяцтвам, прыяцельствам, нейкімі планамі на будучыню (напрыклад, задумамі пажаніць дзяцей, мець дапамогу ў будаўніцтве ды інш.), што не давала ім мажлівасці быць заўсёды аб'ектыўнымі, бесстароннімі, а значыць, справядлівымі. Тым не менш адносіны наладжваліся, пра новую сям'ю пайшла добрая слава. Як вынік, адзін выбрэдны кавалер паехаў сватацца да мамінай малодшай сястры, цёткі Марылі. Кавалер не надта спадабаўся родзічам, хоць лічыўся заможным – адзін сын у бацькоў, зямлі – валока, сястра ўжо замужам. Ён так лістам слаўся, так разумна вёў сватаўскія перамовы, што падумалі, хто без недахопаў, можа так яно і будзе дзеіцца, як гаворыцца. Тым больш, што Марыля будзе разам са старэйшай сястрой, якая, калі што, не дазволіць яе крыўдзіць. Складаная натура жаніха час ад часу праяўлялася, і маральная падтрымка старэйшай сястры цётцы Марылі вельмі прыдалася. Але хутка Навасёлкі рассяліліся на хутары і ўладанні сясцёр апынуліся на самых аддаленых дзялках навасельскай тэрыторыі: хутар бацькоў межаваў з засценкам Курганы, а хутар Марылі з Паўлюком быў непадалёку ад двара і аднайменнай вёсачкі Лейці.

Вёска Навасёлкі, дзе мае бацькі набылі 12 гектараў зямлі, размясцілася на адлегласці 23 кіламетры на ўсход ад Мядзела, з захаду яе зямля межавала з панскім дваркам Жосна і двума шляхецкімі засценкамі – Ванькова і Курганы, на ўсходзе – з вёскай Баяры, насельнікі якой лічылі сябе амаль што шляхтай (што не перашкаджала баярскім дзецюкам заляцацца да навасельскіх дзевак).

За балотам з паўднёвага ўсходу, за кіламетраў пяць, размясцілася вёска Старыя Габы, шматлюдная, некалі паншчызняная – прыналежнасць паноў Аскеркаў. Лічылася, што людзі там надта простыя, часта ўжываюць мацюкі і схільныя што скрасці. Аднойчы шляхцянка з-пад Мядзела была ў вяселлі ў Габах. Яна асудзіла звычаі габлюкоў за буйнасць, нястрыманую жарсць, мужыцкую грубаватасць. А ў чым жа гэта выявілася? А ў тым, што моладзь выйшла танцаваць у прасторныя сені, выбрукаваныя каменем, знарок вынеслі адтуль лямпу, а самі як ударылі ў польцы абцасамі, падкутымі жалезнымі падкоўкамі, дык з-пад ног танцораў сыпаліся іскры аж страх. Нязвычнаму чалавеку блага рабілася, гледзячы на гэтае проста нейкае паганскае дзеянне.

Ды ўсё ж навасельскія ганарыстыя дзецюкі часам жаніліся з габскімі дзеўкамі, іх там было шмат. “Не маеш бабы – едзь у Габы”, – існавала такое выслоўе. За Баярамі ідзе вёска Віржы, тлумачыцца з літоўскай мовы як Верасы, а Габы – як Вязы, Лейці зноў жа па-літоўску як залежныя ад князя людзі. Так на Мядзельшчыне праступае праз славянскае покрыва балтыйская падшэўка. Літуанізмы, як і паланізмы, у мове мядзельцаў – з’ява нярэдкая, а што ўжо запазычанняў з нямецкай, то і не пералічыць.

Некалі пры вуніі навасёлкаўцы былі парахвянамі вуніяцкай царкоўкі ў Весялусе, што стаяла на высокім, са стромымі схіламі, узгорку на ростанях дарог за кіламетраў 5 ад Навасёлак. Пры Польшчы гэтая вуніяцкая драўляная царкоўка служыла касцёлам і была дагледжаная. Пры Саветах касцёл зачынілі. У школьныя гады мы, цікаўныя, там лазілі, падымацца трэба было па шырокіх, выбрукаваных плоскім каменнем прыступках-тэрасах, наверсе побач з будынкам былі пахаванні, пазначаныя прыгожымі металічнымі і каменнымі крыжамі. Будынак быў тады замкнёны, але ў добрым стане. У 50 гады мясцовыя ўлады разабралі гэты помнік драўлянага дойлідства, разабралі на дровы, так ім свярбелі рукі, каб што благое ўчыніць.

Найбольш пашыраным прозвішчам у Навасёлках было Малевіч. Праўда, нашы Малевічы і бачыць не бачылі, і чуць не чулі пра свайго знакамітага цёзку па прозвішчы з яго чорным квадратам. Ды што там нейкі квадрат! Навасельскія аратыя (па-нашаму “артаі”, з націскам на і) сахой ці плугам на нашым складаным рэльефе штогод выпісвалі такую безліч квадратаў, трохкутнікаў, ромбаў і розных крывуль, авалаў і іншых фігур, што аж міла глянуць. Гэта, аднак, рабілася не для славы, не для гонару, а каб пракарміць сябе і сваю дзятву. Жылі небагата, толькі з нівы, не было дзе хоць бы ў сезон дадаткова зарабіць колькі грошай, не было тут блізка казённых бароў з ягадамі, баравікамі, таннымі дровамі на ацяпленне.

Малевічы, раз іх было шмат, каб іх лёгка распазнаваць, мелі яшчэ і прыдомкі пэўных родаў: Малевічы-Махрачы, Малевічы-Туркі (Турачкі, Турчакі), Малевічы-Бізюлькі. Сярод Малевічаў ушчаміліся Клямята, Лук’янец, Жыхар. І яшчэ асколкі вядомых шляхецкіх родаў – Ясінскі, Яцына, Дзевялтоўскі. Апошнія былі найбольш гаротныя, малазямельныя, бедныя, бездапаможныя ці хваравітыя. Самымі новымі ў Навасёлках былі тры прозвішчы – Мехавіч, Качарга і Скурка, дадатковых мянушак яны не мелі. Праўда, Пётра Мехавіч меў прыдомак, вынесены з роднай зусім недалёкай вёсачкі Каньчані – Братачка, але ў Навасёлках ім амаль не карысталіся, хоць і ведалі. Некаторыя людзі акрамя родавых прыдомкаў і афіцыйных “фамілій” мелі індывідуальныя “прозвішчы”: Мікалай Чымчык, Васіль Сецька, Васіль Казёл, Пятрусь Глухі, Юлісь Загорны, Мікалай Кацярынчын.

Мяне ўсё турбавала, што ж гэта азначае – Чымчык. Выпадкова ў Слоўніку ўкраінскай мовы натрапіла на слова “чымчыкуваты” – ісці дробным крокам, потым

убачыла яго і ў вершы Шаўчэнкі. Прозвішча сапраўды адлюстроўвала характэрную рысу чалавека, яго дробную хаду. Ніхто з жывых не мог растлумачыць значэнне слова, незразумелае ўспрымалася як крыўднае, носьбіт яго крыўдзіўся, таму ўжывалі яго "за вочы", а "ў вочы" не казалі, хіба што праз памылку. Так, аднойчы Альжбета, якой трэба было ісці паўз хутар Чымчыка, а яна панічна баялася сабак, спытала ў сустрэтага якраз Мікалая Чымчыка: "Мікалай, ці ёсць у Чымчыка сабака?" Той незадаволена зморшчыўся, скрывіўся ды прабурчэў: "Мусіць воўк панёс".

Навасельская зямля багатая на назвы; кожны куточак, узгорак ці далінка мелі свае ўласныя імёны. Паколькі зямля была гарыстая, то горы (узгоркі) мелі такія назвы: Высокая гара, Зялёная гара, Ягнешына гара, Дзедава гара, Цызыва, Цэцаўка, Француз і іншыя. Пра апошнюю існуе паданне, што калі напалеонаўскае войска адыходзіла, то адступалі і дробнымі групамі, і асобнымі салдатамі. Адзін такі напалеонаўскі ваяка цягнуў за сабой каляску з расейскімі дробнымі грашыма, шмат было тых медзякоў, адна мясцовая сям'я, мужыкі, злавілі гэтага салдата ды і забілі, а грошы забралі сабе. Забітага закапалі на гары, якая з таго часу стала называцца Француз згодна з законамі беларускага маўлення. А маладыя нашчадкі тых забойцаў доўга потым фарсілі: замовіць хто ў карчме выпіўкі, закусі ды сыпане на прылавак жменю дробных грошай не лічачы. Карчмар хціва зграбе іх, маўляў, мы-та ўсё палічым, але і на вока бачна, што хопіць з лішкам. Толькі ніхто ім не зайздросціў, ведама – благія грошы.

Ёсць і іншыя паданні, звязаныя з пэўнымі мясцінамі. Існуе мясціна пад назвай Стары магільнік. Сапраўды, на даволі высокім узгорку былі заўважнымі некалькі вялікіх (доўгіх) магілак, тырчэлі з зямлі камяні, відаць, помнікі. Прыязджалі з Мінска антраполагі, рабілі раскопкі, вывучалі парэшткі даўніх людзей. Гэта рэчаіснасць. А паданне такое. Калісьці жнеі аднаго гаспадара прыпазніліся, ішлі дадому на змярканні, аж бачаць на суседняй ніве, крыху на ўзвышшы, жнеі ва ўсім белым зухавата жнуць і жнуць. Жанчыны крычаць ім, кідайце работу, ужо позна, ідзем разам дадому, а тыя ніяк не рэагуюць, жнуць, завіхаюцца. Жнеі адчулі сябе ніякавата, чаму ніхто не адгукнуўся, і што гэта за мода ноччу жаць, бо ўжо і раса ўпала. Якое ж было іх здзіўленне, калі, ідучы паўз хаты суседа, яны ўбачылі за сталом суседскіх жней, што ўжо канчалі вячэраць. Тады яны здагадаліся, што бачаныя жнеі на полі – гэта здані, бо і месца такое адпаведнае – Стары магільнік.

Навасельская зямля межавала з зямлёй маёнтка пана Снарскага Жосна, да вясковай зямлі прымыкалі Дворны луг і невялічкі лясок Могілкі, увесь на крутых узгорках ды глыбокіх далінках. Туды хадзілі пры пане цішком у грыбы, ягады і часта блудзілі. Выйдзе кабета ці мужык на край лесу, вось дарога, вось белая высока пастаўленая старая капліца, ад яе не больш за вярсту – вёска. А чалавек не можа ісці дахаты, яго цягне ў супрацьлеглы бок – да капліцы. Стаіць чалавек нерухома, сваё поле здаецца яму незнаёмым, ведае, што ад капліцы трэба ісці на ўсход, а яму хочацца на захад. Народнае тлумачэнне гэтай з'яве такое: існуе аблуднае дрэва, шукаючы грыбы, чалавек і не заўважыў, што пераступіў паваленае аблуднае дрэва, таму ў галаве яму ўсё перакруцілася. Зразумела, што аблуднае дрэва – гэта міф, але выпадкаў з перакручваннем у галаве было колькі хочаш. Калі мы жылі ўжо на хутары і наш хутар амаль межаваў з тым ляском пад назвай Могілкі, аднойчы на захадзе сонца выбегла да нас адтуль незнаёмая жанчына, бяжыць па сцежачцы на ўсход. Пытаецца:

– Як прайсці на Гулі (такая вёска)?

Тата ёй кажа:

– Проста ідзі на захад, на заходзячае сонца.

– А што ж гэта вунь за будынкі віднеюцца?

– А гэта хутар Васіля Махрача, – адказвае тата, – табе трэба на Гулі назад вярнуцца, а не ляцець да Махрача, гэта з паўкіламетра.

– Не, – кажа – пайду, я ад Махрача дарогу ўжо знаю.

І подбегам пусцілася ў супрацьлеглы бок ад дому.

Мы доўга смяяліся, але і спачувалі беднай аблуджанай кабеце. Тым больш, што такая аблуднасць ніякія не прымхі і пустыя вераванні, гэта рэальная страта арыентацыі, нейкі збой у арыентацыйным ці навігацыйным механізме чалавека. І хоць навасёлкаўцы наогул лічылі сябе культурнымі, асвечанымі, не якімі ўжо цёмнымі забалотцамі, аднак хапала тут і прымхаў, і забабонаў, як і па ўсіх вёсках ды старых мястэчках.

## Аўдоська і Матэўка

Агульнавядома, што блізкія суседзі важней за далёкіх родзічаў. Асабліва ж у такой сітуацыі, у якой апынуліся мае бацькі: ані роднай душы – натуральных дарадчыкаў ды памочнікаў. Найбліжэйшымі суседзямі ў Навасёлках былі Матэўка (варыянт афіцыйнага імя Мацей, узбягае на памяць тутэйшая дражнілка: "Тадэўка (альбо Матэўка), што табе лепей – ці блін, ці дзеўка? – Пад'еўшы бліна, не блага й яна") і яго жонка Аўдоська, узятая замуж з татавай вёскі Баравой Слабады (афіцыйна – Новікі), гэта было істотным. Відаць, праз іх бацькі даведаліся пра продаж зямлі, словам, тут быў давер, добразычлівасць, прыязнасць. Потым Аўдоську бацькі запрашалі ганаровай бабуляй, калі адбываліся хрэсьбіны, можа, на які пачастунак з іншай нагоды. Хаця асабістай зажыласці, сяброўства тут не было, бо была рознасць узроставая і рознасць характараў. Памятаю Аўдоську як праз імглу – шчупленькая кабетка з жоўтымі валаскамі і сінімі вочкамі, твар нейкі задуменны, адсутны. Рукі ў яе былі худзенькія, пальцы тоненькія, і залаты заручальны пярсцёнак так вольна круціўся на пальцы, што, пэўна, даўно згубіўся б, каб не патаўшчэнні ў суставах гэтых спрацаваных пальцаў.

Людзі баяліся Аўдоські, лічылася, што ў яе "благое вока", хоць сама яна была добрая, ні на каго злосці не мела. Толькі яна неяк забывалася, часам спыніць на чым-небудзь свой пагляд і нібы задрэмле, пільна глядзіць і нічога не бачыць. Калі ж такі пагляд трапляў на чалавека, жывёлу, асабліва на маладняк, то чакай непрыемнасці, бяды. Апавядалі, што наіўная Аўдоська аднойчы вясной ішла па нейкіх справах лужком (у нас казалі – памежкам), а там дзяўчына гусянят пасвіла, дванаццаць такіх пухнаценькіх, жвавых, дагледжаных. Аўдоська пастаяла, палюбавалася ды яшчэ і здзіўленне выказала: "Якія пекныя гусяняты, але во й не дохнуць!" Не паспела яна адысціся на дзесяць крокаў, як дзевяць гусянятак упалі дагары нагамі, паторгалі лапкамі і здохлі. (Гэты матыў мае значнае пашырэнне, дарма прыклалі яго да Аўдоські). Трэба быць справядлівымі: супадзенне ў часе не абавязкова сведчыць пра прычыну, а нават калі і быў магічны пагляд прычынай смерці гусянят, то не па волі чараўніцы, а па яе неасцярожнасці. Наогул яна асцерагалася глядзець на маладняк. Калі мая няпрымхлівая матуля прапанавала Аўдосьцы як ганаровай бабулі і суседцы паглядзець што новае, прыбылае ў гаспадарцы – парасят, ягнят ці тых жа куранят, яна адмаўлялася, казала: "Потым, іншым разам, спяшаюся дамоў і інш." І так заўсёды.

Калі мне было гадоў восем, я захапілася лепкай, матэрыялам мне служыла добрая гліна з ямы, што ўтварылася, калі клалі печ. Мама паказала мне, як яны малыя хутка ляпілі качачак, каб гуляць з імі: раскачаць трэба качалачку тугой гліны, падзяліць на больш-менш роўныя кавалачкі, адзін пакінуць большы, гэта будзе матка, а малыя – качаняты. Адзін канец кожнага кавалачка расплюшчыць і падняць угору, гэта будзе хвосцік, другі – падняць, крыху акругліць і завастрыць – дзюбка. Прымітыўна, умоўна, але на гладкай паверхні лаўкі такая качыная сямейка стварае ілюзію, што качаняты з маці плывуць па воднай гладкай паверхні. А дэталізацыя

і непатрэбна. Так працавалі народныя майстры, ствараючы вельмі выразныя, яскравыя вобразы, якія стымулявалі ўяўленне, актывізавалі ўласны вопыт, назіранні дзяцей. Аднак, мне ў той час адсутнасць дэталізацыі здавалася недахопам, думалася зухвала – я зраблю лепей, птушачкі будуць як жывыя. Якія ж птушкі ўзяць за натуру? Верабейкаў, я іх добра вывучыла, доўга назірала, як яны грамадкай мітуслíва рассаджваюцца на сухой галінцы слівы, стары зверху назірае, а ўсе іншыя глядзяць хто куды. Падабрала я час, калі мамы не было дома, бо крычала б, нашто пэцкаюся з глінай, наляпіла ў натуральную велічыню птушачак, рассадзіла на сліве так, як звычайна сядзелі жывыя верабейкі ў сваіх рудых каптаніках, гліна рудаватая і мае верабейкі таксама рудзенькія, здалёку і не адрозніш ад жывых. Мама паглядзела потым, усміхнулася, нічога не сказала, не зганіла. Праз некалькі дзён пасля гэтага завітала да нас наша бабулька Аўдоська. Села каля акна, паглядае на дварышча. Потым так угледзелася, што на маміну гаворку амаль не рэагуе, адказвае так "угу", "угу". Праз хвілінаў дваццаць пытае: "Што гэта ў вас за вераб'і, колькі сяджу ў вас, ні адзін з іх не ўзляцеў?" Мама збянтэжана тлумачыць, што гэта ж дзяўчына во сабе цацак нарабіла, гэта вераб'і злепленыя. З недаверам і нейкай насцярожанасцю прыняла Аўдоська маміны тлумачэнні, дапытвалася, можа гэта якое чараўніцтва, можа гэта якое супрацьдзеянне вераб'ям, якіх тады ў вёсках пладзілася шмат.

Аўдоська з Матэўкам мелі чатыры дачкі, што засмучала бацьку, ведама, не будзе нашчадка, трэба браць прымака. Прымак потым сапраўды з'явіўся, старэйшую дачку аддалі замуж, не аддалі, а дома пакінулі. Вельмі перажывалі, што ж народзіцца, няўжо ізноў дзяўчынка? Аднак лёс на гэты раз быў літасцівы – нарадзіўся ўнучак. То было вялікае суцяшэнне для старога, ён так даглядаў і песціў малога, што той плаціў яму вялікай прыязнасцю.

## Янук і Паўліна

Блізкімі суседзямі бацькоў, пакуль яны жылі ў вёсцы, былі Янук і Паўліна. Янук – паважаны культурны гаспадар, спакойны добразычлівы чалавек, справядлівы, разважлівы солтыс. У іх меліся два сыны і адна дачка, якая ўжо бралася ў дзеўкі, яна была прыяцелькай маёй мамы. Янук да свайго солтыства быў яшчэ і канавалам, меў такую вельмі запатрабаваную спецыяльнасць, лячыў спосабамі народнай медыцыны жывёлу, лягчаў маладняк, прызначаны на спажыву і да т.п. Людзі ішлі да яго з разнастайнымі просьбамі, быў аўтарытэтным у сваім асяроддзі. Хоць Янук не быў сваяком Юзафа Пілсудскага, але казалі, што дужа на яго быў падобны. Гэтаму спрыялі яшчэ і вусы – рыхтык такія, як у начальніка Польшчы, што часам прыводзіла да камічных выпадкаў. Так, аднойчы ў Слабадзе ва ўправе гміны Янук гутарыў з войтам. Паставу меў годную, апрануты быў у сівы з саматканага сукна фрэнчавы гарнітур па той модзе, добрыя боты. Нечакана ў памяшканне ўсунулася заклапочаная кабета з нейкай сваёй праблемай. Войт жэстам паказаў, моў, бачыш, я заняты, гавару з чалавекам, пачакай там. Тая глянула на чалавека і ледзь не самлела – Юзаф Пілсудскі?! Выскачыла з управы, сама сабе не верыць: "Пільсудзкі? Не Пільсудзкі?" Забылася пра сваю справу і пайшла ў роздуме дамоў на свой няблізкі хутар. З яе доўга потым пасмейваліся, бо пра гэта яна сама ж і раззваніла.

Янука паважалі, а яго Паўліну – не вельмі, занадта была раптоўная, эмацыянальная, мітуслівая, поўная супрацьлегласць свайму мужу. Яны і пажаніліся нібыта з дапамогай чараў, якія прымяніла маладая Паўлінка. Цётка Качаржыха, якая ведала ўсё "ад пачонтку свята" расказвала, што маладыя Янук і Паўліна трохі любіліся, хлопец так сабе, а Паўлінка дык і моцна закахалася. Але ж ведама, не ўсе тыя вянчаюцца, што кахаюцца, у тыя часы лёс маладых часта вырашалі бацькі, радня,

рада-парада, мала думалі пра пачуцці, больш пра сям'ю, з якой мелі парадніцца, яе маёмаснасць, добрую славу, пасагу маладой. Вось і нашаму Януку аднойчы восенню дзядзька кажа: "Паедзем сёння ў сваты, добрую дзеўку табе напытаў". Янук не рашыўся сказаць, што ён сам ужо нагледзеў сабе жонку, ведаў, што сям'я не ўхваліць яго выбар, пачнуцца размовы-намовы, не гатовы быў наразе адстойваць свой выбар. А можа і цікава было, што ж там за дзеўку нагледзеў дзядзька. Сталі на дварэ аглядаць воз, самі апрануліся па-святочнаму. Суседкі адразу зразумелі, што за паездка рыхтуецца, і данеслі Паўлінцы. Тая рашыла: "Не пушчу!" Але як гэта зрабіць. Рашыла зачараваць дарогу, каб конь не пайшоў далей і кропка. Для гэтага, як навучылі дзеўку дасведчаныя бабулі, трэба расапранутай з расплеценымі валасамі забегчы наперад руху павозкі і на мяжы сказаць адпаведную замову. Паўліна так і зрабіла, ды не памагло, сваты як ехалі, так і паехалі. Сапраўдныя "чараўнікі" хітрылі, замова замовай, але яны на дарогу кідалі альбо ваўчыную скуру, альбо мядзведжае сала ці лапы. Тады коні пудзіліся, не йшлі наперад, брыкаліся, што само па сабе было благой прыкметай, у той бок не ехалі, вярталіся дадому. А Паўлінка гэтага не ведала, ды і дзе б яна на скорым часе ўзяла тую воўчую скуру? А нешта ж рабіць трэба было. Вось тады дзеўка рапранутая з распушчанымі валасамі выскачыла з кустоў, кінулася да воза, ашчаперыла голымі рукамі Янука за шыю з плачам: "Янучок міленькі, куды ж ты едзеш, я ж цябе так люблю!" Тут і Янук зразумеў важнасць моманту і прыняў рашэнне: "Дзядзька, – сказаў ён, – заварочвай кабылу, нікуды не паеду, буду Паўліну браць". Так яны пажаніліся, жылі добра, трое дзяцей выгадавалі. А людзям усё нешта не даспадобы, ім не дагодзіш, ім, бачыце, бяда, што надта ж яна перад мужыком скача, улагоджвае, шчабеча да яго. А вам што, зайздросна? Можа і зайздросна, можа хто таксама меў на прыметцы добрага хлопца. Такое здараецца.

Янук і Паўліна былі добрымі суседзямі маіх бацькоў. Пачатак восені 1934 года быў засушлівы, мама пачала выбіраць каноплі, а работа гэта цяжкая, бо глейкая зямля ссохлася на цэглу, і тут яна зразумела, што надышоў час раджаць першае дзіця (мяне). Тата пабег паклікаць Раіну (яна ўсім дапамагала пры родах), каноплі саспелыя засталіся на агародзе, а над імі хмарай вераб'і, вялікія аматары канаплянага семя. У палозе мама турбуецца, што ж будзе з тымі канаплямі? А калі паздаравела і выйшла на агарод, то ўбачыла, каноплі выбраны, павязаны ў снапкі, састаўлены для прасушкі і накрытыя саломай. Хто ж гэта зрабіў? Паўліна з маладзенькай дачкой Гіленай зрабілі гэта, ведаючы, што становішча суседзяў складанае, памочнікаў няма. І потым Гілена часта забірала мяне, калі мама мусова павінна нешта была зрабіць па-за домам і пакідала мяне заснулую. Аднойчы я папрасіла Гілену, якая ішла праз наша дварышча, выцягнуць мяне праз фортку, іншы раз я падказала, дзе мама кладзе ключ. Тая адамкнула хату, забрала мяне, зноў замкнула і ключ паклала на месца. Прыйшла мама, дзіва ды й толькі – хата замкнута, а дзіцяці няма. Здагадалася, пайшла да суседзяў, знайшла мяне там утаропленую ў невядомых істот – вялікіх белых трусоў з чырвонымі вачыма.

Добрыя адносіны захаваліся з вясковымі суседзямі і тады, калі ўсе рассяліліся на хутары і жылі досыць далёка адны ад адных. Потым Гілена выйшла замуж у далёкую вёску, адзін з сыноў Янука згінуў без вестак у партызанах (польскіх, савецкіх?), Янук памёр неўзабаве пасля вайны, Паўліна з малодшым сынам выехала ў іншую мясцовасць.

## Ганэта і Мікалай

Забудова ў вёсцы Навасёлкі была досыць шчыльная, так што жыхары паловы вёскі маглі б лічыцца блізкімі суседзямі. Сям'я ж цёткі Ганэты была блізкай маім бацькам па прыязнасці, па духоўнай блізкасці. Гэтая сям'я была небагатай, але талковай, дружнай, акуратнай, у іх заўсёды ў хаце і на дварышчы быў парадак і чысціня.

Ганэта выйшла замуж маладзенькай за значна старэйшага за сябе чалавека, беларуса з-пад Нарачы з нязвычным прозвішчам Хіхель. Ён доўгі час працаваў у Піцеры на заводзе, а пасля перавароту, пагаладаўшы нейкі час у горадзе, дабраўся ў родныя мясціны. Знайшоў толькі папялішча – там жа стаяў фронт, давялося шукаць працу і прытулак. Дайшоў да Навасёлак, тут трапіў у сям'ю Ганэты. У іх памёр бацька, браты былі яшчэ малалеткі, не было каму рабіць, весці гаспадарку, узялі яго парабкам, а як Мікалай быў чалавекам станоўчым, працавітым, то неўзабаве стаў і прымаком. Усё было добра, але Піцер вельмі падарваў здароўе Мікалая, ён часта хварэў, а дактароў блізка не было, то з гадамі здароўе яго ўсё пагаршалася. Найгорш засмучала Ганэту з Мікалаем, што ў іх не было дзяцей, асабліва перажывала гэта маладзенькая Ганэта. Калі я нарадзілася, да бацькоў прыехала татава матуля Мартуська, каб няньчыць унучку, але нядоўга яна пабыла тут, адзін толькі год, а потым захварэла і памерла. Маме сталі памагаць суседзі, а найбольш Ганэта. Я так да гэтай сям'і прывыкла, так асвоілася, што паводзіла там сябе як дома, загадвала, што мне даць есці і да т.п. Ганэту называла мамай. Пад хатай у Ганэты была добрая лаўка. У нядзелю ці ў святы там сходзіліся жанчыны з немаўлятамі і большымі дзецьмі развеяцца, пагаманіць, параіцца, пасмяяцца. Прыбраныя па-святочнаму дзеці забаўляліся, частаваліся, немаўлят маладыя маці тут жа кармілі грудзьмі, утвараўся нейкі дзяціны фэст. Увесь час падскоквала малеча да сваіх матак, нешта прасіла, лезла на пеляну (на калені), чагосьці дамагалася. Увесь час чуцен быў вокліч "Мама!" Ганэта сядзела сярод жанчын знешне спакойная, але я ў свае няпоўныя тры гады разумела, што ёй крыўдна, добра памятаю гэта. Таму я падбегла да яе ды сказала: "Мама, я есці хачу!" Гэта знарок, каб сказаць "мама". "Пачакай жа, – сказала Ганэта – зараз пойдзем абедаць". "Якая яна табе мама, – стала дражніць мяне нейкая кабета, – твая мама – Надзея". "І Ганэта", – настойваю я. "А ты сіську ссала ў Ганэты?" – далей весяляцца жанкі, а мне і сказаць няма чаго. Тады я скокнула на пеляну да Ганэты і гучна, каб усе чулі, папрасіла: "Мама, дай сіські!" Тая ўсё разумее, расшпіліла блюзку, дастала са станіка грудзі, я акуратна ўзяла вуснамі смочку, але не смакчу, толькі так трымаю, каб усцешыць добрую Ганэту і даказаць цёткам сваю праўду. Усе смяюцца з майго тэатра, але больш нічога не кажуць.

Запомнілася таксама, як мяне зусім малую мама з Ганэтай паслалі з той лаўкі па дзядзьку Мікалая, паклікаць абедаць. Я патопала сярэдзінай вуліцы па раздзяляльнай лініі, забрукаванай плоскімі, больш шырокімі камянямі. Дайшла да вяза, пад якім у цяньку збіраліся мужыкі, угледзела таго Мікалая, ды гучна і патрабавальна: "Мікалай, абедаць!" Усе мужыкі заўсміхаліся, Мікалай такі задаволены падняўся, узяў мяне на рукі і панёс дадому, што ж, абедаць дык абедаць. У іх хаце я першая залезла за стол, і цётка Ганэта мне першай наліла ў місачку стравы. Я тады і не адрознівала, дзе мой дом, у мамы, ці ў цёткі Ганэты.

## Кракавякі

Акружаная добразычлівасцю, ласкай, з маленства я расла смелай, без комплексаў сарамлівасці ці боязі чужых людзей, да таго ж я адразу выразна гаварыла, не картавіла, лёгка ўсё запамінала. Відаць, маме захацелася пахваліцца мной, бо ўсе жанкі наперабой выхваляліся сваімі сынкамі і дачушкамі, расказвалі, як уцешна яны нешта робяць ці кажуць. Вось і мама паддалася агульнаму настрою і зрабіла памылачку, адзін гэты раз, больш ніколі. Яна навучыла мяне некалькім польскім прыпевачкам, гэтак званым "кракавякам". Ужо калі я стала дарослай, яна мне іх пераказала і распавяла пра маё першае выступленне каля той жаночай зборні. Вось гэтыя прыпевачкі, пэўна, мама запомніла іх з якойсьці дзіцячай кніжкі з часоў польскай школы:

Powiadają o mnie,
Że ja malowana,
A ja w swojej mamy
Chlebem wychowana.

Powiadają o mnie
Że ja, jak laleczka,
A ja w swojej mamy
Wstaję od świateczka.

Obiad ugotuję
I gąski popasę
I co dzien wydoję
Obie krówki nascze.

Пра мяне гавораць:
Як намалявана!
А я ж у матулі
Хлебам гадавана.

Пра мяне гавораць:
Мамчына пястушка!
А я ж у матулі
Ой, ранняя птушка.

Падаю кароўкі,
Гусак нагадую,
І сваёй матульцы
Снеданне згатую.

(Прыблізны пераклад мой. – *Л.С.*)

Ну што ж, прыпеўкі вельмі неблагія, усе так мяне хвалілі, мама была задаволеная. Але ж у вёсцы кожную драбніцу, кожную навіну абмяркоўваюць, паварочваючы яе і туды, і сюды, і так, і наўскасяк. І выйшла ўрэшце не вельмі прыемна, нібыта маладыя мае бацькі надта хінуцца да Польшчы, што трохгадовае дзіця вучаць польскай мове. У вёсцы было дастаткова людзей настроеных супраць польскіх уладаў (надта ж яны ганарыстыя, на простай мове да іх не звярніся), гэта былі альбо маладыя хлопцы з праваслаўных сем'яў, якіх падзуджваў праваслаўны поп-русафіл, альбо проста моцна традыцыйныя людзі, якія маглі асудзіць любога за не па-тутэйшаму сказанае слова.

І вось суседскія хлопцы насуперак польскай тэндэнцыі навучылі мяне, дурненькую, беларускім прыпеўкам самага непрызваітага зместу. Чарговы раз на просьбу паспяваць я іх і агучыла. Нічога страшнага не здарылася, але маме было непрыемна. На гэтым мае выступленні спыніліся. Я ўсяляк адмаўлялася спяваць. Аднойчы зайшла ў хату да Васіля Махрача напіцца вады. Стары Махрач адзін сядзеў у хаце, адпачываў – была нядзеля, усе разбегліся хто куды. На маю просьбу напіцца вады сказаў:

– Пі!

Вядро з вадой стаяла на лаве каля дзвярэй, кубак вялікі і цяжкі – з гільзы ад гарматнага снарада, вада цёплая, з непрыемным металёвым смакам. Я яе толькі смаканула, а хітры стары кажа:

– А цяпер папяі!

Я кажу:

– Добра, але я стану на парозе.

– Ну, стань!

Я стала ды кажу:

– Можна, я стану ў сенцах

– Ну, стань сабе.
– Можна, я стану на ганку?
– Можна.

Як толькі я стала на вялізны плоскі, выгладжаны нагамі камень, што служыў за ганак, то адразу паскакала, не пытаючыся, да мамы, што гутарыла непадалёку з жанчынамі. Стары потым гэта ўсё і расказваў, смеючыся, бо хто б тое ведаў.

## Даніель і Крыстына Даніеліха

Гэта была выразна неадпаведная, недабраная пара: ён невялічкі, сагнуты, паніклівы, ды й моцна, амаль нічога не бачыў перад сабой, яна – стройная, высокая, адна з нешматлікіх высокіх жанчын у вёсцы, была своеасаблівым эталонам вышыні. За польскім часам гадзіннік калі хто і меў, то ці ж яго насіў, хіба што ў госці ці на фэст надзяваў, час даволі дакладна вызначалі па сонцы, наколькі яно высока стаяла над гарызонтам. Гаворачы пра час нейкай падзеі, асабліва надвячоркам, чалавек казаў: “Сонца было як Даніелісі качаргой дастаць”, і слухач разумеў, прыкідваў ва ўяўленні, што гэта быў яшчэ досыць ранні адвячорак. Даніеліха можа здавалася такой высокай з-за свайго доўгага, да зямлі, цёмнарудога адзення, габіту, устаўнога ўбрання нейкага “закону”, бо яна была “законніцай” (манахіняй), але жыла ў сям’і, а не ў манастыры, толькі выконвала статут таго ордэна. Суровага нештодзённага выгляду Даніеліха была пострахам для дзяцей, а я з дзяцінства не люблю руды колер адзення, хоць ведаю, што ёсць вельмі прыемныя адценні і спалучэнні з іншымі колерамі. Даніеліха заўсёды насіла з сабой “ружанец”, па якім яна адлічвала пацеры (тут не казалі “малітва” а заўсёды “пацеры” – “змоў пацеры ды кладзіся спаць”). Яна ж арганізоўвала “маёвыя” – нядзельныя сходы пераважна жанчын у пэўнай хаце. Звычайна ўпрыгожвалі кветкамі абраз, здаецца, Маці Божай, спявалі набожныя песні, хто ўмеў з кантычкі, а большасць так сядзела, у пэўны час станавіліся на калені, а што рабілі болей, то і не ведаю. Хоць гэта нібы каталіцкая завядзёнка, але ішлі ўсе, хто меў час, і каталікі і праваслаўныя, а пратэстантаў у нас не было, яны ў 30-я гады з’явіліся ў недалёкіх Габах, гэтую моду прывезлі тыя, што вярнуліся з Амерыкі. Законніца Даніеліха старалася дзеля свайго закону, аднак асаблівай павагі ў аднасяльчан не заслужыла, то анекдот пра яе выдумаюць, то на тых маёвых, майскіх зборах моладзь, падлеткі, дзеці так разбушуюцца каля хаты (маліліся ці толькі прысутнічалі адны дарослыя жанчыны), што іх усцішалі пагрозамі, а часам і дубцом, а хлопцы ў адказ набяруць кішэні майскіх жукоў, уклёнчаць за кабетамі ды напусцяць тых жукоў поўную хату. Праз пэўны час толькі і чуеш сярод спеваў: “Ай, ай, што гэта!” А потым пагрозы свавольнікам шлюць, а самі ледзь стрымліваюць смех. Так што ахвотна ішлі на маёвае, весяліліся, гэта як бы насуперак надта набожнай Даніелісе.

Малодшая дачка Даніеліхі заседзелася ў дзеўках, ведама, на гады яе красы прыпала вайна, а пасля вайны дзецюкоў яе ўзросту не стала, падраслі малыя, ды што за кампанія 16-18 гадовыя хлопцы нармальнай дзеўцы, якой пад трыццаць? Таму яна перастала хадзіць на вечарынкі і іншыя зборышчы моладзі, рабіла дома работу, бо братавая хварэла, але ў святы ці нядзелю ёй не было дзе дзецца, самотна, маркотна. Ды яшчэ і маці-манахіня чапляецца: “Сядзіш тут, нудзішся, пацёркі б Богу змовіла”, на што дачка нібыта адказвала: “Я ўжо Богу пацёркі ані шэп, калі ён не даець мне людскага чалавека!” “У-у, бязбожніца, недавярак, скарае цябе добры Божачка”, – папракала яе старая. А ці быў гэты дыялог на самой справе, ці яго выдумалі навасельскія дасціпнікі, нельга праверыць, гэта ўжо фальклор.

А і дарма абуралася дзеўка, неўзабаве пасватаўся да яе чалавек з далекаватай вёскі, яе ўзросту і пастаці, талковы і працавіты, жонка ў яго памерла, пакінуўшы шасцігадовую дзяўчынку, якой так патрэбны быў дагляд, жаночая ласка. Хутка

гэтая дзеўка забрала сваю машыну да шыцця і пераехала да мужа, пра яе і забыліся. Праз год мне выпадкам давялося ісці з гэтай жанчынай у адну дарогу. Як жа яна змянілася, пахарашэла, стала ўсмешлівай, гаваркой. Расказвала, што дзяўчынка адразу стала называць яе мамай, а яна перашывае ёй са сваіх сукенак уборы, дзіця ходзіць, як лялька, а яна па заказу дачушкі пячэ ёй адмысловыя аладкі, песціць дзіця. Усё добра складваецца ў яе сям'і. Што ж, не ведае чалавек, дзе яго чакае шчасце ды часам яшчэ і на Бога гневаецца!

“А як Даніеліха стала законніцай?” – спытала я аднойчы дасведчаную цётку Качаржыху. О, гэта асобная гісторыя!

Крыстына-Крыся была высокай, танклявай і прыгожай дзяўчынай, мадэльнай знешнасці, сказалі б цяпер. Служыла ў паноў па суседству, на няшчасце спадабалася гаспадару. Лёс служанак, ды яшчэ і прывабных, быў вядомым, можна сказаць тыповым у краіне, дзе яшчэ нядаўна існавала паншчына, няволя чалавека. Праз пэўны час пану ўжо было патрэбна пазбавіцца ад служанкі, найпрасцей – гэта назначыць ёй пасагу і аддаць замуж. Раней такіх служанак аддавалі за старых конюхоў ці садоўнікаў, каб заставалася непадалёку, а Крысю ўсваталі ў блізкую нашу вёску за няўдалага такога Даніеля, малога і з дзяцінства моцна паніклівага (блізказрочнага), ледзь сцежку перад сабой знаходзіў. Яго бацькі былі рады, пан даваў значны пасаг, а пра пачуцці тады мала думалі. А пан не забываў сваю падапечную: у свята прыедзе на брычцы, кліча Крысю, хоча падвезці яе ў касцёл. Ну, у касцёл, дык у касцёл, каму якая бяда. Крыстынка часта раджала дзетак і, дзякаваць Богу, здаровенькіх, відушчых, рослых. Так цягнулася досыць доўга, ды ўрэшце перастаў пан наведваць былую служанку. Дык яна адразу прыняла манаства, уступіла ў закон, стала законніцай. Дзеці падрасталі, Даніель боўтаўся па дварышчы, зямлю абрабляць ён не мог, мусіць, здавалі арандатарам, насіў ён у сабе злосць і крыўду на сваю былую нібы жонку, нават пагражаў адлупцаваць яе, казаў: “Ну, дабяруся!” І зручны выпадак надышоў. Даніеліха якраз мясіла хлеб у вялізнай дзяжы, па локці ўсунуўшы рукі ў тугое цеста, тут Даніель падкраўся і складзенымі ў чатыры столкі лейцамі некалькі разоў добра ткі аперазаў сагнутую Даніеліху па спіне. Тая, паважаючы хлеб, што называецца не стала мараць рукі, адбівацца, толькі сказала: “Адыдзіся, дурань!” Ды Даніель і сам ужо збег у сваю каморку. Але ж такі спагнаў злосць! Так і жылі Даніель з Даніеліхай, якая часам магла качаргой дастаць да сонца.

## Максім барадаты

Недалёкім суседам і прыязным чалавекам быў Максім Дзевялтоўскі. Пра яго жонку Наталлю і сказаць няма чаго, бо гэта была ціхая, бязмоўная амаль істота, хваравітая, хоць і панараджала кучу дзяцей. Хоць прозвішча ў Максіма было гучнае, але нэндзны маёмасны стан, дзіўнаватая жонка і іншыя прычыны звялі яго ў вясковай іерархіі на самае нізкае месца. Выгляд ён меў фацэтны – невысокі мужычок, даўгаватае тулава на кароткіх крываватых ножках, бедна апрануты, з доўгай шэрай барадой, нібы нейкі міфалагічна-казачны персанаж. У той час ніхто ў нашых ваколіцах не насіў барады, у рабочыя дні, зразумела, хадзілі зарослымі, але да нядзелі ці да свята ўсе стараліся чыста пагаліцца. Вусы, як у Пілсудскага, мелі, можа, два ці тры чалавекі. Доўгая скамечаная барада Максіма не пакідала абыякавымі чыста паголеных навасёлкаўцаў, а тутэйшыя дасціпнікі адразу прыляпілі да яго дражнілку:

Максім барадаты
Любіў тое, што ў Агаты,
А Агата не любіла –
Качаргой адчубіла.

(Была яшчэ і горшая дражнілка, якая пачыналася: “Памёр Максім...”).

Агата тут, зразумела, толькі дзеля рыфмы, хоць і мелася такая ў наяўнасці старая бабулька, жыла нібыта 110 гадоў, але ніколі не зведала зубнога болю, а калі хто скардзіўся на гэтае недамаганне – не верыла, казала: “Быць таго не можа, каб костка ды балела”. Адным словам бабулька-дыназаўр тут ні пры чым, сэнсавае слова тут “барада, барадаты”. Адметны свой выгляд Максім падмацоўваў яшчэ і адметнасцю гаворкі. Мова яго вызначалася нейкай урачыстасцю, нібы ён не з суседам перакідваўся словамі, а прамаўляў на зборні: “Сястра!” – звяртаўся ён да кабеты, “Панімаіш, брат!” А звычайна ж людзі звярталіся да сябе па імёнах – Мікалай, Юстын, Міхал і інш., дык Максіма перадражнівалі і часам вельмі дасціпна, падобна. Мама апавядала, што калі вясной у нас апарасілася свіння і жвавыя рабенькія парасяты насіліся па дварышчы, “рабілі мяцеліцу”, і мяне, трохгадовую, было не адцягнуць ад гэтых жывых цацак, здарыўся дробны недагляд – не заклалі падваротніцу, парасяткі вышмыгнуліся на вуліцу. Я зараўла немым голасам, усіх перапалохала, а малышня зноў вярнулася да маткі, і ніякай бяды не было. Максім палічыў неабходным патлумачыць маёй маладой маме сэнс майго плачу (хоць і не ведаў яго прычыну). “Сястра! – казаў ён, – гэта дзіцё вяшчуе вялікае гора, вялікае няшчасце!” Мама па маладосці не прыдала яго словам ніякага значэння, пасмяялася, а можа ён і меў рацыю?

Як бы там ні было, але прыгожае старажытнае імя “Максім” спадар Дзевялтоўскі вельмі падпсаваў. Трэба ж ведаць, што пакуль памяталі Максіма барадатага, ніхто ў ваколіцы не назваў хлопчыка Максімам. Ажно праз дзесяцігоддзі адзін навасельскі жвавы хлапчына, які не чуў пра даўно памерлага аднасяльчаніна, зрабіў сваім тату з мамай неспадзяванку: мала таго, што на першым курсе інстытута займеў жонку і сынка, дык яшчэ і назваў малога Максімам. Бедная ўшчэнт збянтэжаная маці апраўдвалася перад суседкамі: “Ай, ай, што наш дурненькі вырабіў, назваў хлапца Максімам”. Паступова толькі пераадолела сябе, прызвычаілася – родны ж унучак, Максімка.

Максімавы дзеткі – Астапка, Дзімітрачка, Гіленка, Стаська, можа каго і прапусціла, раслі напаўгалоднымі і халоднымі, абы-як апранутымі, часам абсмяянымі неспагаднымі аднагодкамі, што і казаць – не зайздроснае ў іх было дзяцінства. Таму, як старэйшага прызвалі ў войска, а служыць яму давялося ў далёкай Грузіі, то са службы ён і не вярнуўся, неяк непрыкметна ўсе малодшыя з’ехалі да яго ў тую бласлаславёную цёплую Грузію і зніклі, ні адведкаў, ні ліста, ніякіх звестак. Ды і каму б яны былі цікавымі? Відаць, яны былі радыя ўцячы з неласкавай радзімы, ад больш шчаслівых і не вельмі прыязных землякоў. Так знік род Максіма Дзевялтоўскага ў нашай вёсцы на вачах аднагодкаў, але і вёска, па сутнасці, таксама ж знікла ў гэты ж час (апошнія дзесяцігоддзі XX ст.) – людзі, асабліва малодшае пакаленне, прагаласавалі нагамі супроць калгаснага “раю”, з’ехалі куды хто змог.

## Яцына, які Бога ашукаў

Гэтае вядомае ў гісторыі Беларусі прозвішча ў Навасёлках рэпрэзэнтаваў Аляксандра Яцына, адзін з нестарых яе насельнікаў. Яцына быў беззямельным шляхціцам, служыў арандатарам ці то запашнікам у фальварку Гінеўка, быў жанаты, меў дарослага сына. Сын пайшоў у прымакі, жонка памерла, гаспадаркі ўласнай не было. Сасваталі яму немаладую дзеўку Марцэлю, служанку з фальварка Кавалькі, якой разам з сястрой Ягнешай дасталася ў спадчыну зямля ў Навасёлках. Са спадчынай вырашылі добра, згодна: усю зямлю, а яе і было няшмат, аддалі Марцэлі, а затое Ягнешынага мужыка выправілі ў Амерыку на заробкі, пакінуўшы Ягнешы толькі пляц з паўгектара, дзе была яе хата. Гэты пляц быў на высокім узгорку, які стаў называцца Ягнешына гара. Так, удала ажаніўшыся, Аляксандра Яцына стаў гаспадаром. Наогул пара сабралася адпаведная, як кажуць, абое рабое. Муж быў

звыклы гаспадарыць на чужым, дзе, як вядома, моцна не рвуцца, не рупяцца. Жонка таксама не прывыкла надта высільвацца ў чужых людзей, не так, як сапраўдныя сялянкі. Не ўмела яна хутка прасці, была няўмелай ткалляй, не ўмела, а і не было з чаго наварыць стравы, накарміць сям'ю. Усё гэта праявілася пасля, а на першым разе ўсё ішло як мае быць. Цікаўныя (і кплівыя) навасёлкаўскія мужыкі дапытваліся ў Аляксандра ці ўдалася яму жаніцьба. Той шчыра прызнаваўся: "Браткі мае, я ўжо й Бога ашукаў! – дзеўка папалася цнотка (цнатлівая)". Ну і гаспадаром стаў як бы ні было – уласную зямлю займеў.

Калі рассяліліся на хутары, а гэта патрабавала шмат дадатковых намаганняў і матэрыяльных выдаткаў, то Яцыны моцна загаравалі, вясной не было чаго есці, можа якога шчаўя зварaць. Тады дамовіліся з маім татам, што падлетак Бронька будзе ў нас за пастушка. Ён так шчыра адносіўся да сваіх абавязкаў, быў нават горды, што займеў такую пасаду, дзе яго кормяць, апранаюць, а дома ж галадуха не дай Божа, ды яшчэ ўвосень і заплацяць. Пасвіць тры галавы жывёлы зусім нескладана, Бронька крыху расслабіўся ды аднойчы соладка задрамаў, а каровы сюды-туды, сталі хуценька шукаць новае месца, новую пашу, і прайшлі праз нядаўна засеяную суседскую ніву, пакінуўшы выразныя сляды. Шкоды ніякай не зрабілі, але ж ступілі на чужую зямлю. Суседскія больш дужыя хлопцы пабілі нашага Броньку, а тата мусіў заплаціць штраф 5 злотых, то Бронька надта перажываў, што так падкачаў. Ён прагнуў помсты. Нарэшце гусі таго суседа ўзышлі на нашу рунь, дарослых дома не было, Бронька сам навёў парадак: гусей загнаў у наш хлеў, а вароты замкнуў на замок. Вось цяпер вы штраф заплаціце! Аднак ён не прадбачыў наступальную сілу суседкі Матрункі. Убачыўшы, што Бронька заганяе яе гусак у хлеў, яна кінулася за імі, а вароты ўжо былі замкнёныя, дык яна па-пластунску палезла пад вароты, павыкідала з хлява гусей, а тыя, настрашаныя, падняліся на крылле і паляцелі дамоў. Матрунка вылезла з-пад варот ды бягом за гусямі. Дужа шкадаваў Бронька, што не адбыўся яго поўны трыумф, што гэтая рашучая і скнарная Матрунка і ў агонь палезла б за сваімі гускамі, але ўсё ж ён адпомсціў, паказаў, што па-суседску трэба жыць мірна, бо і сам трапіш у складаную сітуацыю. Гэты аповед набыў нават вядомасць, бо слухачам было весела ўяўляць, як Матрунка пад варотамі ў чужы хлеў лезла.

## Рассяленне на хутары

Жывучы ў невялікай вёсцы, запланаванай на трохпалёвую сістэму земляробства, чалавек быў падтрыманы грамадой, але адначасова і абмежаваны "рабі так, як людзі робяць, пачынай тады, калі суседзі пачынаюць". Не спазніся звезці снапы з поля, бо з панядзелка на аржышча пусцяць кароў, папар не засявай, бо летам ён служыць пасьбішчам і да т.п. Шчыльна забудаваная вёска выключала мажлівасць адасобленага жыцця, хочаш не хочаш – пра суседзяў будзеш ведаць усё (як і яны пра цябе), выйшаў на ганак, прынюхаўся да ранішняга паветра і ўжо ведаеш, што сёння суседка пякла аладкі, а ўчора яечню на сняданне.

Праца на прыродзе, дзе рытмы задае само сонца, знешне, а часткова і знутры, выроўнівае ўсіх, нібы салдат у вайсковых шэрагах. Ды ўсё ж людзі застаюцца рознымі, такімі, якімі іх запраграмавала прырода – вясёлымі і пахмурнымі, пяюнамі ды танцорамі і такімі, што ні разу не заспявалі, не выйшлі на танец. Аднолькавыя абставіны, аднолькавыя працоўныя працэсы і здаўна выпрацаваныя традыцыі яднaлі людзей, выраблялі такое паняцце як "свае людзі", "наськія". Навасёлкаўцы пры ўсёй іх скрытнасці, хітрасці, часам няшчырасці, нават непрыязнасці паміж асобнымі людзьмі і нават сямейнымі кустамі, усё ж свае канфлікты вырашалі самі, рэдка, а можа і ніколі не звяртаючыся да афіцыйных улад, на той час польскіх. Некалькіх чалавек, што мелі поцяг да крадзяжу, ведалі, у душы імі пагарджалі, але

ж пры сустрэчах размаўлялі, не абражалі; злавіўшы на гарачым, добра білі, але не выдавалі паліцыі. Пры зменах улад – расейскіх, польскіх, савецкіх, акупацыйных нямецкіх – “сваіх людзей” не выдавалі, хоць і ведалі праціўнікаў ці прыхільнікаў пэўных рэжымаў.

Чаму навасёлкаўцаў першымі выбралі на рассяленне на хутары? Можа таму, што вёска была невялікай, якіх паўсотні двароў, можа таму, што тут пароўну было праваслаўных і каталікоў, што з гледзішча палякаў павінна было раз'ядноўваць людзей, хоць так і не было, можа таму, што ў вёсцы былі людзі, што вярнуліся з замежжа і ведалі перавагі хутарской, фермерскай гаспадаркі. А можа таму, што паблізу ўжо былі хутары – тарыздворскія, геляноўскія, Віктарполле, Весялуха. І вёска Гулі рассялілася на хутары. Суседняя з намі вёска Баяры, жыхары якой спрэс каталікі, лічылі сябе амаль што шляхтай, на хутары не йшлі, захавалі старасвецкі лад жыцця. А навасёлкаўцы неяк адразу згадзіліся, відаць, спадзеючыся нешта вельмі прывабнае выгадаць для сябе – ці пазбавіцца ад безалабернага суседа, чые куры ды парасяты вечна пасуцца ў яго лехах (градах), ці пасяліцца ў аблюбаваным зацішным месцы, ці спрытам узбіцца на большы надзел, на лепшую глебу і інш. Раней тры роўныя часткі навасельскай зямлі былі падзеленыя палосамі – валокамі, якія ў выніку сямейных падзелаў сталі паўвалоччамі, трацінамі, чвэрткамі, васьмухамі. У кожнага на яго паласе – шнуры траплялася і добрая глеба, і няўдобіца, і амшарыны. І ўсім у канцы прыпадала крыху балота. А цяпер меліся нарэзаць зямлі ў адным кавалку на гаспадара, і ўсім хацелася, каб яму не дасталася балота. Вельмі складаная гэта справа – падзяліць зямлю. Трэба ж, каб кожны гаспадар меў вольны выезд на грамадскую дарогу, а то сусед абгародзіць свой хутар і не пусціць па злосці праз сваю зямлю выехаць ці выйсці куды. Але на гэта ёсць землямерная навука – каморніцтва, яна ўсё вырашыць слушна, адно што наша ўзгорыстая зямля – не аркуш паперы, дзе ўсё проста, па лінейцы. Накрэсліў каморнік простую новую дарогу, да якой прымыкалі шматлікія хутары, якім ствараўся выезд на шашу, добра яна выглядала на плане, а на мясцовасці дзесьці ішла па грунце, дзесьці праз амшару, дзесьці праз круты ўзгорак, пад якім было міні-азёрка – латока. Па той дарозе ад пачатку да канца ніяк не праедзеш, даводзілася рабіць лукаткі па чужых палях, па даўнейшай палявой дарожцы.

Каморнік пан Пурскі быў вопытным, цынічным, распусным ягамосцем, у лапу браў смела, у тым ліку і натурай. Праца ў яго была складаная, але ён умеў добра ўладкавацца, выкарыстоўваючы трапяткое стаўленне сялян да зямлі, памыснае ці не вельмі вырашэнне падзелу якой было спраўджаннем ці не найбольш запаветных мараў, спадзяванняў. І дзіва, пан Пурскі неяк умеў усіх задаволіць, нават тых, што не ўмелі даваць у лапу і былі прыкметна абдзеленыя, не скардзіліся на яго. А некаторыя былі на сёмым небе ад шчасця. І было з чаго цешыцца. Вось дзядзька Паўлюк свае больш за дваццаць гектараў атрымаў “замхам”, месцы ізаляваным, адгароджаным верхавым вузкім балотам, але блізкім ад шашы – цішыня, спакой, але і зносіны са светам зручныя. Іншыя багатыры палічылі зручным для сябе застацца на старых вясковых сялібах, дзе ім станавілася prасторна пасля адсялення суседзяў, а зямельныя надзелы ім наразалі, пачынаючы ад старога дварышча. Такіх гаспадароў было некалькі, але былі і зусім бедныя, нямоглыя, улічыў каморнік, што ім не хопіць сілы кудысьці перасяліцца.

*(Заканчэнне будзе)*



Уладзімір Мароз



...калі ляжаў Маякоўскі ў труне,

на падэшвах свяціліся гайкі...

# Рымскі студэнт

***З аповедаў жыцця***

Элегантна, вытанчана, далікатна, зграбна... Хутчэй ужо – выкшталцона. Падбіраю азначэнні да таго, што бачу на фотаздымках. А там дваццацігадовы хлопец, мой сын Даніла ў сваім універсітэце ў Рыме. Вечны горад адчуваецца нават у дробязях – пад нагамі акуратная брукаванка з квадратных камянёў, якія ствараюць паўцыркульны малюнак. За постаццю маладога чалавека невялікая лесвіца, што вядзе на галерэю з агароджаю, парэнчы якой трымаюць класічнай формы балясіны. На другім фотаздымку ён у калідоры будынка, абапёрся на падваконне, праз шкло відаць арачныя, не сённяшняга дня, вокны ў сцяне, што насупраць.

Але тут не гэта галоўнае, найперш чапляе вока ўбранне весняка. Каб не спыняла нязвыклае слова, патлумачу, што яно ў мяне ад Міхала Баброўскага, які выдаў у 1835 годзе катэхізіс на беларускай мове для веснякоў рымска-каталіцкага веравызнання. Вось і здаецца мне цяпер, што “вясняк” лепш гучыць па-беларуску, чымся “юнак”. Больш дакладна і зразумела, бо гэта вясна жыцця. Дык вось. Глядзіць у камеру малады чалавек у белай

кашулі з доўгім тонкім гальштукам. Светла-шэрыя порткі з папружкай, на нагах акуратныя карычневыя туфлі са шнуркамі. У правай руцэ чорная папка, яшчэ з Мінску, левая за плячыма трымае пільчак. Яго лепш бачна на другім здымку, ён цёмна-карычневы. Зноў жа не на плячах, бо не холадна, а трымае яго Даніла на правай руцэ. Такое вось убранне рымскага студэнта, стыльнае, густоўнае. Калі ўбачыў гэтыя здымкі, якія прывезла дачка Марына, адразу прыйшло ў голаў, што ў Беларусі, у Мінску студэнты гэтак не апранаюцца. Тут па-ранейшаму ў модзе разнастайныя джынсы, а пра гальштукі і гамонкі няма. Зразумела, ёсць і ў нас маладыя людзі з густам, але так вось апранацца Данілу падштурхнуў не толькі добры густ, але і асяроддзе, напэўна. Ці проста яго самадастатковасць, якая мне вельмі падабаецца. Паважаць напачатку важна самога сябе, тады і іншых шанаваць атрымаецца, больш шансаў будзе.

* * *

Убранне сына незнарок паклікала доўгую чараду згадак аб сваім жыцці, адзенні-вопратцы маіх ужо шасцідзесяці гадоў. Лагічным меўся б пачатак з самага дзяцінства, ледзь не з нараджэння. Балазе, дзіцячыя фотаздымкі мяне са старэйшым на два з кропляю гады братам Алегам ёсць. Сапраўды, на тых здымках мы амаль заўсёды ўдвох. Відаць, калі бацькі клікалі фатографа ці прыводзілі нас у фотаатэлье (думаю, што яно было ў Косаве, дзе мы нарадзіліся – горад жа як-ніяк, з даўняй гісторыяй), адразу ўдвох сфатаграфаваць было проста танней, чымся паасобку. Якія грошы зараблялі ў сярэдзіне пяцідзясятых, бедных, яшчэ з адгалоссем вайны гадоў маладыя настаўнікі? Пытанне больш рытарычнае. Ды і касцюмчыкі просценькія, але і акуратныя, у нас былі аднолькавыя ў дашкольныя гады, шыць ці купляць – то адразу двум. Яшчэ і выхаваўчы момант – не вылучаецца ніхто. Праўда, аб такой ужо беднасці гаварыць не даводзіцца, на адным зімнім фотаздымку мы нават у натуральных футрах. Але давайце будзем шчырымі – дзіцячыя згадкі, якія светлымі праблiскамі засталіся ў памяці, аніяк не звязаныя з тым, ува што ты быў апрануты. Найперш гэта бацькі, дзядулі і бабулі, гульні, забавы, Нёман (з нараджэння штогод мы лятавалі ў маміных бацькоў бабы Мані і дзеда Косці ў Мікалаеўшчыне), дзе вучыліся плаваць, першы баравік у лесе, які падрастаў разам з намі каля хутара, "дурань" у карты, гуляць у якія навучыліся з дзетдомаўцамі ў Косаве. А яшчэ бацькава Цякалаўшчына ў Нясвіжскім раёне, баба Алеся і дзед Іван, які малых браў з сабою, калі канём ездзіў па хлеб для вясковай крамы, што месцілася ў яго хаце, у далёкую (так здавалася) Лань.

Першая асэнсаваная згадка, звязаная з вопраткай – гэта ўжо сярэдзіна шасцідзясятых, школьныя гады на другую палову. Калі і дзе купіла мама нам з братам новыя пільчачкі – не ведаю. Але яны былі ўжо розныя. У Алега цёмны, строгі, у мяне светла-шэранькі, у клетачку, можна сказаць. Што нам стрэліла, але выбраліся з Мікалаеўшчыны (зноў жа летам справа была) у Стоўбцы спецыяльна сфатаграфавацца ў гэтых пільчаках. Фотапартрэты зрабіць, так бы мовіць. Ужо, напэўна, аўтобус хадзіў, праблемы дабрацца праз лес ці кругаля занёманскай дарогай не было. Так і зрабілі. Фотаздымкі атрымаліся цудоўнымі, баба Маня адразу ўставіла іх у рамку, так што кожны год я хоцькі-няхоцькі бачыў сябе ў тым пільчачку. Больш хоцькі, бо мне той здымак вельмі падабаўся. Круглатвары хлопчык з акуратненькай прычоскай, высокі разумны лоб, пагляд сур'ёзна-дарослы, але ніякага напружання ў твары. Пры жаданні (цяперашнім, натуральна) можна згледзець у тым паглядзе прадчуванне будучага творчага шляху. Белая кашулька, пільчак у клетку. Шляхецкі пільчак, скажу цяпер, а тады мо так і адчуваў, але неўсвядомлена. Ці не ад гэтага здымка ўвогуле ў мяне любоў да піджакоў? Не люблю швэдры, джэмперы, усё жыццё насіў пільчакі.

Той здымак – яшчэ і сведчанне ўвагі да вопраткі. Прачнулася яна, нікуды не дзенешся ад сталення, узнікла жаданне мець выгляд і падабацца дзяўчатам. О, шасцідзясятыя гады! Час фізікаў і лірыкаў, адначасна і рамантыкаў. У кіно школьнікі, акуратна адзетыя, пры гальштуках, разважаюць аб складаных фізічных ці матэматычных праблемах, чытаюць вершы, шукаюць першае рамантычнае каханне. Як мне хацелася быць падобным да тых падлеткаў з кінаэкрана! Дарэчы, любоў да гальштукаў пэўна адтуль, іх я насіў практычна ўсё жыццё, мне гэта здавалая элегантным. Але ўжо гадоў як пяць кінуў даўнюю завядзёнку, клёку ў галаве паболела, не схацелася больш насіць удаўку на шыі – знік назаўсёды для мяне флёр гэтага аксесуара мужчынскага адзення. Але тады... Не тое, каб узнікалі комплексы ад кіношных вобразаў, не. Я сам быў вучнем-выдатнікам, ездзіў на раённыя і абласныя алімпіяды па фізіцы і хіміі. Але ж тут у нас вёска, і нічога не выдае на прыгожае жыццё, а вось там зусім інакш!.. Мо тады ўпершыню і вершы захацелася самому складаць?

Апрануцца так, як у кіно, мы, натуральна, не маглі. Малодшы брат Коля нарадзіўся яшчэ ў Косаве. Потым – самы малодшы Ігар, ужо ў Даманаве, куды пераехалі настаўнічаць бацькі і дзе я пайшоў у першы клас. Не надта разгонішся, калі чацвёра дзяцей. А час такі, што трэба нам з Алегам па чарзе кожную раніцу бегаць у чыгуначную краму, каб выстаяць чаргу і купіць бохан хлеба. Хрушчоўскі час, потым ранне-брэжнеўскі. Але ў нас са старэйшым братам ужо свае запатрабаванні. Балоневыя плашчы ўвайшлі ў моду – нам жа хочацца! Толькі купіць іх было праблемаю. Удалося неяк бацькам залатвіць гэтую справу, праўда, без выбару. У Алега быў шэра-зялёнага колеру, якраз на яго худую постаць, а мне дастаўся цёмнага колеру, кароткі і шырокі. Выгляду аніякага, адно што балонне. Насіў, куды дзенешся, яшчэ і першыя студэнцкія гады застаў у гэтым плашчыку. А потым у ім пасвіў кароў, калі падыходзіла радоўка і спецыяльна дзеля гэтага прыязджаў у Даманава. Тут плашчык якраз падыходзіў – якая восень без дажджоў? А ён не прамакаў. Потым белыя порткі сталі моднымі – зноў жа хочацца! Іх увогуле не купіць, ды і матэрыі, каб пашыць, таксама не знайсці. Купілі нейкую светлую з блакітным адценнем, пашылі ў нашай даманаўскай швейнай майстэрні. Зразумела, фасон няважны атрымаўся, зусім не тое, што хацелася. Але насіў.

На выпускны касцюмчык таксама шылі, напэўна. Звычайны ён быў, але новы. Праўда, у ім я толькі залаты медаль атрымаў, а на самым выпускным, які святкавалі ў вясковай хаце, не быў. Проста ў дзясятым класе два разы ў месяц па нядзелях ездзіў у Мінск на падрыхтоўчыя курсы. Выпалі яны і на дзень развітання са школай. Калі згадаеш, дзіўнай здаецца тая сітуацыя. Ну, прапусціў бы, школьны выпускны бывае ж адзін раз у жыцці! Але не, паехаў. Няўжо так хацелася вырвацца пасля вясковай школы ў белы свет, у сталіцу? А для гэтага трэба паступіць у інстытут, гэта было галоўным на той момант.

* * *

Са школьных гадоў у жыцці з’явіўся неад’емны аксесуар, які потым быў заўсёды, ёсць і цяпер. Партфель. У Даманаве спачатку мы жылі проста ў будынку школы, можна было на перапынку забегчы па іншы падручнік. Апошнія два гады майго школьнага ды ўвогуле даманаўскага жыцця сям’я займела сваю кватэру ў двухпавярховым доме з белай сілікатнай цэглы. Недалёка ад школы, але патрэба насіць падручнікі паўстала. І тут мне трапіўся бацькаў скураны партфель яшчэ пяцідзясятых гадоў. Заношаны, пацерты добра. Але ж у гэтым, калі хто разумее, быў самы смак, у пацертасці скуры! І фасон ён меў адмысловы – не пашыраўся ўніз, а сцягваўся там спражкамі. Карацей, быў авальнай формы. Вось і цягаў яго два гады. Тым больш, што ў гэты час быў сакратаром камсамольскай арганізацыі,

бывала, і ў раён трэба было завезці нейкія паперкі, не згадваючы ўжо, што два разы на тыдзень у тыя ж Івацэвічы ездзіў у музычную школу.

У інстытут партфель з сабою не ўзяў – нават пацертасць скуры мае свае абсягі, пасля чаго гэта выглядае ўжо проста дарэшты зношанай рэччу. З нагоды паступлення купіў сабе (ну, не за свае ж грошы, за бацькоўскія!) партфель новы. Чорнага колеру, самы просты, з нейкага штучнага гнуткага матэрыялу, коштам усяго за адзінаццаць рублёў. Праслужыў ён спраўна сваю службу практычна чатыры курсы, але хутка ўжо форму аніяк не трымаў, выгляду належнага не меў. Не асабліва абыходзіла гэта ў той светлы і бестурботны час студэнцкага жыцця, калі ішло спазнанне свету, убіраліся веды, пачаліся першыя вандроўкі ў свет больш далёкі, калі марылася аб каханні. Як і тое, ува што ты быў апрануты – комплексаў я не меў як па маладосці, так і з-за ўнутранай упэўненасці ў сваім нейкім асаблівым прызначэнні.

Зразумела, мы былі не проста студыёзусамі, а студэнтамі-архітэктарамі, што нават падсвядома дадавала гонару. Але ў справе адзення рэй вяла суровая рэчаіснасць – які выбар быў у першай палове сямідзясятых у нашых крамах? Ён мог быць, калі ты меў магчымасць нешта дастаць. Анягож, джынсы з'явіліся, і ў твайго таварыша-аднакурсніка яны ўжо ёсць. А ў цябе няма, ты ходзіш у звычайных савецкіх портках і звычайным палітончыку. Не, былі ўсё ж нейкія рэчы, штрыхамі ў памяці засталіся. З ГДР, дзе мой брат Алег быў у студэнцкім будатрадзе, ён прывёз мне ў падарунак кашулю ў аранжавую палоску. Яна сапраўды выглядала нетутэйшай, мне вельмі падабалася, у ёй быў у Ленінградзе і Таліне, дзе ў нас праходзіла мастацкая практыка пасля першага курса. Потым памятаюцца шэрабардовага колеру расклёшаныя з адваротамі порткі моднага фасону, пашытыя з грошай, зробленых у будатрадзе ў Казахстане пасля трэцяга курса. Дарэчы, адзіны набытак вопраткі з немалога казахстанскага заробку, астатнія грошы, за выняткам патрачаных на вясельны падарунак старэйшаму брату (гарызонтаўскі транзістарны прыёмнік "Акіян", файная на той час рэч!) хораша прагуляліся за паўгода ў рэстарацыях і кавярнях. Зарубкай засталіся яшчэ польскія лакіраваныя карычневыя туфлі, якія выглядалі імпазантна. Тут гісторыя адметная. Іх прадаў мне сябар-аднакурснік. Маўляў, у цябе нага меншая, а мне цеснаватыя. Насамрэч, памер нагі ў нас быў аднолькавы, мне здавалася нават наадварот, але Коля быў настойлівы. Насіў я гэтыя туфлі, але яны ціснулі на нагу, асабліва гэта адчувалася, калі доўга сядзіш. Мо з-за балючага эфекту і запомніліся? Бо ў астатнім пра абутак згадаць асабліва няма чаго.

І чырвоны ў белую палоску пільчак. Канцэртны, як я яго называў, бо аніяк не выглядаў на побытавы, а мо і насамрэч быў пашыты для выступленняў. Цікавая дэталь – гэта быў не мой пільчак, а майго таварыша-аднакурсніка Жэні, з якім мы пэўны студэнцкі час разам здымалі пакой (нават у двух месцах) для жылля. Жэня быў родам з Бабруйска, вучыўся ў паралельнай групе, пазмаёміліся мы з ім яшчэ пры паступленні – выпала жыць разам у інтэрнаце. Нейкую мо і ролю адыграў ён у маім паступленні, бо яго дзядзька выкладаў на архітэктурным. Па малюнку адзнаку мне крыху завысілі, паставілі пяцёрку з-за вясковага паходжання. Таму, пасля яшчэ адной пяцёркі па чарчэнні (ужо цалкам самастойнай), мне больш экзаменаў здаваць не давялося, бо меў залаты медаль. Думаю, што калі б і не было той пяцёркі, а чацвёрка, я б усё роўна паступіў, падрыхтаваны па матэматыцы і фізіцы быў выдатна. А пра сачыненне і гаварыць няма чаго. Тым не менш, было прыемна і псіхалагічна значна лягчэй, што ўсё скончылася двума іспытамі. Ды і прыняць мяне было правільнай справай, бо факультэт займеў здольнага студэнта. Згадаць хоць бы фініш – мой дыпломны праект новага горада ў сістэме рассялення быў адзначаны "бронзавым" (3-й ступені) дыпломам на ўсесаюзным аглядзе-конкурсе студэнцкіх дыпломных архітэктурных праектаў.

Сам Жэня, як выявілася, здольнасцяў да архітэктуры не меў, вучыўся цяжка, браў нават акадэмічны водпуск на год. Ужо калі я працаваў на "Інтэграле", прыехаў да яго дапамагчы з дыпломным праектам. Раіў, што трэба зрабіць, але бачыў што чалавек "не даганяе" маіх парадаў. Дыплом ён усё ж неяк абараніў, бо быў жанаты на дачцэ дэкана аднаго з факультэтаў. Апошні раз я прыязджаў да яго на кватэру, якую ён атрымаў пасля разводу. Чаму згадваю Жэню, з якім так і не выйшла сапраўдных сяброўскіх адносін з-за рознасці характараў, але якому я ўдзячны за пэўныя моманты? Таму, што гэта адзіны выпадак, калі чалавек знік з майго жыцця. Іншыя, з кім калісьці быў знаёмы ці працаваў разам, згодна закону паралельных прамых, самым нeверагодным чынам неяк адгукваюцца. Да прыкладу, у метро сутыкаюся з хлопцам-дзядзькам, якога з часоў "Мінскпраекта" (гадоў трыццаць пяць таму!) не бачыў, які жыве цяпер увогуле ў Брэсце. Ён першы агукае мяне, бо я б і не пазнаў. І такіх выпадкаў процьма. А Жэня знік назаўсёды, толькі думаць горшага не хочацца. Ён ахвотна даваў мне панасіць той пільчак, нават на цэлыя два месяцы ў Маскву, куды паехалі на практыку пасля чацвёртага курса. Не тое, што я фарсіў і цягаў яго там, не здымаючы, але пад больш прахалоднае надвор'е і падчас сустрэч з Верай, з якой у нас была рамантычная закаханасць, надзяваў. Яна адзначала: ну, ты, Мароз, проста фацэтны хлопец! Цяпер разумею, што і тады падсвядома жылі шляхецкія рэфлексіі, як і ў выпадку са згаданым светла-шэрым пільчачком са школьных гадоў.

* * *

Па гэтай жа, пэўна, прычыне мяне стаў вельмі засмучаць стары партфель. А тут якраз з'явіліся ўжо "дыпламаты". Як мне захацелася мець такі партфель! Адно грошы трэба, і немалыя, бо я ўжо разумеў – абы-што браць не варта, не трэба разменьвацца на штучны матэрыял, а браць з натуральнай скуры. Якраз такія і знайсці лягчэй у краме, бо дарага (і то пашукаць!). Нейкім чынам удалося – купіў я на пятым курсе сабе скураны "дыпламат" польскі. Не тонкі, умяшчальны, акуратны, новенькі, са своеасаблівым скураным водсветам. Не выпускаў з рук. Цяпер я спакойны да рэчаў, ды і тады, уласна, але тут быў выпадак адмысловы. Ужо і рукапісы былі ў гэтым партфелі. Артыкул-водгук аб конкурсе на партызанскі мемарыял, які потым быў апублікаваны ў "ЛіМе" (1976 год, першая публікацыя). Рукапісы вершаў, бо ўжо думаў паступаць у Літаратурны інстытут. Але цешыў мяне партфель нядоўга, год-паўтара. Неяк прыехала з Масквы былая аднакурсніца, мы добра яе сустракалі, гулялі, выпівалі, скончылі ў любімым "Патсдаме", пасля якого спынілі нейкі аўтобусік, каб раз'ехацца па дамах. У тым аўтобусіку польскі "дыпламат" і прапаў. Зразумела, па якой прычыне. Дакарай сябе не дакарай, што трэба ведаць меру, але нічога не паправіш.

Калі працаваў у "Мінскпраекце" і вучыўся ў Літаратурным інстытуце, у мяне быў светла-карычневы партфель, які бацька калісьці купіў у Германіі, (Усходняй, зразумела) калі быў там на экскурсіі. Ён так практычна і не насіў яго, таму я без цяжкасцяў прыбраў неабходную мне рэч да сваіх рук, бо сам без гэтага аксесуара ўжо не мог абыходзіцца. Тады, а мо і пазней, прачытаў аповесць Юрыя Трыфанава (ці не "Старык"?), дзе пісьменнік у адным з эпізодаў згадваў людзей з папкамі. Зразумела, што ў тэрмін "папкі" ўваходзілі і партфелі. Людзей такіх можна было бачыць цэлы дзень у самым цэнтры Масквы на Пушкінскім пляцы. Туды-сюды, сюды-туды. І чыноўнікі, і творчыя людзі, пісьменнікі. Трапнае назіранне аб атмасферы савецкіх часоў – "людзі з папкамі". Дык вось, усё жыццё я таксама "чалавек з папкай", бо заўсёды з партфелем. Праўда, пасля таго выпадку з "дыпламатам" асабліва важных, ці тых, якіх потым нельга будзе ўзнавіць, папер не нашу. Нават і верш напісаўся ў свой час "Не нашу я вершаў у партфелі...". Але

і так неабходнага хапае, ды той жа рукапіс да рэдакцыі трэба данесці, сцэнарый да кінастудыі. Сёння, у кампутарны час, і папяровыя рукапісы не патрэбныя, але партфель павінен быць на месцы.

На пятым курсе я займеў кажушок. О, братка, гэта не проста пайсці ў краму ды купіць (такой рэчы ў продажы проста не было), тут цэлая гісторыя! Мой дзед Іван павінен быў назбіраць шэсць скурак са сваіх бараноў і авечак, потым дзядзька Міша, бацькаў брат, які жыў у Нясвіжы, адвозіў іх некуды ў іншую вёску, дзе татарын выраблаў скуры і фарбаваў начорна. Шыў нясвіжскі шавец, на мерку і падгонку трэба было туды прыехаць. І вось рэч гатовая. Файны кажушок атрымаўся, мо крыху караткаваты (як скуркі дазвалялі), але з шырокім сівым каўняром. У ім, новенькім, паехаў з таварышамі зімой яшчэ на кароткую практыку ў Маскву. Што мы там рабілі, асабліва не памятаю, хадзілі па сталіцы, глядзелі старыя і новыя помнікі архітэктуры. Дом Мельнікава каля Арбата, потым сучасны жылы комплекс “Лебедзь” у мікрараёне “Сокал”. На адзін дзень панасіць кажушок папрасіў мой таварыш Коля, а я быў у яго паліто. Сустрэўся з Верай (мо якраз дзеля гэтага і згадзіўся на паездку), пад’ехаў да праектнага інстытута, дзе правялі мінулае лета. Яна была ў белым футрыку, я ў чорным кажушку. “О, Мароз, ты проста цудоўна выглядаеш!” Узяла мяне пад руку, прагуляліся крыху. Якраз у тым і была прыкрая неспадзяванка. Пафарбаваныя скуркі не выляжаліся, пэцкаліся – на рукаве яе бялюткай шубкі застаўся цёмны след. Мне было вельмі няёмка, больш пад руку яна мяне не брала. Як і летам, зайсці куды пасядзець, адмовілася. Так і развіталіся, ужо назаўсёды – банальнае, але прадбачанае завяршэнне маскоўскага рамана. А кажушок я насіў гады чатыры-пяць, пакуль ён зусім не абцёрся і не пайшоў па швах. Пасля шлюбу такім жа чынам агоралі кажушок і жонцы Вользе. Скурак было больш, ён атрымаўся доўгім. Колер чырвоны, але зноў жа фарбоўка саматужная, няроўная. Насіла яго жонка ўсяго гады два – выгляд губляўся, час змяняўся.

Пасля інстытута трапіўся мне на вочы бацькаў стары капялюш, гадоў пяцідзясятых. Відаць было, што Вікенцій Іванавіч асабліва яго не насіў, стан быў нармалёвы. Чорны капялюш, палі шырокія. Хлопцы, мае таварышы па “Мінскпраекце”, ведалі, што збіраюся паступаць у Літаратурны інстытут, Валік Сокал не мінаў падкалоць: “Ну, Мароз! Ты сапраўдны паэт!” Да першай вершаванай публікацыі спрабаваў здымак зрабіць. Я ў капелюшы, у шлюбным касцюмчыку, стройны, з цыгарэткай стаю на прыступках Чырвонага касцёла. З-за антуража (калона, чырвоная цэгла) не даўмееш часу, калі зроблены здымак – мо ў тыя далёкія дваццатыя, калі нашыя маладыя паэты, якіх у трыццатыя расстраляюць, таксама любілі насіць капелюшы? Не кажу ўжо тут аб рэфлексіі на знакаміты здымак Сяргея Ясеніна. А маё фота аказалася занадта дробным, для “Маладосці” знайшлося іншае. Капялюш той я насіў доўга, гадоў дзесяць, пакуль ён зусім не страціў выгляд. Спрабаваў потым купіць іншы, але той не пасаваў. Няхоцькі з паэтычным галаўным уборам давялося развітацца надоўга.

У Караткевіча аб тым, што нашыя продкі любілі насіць доўгія валасы і вусы, вычытаў яшчэ студэнтам. З даўжынёй валасоў турботаў не было, тым больш яны ў мяне курчавіліся ніжэй вушэй, не абвісалі, а хваліста ляжалі на плячах, выгляд быў маляўнічы. Такім і шлюб браў з Вольгай – твар худы, нос тырчыць, валасы доўгія. Да вяселля касцюмчык пашыў у атэлье – сіняга колеру, матэрыя з адлівам. Апратка рабіла маю постаць стройнай. І нявеста ў доўгай, да падлогі, белай шлюбнай сукенцы з фатою. Мне дваццаць пяць, Вользе – на год менш. Самы час, як той казаў – шыкоўная пара. Доўгавалосікам быў гадоў дзесяць. Скончэнне акрэсленае – летам восемдзесят восьмага ў Мікалаеўшчыне зрабіў фотасесію развітання з доўгімі валасамі. Торс агалены, каб нішто не замінала выдзяляцца галоўнаму элементу на здымках. З таго часу стрыгуся коратка. Ця-

пер, калі шэсцьдзясят і болей, часам хочацца зноў адпусціць валасы, але Вольга і слухаць не хоча. І Марына, дачка, супраць. Таму жаданне больш адстароненае, нерэальнае, тым больш кароткая, на амерыканскі манер, прычоска мне пасуе.

Вусы пачаў насіць пасля шлюбу. Акром штуршка ад Караткевіча, логіка выбудавалася сама сабою. У мяне вялікі нос, самая прыкметная дэталь на твары. З бульбінкай, сапраўдны беларускі нос. Вусы крыху змякчаюць, прыцішваюць яго памер. Пры гэтым таксама грае ролю тое, у што ты апрануты. Праўда, аніякай магчымасці падбіраць вопратку няма, не разгонішся на сто пятнаццаць рублёў зарплаты, калі жонка пры гэтым сядзіць дома з нашым першынцам Цімохам.

* * *

Зноў пратаптаны шлях – у цесця, Аляксандра Міхайлавіча, штурмана грамадзянскай авіяцыі, знайшоў лётчыцкую скуранку пяцідзесятых гадоў, калі ён яшчэ быў на вайсковай службе ў Крыме. Куртка была даволі пацертая, нават дзірачкі на абшлагах рукава ўжо былі, на згіне каўняра, але ж выгляд! Сапраўдная карычневая баявая скуранка. Гады тры-чатыры, колькі льга было, цягаў яе з капелюшом. Хоць такім вымушаным чынам, але спраўджваў жаданне мець выгляд усё ж адрозны ад іншых. Даношваў свой вясельны касцюмчык. Але неўзабаве агаралі мне фінскі, з натуральнай воўны, прыемна-шэрага колеру касцюм-тройку. Каштаваў ён недзе дзвесце рублёў з гакам, зусім нятанна на савецкі час, дый і пашукаць яшчэ добра трэба. Пільчак быў усё ж трошкі караткаваты, калі ўважліва прыгледзецца да даўжыні рукавоў. Тым не менш, гэта быў шык. У касцюме я прадстаўляў праект інтэгралаўскага Палаца культуры на маім "Інтэграле", у ім выбраўся ў 1985 годзе ў сваю першую замежную вандроўку ў Чэхаславаччыну, на кінафестываль "Экафільм" у Астраве. Там быў прадстаўлены фільм "Хто выправіць памылку Дэметры?" Аркадзя Рудэрмана, выдатная карціна аб праблемах меліярацыі Палесся. Звычайная сітуацыя для савецкага часу – за мяжу едзе не рэжысёр (ды і наўрад ці канкрэтна яго выпусцілі б), а чыноўнік з міністэрства, якім я і быў падчас працы ў Дзяржкіно. Не тое, каб я не разумеў сітуацыю, але не абцяжарваўся ёю, на закрыцці прыняў галоўны прыз, віны перад Аркадзем не адчуваў. Як не чуўся вінаватым, калі адзіная пуцёўка (ужо за свае грошы) у ФРГ не дайшла да падначаленай нам кінастудыі (дзе ахвотных знайшлося б шмат), а зноў жа дасталася мне. Бо прага вандровак жыла ў душы ад груку цягнікоў у Даманаве, карцела бачыць нязнаныя мясціны. Такія вандроўкі, акром усяго астатняга, спрыялі пазбаўленню комплексаў. Адкрыццё капіталістычнага свету (Дзюсельдорф, Гамбург, Бон, Кёльн, Франкфурт-на-Майне) і так бы запомнілася, але падсветка здарылася сумная – Чарнобыль выбухнуў якраз тады, калі я быў у Нямеччыне. Так, была другая палова красавіка 86-га, вясна. Ехаць не было ў чым, тэрмінова купілі нейлонавую цёмна-сінюю куртку "бабруйскага разліву". Адзіным плюсам яе было тое, што новая, астатняе (фасон, пашыў) не вытрымлівала крытыкі. Нездарма гамбургскія прастытуткі неаднойчы накідваліся на мяне – адразу было відаць, што чалавек савецкі.

Проста іншага выйсця з апраткай не было, даводзілася рабіць выгляд, што так і трэба. З Чэхаславакіі Вользе прывёз харошы касцюмчык, які ёй пасаваў, падкрэсліваў фігуру, а малому Цімоху – штроксавыя джынсікі ды абутак (красоўкі, туфелькі). Выглядаў малы хлопчык у гэтай апратцы стыльна. А сабе – скураны карычневы партфельчык. Далікатнай формы, не тоўсты, ён усё ж пэўным чынам выдаваў больш на дамскі, але насіў я яго нязмушана, пакуль зусім не сцерлася ручка. У капіталістычнай Германіі найпершаю мэтай было купіць касетны магнітафон. Гэта ўдалося не з першага разу. У невялікім Обэрхаўзэне, дзе ладзіўся прэстыжны на той час дакументальны кінафестываль, дзеля чаго і заехалі ў гэты

горад, вялікіх крамаў было няшмат, але выбралі і купілі з маскоўскім таварышам, з якім пазнаёміла гэтая вандроўка. У гатэлі ён у сваім знайшоў невялікі дэфект, а потым і ў маім – на наступны дзень здалі апараты назад, грошы вярнулі. Купілі ўжо ў Гамбургу, партовым горадзе, куды наўпрост прыходзілі караблі з тэхнікай з далёкай Японіі. Я набыў "Шарп". Натуральна, у паляка, гэтыя гандляры ўлезуць паўсюль і ў любыя часы. Апарат быў шыкоўны – здымныя калонкі, двухкасетны, да таго ж лёгкі. Яшчэ там запісаў на касету музыкі з нямецкіх FM-станцыяў, пра якія ў нас тады і гаворкі не было. Любілі мы з жонкай слухаць тую музыку ў вольныя хвіліны. Самае цікавае – прыёмнік працуе да сёння (што значыць японская якасць!), праўда, у Мікалаеўшчыне ловіцца толькі адна станцыя.

Да капелюша недзе ў той час з'явілася ў мяне доўгае чорнае паліто. У ім на сесіі ездзіў у Маскву, у капелюшы і са згаданым жоўтым партфелем. Паліто вырабу савецкага, шліцы ззаду крыху расходзіліся, але ж сам на сябе ззаду не глядзіш. Робіш выгляд, што так і трэба, здымаешся ў гэтым паліто і капелюшы з букецікам фіялак на натурнай пляцоўцы кінастудыі ў дзень ленінскага суботніка. Паэтам адчуваеш сябе, калектыўны зборнік "Крыло" ў серыі "Першая кніга паэта"выйшаў у восемдзесят чацвёртым годзе з тваёю нізкаю "Пяшчотны дотык". Для фотаздымка ў кнігу адмыслова раблю фотасесію – у файным зялёным пільчачку з накладнымі кішэнямі на фоне старой мінскай забудовы на вуліцы Рэвалюцыйнай. Усё добра, толькі ад такога жыцця занадта часта ў чарку заглядваў, як быццам іншых клопатаў не было.

Паліто і чорны капялюш я насіў доўга, гадоў дзесяць. Штодзённага ўжытку яны б не вытрымалі, ратавала, што рэчы сезонныя, а сезоны ў Беларусі надараюцца кожны раз па-свойму – калі доўга, калі коратка. Летам (праўда, колькі ў нас таго лета?) заўсёды прасцей – накінеш на сябе кашульку, убярэшся ў джынсы – і клопату ніякага. Джынсы мне падаравала цешча недзе ў трыццаць маіх гадоў, то вымушаны быў іх знасіць. Першы і апошні раз, бо гэткія нагавіцы я не люблю і комплексаў маладосці, калі яны толькі з'явіліся, а ў цябе не было, не адчуваю. Сёння ўсе спрэс у джынсах. Няхай маладыя, але калі іх носяць дзядзькі ў сорак-пяцьдзясят-шэсцьдзясят гадоў – мне не падабаецца. Якраз з-за таго, што іх носяць усе.

* * *

Леты ў Беларусі сапраўды зазвычай кароткія. Але ж бывае, здараецца, калі сонца прыпякае пад трыццаць, калі вада ў Нёмане пяшчотная як ніколі і тым не менш бадзёрыць ад спякоты, бо дарэшты цёплай у хуткаплыннай рэчцы яна не бывае. У хвіліны шчодрасці прыроды на цеплыню не-не ды і падумаеш – а навошта ўвогуле чалавеку апранацца? У ранейшыя леты ў Мікалаеўшчыне, на нашым хутары, збіралася народу шмат. Жыў яшчэ дзед, бацькі прыязджалі, усе браты, дзеці малыя, і госці бывалі часта. А мы з Вольгай у самым росквіце, прырода не толькі навакольная, але і фізіялагічная кліча, жаданне стукае ў галаў. Якое выйсце? Браў посцілку, і мы збягалі з хутара быццам бы на рэчку. А самі зашываліся ў лясок, знаходзілі невялічкую, закрытую яшчэ не такімі высокімі соснамі, палянку, і... Посцілка рассцелена на сівым моху, рэшткі адзення ўраз адкінуты прэч... Сівы мох не самая мяккая пасцель, але калі тут звяртаць на гэта ўвагу, калі мы цяпер увогуле недзе над зямлёю, у промнях ласкавага сонца, якое гуляецца з нашымі целамі праз хваёвыя іголачкі. А мы гуляемся ў сваю спрадвечную гульню. І потым – супакой, пяшчота, цеплыня. Хочацца надаўжэй расцягнуць гэты момант, калі ты нікому нічога не вінны і калі табе аніяк не хочацца зноў улазіць у адзенне і ўвогуле вяртацца з іншасвету ў свет рэальны...

Некалі даўно натыкнуўся на серыю карцін нейкага замежнага мастака з пра-

вакуючай назвай “Калі б яна ніколі не насіла адзення”. Любяць мастакі маляваць аголеную натуру. А што было б, калі б на зямлі было б так цёпла, што адзенне губляла сэнс? Жанчына, мужчына, адно што ў аднаго постаць такая, у другога іншая. Формы, стройнасць, рост. Але ўсе зрабіліся б безасабовым (гэтак жа і форма аднолькавая, найперш ваенная, робіць усіх аднолькавымі). Зусім нецікава. Мо таму і прыдуманы поры года, розныя тэмпературы, каб чалавек апранаўся, адначасна вылучаўся тым адзін ад другога? Напоўніцу ў нас, у Беларусі, дзе кантрапункт лета – зіма, калі той апраткі нацягваеш на сябе найбольш. А ёсць і трэці, міжсезонны перыяд – вясна і восень, якія патрабуюць сваёй вопраткі. Бо часты госць міжсезоння – слота. Праўда, вясновыя дажджы ўваскрашальныя, наталяючыя, прадвеснікі будучага ўраджаю, плёну, а восеньскія – сумныя, развітальныя, безнадзейныя, бяззбройныя перад зімовым адміраннем-заміраннем прыроды. Баронішся ад такой неадваротнасці не толькі псіхалагічна, але і дапамогай адзення. З іншага боку, што б рабілі празаікі, калі ў іх адняць магчымасць апісваць, акром іншага, ува што былі апранутыя іх героі? Тым больш гэта не толькі дэталі, гэта сведчанне часу, які знешне немінуча мяняецца.

* * *

Зусім няпроста было з верхнім і любым іншым адзеннем у пачатку, дый увогуле праз усе дзевяностыя гады. Памятаю, на кінастудыі (парупіліся аб працаўніках!) у штурханіне выхапіў сабе цёплую куртку. Нехлямяжную, сёння і не глянуў бы на такую, а тады давялося насіць. Праўда, нядоўга, бо куртка была сапраўды аніякая на выгляд, нават і ў Мікалаеўшчыне, куды натуральным чынам трапляюць адношаныя рэчы, не вельмі хацелася яе апранаць. Потым нейкі пухавік з'явіўся, яго насіў даўжэй, зноў жа рабіў выгляд, што так і трэба. Што казаць – калі быў маленькі Даніла, адзіным мясам на месяц у сям'і былі тыя два з паловай ці тры кілаграмы, якія выдавалі нам разам з іншымі прадуктамі на малодшага сына як трэцяе дзіця. Калі тут думаць пра саміх – дзяцей трэба апранаць. І калі з Данілам было крыху прасцей – ад нараджэння даношваў тое, што старанна захоўвалася (чатырнаццаць гадоў!) ад Цімоха, то дзяўчынцы Марыне даводзілася купляць усё новае. Затое справы рухаліся, імпэт быў. Вольга абараніла кандыдацкую, у мяне выходзілі кнігі і здымаліся фільмы – на адзенне асабліва і ўвагі не звярталі. Цімох у апошніх класах, ужо ў ліцэі, хадзіў у такіх куртках (кітайскі шырспажыў, зразумела), што сёння было б сорамна. Але здаралася. Нейкім дзіўным чынам агоралі мне раціналае паліто, якое лічылася шыкам яшчэ ў савецкія часы. Чамусьці насіў яго нядоўга – не хацелася выглядаць старым, ці што? Паліто тое можна апрануць хоць сёння – вісіць у Мікалаеўшчыне. Але гэта будзе ўжо празмерным старамодным выклікам, на што трэба мець мужнасць. Прыйшла думка – а можа яго як рарытэт здаць-прадаць на сваю родную кінастудыю? Там дакладна будзе запатрабавана для фільмаў аб шасцідзясятых-сямідзясятых.

З адной з паездак у Германію (у іхнім ліцэі былі кантакты з такой жа навучальнай установай у Берліне) старэйшы сын прывёз мне партфель. Чорны, са штучнага матэрыялу, але вельмі падобнага да натуральнага, зграбны, і з ручкай, і са шлейкай для таго, каб насіць на плячы. Радаваўся гэтаму прэзенту, як дзіця, бо ўсе старыя партфелі знасіліся. Колер навюткага быў чорны, але я называў партфель “зялёным” – як адзін з “зялёных” супрацоўнікаў натуральнага футра і скуры ў адзенні. Чамусьці асабліва памятаецца ён у Екацерынбургу, дзе я быў на фестывалі дакументальнага кіно “Расія”. У новым, шэрым, з ледзь улоўным сіняватым адлівам касцюмчыку з двубортных пільчаком і з элегантным чорным партфелем – няхай бачаць і ведаюць беларусаў. Тым больш на адвароце пільчака свяцілася маленькая бел-чырвона-белая значка, хоць год 96-ты і наш афіцыйны

сцяг быў ужо іншы. Адно шкада, што мой партфель пратрываў нядоўга, гады два-тры, яго напаткаў такі ж лёс, як і любімага чорнага “дыпламата” пасляінстытуцкіх гадоў. Неяк пасля вандроўкі на Святую Зямлю мы добра сядзелі з таварышам-рэжысёрам, скончылі ў “Батлейцы”, апошняе, што памятаю – сеў у метро. А дадому дацягнуўся ноччу ўжо без партфеля. Было, было ўсялякае ў жыцці, і гаварыць, што ты пражыў яго анёлам, аніяк не выпадае. Найперш з-за чаркі, якая часта аказвалася лішняй.

Добра памятаецца шэраг пільчакоў на зломе стагоддзяў, калі я працаваў у “Бярозцы”, і ў пазнейшыя гады. Мяккі зялёны рыфлёны пільчак з бліскучым адлівам, куплены незадорага на Жданах – нейкі час яны былі ў модзе. Толькі выгляд трымаў нядоўга – адно слова “шырспажыў”. Пасля яго з’явіўся пільчак чырвоны, колеру цэглы. Надыбалі яго мне з Вольгай у “сэканд-хэндзе”, танна. Думаю, што з-за нязвыклага колеру яго і не насіў былы ўладальнік, бо кішэні былі яшчэ зашытыя. А мне ён нагадаў чырвоны пільчак студэнцтва, таму даволі доўга цягаў не скідаючы, пакуль прыкметы зношанасці і выцертасці не сталі выразна кідацца ў вочы. У ім я быў на выпускным Марыны ў “Парнаце” у 2002 годзе. Потым аднекуль з’явіўся вытанчаны аксамітны пільчак цёмна-сіняга колеру, які здалёк выдаваў проста на чорны.

Адкуль ён узяўся – з памяці сцерлася дазвання. Ці Даніла прывёз як гуманітарную дапамогу (ён малым два разы ездзіў у Германію з чарнобыльскімі дзецьмі), ці аддаў Цімох (найменш верагоднае), ці зноў жа купілі ў “сэканд-хэндзе”? Хутчэй за ўсё, апошняе. Пільчак быў пps prыталены, сядзеў выдатна, было нешта прыцягальнае ў яго някідкім аксамітным бляску. Асабліва запомніўся таму, што ў ім Марына малявала мой партрэт. Яна ўжо скончыла Акадэмію і працавала ў майстэрнях Савіцкага, яшчэ пры жывым мэтры. Той якраз і раіў нешматлікім стыпендыятам – малюйце партрэты. Зазвычай у любым партрэце мастак малюе найперш самога сябе, а Марыне ўдавалася выразна схапіць падабенства. З каго пачаць, калі не з бацькі, бо я мог пазіраваць практычна ў любы час. Партрэт атрымаўся ў экспрэсіўным стылі, рух быў у плыні складак матэрыі пільчака, у сашчэпленасці рук, у напружаным позірку, хоць насамрэч я спакойна сядзеў у крэсле. Проста твар маю характарны, з вялікім носам і нязменнымі вусамі. Аднойчы дачка прапанавала два партрэты (мой і Конана) на нейкую чарговую выставу ў Палацы мастацтва. Прыходзім на адкрыццё, а там вісіць толькі партрэт Конана. Ну што ж, значыць, мой не трапіў. Але тут сустракаю даўняга знаёмага мастака-плакатыста, які пытаецца: а дзе твой партрэт? Мы ж яго на выстаўкаме адабралі ў экспазіцыю! Вось табе і маеш! Значыць, нехта свядома не павесіў. Падазрэнні скіраваліся на старшыню секцыі графікі, бо выстава была графічная. Логіка бачылася звычайная беларуская, якая творчых людзей тычыцца, на жаль, найперш. Хто такі Мароз? Майго ж вось партрэта няма, чаму яго будзе вісець на выставе? Зайдрасць, адным словам. А чалавек жа добра ведаў, хто я такі, і кніжкі мае паэтычныя з аўтографам меў, і чарку бралі неаднойчы ў таварыскай кампаніі. Здаецца, потым задаў яму пытанне, чаму не павесілі мой партрэт? На што атрымаў няўцямны адказ – не я гэта вырашаў, я тут не пры справах, ды і месца было мала. Не пхнуў бы такую вялікую колькасць сваіх прац, то і для мяне месца хапіла б. Я не пакрыўдзіўся, не мушу так рабіць як хрысціянін, але чалавек гэты мне стаў проста нецікавы.

* * *

У новым стагоддзі з адзеннем было прасцей. Як той казаў, замежжа нам дапаможа. Дапамагала. Ужо ў першую вандроўку за акіян у 2002 годзе на выпускны Цімоха аддаў сын мне свае ношаныя рэчы, балазе, памер у нас практычна

аднолькавы. Некаторыя тэніскі да гэтага часу ляжаць, і насіць іх можна, толькі матэрыял стаўся грубым з-за шматлікага прання. У трэці свой прыезд (больш правільна сказаць, “прылёт”) я ўвогуле прыадзеўся – купіў шыкоўны штроксавы карычневы пільчак (такім чынам вызваліўся ад комплексаў маладосці), чорныя порткі і зноў жа карычневыя туфлі. На працы калегі “зацанілі” мой выгляд. Яшчэ адны туфлі купіў там у папярэднюю вандроўку. Сапраўдныя амерыканскія туфлі нязвыклага для нашага краявіду выгляду з тоўстай, але не жорсткай скуры. Насы не плоскія і не завостраныя, а прыемнага абрысу круглыя, колер насычаны цёмна-вішнёвы. Мо і не вытанчанага фасону, але надзейныя – абуваю іх на сырое і слотнае надвор’е ўжо восьмы год. Тоўстая падэшва амаль не сціраецца. Падабаюцца яны і Данілу з яго густам, панасіў крыху бацькавы туфлі. Яшчэ у звязку з імі абавязкова лезуць у галаў згадкі пра Маякоўскага. Недзе даўно вычытаў, што паэт купіў у Амерыцы туфлі, а падэшва там была здымная, на балтах з гайкамі. Знасіў адну, выкінуў, прыкруціў другую. Зносу абутку няма. Калі ляжаў Маякоўскі ў труне, на падэшвах свяціліся гайкі. Адмысловыя туфлі былі, трэба думаць. Цяпер так не робяць, бо абароту ніякага не будзе, вырабляюць спрэс на тандэт. Але мой згаданы абутак яшчэ меў адгалоссе сапраўднай якасці.

Як тут не згадаць чорныя белвестаўскія віцебскага вырабу лёгкія туфлі! Недзе ў пачатку другой паловы двухтысячных надарылася ў мяне кінематаграфічная вандроўка ў Ташкент. Аказалася – няма ў чым ехаць! Хуценька купілі вось гэтыя беларускія. У краме на назе сядзелі добра, і скура, здаецца, мяккая. А ў далёкай сярэднеазіяцкай сталіцы пачалося! З самалёта пасяліліся ў шыкоўным гатэлі, я ўжо пазнаёміўся з маскоўскімі і піцерскімі калегамі, выбраліся гуляць па горадзе. Гадзіны тры гулялі, і тут кожны крок даваўся мне ўсё з большымі высілкамі – абутак пачаў ціснуць, пяткі сталі гарэць. Урэшце з’явіліся крывавыя мазалі, ногі знізу распухлі, сталі як калоды. Калі з раніцы сядалі глядзець фільмы, я стараўся адасобіцца, у цёмнай залі скідаў гэтыя туфлі, каб ногі хоць крыху адыйшлі. На людзях свае пакуты хаваў, не падаваў выгляду, хоць давалася гэта пакутна. Потым туфлі растапталіся, ногі адпухлі, абутак гэты насіў я доўга, і цяпер ён яшчэ спраўна служыць у Мікалаеўшчыне. Але ж тады!

Зрэшты, да беларускага (на жаль) ніколі даверу асаблівага не было. Значна больш надзеі, калі дастанецца замежнае. Аддаў мне Цімох дублёначку светла-карычневую са штучнага матэрыялу (сваю ці свата майго, шчырага Фрэнка?), то цягаў яе зімою гадоў сем. Дзіўны матэрыял – не пэцкаецца. Адно што адвароты кішэняў скамячыліся, я хаваю іх усярэдзіну. А так выгляд зусім прыстойны. Праўда, на добрыя маразы кажушок гэты халаднаваты, цёплая куртка была патрэбная. Набыў яе ў Берліне, калі здымалі фільм пра Родзіна. Выгляд мо і непрэзентабельны, але адметны ад звычайнага пухавіка, носіцца добра, пяць гадоў ужо цягаю. Вольга і Марына дакляруюць купіць мне новы пухавік, а я не згаджаюся – мне і так добра, навошта грошы траціць, калі яны патрэбныя, каб рымскага студэнта вучыць?

Малодшы Даніла выявіўся гаспадарлівым яшчэ ў маленстве. Колькі яму было, калі два гады запар удалося з’ездзіць на аздараўленне ў Германію? Адзінаццаць, дванаццаць гадоў. Дык вось, у другі раз ён прывёз вялізны мех гэтак званай гуманітарнай дапамогі. Перад ад’ездам прывялі дзяцей туды, дзе дабрачынныя немцы сабралі ўсяго для бедных беларускіх дзяцей, то ён і кідаў у мех, што траплялася на вока па яго густу. Задаволены быў сабой, што такім чынам дапамог сям’і, і мы яго ў гэтай пэўнасці падтрымлівалі. Нешта сапраўды прыдалося, як той аксамітны пільчак. За акіян да брата школьнікам Даніла лятаў два разы з маці. Там стаўленне да шмаццця зусім іншае – перабіраюць, выбіраюць у крамах, ніхто з адзення праблему не робіць. Усё разам спрыяла таму, што з гадоў пятнаццаці малодшы сын усё выбіраў сабе сам. Цягаешся з ім па буціках і крамах, ён

прымервае і прымервае, адпрэчвае (у свае школьныя гады такога я нават уявіць не мог!). Маральных сіл ужо няма, здаецца, – вось гэтую апратку можна купіць, яна добра на табе сядзіць! Не. Шукае далей. І трэба сказаць, густ у хлопца добры, калі ўжо што куплялі, то сядзела на ім зграбна і прыгожа. Вось кінулася на вока кашэміравае паліто. Прыталенае, воўна так вырабленая, што аддае няяркім бляскам. Шык. Дорага адно што. Але на другі ці трэці раз у "Свеце моды" ў Ждановічах рашыліся. Сядзела на хлопцу (здаецца, быў у выпускным класе гімназіі) проста выдатна, падкрэслівала стройнасць фігуры. І што? Носіць яго ўжо пяць-шэсць гадоў, у Рым забраў і там носіць у прахалоднае надвор'е, формы апратка не губляе. Выснова адна – не скупіся, братка, бо скупы плаціць двойчы.

* * *

Бывала, як з тымі белвестаўскімі туфлямі, вымушаны ўзяць, таму выбіраць асабліва не даводзіцца, тут ужо як пашанцуе. У 2009 годзе выпускны Данілы ў гімназіі, а мне адзець абсалютна няма чаго. Кінуліся з Вольгай на "Жданы", купілі зграбны светлы летні касцюмчык (расійскі пашыў, але лякалы замежныя), белыя туфлі летнія з дзірачкамі і льняную кашульку. Тут пашанцавала, усё нашу і сёння. Больш за тое, для апошняй па часе сваёй паэтычнай кнігі "Крыжы на ростанях" зрабіў у гэтым касцюмчыку фотасесію каля крыжа ў Заслаўі, які ўжо даволі даўно быў узведзены на "замэчку" ў гонар тысячагоддзя праваслаўя на Беларусі. Праўда, касцюм тут не галоўнае, задумвалася фота дзеля таго, што на галаве. Сяджу на круглым пастаменце, быццам здарожыўшыся, гляджу стамлёна-засяроджана, але і ўзнёсла, некуды ў далячынь. У гэтым светлым касцюмчыку (лета) ды з шырокаполым каўбойскім амерыканскім капелюшом на галаве (задумаў так і не інакш). Ззаду – каменны крыж. Я прыйшоў, я прысеў на шляху, я напісаў, а вы – прачытайце... Калі выйшла кніга, здымак гэты мімаволі стаўся своеасаблівым тэстам. Калі паказваю кнігу і здымак, ва ўсіх пытаюся – а дзе гэты крыж? Сам не даю веры, але ніхто – ні калегі-літаратары, ні калегі-кіношнікі – не можа адказаць пэўна. Вось так мы ведаем сваю Беларусь. Выбачае адно, што "замэчак" крыху збоку ад Заслаўя, месца трэба ведаць, каб туды трапіць.

Дык вось, капялюш. Заходзяць неяк на кінастудыю два знаёмыя хлопцы з тэлевізіі, адзін аператар, некалі працаваў у нас на "Летапісе", майго "Кірылу Тураўскага" здымаў, другі прадзюсар. І абодва ў шыкоўных капелюшах! Шыракаполых, каўбойскіх. Дзе ўзялі? Дзе ўзялі, дзе ўзялі? – купілі. Праз інтэрнэт. Замаўляй, плаці грошы – і табе даставяць. Нават з-за акіяна. Бо гэта якраз стопрацэнтны "Індыяна Джонс", што насіў у фільме Харысан Форд. Глядзі, якая рэч! – прадзюсар зняў яго з галавы і моцна скамячыў рукамі. Адпусціў – капялюш вокамгненна прыняў ранейшую форму. Не мнецца! Драбяза, але ўбіўся ў голаў убор, прабач мне, Божа! Адразу згадаўся бацькавы чорны капялюш з маладых маіх гадоў. Адразу нагадалася, што ты паэт – які паэт без капелюша? А тут юбілей насоўваецца. Дык мне і замаўляць за акіянам не трэба – няхай старэйшы сын зробіць такі падарунак на шасцідзесяцігоддзе. Так і напісаў Цімоху, балазе, летам з Вольгай збіраліся ў Флорыду.

Дату 11 чэрвеня 2013 года адзначылі толькі ў Мікалаеўшчыне, з роднымі. На юбілей галоўным падарункам быў карычневы з цёмна-вішнёвым адлівам скураны дарагі італьянскі партфель ад Вольгі, Марыны і Данілы. Дачка недзе ў маі была ў Італіі, там з братам і прыдбалі. Ці можа быць лепшы падарунак чалавеку, які праз усё жыццё з партфелем?! Неяк адзначылася проста як факт, што з-за гэтай звычкі ў мяне плечы крыху наўскос. Ужо нават падсвядома, каб яшчэ больш іх не скрывіць, нясеш ношу з паперамі то ў адно руцэ, то ў другой, перакідваеш папружку з аднаго пляча на другое. Але што гэта ў параўнанні з цудоўнай рэччу,

якая ў тваіх руках! Скура новая, як і належыць, прыемна парыпвае. Яна не тонкая, але мяккая, выдатна выраблена. Знак выціснуты ў адным месцы – "зроблена ў Італіі". Малайцы італьянцы, паважаюць сябе, не пішуць безаблічна "выраблена ў ЕЗ". Партфель стаў насіць адразу, ён кідаўся ў вочы, ніводзін не прамінаў заўважыць, якая фацэтная ў мяне рэч.

Аказалася, гэта толькі паўсправы. У другой палове ліпеня паляцелі за акіян. І што? Цімох з Лоры адразу ж уручылі мне пакет, дзе ляжаў сапраўдны "Індыяна Джонс"! Прымерваў і баяўся – як з памерам, каб не замалы? Не, усё нармальна – збылася мара паэта! Сапраўдная восень насунулася хутка, у сярэдзіне верасня надзеў першы раз. І якраз за руль. Мой "Форд Мандэа" не прыняў яго адразу – заглох і спыніўся пасярод горада. Зразумела, не ў капелюшы справа, а ў маёй безалабернасці – забыўся, што трэба своечасова мяняць папругу паліўна-размеркавальнага механізма. Вось і ўляцеў на вялікія грошы. Тым не менш супадзенне такое было. Далей пайшло сваёй чарадой. Напачатку псіхалагічна нязвычна, бо ты адразу робішся прыкметным. Капялюш вырывае з шэрасці, ты быццам бярэш на сябе нейкую ролю, з якой трэба яшчэ звыкнуцца і граць яе добра. Асабліва ў горадзе на вуліцы і ў грамадскім транспарце пад поглядамі людзей, бо на машыне езджу далёка не кожны дзень. Але вельмі практычна. Я не люблю парасоны, а тут можна абысціся без іх, калі насоўваюцца дажджы – абсалютны камфорт, на вушы не лье. Мой новы галаўны ўбор ацанілі ўсе як належыць, хто мо і з доляю зайдрасці. Тым больш, я адзначаў, што такі капялюш адзіны ў Беларусі, ні ў кога больш няма. Сам жа ведаў, што яшчэ два як мінімум у Мінску ёсць, толькі піяр – справа тонкая. Сапраўды, драбяза, але самапачуванне з адметным галаўным уборам усё ж іншае.

Аддаў мне сын у той прыезд і свой новы пільчак. Дарагі, з воўны, цёмна-шэрага колеру, элегантнага крою. Адно сказаў, што кішэні тут не сапраўдныя. Насамрэч яны былі проста зашытыя, як і робіцца ў новых пільчаках, проста сын такой апраткі амаль не носіць, то і не ведаў такога вытворчага нюансу. Вагаўся, але ў апошні дзень усё ж рашыўся аддаць. Я не адмаўляўся, бо папярэдні штроксавы ўжо знасіўся. На змену трэба было нешта мець, на выходна-святочны, так бы мовіць, дзень. З абуткам на гэты раз не замарочваліся – якія чаравікі ў сонечнай Фларыдзе?

* * *

Для абутку ў нас ужо была Італія, дзе малодшы сын вучыўся ва ўніверсітэце. Выбраліся з Вольгай у Рым напачатку лютага наступнага года. Акурат час зніжак, які бывае ў Італіі два разы на год. Там сапраўды зусім нядорага прыабуліся, я купіў сабе элегантныя чорныя чаравікі на міжсезонне ды рыжыя востраносыя шляхецкія бліскучыя туфлі. Апошні набытак выклікаў сумненні і жонкі, і Данілы, але я настаяў на сваім, шляхецкія алюзіі не давалі спакою. Кашулі яшчэ купілі зусім танна, і портачкі маладзёвыя вузкія я прыдбаў, якія сядзяць не на таліі, а на бёдрах. Што ты, стары пень, купляеш? – неяк так выказала свае адносіны Вольга. А якія мы старыя? Проста апранууцца прыстойна хоць у сталыя гады, калі раней не выпадала.

У свае гады разумееш, што не адзенне галоўнае, а стан душы, які трэба захоўваць у раўнавазе ў любы час і ў любых жыццёвых варунках. Але і знешні выгляд тутака не лішні, той жа галаўны ўбор. Ён дадае новыя грані ў вобраз паэта, ці больш правільна, іх трэба стварыць. Па гарачых слядах правялі са Стасам фотасесію, для новай паэтычнай кнігі мне патрэбны быў здымак. У цэлым няблага атрымалася, але тая задума, як на партрэце Якуба Коласа работы Стэльмашонка, не атрымалася. Цёмны фон быў, а я адразу не разгледзеўся. Хацелася, каб фон

быў светлы, тады б капялюш чытаўся належным чынам. Выбар за здымкаў ёсць, толькі не для гэтай кнігі. Таму і давялося рабіць іншую серыю, аб чым згадвалася вышэй. Але мара паэта збылася, у фотанізках ёсць паэтычна-філасофскі выяўленчы вобраз.

Добра, калі і абставіны спрыяюць новым граням. Фестываль саверсізму ды ігдрасілізму ДАХ. Такія словы азначэння і выгаварыць няпроста, не тое, што растлумачыць. Прасцей – авангард, сюррэалізм, калі браць карціны Алеся Родзіна. І калі фільм "Міфалагемы Родзіна", з прэм'еры якога ў Берліне і пачаўся мой удзел у ДАХах, яшчэ можна аднесці да форматворчай (але і сутнаснай!) мастацкай плыні, то літаратурную маю творчасць ніяк да авангарднай ці постмадэрнісцкай не залічыць, хутчэй гэта класічны накірунак. Тым не менш, вершы, якія чытаў як удзельнік наступных імпрэзаў Мітрыча і Родзіна (пасля Берліна шмат разоў такое было), натуральна дапасаваліся да сучаснага мастацтва. Нават санеты, на што ўжо класічная форма! Падумалася неяк наступным разам (капялюш з'явіўся) – а чаму ўсё-такі імідж паэта не падцягнуць да постмадэрнізму? Вось і стаю на сцэне канферэнц-залі палаца мастацтваў – новы амерыканскі пільчачок, порткі таксама амерыканскія, чорныя. Кашулька гжэчная італьянская, якая адразу з-за прыемнага колеру з блакітным адценнем і формы каўнерыка вельмі мне даспадобы. Чаравікі чорныя італьянскія шляхецкія ды мой практычна ўжо знакаміты (звяртаюць увагу ўсе) капялюш амерыканскі. Чытаю патрыятычныя вершы, чытаю выразна, не спяшаючыся, даволі гучна. Мае вершы няпростыя для чытання, але стараюся зрабіць акцэнты на асобных, важных па сэнсу радках, каб хоць гэта зачапіла ўвагу таго, хто слухае. Мо дзе і фарсірую голас, але ў цэлым яно варта, бо адабраныя вершы надзіва нацыялістычныя ў самым харошым сэнсе слова. То бок, прысутнічаў у паэтычных тэкстах і публіцыстычны момант, важны для аудыторыі. Апошні раз (зноў тое ж месца) яшчэ і шалік модны на шыі. Андэрграўнднае мастацтва, моладзевы рух ды мае класічныя ўласна вершы – поўны постмадэрн! Дзеля яго якраз і патрэбны капялюш. Пры тым словы сур'ёзныя, думкі асэнсаваныя, радкі шчымліва-пранікнёныя. Кліча ўвагу ўсё разам. Не проста так кажу, бо меў той апошні раз водгук, працяг – запрашэнне на інтэрв'ю.

Мы заўсёды чамусьці думаем, што дзеці будуць жыць лепш за нас, жадаем ім больш шчаслівай долі. Магчыма, яны і сапраўды не будуць мець клопатаў, ува што прыстойна і з густам апранууцца, гэта будзе звычайнай справай, а не нагодай пісаць аповеды на такую тэму. І старэйшы сын Цімох, і Марына, і рымскі студэнт наш малодшы Даніла, які перарос джынсы і красоўкі. У яго, як і ў мяне, галоўная і прыкметная адметнасць твару – нос. Але калі ў мяне з бульбінкай, беларускі, то ў яго прамы, як вытачаны, рымскага профілю, апалонаўскі. Адразу надае характарнасці твару, хоць у кіно здымайся (ды і здымаўся некалькі разоў). Ад каго – ад дзеда Вікенція, на якога падобны? Ці ад дзеда Аляксандра? Мо і праўда мелі рацыю нашы продкі-шляхта, калі сваю лінію выводзілі з рымскіх патрыцыяў? Тут ужо аніяк не палічыш выпадковасцю, што трапіў вучыцца акурат у Італію. Тым больш там прысутнічае такая нязначная побытавая дэталь – з густам апранууцца нашмат прасцей, чым у нашай беднай, але дарагой для жыцця Беларусі.



Кастусь Цвірка



...у новым часе, калі была адменена цэнзура, для пісьменнікаў адкрылася магчымасць гаварыць пра ўсё адкрыта, без прыхоўвання сваіх думак "у падтэкст"...

# Човен майго часу

***З новай кнігі***

## АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ

У той час, як многія яго равеснікі і маладзейшыя спрытнякі рваліся з толькі што спечанымі, а то і недапечанымі вершыкамі на старонкі друку, Анатоль Вярцінскі не спяшаўся паказвацца са сваімі творамі на чытацкія вочы. Было яму ўжо за трыццаць, калі ён пусціў у людзі свой першы паэтычны зборнік – "Песню пра хлеб". Зборнік невялічкі, але з яго ўсе ўбачылі, што ў беларускую літаратуру прыйшоў не абы які паэт, паэт з Божай ласкі.

Кружыцца ў скверы кляновае лісце,
Як быццам шукае яно сабе выйсце...

*Працяг. Пачатак у №6 (85) за 2016 год, №1-2 (86-87) за 2017 год.*

Такімі простымі словамі пачынае Анатоль Вярцінскі сваю паэму, якая дала назву ўсяму зборніку. Гэтае ўбачанае ў горадзе пазалочанае восенню кляновае лісце адразу павяло паэта ў свет яго маленства, у родную вёску на Лепельшчыне, дзе здавён у сялянскай печы хлеб выпякаўся не ў адмысловых формах, а

проста на лапушных кляновых лістах, збіраць якія было прыемным абавязкам дзяцей.

На ўсё жыццё запомнілася яму, як маці пякла хлеб з новага ўраджаю. Гэта было сапраўднае, доўгачаканае свята сям'і, у якой даўно падскрэбліся ўжо ўсе засекі. Анатоль Вярцінскі да драбніц узнаўляе, паэтызуе працэс выпечкі хлеба. "Хіба забудзеш калі гэты момант!" – прызнаецца ён, запрашаючы і чытача на тое спрадвечнае свята:

Стаіць цішыня незвычайная ў хаце.
Збіраемся дружна мы ўсе каля маці.
Мы бачым адны толькі матчыны рукі,
адны яе рукі, адны іх рухі...
Цеста мясіла яна кулакамі,
сценкі дзяжы абірала рукамі,
вады падлівала, мукі падсыпала.
І нам было клопатаў тут нямала.
Былі мы ў мінуту гэтую рады
выканаць матчыны ўсе загады.
Мы ёй памагалі рукаў закасваць,
муку падсыпаць па яе заказу,
хусцінку мы ёй папраўлялі ахвотна
ці лоб выціралі матчын потны.
Было урачыста і ціха ў хаце –
хлеб з новага жыта ўчыняла маці.

Услед за першай кніжкай пайшлі ў паэта адна за адной новыя – "Тры цішыні", "Чалавечы знак", "З'яўленне", "Час першых зорак", "Ветрана", "Святло зямное", "Высокае неба ідэала"... Распісаўся Анатоль Вярцінскі. Распісаўся, бо не мог не пісаць: вельмі ж блізка да сэрца прымаў ён усё, што рабілася ў краіне – спярша ў "Краіне Саветаў", а потым у "незалежнай" Беларусі.

Як сапраўдны рыцар, з аткрытым забралам ішоў ён у бой за сваю Бацькаўшчыну, за яе праўдзівую, а не паказную волю, за праўду і справядлівасць. "Толькі аднаго: несправядлівасці чалавечы дух мой не знясе", – заяўляў паэт. "Поезд справядлівасці" – назваў ён і адзін з вершаў, прысвечаны гонару нацыі Васілю Быкаву, на якога абрынулася была за праўду ўся "каралеўская раць" савецкіх ідэалагічных цэрбераў. Паэта вельмі непакоіла, што надта марудна ідзе гэты поезд. Ды не ідзе – "паўзе чарапахаю", увесь час спазняючыся "то на паўмінуты, то на паўстагоддзе":

Я стаю на станцыі, я білет трымаю.
Семафор зялёны насцеж адкрываю.
Я з тых пасажыраў, хто ў асаблівасці
чакае той поезд,
поезд справядлівасці.
Хто ім проста трызніць,
для каго ён – шчасце,
Хто сябе гатовы
шпалаю пакласці
пад поезд жаданы –
абы толькі йшоў ён,
абы явай быў ён...

Вершы такога грамадскага гучання пераважаюць у кнігах Анатоля Вярцінскага. Адметная іх асаблівасць – каб выказацца пра нейкую падзею ў сваёй краіне, паэт часта ідзе шукаць аналогію ў сусветнай гісторыі.

Многія помняць, як закаранелыя крамлёўскія артадоксы спіхнулі з высокага седала непрадказальнага "Мікіту-кукурузніка" і ўзнеслі на трон новага Ільіча,

вельмі адыёзную асобу, паклаўшы гэтым канец адноснай “хрушчоўскай адлізе”. Прама выказацца ў падцэнзурным друку пра гэты “дворцовый переворот” не было магчымасці. Але, каб адгукнуцца на яго, Анатоль Вярцінскі бярэ аналагічны прыклад з гісторыі Францыі, калі Вялікая французская рэвалюцыя, якая страсянула троны многіх еўрапейскіх краін, закончылася тым, што да ўлады ізноў прыйшлі Бурбоны – старая каралеўская дынастыя. “Бурбоны вяртаюцца ў Парыж” – так назваў беларускі паэт свой верш. Чытач добра разумеў, пра якіх “Бурбонаў” тут ішла гаворка.

Наколькі абуралі перадавую савецкую грамадскасць гэтыя крамлёўскія гульні, добра відаць з поўнага горкай іроніі верша, які хадзіў тады ад Буга да Уладзівастока і аўтарства якога прыпісвалася Яўгену Яўтушэнку:

Насмешили всю Европу,
Показали простоту.
Десять лет лизали ж...,
Оказалось, что не ту.

Но народ не унывает,
Как и шёл, идет вперёд.
Верит: партия родная
Ж... новую найдёт.

Знайшла! Толькі гэтую незлічоная плойма падхалімаў лізала ўжо не дзесяць гадоў, а значна болей, вядучы вялікую краіну да ганебнага заняпаду і ўрэшце да поўнага развалу. Тых жа, хто адкрытымі грудзьмі кідаўся на непрыступны мур бальшавіцкай тыраніі, чакалі нары канцлагераў або чэкісцкая куля. Іх усенародна шальмавалі і аплёўвалі, пазбаўлялі грамадзянства і выганялі з роднай зямлі. Многія з нас помняць яшчэ, як бязлітасна распраўляліся савецкія ўлады з праўдзівымі народнымі абаранцамі, змагарамі за волю Аляксандрам Салжаніцыным, Андрэем Сахаравым, Барысам Пастарнакам, Андрэем Сіняўскім, якіх, вымазаўшы самай чорнай фарбай, гвалтоўна вытурвалі за межы краіны, адлучалі ад літаратуры і грамадскай дзейнасці.

“Адлучэнне Талстога ад царквы” – адшукаўшы аналогію ў мінулым, такім вершам падняў свой пратэстны голас супраць расправы ўладаў над лепшымі сынамі Расіі Анатоль Вярцінскі. Верш пра тое, як “цар свецкі і царкоўныя царкі” адлучылі ў 1901 годзе ад царквы вялікага рускага пісьменніка, як ва ўсіх саборах і цэрквах крычалі яму папы “Анафема!” – за падрыў “стаўпоў” самадзяржаўя.

Але вастрыё пяра Анатоль Вярцінскі скіроўвае ў вершы не так на гэтых ахоўнікаў “турмы народаў”, як на абылганы, лёгкаверны просты люд, які ўслед за папамі ішоў “многогубо” праклінаць гэтага “вераадступніка” Льва Талстога: “Анафема ты ... чорт стары... Будзь пракляты...Ты здохнеш па-сабачы... Згнаім цябе ў турме, у манастыры!.. А не – прымусім – замаўчыш іначай!..”

Амаль тымі ж словамі пракліналі нацкаваныя ўладамі “працоўныя масы” і на названых вышэй і неназваных “заевшихся дисидентов”.

Пра той жа ачмураны “просты люд”, які так добра памагаў уладам бэсціць самаахвярных змагароў за яго ж правы ці ў лепшым выпадку глядзець праз пальцы на тое, як распраўляюцца з імі, і верш Анатоля Вярцінскага пра Спартака, пра тое, як людзі спакойненька спалі, калі яго распіналі на крыжы.

Спартак, Спартак! Героі ўсіх эпох!
Ці не такі ваш лёс быў у фінале?
Як нехта моцна спаў, вас распіналі,
вы ціха на крыжы сваім каналі,
і білася жанчына каля ног.

Уцёкі ў гісторыю давалі Анатолю Вярцінскаму мажлівасць выказваць свой пратэст супраць гвалту і несправядлівасці і ў вершах "Хунвэйбіны", "Размова з Ду Фу", "Каментарый да Карана", "Варыяцыі на тэму "Гефэст – друг Праметэя". Гэта была своеасаблівая "эзопава мова" Анатоля Вярцінскага.

У новым часе, калі была адменена цэнзура, для пісьменнікаў адкрылася магчымасць гаварыць пра ўсё адкрыта, без прыхоўвання сваіх думак "у падтэкст". Як цяпер гаворыць Анатоль Вярцінскі ў сваіх творах, паказвае яго новая паэтычная кніга "Жыцьмем", выдадзеная нашым "Кнігазборам" у 2012 годзе.

Не мог прайсці міма ўвагі Анатоля Вярцінскага выхад, мусіць, самай балючай у нашай літаратуры кнігі ў серыі "Беларускі кнігазбор" – важкі том твораў загубленых бальшавіцкімі ўладамі беларускіх пісьменнікаў "Расстраляная літаратура". На гэту падзею (а ці ж з'яўленне такога выдання не падзея?) Анатоль Вярцінскі адгукнуўся вершам "Замест рэцэнзіі" з такім прысвячэннем: "Кастусю Цвірку – ініцыятару выдання, аднаму з укладальнікаў і рэдактару кнігі "Расстраляная літаратура":

...Не, браце, гэта не кніга...
Ты толькі яе крані:
На вокладцы цёмна-барвовай
Адбітак застылай крыві.

Вельмі прыцягальная ў Анатоля Вярцінскага і лірыка. Ці пісаў яшчэ хто пра каханне гэтак во ярка, з такой душэўнай аддачай:

Было так радасна і хораша!
Ты, як агонь, ахапляла горача.
Было так дзіўна і цікава!
Ты, як вада, мяне абцякала.
Ты, нібы вецер, мяне абвявала.
Ты, нібы вецце, мяне абвівала.
Ты, нібы лісце, шаптала нешта.
Ты, як зямля, стагнала грэшна.
Потым гучала музыка ціхая:
тайну вялікую спасціг я...

Анатоль Вярцінскі ў "эпапеі кахання" шчасліва знаходзіць такі момант, які яркім пражэктарам высвечвае ўсю душу "лірычнага героя". Гэтакі момант у вершы "Жаночыя рукі" – звычайнае рассціланне пасцелі каханай жанчынай.

Сведчылі месяц, ноч і я:
Сцелюць пасцель рукі жаночыя...
Узлятаюць з падушкамі белымі,
Белымі птушкамі снуюць...

Дарэчы прыгадваецца яму тут і даўно запомненая простая песенька:

Я пасцель сцялю,
Я пасцель сцялю,
Падзялю яе
З тым, каго люблю...

Пры гэтым рассціланні пасцелі звычайная прасціна каханаму "лісцем зашапоча", яго хвалюе і робіцца значнай любая драбніца, якая ў іншым выпадку і не заўважалася б. "Лірычны герой" цвярозай галавою разумее, што разаслаць пасцель "няма нічога прасцей", што гэта "справа звычайная, не цуд", але ўсе эпітэты верша, усе словы, інтанацыя кажуць зусім адваротнае – цуд!

У другім вершы ("Элегія кахання") Анатоль Вярцінскі ўзяў момант чакання

закаханым прыходу на сустрэчу яго любай. Ён даўно прышоў, даўно чакае, а “яна ўсё не ідзе, яна ўсё спазняецца...” Чаго толькі не перадумае тут закаханы хлопец, што толькі яму не прымроіцца. Ён чакае і не ведае, “колькі хвілін прайшло, колькі гадзін, колькі дзён, колькі год”. Яму ўжо на плечы “падае снег, падае нейкі пух, падае пыл, лісце і зоркі”, падае на скроні сівізна, “а яе ўсё няма...”

А колькі самага шчырага пачуцця ў вершах “Мора, сонца, я і наша каханне”, “Пайшло яно – незваротнае...”, “Эдзіт Піаф хоча любві”, “Самы светлы сон”, “Мы жывём, каб вяртацца”, “Як дружна мы востраў свой абжывалі”, “Як мы жылі, як любілі”.

Блізкія мне і паэмы Анатоля Вярцінскага, яны вельмі сугучны маім думам і настроям. У бальшыні з іх аўтар адштурхоўваецца ад нейкага жыццёвага факта і праз яго выказвае ўсё, што ў яго на душы. Ён нечым важным заваблівае чытача і вядзе за сабой, не адпускаючы. Такія – “Начны бераг”, “Даруйце!”, “Заазер’е”, “Дажынкі”...

У Анатоля Вярцінскага мне цікава чытаць усё. Апроч вершаў і паэм, сваё важкае слова сказаў ён і ў вельмі адметных драматычных творах, а таксама ў баявой публіцыстыцы, у грунтоўных літаратурна-крытычных артыкулах.

Са студэнцкіх гадоў лучаць мяне з Анатолем Вярцінскім прыяцельскія (ад слова прыяць) стасункі. З ім добра параіцца па любых творчых пытаннях, у тым ліку па выданні тамоў “Беларускага кнігазбору”. Слова яго заўсёды важкае, выверанае жыццём, папраўдзе мудрае.

Яго асаблівасць – разважлівасць, не мітуслівасць. Павольны ў рухах, ураўнаважаны, спакойны – такі ён у жыцці. Такі і ў творчасці. Ён не скача галопам па радках, як бальшыня паэтаў, ніколі не спяшаецца. Паставіць у радок нейкае, можа, ключавое, слова і тут жа спыняецца на ім, аглядвае з усіх бакоў, можа, нават абхуквае, каб выявіць яго глыбінны сэнс, і толькі тады ідзе далей, моцна трымаючы, не адпускаючы ад сябе чытача. Яшчэ такое ў мяне назіранне. Ідучы, Анатоль павольна, трохі раскачваючыся, ступае па зямлі. Гэтакі ж запаволены, разняволены і рытм яго вершаў. Вершаў, якімі ён нязменна кліча чытача да “высокага неба ідэала”.

*27.08.2015*

## АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

З імем Аркадзя Куляшова ў мяне звязваецца найперш яго светлая даваенная лірыка, якая палюбілася з юнацкіх гадоў.

Верш “На сотай вярсце”. Малады хлопец, “лірычны герой” верша, напальвае за бацькавым падворкам лазню. Раптам каля яго спыняецца перадыхнуць, праскакаўшы на кані “сто вёрст”, вельмі гожая маладая дзяўчына. На гэтай “сотай вярсце” завязваецца знаёмства. Ды і нешта большае: “яна – маладая, і я – малады”. Але дзяўчына не можа доўга тут аставацца, бо спяшаецца дадому, у сваю вёску. А тут яшчэ пачало паказваць на дождж:

З трывогай на хмарку
Глядзім, а маглі б
Ісці з ёй да парку –
Да школьных да ліп.

Конь пасвіўся б сыта
У лузе, а мы б
Пад самае жыта
Пабегчы маглі б.

Пасеўшы ў зацішша,
Вязалі пражмо б,
А сонца ўсё ніжай
І ніжай ішло б.

У хвалі прымала б
Яго збажына...
Куды ж паскакала
Так рана адна?

Касынкай-зарой
З жытніх бліснула хваль.
Як сэрца за ёй
Парываецца ўдаль!

Ці не гэтымі светлымі мроямі юнацтва, красою палявых і лугавых разлогаў, дарагімі сэрцу краявідамі роднай зямлі прываблівала чытача ранняя лірыка Аркадзя Куляшова? Мне і сёння хочацца перачытваць шмат якія яго вершы – “Ельнік” (“У кожнага з нас ножык – адменнага ляза, у кожнага з нас кошык – крынічная лаза...”), “Маладосць” (”Я за трактарам калісьці бег, кінуўшы ў агонь вярцёл і сала; ты да ціхіх саламяных стрэх з гулам пад’язджала...”), “Карусель” (“Бальшаком, на край зямлі і неба, я ўсю ночку цёмную ішоў...”), “Шэршні” (“Мы хадзілі некалі сюды насыпаць у кайстры жалуды...”), “Воблака” (“Уткнуўшы ў бераг вудзільно, я вуджу раніцою. А воблака? Плыве яно і небам, і вадою...”), “Млын” (“З дзеўчынай развітваўся юнак...”), “Мая Бесядзь” (“Кажуць, што рэкі птушкамі створаны...”), “Магілёўская хмарка” (“У вобласць Арлоўскую хмарка плыла...”)...

Калісьці да глыбіні душы ўскалыхнула ўсіх пранізлівая песня Ігара Лучанка на верш Аркадзя Куляшова “Бывай” – пра першае каханне юнага паэта:

Пайшла й ніколі ўжо не вернешся, Алеся.
Бывай, смуглявая, каханая, бывай.
Стаю на ростанях былых, а з паднябесся
Самотным жаўранкам звініць і плача май...

Дзіва дзіўнае: верш “Бывай...” напісаўся ў Аркадзя Куляшова, калі было яму ўсяго чатырнаццаць гадоў!

Але яшчэ большае дзіва, што ён так і не развітаўся з гэтым светлым пачуццём да канца сваіх дзён, носячы яго ў сэрцы як нешта самае дарагое і незваротнае.

Перачытваю ўсяго Аркадзя Куляшова, каб паглядзець, дзе ж яшчэ адбілася гэтае юнацкае каханне паэта, ці не згубілася, не зацерлася яно ўсё ж у завірусе гадоў.

Не, не згубілася, не зацерлася!

Праз два гады, як быў напісаны верш-песня “Бывай...”, Аркадзь Куляшоў згадвае пра сваё першае каханне і ў вершы “Дарогі”, дзе прызнаецца, што з той пары “ніколі болей не кахаў так шчыра і так лёгка і так сумна”, як кахаў яе, дзяўчыну “з прыгожымі задумнымі вачыма”, якую “людзі клікалі Алесяй”:

Блукалі мы з табой па тых мясцінах,
Дзе жыў я першыя свае гады...
Ў жытах з табой зрывалі каласы.
Ў лес ідучы, мы іх вязалі разам.
Запальвалі пасля агонь вялікі
І ў стройных соснах смажылі пражмо.
І ў травах лежачы (за край знікала сонца),
Пра будучнасць мы марылі з табой...

Не пра каго іншага, як пра яе трызніць паэт яшчэ праз дзевяць гадоў у вершы “Бюро даведак”. Прыехаўшы дадому з горада, ён (аўтар падае свайго “лірычнага

героя” ў трэцяй асобе) адважваецца завітаць у Забесяддзі да Алесінай мацеры, каб што-небудзь даведацца пра сваю дзяўчыну, бо “яна яму, як светлы ранак, як юнацкі непаўторны свет”.

Сапраўдным гімнам гэтаму першаму каханню сталася паэма Аркадзя Куляшова “Толькі ўперад”, напісаная ў 1950 годзе, калі паэту было ўжо 36. Ён (ці мо лепш ізноў скажам – “лірычны герой”?) прыехаў з горада дамоў, “да зялёных дуброў, у той край, дзе не быў васямнаццаць гадоў”.

Прыехаў і вельмі засмуціўся, што ўжо не сустрэў нікога са сваіх школьных таварышаў:

Я не ведаў спакою
і дзень, і другі,
Абышоў усе сцежкі,
гаі і лугі,
Ды нідзе не пабачыў
сяброў дарагіх...

А без іх ён быў “і дубровам не рад”. Таму намерыўся вярнуцца назад у горад.

Але раптам пачуў, што за сем кіламетраў ад яго селішча, на Бесядзі, будуецца электрастанцыя, якая пазбірала “каля светлай вады навакольных студэнтаў – народ малады”, што захацелі правесці тут, на будоўлі, свае канікулы.

Ну, а я? Хіба ж мог
заставацца ў баку?
Я таксама студэнт,
што з таго, што былы
І што тэрмін
майго адпачынку малы?..

І ён ідзе ў студэнцкі гурт, на тую будоўлю. Працуе там з маладымі людзьмі. Як роўны з роўнымі. І адразу развейвае сваю тугу. Яму стала блізкай і роднай “студэнтаў сям’я”.

Працаваў я, а ўвечары,
так, як яны,
Я на гукі баяна
спяшаў да сасны.
Там стаяў, прысланіўшыся,
ціха да дрэў,
Усю ноч
і на хуткія пары глядзеў
Ды на месяц, што іх
асвятляў з вышыні,
Абуджаючы ў сэрцы
юнацкія дні...

Нарэшце настала пара раз’ездаў. Пара разлучацца закаханым парам. Таму “што ні вечар даўжэй” каля рэчкі “развітальныя вальсы” ды шэпты маладых людзей. Прыходзіла пара ад’язджаць і яму самому.

І што вечар цяжэй
Мне на сэрцы, што вечар
даўжэй і даўжэй
Я над рэчкай сяджу
і не зводжу вачэй
З таго бору...

Бо за ім, за тым борам, на другім беразе Бесядзі – “Алесі сяло”. Ізноў завірылі,

узбунтавалі сэрца дарагія ўспаміны. А тут узгарэлася, яшчэ ярчэй засвяцілася ў небе тая зорка – зорка Канікула.

Гэта зорка не раз
у лясной старане,
Калі быў я студэнтам,
свяціла і мне.
І не раз гэта зорка
у родных лясах
Мне да дома дзяўчыны
паказвала шлях...

Толькі ходзячы праз Бесядзь да Алесі, ён так і не асмеліўся прызнацца ёй у сваім каханні. Намерыўся зрабіць гэта на наступных канікулах. Але калі сустрэўся з ёй праз год, было ўжо позна. Скончыўшы інстытут, яна ад'язджала працаваць на Далёкі Усход і ёй цяпер не трэба былі яго прызнанні. Развітаўшыся, "пайшла цвёрдым крокам дамоў".

Я не верыў: так хутка?
Няўжо назусім?
Гэты міг раптам здаўся мне
Страшным такім,
Што я крыкнуў: – Алеся!...
Не знаю, зачым.
Я паклікаў яшчэ.
Бор застаўся глухім.
Але шэптам далёкім,
Трывожным, чужым
Ён сцвярджаў: "Назусім,
Назусім, назусім..."

Тады ж, у роспачы, каб не напаміналі аб страчаным, ён спаліў усе яе пісьмы. Але пасля пашкадаваў: "Можа, з пісьмамі, з жалем тут шчасце спаліў?"

І вот цяпер, праз гэтулькі год пасля апошняй сустрэчы, развярэдзіўшы сэрца шчаслівымі спевамі студэнтаў, ён зноў захацеў хоць што даведацца пра яе і не вытрымаў – перайшоў Бесядзь, за якой была яе хата.

Як на бераг выходзіў,
мне ногі абпёк
Успамінам гарачым
халодны пясок...

Я прыйшоў. Вось той ганак,
той ганак, той дом,
Тое ж прасла. Рабіны
пад тым жа акном...

Бор за домам падрос,
стаў цяпер векавым.
Гэта тут развітаўся
я з ёй назусім.

Прад вачыма плывуць,
як жывыя, ізноў
Ўсе сустрэчы мае,
усе словы з лістоў.

Думаў я, што даўно
спапяліў іх агонь,
А яны б'юць мне ў сэрца,
штурхаюць у скронь.

Мне здавалася, я ўжо
даўно іх забыў,
А я першай любоўю
люблю, як любіў...

У Алесінай хаце цяпер аставалася толькі яе маці. Ад яе госць нібы даведаўся пра ўсю гісторыю Алесі – пра яе камсамольскі запал на вялікіх будоўлях, пра партызанскія подзвігі ў час вайны, пра гераічную гібель ад рук нямецкіх фашыстаў.

Так паэту захацелася ўзвысіць вобраз сваёй каханай. Хоць у рэальнасці яна была тады жывая і, пэўне ж, больш зямная. І яе, зямную, хоць і не пазбаўленую арэола рамантычнасці, ён не пераставаў кахаць.

Нават усчаў быў з ёй перапіску. Яна, Алеся, Аляксандра Васільеўна Карыткіна, скончыўшы ў 1930-х гадах Ленінградскі педінстытут, настаўнічала ва ўкраінскім горадзе Роўна. А дзесьці ў 1950-х гадах паэт наладзіў з ёй і сустрэчу. Гэта была вельмі хвалюючая сустрэча пасля двух ці нават трох дзясяткаў гадоў разлукі. Хоць гады паклалі на яе аблічча свой адбітак, Алеся не страціла сваёй абаяльнасці. Гэта відаць і з яе тагачаснага партрэта, які знайшла ў інтэрнэце мая памочніца Лена. Расказаўшы пра гэтую сустрэчу ў сваёй кнізе "Аркадзь Куляшоў", яго дачка Валянціна Куляшова прывяла і згадку бацькавага шафёра Арцеміка, які вёз адтуль паэта: "Усю дарогу дадому Аркадзь Аляксандравіч быў сумны і нават ці не плакаў". Як ніяк, паміж імі, даўно звязанымі сваімі сем'ямі, ляжала ўжо неадольная мяжа. Аркадзь Куляшоў канчаткова развітаўся тады са сваёй Алесяй:

Пайшла, пакінуўшы мне золкі і туманы,
Палынны жаль смугой ахутаных дарог,
Каб я хвілінны боль і горыч гэтай раны
Гадамі ў сэрцы заглушыць сваім не мог.

Не, не заглушыў Аркадзь Куляшоў гэты свой боль, гэтую страту.

Праз болей чым дзесяць гадоў пасля той сустрэчы ў вершы "Мне сніўся сон..." ён пісаў:

Мне сніўся сон: ты адляцела ў вечнасць
І зоркай там зрабілася між зор.
А я, душы і цела супярэчнасць,
Жыву – не звар'яцеў і не памёр.

Штовечар сэрца ходзіць на спатканні...

Яшчэ праз пяць гадоў напісалася і такое васьмірадкоўе:

Сноп апошні залатога жыта
Застаецца ў памяці палос...
Гэтак і цябе не скосіць лёс –
Мною ты не можаш быць забыта.

Нават і тады, калі б імгла
Вочы мне засыпала зямлёю,
Калі б я забыты быў табою,
Мною б ты забыта не была.

Ці ж не пра яе і верш "З далёкага" з такімі радкамі:

Калі вясною закукуе
зязюля ў лесе раніцой,
Ты прыгадай вясну другую,
Сустрэчы нашыя з табой.

Згадай усё, што сэрцу міла,
Што сэрцу дарага было.
Забудзь, што ўсё адгаманіла,
Адкукавала, адышло...

Забудзь!.. Хай сэрцы адгукнуцца
Адно другому па вясне.

Як відаць, Алеся – рэальная і высненая – усё жыццё была праўдзівай музай Аркадзя Куляшова. Яна, Алеся, гэтае нязгаснае юнацкае каханне, думаецца, нябачна прадыктавала Аркадзю Куляшову лепшыя радкі яго паэзіі. У гэтым прызнаецца і сам паэт у аўтабіяграфічнай паэме "Далёка да акіяна", закончанай у 1971 годзе:

Гэта ты маёй рукой,
Ты, лясное дзіва,
На паперу ратны строй
Літар вывадзіла.
Так! Нябачна ты майму
Слову памагала...

Можа, дзякуючы запаленаму ў юнацтве сардэчнаму агню, мы і маем сёння такую адметную з'яву ў нашай літаратуры, як Аркадзь Куляшоў?

Толькі поўнае любові сэрца магло прадыктаваць паэту і яго цудоўную лірыку, і творы грамадскага гучання.

Надзвычай ярка раскрыўся выдатны талент Аркадзя Куляшова ў час вайны – у гады ўсенароднага ўздыму, выкліканага жаданнем вызваліць родную зямлю ад нямецка-фашысцкай навалы. Мужныя, глыбока патрыятычныя вершы "Ліст з палону", "Над брацкай магілай", "Балада аб чатырох заложніках" і паэма "Сцяг брыгады" сталі знакавымі вехамі той страшнай вайны.

З пасляваенных вершаў мне асабліва дарагія "Крылы" ("Я пакідаў юнацтва край, дзе жыў жыццём вясёлым..."), "Вяселле" ("Шчасця ўсе па дарозе вам зычылі, пад дугою звінелі званкі, млынары, па даўнейшаму звычаю, прыпынялі знарок ветракі..."), "Размова з патомкамі" ("Я не заўважыў, калі мая сталасць настала..."), "Зямля" ("Зор вам ніяк не злічыць, астраномы..."), "Пра восень" ("Адгукніся, вясна, мне зязюляй з-за рэчкі, дай яшчэ раз прыпасці да любай зямлі..."), "Да паэзіі" ("Я вязень твой, а ты – мая турма, асуджан я любоўю пажыццёва..."). Ды ці толькі гэтыя?

Усе вершы Аркадзя Куляшова знаходзяць свой водгук у душы чытача. Чытаць іх хочацца ўголас. Кожны радок гучыць для мяне, як туга напятая струна. Глядзіце, як выструнены, прыкладам, радкі верша "Зайздрошчу я мастам...", у якім паэт выказвае сваё творчае крэда. Здаецца, чуеш грукат састава па сталёвых рэйках:

Зайздрошчу я мастам, не іх канструктарам,
Дарогам, па якіх да нашых дзён
Імчаць саставы з посвістам і грукатам,
Не помнячы праслаўленых імён.

Хачу, каб так і слова – не жалезнае,
Знаёмае з пакутай і слязьмі, –
Ад славы і імёнаў незалежнае,
Трымала сувязь з часам і людзьмі...

Новае дыханне адкрылася ў Аркадзя Куляшова ў апошнія гады жыцця, калі пасля вядомых партз'ездаў ужо нельга было схаваць праўду пра тое, што адбывалася ў краіне ў "вялікую сталінскую эпоху".

Проста ўскалыхнула чытача яго паэма-рэквіем “Маналог”, прасякнутая глыбокім болем за сяброў-паэтаў Змітрака Астапенку і Юлія Таўбіна, бязвінна загубленых сталінскімі апрычнікамі: з гэтымі таленавітымі беларускімі паэтамі Аркадзь Куляшоў сышоўся яшчэ ў юнацтве, калі вучыўся разам з імі ў Мсціслаўскім педтэхнікуме. І вот іх не стала. Ніхто не ведае і дзе іхныя магілы:

А забыццё, каб сцерці з нешматслоўнай
Зямлі бесчалавечную віну,
Схавала месца смерці безназоўнай
Пад дыванам, сатканым з дзірвану.

І хоць дзірван, што рану ўкрыў старанна,
Стаў палыном на мёртвай глебе той,
Не зарасла зямлі жывая рана,
А зарасла зямля яе травой.

Дзе б я ні быў, дзе б мне ні давялося
Убачыць дол, сівы ад палыну,
Пякуча сэрца сціснецца, і лёс я
Загінуўшых без весткі памяну...

Маўчыць нябыт каменных пліт паважных,
Дзе з надпісаў дажджы змываюць пыл,
Там я блукаў, але імёнаў вашых
Не адшукаў на вокладках магіл.

Няма куды сваю жалобу ўскласці
Ні жонкам, ні знаёмым, ні бацькам.
Сябры мае, хіба аб гэтым шчасці
У маладосці марылася нам?

Вяло нас музы строгай блаславенне
На шлях цяжкі, ды што казаць аб тым...
Я – ваша памяць, вы – маё сумленне,
Я – дрэўка, вы – трывалы сцяг на ім.

Да глыбіні душы ўзрушыла Аркадзя Куляшова, ужо ў новым часе, і зусім неспадзяваная смерць ці не самага блізкага яго сябра, вялікага рускага паэта Аляксандра Твардоўскага, зацкаванага крамлёўскімі ўладакрадамі толькі за тое, што на старонках рэдагаванага ім “Нового мира” нёс ён пра іх людзям праўду. Свой пякучы боль беларускі паэт выказаў у пранізлівых радках паэмы “Варшаўскі шлях”:

Мне горка ад таго, што не хапае
Не нас яму сягоння, нам – яго.
Было з кім гаварыць, было ў каго
Сумленню прыклад браць, радкам – вучыцца.
Пытаю я ў цябе, мой шлях, чаму
Магло так прычыніцца, што яму
Мы ўжо не снімся больш, а нам ён сніцца?..

З рукамі каваля, з душой жняі,
Не раз ён тут салдатам нёс уцеху
І жартам весяліў іх, каб яны
Забыліся на змрочны жарт вайны.
Здаралася, ён ім хлусіў для смеху,
Ды не маніў ніколі для маны.
Не раз, стаіўшы плач зямлі сірочай,
Ён іх на подзвіг зваў сваёй прарочай,
Чорнарабочай
кнігай пра байца,
Не ўсімі дачытанай да канца...

"З рукамі каваля, з душой жняі" – такім бачыўся Аркадзю Куляшову Аляксандр Твардоўскі, якога ён называў "земляком": іх жа родныя вёскі Саматэвічы на Магілёўшчыне і Загор'е на Смаленшчыне – амаль побач.

Вельмі прыхільна сустрэла беларуская грамадскасць і драматычную паэму Аркадзя Куляшова "Хамуціус" – пра гераічную постаць вернага сына Беларусі Кастуся Каліноўскага. Асвойваючы новы для яго жанр – драматургію, Куляшоў не захацеў цалкам адысці і тут ад паэзіі: усе дыялогі пададзены ў ёй вершам, вершам класічным – з адзінай строгай рытмікай і рыфмоўкай. І таму паэму хочацца чытаць і перачытваць. Як і ўсе яго творы.

Мне не часта даводзілася бачыць Аркадзя Куляшова. У адрозненне ад іншых літаратараў, яго рэдка можна было сустрэць у Саюзе пісьменнікаў. Як відаць, не любіў ён мітусню, пустое марнаванне часу.

Адзін раз мне выпала выступаць разам з Аркадзем Куляшовым і яшчэ некалькімі паэтамі ў Доме афіцэраў. Перад нейкім высокага ўзроўню партактывам рэспублікі. Мы сядзелі на сцэне за доўгім сталом, адкуль і выходзілі па чарзе на трыбуну. Гэта было недзе на мяжы 60-х і 70-х гадоў. Кожны з нас чытаў (павінен быў чытаць) па адным вершы. Я тады вельмі здзівіўся, што Аркадзь Куляшоў выбраў для чытання аж занадта "ідэйны" верш "Камуністы" ("Камуністы – гэта слова, як са сталі..."), хоць у той час не абавязкова было выстаўляцца такім ідэйна загартаваным. Потым я зразумеў, што гэта была яшчэ адна адчэпная костка, якая кідалася ўладатрымальнікам, каб спакойна пісаць тое, што хацелася, без аглядкі на ўказкі зверху. Ды не заўсёды такія косткі памагалі. Помніцца, сабраўся я аднаго разу слухаць па радыё аб'яўлены ў праграме антыбальшавіцкі "Маналог" Аркадзя Куляшова, здаецца, у аўтарскім выкананні, ды замест яго чую раптам нейкую лёгкую музычку: не дазволілі даць народнаму паэту гаварыць з народам. Хоць у друку твор і праскочыў тады.

Знаёмства з Аркадзем Куляшовым было ў мяне, калі можна так сказаць, мімалётнае, мне, намнога маладзейшаму, не даводзілася гутарыць з ім. Я думаў, што ён увогуле не запомніў мяне, хоць мы і выступалі з адной трыбуны. І вельмі здзівіўся, калі ў фае купалаўскага тэатра пасля прагляду нейкага спектакля пры сустрэчы ён прыпыніўся каля мяне і, вітаючыся, першы працягнуў мне руку. Цікава, што гэты момант зафіксаваў, пстрыкнуўшы сваім апаратам, многагадовы пісьменніцкі майстар-фатограф Уладзімір Крук. Праўда, здымка я нідзе не бачыў. Відаць, не праявіў яго Валодзя. Але недзе ў архіве негатыў, мусіць жа, захаваўся. Добра б было адшукаць яго і папрасіць каго зрабіць здымак: прыемна было б пахваліцца каму знаёмствам з такім славутым нашым паэтам.

Мне вельмі б хацелася ўбачыць ладны аднатомнік выбранага Аркадзя Куляшова ў нашай "залатой" серыі "Беларускі кнігазбор". Яго планаваў я ў самым пачатку сваёй выдавецкай дзейнасці. Ды ўсё не дазвалялі фінансы (адсутнасць іх). Шукаючы спосабу выдання, я даўно вёў перамовы з дачкой Аркадзя Куляшова Валянцінай. Ды калі гэты "спосаб" знайшоўся, перашкодай стаў яе брат, матэматык, які жыве ў Маскве: ён, як сказала мне Валянціна, прэтэндуе на ганарар за выданне бацькавых твораў. Але ж у такім разе кніга атрымалася б стратнай. А хто ж будзе нешта рабіць са стратамі?

Вельмі шкада: гэта ж такі выдатны атрымаўся б кнігазбораўскі том! У ім мы далі б усе лепшыя вершы і паэмы Аркадзя Куляшова, у якіх надзвычай ярка праявіўся дзівосны талент папраўдзе народнага паэта.

Не абмінулі б мы і паэму "Толькі ўперад", якую дачка Аркадзя Куляшова чамусьці не ўключыла ў бацькаў аднатомнік выбраных твораў, які яна рыхтавала для выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў 1995 годзе. Не зважаючы на асобныя пазнакі часу ("камсамольскі значок, сцяг і літары "КІМ"; "камсамольскае сэрца

пад значком баявым”), а таксама на абавязковую тады “вытворчую тэму” (будаўніцтва калгаснай электрастанцыі), без чаго аўтара абвінавацілі б у “безыдэйнасці”, паэму трэба аднесці ўсё ж у разрад лірычных твораў. Лічу яе ці не самай лепшай паэмай савецкіх часоў пра каханне. Так, аўтар змушаны быў пісаць яе ў цесных рамках “сацыялістычнага рэалізму”. Але магутная сіла кахання разарвала ўсе “сацрэалізмаўскія” ланцугі і ва ўсёй сваёй прыгажосці раскрылася перад чытачом. Вялікае жывое пачуццё шчасліва перамагло ўсе тыя штучныя повязі.

Калі пасля ўніверсітэта мне давялося настаўнічаць на Случчыне, у Труханавіцкай сярэдняй школе, адзін з урокаў у дзясятым класе адводзіўся для простага чытання аднаго якога-небудзь твора нашай літаратуры. Я выбраў для гэтага найбольш упадабаную мною паэму Аркадзя Куляшова “Толькі ўперад”. Праўда, у мяне атрымаўся тады з гэтым невялікі канфуз. Гэта калі я ў сваім чытанні дайшоў да во гэтых радкоў паэмы:

Вальс іграе баян
на гары за ракой,
Весяляцца студэнты
пад зоркай сваёй.
Што ж, спявайце, сябры,
На высокай гары,
Каб чуваць былі песні
Далёка ў бары.
Вы спявайце, гуляйце
Да самай зары.
У жыцці весялейшай
Не будзе пары.
Да шчакі прытуляйцеся
Шчыльна шчакой,
Да рукі дакранайцеся
Ціха рукой,
Гаварыце ўсю праўду
Каханай сваёй,
Не бывае другой
Маладосці такой.

Чытаючы гэтыя радкі, я адчуў, што твар мой залівае чырвань. І гэта адразу заўважылі вучні – пачалі ўсміхацца, пераглядвацца, перашэптвацца. Але як бы там ні было, я ўсё ж зацікавіў сваіх вучняў гэтай цудоўнай паэмай Аркадзя Куляшова.

І яшчэ адно. Сваю выдатную паэму Аркадзь Куляшоў і назваў быў спачатку вельмі хораша: “Зорка Канікула”. Ды зноў-такі сацрэалізм вымагаў тут большай строгасці, ідэйнасці. І, наступаючы “на горло собственной песне”, аўтар вымушаны быў даць паэме больш “ідэйную” назву: “Толькі ўперад”. У мяне ж узнікла думка: а чаму б, калі знойдзецца магчымасць усё ж не выдаваць кнігазбораўскі том Аркадзя Куляшова, не вярнуць яго паэме тую першапачатковую, найбольш адпаведную ёй назву – “Зорка Канікула”?

*16.11.2015*

## МАСЕЙ СЯДНЁЎ

Само жыццё Масея Сяднёва – незвычайны, можна сказаць дэтэктыўны раман з нечаканымі перыпетыямі. Самыя значныя вехі гэтага рамана: першае вялікае каханне Масея (такое біблейскае імя даў яму пры хрышчэнні святар) да юнай пастушкі гусей Дусі ў роднай вёсцы Мокрае Касцюковіцкага раёна; вучоба ў Мсціслаўскім педвучылішчы, дзе ён пасябраваў з выдатнымі нашымі паэтамі Аркадзем Куляшовым, Юліем Таўбіным і Змітраком Астапенкам; паступленне на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Мінскага педінстытута; знаёмства

ў Мінску з народным паэтам Беларусі Янкам Купалам; неспадзяваны, зусім беспадстаўны (хаця падстава была: пісаў жа на беларускай мове вершы) арышт энкавэдыстамі; амаль год катаванняў у мінскай турме; "этапы большого пути" ў Архіпелаг ГУЛаг – Навасібірск, Томск, Краснаярск, Іркуцк, Улан-Удэ, Чыта, Хабараўск, Уладзівасток, Японскае мора, Магадан; чатыры гады катаргі на Калыме (дзе "золото роют в горах"); "дастаўка" ў 1940 годзе грукатлівым таварняком у халодным закратаваным вагоне-цялятніку на перасуд у "родную" мінскую турму; амаль яшчэ адзін год здзекаў там з боку турэмшчыкаў; бамбаванне нямецкімі самалётамі Мінска, якое скаланала сцены турмы ў першыя дні вайны; валачэнне на ўсход у больш чым кіламетровай калоне дахадзяг-зэкаў пад рулямі чырвоназорых канваіраў ды пад аглушальныя посвісты і выбухі бомбаў з чарнакрыжых сцярвятнікаў; удачныя ўцёкі каля Чэрвеня з-пад куль энкавэдыстаў і шчаслівае вяртанне "блуднага сына" на бацькоўскі парог; кожнадзённыя хованкі ад новых гаспадароў – нямецкіх акупантаў і ад сваіх "народных мсціўцаў", якім трэба было дабіць "ворага народа"; ад'езд у 1943 годзе ў Беласток, дзе трапіў у спрыяльнае асяроддзе беларускіх інтэлектуалаў, а потым – доўгія гады эміграцыі, дзе давялося церабіць новую жыццёвую дарогу...

Гэты напісаны самім жыццём раман-эпапею Масей Сяднёў толькі тое і зрабіў, што перанёс на паперу ў выглядзе сваіх твораў, асабліва раманаў "Раман Корзюк" і "І той дзень надышоў", якія нельга чытаць без вялікага душэўнага ўзрушэння.

Студэнт Мінскага пэдінстытута Масей Сяднёў прыехаў да бацькоў у родную вёску Мокрае на свае апошнія летнія канікулы. Мілыя сэрцу сцежкі маленства, адкрытыя сонцу і воблакам любыя разлогі палёў і лугоў, дзе так добра блукаць на вольнай волі, шумныя гулянкі вясковай моладзі, заляцанні да дзяўчат... Што можа быць лепшае для студэнта?

Ды зусім неспадзявана шчаслівыя дні канікул азмрочвае прыезд з раёна, з Касцюковіч, "упаўнаважанага", які чамусьці адразу выклікаў у сельсавет "на размову" Масея. Знешне размова атрымалася бяскрыўднай. "Чуў я, – казаў "упаўнаважаны", – вы на апошнім курсе ўніверсітэта. Канчаеце, значыцца. Вельмі добра. Будзеце выкладаць? Расейскую ці беларускую літаратуру?.." І папытаўся: каго ён найбольш любіць з беларускіх пісьменнікаў – Гаруна, Дубоўку, Чорнага, Кляшторнага?" Гэта насцярожыла маладога паэта. Ведаючы, што ўсе яны былі арыштаваныя органамі НКВД, хлопец не даў сябе злавіць на кручок, ухіліўшыся ад прамога адказу.

Масей спачатку не прыдаў вялікага значэння той "размове". Але пра яе дазнаўся бацька, якога яна вельмі ўстрывожыла: "Сын мой, дык гэта ж ты на заметцы. Бачыш, ён кінуў ужо сваё вока і на нашу хату. А для чаго? Можа, ты нешта сказаў – тут ці там, у Менску? Ці напісаў што дрэннае? Не можа ж быць, штоб так, з бухты-барахты. Кінуў бы ты сваю пісаніну – згубіць яна цябе"... І далей: "Можа б ты паехаў да цёткі ў Хабараўск? Можа б уцалеў і за што-небудзь учапіўся б там?"

Але сын пачаў заспакойваць бацьку: за ім жа няма аніякай віны. Толькі і ў самога закралася трывога. Яна выказалася ў вершы "Прадчуванне":

Больш у полі я не заначую,
кіну я зялёную бярлогу:
у аддалях цёмнай ноччу чую
сэрцам я асеннюю трывогу.

Пра ўсё гэта вельмі падрабязна расказвае Масей Сяднёў на першых старонках рамана "І той дзень надышоў".

Сам пісьменнік назваўся ў сваім рамане Міколам. Але гэта яго маска, вельмі празрыстая, зрэшты, маска. Мусіць, адзявалася яна, каб больш праўдзіва расказаць у творы пра сябе. Ды паслядоўна ён і не хаваецца пад той маскай. Нават свае вершы, з якімі выступаў у друку, цытуе ў рамане як "Міколавы".

З надзеяй, што з ім нічога кепскага не будзе, Масей Сяднёў варочаецца ў Мінск, каб заканчваць вучобу і ўладкоўвацца дзе на працу па спецыяльнасці.

Гэтым канчаецца першая з трох частак рамана, якая вядзецца ад першай асобы – ад "я" паэта.

Другую частку рамана пісьменнік прысвяціў бацькам, якія асталіся ў Мокрым і вельмі перажываюць за арыштаванага энкавэдыстамі сына. За што яго арыштавалі і куды вывезлі, яны, як і чытачы, дакладна не ведаюць.

Пра ўсё гэта расказваецца ў першым рамане Масея Сяднёва –"Раман Корзюк". Чытач нібы акунаецца ў ім у тую трывожную, проста напятую атмасферу, што панавала, з кожным днём згушчаючыся, у трыццатыя гады ў Мінску, асабліва ў асяроддзі інтэлігенцыі, якую савецкія ўлады абвінавачвалі ў буржуазным нацыяналізме, у "нацдэмаўшчыне" і кідалі ў турэмныя засценкі, за калючыя драты канцлагераў або проста расстрэльвалі ў шматлікіх "курапатах". У эпіцэнтр гэтых падзей якраз і трапляе сам аўтар, які праходзіць усе кругі гулагаўскага пекла і толькі цудам застаецца жывым.

Зваротам Масея Сяднёва (пад іменем Мікола) дадому пачынаецца трэцяя, апошняя частка рамана "І той дзень надышоў".

Аповед пра гэты зварот не можа не крануць чытача. Вот ён, паэт-катаржнік, падышоў да сваёй вёскі. "Усё знаёмае, роднае хлынула ў маю душу, сціснула маё сэрца болем, жалем і трывогай. Я цяпер ужо дома, я ўжо тут, я зараз пераступлю свой парог!.." Але: "Як гэта я зайду ў хату, як гэта я пакажуся!.. Баюся ўзяцца за клямку дзвярэй, пераступіць тую мяжу, да якой дайшоў. Стаю і не адважваюся адчыніць дзвярэй – як гэта так, адразу! Збіраюся з духам..." Не трэба казаць, якая гэта была радасць бацькам – сустрэць такога даўгачаканага сына!

Цікава, што па-свойму і не менш кранальна апісаў вяртанне са сталінскіх засценкаў Масея Сяднёва яго зямляк Іван Чыгрынаў у сваім рамане "Апраўданне крыві". Да гонару гэтага пісьменніка, ён яшчэ ў савецкія часы, часы панавання Галоўліта – гэтага цэнзурнага монстра – не пабаяўся ўзяць у героі свайго твора апальнага літаратара, "ворага народа" Масея Сяднёва пад яго ўласным імем – Масей. Ён зрабіў яго сынам аднаго з галоўных герояў "Плачу перапёлкі" і іншых раманаў "верамейкаўскага цыкла" – Дзяніса Зазыбы, былога старшыні калгаса, якога і знялі з гэтай пасады праз арыштаванага сына.

Вярнуўшыся ў час нямецкай акупацыі дадому, Масей Сяднёў апынуўся ў вельмі складанай сітуацыі. Над ім навіс дамоклаў меч. З аднаго боку небяспека зыходзіла ад немцаў, якія змушалі такіх маладых людзей ісці ў паліцыю, памагаць ва ўсім фашыстам, а з другога боку – ад партызан, якія хацелі забраць яго на службу да сябе. Але ні тым, ні другім ён служыць не збіраўся. Ён быў і супраць германскага фашызму, і супраць сталінскай тыраніі, "красу" якой добра зведаў на сабе. Так што ад адных і ад другіх давялося Масею Сяднёву хавацца.

З набліжэннем фронта "недабіты вораг народа" Масей Сяднёў зусім змушаны быў уцякаць на Захад, каб ізноў не апынуцца ў энкавэдысцкіх кіпцюрах. Якраз гэтым і заканчваецца раман "І той час надышоў".

Абодва раманы Масея Сяднёва былі напісаны ў 80-х гадах мінулага стагоддзя ў эміграцыі, дзе не трэба было асцерагацца нядрэмнага вока літаратурных жандараў.

Да раманаў жа былі ў яго вершы. Спачатку светлая бесклапотная лірыка маладога паэта, перад якім адкрываліся заманлівыя, азалочаныя сонцам далячыні:

Пад дажджом мы стаялі. Маланак агні
палыхалі за дальнім бугром.
З невядомай крутой вышыні
грозна звальваўся гром...

І відаць было – травы, пялёсткі раслі,
замірала зямля ад гарачых уцех.
Пад дажджом мы стаялі. Мы рады былі,
што дажджы і што ўсё перад намі цвіце...

І думаць не думаў малады паэт, што нават гэтая бяскрыўдная лірыка можа таіць у сабе нейкую небяспеку для аўтара. Але якраз праз яе, праз шчырыя вершы на роднай мове і апынуўся ён за турэмнымі кратамі. Спраўдзіліся словы Аркадзя Куляшова, які, пазнаёміўшыся яшчэ ў Мсціслаўскім педвучылішчы з паэтычнымі спробамі Масея Сяднёва, сказаў яму: “Ты захварэў на небяспечную хваробу, Масей”. Апынуўшыся ў змрочных турэмных мурах, ён і сам гэта зразумеў:

Мусіць, больш не маючы нічога,
маці мне мая дала жалейку.
Ды пачуўся голас духу злога:
– Згінеш ты, Масей, ні за капейку...

Захапіўся песняй я сваёю,
падкаваў я рыфмай чарадзейку.
Толькі ж грымнула над галавою:
– Згінеш ты, Масей, ні за капейку.

Я ў няволі. Маці мая, маці,
ну нашто ты мне дала жалейку?
Маёй песні болей не ўзвівацца –
Згінуў, згінуў я ні за капейку.

Ды напоўніцу зведаўшы сталінскае пекла, паэт усё ж такі здолеў вырвацца на волю.

Што варта ў Масея Сяднёва самай вялікай павагі, дык гэта яго нязломная вернасць Беларусі, свайму народу, роднаму беларускаму слову. Нідзе – ні ў чэкісцкіх катоўнях, ні ў далёкай эміграцыі – ён ніколі не здраджваў беларускай мове, а, значыць, свайму народу. “...Што тычыцца мовы, – казаў ён у пісьме да паэта Леаніда Пранчака, – то яна была для мяне не толькі сродкам, а нечым больш. Душой. Лекамі ў найцяжэйшыя часы. Я прышоў з ёй у гэты свет, нідзе з ёй не разлучаўся, яна была маёй духоўнай спадарожніцай. Мова і я – гэта адно. Без яе няма чалавека”.

Не многа, не мала – цэлых паўвека Масей Сяднёў быў адарваны ад Радзімы. Ды ўсё роўна не кідаў пяра. Як і заўсёды, пісаў на роднай беларускай мове з надзеяй, што яго творы дойдуць калі-небудзь да Беларусі. Там, за мяжой, і друкаваў іх, выдаваў асобнымі кнігамі. Хоць дома, на Радзіме, яны і блізка не дапускаліся да чытача, беларускага чытача, якому і былі аўдрасаваны. Добрага паўвека яны былі ў Беларусі пад забаронай. Нават імя Масея Сяднёва нідзе не дазвалялася ўпамінаць. І мы, беларусы, не ведалі нават пра існаванне свайго выдатнага пісьменніка. І толькі ў 1990 годзе, калі Беларусь атрымала незалежнасць і пэўную самастойнасць, перад творамі Масея Сяднёва адчыніліся нарэшце ў нас дзверы. Як і перад самім аўтарам.

Атрымаўшы такую шчаслівую магчымасць, Масей Сяднёў адразу ж прыляцеў з чужыны, з далёкай Амерыкі на Радзіму, у сталіцу Беларусі. Прыляцеў і вельмі здзівіўся: у стольным Мінску, у якім у 20 – 30-я гады мінулага стагоддзя ўсюды гучала свая беларуская мова, цяпер панавала суцэльная “русчызна”, мова суседняй, хоць і саюзнай краіны.

Вельмі балюча ўспрыняў гэта беларускі пісьменнік Масей Сяднёў. Ён не мог зразумець, як гэта дапусцілі самі беларусы. Як маглі адцурацца самага дарагога – прыроднай мовы сваёй зямлі, а калі добра падумаць – саміх сябе. Тым

больш, што, як ён казаў, “беларуская мова насуперак сцвярджэнням некаторых “вучоных” – лінгвістычна самастойная мова, і ў ёй дастаткова сродкаў для выяўлення псіхікі нашай нацыі. Толькі наша мова, не якая іншая – ні руская, ні польская – блізкая нашаму характару, толькі ёй – мяккай і мілагучнай – адгукаецца наша душа”.

Мне добра помніцца прыезд Масея Сяднёва на Радзіму пасля паўвекавой гвалтоўнай адлучнасці ад яе. У Доме літаратара, у кабінеце старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі мы з радасцю віталі, можна сказаць, вяртанца з таго свету. За доўгім сталом для пасяджэнняў вольна, з радаснай узбуджанасцю гаманілі з ім, распытвалі пра яго незвычайную адысею. Масей Сяднёў, невысокага росту, з трохі прыплюснутым тварам, коратка адказваў на пытанні калег-пісьменнікаў, якіх ведаў дагэтуль толькі па кнігах (яны ж даходзілі і за акіян) і ўпершыню бачыў наяве. Раз за разам круціў галавой, водзячы вачыма з аднаго пісьменніка на другога, шчаслівы ад такой, зусім нядаўна немагчымай сустрэчы.

Гэта быў першы, але не апошні прыезд на Радзіму Масея Сяднёва пасля доўгай разлукі. Прылятаў ён і яшчэ. І, здаецца, не адзін раз.

У тыя часы я працаваў у часопісе “Полымя”. І вот аднаго разу, пастукаўшыся, нізкаваты Масей Сяднёў асцярожна, як бы з нейкай нерашучасцю адчыніў дзверы ў рэдакцыю. Я падняўся з-за свайго стала і ступіў яму насустрач. Як ужо дагэтуль знаёмыя, мы абняліся, я запрасіў яго сесці. Ён прынёс мне як рэдактару паэзіі і падаў акуратна аддрукаваныя на паперы свае паэтычныя творы – для апублікавання. Вельмі хораша мы тады з ім пагутарылі. На жаль, не доўга, бо ён спяшаўся ізноў ляцець у Амерыку, у свой Глен-Коў.

Прынесеныя мне творы я з прыемнасцю падрыхтаваў да друку, выбраўшы з іх, як звычайна, тыя, што адпавядалі нашым патрабаванням. І калі прыйшла іх карэктура, праз Вольгу Іпатаву, якая якраз адлятала ў Злучаныя Штаты, перадаў яе аўтару – каб яго парадаваць.

Праўда, я не мог тады прапанаваць для друку толькі яго паэму “Мікола Бугроў”. Твор пра вельмі балючую для аўтара тэму – пра зверскае забойства яго мацеры партызанам-камуністам Міколам Бугровым. Дарэчы, адным з герояў рамана “І той дзень надышоў”. Не падпісаў паэму да публікацыі таму, што палічыў яе слабаватай з мастацкага боку.

Масей Сяднёў, мусіць, затаіў на мяне за гэта крыўду, бо ў сваім дзённіку, які я знайшоў у архіве, ён негатыўна выказаўся на мой адрас, чамусьці назваўшы мяне “паланізатарам” (за тое, што я перакладаў на нашу мову польскамоўныя творы паэтаў Беларусі XIX стагоддзя Адама Міцкевіча, Тамаша Зана, Яна Чачота, Юльяна Урсына Нямцэвіча, Яна Баршчэўскага, Антонія Гарэцкага, Уладзіслава Сыракомлі і інш.).

Даўно марыў я выдаць аднатомнік выбраных твораў Масея Сяднёва ў серыі “Беларускі кнігазбор” – каб пазнаёміць Беларусь з яе верным сынам і выдатным пісьменнікам. Але доўга не знаходзілася такой магчымасці. Знайшлася яна, гэтая магчымасць, толькі ў 2014 годзе.

Рыхтаваў я том разам з Лідзіяй Савік, якая напісала да яго і ўступны артыкул. Апрача апублікаваных твораў Масея Сяднёва, мы ўключылі ў кнігу і тыя, што засталіся ў рукапісах. На шчасце, пісьменнік усе свае, пэўне ж, важнейшыя матэрыялы паспеў перадаць пры жыцці ў Беларускі дзяржаўны музей-архіў літаратуры і мастацтва, дзе мне давялося доўга пасядзець, вывуджваючы найбольш значнае з ягонай літаратурнай спадчыны.

Думаю, вельмі змястоўны, даволі прадстаўнічы атрымаўся аднатомнік Масея Сяднёва ў нашай залатой серыі.

Першы раздзел яго склалі вершы. “Вся моя биография – в стихах” – прыкладна так казаў некалі Сяргей Ясенін. З поўным правам мог бы сказаць так пра свае вершы і Масей Сяднёў. Усе этапы яго жыцця адбіліся ў радках паэзіі. Пра гэта кажуць і пазнакі пад вершамі: “Мокрае” (родная вёска), “Мінск, турма”, “Новасібірск, канцлагер”, “Марыінск, лагер”, “Калыма”, зноў “Мінск, турма”, “Беласток”, “Берлін”, “Баварыя”, “Нью-Ёрк”, “Глен-Коў”.

Другі раздзел – “Раманы”. Мне адразу хацелася ўключыць сюды абодва – і “Рамана Корзюка”, і “І той дзень надышоў”: у іх жа адбіліся ці не самыя трагічныя гады нашай гісторыі, гады нечуваных сталінскіх рэпрэсій. Але тады б мы не змаглі змясціць у кнізе з яе абмежаваным аб’ёмам іншыя, не менш цікавыя матэрыялы. Таму першы з раманаў давялося даць у скароце. Чаму першы? Таму што там было што апусціць. Самае важнае, самае значнае ў “Рамане Корзюку” – гэта паказ у ім вельмі напружанай, трывожнай атмасферы ў Мінску трыццатых гадоў, калі начамі па вуліцах лёталі “чоныя вораны”, хапаючы “буржуазных нацыяналістаў” і “нацдэмаў”. Аўтару здалося, што гэтага мала для чытэльнасці рамана, і ён дзеля “інтрыгі” прыдумаў розныя небяспечныя пераходы сваіх герояў цераз мяжу з Польшчай, дзе іх ловяць польскія паліцыянты. Але гэтыя пераходы былі шыты белымі ніткамі, і чытач не мог у іх паверыць, што і зніжала каштоўнасць твора. Гэта з часам зразумеў і сам аўтар. У пісьме да Янкі Брыля ад 28 снежня 1990 года ён прызнаваўся, што дарэмна белетрызаваў так свой твор. “...Гэтая “белетрыстыка” прычынілася і да пэўных выдаткаў, на якую Вы звярнулі ўвагу, і слушна: напрыклад, на тыя ж “ходы-пераходы” Рамана Корзюка ў Польшчу і назад. Слушна – у іх, як вы пішаце,”не надта верыцца”. А рабіў я гэта ўсё дзеля той жа зманлівай белетрыстыкі, дзеля фабулы, завязкі, дзеля так званага вострага сюжэта (якім, дарэчы, я не валодаю). Фабула, сюжэт той стрымлівалі мяне і ад “шчадрэйшай аўтабіяграфічнасці”, якой бы Вы хацелі, каб была ў творы. І слушна... А я ж хацеў менавіта дзеяння, руху, белетрыстыкі. Вось яна і падвяла мяне... раман атрымаўся аморфным, расцягнутым. Бярэ ён за жывое (калі бярэ наогул), можа, толькі сваёй фактурай, паасобнымі, больш-менш удалымі раздзеламі, сваёй “гістарычнасцю”.

Таму мы – на сваю рызыку – і апусцілі тыя прыдуманыя аўтарам для інтрыгі “ходы-пераходы” герояў у Польшчу, усю наносную “белетрыстыку”, а пакінулі раздзелы, дзе аўтар расказвае пра сябе і пра свой час. Давялося тут адпаведна змяніць і нумарацыю раздзелаў.

Думаю, праз гэты скарот раман і пазбавіўся той “аморфнасці” і “расцягнутасці”, пра што шкадаваў сам аўтар. У выніку чытач змог цяпер непасрэдна сачыць за рэальнымі падзеямі таго трагічнага часу. Шкадую толькі, што ў каментары мы з Лідзіяй Савік не растлумачылі чытачу прычыны скароту рамана. І дарэмна мы зрабілі ў пачатку рамана прыпіску пра яго скарачэнне, збіўшы гэтым самым чытача з панталыку. Дастаткова было б усё растлумачыць у каментары. А найбольш цікаўных чытачоў адаслаць да публікацыі рамана ў часопісе “Полымя” (1995, нумары 2–4), дзе ён даецца цалкам, без скарачэнняў.

Што ж да другога рамана “І той дзень надышоў”, то яго мы змясцілі ў томе цалкам, без аніякіх купюр. Лічу гэты твор – адным з самых выдатных дасягненняў нашай літаратуры. Я паставіў бы яго ў адзін рад з такімі буйнымі творамі, як “На ростанях” Якуба Коласа, як раманы Кузьмы Чорнага і “Людзі на балоце” Івана Мележа.

Вельмі добра, што аўтар не выдумляў у ім нейкага цікавага сюжэта, інтрыгі. А проста расказваў пра сябе, пра свае “блуканні па пакутах”. А гэта для чытача – самае цікавае.

Ці не галоўная сюжэтная лінія гэтага рамана – узнёслае і трагічнае каханне самога Масея Сяднёва (будзем называць рэчы сваімі імёнамі) да яго вясковай

суседкі Дусі, якой дамагаецца і камсамольскі актывіст, а потым партызан Мікола Бугроў, супраціўнік Масея, забойца ягонай мацеры.

Дуся – адзін з самых прывабных вобразаў рамана. За яе – найбольшыя перажыванні ў чытача. Яшчэ студэнтам пакахаўшы маладзенькую пастушку гусей Дусю, Масей прысвяціў ёй свае першыя вершы ("Пастушка", "Красуня"). З новай сілай разгарэлася ў яго каханне да "пастушкі", калі ён вярнуўся пасля пяці гадоў катаргі дамоў. У вельмі неспрыяльны для кахання час. Закаханыя пажаніліся. У іх нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Васільком. Ды і яе, і сына Масею давялося пакінуць, калі ўцякаў ад сталіністаў на Захад, у эміграцыю.

З сабой забраў толькі вялікі і нязбытны сум па іх. Каханне да простай сялянкі не згасла ў сэрцы паэта да канца яго дзён. Туга па ёй чуецца і ў напісаным праз сорак гадоў вершы "Лёрэляй":

Ёсць месца такое ў лесе,
з ім можа зраўняцца рай.
Там, на Палессі,
жыве мая Лёрэляй.

Як нас разлучыла ліха,
таму ужо колькі год,
над Прыпяццю плаўнай, ціхай
гарыць задуменны заход.

Гадаючы ўсё аб нечым,
на бераг, дзе бору край,
самотная, кожны вечар
прыходзіць мая Лёрэляй.

Сама не свая такая,
як бы на якую бяду,
яна мяне ўсё гукае –
а мо да яе я прыйду...

Знайшоў я ў архіве і цікавую згадку Масея Сяднёва пра сваё каханне – "Дуся", напісаную ў 1991 годзе. Каханне пасярод вайны. "Я хаваўся ад партызанаў, – расказваў ён, – не хацеў, каб яны мяне сілком забралі ў лес, дый баяўся: маглі знішчыць. Начаваў усюды: у полі, на агародах, у лесе, на могілках. Зімою – у неастылых яшчэ пасля мыцця лазнях, ці ў Дусінай радні, або ў знаёмых, абы толькі не трапіць у рукі забойцаў. У сваёй хаце не мог: прыйдуць – забяруць. Дуся была ўсюды са мною, ахвочая аддавацца сваёй няспыннай жарсці". Калі ў 1942 годзе паявіўся ў іх сынок Васілёк, не было канца радасці маладым бацькам. З цяжкім сэрцам змушаны быў Масей Сяднёў растацца і з Дусяй, і з сынам.

"Праз сорак сем год я наведаў Бацькаўшчыну, у тым ліку – Касцюковічы, – заканчваў ён сваю згадку. – Сустрэўся з сястрой Марфай і... з Васілём, маім сынам, з саракавасьмігадовым мужчынам, бясконца радым сустрэць, пабачыць свайго бацьку, якога яму гэтак не хапала. У гутарцы са мной сын казаў, што маці, не ведаючы, дзе я і што са мною, хадзіла да цыганкі варажыць і тая прываражыла ёй, што я не загінуў, жывы. На спатканне са мною ў Касцюковічы не пусціў ейны муж. Сын падараваў мне ейную з мужам фатаграфію – строгая ў паглядзе, але ўсё яшчэ прыгожая. Сын казаў, што я магу напісаць ёй. Даў ейны адрас. Але я не ведаю, ці напішу".

Кім жа ён стаў, Васіль Сяднёў (пэўне ж, носіць бацькава прозвішча), якая яго доля? Як бы хацелася ведаць пра гэта. Хочацца думаць, што ён знаёмы з бацькавай творчасцю, чытае яго кнігі. І што выдадзены намі ў залатой серыі

аднатомнік Масея Сяднёва мае ў сваіх руках. Мае і знаёміць з ім сваіх дзяцей і ўнукаў. Чаму б нашым газетам ці часопісам не зацікавіцца імі?

Калі рыхтаваўся кнігазбораўскі том Масея Сяднёва, мы, шукаючы матэрыялы пісьменніка, не змаглі звязацца з яго дзецьмі і ад другой жонкі, што нарадзіліся і жывуць у далёкай Амерыцы. Будзе вельмі крыўдна, калі яны не ўбачаць "выніковай" кнігі свайго бацькі. І няўжо назаўсёды стануць яны, Сяднёвы, чужакамі для Беларусі, знакамітым пісьменнікам якой і да канца адданым патрыётам быў іх бацька?

*2015*



## Канстанцін Тышкевіч



...цяжка паверыць, каб... пасярод такога адукаванага краю, якім з'яўляецца Літва, знайшоўся закутак, дзе чалавека, які працуе над адкрыццём цікавых асаблівасцяў нашага народнага жыцця, прынялі б за чараўніка...

# Вілія і яе берагі

## *ў гідраграфічных, гістарычных, археалагічных і этнаграфічных адносінах*

### VII.

*Працяг. Пачатак у №1-2 (86-87).*

*Друкуецца ў скароце паводле манаграфіі «Wilja i jej brzegi». Дрэздэн, 1871.*

*Пераклад з польскай Уладзіміра ВАСІЛЕВІЧА.*

Размяшчацца на начлег было яшчэ даволі рана, калі мы пасля шматразовых адпачынкаў, цягнучыся ўздоўж берага з дапамогаю нашых весляроў і цалкам вымучаныя, спыніліся нарэшце ля смаргонскага перавозу і вырашылі тут адпачыць да раніцы. Гэтая невялічкая прыстань знаходзіцца за пару вёрст ад аднайменнага мястэчка, стрэхі якога, што раскінуліся над раўнінай, такой характэрнай для гэтай мясцовасці, можна было адсюль пералічыць. А той белы, дзіўнай шарападобнай формы, нібы гарбуз, касцёл, які ўздымаўся над мястэчкам, здалёку сваімі абрысамі прарысоўваўся перад вачыма тых, хто плыў па Віліі. Смаргонскі перавоз – ужо апошняя ў гэтай частцы ракі прыстань, з якой выходзяць каробкі, нагружаныя пянькою і насеннем. Гэтае невялічкае паселішча з уласцівай яму вясковай прастатою размясцілася ля берага Віліі пры дарозе, што вядзе ад Смаргоні за Вілію ў бок горада Вілейкі. Там можна ўбачыць невялікія купецкія свірны, яўрэйскую карчму



каля перавозу; па-за ёю, пры дарозе, паводле літоўскага звычаю, некалькі драўляных крыжоў; за імі сціплыя вясковыя могілкі, абкапаныя ў форме квадрата з некалькімі ўбогімі надмагільнымі помнікамі; направа за дарогаю, як звычайна на беразе ракі – дзве сялянскія хаты з ледзьве бачнымі агародамі, пасаджанымі на чыстым пяску. Вось і ўсё, што мелася на прыстані, якая звалася Смаргонскім перавозам. У час, калі мы завіталі сюды, людзі мітусіліся пры адпраўленні каробак, а бераг быў поўны гатовых да сплаўлення плытоў.

Прыбыццё майго судна да Смаргонскага перавозу не было ніякай навіною – усюды па берагах Віліі было вядома, што я па ёй плыву, і ўсюды, менавіта дзе знаходзяцца перавозы (а іх лічба на Віліі даволі значная), я знаходзіў забяспечаны нам пераезд, што відаць было па апусканні канатаў у ваду. На Смаргонскім перавозе, акрамя людзей, якія працавалі пры каробках і плытах, на беразе таксама тоўпілася шмат яўрэяў і яўрэек, што прыехалі сюды з мястэчка – напэўна, купцоў, зацікаўленых таварам, які сплаўлялі па вадзе. Прыстаючы да берага, я і не прадчуваў, што ў гэтай грамадзе сабраных тут людзей знаходзіцца нямала такіх, якія чакалі менавіта майго прыбыцця. Мая доктарская слава набрала па рацэ Віліі такі розгалас, што тут пад мой прыезд сабраліся хворыя яўрэйскія жанчыны з мястэчка ў пошуках парады і дапамогі ад сваіх пакут. І распачаўся сцíслы лекарскі экзамен: адна за адною мусіла адбыць споведзь па сваіх пакутах, пасля чаго – зноў рамонак, зноў таблеткі з маёй падарожнай аптэкі разышліся паміж хворымі. Нямоглых на больш сур'ёзныя хваробы, у якіх я не разбіраўся і лячыць якія, зразумела, не адважваўся, я адрасоўваў у Вільню, найчасцей да п. Вэлька, бо хваробы былі падобнага паходжання. Такім чынам на беразе Віліі, даючы парады, мы праседзелі да позняе ночы. Ноч праляцела хутка, і як толькі пачало днець, усе, падмацаваныя сном, узяліся з новымі сіламі за працу. Паплылі мы ў далейшы шлях. За Смаргонскай прыстанню на нейкі момант Вілія перастае быць мяжою двух паветаў: павярнуўшыся на поўнач, яна вырываецца са сваіх пясчаных абдымкаў, каб, нібыта распешчанае дзіця ў свавольным выкручванні, пагуляць з берагамі квяцістых лугоў, па нейкай частцы ваколіц якіх яна плыве. Падарожнікаў, што едуць па рацэ па-над гэтымі прыгожымі лугамі, здалёк з прыемнасцю вітае мілы абразок, абсалютна вясковы і нейкі ўрачысты, роўнага якому той, хто плыве ад самога вытоку, дагэтуль не напаткае. На ўзнёслым беразе Віліі, направа, пасярод густой зеляніны дрэў бялее шляхецкі двор, акуратны і заможны. За ім – сціплы драўляны касцёльчык, далей – у рад доўгая вёска; усё ахайна і чыста. Гэтая прысвечаная Богу святыня нібыта наўмысна аказалася размешчаная паміж памешчыцкім дваром і сціплымі сялянскімі стрэхамі, каб сваёй духоўнай магутнасцю зліваць у адзінае цэлае іх узаемныя стасункі; каб сілай рэлігіі, якой маці наша – касцёл – уплывае на сэрцы вернага сабе народа, стварыць пачуццё братэрства і хрысціянскай любові з аднога боку, і дзіцячую пакорлівасць – з другога. Гэтае прыгожае паселішча завецца Данішава. Было яно некалі вёскай ксяндзоў езуітаў, а сёння з'яўляецца ўласнасцю ўдавы памешчыцы п. Чарноцкай. Убачаны пейзаж, поўны сціплай і такой урачыстай вясковай прастаты, настолькі прыйшоўся мне даспадобы, што я даручыў п. Янушэвічу, каб ён замаляваў яго ў маім падарожным альбоме. Мой рысавальшчык патрабаваў затрымацца ля берага, каб знайсці кропку, з якой ён змог бы больш удала перамаляваць дэталі гэтага віда. Мы прысталі да вялікага прыгожага луга на левым беразе ракі. Пан Янушэвіч пайшоў працаваць, а памочнікі прыняліся за сняданне.



Гэта быў дзень 12 чэрвеня – вігілія Найсвяцейшай Панны Зельнай. Названую дату прашу занатаваць, бо яна звязана з прыёмам нас у вёсцы. Напярэдадні Апякункі Зельнай вясковыя жанчыны збіралі палявыя кветкі і зёлкі, каб яны, пасвечаныя назаўтра ў касцёле, зноў на цэлы год стваралі ў іх хатах святасць. П. Янушэвіч, ведаючы, што найлепей удаецца запісваць мясцовыя песні ад вясковых жанчын, тым больш, што ўжо ўехаўшы ў Свянцянскі павет, ён нідзе яшчэ не падступіўся да гэтае справы, захацеў арганізаваць для мяне збіранне песень. Калі на лузе ён скіраваўся да жанчын, якія рвалі кветкі, усе пачалі ўцякаць у лазняк. Дзве смялейшыя з іх – адна старая баба, другая яшчэ маладая, прыстойная жанчына – засталіся на месцы. Зпрошаныя п. Янушэвічам на судна, кожная з іх, з вялікім пуком кветак пад пахаю, ідучы здалёк з асцярогаю, нясмела наблізіліся да берага. Астатнія жанчыны, што хаваліся ў густым лазняку, які акружаў луг, з цікаўнасцю выглядвалі з яго: што адбудзецца з іх дзвюма таварышкамі? Прыведзеных да мяне жанчын я пачаў распытваць пра народныя песні. Яны па сваім звычаі адмаўляліся, кажучы, што ніякіх песень не ведаюць. Тады я звярнуўся да звычайнага, праверанага ў такіх выпадках сродку – частавання гарэлкаю. Яны азіраліся адна на адну і не прынялі з маіх рук пададзенага ім нектару, ад якога ні ў якіх акалічнасцях яны адмаўляцца не звыклі. Гэта мяне нямала здзівіла. Адразу я не змог адгадаць прычыны, і зрабіць гэта, аказваецца, было не так і проста. Пасля настойлівых і дакучлівых маіх упрошванняў узяць грошы, ад якіх яны доўга адмаўляліся, заспявалі мне, нарэшце, песню пра кветкі, якія яны ў гэты дзень збіралі, але заўсёды здалёку, заўсёды са страхам, з трывогаю і азіраннем. Урэшце, калі я моцна і нястомна націскаў на іх, яны сказалі, што могуць зрабіць гэта ў вёсцы, калі я там затрымаюся. Я прыняў гэтую прапанову. Жанчыны пайшлі карацейшым шляхам праз луг, я ж рушыў ракою. Трэба было праплысці праз некалькі вялікіх паваротаў, перш чым мы наблізіліся да вёскі. Гэты пераход забраў часу на добрую гадзіну. Жанчыны, пайшоўшы простаю дарогаю цераз луг, апынуліся на месцы раней і паведамілі ў вёсцы пра мой прыезд. У тыя хвіліны, калі я падплываў, у касцёле адпраўлялася св. імша. Званок ля алтара, які даносіўся да судна, абвясціў нам, што св. ахвяра адбывалася ў святыні на беразе. Я адправіў на *"Ад'ютанце"* п. Янушэвіча для перагавораў з ксяндзом як з найбольш адукаваным жыхаром усяго гэтага паселішча з мэтаю ўзяць у яго звесткі пра мясцовасць, дзе ён быў пробашчам, каб пачэрпнуць з самай першакрыніцы (я меў права так меркаваць) падрабязнасці, якія датычацца маёй вандроўкі. Сам жа я, прагны да народных песень, паплыў да вёскі. Усе яе жыхары, пачуўшы пра маё прыбыццё, сабраліся грамадою ў пачатку вёскі, але здалёк ад берага, з цікавасцю гледзячы на мой ладны карабель, падобных да якога на Віліі не бачылі. Прыстаўшы да берага, я адразу ж проста пайшоў да сабранай грамады людзей. Па меры таго, як я набліжаўся да іх, грамада адступала назад ад мяне і відавочна жадала пазбегнуць майго набліжэння. Жанчыны рабілі тое самае, што і мужчыны, але не так выразна. Смялейшыя з іх далі мне магчымасць наблізіцца. Убачыў я сярод вяскоўцаў маю знаёмую, з якою гадзіну перад гэтым размаўляў на лузе, і, звярнуўшыся да яе, калі ўсе мяне пазбягалі, загадаў правесці да яе хаты. Калі я абраў яе месцам для працы, увесь вясковы люд акружыў хату. Знутры яна стала

запаўняцца жанчынамі рознага веку, пачынаючы ад малых дзяўчатак і аж да старых баб. Мужчыны, як больш разважлівая і асцярожная частка насельніцтва, сабраўшыся ў гурты і не набліжаючыся да хаты, стрымлівалі сваіх жанчын і адгаворвалі іх, каб не заходзілі ўсярэдзіну. Але ж паспрабуй пераканай, затрымай жанчыну, калі яе вабіць цікаўнасць, калі без яе нешта новае адбываецца. Як толькі я прапанаваў жанчынам паспяваць мясцовыя песні, сярод іх пачаліся розныя меркаванні, нарады, шэпты, нейкія ўзаемныя запалохванні. Жанчын выклікалі з хаты, пужалі іх рознымі бедамі і няшчасцямі – словам, ішлі паміж імі доўгія ціхія нарады і галасныя ўгаворванні. Усе гаманілі адначасова, і падступіцца да справы было немагчыма. На стале стаяла бутэлька. Калі чарка аббегла сабранае таварыства па крузе, гоман сапраўды яшчэ больш узмацніўся, але разам з ім змякчыліся вострыя формы людской упартасці. Калі ж у дадатак чырвоныя хустачкі і шнуркі блішчастых пацерак меліся стаць узнагародаю для спявачак, то дзве маладзенькія дзяўчынкі Марыся і Караліна, дзве адважныя спявачкі ў вёсцы – нявычарпаны склад народных песень, нягледзячы на пагрозы старэйшых, смела і ахвотна сталі перада мною і пачалі спяваць адну за адной песні, прызначаныя на розныя выпадкі. П. Шантыр сеў за стол запісваць – і так адразу цяжкая і немагчымая, на першы погляд, для выканання работа пайшла лёгка і гладка.

Падчас гэтай работы вярнуўся са свайго задання п. Янушэвіч, цалкам расстроены і незадаволены, бо калі ён расказаў пробашчу пра мэту майго падарожжа і папрасіў яго дапамагчы звесткамі пра мясцовасць, ксёндз на гэта яму адказаў, што ма́е прадпісанне ад біскупа запісваць народныя песні. Але гэта аказалася зусім немагчымая для яго рэч, і ён занядбаў даручаную справу, а ў дадатак зусім недарэчна пачаў скардзіцца, нібыта гэта ма́е нейкае дачыненне да майго падарожжа, што ў пробастве няма зямлі для плябані, што яму тут цяжка выжываць, што ён думае прасіць біскупа пра лепшую плябань.

Парады сталых мужчын, што стаялі на дарозе, не спыняліся, але яны аказаліся беспаспяховымі, бо праца па запісванні народных песень ішла ўсё лепей і лепей. Ужо і старыя жанчыны, крыху падвесялелыя, падключыліся да гэтае справы. Кожная ўжо сама рвалася з песняй і, падкідваючы па слоўку дзяўчатам, якія дыктавалі словы, не столькі прыгадвала, колькі перашкаджала. Мы спісалі пад дыктоўку шэсць аркушаў падобных вясковых песень, выконваемых у Свянцянскім павеце пры розных акалічнасцях. Яшчэ не так далёка ад'ехаліся мы ад мяжы Вілейскага павета, а ўжо колькі сустрэлі адценняў зместу і мелодыі ў гэтых песнях, якія поўнасцю адрозніваліся ад ранейшых. Падчас гэтай няпростай працы, пасярод бязладдзя і мітусні, калі жанчыны пачалі давяраць нам, а ад выпітага напою закруцілася ў галаве, затоеная дагэтуль праўда пачала гучаць з іх вуснаў. Яны прызналіся мне, што не хацелі на лузе прыняць прапанаванага ім мною кілішка, баючыся, што ў ім тоіцца каварства: "бо кажуць людзі (так яны мне тлумачылі), што смерць у гэтыя часы будзе прыходзіць і, спакушаючы рознымі сродкамі, пазабірае людзей са свету". Гэта быў менавіта той згаданы дзень, калі камета, пралятаючы, мелася сутыкнуцца з зямлёю і знішчыць яе, і прыход якой напоўніў свет страшэннай трывогай. Мяне і мой шыкоўны карабель яны прынялі за вандруючую смерць, а прапанаваны кілішак расцанілі як той спакушальны нектар, прываблены якім яны павінны скончыць жыццё. Ніводная журналісцкая "качка" ніколі не знайшла такога шырокага розгаласу, як тая нябачаная аб'ява астраномаў. Ніводнае з публічных паведамленняў ніколі не разляталася гэтак хутка і не разыходзілася між усімі класамі грамадства, уносячы ў іх роспач і трывогу, як гэтая чутка пра сканчэнне свету. Усе яе апрацоўвалі адпаведна сваім уяўленням; усе яе ўвасаблялі ў разнастайныя постаці, але заўсёды бачылі яе грознай і страшнай. Вясковы люд наогул перастаў быў працаваць і аддаваў на гулянку не толькі крывава зароблены грош, але прапіваў зерне, жывёлу і розны гаспадарчы набытак, які, напярэдадні смерці, яму ўжо нінавошта не патрэбны. На-

ват купцы – клас рэалістычных людзей, затрымалі былі свае гандлёвыя стасункі да той даты, што прыпадала на гэты страшны дзень – даты, пра якую публічна было паведамлена ў друку. Пазакрываліся кнігі, пазатрымліваліся выплаты, спыніўся гандаль, і ўвесь свет, калі можна так сказаць, затаіўся на хвіліну. Кожны чакаў развязкі гэтай праблемы. І трэба ж, каб я, каторы працуе над народнымі ўспамінамі; я, каторы так часта патрабаваў збліжацца з простым людам, замест таго, каб прынесці яму весялосць і пацеху, раптам зрабіўся тут прычынай перапалоху і трывогі. Але ўсё гэта знікла, калі мы пазнаёміліся бліжэй. Жанчыны ўжо перасталі думаць пра смерць, пра каварства; усе толькі адшуквалі ў памяці народныя песні і добра спявалі адна перад адной. Толькі мужчыны, гэтыя вясковыя прарокі, не давяраючы таму, што я быў такі ж чалавек, як і яны, хіба што вандроўнік дзеля навукі, пазбіраўшыся групамі, увесь час штосьці абмяркоўвалі. Якая мэта была ў маіх распытваннях пра мясцовыя песні, ці няма ў гэтым нейкага каварства, ці не вынікне з гэтага нейкае бяды – вось што было прадметам нарады сабранай грамады. Я заўважыў, што ў выніку праведзеных перашэптванняў на дзядзінцы гасподы адзін з сялян, смялейшы духам ад астатніх, узяў быў на сябе небяспечнае даручэнне наблізіцца да мяне, калі з сабраным запасам адвагі, якая адчувалася ва ўсім яго выглядзе, падступіўшыся проста да мяне, ён крыкнуў:

– Нех бэндзе Езус Хрыстус похвалёны!

Прыняўшы гэты хрысціянскі зварот толькі за знак агульнага прывітання, якім у нас сяляне звыклі ўсіх вітаць, я, цалкам заняты перапісваннем песень, "*In secula seculorum*" – як звычайна, машынальна, без асаблівай пашаны адказаў селяніну. І ўбачыў, як ён прама ад мяне вярнуўся да грамады, дзе зноў пачалося абмеркаванне. Мне і ў галаву не прыйшло, што там ішла гаворка пра мяне; што жадаючы хутчэй пераканацца ў маёй місіі, яны вырашылі, каб той пасланы ад грамады селянін, праз набожныя словы, выказаныя ў мой адрас, падышоў праверыць, ці не бязбожнік я, і пасля майго адказу, як я потым гэта высветліў, абвесціць мяне па вёсцы вандроўным антыхрыстам.

Калі ўсё гэта адбывалася ў сялянскай гасподзе, касцельны слуга падаў мне маленькую картку, на якой кс. пробашч, напэўна, успомніўшы, што ў сваіх пошуках я магу разлічваць на разуменне з боку грамадства і на яго дапамогу ў сваёй працы, паведамляў мне, што ля суседняй вёскі, якая завецца Уляны, знаходзіцца поле бою шведаў. Атрымаўшы гэтае паведамленне, я спытаў у вяскоўцаў пра тое поле. На мой запыт вясковая моладзь акружыла мяне, і ўсе пачалі расказваць нейкія дзівосы: што за вярсту адсюль усё поле заслана касцямі; што, ходзячы па ім, малыя дзеці знаходзяць зялёныя пярсцёнкі і завушніцы і прыносяць іх дахаты.

– У што ж ператварыліся тыя знойдзеныя пярсцёнкі? Куды яны падзеліся? – спытаў я.

Людзі абыякава адказалі мне, што іх панішчылі, паламалі, пагублялі; што на тую пагалоску якраз надарыўся яўрэй-спекулянт, і калі ён за знойдзеныя аздобы (паколькі яны былі зроблены не са срэбра) не захацеў плаціць, то з таго часу вяскоўцы на такое паскудства нават не звяртаюць увагі, і толькі малыя дзеці забаўляюцца, адшукваючы іх у пяску. І гэта гаварылася пра такі неацэнны скарб для археолага, пра нічым не вымяральную неспадзяванку для падарожніка, які, зазіраючы ва ўсе куткі, шукае рэчы для сваіх даследаванняў. Можна ўявіць, што тварылася са мною ў гэты момант. Я як мага хутчэй склікаў сваіх людзей, узяў рыдлёўкі і лапаты, і калі ўжо быў гатовы, звярнуўся да вяскоўцаў:

– Вядзіце мяне на гэтае поле бітвы!

Сабраная вакол мяне грамада вясковай моладзі рушыла са мною праз агароды на поле; некалькі малых дзетак таксама пабегла за намі. Мы ўжо між сабою ўвайшлі ў давер. Усе разам яны расказвалі мне пра разнастайныя дзівосы, што здараюцца на тым полі. Між імі найбольш адважна і многа гаварыў нейкі Сталюк, салдат,

што знаходзіўся тут у неабмежаваным адпачынку – чалавек малады, здаровы і смелы. Я паўсюль бачыў яго, паўсюль яго было зашмат; яго клікалі на вясковую нараду – нешта ён там радзіў сялянам; а то, заціснуты паміж бабамі, ён пра штосьці перашэптваўся з імі; піў гарэлку, якою я частаваў жанчын у хаце. А пад канец ён вёў рэй на чале моладзі, што ішла са мною. І паўсюль – з двухсэнсоўнай усмешкай, па якой не зразумееш, з каго ён смяецца. Салдаты, звольненыя са службы, утвараюць у нас нейкі дзіўны грамадскі клас. Даўней, калі селяніна аддавалі ў войска на 24 гады, той, пакідаючы сям'ю, ужо прымiраўся з думкаю, што ён прызначаны на службу за ўсю сваю грамаду і мусіць усё сваё жыццё прысвяціць манарху і краіне. Ад таго часу служба ў войску ўключала яго ў пэўнае саслоўе і рабілася адзіным ягоным прызваннем, да цяжкіх умоў якой ён за ўсё жыццё станавіўся прывычным, і вяртаўся ён пад родную страху няйначай як пасля завяршэння сваёй вайсковай службы, на спакойны кавалак хлеба і на прадастаўлены адпачынак падарваных праз службу сіл. Шматгадовая звычка да ваеннай дысцыпліны і канчаткова завершаная ў яго жыцці служба рабілі яго пажаданым госцем. Вёска прымала яго з радасцю, з пашанаю, як годнага ветэрана. Пры апошняй сістэме частага набору ў рэкруты сельская гаспадарка пазбаўлялася вялікай колькасці працоўных рук, але адначасова штогод у родную вёску вярталася вялікая колькасць людзей дзёрзкіх і абыякавых, якія не ведалі што з чаго тут пачаць. Прыцягнуты на манаршую службу салдат набывае асабістую свабоду. Праз некалькі год, вяртаючыся на адпачынак у родную вёску, ён выглядае абсалютна чужым для сваёй сям'і, якая паводле закону застаецца спадкаемцам грамадзянскай уласнасці. І ён не ўкладае сваёй працы ў паляпшэнне іх агульнага дабрабыту, бо ўжо адрозніваецца ад іх у адпаведнасці са сваім саслоўем: яны не злучаюцца між сабою, іх не аб'ядноўвае агульнасць інтарэсаў. Такі прыблуда, гультай, найчасцей бяздзейна цягаецца па вёсцы, рассяваючы па ёй зародкі ілжывых уяўленняў, дзёрзкіх ідэй, распаўсюджваючы кепскія і шкодныя звычкі. Менавіта такім, здаецца, быў і той Сталюк, які ішоў з намі на чале грамады моладзі, якая з цікавасцю слухала тое, што ён казаў, і з вераю паўтарала яго задумы і словы.

Пад няспынны гоман грамады, у якой усе гаварылі разам, мы спыніліся на полі, дзе перада мною адкрылася гэтая дзівосная даліна смерці. Я знайшоў пясчаную пляцоўку, на якой былі паскладаныя ў розным кірунку пабялелыя ад сонца чалавечыя шкілеты. Вопыт, набыты мною пры раскопванні на працягу некалькіх год курганоў, не дазволіў мне ні на адну хвіліну ўсумніцца ў тым, што гэта былі дахрысціянскія магілы людзей, якія некалі тут жылі. Уся прастора могільніка была закладзена парэшткамі ахвярных гаршкоў, якія вецер, разносячы па гэтым полі і раскідаючы іх, паразбіваў на дробныя кавалкі. Малыя дзеткі з вёскі, што пабеглі былі за мною, абласканыя мною, даверліва трымаючыся мяне, служылі мне за цыцэронаў і за праваднікоў у адшуканні магільных рэчаў, у чым яны набылі вялікі вопыт. Разбегшыся па полі, яны пачалі пальцамі торкаць у пясок, і праз хвіліну з радасцю прыбегшы да мяне, пачалі прыносіць пярсцёнкі і іншыя абломкі бронзы або жалеза абсалютна курганнага характару. Я з найвялікшым інтарэсам спыніўся на гэтым рэдкім, якога яшчэ ў жыцці сваім не бачыў, могільніку. Да сялян, што прыйшлі са мною з вёскі Данішава, далучыліся сяляне з вёскі Вугляны. Усе яны называлі гэтае месца, як звычайна прынята, полем бітвы са шведамі. Мне расказвалі, што тут знаходзілі пярсцёнкі розных формаў, завушніцы, вялікія кольцы, якія можна было насадзіць на тапарышча (гэта, без сумнення, маглі быць бранзалеты); што паднімалі на тым полі невялікія цэлыя гаршкі; але падобных прылад я не знайшоў у вёсцы, нягледзячы на тое, што старанна, ад хаты да хаты, праводзіў пошукі і прызначаў за іх грашовыя ўзнагароды – як за прылады, што не мелі для іх ніякай вартасці, а былі знішчаныя альбо страчаныя праз нядбальства. Не падлягае найменшаму сумненню, што гэта былі дахрысціянскія курганы. Засыпаныя на працягу стагоддзяў на пясчаным беразе Віліі, у месцы, дзе вятры

гуляюцца з пяском і штохвіліны змяняюць выгляд месца, даліны ператвараюцца ў горы, горы ж, развейваючыся, засыпаюць раўніны, засыпаюць часам вёскі да такой ступені, што насыпы, утвораныя ветрам каля сялянскіх будынкаў, паводле ўласных апавяданняў жахыроў Вуглян, неаднойчы даводзілася адкопваць. Згаданыя курганы, несумненна, перажылі такі ж лёс. Калі вятры з цягам часу зносілі насыпы, то з іх выглядвалі пакладзеныя вякі таму назад шкілеты. Вясковыя дзеці набылі такі вялікі вопыт у адшуканні рэчаў, пакладзеных з нябожчыкамі ў магілу, што проста і адразу знаходзяць руку шкілета, абследуюць яго пальцы і здымаюць з іх пярсцёнкі. Магілы гэтыя, здаўна наведваемыя дзецьмі, ужо не мелі ў сабе шматлікіх рэчаў. Аднак на працягу гадзіны, якую я там правёў, яны здабылі мне з іх пяць разнастайных пярсцёнкаў, нейкую маленькую бляшку і тры маленькія манеткі – рэдкая і незвычайная з'ява ў дахрысціянскіх курганах! Тыя манеткі былі надта вышчарбленыя, ужо зусім страцілі водціскі манетнай чаканкі. З ледзьве прагляданых рэштак, з цяжкасцю разгледжаных праз павелічальнае шкло, здавалася, што гэта былі польскія дынары, адчаканеныя ў часы панавання Аляксандра Ягелончыка – тыя самыя, апісанне і выгляд якіх змясціў Бандке ў сваёй "*Нумізматыцы*" на табліцы 4 пад № 67. Тут канец маіх ведаў у археалогіі! Губляючыся ў здагадках, я не мог адразу прымірыць у самім сабе ўсіх прыкмет дахрысціянскай магілы з пакладзенымі ў яе грашыма значна больш позняга часу. Найпрасцейшым, найбольш лагічным вывадам, да якога я мог бы прыйсці і на які я, нарэшце, натрапіў, быў такі: хрысціянства ў гэтыя ваколіцы прыйшло не хутка, а падчас панавання Аляксандра Ягелончыка і пазней на гэтым беразе Віслы існавалі паганскія паселішчы, якія расплочваліся ў сваім хатнім жыцці грашыма, што курсавалі ў Польшчы і Заходняй Літве, і якія, згодна з паганскім звычаем, памерлага клалі ў магілу разам з даражэйшымі рэчамі. У некалькіх курганах я знайшоў шкілеты, што ляжалі на тоўстай дубовай дошцы, у якой былі жалезныя цвікі; па накірунку гэтых цвікоў можна было здагадацца, што імі былі збітыя між сабою дошкі. Ахвярныя гаршкі, рэшткі якіх так багата параскіданыя тут па зямлі, выраблены былі з зусім іншае гліны, чым тыя, якія мне здаралася адкопваць у Барысаўскім і Мінскім паветах. Хоць яны і гліняныя, аднак з абсалютна іншага рэчыва, іншага колеру і іншай цвёрдасці, чым ранейшыя; велічыня і форма іх, як удаецца бачыць з парэшткаў, былі такія самыя. Мноства кавалкаў, а менавіта краёў з малюнкамі, якія адлюстроўваюць асаблівасці густу ў кожным стагоддзі і ў археалогіі, служаць ужо сёння як сляды эпохі існавання магілы – я збіраў і захоўваў, як захаваў і кавалак нейкай глінянай табліцы, якая мела на сабе частку адметнага роспісу.

Калі мы, маючы працяглую размову з грамадою, вярнуліся з нашай вандроўкі па гэтым своеасаблівым, як яго называюць, "шведскім полі бітвы" ў вёску, Марыся і Каралінка ўжо скончылі дыктаванне народных песень, пасля чаго ўсё было перанесена назад на судна. Чакалі толькі майго вяртання з паходу. Я пайшоў прама да судна з намерам плысці далей. Уся вёска, сабраўшыся на беразе, акружыла мой карабель, на якім маладая і прыстойная жанчына, апранутая не па-вясковаму, але, як пані, дыктавала яшчэ песні. Як толькі я паказаўся на беразе, тыя жанчыны з грамады, што, нарэшце, адважыліся дадаць па песні падчас іх дыктавання, убачыўшы, што за спевы маладыя спявачкі атрымалі ўзнагароджанне, голасна дабіваліся ад мяне за іх таксама ўзнагароды. Жадаючы ім давесці, што я не быў тым страшным геніем, які развозіць смерць, мусіў з кожнай з іх





разлічыцца. Пабачыўшы, нарэшце, што канца з імі не будзе відаць, я загадаў адплыць судну ад берага і паплыў далей. Гаманкая грамада жанчын, якім напой закруціў галаву, ідучы па беразе за суднам, далёка праводзіла нас, заводзячы яшчэ новыя песні, якія прыходзілі ім на памяць.

## VIII.

Была чацвёртая гадзіна папаўдні, калі мы, адплываючы ад Данішава, назаўсёды развіталіся з плыткай ракою, якая плыла праз нізіны, бо адсюль, як тут кажуць, яна "ўваходзіць у камяні". Адразу за Данішавам, на тым самым правым беразе, мінаем вёску Вугляны, каля якой я наведаў вышэй апісаны могільнік. Непадалёку за вёскай, бліжэй да правага берага ракі, ляжыць у ёй вялікі небяспечны камень, які не менш як на паўлокця выглядвае з вады. Гэты камень, які называюць Верабей, ведаюць плытагоны на Віліі. Адсюль пайшлі высокія берагі, перапоўненыя камянямі, і дно ракі пачалося камяністае, нібыта выкладзенае брукам. Вілія, уваходзячы ў іх, усяго за паўвярсты ад таго каменя, значна звужаецца і, здаецца, зараз поўнасцю закончыцца, бо той, хто плыве па ёй, бачыць перад сабою толькі бераг, засыпаны камянямі і парослы лесам, які нібыта замыкае раку. Яна мае тут толькі 19 сажняў шырыні і крута, ледзь не пад прамым вуглом паварочваючы ўлева, адразу ж зноў ломіцца направа, пад амаль такім самым вуглом, як мы гэта бачым на табліцы 1 у атласе галоўных абмераных і перамаляваных п. Шантырам парогаў на працягу майго падарожжа. Гэты другі згіб увесь завалены вялікімі камянямі, ланцуг якіх, пачынаючыся далёка на правым беразе і ўваходзячы ў раку дзесьці да яе паловы, у самым крутым павароце пакідае цесныя вароты дзеля праходу суднаў, што плывуць па ёй. Тут мы сустракаем першы небяспечны парог на рацэ Віліі, які завуць Прывітальным, і так там весела, нібы смеючыся, вада мармыча і імчыць па каменнях пасярод маляўнічых берагоў, што чалавек, забыўшыся пра магчымую небяспеку, жадаў бы толькі забаўляцца з шумнай рачной хваляй, якая ля самых варот мае амаль адзін аршын і два вяршкі глыбіні. У самым праходзе праз гэтыя парогі п. Янушэвіч замаляваў іх мне ў падарожным альбоме, і вось малюнак гэтых парогаў.



Цяжка паварочвацца, плывучы на судне пасярод камянёў, праз два амаль прамавугольныя згібы, што ідуць адзін за адным і ўтвараюць сапраўдную небяспеку на гэтым пераходзе, і трэба выявіць сапраўднае ўмельства плытагоннага мастацтва ў кіраванні суднам. Парогі на Віліі на мове плытагонаў называюцца заборамі; небяспечных з гэтых парогаў на ўсёй рацэ дванаццаць, плытагоны завуць іх "сябравымі заборамі". Назва гэтая паходзіць з-за таго, што калі стырнікі, уваходзячы

ў іх з плотам, самі не могуць уласнай сілаю раптоўна павярнуць яго і накіраваць супраць моцнага цячэння вады на каменне, тады людзі з некалькіх платоў збіраюцца ў гурты, і кожны гурт усёй грамадою адзін за адным, па чарзе праводзяць плот. Такая чалавечая супольнасць дзеля ўзаемадапамогі ва ўсіх работах, завецца ў русінскага люду сябраваннем, з-за чаго і названы гэтыя небяспечныя рыфы "сябравымі". Кожны стырнік у пачатку сваёй прафесіі, калі ўпершыню праводзіць сваю барку ці плот, то, уваходзячы ў гэтыя заборы, ён кідае ў раку ў якасці ахвяры кавалак хлеба з соллю, кажучы: "Вітаю цябе хлебам-соллю – хлеб-соль прымі, і мяне прапусці". Пасля такога прывітання, склаўшы гэтую даніну, асвечаную народнай традыцыяй, ён смела выпраўляецца ў шлях. Гэты спрадвечны звычай вітання небяспечнага месца на рацэ даў парогу назоў Прывітальны. Калі б на падставе падобнай з'явы трэба было адшукаць у змроку далёкай мінуўшчыны першапачатак гэтага народнага звычаю, мы б абавязкова ўстанавілі, што ён узыходзіць да тых часоў літоўскай міфалогіі, калі ўсе рэчы, і асабліва рэкі, мелі сваіх багоў-апекуноў, а згаданыя хлеб і соль, кінутыя ў ваду, былі абавязковай данінай, складзенай нейкаму Патрымпасу ці якой-небудзь Ундзіне, што, паводле народных уяўленняў, мелі на водным дне сваё жытло. З гэтых уяўленняў і нарадзіліся пазнейшыя постаці Русалак ці Гудэлак і г.д.

Мы паспяхова, без пашкоджанняў выйшлі з гэтых досыць небяспечных парогаў. Дзядуля як дасведчаны стырнік, адважна выкручваючы судна на вострых паваротах, вывеў нас адтуль без цяжкасцяў. Пасля таго як мы выйшлі на зноў спакойную плынь ракі, мы прыбіліся да берага, на якім затрымаліся роўна на столькі, колькі часу спатрэбілася на вымярэнні і замалёўку гэтых парогаў. Тут, прыстроіўшыся на каменнях, што завалілі раку, занятыя сваімі службовымі абавязкамі, я з асалодаю яшчэ раз агледзеў гэты чароўны паварот на Віліі – першае месца са своеасаблівым абліччам, не падобным на рачныя берагі, паўз якія нам давялося праплысці дагэтуль. Адсюль Вілія пачынае цячы пераважна паміж крутымі і вельмі высокімі берагамі, ладна апранутымі ў ляшчыны, дубы, каліну і вярбу; або – паміж насупленымі прыгожымі абрывамі і ярамі, якія жаўцеюць пяском і глінаю. Надзвычай маляўнічыя берагі – адзін прыгажэйшы за другі, штохвіліны нібыта імкнуцца перамагчы ў спаборніцтве за хараство. У гэтай прыгожай частцы ракі трэба старанна абмінуць вялікі камень, што ўзвышаецца над вадою, празваны Зязюлькаю. За ім мы праплываем малыя парогі, якія завуць Ластаўкаю, а ўжо далей відаць прыгожыя і маляўнічыя Жодзішкі.

Тут мы затрымаліся на начлег. Вельмі доўга не мог я нацешыць і насыціць вока відам гэтага прыгожага наваколля. Трэба ж было, як бы знарок, быццам бы дзеля таго, каб выказаць нам удзячнасць за наша падарожжа, у тую хвіліну, калі мы прысталі да берага, у мураваным касцёле на крутым беразе ракі, прама над нашай галавою, праходзіла па могільніку ўрачыстая працэсія. Гэта была апошняя вячэрня на восьмы дзень Божага Цела. Мы як найхутчэй пабеглі да касцёла, каб там, ля падножжа св. алтара ўскладзенай намі малітваю падзякаваць Богу за паспяховае дагэтуль наша падарожжа і прасіць Яго аб ласцы Яго на далейшы шлях, без якой кожнае пачынанне чалавека робіцца малым, дробным і бяздарным.

Жодзішкі – гэта вельмі невялікае, але чыстае і добра дагледжанае драўлянае мястэчка, размешчанае на правым беразе Віліі. Падарожніку, які прыбывае з супрацьлеглага берага ракі, здалёку кідаецца яно ў вочы раскошным невялікім мураваным касцёлам і шырокім, на тры паверхі, доўгім мурам, які пабудаваны з прыгожым французскім густам на самым беразе і выглядвае пасярод статных зялёных ялін, што акружаюць яго з боку ракі. Той мур – пабудова ў стылі эпохі панавання саксаў над нашым краем. Бо абсалютна падобныя абрысы маюць публічныя і прыватныя гмахі з часоў двух Аўгустаў, што ўзносяцца ў сталіцах абедзвюх краін, нічым не кранутыя формы якіх захаваліся да нашага часу. Стыль гэты называўся ў Польшчы "саскім" стылем, хоць яго ва ўсёй Еўропе называлі французскім. Аднак носіць ён на сабе адбітак кляштарнага стылю, памыліцца ў якім немагчыма. У гэтым будынку

месціўся калісьці калегіум Ксяндзоў Езуітаў – усім вядома, што там, дзе тыя сыны Лаёлі абасналіся, нібыта пасля дакранання чарадзейскай сілы, паўставалі раскошныя мураваныя касцёлы, ствараліся шыкоўныя калегіумы, выраталі разнастайныя збудаванні. Маладыя навучэнцы збіраліся ў школу. Самыя розныя людзі групаваліся вакол іх, і пачыналіся ў гэтым месцы рух і новае жыццё.

З пункту гледжання стылю між калегіумам і касцёлам у Жодзішках назіраецца надзвычайнае адрозненне. Бясспрэчна, што яны адно з адным не гарманіруюць: стыль кожнага з гэтых абодвух збудаванняў цалкам прадстаўляе густ іншай эпохі і творы адрозных між сабою архітэктараў. Кожны, хто глядзіць на гэтыя два стылі на беразе Віліі, нібы на два пастаўленыя побач творы дзеля параўнання адметнасці густу і мастацкіх асаблівасцяў, лёгка зробіць выснову, што кожны з іх, прадстаўляючы ў сваіх формах тыпы розных паняццяў і ідэй, мусіў змяшчаць у сабе гісторыю нейкай маральнай барацьбы, нейкай заўзятай вайны дзвюх абсалютна няроўных між сабою сіл, бо калі руіны кляштара ўвасабляюць нейкую моц, велічнасць і магутнасць, то муры касцёла выражаюць мімалётную думку пра няпэўнасць у поспеху, у сваёй будучыні.

Прыгледзімся да гэтай рэчы бліжэй.

У 1523 г., як піша п. Балінскі, Жодзішкі былі набытыя ў Падбіпентаў Янам Забжэзінскім, якога забіў Глінскі[1].

Пасля Забжэзінскага, напэўна, спадчынным шляхам гэтая зямельная ўласнасць перайшла ў сям'ю Кішкаў. Пры жыцці апошняй прадстаўніцы з роду Кішкаў, якая паводле веравызнання была кальвіністкаю, у сувязі з неабходнасцю набыць сабе прыхільнікаў у краіне, як пра гэта тут расказваюць, і хутчэй за ўсё ў перыяд пашырэння кальвінізму ў Літве, паколькі такія памкненні назіраліся на той час па ўсёй краіне, яна пачала апекаваць кальвіністаў, якія і сталі асядаць у Жодзішках. Яна раздавала ім зямлю, якая рабілася іх уласнасцю, і на ёй яны будаваліся. Такім чынам, з дапамогаю моцнай рукі ўплывовай пані – тут, на гэтым цудоўным беразе Віліі – магутна пачала пашырацца ідэя кальвінізму. Калонія кальвіністаў, што асела ў Жодзішках, рабілася ўсё больш шматлюдная і разлічвала на тое, што іх прысутнасць застанецца тут назаўсёды, паколькі была задумана пабудова Збору. У тыя часы і паўстаў той касцёл, пра які мы гаворым, ён быў пастаўлены па-за ўсякімі стылямі, вядомымі ў мастацтве архітэктуры. Узводзячы яго, муляр, як піша п. Ходзька, меў на ўвазе адну толькі трываласць дома Божага, таму збудаваў грубыя, грунтоўныя, без мінімальнага аздаблення чатырохвугольныя сцены, – на іх ззаду асадзіў і ўзнёс квадратную хутчэй вежу, чым званіцу, у байніцах панавешваў званы, адно і другое накрыў простым дахам.



Асновы навукі Кальвіна, якія не мелі дагэтуль ніякай падтрымкі, свабодна развіваліся ў Жодзішках у асяроддзі шматлікіх аселых сем'яў гэтага веравызнання. З таго роду Кішкаў заставалася толькі дачка, адзіная спадчынніца гэтых зямель, якая знаходзілася ў замужжы за Кшыштафам Комарам. Калі ж ён, як відаць, вялікі прыхільнік каталіцкай веры, пасля жонкі стаў спадчыннікам, то, жадаючы стварыць рэакцыю супраць пашырэння тут секцыі кальвіністаў, адразу ж пабудаваў поруч са зборам драўляны каталіцкі касцёл у гонар св. Тройцы і 12 снежня 1612 г. заснаваў там плябанію і арганізаваў школку для вучняў каталіцкага веравызнання[2].

---

[1] Starożytna Polska Mich. Balińskiego i Tymoteusza Lipińskiego – posz. XXVI. Str. 245.

[2] Starożytna Polska Michała Balińskiego i T. Lipińskiego – poszyt XXVI. Str. 245 [z wiadomości ułożonej w 1835 r. przez komissyę eduk. Wileń., umieszczonej u prof. Jaroszewicza w przyp. 109 do t. III. Obrazy Lit. na str. 228].

З таго часу пачалася рэлігійная барацьба паміж двума веравызнаннямі; працягвалася яна, відаць, на працягу доўгіх год без відавочных трыумфаў перамогі ні на адным з бакоў.

Калі наяўнасць разнастайных веравызнанняў у Літве, што падтрымоўваецца аўтарытэтам і сілай такіх вялікіх асоб, якімі былі Радзівілы, Кішкі, Глябовічы, Кміты, Дарагастайскія і г.д., пачала распаўсюджвацца па краіне і, набіраючы сілы, пярэчыць і пагражаць аўтарытэту каталіцкага касцёла, тады Валяр'ян Пратасевіч, біскуп віленскі, з мэтаю пераадолець пашырэнне шматвер'я, задумаў прыцягнуць у Літву езуітаў. Урэшце рэшт ён знайшоў паразуменне з кардыналам Комэндонэ і Патрыцы, генеральным сакратаром Апостальскай Сталіцы ў Каралеўстве Польскім, пасля чаго адразу ж па даручэнню езуіцкага генерала былі накіраваныя ў Літву для вывучэння там мясцовых акалічнасцяў і арганізацыі калегіума ў Вільні: іспанец Францішак Заньер у рангу падправінцыяла з чэхам Балтазарам Гоставіюшам, тэолагам, Анджэем Бакацюшам і і яшчэ двума езуітамі[1]. Калі гэтыя законнікі прыбылі ў Вільню, вялікая колькасць іншаверных школ ужо ўкаранілася ў Літве. Іншаверцы ўжо мелі ў Вільні заснаваную ў 1640 г. Мікалаем Радзівілам гімназію на 60 вучняў, што паўстала з іншаверскай школы, фундатарам якой напачатку быў Абрахам Кульвэ – першы распаўсюджвальнік рэформы ў Літве; меліся заснаваныя Радзівіламі гімназіі ў Слуцку, у Кейданах, якія яшчэ ў 1555 г. называліся Радзівілаўскімі; школы ў Наваградку, у Нясвіжы, у Заслаўі, у Панёўцах і пры іншых евангеліцкіх касцёлах таксама існавалі меншыя парафіяльныя школкі. Немалая колькасць друкарняў, адціскаючы дысідэнцкія пісанні, распаўсюджвалі па Літве Кальвінаву навуку. У самой Вільні налічвалася некалькі падобных друкарняў. На чале іх паўстала каля 1576 г. Радзівілаўская друкарня, якую пазней саступілі езуітам. Даніэль з Лэнчыцы, Ян Картзан, Ян Глябовіч у Вільні друкавалі дысідэнцкія пісанні супраць езуітаў і каталіцкай веры. У Брэсце-Літоўскім і ў Нясвіжы таксама існавалі радзівілаўскія друкарні; у Лоску друкарня была на ўтрыманні коштам Яна Кішкі з Цеханаўца, краўчага ВКЛ, палымянага прыхільніка поглядаў александрыйскага жраца Арыюша; у Любчы Пётр Бластус Кміта ўласным коштам заснаваў друкарню, у якой між 1595 і 1655 г. выходзілі кальвінскія і арыянскія пісанні; нарэшце, у Ашмянах знаходзілася падобная друкарня ў спадчыне Монтвіда Дарагастайскага.

Калі ў Літве ў вялікай колькасці пашырыліся іншаверныя школы і друкарні, аселыя тут русіны пачалі задумвацца пра падобныя ім у сваіх мэтах. Яны ўжо мелі тут тры школы: адну ў Кіеве, другую ў Пінску, трэцюю ў Оршы. Дзеля іх пашырэння ў 1590 г. яны зарабілі сабе ў караля тры прывілеі: першая з іх давала ім дазвол на адкрыццё брацтваў і заснаванне школ для вывучэння грэчаскай і рускай мовы; другая для Вільні – на брацтва і ўтрыманне школы пры царкве св. Тройцы, дзе вывучалі грэчаскую, лацінскую, польскую і рускую мовы; нарэшце, трэцяя для Брэста – на падобнае брацтва і на заснаванне школы пры царкве св. Міколы, дзе б вучылі па-грэчаску, па-лацінску і па-руску. Друкарні Бабіча і Мамоніча ў Вільні друкавалі: першая ў 1525 г. "*Апостал*" Скарыны, другая ж з 1575 па 1617 г. апублікавала, апрача царкоўных кніг і "*Граматыкі славенскай*" Зізанія, Трэці Статут па-руску і яго першы пераклад па-польску. З друкарні ў Еўі мелася выйсці "*Граматыка славенска*" Мялеція Смартыцкага, там жа быў надрукаваны ў 1611 г. і "*Новы Запавет*". У Заблудаве Рыгор Хадкевіч заснаваў у 1568 г. друкарню. Шмат манастыроў таксама мелі рускія друкарні, гэта: Куцеінскі манастыр пад Оршаю, базыльянскі – у Супраслі, з якога выйшла па-славянску літургічная кніга пад назваю "*Минея Общая*" і г.д.

Наваствораны Святаянскі калегіум, імкнучыся супрацьстаяць моцнаму ўплыву іншаверцаў у краіне, пастанавіў распачаць сваю дзейнасць праз ахоп навуковага

[1] Obraz Litwy prof. J. Jaroszewicza. Wilno 1845. T. III. Str. 40.

накірунку ў Літве. 8 мая 1570 г., у дзень Св. Станіслава, езуіты адкрылі першую школу ў Вільні. Дзякуючы сваім нястомным уплывам на розумы магутных асоб, яны забяспечылі сабе значную колькасць прыхільнікаў з іх асяроддзя. Нават кароль Жыгімонт Аўгуст мусіў глядзець на гэтую супольнасць і на яе ўплывы спагадлівым позіркам, а ў апошнія гады свайго панавання дзеля новастворанай школы ён падараваў віленскаму калегіуму ўласную бібліятэку, якая знаходзілася на віленскім замку. Па прыкладзе караля віленскі капітул паводле рашэння біскупа Пратасевіча ў 1570 г. перанёс у езуіцкі калегіум усю бібліятэку, што засталася пасля дапаможнага біскупа Альбіна. Потым Лукаш Краснадэмбскі, які каля 1598 г. быў настаўнікам філасофіі ў Інгальштадзе, адпісаў для калегіума вялікі збор італьянскіх і іспанскіх кніг. Нарэшце, падканцлер літоўскі Казімір Леон Сапега тэстаментам, напісаным ім у 1655 г., перадаў езуітам сваю, збіраную ім самім і яго бацькам багатую бібліятэку, якая знаходзілася ў Ружанах. Заснаваная на такіх вялікіх дарах, узрастала і ўвесь час узбагачалася бібліятэка віленскага калегіума. Адначасова з яе разрастаннем на вачах павялічваліся і грамадскія сілы ў Літве. Уплывы езуітаў ужо пачалі значна праяўляцца або ў вяртанні найбольш значных іншаверных родаў у каталіцкае веравызнанне, або ў яднанні вераю ўсіх класаў народа. Кракаўская Акадэмія бляскам свайго святла і аўтарытэту, якія яна мела ў краіне, зацямняла і паралізавала памкненні езуітаў. Каб супрацьстаяць і гэтай установе, якая ім перашкаджала, яны імкнуліся стварыць сваю акадэмію ў Вільні, і прыемна, што шмат багатых саноўнікаў працівілася гэтаму іх пачынанню, адчуваючы непрыхільнасць да асноў езуіцтва і баючыся яе ўплываў. Аднак езуітам удалося настояць на сваім: не прайшло васьмі год пасля адкрыцця першай школы ў Вільні, калі менавіта Стэфан Баторый, які хоць і не любіў у душы езуітаў, але, шукаючы іх уплыву дзеля з'яднання з Рымам, сваім прывілеем ад 7 ліпеня 1578 г., выдадзеным у Львове, не толькі зацвердзіў у Вільні акадэмію, але другім прывілеем ад 1 красавіка наступнага, 1579 г., праз біскупа Пратасевіча трывала зацвердзіў сродкі, прызначаныя на кафедру тэалогіі, а Віленскую акадэмію ва ўсіх сваіх прэрагатывах ураўняў з Кракаўскай. Пётр Скарга Павенскі быў першым рэктарам Віленскай акадэміі. Наколькі гэтая ўстанова здолела здабыць да сябе публічны давер, нас відавочна пераконвае тое, што ў 1786 г. Віленская акадэмія налічвала ў сабе ўжо семдзесят вучняў.

Пры накіраванні ў навуку езуіты не абмяжоўваліся толькі шляхецкай моладдзю. Яны праглі завалодаць думкамі ўсіх слаёў грамадства і з гэтай мэтаю прыцягнулі пад сваю ўладу духоўную моладзь. Свецкія семінарыі віленскай дыяцэзіі, аддадзеныя езуітам, заставаліся пад іх кірункам да 4 лістапада 1652 г. У 1613 г. па просьбе біскупа Жмудскага Паца былі прынятыя пад крыло езуітаў і клірыкі жмудскай семінарыі. Ім яшчэ нібыта мала было гэтага, і яны ў дадатак падгарнулі пад сваю ўладу алумнат на 20 ліцвінаў, якіх рыхтавалі да духоўнага стану, заснаваны ў 1595 г. нунцыем Маласпіна, візітатарам віленскай дыяцэзіі, на даходы вольнага на той час біскупства віленскага. Затым усе саслоўі, што навучаюцца ў Літве, – калі пад уладу езуітаў прыходзяць два каралі, Стэфан Баторый і Жыгімонт III, за імі – такія літоўскія магнаты, як Радзівілы, Хадкевічы, Сапегі, а за імі магутнейшая шляхта, – усе бягуць адны за аднымі навыперадкі, каб павялічыць капіталы ў маёнтках і даходы для настаўнікаў сваіх дзяцей. Адразу пачалі ўзносіцца езуіцкія калегіумы ў Коўна, Гродна, Крожах, Смаленску, Полацку, Нясвіжы, Віцебску, Оршы, Брэсце, Пінску, Мінску, Мсціслаўі, Дынабургу, Мітаве, Ілукшце, Шонбергу. Акрамя калегіумаў, знайшліся ў Вільні два дамы законнікаў і інспектараў, з якіх была заснавана рэзідэнцыя ў Наваградку і дзве місіі ў Варнянах і Барысаве. Кожны з гэтых калегіумаў адразу адчыняў школу для моладзі, а пры іх праследаваныя іншаверскія школы ў такім стане рэчаў ужо не маглі ўтрымацца. Кальвінская школа ў Вільні ў 1581 г., а потым і ў наступныя няпоўныя адзінаццаць год пасля

адкрыцця яе суперніцы, ужо цалкам прыйшла да заняпаду. Яна яшчэ тлела нейкі час, але ўрэшце яе канчаткова замкнулі з-за дачынення езуітаў да гучнай справы, звязанай са стральбою з лука па Свята-Міхайлаўскім касцёле. Нясвіжская, а за ёю і іншыя кальвінскія школы заняпалі канчаткова. Адна толькі слуцкая гімназія здолела супраціўляцца сіле езуітаў і дагэтуль захавалася. Яна ўяўляе сёння адзіную вышэйшую кальвінскую школу ў Літве.

Тым часам Жодзішкі, ужо не ведаю, якім шляхам, былі атрыманы ў спадчыну ад нейкага Мінкевіча, які, стаўшы езуітам, адпісаў брацтву гэтую маёмасць. Айцы езуіты, прыняўшы такую ўдачу, нядоўга жылі ў існаваўшым там драўляным доме. Яны адразу пачалі будаваць той раскошны, на тры паверхі кляштар, удала абраўшы для яго памеры і цудоўна ўпрыгожыўшы яго далікатнымі аркамі і маляўнічымі абрысамі аздабленняў. Кляштар быў збудаваны ў форме трайнога крыжа, і толькі нязначная, аднак найпрыгажэйшая яго частка, размешчаная над абрывістым берагам Віліі, заселена сённяшнімі спадчыннікамі і ў цяперашні час добра ўтрымліваецца. Наступная частка гэтага гмаха стаіць без даху і вокнаў і заселена толькі ў ніжняй частцы, пад заслонаю старых скляпенняў. У вялікіх падземных склепах і ў келлях, некалі занятых набожнымі айцамі, захаваліся пакоі для дваровай чэлядзі і для гаспадарчых складаў; абедзенныя і іншыя залы ператвораны ў свірны для ссыпання збожжа. Сваімі вышэйшымі паверхамі, якія ператварыліся ў суцэльныя руіны, будынак на ўсіх наводзіць сум. Вецер, пранізліва выючы, беспакарана прадзіраецца праз вокны; павук свабодна расцягнуў па пустых кутах сваю тканіну, а кажаны, што вядуцца ў гэтых руінах, распачынаюць там апоўначы сваё ігрышча. Гэтыя разваліны прадстаўляюць нам жывы вобраз заняпалай велічы і магутнасці, якія ў свой час меў гэты Ордэн. Любая зямная велічыня; любая часовая магутнасць на гэтым свеце ва ўпадку сваім падобныя адна на адну; і ў ёй праз расколіны прадзіраецца вецер; і тут павук, нібыта прадстаўнік смутку, снуе сваю чорную нітку, а злосць і зайздрасць, як злавесныя крукі, радасна, у сатанінскай весялосці спяваюць сваю песню.

Усяго толькі адной капліцы ў сярэдзіне кляштара было дастаткова духоўным айцам дзеля іх штодзённай малітвы, але вялікія святы і ўрачыстыя набажэнствы праводзіліся імі ў драўляным парафіяльным касцёле. Парафіяльную школку, заснаваную калісьці Комарам, паднялі да ўзроўню 7-класнай школы, сярод сваіх жа прызначалі туды і настаўнікаў. Не былі класныя памяшканні для навучэнцаў ні раскошнымі, ні нават зручнымі, бо яшчэ айцам езуітам не было калі падумаць пра будоўлю школы.

Калі грамадскі статут у кожнай краіне з'яўляўся і з'яўляецца прадметам найвышэйшай справы (бо справа фарміравання новых пакаленняў, якім, у сваю чаргу, суджана замяніць тыя, што адыходзяць з гэтага свету, і далей служыць на карысць сваёй краіне і ўсяму чалавецтву), то не было б лішнім кінуць вокам і на гэтую будыніну, у якой моладзі ўкладваліся першыя ўяўленні пра навуку, дзе яна практыкавалася ў веры і набожнасці. Каб даць маім чытачам як мага больш верныя ўяўленні пра гэты храм навукі ў Жодзішках, я змяшчаю тут даслоўную выпіску з аўтэнтычнага акту па аглядзе Жодзішак, пасля таго як яны былі ўзятыя на рахунак казначэйства Рэчы Паспалітай згодна з інструкцыяй і ўрадавым актам Яго Светласці князя ягамосці Міхала Ераніма Радзівіла, мечніка ВКЛ сеймавага і генеральнай канфедэрацыі ВКЛ маршалка, пры ўдзеле Францішка Позняка, земскага суддзі Ашмянскага павета, Марціна Супінскага, лоўчага Ашмянскага павета, пачатую 19 лістапада 1773 года, і скончаную 26 лютага 1774 года, якую перадаў мне спадчыннік гэтай мясцовасці:

"Дом для школы драўляны, крыты гонтаю, пры якім, калі ісці ад мястэчка – ганак з балясамі, у ім столь з дошак, трэцяя ж частка – без столі. З гэтага ганка ў калідорчык – падвойныя дзверы на жалезных завесах і круках з з жалезнай ручкаю, з прыбітым двума мацаваннямі шастом, які мае шворан, што праходзіць наскрозь вушака, а з панадворка – бляшку, прыбітую да вушака. Ідучы ад гэтых дзвярэй

направа па калідорчыку, трапляеш у памяшканне для красамоўства праз дзверы на жалезных завесах і круках з клямкай і двума прабоямі; вокнаў, забітых дошкамі – тры; падмурак для ўстаноўкі печы з выведзеным комінам; століь з дошак, падлога з цэглы. Прайшоўшы, трапляеш у другі пакой для малодшых класаў, у якім дзверы таксама на жалезных завесах і круках, з чатырма прабоямі і бляшкаю; у ім шкляных вялікіх вокнаў – два, з крыху папсаванымі шыбамі, драўляных лавак – шэсць, кафедра адна, зялёная печ з выведзеным комінам, падлога з цэглы, столь з дошак. Ідучы назад, на другім баку – памяшканне для рыторыкі і паэтыкі; у ім дзверы на жалезных завесах і круках з клямкаю, зашчапкаю і пяццю прабоямі; вокнаў шкляных – тры з дванаццаццю падпсаванымі шыбамі; кафедра – адна, драўляных лавак – пяць; печ з зялёнай кафлі з выведзеным комінам; падлога цагляная, а столь з дошак. Перайшоўшы з яе, па тым самым баку знаходзіцца другое памяшканне для сінтаксісу і граматыкі; у ім дзверы на жалезных завесах і круках з зашчапкаю і трыма прабоямі; вокнаў шкляных – два, з васьмю пабітымі шыбамі. Драўляных лавак – пяць. Печ з зялёнай кафлі з выведзеным комінам; падлога з цэглы, дашчаная столь. Пасярэдку гэтага калідора – зала з падвойнымі дзвярыма на жалезных завесах і круках з двума крукамі ў вушаках для закладвання жордкі знутры". У ліку школьных прылад, што ўваходзілі ў інвентар, знаходзім запіс: "шырмы на жалезных штыфтах – дзесяць штук і вялікіх жэсляў – два".

Пра школьную бібліятэку так напісана ў згаданым інвентары: "У бібліятэцы кніг розных аўтараў прадстаўлена і пры праверцы знойдзена – у колькасці *in numero* 582 штук, якія застаюцца дзеля свабоднага карыстання прафесарамі. Рэестр жа ўсіх гэтых кніг *cum specyfica denotatione authorum* падрыхтаваны і падпісаны, *ad archivum* далучаны і размешчаны".

Пасля збудавання калегіума ксяндзы езуіты задумалі пабудаваць касцёл. Побач з калегіумам, па-над берагам Віліі, быў закладзены падмурак, дагэтуль яшчэ бачны. Вялікі памер, у якім павінна была паўстаць гэтая святыня, не дазволіў езуітам спяшацца з ёю. Патрэбен быў час, каб сабрацца з сіламі і нарыхтаваць неабходны матэрыял, бо ўсе езуіцкія касцёлы вызначаліся ў нашым краі раскошаю, былі пабудаваныя з вялікім размахам. Калі езуітам у Жодзішках стала не хапаць неабходных сродкаў, яны не здолелі ўзвесці гэтую сцяну да той пары, калі яны былі ліквідаваныя: след будучага касцёла пазастаўся толькі ў падмурках.

Лішне было б казаць, што калі ксяндзы езуіты тут спыніліся, то адразу ж пачалася ў іх заўзятая вайна з расселенымі ў Жодзішках кальвіністамі. Вынікі гэтай духоўнай вайны аказаліся згубнымі для іншаверцаў. Езуіты так моцна іх пераследавалі, што кальвіністы, не ў стане ўтрымацца супраць іх Ордэна, вымушаны былі ў сваім сыходзе шукаць спакойнага сховішча ад шматлікіх пераследаў. Некалі расселеныя сваёй апякункай Кішкаю ў Жодзішках, яны пазбывалі сваю ўласнасць і павінны былі сыйсці з гэтага месца. Пакінуты імі іх мураваны Збор запуставаў.

Езуіты, ачысціўшыся ад іншаверцаў, перарабляць пакінуты кальвіністамі Збор на свой касцёл не захацелі. Яны задумалі пабудаваць касцёл на закладзеных падмурках, сведчаннем чаго, як я прачытаў пра гэта ў вышэй працытаваным акце агляду, імі былі пакінуты павеці, напоўненыя цэглай. І менавіта ў гэты час, калі яны браліся за сваю працу, якая магла ўзбагаціць Літву яшчэ адным цудоўным помнікам архітэктуры, быў пакладзены ўсяму канец. Тыя страшныя "*non sint*" – былі адрачоныя Клеменсам XIV. У 1773 г. выдадзеная ў апостальскай сталіцы була паведаміла свету пра падзенне езуітаў; па ўсёй краіне яны былі адменены і мусілі пакінуць свае прыгожыя Жодзішкі. [...]

Пасля ліквідацыі езуітаў Жодзішкі сталі дзяржаўнай уласнасцю, і гэтыя землі Станіслаў Аўгуст падараваў генералу артылерыі Патоцкаму. Той жа прадаў іх Ляскарысу, і сям'я гэтага старажытнага роду пачала жыць у Жодзішках. А раскошны кляштар, што застаўся пасля езуітаў, зрабіўся рэзідэнцыяй Ляскарысаў. Расказваюць,

што сямейства гэтае цудоўна праводзіла жыццё ў Жодзішках: знутры тых знешне велічных муроў, дзе некалі чуўся толькі водгалас малітваў, якія штодзённа паўтарала грамада набожных, адданых навуцы айцоў, цяпер разлягаліся крыкі вясёлых забаў, бесперастанку збіраных тут і багата прынятых гасцей. Аднак нядоўга для Жодзішак цягнуўся стан такой вялікапышнасці. Пасля Ляскарысаў гэтыя землі раздрабніліся, уваходзячы часткамі ў спадчыны менш заможных сем'яў.

Калі ж драўляны касцёл, фундатарам якога напачатку быў Комар, зусім састарэў і, занепадаючы, пахіліўся, пробашч, нейкі Станкевіч, што служыў у Жодзішках каля 50 гадоў, замест рэстаўрацыі драўлянага касцёла, маючы поруч з плябаніяй апусцелыя муры колішняга кальвінскага Збору, аднавіў іх уласнымі стараннямі і ператварыў у каталіцкі касцёл. Той Збор, які быў пакінуты адыходзячымі ад праследу кальвіністамі і які доўгі час стаяў апусцелы, зноў праз паўстагоддзя быў вернуты як святыня, і сёння з'яўляецца каталіцкім парафіяльным касцёлам Жодзішкаўскай парафіі.

Усяго толькі і здолеў я сабраць звестак пра Жодзішкі, прычым пераважна з вусных апавяданняў, бо калі не так даўно гарэлі мясцовыя архівы, загінулі і пісьмовыя крыніцы са звесткамі пра гэтую мясцовасць.

Сёння Жодзішкі належаць памешчыку п. Канстанціну Мілачэўскаму. Пасля заканчэння вячэрні я пазнаёміўся са спадчыннікамі гэтага цудоўнага месца, якія прыйшлі на бераг, каб агледзець мой падарожны карабель. Пазнаёміліся мы між сабою вельмі хутка, бо з такімі мілымі і гасціннымі людзьмі, якімі паўсталі перад намі спадчыннікі Жодзішак, знаёмства адбываецца лёгка і натуральна. Адразу ж мы былі запрошаны ў дом, да нас была праяўлена шчырая гасціннасць, скарыстацца якою я, тым не менш, не мог, паколькі меў шмат пісьмовай работы, якую неабходна было выконваць штодзённа. І нідзе так зручна не робяцца гэтыя рэчы, як там, дзе адчуваеш сябе дома. Я вельмі міла правёў вечар у таварыстве пп. Мілачэўскіх. Акрамя шчырай і сардэчнай гасціннасці, акрамя мілага і лёгкага прыёму мяне пацешылі чароўнай музыкай, якую муж і жонка выканалі на вышэйшым узроўні. Пасля цудоўна праведзенага вечара пад магутнымі скляпеннямі езуіцкіх муроў, сярод сімпатычнай сям'і спадчыннікаў непараўнальных Жодзішак, я быў запрошаны на заўтрашні абед і апоўначы развітаўся з гаспадарамі. Натруджаны за цэлы дзень працаю і падарожжам, змучаны прыгодамі мінулага дня, я з ахвотаю адправіўся спаць, каб нанова падмацаваць свае сілы. І толькі я соладка заснуў, ледзьве пачало займацца на дзень, як будзяць мяне мае слугі, паведамляючы, што пасланец з нейкім пільным лістом патрабуе ўручыць яго мне. Пасланец да мяне? Адкуль? Ад каго? Як можна было ведаць, дзе я знаходжуся, бо некалькі тыдняў плывучы па Віліі, не паведамляючы нікому пра сваё існаванне, я зашыўся ў далёкія і невядомыя маім блізкім краі? Можа, нейкае няшчасце кліча мяне назад? – Такія былі пытанні, якія ў хвіліну майго абуджэння з хуткасцю маланкі прабеглі праз мае думкі. Нейкі незнаёмы чалавек, прыведзены да сялянскага гумна, у якім я спыніўся, з нізкім паклонам падаючы мне ліст, кажа:

– Гэта ад ксяндза.

Гэта быў ліст, напісаны ксяндзом пробашчам з Данішава. Магчыма, з павагі да сану мне належала б прамаўчаць пра яго, але паколькі ён вырашыў праблему майго з'яўлення ў Данішаве, то я бачу, што вымушаны перадаць тут словы ліста, дзе распавядаецца, як ва ўяўленні гэтай вёскі я паўстаў бязбожнікам.

"У Данішаўскай парафіі, – піша мне кс. пробашч, – яшчэ з часоў ксяндзоў езуітаў жыве перакананне, што калі некаму сказаць "*Niech będzie pochwalony Jezus Chrystus*", а той, хто гэта пачуў, не адкажа, альбо распачне іншую размову, то тады такога чалавека прымаюць за чараўніка, альбо за вельмі кепскага чалавека. Калі сёння В. Пана прынялі за Антыхрыста, то выключна з гэтай, а ні з якай іншай прычыны". І далей, у *postscriptum*, далучаным у канцы гэтага ліста, ксёндз дадае: "Напэўна, каб

не адштурхнуць нашых набожных вернікаў і выведаць іх сакрэты, не трэба адказваць *in secula seculorum*, чаго яны не разумеюць, а прымаюць за перадражніванне касцёла, а трэба сказаць наступным чынам: "*Na wieki wieków. Amen*" – і тады яны не прымуць за Антыхрыста".

Атрыманы ліст адкрыў мне таямніцу здарэння, якое ўзнікла з учарашніх нарад у данішаўскіх сялян. Пра тое, што мяне прынялі за прыехаўшую смерць, мне распавялі жанчыны ў Данішаве. Але што мяне палічылі за чараўніка і Антыхрыста, пра гэта я ўпершыню даведаўся толькі з таго ліста, атрыманага ў Жодзішках. Сапраўды цяжка паверыць, каб у сённяшні век асветы яшчэ можна было спаткацца з такім кансерватыўным поглядам; калі б пасярод такога адукаванага краю, якім з'яўляецца Літва, знайшоўся закуток, дзе чалавека, які працуе над адкрыццём цікавых асаблівасцяў нашага народнага жыцця, прынялі б за чараўніка, ці кепскага чалавека, а яшчэ больш смешна – за Антыхрыста. Прозвішча, падпісанае на тым лісце, я хаваю пры сабе; паведамленне яго для раскрыцця сумненняў, узніклых наконт мяне ў Днішаве, абсалютна нічога не вартае. Скажу толькі са шчырай радасцю, што на працягу ўсяго падарожжа я напаткаў аднаго пробашча, які аказаўся абыякавым да маіх росшукаў. Рэшта ж духавенства, з якім я так часта сустракаўся на беразе Віліі, паўсюдна вызначалася ведамі, адданасцю свайму прызванню, спачуваннем да маёй працы і гасціннасцю. Дзе б толькі не ўваходзіў я пад гасцінную страху прыбярэжных пробашчаў, усюды сустракаў гатоўнасць аказаць жаданую мною навуковую дапамогу, усюды знаходзіў адкрытае сэрца, а ў ім – гэтую прыроджаную нашую гасціннасць, калі з радасцю падзеляцца з падарожным прышэльцам апошняй шчопаццю солі.

*(Заканчэнне будзе)*

## КАМЕНТАРЫ

Да VII раздзела:

*in secula seculorum* – на векі вякоў.

*Аляксандр Ягелончык* (1461 – 1506) – вялікі князь літоўскі (1492–1506), кароль польскі (1501–1506). Сын Казіміра Ягелончыка, унук Ягайлы

Да VIII раздзела:

*...адзін аршын і два вяршкі* – 1 аршын = 71.12 см, 1 вяршок = 1/16 аршына = 4,45 см, 1 сажань = 2.1336 м.

*Патрымпас* (Аўтрымпс, Андайс) – у старажытнапрускай міфалогіі бог мора і ўрадлівасці, адзін з трох галоўных багоў прускага пантэона разам з Пяркунасам і Пікулісам-Патоласам. Уладар жыцця і смерці, мог прымаць аблічча вужа. Адначасова бог мудрасці, апякун служкаў культаў. У ахвяру Патрымпасу маглі прыносіць дзяцей.

*Ундзіны* – у фальклоры народаў Еўропы духі вады, русалкі, прыгожыя дзяўчыны (часам з рыбінымі хвастамі), якія выходзяць з вады і расчэсваюць свае доўгія валасы, а спевамі і прыгажосцю заманьваюць путнікаў у глыбіні, каб загубіць ці зрабіць палюбоўнікамі ў падводным свеце. Спакушаюць мужчын, бо, калі народзяць ад чалавека – могуць атрымаць бессмяротную душу.

*Ігнацій Лаёла*, поўнае імя І́ньіга Лопес-дэ-Ракальдэ (1491–1556) – каталіцкі святы, іспанскі шляхціч, вайсковец і святар, заснавальнік Таварыства Ісуса (ордэна езуітаў), вядомы дзеяч контррэфармацыі.

*Езуіты* (ад лац. *Jesus* – Езус, Ісус) – манахі каталіцкага манаскага «*Таварыства Ісуса*», заснаванага ў 1534 годзе. Пачатковай мэтай стварэння Ордэна езуітаў была барацьба з Рэфармацыяй і ерасямі, распаўсюджванне веры Хрыстовай праз выхаванне моладзі. Слоўная пропаведзь спалучалася з дабрачыннай дзейнасцю: наладжваннем прытулкаў для сіротаў, бясплатных сталовак і г.д.

*Правінцыял* – кіраўнік правінцыі (тэрыторыі), на якой дзейнічае ордэн; *падправінцыял* – яго намеснік на тэрыторыі, меншай, чым правінцыя, г.зн. у падправінцыі. У склад адной правінцыі ордэна ўваходзіла некалькі падправінцый.

*Краўчы* – той, хто адказваў за стол манарха, стольнік.

*Капітул* – у каталіцкіх, духоўна-рыцарскіх і манашаскіх ордэнах – савет (калегія) вышэйшых духоўных асоб па справах касцёла. Членаў капітула называюць канонікамі.

*Дыяцэзія, біскупства* – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Рымска-каталіцкай царкве, на чале якой стаіць біскуп або арцыбіскуп.

*Алумнат* – жылы дом для семінарыстаў.

*...яе канчаткова замкнулі з-за дачынення езуітаў да гучнай справы, звязанай са стральбою з лука па Свята-Міхайлаўскаму касцёлу.* – Там адбылося наступнае: некалькі п'яных кальвіністаў пачалі страляць з лука па галках з-за сцен кальвінісцкага прыхода. Здарылася так, што яны пацэлілі ў абраз на каталіцкім касцёле. Гэта стала повадам для закрыцця кальвінскага збору і школы.

*Мечнік* – службовая асоба ў Рэчы Паспалітай, у абавязкі якой уваходзіла насіць перад каралём меч – знак манаршай улады.

*Балясы, балясіны* – невысокія фігурныя слупкі, якія падтрымліваюць поручні, агароджы балкона, лесвіцы, парапета і г.д.

*cum specyfica denotatione authorum* – з адмысловым пазначэннем аўтараў.

*ad archivum* – да архіва.

*non sint* – хай не будзе (не будуць), адступнікі.

*Була* (ад лац. *bulla* – «пячатка») – асноўны сярэднявечны папскі дакумент са свінцовай (пры асаблівых выпадках – залатой) пячаткаю.

Уладзімір Лайкоў



...няхай Рыгор Барадулін
пайшоў "у неба пехатою",
прысутнасць яго ў нашым жыцці
і сёння больш чым відавочная...

# Адтуль, з далёкай зімы ў Мётчы...

***Успаміны пра Рыгора Барадуліна***

Стаю ў музеі "Літаратурны космас Мётчы" і любуюся праз акно марозным сонцам у старым школьным садзе. На бліжэйшых дрэвах – старых клёнах – яшчэ няма лепшых іх зімовых сяброў – чырванагрудых гілёў. Тых самых, што камфортна адчуваюць сябе толькі ў холадзе, у сапраўднай зіме. Вось мінулым годам такой зімы не здарылася – і таму я не пабачыў гэтых мілых і прыгожых птушак. Можа быць, сёлета яны возьмуць ды з'явяцца.

А на вуліцы сонца, пятнаццаціградусны мароз і надзвычайная цішыня. Другі дзень новага года. Толькі зрэдзьчас прашуміць выпадковая машына.

Крыху далей бачыцца край падбярэзінскага хваёва-сасновага лесу. У пераднавагоднюю ноч лёг пушысты сняжок. Таму ва ўяўленні малююцца звярыныя сляды на сцежках недалёкага бору. Ды і, зразумела, павольная плынь ракі пакрылася першым і, хутчэй за ўсё, яшчэ нетрывалым лядком.

З паўгадзіны назад я няспешна перагортваў старонку за старонкай кнігу Пімена Панчанкі "Размова з нашчадкамі",

выдадзеную яшчэ ў далёкім 1967 годзе. Пейзажныя вершы, творы лясной і грыбной тэматыкі, нягледзячы на зіму і адпаведны настрой, чамусьці вярталі мяне ў лета, у мой любімы калябярэзінскі край. І асацыяцыі ўзнікалі пры іх чытанні ўсё больш цёплыя. Таму я рады і ўдзячны такому сённяшняму сонечна-марознаму дню.



*Мінск, кватэра Барадуліных, 2008 г.: Уладзімір Лайкоў, Рыгор Барадулін.*

Вось зноў падыходжу да вакна і пільна ўглядаюся ў дарогу, што праходзіць ля школьнага саду, уздоўж доўгай агароджы. У тым месцы, дзе адчыняюцца весніцы ў школу, ляжаць паабапал два вялізныя валуны. Калісьці знойдзеныя ў наваколлях Мётчы, яны надоўга прыжыліся тут. Я памятаю, хацелася іх прысутнасцю падкрэсліць повязь вякоў і падзей нашага Мядоцкага краю: заснаванне Мётчы, з'яўленне першай у гэтай мясцовасці школы, стварэнне і дзейнасць музея "Літаратурны космас Мётчы".

Тыдзень таму (26 снежня 2015 года) ва Ушачах, на могілках у Бутаўшчыне, быў асвечаны помнік Рыгору Барадуліну. На вялізным, у дзве з паловай тоны шэрым валуне скульптар абазначыў крыж, словы "Сын", гады жыцця (1935-2014). Так пажадаў паэт у вершы-тэстаменце "Прашэнне":

Калі я адыду, пастаўце мне
Валун сівы і крыж на валуне...

Тут жа побач пахавана маці паэта, Акуліна Андрэеўна. Тая, якую больш за ўсё на свеце любіў Рыгор Іванавіч. І хацеў быць у апошнім спачыне толькі побач з ёю.

Пішу гэтыя словы, а са сцяны школьнага музея задумліва ўглядаецца ў мяне дарагі мой Рыгор Іванавіч. У першыя гады трэцяга тысячагоддзя я замовіў вялікі партрэт паэта аднаму віцебскаму мастаку, які з-за збегу жыццёвых акалічнасцяў на доўгія гады патрапіў у нашую пенітэнцыярную сістэму. Тагачасны начальнік Навасадскай турмы быў добрым маім знаёмым і звёў з ім. Сам Рыгор Іванавіч падчас наведвання школьнага музея бачыў свой партрэт, намаляваны ў няволі. Не скажу, каб ён быў ад партрэта ў захапленні, але пэўным чынам ён яму нават і спадабаўся. "Мы абодва ў няволі!" – жартаваў Рыгор Іванавіч.

На гэтай музейнай сцяне стаяць адкрытыя стэлажы з кнігамі Рыгора Барадуліна. Амаль сто кніг. Семдзесят з якіх падпісаныя ў розныя гады жыцця паэта.

Цяпер ужо я ўглядаюся ў вочы паэта, у блізкія рысы твару. Другая зіма, другі Новы год без паэта. Не возьмеш тэлефон і не набярэш нумар Рыгора Іванавіча, і не пачуеш яго голасу. Так, голасу не пачуеш, але ўсё-ткі я кажу не ўсю праўду. Чаму? Бо за якую гадзіну да Новага 2016 года я ўсё ж набраў хатні нумар Рыгора Барадуліна і павіншаваў Валянціну Міхайлаўну, пажадаў ёй добрага здароўя. Мы ўспомнілі Рыгора Іванавіча. Яна ў дробязях расказала пра паездку ў Вушачы, пра асвячэнне помніка...

Потым я запытаў у Валянціны Міхайлаўны, ці наведваецца ў снах Рыгор Іванавіч. "Ні разу Грыша мне не прысніўся", – не раздумваючы, адказала яна. Адказала гэтаксама, як адказвала ўжо неаднойчы падчас маіх тэлефанаванняў. Як і тады, калі мы адведвалі яе мінулай вясной.

Вось, трэба было мне толькі што ўспомніць гэта, як паста ў ручцы, якой я пішу, закончылася. Дастаў тады барадулінскую ручку, якую ён падараваў мне ў далёкім ужо 1989 годзе. Амаль 27 гадоў беражна яе захоўваю. Яна з чорнага эбаніту, са сфінксам наверсе асадкі. Быў нават выпадак, калі сфінкс адламаўся, але я яго

прымацаваў. Некалькі дзясяткаў стрыжняў за гэты час спісалася. Вось і ў гэтыя хвіліны Рыгор Іванавіч як бы напомніў пра сябе і вымусіў дастаць гэтую “дзеючую” рэліквію ў маім музеі.



*Мінск, кватэра Барадуліных, 2013 г.: Уладзімір Някляеў, Рыгор Барадулін, Уладзімір Лайкоў, Любоў Лайкова.*

Дарэчы, калі ўжо ўзнікла тэма рэліквій, то вартым будзе менавіта зараз прыгадаць яшчэ адну. На гэты раз не музейную, а сямейную, нашую, з роду Лайковых. Пры жыцці Рыгор Іванавіч не раз бачыў яе ў Мётчы і ў Вушачах і карыстаўся не адзін раз. Маецца на ўвазе самавар, куплены яшчэ маімі дзядулем і бабуляй у 1896 годзе на кірмашы ў мястэчку Бобр. Тым самым мястэчку, дзе сёння жыве і творыць цікавы і вядомы мастак Алесь Пушкін. Многа каленаў роду Лайковых смакавала і смакуе сёння духмяную з мяты, чабрацу і святаянніку гарбату. Два разы, наязджаючы ў госці да Рыгора Барадуліна ў матчыну хату на вуліцу Школьную, што ў Вушачах, з дапамогаю лучынак распальваў я самавар. І тады над вушацкай хатай, садам і бацькавым вязам уздымаўся смалісты пах. І пад аповеды Рыгора Іванавіча, Валянціны Міхайлаўны, Дамінічкі і нас, мядоцкіх гасцей, пачыналася і доўга-доўга цягнулася тое незвычайнае, можа быць, нават у нечым рытуальнае *гарбатапіццё*. Былі вось такія, кажучы вобразам Уладзіміра Някляева, запамінальныя і вельмі хвалюючыя знакі прыпынку ў нашым доўгім, амаль саракапяцігадовым сяброўстве з лепшым у свеце старэйшым за мяне на васямнаццаць гадоў Рыгорам Іванавічам. А пасля сыходу з жыцця (1999 год) майго роднага бацькі Піліпа Рыгоравіча я часта звяртаўся да паэта, нібыта да свайго бацькі.

У 2016 годзе споўнілася б сто гадоў з дня нараджэння Піліпа Рыгоравіча Лайкова. Крыху больш, а калі быць дакладным, 120 гадоў адсвяткаваў з усімі Лайковымі і іх блізкімі і сябрамі наш славуты самавар.

Рыгор Іванавіч заўсёды шчыра цікавіўся справамі майго бацькі, а таксама лёсам нашай вялікай сям'і. А калі я па прыкладу Уладзіміра Арлова і яго кнігі “Мой радавод да сёмага калена” напісаў эсэ “Друцкія карані і галіны майго радаводу”, то паэт падтрымаў маё жаданне лейтматывам аповеду роду Лайковых зрабіць вось гэты самы самавар. У 2003 годзе, дзякуючы Рыгору Барадуліну, а таксама Генадзю Вінярскаму і Наталлі Давыдзенка, у выдавецтве “Беларускі кнігазбор” накладам у 300 асобнікаў з'явілася мая першая кніга публіцыстыкі “Трэба дома бываць часцей”. Радок самага славутага свайго верша Рыгор Барадулін ветліва дазволіў вынесці ў загаловак.

У тым жа 2003 годзе 4 траўня мне спаўнялася пяцьдзясят гадоў. На наш хатні тэлефонны аўтаадказчык паэт надыктаваў вершаваныя словы-віншаванні:

Хай панавіты род Лайковых
Саўецца, лічачы стагоддзі,
У справах і натхнёных словах
Хай будзе ў лёса ў новай згодзе,
Хай прозвішча нязводна, носка
Нашчадкі носяць талісманна.
А 50 – дык гэта коска
У слынным сказе ад Івана.

Праўда, крыху раней, падчас свайго другога прыезду ў Мётчу, калі са згоды паэта мы ў нашым Мядоцкім краі шырока адзначалі яго 60-годдзе, у нашай Кнізе ганаровых гасцей Рыгор Барадулін пакінуў вось гэтыя словы:

Лёс,
Не глядзі на нас, як вотчым,
Будзь цёплым бацькам,
Як Лайкоў.
Хай зорам зорыцца над Мётчай
З прабеларушаных вякоў!

*11.03.1995 г.*

Але як жа тут не ўспомніць самы першы прыезд Рыгора Барадуліна ў школу 30 студзеня 1988 года і такі пакінуты запіс: "У марозныя дні абагрэўся душой у сценах Мётчанскай школы, дзе найшчырым гаспадаром Уладзімір Піліпавіч Лайкоў, абагрэўся, бо пачуў, як шчыра, як натуральна, як спаконвечна-нязводна гучыць у самых маладых вуснах кожнае слова беларускае святое мовы! Хай гучыць, пакуль зоры не абсыпяцца! Вечна! Паклон!"

Вось колькі жыву ўжо на свеце, колькі помню да апошніх драбніц стасункі свае з Рыгорам Іванавічам, столькі ж дзякую яму за добрыя і шчырыя словы, за многія ўрокі жыцця, ім мне падараваныя. І цешу заўсёды сябе той далікатнай увагай, што скіроўваў паэт у адрас маіх бацькоў Валянціны Апанасаўны і Піліпа Рыгоравіча, маёй вернай спадарожніцы жыцця Любові Фёдараўны, дачкі Алены і зяця Аляксандра, сына Янкі і нявесткі Марыны, і ўсіх шасцярых унукаў: Паўліка, Уладзіка, Марылькі, Машы, Васілька і Веранічкі.

У гэтым жыцці асаблівым белым каменьчыкам пазначаны дзень 7 красавіка 2013 года. Тэлефануе напярэдадні мой мінскі ўнук Уладзік, тады шасцікласнік, і з гонарам паведамляе дзеду, што настаўніца беларускай мовы і літаратуры на дзясятку ацаніла верш "Бацьку", вывучаны ім на памяць. Я, шчаслівы і радасны, прапаную Уладзіку пазнаёміцца з Рыгорам Іванавічам, бо якраз днямі збіраюся адведаць яго ў Мінску.

...І вось мы дома ў паэта. Унук эмацыянальна дэкламуе верш. Рыгор Іванавіч вельмі расчулены, абдымае і прылашчвае самымі лепшымі словамі Уладзіка. Затым уручае з дарчымі подпісамі кнігі: "Навошта" ("Уладзіславу Лайкову – расці шчырым беларусам на радасць бацькам. 07.04.2013 г., Рыгор Барадулін"), "Качкадзівачка" ("Пану Уладзіславу Лайкову – сто год! 07.04.2013, Рыгор Барадулін").

Гадоў з пятнаццаць таму для сваёй першай кнігі я пісаў эсэ пра любімую школу, якую ў адным лісце ў Мётчу Рыгор Барадулін назваў *"сапраўдным запаведнікам (як бы сумна ні гучала гэтакае параўнанне) беларускасці"*. Тое эсэ называлася "Кожнаму сваё, альбо ці выпадзе калі сустрэцца журавам і гілям над Мядоцкай школай". Вось апошні абзац твора: *"Тымі амаль ужо зімовымі днямі і вечарамі я ўсё часцей і часцей прыглядаўся да нашых школьных клёнаў: вось-вось, сёння ці заўтра, павінны былі прыляцець з далёкай поўначы чырванагрудыя гілі. Яны прылятаюць заўсёды, абавязкова, кожны год, кожную зіму. Яны таксама вельмі і вельмі любяць нашу школу, нашых дзяцей і нашых настаўнікаў. Вось толькі шкада (часам аж плакаць хочацца) – шляхі-дарогі жураўвоў і гілёў ніколі не перасякаюцца. А так бы хацелася хоць раз пабачыць іх разам. Хаця, ці павінны ўсе нашы мары і спадзяванні ў гэтым жыцці здзяйсняцца? Таму застаецца верыць ва ўдачу, самааддана працаваць, рабіць усё, што робяць усе, але рабіць так, як не робіць ніхто. І тады нечакана здарыцца цуд: сустрэнуцца над нашай роднай школай жураўвы і гілі"*.

У маім напачатку нясмелым, а потым – больш чым сціплым сяброўстве з Рыгорам Іванавічам цуды здараліся. Як жа тут не быць удзячным лёсу! Ліпень

1997 года. Тэлефануе Рыгор Іванавіч і неяк так загадкава просіць мяне ўважліва прагледзець заўтрашнюю газету “Звязда”. Потым вядзём размову пра іншыя нашы справы. Напрыканцы ўсё-такі вельмі прашу сказаць больш падрабязней пра заўтра. “Чытай, Валодзя, маю падборку вершаў”, – і мы развіталіся. Назаўтра чакаю, не дачакаюся пошты. Нарэшце-такі паштарка прыносіць газету. На трэцяй старонцы знаходжу вершы Рыгора Барадуліна, прысвечаныя Марку Шагалу, Міхаілу Фінбергу і... Уладзіміру Лайкову. Верш называецца “Мядоцкі край”:

Божа гасцінны!
Павек карай
Гэтакімі прымусамі,
Якія чыніць
Мядоцкі край,
Робячы ўсіх беларусамі.

Мётча –
Мяцеліца лёд мяце.
Мётча –
Борцямі гурбіны.
Мётча –
Салодкі на кожнай вярсце
Мёд
З губ гарачых прыгублены.

Мётча –
Тут мецiўся Вітаўтаў шлях.
Казкі раслі мядоцкімі.
Квас журавінавы
Борам пах,
Клёк
Сілкаваўся клёцкамі.

Не выпускаў у свет
Лайдакоў
Уважаны паняй працаю
Дырэктар школы
Спадар Лайкоў
З падмётчанай рэпутацыяй.

Выразна з памяці вяртаецца 12 ліпеня 2004 года. Я збіраюся ў трохтыднёвае падарожжа па Еўропе і ў прыватнасці па Францыі. Тэлефаную Рыгору Іванавічу, каб сказаць пра тое. Чую крыху стомлены, але амаль малады голас: “Ведай, Валодзя, ты ёсць першы, з кім я размаўляю пасля пілігрымкі ў Вечны Горад, толькі што вярнуўся з Рыма”. І далей я чую, што паэту выпала шчасце перакласці на беларускую мову “Рымскі трыпціх” Яна Паўла ІІ, які быў выдадзены Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквой. Ці не таму яму выпаў гонар 28 чэрвеня 2004 года быць прынятым на асабістай аўдыенцыі ў Ватыкане Святым Айцом Янам Паўлам ІІ.

Ужо потым, у прадмове да кнігі “Рымскі дыпціх” (2006 г.) Рыгор Барадулін усхвалявана напіша: *“Святы Айцец пераклаў на мае рукі сваё дабраславенне, прыняў пераклад і падараваў мне асвечаны ружанец. Варта было жыць, каб дапасьці душой да незвычайнай паэзіі Яна Паўла ІІ, бо гэта размова з Вечнасцю, са Словам, гэта прачытанне Вечнай Кнігі святой душой.*

*Тое, што я адзін свой зямны дзень буду бачыць і чуць Святога Айца, і ў велікодным сне не марыў прысніць. А тут – гаварыць з Рымскім Папам Янам Паўлам ІІ, цалаваць яго пярсцёнак.*

*Гэта дар Усявышняга. Гаварыў я з Папам па-беларуску, і ён добра разумеў нашу мову. Апамятаўшыся ад шчасця, я не ведаў, чым маю аддзячыць Ягонай Святасці.*

*Апостальскі візітатар для беларускіх грэка-католікаў архімандрыт Сяргей Гаек параіў напісаць "Рымскі дыпціх". І я закончыў дыпціх у мамінай хаце ў Вушачы і даў яму назву "Узрушэнне".*

Да ўсяго сказанага потым паэт дадасць яшчэ адзін сказ: *"У тыя святыя хвіліны, калі чуў я Папу, калі перадаваў яму ягоны "Рымскі трыпціх" у сваім перакладзе на матчыну мову, калі цалаваў яго пярсцёнак, мне нясмела падалося, што бачу адно з абліччаў Усявышняга".*

Нашай сям'і Рыгор Іванавіч падараваў свой "Рымскі дыпціх" і суправадзіў яго такімі словамі: *"Славутаму роду Лайковых – хай Бог бачыць іх! Рыгор Барадулін, Менск, 24.XII.06".*



*Вушачы, сядзіба Рыгора Барадуліна, каля "бацькоўскага вяза", 2002 г.: Уладзімір Лайкоў, Рыгор Барадулін, Янка Лайкоў.*

І сапраўды, няхай нават Рыгор Барадулін пайшоў "у неба пехатою", прысутнасць яго ў нашым жыцці і сёння больш чым відавочная. Бо і адтуль, адчуваецца, паэт не толькі бачыць нас, нашыя справы. Або, бывае, часам нават і дапамагае. Хоць бы ўспомніць мінулы, 2015 год. У рэспубліцы быў абвешчаны конкурс на лепшы твор, прысвечаны роднаму краю. Сямікласніца нашай школы Юля Кудзіна напісала эсэ "Мядоцкі край". Мы адаслалі работу на конкурс. Дарэчы, на той конкурс былі пададзены творы з гімназій, ліцэяў, лепшых гарадскіх і вясковых школ. Было аб'яўлена амаль 400 удзельнікаў. Першае ж месца прысудзілі Юлі Кудзінай. Віншуючы сваю вучаніцу з такім ашаламляльным поспехам, я, між іншым, адзначыў, што адтуль, з неба, нам з ёю дапамог, канечне, Рыгор Барадулін.

Можа быць яшчэ і таму, што завяршалася эсэ амаль радкамі Рыгора Барадуліна, толькі крыху пераіначанымі. Што, дарэчы, было зроблена яшчэ ў тыя гады, калі паэт наведваў Мётчу і даў на тое свой дазвол:

Трэба ў Мётчы бываць часцей,
Трэба ў Мётчы бываць не госцем.
Каб душою не ачарсцвець,
Каб не страціць святое штосьці.

Ці ўзяць хіба 2016 год. У Маскве праходзіў міжнародны шаснаццаты пушкінскі конкурс сярод прыхільнікаў ягонай творчасці. Удзельнічалі прадстаўнікі 43 краін свету. Я таксама прыняў удзел і адаслаў сваё эсэ "Жыць словам". Пераклаў з беларускай на рускую мову. Дарэчы, колькі гадоў таму я расказваў Рыгору Іванавічу пра маіх любімых школьных настаўнікаў літаратуры Рабкова Івана Ісакавіча і Антонава Івана Дзмітравіча, пра свае студэнцкія захапленні лекцыямі славутага Алеся Адамовіча па творчасці Ф. Дастаеўскага і Л. Талстога. Таксама мы з паэтам не раз у размовах звярталіся да твораў ужо сёння лаўрэата Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч. Я расказваў паэту пра сваю сустрэчу з Канстанцінам Сіманавым. Вось пра ўсё гэта я і распавёў у сваім конкурсным эсэ. І радасці маёй не было канца, калі 6 чэрвеня

2016 года даведаўся пра перамогу ў гэтым міжнародным конкурсе. Першая думка: няйначай зноў радасць гэту прыслаў адтуль, з неба, Рыгор Барадулін.

У сярэдзіне першага месяца 2016 года ўнуку майму Уладзіку, таму самаму, які чытаў на памяць верш "Бацьку" Рыгору Барадуліну, споўнілася 15 гадоў. Памяць жа ў гэтыя студзеньскія дні вярнула мяне ва ўласныя пятнаццаць. 1968 год. Вось заходжу ў школьную бібліятэку (месцілася яна ў левым драўляным будынку нашай Абчугскай сярэдняй школы, куды ўвесну 1908 года прывозіў сваіх вучняў на экзамен з вёскі Сані сам Якуб Колас). Праглядваю ў чарговы раз кнігі, і погляд мой спыняецца на невялічкім томіку Рыгора Барадуліна "Адам і Ева". Упершыню чытаю імя аўтара і мяне, падлетка, асабліва зачароўвае назва кнігі. Той міг жыцця і тая хвіліна радасці і адкрыцця будуць адным з белых каменьчыкаў майго лёсу, а таксама лёсу нашай шматлікай сям'і Лайковых.

Бо ўжо праз тры гады, 27 лістапада 1971 года, паэт не толькі падпіша мне свой гэты томік, але і напрарочыць маю будучыню, як тое будзе здарацца не адзін раз на працягу нашага доўгага сяброўства. Вось той аўтограф: "Любы Валодзя! Няхай твая Ева будзе прыгожай і ласкавай! P.S. На вяселле запрасі пасля пятага курса!" І прароцтва паэта збылося: я сустрэў на курсе сваю Любу, Любку. Пасля пятага курса мы згулялі яшчэ тады студэнцкае вяселле. Я запрасіў на вяселле Рыгора Барадуліна разам з жонкай яго Валянцінай Міхайлаўнай. Толькі паэт не змог на ім папрысутнічаць, бо ў гэты час адправіўся ў творчую камандзіроўку ў Сярэднюю Азію. Праўда, потым нашыя сем'і пасябравалі. Мы з Любоўю Фёдараўнай, нашымі дзецьмі Аленай і Янкам, а таксама зяцем, нявесткай і ўнукамі многа разоў гасцявалі ў паэта, як і Рыгор Іванавіч – у нас.

Ну, а вершы і паэмы таго першага для мяне барадулінскага томіка, як і тады ў юнацтве, так і зараз, у нашыя ўжо зусім немаладыя гады, чаравалі і чаруюць словам, вобразам, асацыяцыямі. Праўда, цяпер мне на памяць прыходзяць усё-такі самыя першыя радкі кнігі. У год векавога юбілею майго бацькі Піліпа Рыгоравіча яны прачытваюцца надзвычай урачыста і ўзнёсла:

Пакуль далёка спіць залева
І сопкі песцяцца ў смузе,
Яны ўдваіх,
Адам і Ева,
Капаюць бульбу у тайзе.
Конь пасвіцца,
бялее грыва
З перастаялае травы.
Спрадвечны сум
апаў тужліва –
Лятуць у вырай журавы.

Бо бацька мой Піліп усё пасляваеннае, ці, больш правільна сказаць, мірнае жыццё аж да самага выхаду на пенсію працаваў саўгасным конюхам. Лёсам яму, магчыма, было наканавана любіць да самазабыцця коней. Бо ў старажытнагрэчаскай мове імя Піліп азначае чалавека, які вельмі шануе коней.

І на яго жыццёвым шляху нягодаў было зашмат. Толькі яшчэ яго бацькам і маці ды яшчэ пяццю братамі і дзвюма сёстрамі абжываўся Лайкоў хутар, як пачала насоўвацца калектывізацыя, а за ёю і будучая страшнейшая вайна. Пайшоў Піліп служыць у Савецкую Армію ў 1937 годзе, дзе патрапіў на карэла-фінскую, а праз два гады і на Вялікую Айчынную войны. І толькі ў 1946 годзе вярнуўся дахаты інвалідам. Сустракалі яго са слязамі на вачах старэнькія бацька Рыгор Ларывонавіч, маці Марыя Ціханаўна ды сёстры Ганна з Шурай. А братоў Дзяніса (1900 г. нараджэння), Івана (1902), Аляксандра (1904), Уладзіміра (1907), і Леаніда (1912) назаўсёды забрала вайна.

Але вялікая бацькава цяга да жыцця, да рэчкі, лесу і коней ці не з'явілася ў тыя пасляваенныя гады лепшай за прыродныя лекі. Ці не таму, як удала заўважыў мой сын Янка ў адным сваім вершы:

Імглісты прысак ледзь ліпеў,
На ўзмежку пасвіліся коні.
Мой бацька спаў, а я сядзеў
Забыўшыся зусім на стому.

І цені коней над ракой
Мой зірк цягнулі, чаравалі.
Святая ноч, святы спакой
Памалу ў вечнасць адплывалі.

У 1970 годзе я вучыўся на першым курсе філалагічнага факультэта БДУ. І калі на выхадныя ці ў канікулы вячэрнім аўтобусам вяртаўся з горада ў родную вёску, дык адразу з аўтобуснага прыпынку бег у лясны засценак Ваўкаўня, дзе бацька ў начным пасвіў коней. Мы тады прыладжваліся з ім ля вогнішча, нас акружалі, ратуючыся ад камароў, астроўскія коні. Я расказваў і расказваў бацьку пра Мінск, студэнцкія навіны. Пра тое, што ў будучым годзе нашаму ўніверсітэту спаўняецца 50 гадоў. Таму з гэтай нагоды літаратурны гурток пад кіраўніцтвам Вячаслава Рагойшы стварае ўнікальную працу – альманах "БДУ і беларускія пісьменнікі". Мне пашанцавала на імёны Івана Навуменкі, Івана Пташнікава, Генадзя Бураўкіна і Рыгора Барадуліна. Неабходна было сустрэцца з гэтымі ўжо тады вядомымі пісьменнікамі і напісаць пра іх адпаведныя артыкулы.

Памятаю, бацька ўважліва слухаў мой аповед пра сустрэчы з гэтымі майстрамі беларускага слова. Асаблівую цікавасць ён праявіў да паэта Рыгора Барадуліна (бо ён быў яму амаль зямляк – барадулінскія Вушачы не такія ўжо далёкія ад нашых мясцінаў). Я расказваў яму пра тое, як у кастрычніку 1970 года ў адным з кабінетаў часопіса "Полымя" ўпершыню пабачыў задуменныя вочы паэта. Яны ўглядаліся ў сямнаццацігадовага крупскага юнака, а рука працягвала мне жменю смакотнага арахісу.

...Позірк мой адрываецца ад ліста паперы, я зноў бачу з партрэта на сцяне музея вочы Рыгора Барадуліна, што, як узышлі ў далёкім 70-м годзе над маім жыццём, так і засталіся назаўсёды. Гэта вочы бацькі, старэйшага сябра, вочы разумніка і гарэзнага веселуна, вочы дабрэйшага чалавека. Ці не таму на зямлі мне сёння светла?

Святло барадулінскае прысутнічала і прысутнічае ў маім жыцці не толькі ад захаплення яго творчасцю. Многа таго святла было і засталося ад сустрэч з паэтам у пакоях яго мінскіх кватэр на вуліцах Рэспубліканскай і Івана Мележа.

Падчас майго першага візіту Рыгор Барадулін жыў у доме над рэстаранам "Нёман", што месціўся ля кінатэатра "Беларусь". 27 лістапада 1971 года, 11 гадзін раніцы. Цісну на званок, доўга не адчыняюцца дзверы. Нарэшце, са сну яшчэ, не ў самым лепшым настроі, эмацыянальна "ўшчуваючы" хатняга ката, якому не пашанцавала апынуцца пад нагамі, перад васямнаццацігадовым учарашнім вясковым юнаком узнікае Рыгор Барадулін (у 1971 годзе яму было 36). Праз многа гадоў я неяк унік у гэтыя лічбы і зрабіў для сябе адкрыццё: ва ўсім 45-гадовым сяброўстве такое, каб паэт быў старэйшы за мяне роўна ў два разы, здарылася толькі аднойчы і менавіта ў 1971 годзе.

У той дзень напачатку быў сняданак. Дружна сядзелі за сталом Рыгор Іванавіч, Валянціна Міхайлаўна, Таццяна Харлампіеўна (маці жонкі паэта), дачка Ілонка і, вельмі саромеючыся, я. Да чаю было бісквітнае пячэнне. Ці не ўпершыню мною паспытанае. Потым у рабочым кабінеце я доўга распытваў і слухаў паэта. Паўнацэннай гутарцы перашкаджала мая прыродная сарамлівасць. Ужо на развітанне,

калі паэт падпісваў свае кнігі, то на выданні “Библиотечка избранной лирики Рыгора Бородулина” (издательство ЦК ВЛКСМ “Молодая гвардия”, 1969 г.) ён пазначыў: “Дарагому Уладзіміру на вясёлы ўспамін аб сумным інтэрв’ю! Рыгор, 27.XI.71 г.”

У той жа дзень на кнізе “Неруш” ім былі пакінуты святыя для мяне радкі:

Хай шчасця
хітрая падкова
Заўсёды будзе
ў Лайкова!

А кніга “Лінія перамены дат” захавала наступны аўтограф:

Лайкоў
Не з племя лайдакоў,
Шчыруе ўсё
Валодзя.
Жадаю
залатых радкоў,
Са шчасцем
быць у згодзе!

Тады ж Рыгор Барадулін пакінуў на кнізе “Рунець, красаваць, наліваццa” такі надпіс: *“Жадаю рунець, красаваць, наліваццa Уладзіміру Лайкову”.*

Яскрава ўспамінаецца год 1973. Неяк надвячоркам зайшоў да Рыгора Іванавіча на Рэспубліканскую, а там у гасцях малады лейтэнант, ён жа паэт Сяргей Панізнік. Цікавая і доўгая, нават с чытаннем вершаў, зайшла тады размова. На развітанне Рыгор Іванавіч падпісаў мне кнігу “Вяртанне ў першы снег”: *“Любы Ўладзімір – няхай жыве Ўсходняя!”* і зборнік гумарыстычных вершаў “Журавінка”: *“Валодзя! Не жаніся на журавінцы!”*

Праз многа гадоў мой сын Янка падаруе музею “Літаратурны космас Мётчы” кнігу Сяргея Панізніка “Пры свячэнні...” з наступным аўтографам: *“Вогнепаклоннíку Янку Лайкову ад мечніка-рубанаўца Сяргея Панізніка. У Менску 16.XI.2009”.*

А ў самы сумны дзень 2014 года 4 сакавіка мы ўсёй сям’ёй ідзём у раёне мінскай Малінаўкі да станцыі метро, каб паехаць у касцёл святых Алены і Сымона на развітанне з Рыгорам Барадуліным. На вуліцы сустракаемся з Сяргеем Панізнікам. Праз 41 год пасля нашай першай у жыцці сустрэчы. І сустрэчу гэту, як ні сумна казаць, прыдумаў Рыгор Іванавіч. Бо і Сяргей Панізнік таксама спяшаецца на адпяванне і пахаванне паэта.

Працягваю гартаць у памяці старонкі нашых колішніх стасункаў з самым, можа, лагодным паэтам на зямлі. У той жа час неадступна ідуць следам барадулінскія радкі, пакладзеныя Эдуардам Зарыцкім на музыку:

Доля праедзе
ў дрогкай карэце,
Следам пасцелецца дым.
Хай жа на гэтым
Сустрэнемся свеце
Перад сустрэчай на тым...

Зноў і зноў працягваюць усплываць тыя заўсёды хвалюючыя сустрэчы на гэтым свеце. 24 лютага 1975 года. 40 гадоў Рыгору Барадуліну. З аднакурснікам Сашам Марковічам (светлая яму памяць, 14 гадоў таму адышоў з жыцця) дамаўляемся вечарам без усялякага запрашэння з’явіцца да Барадуліна на гэты юбілей.

Перад тым у адной мінскай краме купілі сувенірны аловак (сантыметраў сорак даўжынёй і да трох сантыметраў у дыяметры), а таксама я выпрасіў у свайго

дзядзькі-бібліяфіла Курчова Уладзіміра Апанасавіча зборнік “Нашай нівы” 1907 года выдання. І вось вечарам падымаемся са сваёй Нямігі, з інтэрната тады яшчэ на Паркавай уверх на Рэспубліканскую. Нарэшце дом, і вось ужо сёмы паверх! Хвалюемся. Дзверы адчыняе юбіляр. Бачым і чуем гасцей. Перапрашаем свой нязваны прыход, але ўсе вясёлыя, усе мітусяцца. Мы за сталом. Вясёлая і гаманкая Валя, Валянціна Міхайлаўна, жонка паэта. Уладзімір Караткевіч, Адам Мальдзіс, Ванкарэм Нікіфаровіч, Карлас Шэрман, Васіль Зуёнак, Юрый Пушкароў. Іх жонкі, сяброўкі.

Слова даюць мне. Першы раз у жыцці кажу віншаванні і пажаданні, успамінаючы сваю школу, бібліятэку і кнігу Рыгора Барадуліна “Адам і Ева”. З таго часу, кажу, яго паэзія ўзяла мяне ў свой трапяткі палон. Яшчэ наіўна-праўдзіва заўважаю, што мы, студэнты і маладыя людзі ў захапленні ад вершаў паэта. Таксама дзякую лёсу, што звёў мяне на жыццёвай сцяжыне з Рыгорам Іванавічам.

Затым устаў Саша Марковіч і ад вушацкага краю, ад маладых землякоў і ўсіх студэнтаў-філолагаў пажадаў многа добрых гадоў слыннаму беларускаму паэту. А я сядзеў, слухаў і, шчыра скажу, вельмі зайдросціў усім вушацкім. У той памятны ўжо далёкі год мы з Сашам заканчвалі ўніверсітэт. Саша прыгожа сябраваў не толькі са мной, але і з найлепшымі маімі аднакурснікамі Іванам Штэйнерам, Іванам Зяньковічам, Міколам Зуевым, Францам Сіўко...

І закружылася гаманкое гасціннае застолле. Было ўсё: галантныя кавалеры запрашалі пекных дам, лірычную народную песню заводзіў Уладзімір Караткевіч, а потым грымеў на ўсе пакоі магутны бас опернага спявака Юрыя Пушкарова. А калі вясёлым і захмеленым гасцям падалося, што прыгожым жанчынам бяседы для скокаў не хапае падлогі, то вельмі хутка са сталоў збіраўся посуд і з’яўлялася імправізаваная сцэна, куды ў адзін міг можна было з дапамогаю мужчын узнесціся. Праўда, выканаць трэба было адну абавязковую ўмову: пазбавіць прыгожыя і стройныя ножкі абутку. Гэта было жаданне Уладзіміра Караткевіча.

Яшчэ ніколі не забуду майскую сустрэчу з паэтам у тым жа 1975 годзе. Іду па вуліцы Валадарскага, мінаю Рускі драматычны тэатр, потым сталовую-кубінку і лоб у лоб сутыкаюся з Рыгорам Іванавічам. Вітаемся, і пайшло-паехала слова за словам. У мяне якраз заканчваецца вучоба ва ўніверсітэце, і Рыгор Іванавіч прапануе ісці працаваць у БелСЭ. Тут жа піша запіску на імя яе кіраўніка Народнага паэта і яго земляка Петруся Броўкі. Я дзякую, і мы развітваемся. Тады да Петруся Броўкі я не пайшоў, ды і запіску тую барадулінскую не збярог у гадах. Можа, сёння “сэрца хвалюе нязменна дакор” за тую нявыкарыстаную магчымасць у сваім жыцці. Але што не магу дараваць сабе, дык тое, што назаўсёды згубіў гэты яшчэ адзін барадулінскай рукой напісаны дакумент мінулага стагоддзя. Але, на шчасце маё, больш такіх стратаў ніколі не было. Мо таму сёння, калі пішу эсэ-ўспамін пра Рыгора Барадуліна, яго стасункі са мной, маёй сям’ёй і маімі сябрамі Іванам Штэйнерам і Іванам Зяньковічам, маю магчымасць карыстацца сотнямі арыгінальных лістоў, допісаў, аўтографаў. Усе яны ў розныя хвіліны, дні, месяцы і гады нашага сяброўства былі напісаныя рукой самога Рыгора Барадуліна.

Думкі вяртаюцца ў травень 1989 года. У Мінску ладзіўся І з’езд Таварыства беларускай мовы. Напярэдадні прыязджаю ў нашую сталіцу, тралейбусам дабіраюся да парка Чалюскінцаў, купляю букет кветак. І вось я ўжо на вуліцы Мележа, стаю ля дзвярэй барадулінскай кватэры. Цёпла сустрэты ля ўваходу Рыгорам Іванавічам, уручаю кветкі заўсёды пекнай гаспадыні Валянціне Міхайлаўне. Сядзім за гасцінным сталом, частуемся. Завязваецца гамонка. Я апавядаю навіны Мётчы, расказваю пра вучняў, настаўнікаў, пра ўсіх сваіх сямейнікаў. Пра малодшага брата Яўгена, кіроўцу аўтобуса, што жыве ў беларускім гарадку энергетыкаў Новалукомлі. Паэту прыемна слухаць мой аповед пра гэтыя вельмі блізкія да Вушачаў мясціны, пра тое, што брат мой выпрошвае ў мяне барадулінскія кнігі і любіць іх чытаць і перачытваць.

Далей гаворым пра чацвёрты год перабудовы, дэмакратыі і галоснасці. Але Рыгор Іванавіч раіць мне, дырэктару школы, быць у думках сваіх і ўчынках абачлівым. Я ж не пагаджаюся, маўляў, хопіць быць запрэжаным, ужо можна нарэшце разняволіцца. Рыгор Іванавіч мякка даводзіць мне, што так можна і пасаду страціць, і справу адраджэння пагубіць. Ды і наш гэты сапраўдны запаведнік беларускасці можа знікнуць (як яно, дарэчы, і здарылася праз дваццаць гадоў). Але тады я прыводжу свой апошні і галоўны, вясковы аргумент. Распавядаю яму, што месяц таму набыў для ўласнай гаспадаркі карову. “Ну, калі так, то ты ніколі не прападзеш!” – радасна ўсклікае паэт. І больш да гэтай тэмы мы не вярталіся. Хіба толькі калі-нікалі весела ўспаміналі той эпізод нашага жыцця. І тады, калі яшчэ я працаваў дырэктарам школы, і тады, калі мяне ўсё-такі змусілі гэтую пасаду пакінуць. Праўда, рабілі гэта нязграбна, з-за вугла, зусім не “элегантна”.

Але, па справядлівасці кажучы, тыя мае ўжо амаль дзесяць гадоў неадміністрацыйнай і гаспадарскай работы стварылі ўмовы для творчай, літаратурнай працы. Бо мы з Янкам склалі своеасаблівую кнігу-энцыклапедыю літаратурнага жыцця Барысаўшчыны “...І зоркі над Бярэзінай-ракой...” Таксама мне ўдалося напісаць кнігі “На схіле алфавіту”, “У палоне грыбной паэзіі”, ”Схіляю сцішана калені...” (з нізкі “Сто мядоцкіх настаўнікаў”). Школу за гэтыя гады наведалі яшчэ пятнаццаць вядомых пісьменнікаў. У 2014 годзе быў праведзены 30-гадовы юбілей музея “Літаратурны космас Мётчы”. І як светла на душы ад таго, што ва ўсёй гэтай творчай рабоце заўсёды прысутнічала духоўная энергія і бацькоўскі клопат Рыгора Барадуліна.

...На вуліцы другі дзень Калядаў, восьмага студзеня. Вялікая ўжо чародка гілёў ласуецца каляднымі прысмакамі нашых школьных клёнаў. Пятнаццаць гадоў таму гэтым жа студзеньскім днём, толькі 2001 года, Рыгор Іванавіч пакідае на маім тэлефонным аўтаадказчыку каляднае пажаданне:

Для злых душою – вотчына!
Для шчырадушных – рай!
Хай будзе не сурочына
Твая краса, Мядоччына, –
Малечых вёснаў грай.
Няхай табе не плачацца –
Смяецца, тчэцца, скачацца –
Па ўдачы час звярай!
Хай неруш Беларушчыны
На тлум не будзе пушчаны –
Звіні, Мядоцкі край!

Як і тады, так і цяпер трымціць мая істота ад барадулінскага слова “НЕРУШ”. Сляды гэтага слова ўзніклі яшчэ ў школьныя гады. Часам можа падацца, што гэта ў сне. Але ж не мог я прысніць 1972 год. Тады студэнтам-другакурснікам пад кіраўніцтвам самога Івана Навуменкі пісаў я першую курсавую працу, якая так і называлася: “Рыгор Барадулін. “Неруш”. Нахлынваюць успаміны, і следам за паэтам кажу:

Я вяду за сабой сляды
да свайго
запаветнага вострава.
Я ж адсюль за сабой сляды
вёў
няўпэўненыя, таропкія.
Як і некалі,
малады,
першы снег
мне траскоча сарокаю.

Потым у студэнцкім маім жыцці былі навуковыя працы па творчасці Р. Барадуліна: яны былі напісаныя для навукова-практычных канферэнцый студэнцкіх работ ва Ужгарадзе і Гомелі. Дыпломная ж работа "Лірыка Рыгора Барадуліна" пад кіраўніцтвам Алега Лойкі вянчала мае навуковыя "высілкі".

У тым жа 1975 годзе ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" ад 11 ліпеня была надрукаваная мая рэцэнзія "Радасць першаадкрыцця" на кнігу лірыкі Р. Барадуліна "Рум". Потым яшчэ ў "ЛіМе" змяшчаліся допісы і артыкулы пра Р. Барадуліна за маім прозвішчам: "Сустрэча ў Мётчы" (2.III.1998 г.), "Рыгору Барадуліну, чалавеку і паэту" (24.II.1995 г.), "Гадамі малюся дню" (25.II.2000 г.). Таксама матэрыялы пра Рыгора Іванавіча двойчы друкаваліся ў газеце "Звязда": "Старэйшы сябра" (25.II.2000 г.), "У неба пехатою..." (24.II.2015 г.). Не магу не выказаць свайго задавальнення ад грунтоўнага артыкула "Беларускі варажбіт", надрукаванага ў "ЛіМе" ад 26 лютага 2010 года маім сынам Янкам з нагоды 75-годдзя Рыгора Барадуліна. Як прызнаваўся паэт потым мне, артыкул гэты яму асабліва прыйшоўся да душы.

...Ідуць апошнія дні студзеня. Першы месяц гэтага года парадаваў мяне амаль дваццаціградуснымі маразамі, чырванагрудымі гілямі і вялікімі гурбамі белага снегу. Толькі напрыканцы месяца раптоўна пацяплела і ад снегу нічога не засталося. Усталявалася ледзь не сакавіцкае навор'е.

Устаю з-за музейнага стала, падыходжу да стэлажоў з барадулінскімі кнігамі. Рука мая цягнецца да зборніка ліставанняў і аўтографаў Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна "Дажыць да зялёнай травы...". Ён пабачыў свет у 2008 годзе, а Рыгор Іванавіч падпісаў мне яго так: *"Шчыраму беларусу, нястомнаму руплівцу Уладзіміру Лайкову – з нязьменнай пашанай і падзякай! Рыгор Барадулін, 29.XII.08"*. На старонцы 154-й у лісце да Васіля Быкава ад 14 кастрычніка 2000 года Рыгор Барадулін паведамляе: *"У нас спагадлівая восень. Ездзім з Алесем Камоцкім па Меншчыне. У самых далёкіх вёсках пытаюцца пра цябе, пра тваё самаадчуванне. Не пабаюся высакапарнасці, калі скажу, што народ (слова трохі абражанае, асабліва камуністамі) любіць і шануе цябе як свайго заступніка.*

*Былі мы ў славутай сваёй беларускасцю школе ў Мётчы. Вучні пісалі сачыненне па Купалавым "Кургане". Амаль усе правялі паралель між Гусляром і Васілём Быкавым. Гэта мяне расчуліла і ўсцешыла. Расце свядомая змена беларусаў.*

*Як ад'едзешся ад менскага тлуму, дык галавой свяжэеш і крыху падмалоджваешся душою..."*

Канечне, прыемна чытаць такія добрыя і шчырыя радкі. Але Рыгор Барадулін не раз дасылаў свае лісты да нас у Мётчу. Увесну 1997 года ў нашай школе ладзіўся фестываль фальклору "Мядоцкі край і яго таленты". Намі была падрыхтаваная кніга з аднайменным назовам, дзе змясцілі песні, вершы і танцы, гісторыю і радаводы Мядоцкага краю, шматлікія фотаздымкі і нават нотныя граматы. Сігнальны экземпляр кнігі я адвёз дадому паэту. Ужо праз два дні ў школу прыйшоў ліст.

*"Спадар Уладзімер!*

*Даўно ўжо я не меў гэткае асалоды ад даведачнай кніжкі. "Мядоцкі край і яго таленты" – гэта паэма ў лічбах, фактах, фотаабліччах, народных песнях, звычаях.*

*Гэта хваласпеў роднаму краю, нашай крынічнай крывіцкай мове, беларускім людзям, нашай вечнай, як неба, як вецер і вада, Беларусі.*

*Пакуль будуць руплівіца такія апантанцы, як Уладзімір Лайкоў і спадкаемцы ягоныя, пакуль будуць маці беларускія нараджаць такіх шчырабеларускіх дзяцей, як на Мядоччыне, жыць будзе Беларусь нашая.*

*Паклон Мядоцкаму краю,*
*Людзям яго нязломным,*
*Абсягам мядоцкім!*

*Дзякуй, вяльможны спадар Уладзімер, бацькам Вашым за Вас!*

*Жыве Беларусь!*

*Рыгор Барадулін, 1 чэрвеня, 1997 г., Менск".*

За 70 кіламетраў ад Мётчы, з вёскі Астроўкі Крупскага раёна, я тады прывёз на школьны фестываль сваіх маці і бацьку. Яны разам са шматлікімі прыхільнікамі і гасцямі фестывалю шчыра радаваліся нашаму святу. А калі бацькам я чытаў гэтыя словы Народнага паэта, яны не змаглі стрымаць шчырых слёз. Крыху пазней я быў у паэта, дзякаваў яму за словы-прызнанні і расказваў пра тыя шчаслівыя бацькоўскія слёзы, Рыгор Іванавіч слухаў і толькі ўсхвалявана, паўтараючыся, усё казаў, бы ў вершы: "Наведвайце бацькоў, пакуль жывыя..."

Памяць працягвае развязваць вузельчыкі. Гэтым разам адна за другой гартаюцца старонкі стасункаў Рыгора Іванавіча і майго сына Янкі. Дзевяцігадовым хлопчыкам пабачыў Янку паэт, калі прыязджаў да нас у Мётчу ў 1988 годзе першы раз. Вось як напіша Рыгор Барадулін да першай Янкавай кнігі "Акраец паветра":

*"А будучага паэта памятаю я школьнікам. І калі студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прынёс мне ніштаваты стусок вершаў, зірнулі на мяне знаёмыя вочы – задуманыя й сумныя. Яны адтуль, з далёкай зімы ў Мётчы, дзе прымаў мяне гасцінны дырэктар школы, шчыры беларус Уладзімір Лайкоў. Тады зразумеў я, адчуў, што сарамяжлівы замкнёны школьнік – будучы паэт. І не памыліўся: праўда, як заўсёды, на баку прыказкі. Якое дрэва, такі клін, які бацька, такі сын. У дадзеным выпадку гэта стасуецца да маладога на гады, але дарослага на ўмецтва паэта Янкі Лайкова.*

*Янка Лайкоў – натуральны беларускі паэт. Паэт ад Бога. Паэт ад прыроды.*

*Янка Лайкоў – птах з маладога паэтычнага выраю, з тога выраю, які быў узгадаваны новым часам, які паклікаsuccessfully спадзевам, які акрылены прагай Беларушчыны.*

*Янка Лайкоў – паэт пачуцця й роздуму. А гэта зарука поспеху"...*

Да гэтай прадмовы, што называецца "У паэта думае душа...", Рыгор Барадулін яшчэ прыкладае наступную запіску:

*"Дарагі Янка!*

*Шчыра прашу прабачыць, што не магу сам перадаць рукапіс, сказаць пра вершы. Абавязкова мушу быць на адным мерапрыемстве, як некалі казалі камуністы. Слова перад вершамі напісаў. На словах скажу болей, калі пабачымся. Пазваніце мне ў любы час. Чакаю!*

*Дзякуй – памаладзеў душой ад Вашых маладых і мудрых вершаў!*

*5.XII.97, дзядзька Рыгор".*

А напрыканцы 1999 года Рыгор Іванавіч напіша яшчэ адну прадмову да кнігі Янкі "Логіка пасткі", што на пачатку 2000 года была выдадзена ў бібліятэцы часопіса "Маладосць".

...Перадапошні студзеньскі дзень новага года. Сонечная і марозная сёлетняя зіма развітваецца: за вокнамі музея, у старым школьным садзе, як восенню ці ранняй вясной. Застаецца хіба толькі чакаць зялёнай травы. А ў гэты ж самы дзень, толькі 30 студзеня 1988 года, Рыгор Барадулін упершыню наведаў Мётчу і нашую школу. У вельмі марозны і снежны дзень. Помніцца, у актавай зале школы, што ўмясціла ў сябе больш за трыста школьнікаў, настаўнікаў і гасцей, Рыгор Іванавіч беражліва і з замілаваннем чытаў уласныя радкі:

Пад полазам белым,
з'інелай падковай
галінкай азяблаю,
крохне – хрусь,
як яблыка, як крамяное і хрупаткое,
слова марознае:
"Беларусь"...

Мой позірк у тыя хвіліны перахапіў заінтрыгаваныя і ўзрушаныя вочы майго дзевяцігадовага сына Янкі. Хто ведаў тады, што ён таксама спрычыніцца да шчырых і сяброўскіх стасункаў з Рыгорам Барадуліным.

Вельмі ўжо помніцца 11 сакавіка 1995 года. Паэт ахвотна пагадзіўся прыехаць на свой 60-гадовы юбілей у Мётчу. Школа нашая ў той дзень надта святочная: прыбраныя ў лепшае вучні, настаўнікі, бацькі, шматлікія госці з суседніх школ. Стэнды, святочныя выпускі газет, кветкі і кнігі, кнігі, кнігі... Помніцца: тады мне давялося напярэдадні аб'ехаць ці не ўсе барысаўскія, крупскія, бярэзінскія сельскія і гарадскія кнігарні і выкупіць больш за сто асобнікаў барадулінскіх кніг, каб пасля раздаць іх у якасці падарункаў вучням і настаўнікам. І напрыканцы сустрэчы здзіўлены Рыгор Барадулін больш за дзве гадзіны пісаў свае, як гэта ён любіў, разгорнутыя аўтографы іх шчаслівым уладальнікам.

У той вясновы дзень ён многа чытаў вершаў. Прагучаў тады з вуснаў паэта, на маю думку, лепшы верш, напісаны (ці, можа, дапісаны) ў Мётчы – "Мова беларуская":

Ускалыханы,
Узгадаваны,
Табой да скону
Закаханы
У кожны гук
Чароўны,
Крэўны!
Мая князёўна
І царэўна,
З табой я
Ў свяце,
Ў свеце,
Ў хаце.
Бо ты ў мяне
Адна,
Як маці!
Мова беларуская!

Таксама Рыгор Барадулін прывёз з сабою новую кнігу паэзіі "Евангелле ад мамы", толькі што выдадзеную ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Ён уручыў на школьным святе яе мне і агучыў свой вершаваны дарчы подпіс:

Спадару
Уладзіміру Лайкову –
Змагару
за нашу рану-раніцу.
Ён і любіць,
і галубіць мову,
Як матулю,
Як дачушку,
Як абраньніцу!

*Рыгор Барадулін*

*11.III.95.*

Пры кожнай сустрэчы з Рыгорам Іванавічам размоў толькі і было пра наш Мядоцкі край, яго дзяцей і людзей. Паэт цікавіўся ўсім у самых што ні ёсць падрабязнасцях. А ў апошнія гады яго хвалявала адна школьная надзвычайная, ледзь не містычная, гісторыя. Да 120-годдзя Якуба Коласа і Янкі Купалы былі намаляваныя амаль на памер сцяны партрэты класікаў і ніжэй напісаны іх паэтычныя радкі: "Мой родны кут, як ты мне мілы..." і "Мне сняцца сны аб Бе-

ларусі”. Па загадзе новай паслужлівай адміністрацыі школы фанера з паэтычнымі радкамі была абрэзаная і прыбітая на падлогу кабінета рускай мовы, а потым і зафарбаваная. Але праходзіла некалькі тыдняў і купалаўскія радкі вызваляліся (вытоптваліся) ад фарбы і свабодна чыталіся: “Мне сняцца сны аб Беларусі”. Тады яны зноў зафарбоўваліся. Ды праз пэўны прамежак часу радкі зноў вызваляліся. Рыгор Іванавіч, слухаючы мой расповед пра гэта, і ўсміхаўся, і дзіву даваўся. Па-першае, ён абураўся той самай школьнай адміністрацыяй. Па-другое, у тым, што адбывалася, бачыў знак неба. І таму пры ўсіх нашых новых сустрэчах пытаўся: “А як там словы Купалы?” На што я адказваў: “Як заўжды, нязводныя!”

Рыгор Барадулін узгадаваны Вушаччынай, дзівосным азёрным краем і адметнай партызанскай зямлёй. І хоць “...кожны мае сваю Вушаччыну...”, але ніхто іншы так шмат, як Рыгор Барадулін, не выказаў падзякі матчынай мове, свайму роднаму і міламу кутку Беларусі. Зрэшты, як і ўсёй нашай Беларусі.

Перагортваеш старонкі ягоных кніжак, сабраных на доўгім жыццёвым гасцінцы, і жывеш заўсёды чаканнем адкрыцця, радасці і здзіўлення. Усё свядомае жыццё цешуся творамі паэта. Ужо ў студэнцкія гады, калі вывучаў беларускую філалогію ва ўніверсітэце, у аснову ўсіх работ клаліся вершы і паэмы Рыгора Барадуліна. І па ўсім жыцці ў настаўніцкай прафесіі заўсёды быў побач паэт і яго творы. Ды так, што стаў я прыдумваць сабе, быццам ведаю дастаткова паэта. Але толькі тады, калі пабываў на радзіме Рыгора Іванавіча некалькі разоў, урэшце зразумеў, што многія вершы, многія творы паэта набываюць іншае адценне, больш зразумелую афарбоўку.

...Асабліва што тычылася маці паэта, Акуліны Андрэеўны, яе паэтычнага вобраза. Рыгор Барадулін прызнаваўся:

Я да скону заручаны з той старанoй,
Дзе мама, як зорка,
Стаіць нада мною...

Барадулін заўсёды, а асабліва на дарагой Вушаччыне, шмат хадзіў пешшу. Вось і ў той помны дзень вёў Рыгор Іванавіч на вушацкія могілкі да месца вечнага спачыну Акуліны Андрэеўны мяне, маю спадарожніцу жыцця Любоў Фёдараўну і нашага сына Янку. Да асаблівага хвалявання і надзвычайнай узрушанасці далучалася тое “святое штосьці”, што заўсёды з’яўлялася творчай дамінантай паэта. Калі потым аддавалі даніну павагі і любові маці паэта, то вобраз Акуліны Андрэеўны ў нашым уяўленні ўсё больш набываў зямное аблічча. Расплываліся ў тумане вечнасці ідэальныя значэнні вобраза маці паэта, а ўсё больш і больш пачыналі бачыцца зямныя, рэальныя рысы вушацкай Акуліны Андрэеўны, той, якую ўжо сёння мы добра ўяўляем па кнізе ліставанняў “Паслаў бы табе душу...”

А Рыгор Іванавіч тым часам шчыраваў ва ўнутранай абгародцы магілы, дакранаўся вуснамі да гранітнага барэльефа выявы маці і расказваў пра Уладзіміра Лабанка, аднаго з тагачасных кіраўнікоў дзяржавы, які садзейнічаў у набыцці і вырабе надмагільнага помніка. А ў памяці ўсплывалі барадулінскія радкі:

Душа прагоркне ў палыне.
Сон абначуе за барамі.
А голас мамін будзе мне
Гучаць,
Нібы малітва ў храме...
Яшчэ пярун сябе кляне,
І рана зачыняцца браме.
А голас мамін ува мне
Гучыць, як у забытым храме.

За больш чым сорак гадоў сяброўства з Рыгорам Іванавічам (у студэнцкія гады – нясмелага, пазней – вельмі спагадлівага і ўважлівага, а ў апошнія – яшчэ амаль бацькоўскага) надарыліся дзясяткі сустрэч і многія сотні тэлефанаванняў. То былі заўсёды самыя лепшыя хвіліны, гадзіны і дні майго жыцця. Ад тых сустрэч і размоў цяплела мая душа, добра і ўзнёсла думалася і тварылася. Таксама, як і ад сустрэч і размоў з яго мілай, добрай і мудрай жонкай Валянцінай Міхайлаўнай.

Рыгор Барадулін заўсёды здзіўляў сваім вечным аптымізмам, нясканчонымі цікавымі і займальнымі, спрэс аздобленымі гумарам, гісторыямі са свайго ўнікальнага жыцця. І ён жа радаваў сваім добрым позіркам, мудрай усмешкай, дасціпным народным словам. Паэзіяй і жыццём Рыгора Барадуліна трэба было загрузіцца. І я вельмі шчаслівы ад таго, што мне зрабіць на гэтым свеце тое змаглося.

Божа! Сотні такіх імгненняў, сустрэч, тэлефанаванняў! І ніколі-ніколі думаць нават не хацелася, што аднойчы больш не пачуеш родны, блізкі, такі свой голас!

Вестка пра смерць Рыгора Іванавіча з'явілася нечакана. У нядзелю, 2 сакавіка, а сёмай гадзіне вечара я прысеў да манітора кампутара. Як заўжды, на пачатку ўзнікла мая экранная застаўка, дзе Рыгор Барадулін у вышыванцы за сталом свайго хатняга рабочага кабінета. Адкрыў сайт "Нашай Нівы". А там... паведамленне пра смерць паэта...

Не хочацца верыць! Бо яшчэ толькі пяць дзён таму, 24 лютага 2014 года, я віншаваў Рыгора Іванавіча з 79-годдзем. Ён жыва цікавіўся справамі Янкі, спадарыні Любы, іншых нашых сямейнікаў. І гаварыў разборліва. Бо за два месяцы да гэтага, 29 снежня 2013 года, калі мы з Любай былі ў гасцях у Рыгора Іванавіча і Валянціны Міхайлаўны, ён выглядаў зусім слабым. Але ў той жа час не пакідаў свайго барадулінскага гумару. Усё некалькі разоў перамазваў "салёнае" чатырохрадкоўе і пытаўся, ці запомнілі. Ды куды там! Бо не здагадаліся запісаць, а потым забылі. А яшчэ колькі разоў паэт паўтарыў мною ўпершыню пачутае з яго вуснаў: "Нічагусенькі". Праўда, слова гэта я падаю ў перакладзе з "салёнай" яго інтэрпрэтацыі. Прайшло мо больш за дзве гадзіны, мы зазбіраліся з гасцей, пакідаючы толькі студэнта-валанцёра, медыка, які па ўласнай ахвоце і са згоды паэта вось ужо колькі месяцаў дапамагаў Рыгору Іванавічу аблегчыць хваробы. Ды тут пачуўся званок, і ў кватэру Рыгора Барадуліна ўвайшлі Уладзімір Някляеў з жонкай Вольгай і Сяргей Шапран.

Было потым невялікае застолле, з'явіліся знакамітыя быкаўскія біклажка са шкалікам. І яшчэ мы фатаграфаваліся. Ужо сёння ўспамінаецца ўзніклае тады прадчуванне нечага нядобрага ў хуткай будучыні. Аднак благая думка неўзабаве згасла і ўсім па-ранейшаму было добра. Праз 63 дні Рыгора Барадуліна не стала.

Але застаецца памяць, удзячнасць, словы, радкі, вершы, паэмы, артыкулы, кнігі, лісты і аўтографы. Застаецца непарыўная повязь з паэтам, чалавекам, старэйшым сябрам. Ён усяго сябе аддаў любімай Беларусі і вярнуўся ў родную Вушаччыну да сваёй дарагой маці Акуліны Андрэеўны. Назаўжды!

Толькі "ў крынічнай журбе журыцца беларуская мова" ды "галосіць вясна перапёлкаю шэрай". Пастаўлена апошняя "залатая кропка стомленага шчасця". А ў нашай мядоцкай старонцы, у нашых азяблых сэрцах "рупіцца юны год, год без цябе другі..."



Святлана Цыбакова



...у памяці паэта маці застаецца вечнай працаўніцай...

# “І тагды я ўзняў сляпыя вочы...”

## *Сюжэт пра аблуднага сына ў творчасці Анатоля Сыса*

У творчасці Анатоля Сыса архетыпічны сюжэт пра аблуднага сына набыў разгорнутае, семантычна і эмацыянальна насычанае індывідуальна-аўтарскае пераўтварэнне. Найбольш поўна і паслядоўна гэты сюжэт адлюстраваны ў вершы «Блудны сын», які з’яўляецца яскравым і выразным мастацкім аўтапартрэтам, створаным паэтам праз самаідэнтыфікацыю з псіхалагічным комплексам і паводзінамі, увасобленымі ў вядомым універсальным вобразе-тыпе.

Анатолем Сысам перададзена ўнутраная драма і дысгармонія лірычнага героя-пакутніка, уласцівыя яму супрацьлеглыя пачуцці: трывога, разгубленасць, самота і адначасова мары аб новым жыцці і адраджэнні, душэўнае абуджэнне ад прадчування хуткага і непазбежнага спаткання з роднымі мясцінамі, з самым блізкім і дарагім чалавекам – маці.

Усведамленне сябе «аблудным сынам», у якога «ў сэрцы, як нож, – жарства, / а ў зрэнках – бацькоў вярста» [1, с. 24], выказана ў вершы «Сон». Адзінокі і непрыкаяны, лірычны герой

«недзе ў тлумным Мінску» падчас бяссоніцы бачыць у сваіх мроях маці і бацьку, родную хату, мілыя яго сэрцу з пары дзяцінства рэчы: драўляныя цацкі, лато, стары лемантар. Мройныя рэчы-цацкі набываюць і ў гэтым вершы, і ў кантэксце іншых твораў паэта («Хворы хлопчык з цацкай», «Хлопчык з пацеркамі») ролю атрыбутаў-сімвалаў маленства, страчанай першароднай душэўнай і фізічнай чысціні. Нявіннасць і безабароннасць, уласцівыя толькі дзіцяці, увасоблены ў вобразе сумнага хлопчыка, створанага А. Сысам у вершы «Хворы хлопчык з цацкай»:

Хворы хлопчык з цацкай лёд на шыбе ліжа,
да шчакі прымерзла сіняя сляза.
Гэткі ціхі хлопчык, гэткі хлопчык рыжы,
быццам я ці брат мой дваццаць год назад.
Чаму хмурны, хлопчык? Чаму сумны, хлопчык?
Рана табе думу асвятляць слязой.
Адвядзі на цацку, калі ласка, вочы –
лёд расце на шыбе, востры, як лязо [1, с. 14].

Пачуццямі пяшчоты і замілавання прасякнуты таксама вершы «Пастушок» і «Хлопчык з пацеркамі», дзе аўтар адлюстраваў успаміны і ўражанні, звязаныя з гадамі вясковага маленства. Вобраз дзіцячай радзімы пераўтвараецца ў паэзіі А. Сыса ў міфалагему страчанага раю, якая заключае ў сабе і адметныя рысы нацыянальнага светабачання.

Напрыклад, у міфапаэтычным па сваёй аснове вершы «Рай» знайшлі адлюстраванне характэрныя для ментальнага сусвету продкаў беларусаў-палешукоў традыцыйныя язычніцка-містычныя уяўленні і погляды, пра якія А. Сыс, магчыма, ведаў з дзяцінства. У метафарычна-спавядальным вершы «Радзіма», паэт, выказваючы сваю душэўную горыч і смутак, называе сябе валагуцам, «які страціў радзіму» [1, с. 99].

Вобраз вясковага маленства ў якасці паэтычнай індывідуальна-аўтарскай праекцыі архетыпічнай міфалагемы страчанага першабытнага шчасця на імпліцытным узроўні прысутнічае ў вершы «Блудны сын», якое варта лічыць адным з праграмных у творчасці А. Сыса. У іншасказальнай форме паэтам перададзена патаемнае жаданне стаць маленькім, пастаянна адчуваць у адносінах да сябе мацярынскую любоў і пяшчоту. Лірычны герой звяртаецца да матулі, каб яна вышыла яго на сваёй падушцы. Менавіта з гэтай просьбы і пачынаецца другая частка верша:

Мама,
вышый мяне на падушцы сваёй,
памякчэюць грачыныя пер'і,
я прыснюся табе – еду зноўку дамоў,
да зямлі адтуліўшы бязвер'е [1, с. 94].

Першы і другі радкі прыведзенага вышэй фрагмента твора прадстаўляюць сабой дакладную цытату з верша Ф.Г. Лоркі, які ў рускамоўным перакладзе завецца «Глупая песня» і з'яўляецца часткай нізкі «Песні для дзяцей» з кнігі іспанскага паэта «Песні». «Чужое слова», уключанае А. Сысам у мастацкую тканіну свайго верша, становіцца арганічным кампанентам яго кантэксту, садзейнічае нараджэнню новага, больш складанага і глыбокага метафарычнага сэнсу. У «Глупой песне» Ф.Г. Лоркі хлопчык-сын у адказ на сваю просьбу да маці чуе:

Сейчас.
Это будет намного теплей [2, с. 138].

Вышыты на падушцы партрэт, пра які марыць лірычны герой, блудны сын, набывае для А. Сыса магічны сэнс, паколькі пры дапамозе «двайніка», створанага

мацярынскімі рукамі, ён верыць у наладжванне незалежнай ад знешніх абставінаў, непарушнай пазачасавай духоўнай сувязі з маці праз сон. Міні-вобразы падушкі і сну ўносяць у кантэкст верша новыя канататыўныя сэнсы, што дазваляе больш глыбока пранікнуць у псіхалагічны стан лірычнага героя, убачыць яго душэўную стомленасць, імкненне да спакою, амаль дзіцячую датклівасць і безабароннасць.

Сон у мастацкай рэчаіснасці твора – гэта тая страчаная каштоўнасць бязвіннай пары маленства, якую герой спадзяецца знайсці ў вясковай цішы, за сценамі роднай хаты. Толькі тут і можна лёгка заснуць пад песню, якую маці, вышываючы ручнік, спявае зацiхлым у зашыйку мышам:

У зашыйку зацiхлi мышы,
а на спiцах стары павук
павуцiнкаю ружу вышыў,
падсачыўшы ўзор у рук.
..............................
Маці крыжыкам вышывае,
павуцінку павук пляце.
маці песню мышам спявае
пра дарослых сваіх дзяцей [1, с. 93].

Праз шэраг памятных бытавых прыкметаў, якія ў паэтычнай карціне, адлюстраванай у творы, пераўтвараюцца ў выразныя вобразы-сімвалы, А. Сыс перадае жыватворную атмасферу роднай хаты, якая ўвабрала ў сябе пазітыўную энэргетыку жанчыны-маці, добрай гаспадыні, яе душэўны свет, дабрыню, пяшчоту. Невыпадкова зварот да маці ў апошняй страфе верша ўключае словы «ты свяці, ты свяці», якія ў дадзеным выпадку маюць сімвалічные сэнс і ў пэўнай ступені малітоўнае гучанне:

Ты спявай, ты спявай,
ты свяці, ты свяці,
рассцялі ручнікі, як сцяжыны,
можа, здарыцца так, я заблудну ў жыцці,
тагды выйду па іх да Айчыны [1, с. 94].

Спецыфіка архетыпічнай сутнасці вобраза маці, створанага паэтам, набывае неадназначны, разнапланавы характар. З аднаго боку, гэты вобраз узыходзіць да архетыпа маці, які «выражае вечную і бессмяротную несвядомую стыхію» [3, с. 4]. Адсюль, магчыма, адлюстраванае А. Сысам імкненне беспярапынна клапатлівай матулі даць любімаму сыну спакой, засцерагчы яго, падараваць ціхамірнасць і здаровы сон, унутраную раўнавагу. У памяці паэта маці застаецца вечнай працаўніцай, якая ў клопатах аб іншых сама нібыта і не спіць зусім (верш «Мой дзед спаць укладваў...»):

а маці маю я ніколі не бачыў, каб спала, –
па пёрку, па два
ўсё збірае мне пух на падушку [1, с. 18].

З другога боку, вобраз маці суадносіцца ў творчасці А. Сыса з архетыпам мудрай старой. Яе зямная і праведная мудрасць – вынік самаахвярнага жыцця, у якім не заставалася ніякага месца для эгаістычнага задавальнення. У звароце да каханага сына, які згубіў ключы ад асабістага зямнога шчасця, маці выказвае не толькі глыбокі душэўны боль, трывогу і нядобрыя прадчуванні, але і вышэйшую боскую мудрасць, той вялікі маральны закон, ад якога немагчыма пазбавіцца ніводнаму чалавеку (верш «На твары шчацінне, як пожня жытнёвая...»):

На твары шчацінне, як пожня жытнёвая,
вочы – праталіны мутнай вады...

– Мілы сынок мой, пачні жыццё новае,
грэх блазнаваць у Хрыстовы гады [1, с. 268].

Нягледзячы на адстойванне асабістай пазіцыі, упэўненасці ў містычнай абранасці «музамі», паэт іншай, антыэкстацічнай, «няхмельнай» часцінкай сваёй душы прымае са словамі маці гэтую горкую і шчырую праўду:

Хто ж вінаваты, што аж з нараджэння
з мёдам смакчу я з цябе малако?
Ведаю, сохне паціху карэнне,
хоць і жывеш над Вялікай Ракой [1, с. 268].

У вершы «Блудны сын», ідэйна-мастацкі сэнс якога раскрываецца ў значна большай ступені глыбей у сувязі з яго аналізам у міфапаэтычным кантэксце іншых твораў Анатоля Сыса, дзе ўвасоблена архетыпіка маці, мудрай старой, і сюжэта пра аблуднага сына, вобраз маці нябачнымі ніцямі злучаны з вобразам Айчыны, набываючы суцэльную з ім канцэптуальную глыбіню і значнасць.

На гэтую рысу звярнуў увагу І.Ф. Штэйнер, даследчык творчасці А. Сыса, які ў сваім эсэ-творчым партрэце адзначыў: «Агульначалавечая, надіндывідуальная, надхарактэрная, надчасавая, наднацыянальная аснова прыпавесці, парабалы набывае рэальнае, глыбока інтымнае беларускае гучанне. Менавіта таму так проста і натуральна (хаця падобныя спробы рабіліся на працягу ўсёй гісторыі беларускай паэзіі), прыгожа і ўзнёсла паядналіся самаробным ручнікам вобразы самых дарагіх істот для паэта – Маці і Айчыны» [4, с. 18–19].

У творчасці А. Сыса, асабліва ў вершах «Неапаленая купіна», «Радзіма пачынаецца з жанчыны...», «Дарога полем – да маці...», знайшло своеасаблівае паэтычнае пераўтварэнне, характэрнае для традыцыйнай народнай культуры сакралізаванае збліжэнне жанчыны-маці, Радзімы і зямной стыхіі, якая здаўна суадносілася з жаночай універсаліяй быцця, таямніцамі нараджэння і смерці.

«І – безумоўна ж – уражвае сваёй аголенай праўдай сэрца яго апошні па сутнасці цыкл вершаў «Песні пра сына», у якім паэт вызначыў сэнс свайго сыноўства ў Маці-Айчыне і сваю ўласную мастацкую спадчыннасць, як працяг гэтага сыноўства», – лічыць Л.М. Галубовіч [5, с. 18]. У двух важнейшых для беларускай літаратуры вобразах маці і Айчыны (Радзімы), якія дамінуюць у паэзіі А. Сыса, сканцэнтраваны яе мастацка-эстэтычны і ідэйны змест, увасоблена метафізічная сутнасць нацыянальнага лёсу пошукаў страчанага раю, спрадвечных духоўных каранёў і незалежных вытокаў, адной з ілюстрацый якой паўстае «міфалагічны сюжэт-архетып пра аблуднага сына» [6, с. 3], найбольш па-мастацку поўна разгорнуты паэтам у вершы «Блудны сын».

Магчыма, менавіта таму, І.В. Жук, вылучаючы блуднага сына А. Сыса ў якасці пэўнай паэтычнай формулы, бачыць у ёй адну з «аўтарскіх сігнатур паводле матыву шляху» [7, с. 156] у беларускай літаратуры. На думку даследчыка, «у адносінах да ўніверсальнасці матыву шляху ў кожнага значнага творцы складваецца свая індывідуальная паэтыка» [7, с. 156].

«Калі прыгледзецца да мастацкай практыкі беларускай літаратуры, то апазнавальныя прыкметы рэалізацыі матыву шляху, выражаныя аўтарскім словам, метафарай ці паэтычнай формулай, могуць быць уяўнены прыкладана так: Колас, як мы і казалі, – “шырокі прастор”; Купала – “паязджане”; В. Ластоўскі – “лабірынт”; К. Чорны – “пошукі будучыні”; М. Танк – “дарога, закалыханая жытам”; А. Куляшоў – “паўмільярдны кіламетр”; А. Разанаў – “шлях – 360”; А. Сыс – блудны сын...» [7, с. 156].

Са слова «Маці» тэкст верша «Блудны сын» пачынаецца, а слова, якім ён завяршаецца, – «Айчына». Першая і апошняя фразы твора поруч з яго загалоўкам і

дамінантнымі словамі прадстаўляюць так званыя моцныя пазіцыі, якія з'яўляюцца «сэнсавым стрыжанем верша, дазваляюць пранікнуць у тэму і ідэю тэкста» [8, с. 83]. Гэтыя першарадныя па сваёй значнасці лексічныя адзінкі складаюць своеасаблівую індывідуальна-аўтарскую формулу-трыяду («Маці – Блудны сын – Айчына»), у якой паэтам зашыфраваны асабістыя празрэнні, вопыт унутранага спасціжэння надчасавай сутнасці архетыпічнага сюжэта біблейскай прыпавесці. Тэкст верша «Блудны сын» з'яўляецца асноўнай, цэнтральнай часткай кантэкста творчасці Анатоля Сыса, дзе дадзены сюжэт атрымаў разгорнутае мастацкае пераўтварэнне.

У ролі свайго роду галоўных «скрэпаў» у злучэнні розных этапаў гісторыі вяртання лірычнага героя, блуднага сына, выступаюць творы А. Сыса «Сон» і «На твары шчацінне, як пожня жытнёвая...». Асноўныя пачуцці, выяўленыя ў вершы «Сон», – самота, туга па родным кутку, па маці і бацьку. Топас «тлумны Мінск» паўстае як чужына, варожая для лірычнага героя прастора, адкуль ён праз начныя, бяссонныя мроі пераносіцца ў чысты і прыгожы родны сусвет «птушынай айчыны» [1, с. 31].

У вершы «Блудны сын» увасабленне біблейска-прытчавай версіі архетыпічнай міфалагемы вяртання становіцца галоўным сюжэтаўтваральным кампанентам і кампазіцыйнай асновай твора. Паэт перадае эмацыйны стан героя, яго сумненне і трывогу:

Блудны сын, блудны сын –
разам з сэрцам маім
лямантуюць на рэйках колы.
Блудны сын, блудны сын, блудны сын –
словы, быццам куслівыя пчолы.
Мама, мама, што мне парабіці з сабой,
калі позна дадому прыеду,
калі ў хату зайду – анямелы сабор –
без вяснянак, без ляскання бердаў? [1, с. 94]

Верш «На твары шчацінне, як пожня жытнёвая...» заключае ў сабе «развязку» гісторыі блуднага сына ў творчасці Анатоля Сыса. Праз некалькі ёмістых і выразных метафарычных штрыхоў паэт стварае знешні партрэт лірычнага героя, які адлюстроўвае яго ўнутраную, эмацыйна-душэўную спустошанасць. У адрозненне ад фінала біблейскай прыпавесці, дзе перададзена пакаянне і духоўнае змяненне-ачышчэнне грэшніка, лірычны герой А. Сыса працягвае «блазнаваць у Хрыстовы гады». Яго разгорнуты адказ маці, які займае большую частку тэкста, – гэта зусім не пакаянная споведзь, а ў большай ступені сцвярджэнне, нават рамантычна-экзальтаваная дэкларацыя сваёй паэтычнай абранасці, незвычайнасці творчага дару і нічым не абмежаванай свабоды яго ап'янляльнай растраты:

– Мама, я рады б –
як пчолы на ліпень,
музы лятуць на хмяльнога мяне.
Жыць без паэзіі? Гэта ж пагібель!
Жыць без віна? Гэта ж смерць удвайне.
..................................................
Ну і няхай музам колкая пожня,
горкія вусны мае, дык няхай.
Мама, такога народзіць не кожная,
мама,
не перажывай! [1, с. 268]

Такія, напрыклад, вершы, як «Я зжэр бы свой народ...», «Спаўзаючы з церня...», «Я п'ю адзін чырвонае віно...», аб'ядноўвае міфапаэтычная сімволіка віна і крыві,

уласцівая архаічнай рэлігійна-культавай традыцыі чалавецтва іх сакралізацыя і містычнае атаясамліванне [9].

Іншасказальнае выказванне «блазнаваць у Хрыстовы гады» таму ў дадзеным выпадку, хутчэй за ўсё, вызначае не сапраўдны ўзрост лірычнага героя, а прысутнічае ў тэксце ў якасці мастацкай аналогіі-шыфру яго самаахвярна-пакутніцкай місіі праз творчасць. «Блазнаванне» лірычнага героя – адна з версій адлюстравання ў вершы міфалагем Дыяніса і боскай ахвяры, да якіх узыходзіць і ўпадабаны А. Сысам матыў слепаты, увасоблены ў вобразе самотнага невідушчага паэта-пакутніка. Так, у вершы «Самотны» слепата аўтапсіхалагічнага героя, надзеленага рысамі блуднага сына, – гэта сімвалічнае выяўленне ўнутранай болі, жаху перад адзінотай, цёмнымі, разбуральнымі і рацыянальна неспасціжнымі сіламі быцця, перад самім сабой і той душэўнай цемрай, якая адкрываецца ўнутранаму зроку ў іншых, у «сябрах» і ў «прыгожых каханках» [1, с. 230], паўстае іх сапраўднай сутнасцю:

І тагды
я ўзняў сляпыя вочы,
каб яны жахнуліся бяльма,
беглі ад яго
              у свет,
                    упрочкі,
бо ў вярыгах ісціны няма.
І тагды
адбіткі сваіх бельмаў
я ўбачыў і на іх вачох.
“Парням грустно?..” –
“Хлопцам сумна вельмі...” –
я хацеў сказаць, але не змог... [1, с. 231–232]

Як трапна заўважыў М. Скобла, «па балючасці Сысава паэзія ў сучаснай айчыннай літаратуры не мае сабе роўных. Кроў, Крыж, Сляза, Атрута, Агонь (Агмень), Вярыгі – выспавядальная, болевая лексіка Сыса. Вобразы ягоныя (асабліва ў вершах апошніх гадоў...) жахаюць...» [10, с. 6]

У вершы «На твары шчацінне, як пожня жытнёвая...» адбываецца нечаканая метамарфоза лірычнага героя. Блудны сын, які, здаецца, павінен пакаяцца ў грахах, раптоўна пераўтвараецца ў *«выклятага нацыянальнага паэта»* [5, с. 11]. І нават у апошніх словах суцяшэння, сказаных маці, адначасова са шчырай сыноўняй пяшчотай і падзякай адчуваецца тым не менш рамантычнае свавольства і гонар, якія зусім не сумяшчаюцца з хрысціянскімі пачуццямі пакоры і сапраўднага раскаяння.

Унутраныя антыноміі паміж імкненнем да пакаяння і стыхійнымі, ірацыянальнымі сіламі сваёй душы, хрысціянскім і язычніцка-экстатычным пачаткамі ў ёй, засталіся для паэта невырашанымі.

У адным з інтэрв’ю Анатоль Сыс наступным чынам ахарактарызаваў сябе: «Я веру ў Бога. Але ў царкву хаджу рэдка, гады ў рады. Калі вельмі-вельмі цяжка на душы. Дык калі прыцісне – я бягу ў царкву. Было такое, што прыбягаю й на калені станаўлюся... Але лягчэй мне ўсё адно не робіцца. Мабыць, я крэпка зграшыў у гэтым жыцці...» [11, с. 420]

Архетыпічны сюжэт пра аблуднага сына набыў, такім чынам, неадназначнае, загадкава-супярэчлівае, у пэўнай ступені антыхрысціянскае гучанне. У яго пераўтварэнні выяўляецца сувязь з «чарамі Дыяніса» [12, с. 452], з міфалагемамі боскага экстазу і ахвяры. Найбольш поўна і непасрэдна гэты сюжэт разгорнуты ў вершах «Сон», «Блудны сын», «На твары шчацінне, як пожня жытнёвая...», якія складаюць адзін з галоўных ідэйна-тэматычных кантэкстуальных накірункаў творчасці паэта.

Літаратура:

1. Сыс, А. Лён: выбраныя творы / Анатоль Сыс. – Мінск: Кнігазбор, 2006. – 436 с.
2. Гарсиа Лорка Ф. Избранные произведения: В 2 т. / Ф. Гарсиа Лорка / редкол. А. Минин, Л. Осповат, Г. Степанов и др.; Сост. и примеч. Л. Осповата; Предисл. Н. Малиновской. – М.: Худож. лит., 1986. – Т. 1. – 479 с.
3. Мелетинский, Е.М. О литературных архетипах / Е.М. Мелетинский. – М.: Российский гуманитарный университет, 1994. – 136 с.
4. Штэйнер, І.Ф. «Свае руны мне не вышыць...»: спадчына Анатоля Сыса / Іван Штэйнер. – Мінск: Кнігазбор, 2008. – 40 с.
5. Галубовіч, Л.М. «Як шаравая маланка» (Нарыс жыцця і творчасці паэта Анатоля Сыса) / Л.М. Галубовіч // Галубовіч, Л.М. Сыс і кулуары: літаратурна-крытычныя эсэ / Л.М. Галубовіч. – Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. – С. 3–24.
6. Радь, Э.А. История «блудного сына» в русской литературе: модификации архетипического сюжета в движении эпох: монография / Э.А. Радь. – М.: ФЛИНТА: Наука, 2014. – 276 с.
7. Жук, І.В. Матыў шляху ў беларускай літаратуры / І.В. Жук // Матыўная прастора беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя: манаграфія / І.В. Жук [і інш.] ; пад агул. рэд. І.В. Жука. – Гродна: ГрДУ, 2009. – С. 151–212.
8. Маслова, В.А. Поэтический текст как объект филологического анализа / В.А. Маслова. – Минск: Белорусский республиканский фонд фундаментальных исследований, 1999. – 208 с.
9. Мифы народов мира. Энциклопедия: В 2 т. / Гл. ред. С.А. Токарев. – М.: Сов. энциклопедия, 1991. – Т. 1. – 671 с.
10. Скобла, М. Сэрцаграмы Сыса / М. Скобла // Сыс, А. Лён: выбраныя творы / Анатоль Сыс. – Мінск: Кнігазбор, 2006. – С. 3–10.
11. «Я яшчэ не попел і не прысак...» // Сыс, А. Лён: выбраныя творы / Анатоль Сыс. – Мінск: Кнігазбор, 2006. – С. 415–420.
12. Ницше, Ф. Рождение трагедии из духа музыки / Ф. Ницше // Так говорил Заратустра. К генеалогии морали. Рождение трагедии. Воля к власти. Посмертные афоризмы: Пер. с нем. / Ф. Ницше. – Мн.: Харвест, 2003. – С. 447–572.

Анатоль Трафімчык



...Крапіва нібыта выбіваецца са свайго сацыяльнага і культурнага кантэксту...

# Заўсёды актуальны Крапіва

***Рэцэнзія на кнігу Сцяпана Лаўшука***

***Сцяпан Лаўшук. Праз церніі да брамы неўміручасці: Кандрат Крапіва і беларуская драматургія. – Мінск: Беларуская навука, 2016. – 267 с.***

Да ліку першага шэрагу беларускіх літаратурных класікаў адносіцца Кандрат Крапіва. Імя вядомае кожнаму са школьнай лавы нароўні з трыядай "Колас – Купала – Багдановіч". Вядомае перадусім дзякуючы байкам. Каму з нас не помняцца радкі пра барана?

Тым не менш Кандрат Крапіва быў не толькі байкапісцам. Яго талент раскрыўся ў розных пісьменніцкіх іпастасях. Сусветную вядомасць ці як мінімум усесаюзную (было такое азначэнне пры СССР) славу К. Крапіве прынесла яго драматургічная дзейнасць. Камедыя "Хто смяецца апошнім" не проста прагучала – прагрымела – па ўсёй Краіне Саветаў. Твор для кантэксту 1930-х гг. надзвычай смелы. Сёння з'яўленне названай п'есы падаецца фенаменальным, але яшчэ больш уражвае лёс аўтара. Як не пабаяўся? Як дапусцілі?




Не ўсё па сённяшні дзень асэнсавана – датычна як таго часу ў цэлым, так і паасобных яго прадстаўнікоў. Той жа К. Крапіва нібыта выбіваецца са свайго сацыяльнага і культурнага кантэксту. Але гэта – пры павярхоўным позірку. Хоць, канечне, у яркасці (на фоне свайго часу) творцу не адмовіць.

Новае даследаванне – вядомага літаратуразнаўцы, члена-карэспандэнта НАН Беларусі Сцяпана Лаўшука – "Праз церніі да брамы неўміручасці" ўпісвае неардынарную постаць К. Крапівы ў парадыгму літаратурнага працэсу (пра гэта гаворыць і падзагаловак манаграфіі – "Кандрат Крапіва і беларуская драматургія") і пры гэтым вытлумачвае талент пісьменніка праз прызму складанасцей перыяду, які пазней быў ахрышчаны "сталінізмам".

Пасля вельмі лірычнага, душэўнага (але не ў шкоду навуковасці думкі) "Уступу" аўтар выдання адразу вылучае тэзу пра заканамернасць прыходу К. Крапівы ў драматургію (с. 24). Першы раздзел прысвечаны асвятленню дэтэрмінізму азначанай навуковай гіпотэзы. С. Лаўшук у сваім аналізе станаўлення К. Крапівы як драматурга звяртаецца і да фактараў сацыяльных, у тым ліку і ў першую чаргу – літаратурных, і да чыннікаў асабістага жыцця на той час ужо славутага байкапісца. Прычым, як тлумачыць літаратуразнавец, сама прырода баек і п'ес у нечым блізкая, нават супадае некаторымі гранямі, напрыклад, пры стварэнні мастацкіх характараў (с. 22-23).

С. Лаўшук пры ўсё відавочнай любові да свайго героя не мінае ўвагаю слабых бакоў яго творчасці. Так, разбіраючы першую п'есу К. Крапівы "Канец дружбы" (1934), адзначаюцца і пралікі пры яе пастаноўцы, і недапрацоўкі аўтара (с. 27-47). Пры гэтым даследчык не здраджвае прынцыпу гістарызму і дае магчымасць паглядзець на твор як праз прызму тагачасся, так і з адлегласці ў восем дзясяткаў гадоў: "...Доля віны кладзецца і на драматурга, якому варта было б паклапаціцца, каб новая змястоўнасць атрымала хоць у нечым новую форму, бо на першы погляд можа падацца, што "Канец дружбы" нічым істотна не адрозніваецца ад іншых п'ес беларускіх аўтараў таго часу. <...> Як бы там ні было, а першая драма К. Крапівы тэатрам была прачытана павярхоўна, без увагі пастаноўшчыкаў засталася абвостраная зацікаўленасць аўтара ўнутраным жыццём персанажаў, якая дапамагала яму пазбегнуць прымітыўнага ды скрозь распаўсюджанага ў той час падзелу вобразаў на адмоўных і станоўчых. Яны ў п'есе выглядаюць жывымі людзьмі, якія характарызуюцца супярэчлівым адзінствам, разнастайным перапляценнем дабра і зла, мяккасці і жорсткасці, яснасці і заблытанасці" (с. 29-30). С. Лаўшук пры прачытанні п'ес шукае (і знаходзіць!) тое карыснае, што можа быць адкрыта ў іх для дня сённяшняга. Натуральна, толькі гэтак трэба абыходзіцца з класікамі.

Такія падыходы, па-навуковаму асцярожныя і па-жыццёваму мудрыя, прымяняюцца і пры далейшым разглядзе творчага шляху К. Крапівы. І наўрад ці можна папракнуць даследчыка за прымяненне ў навуковым аналізе інтуітывісцкіх элементаў, такіх, як напрыклад: "Час быў настолькі складаны і супярэчлівы, што драматург за лепшае палічыў даверыцца ўласным вачам, сэрцу, сумленню. Не ўсё, вядома, і яму бачылася ў сапраўдным святле, але ўсё, пра што ён пісаў, пісаў шчыра" (с. 30-31). Пэўным апірышчам у дадзеным выпадку сталі словы самога драматурга. Але, думаецца, можна даверыцца і вопыту даследчыка, які займаецца п'есамі К. Крапівы блізу паўвека – за такі часавы адрэзак, безумоўна, рэцэпцыя мастацкіх твораў выходзіць за межы рацыянальнага ўспрымання, заглыбляючыся ў іх метафізіку.

Характарыстычнымі для аналітыкі С. Лаўшука з'яўляюцца нярэдкія звароты да меркаванняў папярэднікаў. Даследчык прадастаўляе магчымасць кожнаму чытачу намацаць сваю асабістую пазіцыю, у той жа час мякка і ненавязліва падводзячы да высноў, саламонавых па сваім імкненні. Так, завяршаючы асэнсаванне п'есы "Канец дружбы", С. Лаўшук заключае: "Гэта не важна, што Карнейчык і яго пазіцыя ў канчатковым выніку пацярпелі фіяска. Для мастацтва іншы раз важны не толькі жаданы вынік, але і пошук яго. Пошукі ж вяліся драматургам на бясспрэчна плённых напрамках" (с. 47).

Яшчэ адным канцэптуальным штрыхом новага даследавання з'яўляецца параўнанне п'ес К. Крапівы з падобнымі творчымі вынікамі сучаснікаў. Такім чынам ствараюцца мастацкія каардынаты і ў іх, на пэўнае месца, упісваюцца творы галоўнага аб'екта манаграфіі С. Лаўшука. Зрэшты, менавіта пра гэта было заяўлена аўтарам у назве выдання. Таму ўжо ў першым раздзеле мы знойдзем пры аналітыцы п'ес К. Крапівы ўвагу да драматургіі Барыса Мікуліча і Васіля Шашалевіча, да інсцэнізацыі Бядулевага "Салаўя" і Коласавай "Дрыгвы", да многіх іншых сцэнічных твораў; аўтар таксама выходзіць на дыскурс расійскай літаратуры, энтрапія якога стасоўна беларускага мастацтва слова была тады часам аж занадта паноўнай. А ўсё таму, што "на станаўленне драматургічнага таленту К. Крапівы ўплывала не толькі творчасць нашых класікаў. Без адчування пляча, а часам і локця равеснікаў яму было б складаней прыжывацца ў новым для сябе жанры" (с. 88).

Толькі вось неўзабаве локаць перарос у нешта больш вострае і жыццёва небяспечнае. Гэта не абыходзіцца С. Лаўшуком. Аўтар манаграфіі спрабуе належным чынам убачыць логіку часу, не прыбягаючы да катэгарызму. У другім раздзеле даследчык адсочвае ўмовы – сацыяльна-палітычныя і літаратурна-вытворчыя – нараджэння адной з самых сатырычных камедый беларускай літаратуры "Хто смяецца апошнім" (1939) і разглядае п'есу ізноў-такі як у святле тагачасным, так і сённяшнім, ацэньвае твор не толькі з літаратуразнаўчых пазіцый, але і як з'яву гістарычную: «Якія ж урокі для беларускай драматургіі даў К. Крапіва камедыяй "Хто смяецца апошнім"? Па-першае, ён прышчапіў дух высокай патрабавальнасці. Мастацкі ўзровень камедыі аб'ектыўна служыў арыенцірам для іншых драматургаў, становячыся бар'ерам на шляху шэрай, анемічнай прадукцыі. Па-другое, камедыя "Хто смяецца апошнім" пракладвала пуцявіны далейшага развіцця сатырычных жанраў у беларускай літаратуры. Па-трэцяе, яна вучыла плённаму выкарыстанню класічных традыцый. К. Крапіва наглядна паказаў уменне спалучаць традыцыі камедыі становішчаў і камедыі характараў» (с. 147-148).

У псіхалогіі вобразаў, здавалася б, даўно і дасканальна знаёмых С. Лаўшук бачыць нешта такое, што не заўсёды змог бы разгледзець высокакваліфікаваны псіхолаг. Асабліва выдатна нюансаваны Туляга! Ледзь не марфалагічны разбор гэтага персанажа ў дадзеным даследаванні (с. 122-129) – яркі прыклад таго, па-першае, як трэба аналізаваць герояў мастацкіх твораў – удумліва, глыбінна, у некалькіх набліжэннях, а па-другое, што сапраўдная класіка, прабачце за банальнасць, невычэрпная. Шчыра кажучы, пасля прачытання гэтых старонак найбольш цікавым персанажам падалася менавіта гэтая, знешне зашораная асоба.

Складаныя і трагічныя 1930-я змяніліся яшчэ больш цяжкім ваенным ліхалеццем. Пра драматургічнае жыццё ў гэты час з акцэнтам на галоўным беларускім аўтары п'ес С. Лаўшук распавядае ў трэцім раздзеле. Пры ўсім, да няшчасця, багацці жыццёвага матэрыялу нельга сказаць, што тады драматургія віравала. Нават яе флагман, якім ужо з'яўляўся К. Крапіва, даў (найперш гледачу) толькі тры творы. Нягледзячы на іх няроўнасць, С. Лаўшук, тым не менш, справядліва бачыць значэнне п'ес:

“Але наколькі дакладна акрэслілі яны тэматычныя абсягі асэнсавання падзей Вялікай Айчыннай вайны: франтавыя будні (“Проба агнём”), партызанскі рух (“Валодзеў гальштук”), клопаты глыбокага савецкага тылу (“Мілы чалавек”). Менавіта гэтымі тэматычнымі параметрамі (на працягу доўгага часу) будуць вызначацца пошукі беларускай савецкай драматургіі пры адлюстраванні падзей мінулай вайны.

<...> Такім чынам, К. Крапіва з’яўляецца не толькі першапраходцам, але і заснавальнікам традыцый праўдзівага асэнсавання падзей Вялікай Айчыннай вайны ў беларускай драматургіі” (с. 188-189).

Няпростым паказваецца шлях драматурга і развіццё беларускай драматургіі ў цэлым пасля вайны, калі ў сілу ўбіралася так званая тэорыя бесканфліктнасці. У чацвёртым раздзеле С. Лаўшук не шкадуе заўваг у адрас п’ес К. Крапівы. Але зроблены яны акуратна, далікатна. Даследчык не схільны да адназначнасцей і ў дадзеным выпадку, калі, здавалася б, сама гісторыя асудзіла тую тэорыю як мастацкую з’яву. Прыкладам таму – аналіз Крапівоўскай драмы “З народам” (1948). Аналіз лаканічны, але змястоўны і доказны (с. 191-194). Тое ж – адносна “дзяржаўнапрэміяльнай” камедыі “Пяюць жаваранкі” (1950).

Зрэшты, неўзабаве (прычым, як падказваецца і аўтарам разглядаемага выдання, не без дапамогі вышэйшых эшалонаў улады) драматургія перажыла сіндром лакіравання. У Беларусі пачатак перамогі над ім сімвалізаваў прыход Андрэя Макаёнка, які выстраліў сатырычнай (што важна!) камедыяй “Выбачайце, калі ласка” (1953). К. Крапіва тым часам піша сваю таксама ўкласічненую работу літаратуразнаўчага плану “Канфлікт – аснова п’есы”. Аднак С. Лаўшук не хавае і аб’ектыўных правалаў драматурга (п’еса “Зацікаўленая асоба”, 1953). Не вярнула колішняга крапівінскага гучання і драма “Людзі і д’яблы” (1958).

Тым не менш класік, якога, можа, нехта і паспяшаўся “спісаць” з улікам яго ўзросту, яшчэ раз прамовіў сваё важкае слова ў драматургіі – камедыяй “Брама неўміручасці”, узняўшы пытанне з разраду вечных. Чытаючы аналіз С. Лаўшука, становіцца зразумела, што К. Крапіва ў перадапошняй (як выявілася пасля) п’есе проста... застаўся сабой, праявіў творчую іманентнасць, хоць разам з тым літаратуразнавец піша: «“Брама неўміручасці” стала для К. Крапівы п’есай-пераадоленнем. Пераадоленнем ранейшай творчай манеры, прывычных выяўленчых прыёмаў і г.д.», – адразу ж пры гэтым дадаючы, каб не зразумелі няправільна: «Характэрна, што пераадоленне не адэкватна адмаўленню: у тыпалагічным плане паміж “Брамай неўміручасці” і ранейшымі п’есамі драматурга засталося вельмі многа агульнага. Аднак тое агульнае ўспрымаецца, акрэслена бачыцца толькі пасля спецыяльнага аналізу» (с. 239). С. Лаўшук у сваёй манеры аналізуе генезіс выдатнай п’есы, яго знешнія чыннікі і асобасныя вытокі.

Чытаючы манаграфію, прыемна ісці не толькі за логікай аргументацыі, але і яе стылем, негаласлоўным, збітым у мастацкую цэласнасць. Нават мову свайго даследавання навуковец не імкнецца “высушыць” – як таго нібы патрабуе акадэмічны канон. Тэкст льецца нязмушана, пры неабходнасці са зваротам да моўных залацінак, фразеалагізмаў і нават метафар, якія ўкрапляюцца ў тканіну навуковага твора ўмела і прыгожа. Для “сінтаксічнага” ажыўлення навуковага матэрыялу, яго дынамікі і душэўнасці актыўна прымяняюцца клічныя і пытальныя сказы.

З улікам вышэйсказанага цікава было падысці да заключнага слова па даследаванні. Галоўнае – нібы прагучала. Ва ўступе, у рэзюмуючых завяршэннях разгляду п’ес. Можна было чакаць паўтору – але іншымі словамі. Тым не менш і тут С. Лаўшук крыху адхіліўся ад навуковага *фармату*, захоўваючы яго дысцыпліну ў змесце. Даследчык даў слова... творцам, якія самі грашылі прыцэлам на сцэну. Пра *свайго* Кандрата Крапіву, чалавека і драматурга, распавялі: Алесь Петрашкевіч, Мікалай Матукоўскі, Леанід Левановіч.

Па тым, што двух першых ужо няма сярод нас, можна меркаваць, як доўга вялося гэтае даследаванне, адпаведна, як скрупулёзна ўзважвалася яго кожная думка, кожны радок.

На завяршэнне адзначым, што юбілейны для нараджэння К. Крапівы год мінуў з годнай увагай да класіка. Побач са зборнікам артыкулаў Міжнароднай навуковай канферэнцыі да 120-годдзя з дня нараджэння Кандрата Крапівы, праведзенай Інстытутам літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (Мінск, 3–4 сакавіка 2016 г.), "Беларуская літаратура ў культурнай прасторы сучаснага грамадства: матэрыялы" (Мінск: Права і эканоміка, 2016), маем і грунтоўнае фундаментальнае даследаванне супрацоўніка названай установы С. Лаўшука, які яшчэ раз даказаў і паказаў, як неабходна абыходзіцца са сваім скарбам – класічнай літаратурай.

***P.S.*** Калі рэцэнзія рыхтавалася для друку, стала вядома, што манаграфія Сцяпана Сцяпанавіча Лаўшука была высока ацэнена ў гуманітарных колах, і ў сувязі з гэтым яе аўтар адзначаны прэміяй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2017 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці. Аўтар рэцэнзіі і рэдакцыя "Дзеяслова" віншуюць Сцяпана Сцяпанавіча з пачэснай узнагародай і зычаць дасягнення новых творчых вышынь.

Наталля Якавенка



...гісторыю
ствараюць асобы...

# Там, дзе жыве і захоўваецца душа

***Роздум над кнігай Сяргея Ваганава***

***Сяргей Ваганаў. Мосцік над вечнасцю. – Смаленск: Інбелкульт, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; выпуск 85). – 272 с.***

Мы ўсе ці не штодня наракаем на час і абураемся з розных прычынаў: коштаў, нахабства, надвор’я, палітыкі, спазнення, чэргаў і г.д. Прытым вельмі нямногія калі-нікалі задумваюцца над вытокамі непажаданых з’яў і над іх міжвольным прыцягненнем у сваё жыццё. Зусім мала тых, хто пры гэтым перажывае не толькі за сябе, але і за іншых – за пакрыўджаных, блізкія яны ці чужыя яму людзі, за грамадства ў цэлым. І толькі адзінкі здольныя адкрыта казаць пра набалелае, каб абудзіць свядомасць, прымусіць задумацца тых, што не ідуць далей за звыклае абурэнне.

«Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан» – вядомыя са школы словы рускага паэта Мікалая Някрасава наконт грамадзянскага абавязку кожнага чалавека ўпершыню былі агучаныя ў 1856 годзе. Яны сталі крылатымі і асабліва папулярнымі ў XX стагоддзі, але ці прымусілі сучаснікаў і на-




шчадкаў паэта па-сапраўднаму задумацца і неяк змяніцца? Напэўна, у поўнай меры, так, як меў на ўвазе Някрасаў, свой грамадзянскі абавязак адчуваў амаль кожны дарослы і нават падлетак толькі ў час змагання з фашысцкай навалай. У цяперашнім XXI стагоддзі, падаецца, больш чым раней людзі абураюцца, але, па сутнасці, застаюцца абыякавымі да ўсіх і ўсяго. Няўжо для абуджэння грамадзянскай свядомасці патрэбна чарговая навала?..

Прыведзеныя разважанні – вынік роздуму над адной са шматлікіх праблем, што звяртаюць на сябе ўвагу падчас прачытання кнігі нарысаў і эсэ Сяргея Ваганава «Масцік над вечнасцю». Аўтар – той самы рэдкі тып неабыякавага чалавека, які не можа маўчаць, – у звароце «Да чытача» тлумачыць: «Гэта нарысы і эсэ пра розныя падзеі, часам нават як бы нязначныя. Агульнае, што яднае іх, – гэта Памяць. Мне заўсёды здавалася, што зразумець сучаснасць і зазірнуць у будучыню немагчыма без памяці пра мінулае, без адчування няспыннай плыні жыцця. Свайго жыцця, сваёй сям'і, грамадства, краіны.

Толькі праз такое адчуванне памяць уплеценая ў кожнае цяперашняе імгненне. Толькі праз такое адчуванне жыццё падаецца бясконцым».

Звычайна дробныя чалавечыя праблемы адыходзяць на другі план, калі ўзнікае яўная пагроза жыццю, таму ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны адбылося найвялікшае абуджэнне грамадзянскай свядомасці. Паводле выказвання С. Ваганава, «грамадства – гэта не проста супольнасць людзей. Гэта супольнасць цывілізацыйных каштоўнасцяў. І найпершае сярод гэтых каштоўнасцяў – жыццё» («Чорны пакет»). Калі ў 2011 годзе здарыўся выбух у мінскім метро, грамадства скаланулася ад жаху – у мірны час загінулі ні ў чым не вінаватыя людзі. Пасля прысуду, вынесенага асуджаным па гэтай справе, Беларусь «ператварылася ў лобнае месца, вакол якога гайдаецца натоўп, усцешаны нібыта найвышэйшай справядлівасцю смяротнага пакарання...» («Чорны пакет»). Пакаранне смерцю адбывалася ў вайну, тады яно сыходзіла ад ворагаў, іх памагатых, а то і ад сваіх – за здраду. Вайна не можа лічыцца цывілізаваным вырашэннем праблем, да якога павінна імкнуцца сучаснае грамадства. Чаму тады яно ў мірны час выкарыстоўвае ваенныя метады? Магчыма таму, што, згодна з думкай С. Ваганава, цяпер адбываецца «ціхая, малапрыкметная, але сапраўдная вайна пад дахамі – з лініяй фронту, што пралягае праз сем'і, з тэрорам "жыровак" і ахвярамі ў выглядзе зруйнаваных адносінаў...» («Вайна пад дахамі, альбо Кампот з восеньскіх дзічак»).

Свет, на жаль, не можа і без сапраўдных войнаў, не пад дахамі. Ваенныя дзеянні, што адбываюцца далёка ад Беларусі, мала ў каго выклікаюць абурэнне – далёкае не ўспрымаецца як рэальнае, але падзеі ў суседняй Украіне не пакідаюць абыякавымі нашых нават самых маласвядомых грамадзян – гэта блізка, выглядае пагрозліва. Так званая ваенная тэматыка прысутнічае ў размовах і думках усіх грамадзян – ад падлеткаў да пенсіянераў. Безумоўна, Сяргей Ваганаў гэтай тэме прысвяціў не адну старонку сваіх нарысаў. Пры тым, што адчувальна, для яго гэта не шараговая размова на кухні ці ў кавярні падчас сяброўскай сустрэчы, а моцнае душэўнае перажыванне: «Мабыць, упершыню я хутчэй адчуў, чым зразумеў, якая ненатуральная для чалавека і чалавецтва гэтая з'ява – вайна. Але ж коціцца смяротным колам праз лёсы, пакаленні, стагоддзі... Дык, можа, натуральная? Што ж натуральнага ў тым, калі адных вайна пакідае жывымі, а іншых малоціць ушчэнт?! Не, заставацца на вайне жывымі зусім ненатуральна. Адзінае, што можа зрабіць вайну натуральнай, – усеагульная пагібель, усеагульнае сканчэнне жыцця на зямлі. Вось я і думаю: што ж фальшывага ў дзіцячых гульнях дарослых? А тое, думаю, што яны ствараюць ілюзію натуральнасці войнаў. То бок даводзяць, што чалавецтву без войнаў не жыць» («Дзіцячыя гульні дарослых»).

Як трапна заўважыла Лада Алейнік, «кожны дзень мы ствараем эсэ, кожны сваё, можа, праўда, не заўсёды завершанае, а толькі чарговы раздзельчык. І кожны з нас, несумненна, мае свой зборнічак (у душы, свядомасці, памяці) – з розвай колькасцю старонак (у сувязі з працягласцю існавання), з рознай тэматыкай і праблематыкай (у залежнасці ад жыццёвага досведу), напісаных рознымі почыркамі (у адпаведнасці з характарам і тэмпераментам) і надзеленых рознымі эмоцыямі (у адпаведнасці з настроем у той ці іншы момант жыцця)»[1]. У зборніку Сяргея Ваганава, акрамя агульначалавечых, адлюстравана шмат праблем беларускага грамадства, сутнасць якіх утрымліваюць назвы твораў: «Школьны дыктат», «Ехаў конік... альбо Умоўная Беларусь», «Забаронцы Айчыны», «Людзі і рэчы», «Нешта па-беларуску, альбо Цвік у корані», «Прабач, любімы горад», «Калгасная праўда», «Час “чы-ы-ы-ыз”», «Пульт асобы» і інш. Але ж, як адзначалася вышэй, усё сказанае знітавана Памяццю. Менавіта яна – стваральніца гісторыі роду, чалавека і краіны. Памяць скіроўвае аўтара да асаблівай прачуласці аповеду, «бо душа жыве разам са старымі сценамі. Разам з памяццю жыве і захоўваецца душа» («Чорная дзіра»).

Па вялікім рахунку, пра што б ці каго б ні пісаў літаратар, ён піша пра сябе. У розных творах (мастацкіх, дакументальных, эпісталярных, публіцыстычных, мемуарных, эсэістычных) «асабістасць» праяўляецца ў большай ці меншай ступені, аднак у эсэ яна не тое што дапушчальная, а проста неабходная. Эсэістычныя аповеды Сяргея Ваганава адметныя не столькі адлюстраваннем асабістага, колькі адчуваннем і глыбокім разуменнем агульнага і важнага для ўсіх праз асабістыя ўспаміны.

Вось, напрыклад, аповед «Дом на плошчы Успамінаў»: «Сяргей Харэўскі, адзін з найлепшых знаўцаў мінскай гісторыі, яе духоўнай спадчыны, – распачынае С. Ваганаў, – падзяліўся ў Фэйсбуку здымкам сучаснай плошчы Незалежнасці 50-х гадоў. І спытаў: ці ж не прыгажэйшая яна была за тую, што мы бачым сёння?» Прапанаваны для прагляду здымак выклікаў успамін пра «дом Кастравіцкай» з гастраномам на першым паверсе, які стаяў на плошчы ў 50-я гады. І вось ужо Памяць нагадвае пра тых хто жыў у гэтым доме і недалёка ад яго, пра «пах селядцоў з бочак... жалезнай лесвіцы на апошні паверх... язміну пад першымі промнямі развітання з дзяцінствам...» А далей узнікае высокая думка: «...ад эпахальных падзей застаюцца календары, а са штодзённага і адыходзячага чалавечага жыцця – Душа. Душа дома... плошчы... горада... краіны...», якая прыводзіць да ўсведамлення, што «ўсе мы жывём на плошчы Успамінаў. І што менавіта з гэтага жыцця тчэцца бясконцае палатно Гісторыі».

Гісторыю ствараюць асобы. Пра некаторых з іх, з кім звяло Сяргея Ваганава жыццё, распавядаецца ў раздзеле «Постаці». Гэтыя асобы – Віктар Казько, Вячаслаў Дубінка, Булат Акуджава, Валянцін Рабцэвіч, Валянцін Тарас, Алег Сурскі, Генадзь Грушавы, Барыс, Валянціна і Даніла Цытовічы, Васіль Быкаў, Уладзімір Някляеў – з’яўляюцца, так бы мовіць, камертонамі неабыякавасці, носьбітамі прынцыпаў жыцця, блізкіх аўтару кнігі і ў пэўнай ступені афарыстычна сфармуляваных ім для чытача ў якасці ўзору, на які трэба раўняцца. Дапусцім, так: «...мінулага не выракаюцца, тым больш – яго не забіваюць. Мінулае пераадольваюць. Найперш у саміх сябе... Так рабіў Валянцін Тарас – Пісьменнік, Паэт, Публіцыст, Грамадзянін» («У пошуках крыжа»). Альбо, напрыклад, у расповедзе пра Алега Сурскага змяшчаецца вось такое выслоўе, адно з вызначальных для ўсёй кнігі: «Пра час гавораць, што ён няўмольны. Але няўмольны не час, а людзі, якія наракаюць на час, а па сутнасці абражаюць яго сваёй абыякавасцю, прыстасаванствам і канфармізмам» («Усмешка Бога»). Постацям – асобам, пра якіх піша Сяргей Ваганаў, не было раней і цяпер няма калі наракаць на час і абурацца, як гэта робім мы штодня, бо яны (хто ў мінулым – каго ўжо няма з намі, а жывыя цяпер) занятыя справай – кожны сваёй, але той, у якую ўкладваецца душа, каб для нашчадкаў захавацца ў памяці і гісторыі.

[1] Лада Алейнік. «Натуральнасць і непаўторнасць...» – ЛіМ, 12 жніўня 2005 г.

Леанід Галубовіч



...паэт спрабуе знітавацца адзіным нервам з усёй Беларуссю...

# Распісаць квадрат жыцця

## *Рэцэнзія на кнігу Андрэя Сцепанюка*

***Андрэй Сцепанюк. Распісаны квадрат. – Бельск-Падляшскі, 2016. – 64 с.***

*адзін неабходны верш*
*як матчынае майчанне*

Надзея Артымовіч

Паэзія даецца чалавеку Звыш, як надзея на несмяротнасць, як няпэўная вера ў збудаванне, хаця б у сваім уяўленні, таго свету, у якім ён зможа рэалізаваць увесь свой духоўны патэнцыял. Мне цяжка ўявіць паэта за межамі гэтых магчымасцяў (таленту) і намаганняў (разумовай і духоўнай працы). Безумоўна, што ў кожнага творцы – свой асобны свет. І найчасцей гэты свет засноўваецца на падмурку малой радзімы, бацькаўшчыны, якая паступова ўбірае ў сябе альбо абрастае тымі людзьмі і тымі рэчамі, без якіх паэту натхнёнае жыццё непамыснае. Але парастак паэтычнага дару ўзыходзіць менавіта на гэтай глебе. І я не ведаю творцы, які выкляў бы сваю вотчыну.



У тых беларускіх паэтаў, якія па волі гісторыі былі адрынуты ад вялікай Радзімы на яе *крэсы*, гэта праяўляецца яшчэ з большай сілай. Бо тут Айчына для іх сцінаецца, як пятля на шыі:

я ніколі ад цябе
не адыходзіў
так як ніколі
не перастаў пісаць
вершаў

яны трывалі ўва мне
пашыраліся
кожнага ранку
штораз мацней
заціскалі на шыі
сваю пятлю

ад цябе няма
адвароту
ты як паралізатар
які прыносіць подых
смерці

я кахаю цябе.

І не так важна, пра каго насамрэч напісаны гэты канкрэтны верш "Паварот" Андрэя Сцепанюка, паэта з Беласточчыны, – пра паэзію, пра любімую жанчыну ці пра любую Айчыну. Ён – пра той свет, *выгадаваны* ім у сабе і вакол сябе, які з кожным разам усё цяжэй захоўваць у сваёй цэласнасці і самабытнасці. Ды, шчыра кажучы, і паэтам, што жывуць і твораць у самой Беларусі, не нашмат лягчэй. Мова, на ладан дыхаючы, яшчэ намагаецца іх ратаваць і не пакінуць бязбацькавічамі...

Колькі слоў пра самога паэта. Андрэй Сцепанюк нарадзіўся ў 1963 годзе ў Бельску-Падляшскім. У яго няпростая біяграфія, як і ў большасці творцаў. Ён атрымаў дыплом беларускага філолага ў Варшаўскім універсітэце, працаваў выхавацелем, настаўнікам і бурмістрам. На сённяшні час з'яўляецца дырэктарам ІІ агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Пісаў і піша няшмат і не часта. Вядомасць прыйшла да яго пасля публікацыі верша "Вера", напісанага напрыканцы 1980-х гадоў, калі студэнцкі рух у Польшчы набіраў сілу. Пасля няспешна, час ад часу, друкаваўся ў тыднёвіку "Ніва", альманахах "Белавежа" і "Тэрмапілы"... У апошнія гады яго вершы пачалі з'яўляцца на старонках часопіса "Дзеяслоў", больш за тое, у 2015 годзе А. Сцепанюк за публікацыю ў гэтым часопісе намінаваўся на прэмію "Залаты апостраф". Кніга, пра якую тут вядзецца гаворка, – "Распісаны квадрат" – гэта першы яго зборнік вершаў. Літаратурны аб'ём напісанага як бы й невялікі, але ж мы ведаем розніцу паміж колькасцю выдадзенага і коштам творчага плёну...

Да ўсяго яшчэ ў нашай гаворцы немагчыма не звярнуць увагу на гэтую кнігу як на мастацкі паліграфічны праект – дарагі і каштоўны адначасна. Тут усё ўражвае – прадуманасць макета, арыгінальная супервокладка, адмысловая папера, вёрстка, набор, тканая перакідная закладка і фотаартэфакт унутры кнігі... (Дарэчы, графічны праект кніжкі падрыхтаваў Юрка Асеннік.) Я не думаю, што аўтар хацеў здзівіць чытача менавіта такой *багатай* фактурай выдання. Я мяркую, што якраз ён быў вельмі высокай думкі пра свайго чытача, таму і выйшаў да яго ва ўсёй сваёй *гжэчнасці* і эстэтычнай паважлівасці... Такія кніжкі, на жаль, з'яўляюцца вельмі рэдка, але менавіта яны аздабляюць паліцы нашых хатніх бібліятэк. Асабліва калі іх вартасць вызначаецца не толькі знешнім выглядам, але і ўнутранай мастацкай

напоўненасцю, што, у пэўнай меры, можна сказаць і пра гэтую кніжку. Да таго ж, як мне здаецца, выдадзеныя асобнікі былі нешматлікімі і, хутчэй за ўсё, прызначаліся для блізкіх родзічаў, знаёмых, сяброў-таварышаў, калег-літаратараў ды асобных бібліятэк. Кажучы наўпрост, кніжка выдавалася не для гонару, а тым больш не для ганарару, а дзеля беларускай чалавечай удзячнасці тым, каму яна будзе прэзентавана і падорана, хто меў да яе жыццёвыя дачыненні. Агулам пра гэтую кнігу трэба гаварыць найперш як пра занатаваны акт чалавечай духоўнасці і метафарычнае перажыванне ўласнага жыцця аўтара, а не вымяраць яе па планцы вышэйшай мастацкай вартасці. Можна сфармуляваць гэта зусім коратка – гэтая кніга сталася верша-сэнсам жыцця паэта А. Сцепанюка. Разумею, што тут са мной не ўсе пагодзяцца, але давайце да гэтага вернемся напрыканцы разгляду вершаванага зместу выдання. А пакуль, па ходу размовы, прыслухаемся да слоў Яўгена Вапы, які піша ва ўступе да кніжкі, што паэт *"сваімі словамі і колерамі распісвае квадраты карціны, якая называецца жыццём. Падобныя геаметрычна-стылістычныя фігуры ёсць цалкам спелымі, другія яшчэ дапрацоўваюцца, на новыя прыйдзецца пачакаць"*. Менавіта так, без усякага завышанага рытарычнага пафасу.

Прыгледзеўшыся да зместу, мы разумеем, што вопыт суровага штодзённага жыцця паэта гартаваў яго волю для пераадольвання ім перашкод на шляху да новага светастварэння. Простая сярмяжна-вясковая мова бацькоў ювелірна апрацоўвалася ім у культурніцкай і багемнай прасторы да ясных праяўленняў сэнсу. Разам з эстэтычным узбагачэннем мовы вырастаў і яе духоўны паэтычны плён. Жыццё, праломваючыся праз каравасць і непадатлівасць застыглай і лакалізаванай фанемы, як святло праз прызму, вызнавала не толькі новы змест, але і новыя формы. У вершы "Літаратура", прысвечаным М. Андрасюку, чытаем:

На талерцы дзён
паэзія ляжыць непарушна
і апавядае
нямыя гісторыі
У паэзіі няма прозы
Проза ходзіць
брукаванымі дарогамі
з мазалямі на руках
крычыць горлам вар'ятаў
і іншых іншаземцаў
Проза ніколі не маўчыць
не зліваецца з бляскам вачэй
не чакае нечаканага
Проза не выкрадае ў паэзіі слоў
не хімернічае
яна не ведае што такое хімера.

Зазнаўшы жыццёвы і літаратурны вопыт, А. Сцепанюк намысліў напісаць своеасаблівую *сямейную сагу* ў вершах. Гэткі зборны духоўны памінальнік *рассеянай* нацыі і ўласнага радаводнага дрэва... Зноў жа спашлемся на Я. Вапу, які вылучыў у кніжцы калегі *"вельмі відавочныя і яркія чатыры куты жыцця... чатыры творчыя кубікі-апірышчы: Бацькі, Бельск-Падляшскі, Беларусь, Бог"*.

Адразу ж варта ўзгадаць нізку з пяці вершаў пад назовам "Старыя жанчыны" (прысвечаны згасаючым родавым сувязям: Марыі малодшай, Марыі старэйшай, Кацярыне, Вользе, Веры). Іх лёсы выпісаны профільна, проста і ўвідна, як адлюстраванні ў настылым люстэрку, дзе толькі запацеласць шкла ад узрушана-нервовага аўтарскага дыхання то праясняе, то затуманьвае блізкія вобразы-воблікі... Альбо, кажучы словамі Я. Вапы, тут *"двайное адчуванне паэзіі пранізліва ўваходзіць у душу і памяць"*.

Запамінальны на гэтым фоне верш-узгадка пра бацьку:

чужыя сабе
бацька з сынам
кожны паасобку
глядзяць у вокны
якія выходзяць
на панадворак
........................
у вачах толькі далечыня
таго што нябачнае
і непрадчувальнае
пачуцці засталіся звонку.

Менш філасафічны, але больш чуллівы верш прысвечаны маме:

пачуюцца словы маці
як дакор
навошта гэта сынок
навошта ты выязджаў
у іншы свет
навошта ты стаў
такім вядомым
навошта ты пачынаў
пісаць вершы
навошта табе гэтыя
лодзі варшавы мінскі і лонданы
навошта табе столькі пытанняў
на якія дагэтуль
не знайшоў адказаў
навошта табе гэта адкажы
я хацеў пайсці каб вярнуцца
мама
.................................................
быць сабою сярод жывых

Роспач на жыццёвым раздарожжы – ад сыходу (забранасці) са сваёй зямлі да вяртання да яе... Паэт зведаў гнёт душы і цяжар цела, якімі даецца плён жыцця, таму мае права на свае жорсткія, але шчырыя высновы:

Баліць мне недасканаласць маіх рук
Пальцаў пяць плюс пяць
дзесяць толькі
А працы так многа.

Здаўна вядома, што пакуль, узняўшыся ад падмурка, не ўзвядзеш сцены, не ўсталюеш кроквы і не замацуеш вянок у зрубе свайго дома – ты не ўразумееш уласнага канчатковага выраку пад гэтым небам, не ўведаеш яго цаны і каштоўнасці – сваёй паразы і перамогі... У вершы "Блакітнае неба", прысвечаным адышоўшаму сябру і аднакласніку Сцяпану, паэт піша:

Калі пабудуеш сабе нябесны дом
прышлі пісьмо што табе ўжо добра
Паштовую марку з выявай сонца палажу
ў альбом.

Малая радзіма, месца нараджэння – тэма для А. Сцепанюка балючая і неад'емная. Тут – усе вытокі, вузлы і ніты асновы яго чалавечага лёсу. І нельга не заўважыць, што верш "Бельскае маўчанне" А. Сцепанюка асацыятыўна перагукваецца з такімі вершамі яго зямлячкі Н. Артымовіч, як ****"ікона/ лістападаўскі снег"* і ****"у Бельску старая музыка"* альбо з гэтай заключнай страфой з яе верша ****"свет укінуты ў бельскую байку"*:

мой дзень
у бельскім небе
у дзіцячай калысцы спіць

Дарэчы, два поруч змешчаныя вершы прысвечаныя Надзі (ці не той жа ўзгаданай Артымовіч?), як два сустрэчныя геаметрычна зніtаваныя шляхі, якія, бы ў вядомым вершы Анатоля Вярцінскага (“дзве паралельныя прамыя”), насуперак логіцы ўсё-такі аднойчы сыходзяцца...

Можна адзначыць, што свой ненавязлівы метафарычны стыль паэт усё ж дапаўняе шматколернымі фарбамі, і ўсе яго вобразы, вызначальныя і мімаходныя рэчы набываюць заўважнасць і адметнасць. А яшчэ ён даволі часта выкарыстоўвае кантрастныя супрацьпастаўленні, каб выкрасіць іскру жывога чытацкага роздуму нават у, здавалася б, ясных і лагічных месцах сваіх вершаў: рай і пекла, чорнае і белае (Бельск, Беласток), холад і сонца (*свежае* і нават *шолахаўскае* “чорнае сонца”), слых і голас, зрок і змрок, маладосць і старасць, недасканаласць і завяршэнне... Супярэчанні, з якіх высноўваюцца жыццёвыя ісціны, але і няпэўнасць і няўпэўненасць:

баюся
сказаць табе
гэтае слова
здаецца мне
не памятаю яго,

альбо:

слова першае
непачутае
слова другое
забытае
слова трэцяе
неадгаданае

Аднак ёсць і катэгарычная пэўнасць, якая не падлягае аспрэчванню: *“запалі святло”, “памый рукі”*, што пацвярджае, на маю думку, яснасць поглядаў і чысціню пачуццяў самога аўтара.

Нельга не ўпомніць нешматлікую і нешматслоўную тэматыку кахання ў творчасці паэта. Своеасаблівае безадказнае каханне з фізічнай адсутнасцю, але прысутнасцю пачуццёвай (і ў гэтым праглядваецца сутнасная пазнака ўсёй паэзіі А. Сцепанюка ўвогуле). Бо, як сцвярджае Я. Вапа, паэт *“распачынае, як аказваецца, не гульню з паэзіяй, але стараецца з ёй неяк уладкавацца ў сваім жыцці на доўгія гады. Каханне вымагае цярплівасці, паэзія таксама”.*

Хацелася б вылучыць вершы, якія найбольш уразілі мяне – гэта “Нуль восем”, прысвечаны А. Барскаму, ужо ўпомнены верш “Літаратура”, прысвечаны М. Андрасюку, верш на зачыне кнігі “Паварот” і безназоўны верш ***“на паперы...”. З апошняга, каб не быць галаслоўным, працытую наступныя радкі:

на паперы
не відаць
літар
яны не крычаць
позіркам свайго
сэнсу
здзяйсняецца
нябачнае
непрыкметнасць
якая больш кажа
чым напісана

З кантэксту рэцэнзіі заўважна, што я дастаткова шмат цытую аўтара, у адрозненне ад нашых маладзейшых крытыкаў, якія ўвогуле ў сваіх *дасціпных* рэцэнзіях схіляюць чытача верыць найперш іх слову, а не аўтарскаму. Цытат амаль няма, з чаго вынікае, што ў выданні аўтара ўсё адмыслова таленавітае – купляйце кнігу і ўпэўніцеся самі (ці то ўсё там шарагова добрае, што немагчыма нават выбраць арыгінальную цытату, каб спакусіць таго ж чытача да прачытання кнігі?). Сам жа А. Сцепанюк адкрыты для чытача і падчас празмерна:

кожны след свой пакідае гавару
і замазваю тое што раней напісаў

Усцешвае і прыцягвае, што паэт сваім крэўным атожылкам звязваецца і спрабуе знітавацца адзіным нервам з усёй Беларуссю, пра што сведчаць прысвячэнні сімвалічнай “дзяўчыне з Плошчы” (2010), пісьменніку Барысу Пятровічу, а таксама заключны верш-малітва за Беларусь (***“*за тых хто ходзіць па крывых шляхах...*”).

Вось строфы з верша ***“З кахання пачнецца Слова”:

Са слова вырасце нескладаны Сказ
граматычна просты і недасканалы ў форме
Са сказам адкрыюцца вусны
і горла зробіць праверку Голасу
Голас зварушыць Думку
вырве яе са сну і дрымоты
Думка скажа целу змагацца штодзённа
за дасканаласць сваіх Рук
Рукі разваляць старыя сцены
і пабудуюць новую Святыню

Вядома, у кнізе ёсць моўныя і *невымоўныя* хібы, месцы, на якіх я спатыкаўся, якія, вядома ж, не выклікалі майго чытацкага захаплення... Але, як прадметна заўважае Я. Вапа, аўтару да дасканаласці кожнага свайго верша, як асобнага твора, трэба яшчэ расці... І, дарэчы, заўважна, што паэт штораз стараецца дамагчыся, наколькі яму дазваляе ўласная адоранасць, выбітнасці кожнага верша, хоць нідзе не дэкляруе сваёй мастацкай непагрэшнасці, а тым больш не прэтэндуе на *святасць* свайго (бельск-падляшскага) пісання... Андрэй Сцепанюк, найперш, пераймаецца захаваннем сваёй сыноўняй памяці, уласнай грамадзянскай годнасці ды праявамі непадробнай любові і літасцівасці да ўсіх, з кім жыў, і да ўсяго пражытага і перажытага...

*“Калі паэзія Андрэя Сцепанюка дасць стымул для нашых думак і душ, значыць, яна абаранілася”*, – піша Я. Вапа. На што я, прачытаўшу кніжку “Распісаны квадрат”, адкажу станоўча: так, вершы і творчасць А. Сцепанюка стымулююць беларускую паэтычную думку і філасофію, не абыходзячы і нашу нацыянальную ментальнасць. У змесце яго вершаў чытач можа знайсці і нашую схаваную слабасць і заўважыць нашу патэнцыйную моц – і чалавечую, і грамадзянскую і дзяржаўную. Хіба не жыве глыбокая філасофская ісціна ў гэтых радках паэта:

Адным рухам патушы сонца
У абыякавасці цемры будзем лепш бачыць
сваю неабходнасць.

Дык давайце ўсе разам ярка распішам чорны квадрат нашага нацыянальнага лёсу, стварыўшы ўяўленне яго бязмежнасці.



# Забойца анёла

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**100 словаў. – (Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2017. – 346 с.**




“100 словаў” — кніжная версія праекту, які Радыё Свабода ладзіць з 2014 года. Як адзначыў аўтар ідэі і ўкладальнік кнігі Ян Максімюк, “Калі рыхтаваў кнігу, раптам высветліў, што «100 словаў» за тры гады напісалі сто аўтараў”. Самая маладая аўтарка “Ста словаў” на момант напісання тэксту мела дзевяць гадоў. Замалёўкі, імпрэсіі, фрашкі, міні-эсэ: кожны тэкст — адметны асобны жанр. У праекце ўзялі ўдзел як прафесійныя літаратары, так і пачаткоўцы. Паводле аднаго з аўтараў, Сяргея Дубаўца, “«100 словаў» — гэта народны варштат, народная майстэрня, дзе чалавек кшталціць свае тэксты”. Паводле дырэктара беларускай “Свабоды” і, па сумяшчальніцтве, Бібліятэкара свабодаўскай кніжнай серыі Аляксандра Лукашука, “каб біць у сэрца мячом, дастаткова ста словаў”. Адметна праілюстраваную шэдэўрамі жывапісу XIX ст. кнігу можа атрымаць кожны ахвочы, замовіўшы яе на сайце svaboda.org.

**Лепельшчына. Краязнаўчы альманах. Вып. 1 / Уклад. Валерый Тухта. – Мінск: Медысонт, 2016. – 214 с.**




Пабачыў свет першы выпуск краязнаўчага альманаха “Лепельшчына”. Як адзначаецца ва ўступным слове, “гэта спроба не толькі абагуліць і данесці да шырокага кола чытачоў багаты гістарычны матэрыял, але і захаваць дзеля наступных пакаленняў даследчыкаў Лепельскага краю тое, што сталася набыткам для сучаснай гістарычнай навукі і краязнаўства”. Адкрывае альманах нарыс Уладзіміра Міхно пра першы археалагічны летнік “Дубавец”, што ўзнік у часе археалагічнай экспедыцыі, якая даследавала старажытнае паселішча Прыгожая Верацея. Узначаліў экспедыцыю Максім Чарняўскі, чые артыкулы пра археалагічны мікрарэгіён Бярэшча таксама змешчаны ў альманаху. Друкуюцца працы па этнаграфіі і тапаніміцы Лепельшчыны такіх аўтараў, як Таццяна Валодзіна, Уладзімір Лобач і Андрэй Супіталёў. Цэнтральны матэрыял нумара – артыкул Іллі Януша “Адкуль мы пайшлі”, дзе праводзіцца генеалагічны агляд Лепельскага краязнаўства. Гэтую ж тэму працягваюць нарысы Валера Чарэцкага. Шлях ракі Эса ад вусця да вытоку прасочвае Валадар Шушкевіч. Пра колішнюю польскую вёску Весялова і габрэйскія некропалі Лепельшчыны распавядае ўкладальнік альманаха Валерый Тухта. У рубрыцы “Першая публікацыя” – нарыс Эдуарда Чабатара пра наваколлі Межыцкага краю. Не абмінаецца ў альманаху і літаратура: Уладзімір Міхно публікуе тут сваю п’есу “Дажыць да смерці, альбо Калі я стану кошкай”. Краязнаўчы альманах “Лепельшчына” – дыхтоўнае, якасна звярстанае і багата ілюстраванае выданне. Зычым яму і яго творчаму калектыву квітнець і радаваць чытача новымі цікавымі ды змястоўнымі выпускамі!

**Міра Лукша. Радаслоў / Mira Łuksza. Rodosłów. – Warszawa: Wydawnictwo Książkowe IBIS, 2017. – 68 с.**




Міра Лукша – аўтарка шаснаццаці кніг. "Радаслоў", кніга-білінгва, – дзявятая паэтычная. Падчас XVII Сусветных дзён паэзіі ЮНЭСКА ў Польшчы паэтка была ўзнагароджана адмысловай прэміяй. У межах гэтага ўганаравання і выйшаў яе новы зборнік. Сама аўтарка гэтак акрэсліла падтэкст назвы кнігі: "Гэта паказ таго, як нараджаюцца словы, радавод гэтага слова, мой радавод, радавод беларушчыны наваt. У гэтым зборніку ёсць вершы пра рэчы і асобы, якія важныя не толькі для мяне. Таксама гэта і след, які застаецца пасля мяне, і падсумаванне таго, што я зрабіла. У гэтым выбары месцаў і людзей ёсць малая Айчына". Мастацкі стыль Міры Лукшы адметны і пазнавальны. "Радаслоў" – працяг творчага пошуку, распачатага ў такіх вядомых зборніках, як "Замова" і "Ёсць". Білінгвальнасць кнігі дазваляе танчэй адчуць, адкуль, з якіх лексічных пластоў і моўных глыбіняў выплаўляецца творчасць беластоцкай паэткі.

**Мудроў Вінцэсь. Забойца анёла. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 93). – 256 с.**




Вядомы празаік, адзін з найбольш яркіх аўтараў полацкага андэрграўнду 1970-х, падрыхтаваў новую кнігу "Забойца анёла". Зборнік складаюць трынаццаць апавяданняў, напісаных цягам апошняга дзесяцігоддзя. Апавяданне, якое дало назву зборніку прозы, расказвае пра незвычайную сустрэчу на беразе Волгі. ...Беларус прыязджае на працу ў глухую вёску на ўзбярэжжы Волгі, і ўсё было б шэра і будзённа, але пра гаспадара хаты ходзяць няўцямныя чуткі. Некалькі гадоў таму, ён вярнуўся з палявання, якое цалкам змяніла ягонае жыццё,ператварыла яго ў пакуту і немарач. На качыным паляванні ён выпадкова забіў свайго анёла...

**Нурдквіст Свэн. Пэтсан сумуе. Пераклад са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 15). – 32 с.**




**Нурдквіст Свэн. Паляванне на ліса. Пераклад са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 16). – 32 с.**




На паліцах кнігарняў з'явіліся дзве новыя кнігі шведскага пісьменніка і мастака Свэна Нурдквіста пра вясёлыя прыгоды дзядулі Пэтсана і ягонага кацяняці Фіндуса – "Пэтсан сумуе" і "Паляванне на ліса". З кнігі "Паляванне на ліса" маленькія чытачы даведаюцца, якім чынам нашыя героі збіраліся адвадзіць ліса, які панадзіўся лазіць па куратніках суседзяў, якога гармідару яны нарабілі і што з гэтага ўсяго атрымалася. У кнізе "Пэтсан сумуе" аповед будзе пра "агульную млявасць і абыякавасць да жыцця" дзядулі Пэтсана, на якога раптам звалілася восеньская хандра, і пра тое, як маленькі Фіндус ратаваў сябра ад яе. Кнігі пабачылі свет у серыі "Каляровы ровар" Саюза беларускіх пісьменнікаў. Пытайцеся ў кнігарнях!

# Нашыя аўтары

**Ахроменка Уладзіслаў** – празаік, драматург. Аўтар кніг «Здані і пачвары Беларусі», «Янкі, альбо Астатні наезд на Літве», «Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша» (усе – у суаўтарстве з Максімам Клімковічам), «Тэорыя змовы», «Музы і свінні» і інш. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску і Чарнігаве.

**Бандурына Крысціна** – паэтка, празаік. Фіналістка конкурсу «Экслібрыс» імя Аляксандра Уласава (2014), скончыла Школу маладога пісьменніка пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў (2015). Удзельніца праграмы «Рэзідэнцыя маладога літаратара» (2015). Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2016). Нарадзілася ў 1992 годзе ў Мазыры, жыве ў Гомелі.

**Бутэвіч Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг «Прыгоды лісціка-карунчыка», «Прыгоды памаўзлівай Рыскі», «Прыгоды віруса Шкодзі», серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», рамана «Каралева не здраджвала каралю», гістарычных эсэ «На далонях вечнасці». Перакладаў творы С. Лема, Э. Ажэшкі, Э. Хэмінгуэя, Д. Олдрыджа, Р. Курыльчыка і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме хараства і смутку», «Арабінавая ноч» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Іофе Эмануіл** – гісторык, палітолаг, сацыёлаг, культуролаг. Прафесар БДПУ, доктар гістарычных навук. Аўтар звыш за 1700 друкаваных прац, у тым ліку 46 кніг і брашур. Сярод іх – «Из истории белорусской деревни», «Страницы истории евреев Беларуси», «Белорусские евреи в Израиле», «История Беларуси XVIII-XX веков» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Беразіно. Жыве ў Мінску.

**Казько Віктар** – празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Капусцінскі Рышард** — польскі пісьменнік, публіцыст, журналіст. Аўтар кніг «Калі б уся Афрыка», «Яшчэ адзін дзень жыцця», «Футбольная вайна», «Падарожжа з Герадотам», «Імперыя» і інш. Нарадзіўся ў 1932 годзе ў Пінску. Памёр у 2007 годзе.

**Корань Вадзім** – філолаг. Скончыў факультэт беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя Максіма Танка, аспірантуру пры Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Асноўная сфера інтарэсаў – літаратура Беларусі XVII – XVIII стст. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Кустава Валярына** – паэтка. Аўтарка кніг «Кроў Сусвету», «Каб неба сагрэць...», «Тамсама». Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2009), пераможца літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» імя Р. Барадуліна (2015). Стыпендыят міжнародных цэнтраў пісьменнікаў і перакладчыкаў у Швецыі, Нямеччыне, Латвіі. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лайкоў Уладзімір** — краязнаўца, эсэіст. Выдатнік адукацыі Беларусі. Кіраўнік музея «Літаратурны космас Мётчы». Скончыў філалагічны факультэт БДУ, працаваў дырэктарам школы, настаўнікам на Барысаўшчыне. Аўтар кнігі эсэ «Трэба дома бываць часцей...» Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Астроўкі на Крупшчыне. Жыве ў вёсцы Мётча на Барысаўшчыне.

**Левановіч Леанід** – празаік, драматург. Аўтар кніг нарысаў «Гаспадар зямлі», «Зялёны трохкутнік», «Вяртанне ў радыяцыю», прозы «Мадонна з кветкаю», «Якар надзеі», «Шчыглы», «Дзікая ружа», «Сіняе лета», публіцыстыкі «Хлеб і мужнасць» і інш. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Клеявічы на Магілёўшчыне.

**Лойка (Галубовіч) Вера** – празаік. Скончыла Мінскі фінансава-эканамічны

тэхнікум. Працавала на «Беларусьфільме», Беларускім радыё. Вучылася ў Літаратурным інстытуце імя Горкага ў Маскве. Апавяданні друкаваліся ў тыднёвіку «ЛіМ» і ў часопісе «Наша вера». Нарадзілася ў 1958 годзе ў вёсцы Батурынка Смалявіцкага раёна. Жыве ў Мінску.

**Мароз Уладзімір** – паэт, празаік, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў горадзе Косава. Жыве ў Мінску.

**Найдзёнаў Мікіта** – паэт. Аўтар кнігі «Развітанцы». Пераможца конкурсу паэтаў падчас «Дзён беларускай і шведскай паэзіі» ў Пінску (2006), лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2014). Аўтар песень і лідар гурта HURMA. Нарадзіўся ў 1990 годзе ў Пінску. Жыве ў Мінску.

**Салавей Лія** – фалькларыстка, этнограф. Аўтарка кнігі «Беларуская народная балада», раздзелаў у калектыўных манаграфіях, укладальніца шэрагу тамоў акадэмічнай серыі БНТ. Перакладае з польскай мовы. Кандыдатка філалагічных навук. Лаўрэатка Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986). Нарадзілася ў 1934 годзе ў вёсцы Навасёлкі Пастаўскага павета (цяпер Мядзельскі раён). Жыве ў Мінску.

**Салейчук Яўген** – перакладчык. Скончыў Брэсцкі педуніверсітэт. Нарадзіўся ў 1969 годзе ў Пінску. Жыве ў Пінску.

**Сасюра Валадзімір** – украінскі паэт. Аўтар кніг «Червоні троянди», «Нові поезії», «Люблю», «Журавлі прилетіли», «Під гул кривавий», «В годину гніву» і інш. Лаўрэат Сталінскай прэміі першай ступені (1948). У 1951 годзе стаўся аб'ектам цкавання пасля артыкула ў газеце «Правда», якая абвінавацiла Сасюру ў «буржуазным нацыяналізме» за верш «Любіть Україну». Нарадзіўся ў 1897 годзе ў Дэбальцава. Памёр у 1965 годзе.

**Сянкевіч Кацярына** – паэтка. Аўтарка кніг вершаў «Дачка ружы» і «Гарбата з незабудак». Нарадзілася ў 1991 годзе ў Гайнаўцы. Жыве ў Любліне.

**Трафімчык Анатоль** – паэт, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кніг «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка Лірыка», «Вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім мастацкім слове» і інш. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы на Ганцавіччыне. Жыве ў Мінску.

**Тышкевіч Канстанцін** — беларускі гісторык, археолаг, географ, краязнаўца, этнограф, фалькларыст. Чалец навуковых таварыстваў Вільні, Кракава, Масквы, Прагі, Парыжа, Лондана. Аўтар кніг «Вілія і яе берагі ў гідраграфічных, гістарычных, археалагічных і этнаграфічных адносінах», «Гістарычнае паведамленне пра старажытныя замкі, гарадзішчы і могільнікі ў Літве і Русі Літоўскай», «Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі», «Помнікі айчыннага гравёрнага мастацтва». Нарадзіўся ў 1806 годзе ў Лагойску. Памёр у 1868 годзе ў Мінску.

**Цвірка Кастусь** – паэт, празаік, перакладчык, фалькларыст, этнограф. Аўтар кніг «Рака дарог», «Зялёная Дуброва», «Чарназём», «Слова пра Сыракомлю...», «Лодка долі тваёй», «Лісце забытых алеяў», «Воўчая выспа» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2011). Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Цыбакова Святлана** – літаратуразнаўца. Выкладчыца Гомельскага ўніверсітэта (кафедра рускай і сусветнай літаратуры). Абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Класічная прытча ў сучаснай мастацкай традыцыі». Нарадзілася ў Гомелі, дзе і жыве.

**Шкаруба Валеры** – мастак. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2002). Творы захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, а таксама ў прыватных калекцыях у ЗША, Грэцыі, Германіі, Італіі, Японіі, Аўстрыі, Бельгіі, Кітая, Расіі, Беларусі і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

**Якавенка Наталля** – крытык, літаратуразнаўца. Аўтарка кнігі «Аўтарскі пераклад (Праблема аўтарскага перакладу прозы ў беларускай літаратуры XX ст.)», шматлікіх публікацый у беларускім друку. Нарадзілася ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Ярац Віктар** — паэт, літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг паэзіі «Уваходзіны», «Добрыца», «Дняпроўскі бакен» і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Красны мост на Рэчыччыне. Жыве ў Гомелі.

**Яромка Марына** – літаратуразнаўца. Вучаніца 11 філалагічнага класа Ліцэя БДУ. Пераможца рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове і літаратуры. Нарадзілася ў 1999 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.